№2(57)
/ сакавік-красавік / 2012

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Алесь Разанаў



...сонечнае рамонку,
нябеснае васільку...

# Столькі і гэтулькі

***Пункціры***

* * *

Здолела:
дол
услала мелодыяю
завея.

* * *

Спалены –
абмывае
плынь палі:
мост.

* * *

У споведзі дрэвы:
сюдою

ідзе навальніца –
суддзёю.

* * *

Сухмень:
у пяску
купаецца верабейка.

* * *

Можа, адчыніцца?!.
Ў браму
грукаем -
я і гром.

* * *

У снезе яліна:
жанчына
спынілася і глядзіць.

* * *

Доўгая вестка –
вербы
ўслухоўваюцца ў ручай.

* * *

Няўежлівыя?!.
Крыўдліва
чакаюць дзічкі зімы.

* * *

Такая і гэтакі:
талакуе
з маланкай дождж.

* * *

Срэбнае і залатое –
бяроза
латае зрэбнае:
краявід.

* * *

Ветрана:
настаўляе

за рэчкаю рукі
жанчына галасніком.

* * *

Згубіўся гадзіннік:
стаю –
знікаюць
людзі ва ўсе бакі.

* * *

Саломіны ссоўваюцца –
іржышча
уражанае:
само?!.

* * *

З чырвонага золата –
абступае
на рынку гурмою
мароз хурму.

* * *

Але, павальнее!.. –
Лілея
палоніць плынь.

* * *

Ноч.
Адмыкае
маланка імгненні:
ўваходзь!..

* * *

Скошаная –
каштуе
вецер траву.

* * *

На крызе варона:
нешта
не так?!. –
Вакол
круцяцца качкі.

* * *

Наслалася снегу
столькі
і гэтулькі: у слаты
чыстая столка.

* * *

У Вільні туман –
у твары
ўглядаецца даўніна.

* * *

Цяку, дзе хачу!.. –
Залева
натхняе – бурліць
ручай.

* * *

Ростань:
пустыя
куты, а нешта
ўсё роўна забыў.

* * *

Паклалася сцежка
на возеры:
хтось
мае дайсці да сонца?!.

* * *

Свеціцца выйсце:
у неба
ўпадае Рэйн.

* * *

Дзівіся!.. –
Маладзіка
выводзіць вечар
у людзі.

* * *

Штука навукі:
кавун
выстуквае маладзіца.

* * *

Мо правядзеш?!.
Балотам
ходзіць бацян у ботах:
я ў гамашах.

* * *

Чырвоныя птахі –
дахі
ўздымаюць далечыню.

* * *

Дождж набягае –
палае
там лес,
тут гай.

* * *

Кракаюць крачкі:
у рэчку
ўзіраюцца ліхтары.

* * *

Іголкі ў шкарупіне –
з-пад
цікуе каштан:
каштоўны.

* * *

Сама пуцявіна –
чапляецца павуціна:
“Ці ты са мной?!.”

* * *

Слізгае:
ў сцежку
ўвёў неба дождж.

* * *

З’явілася!..–
Разграбае
певень заўзята
леташнюю траву.

* * *

Вясна на дварэ:
узмежкам
абы-куды дыбаюць
бадылі.

* * *

Жывыя!.. –
Пад лёдам
жвавяцца раўчукі.

* * *

Увязненая –
з калдобы
лужа ўслухоўваецца
у гром.

* * *

Плысці
ці расці? –
Затока
блытаецца ў трысці.

* * *

Варушыцца лісце:
здзівам
захоплена кацяня.

* * *

Вяртаюцца –
перадаюць
возера вёслы
лодцы.

* * *

Пабеленыя –
ідуць
яблыні ў неба.

* * *

Клікала?!. –
Раўчукі
збягаюцца ў ручаіну.

* * *

На свята запрошаныя –
саступаю
сцежку трыпутніку
і дзьмухаўцу.

* * *

Рэхкаюць –
дастаюць
жабы з куфэрка
гукі.

* * *

Вырай:
махае
пудзіла рукавом.

* * *

Сочаць карчы:
касачы
заходзяць у глыб
запруды.

* * *

Уджаліла:
ў жалі
пчала
і я.

* * *

Слупам зрабіўся?!.
Жаба
лупаціцца на рыбака.

* * *

Цёмная крыца:
крыніцу
хавае глыб.

* * *

Балота – батут.
Мы тут!.. –
Вітаюцца журавіны.

* * *

Сцежкай на сцежку
легла
яліна нягегла:
зацяжка
увысь ісці?!.

* * *

Дзівіцца дзень:
авадзень
у грудзі цаляе мне –
камікадзе.

* * *

Я ў ім:
пераходзіць
багну са мной напавер
аер.

* * *

Мову займеў!..
Запрудзе
радуецца ручай.

* * *

Вывернутая:
звёў з веры
вецер сасну.

* * *

Хмарыцца –
марыцца
сонечнае рамонку,
нябеснае васільку.

* * *

Маршруты варушацца:
ўводзяць
лес мурашы
ў ашрам.

* * *

Дажджу налілося:
гусь
знаёміцца з лужай.

* * *

Дрэвы бухматыя:
хаты
ўздымае некуды дым.

* * *

Змяняецца блізкае:
лінзу
трымае далечыня.

* * *

Дзе людзі?!.
Грыбы
заходзяць у паграбы.

* * *

У сполаху плот:
латошыць
залева сад.

* * *

З поля на волю –
гарбуз
пхаецца праз агароджу.

* * *

З кульбай і копашкаю:
вядзе
бульба бабулю
вулкай.

* * *

Сліпучыя бліскаўкі:
наваколле
палохаецца адкрыцця.

* * *

Нябёсы адкрыліся:
каля хаты
лунае ў квецені
бэз –
крылаты.

* * *

Хоча напіцца?!.
дах

залеву зачэрпвае
чарапіцай.

* * *

З навінамі –
нацянькі
спяшаецца дождж
да нівы.

* * *

Сцежка адсунулася:
пераняла
свет бліскавіца.

* * *

Што ты надумала?..
Рунь
чапае салома.

* * *

Што адбываецца?
Адбіваецца
спёка ад слепакоў.

* * *

Прыходжу і адыходжу:
хвошча
нанова тойсамы
дождж.

* * *

У посахах:
пасвіць аер
у возеры хвалі.

* * *

Налёталася –
ля плота
завея спіць у намётах.

* * *

Пуста:
ідзе
да пудзіла бусел.

* * *

Пахмура:
грыбы трымаюць
у нетрах ліхтарыкі
і ліхтары.

* * *

Сонца купаецца
у смятане
і ў малацэ:
світанне.

* * *

Цаляе?!.
Так-так:
ацаляе
дзяцел сасну.

* * *

Лужа ўсыхае:
спяшайся
жабкаю стацца,
прач!.

* * *

Выпаў:
руцэ
да снегу ахвота даткнуцца
раптам.

* * *

Хвалі вагаюцца –
намагаюцца
узняць са дна
глыбіню.

* * *

Рыхтуецца выстаўка?!.
Над стаўком
вывешваюць ластаўкі
навальніцу.

Генрых Далідовіч



...Божа, як засвяцілася мне наша даўніна, калі я прачытаў старажытны полацкі летапіс!..

# Рурыкавічы і Рагвалодавічы

## *Раман у апавяданнях з прадмовай і пасляслоўямі*

*Прысвячаецца моладзі, ахвотнай*
*да нацыянальнай годнасці*

### Annotatio (заўвага)

*...Так склаўся лёс, што больш за 1000 гадоў таму пасвойму, па тагачасных норавах парадніліся "па мячы" (па бацьку) Рурыкавічы і "па кудзелі" (па маці; кудзеля – валакно лёну, канапель, апрацаванае для пражы нітак) Рагвалодавічы. Вось і пайшло новае пакаленне за пакаленнем – сыны і дочкі, унукі, праўнукі вялікага князя кіеўскага Уладзіміра і полацкай князёўны Рагнеды, якія ў згодзе ці ў варажбе-забойствах рашалі лёс не толькі ўсходнеславянскіх зямель не адно стагоддзе. У Полацку з карэнных Рагвалодавічаў апошнім летапіс за 1237 год упамінае князя Брачыслава; пасля Кіева ў Маскве княскі род з кропелькай крыві Уладзіміра і нашай зямлячкі дацягнуўся да 1598-га і абарваўся са смерцю сына Івана Жахлівага Фёдара Іванавіча.*

*Каб напісаць пра ўсе адгалінаванні таго роду больш чым за 600 гадоў, не хопіць і некалькіх чалавечых жыццяў (многія ж князі, а таксама і іхнія сыны ды дочкі мелі не па адным, а і па дзясятку нашчадкаў...). Аўтар спрабуе расказаць найперш пра дзяцей Уладзіміра і Рагнеды. А іх (па Нестару) было таксама нямала, не адзін толькі Ізяслаў...*

*...Ціха ступім ва ўяўлены праколішні свет, што працягваўся далей з 6495 года стварэння яго Богам ці з 987-га па новаму адліку... То – у гэты, 987-ы, а з ім і бліжэй да нас...*

*Ты жыў, ты панаваў у краі родным,*
*Сцярог ад чужака й законы ўкладаў;*
*Звон вечавы сход склікаў народны,*
*І сход аб шчасці Бацькаўшчыны дбаў.*
Янка Купала. "Свайму народу"

## Прадмова. Рукапіс, знойдзены на гарышчы

Мне не раз прыходзілася дапамагаць перавозіць з аднаго месца на іншае сялянскія дамы. Сама раней – бацькоўскую хату з хутара ў вёску. Пры разборы яе ні пад застрэшшам, ні на гарышчы ці між сцен нічога цікавага не знайшлося. Толькі ў адным кутку, пад першым вянком на вялікім камені ляжаў савецкі пятак (бацька паклаў яго туды, каб у доме заўсёды вяліся грошы. А мо і на іншае, не толькі грашавітае шчасце). Нашы Янкавіны былі спаленыя ў вайну, похапкам вывезеныя з невялічкім скарбам; люд, вярнуўшыся з Германіі, адбудоўваўся нанова, дык нічога такога незвычайнага даўняга проста не магло быць у новых дамах.

А вось пазней, калі ў іншых мясцінах дапамагаў сябрам раскідваць купленыя сялянскія даваенныя хаціны, каб перавезці і зладзіць з іх лецішча, то неаднойчы знаходзілі шмат цікавага – з царскіх, кайзераўскіх, польскіх, савецкіх часоў кнігі, часопісы, стосы лістоў ці газет, вучнёўскія сшыткі і дзённікі, беларускія заходнебеларускія і за нямецкім часам газеты, розныя акупацыйныя дакументы і грошы, храмавыя абразы (набожныя гаспадары ратавалі і прыхоўвалі іх, калі пры Хрушчову чамусьці вельмі заўзята нішчыліся, закрываліся цэрквы і касцёлы). Пры гэтым, найбольш трапляліся старыя ступы, капылы, калаўроты, самавары і прасы, запыленыя, з кутасовым павуціннем ды з павукамі куфры, што даўно ўжо не ўжываліся, але чамусьці гаспадары іх зберагалі, мо і не думаючы, што гэта магло стаць адмысловым музеем. Знаходзілі і зброю – найчасцей паіржавелыя шаблі, наганы. Аднаго разу на гарышчы дома ў Ашмянскім раёне я натыкнуўся на драўляную скрыначку ў куфэрку, а ў ёй нечакана ўбачыўся таўшчынёй з далонь скрутак. Калі развязаў незразумелага колеру, выцвілую ад часу тасьму, распрастаў згортак, то ў вочы кінуліся старыя, пажоўклыя аркушы паперы, а на іх штосьці напісанае па-ўсходнеславянску роўнымі радочкамі, але са спрытнымі ўзорамі-завіткамі. Краі паперын былі бляклыя, а вось пасярэдзіне чарніла толькі крыху зчэзла. Каб як след разбіраўся ў даўнім рукапісным пісьме, то можна было б выразна ўсё прачытаць.

Яшчэ меней за мяне мог спазнаць напісанае новы гаспадар хаціны, фізік. Але ён заўважыў маю знаходку, мой успламянёны позірк, зацікавіўся і па праве ўладальніка забраў яе сабе: "Потым разбяромся, што тут такое". Пазней я прасіў яго даць мне на нейкі час той рукапіс, каб паказаць яго

знаўцам, ды ён муляўся. Канечне, шкадаваў выпусціць з рук свой рэдкі дар(набытак?). Я пакаяўся, што тады, калі напаткаў знаходку, хціва не сунуў скрутак сабе за пазуху. Але пра яе больш не напамінаў: ашчадны гаспадар пісьмовай даўніны ведаў, што гэта – не простая рэч, а немалую цану мае, дык мог ціхенька яе некаму прадаць. А праз гадоў дзесяць, калі яго не стала, ужо сын за літр гарэлкі дазволіў мне з ёю азнаёміцца.

Па маёй просьбе адзін з мовазнаўцаў-"старажытнікаў" толькі абмацаў позіркам першую старонку, як адразу вызначыў: няма некаторых грэчаскіх літар, ёсць "е", "я", "э" – значыць, тут грамадзянскі шрыфт, які на аснове кірыліцы і лацінскай антыквы (закругленыя формы) заявіўся ў Расіі і які мог параіць Пятру I наш зямляк, вельмі адукаваны чалавек, кнігавыдавец з пакручастым чалавечым лёсам Ілля Капіевіч (мсціславец, скончыў Слуцкую кальвінісцкую школу, быў вывезены ў Цвер, адтуль уцёк у Маскву, вярнуўся дамоў, але езуіты абвінавацілі яго ў шматлікай здрадзе, забралі яго родавы маёнтак, дык мусіў ратавацца ўцёкамі за мяжу). Ён з Пятром I сустрэўся ў Амстэрдаме. У 1698–1706 гадах па царовай просьбе пераклаў на рускую мову, склаў і выдаў каля 20 кніг. Сярод іх тое, што асабліва цікавіла рускага ўладара: першыя падручнікі, вучэбныя дапаможнікі па гісторыі, арыфметыцы, вайсковай і марской справе, а таксама розныя слоўнікі на рускай і замежных мовах, першую на рускай мове карту неба. Якраз там, у Нідэрландах, былі адлітыя літары для новага рускага шрыфта, вельмі падобнага да шрыфта адной з кніг самога Капіевіча. Яшчэ, мабыць, менавіта ён па аплаце Пятра I у 1705-м выдаў таксама незвычайную і для многіх недаступную рэч – альбом эмблем і сімвалаў, дзе на пачатку быў адлюстровак царовага партрэта, а потым змешчана 9 царскіх эмблем (той альбом быў перавыдадзены ў Санкт-Пецярбурзе ў 1788 г. Да ранейшых эмблем былі дададзеныя новыя. Сярод апошніх з'явілася эмблема двухгаловага каранаванага арла з сімваламі ўлады). Перад рэформай рускай пісьменнасці наш зямляк, прысягнуўшы Пятру I, працаваў у Маскве ў Пасольскім прыказе – гэта значыць, у цэнтральнай дзяржаўнай установе. І далей знавец, як той следчы, вызначыў: калі ёсць літара "и", дык пісана пасля 1735 года.

Гэта быў ліст, складзены ў Расіі свайму апекуну нашым земляком, бібліятэкарам, памочнікам пісара і перапісчыкам дзяржаўных папер ВКЛ, урэшце, як па-сённяшняму, акрэдытаваным журналістам у Маскве і Санкт-Пецярбурзе мо яшчэ і з іншымі, патаемнымі намерамі, пра якія ён не ўпамінаў. Канечне, пасады яго былі невысокія, але і, гэтак жа безумоўна, ён і на іх шмат чаго спазнаў, дык пакінуў не проста свае мемуары. Тут, у рамане, будуць асобныя ўрыўкі з таго паслання (яго я назваў "Рукапісам, знойдзеным на гарышчы" альбо коратка – "Рукапісам") з падпраўкай на сучасную беларускую мову. Асучасненыя і тагачасныя рускамоўныя аўтаравы ўстаўкі.

На жаль, і я, і іншыя з лепшымі ведамі пакуль што не можам больш сказаць пра аўтара, чым ён сам распавёў пра сябе. І само па сабе зразумела: я не магу падпраўляць яго думак і поглядаў, таму застаецца адно з двух: іх прымаць ці не. Я пакідаю ўсё так, як ён напісаў, толькі часам устаўляю, як кажуць, "свае два грошы".

## З “Рукапісу”

*Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,*
*Свой век канчаю я у манастырскіх мурах*
*І пільна летапіс другі ўжо год пішу...*
.........
*...Апавядаю тут. Так рупная пчала*
*Умее ў соты мёд зыбраць і з горкіх кветак,*
*І бачанаму мной – я годны веры сведак.*
*Хай тыя ведаюць, што з’явяцца па нас,*
*Ўсю праўду пра жыццё у наш і пройшлы час.*
...
*Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!..*
Максім Багдановіч. “Летапісец”, 1912.

“Дзяньдобры, Спадар, Ваша ягамосць пане Удальрык Крыштаф Радзівіл, канюшы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, стараста менскі!

Нізка кланяецца Вам (можа, яшчэ не забыліся), шляхціц, былы Ваш у кароткім часе службоўца Ян Ермаловіч. Пасля доўгага перапынку пішу з далёкай Масковіі, куды меў ласку і спрыянне Ваша прыехаць. Адарваны ад Бацькаўшчыны мілай, пішу той мовай, што цяпер мне незвычайна дарагая і якой Вы хораша валодаеце, толькі мусіце ўжываць іншую, паколькі па змусе ап’янелых перавагай палякаў у сойме Рэчы Паспалітай напрыканцы таго стагоддзя нам з 1696 года забаранілі нашу культурную тутэйшую, ліцьвінска-беларусінскую мову і ўзаконілі польскую, хоць перад гэтым яе, сваю, не дапускалі да каралеўскіх папер праз лацінку. Але Вы, чым цешыцца маё спакутаванае сэрца, не ў прыклад нашым апалячаным з-за бядоты-гаркоты, а часамі і з-за разліку, а то прыкрай угодлівасці мову родную не толькі добра ведаеце, але і ў сваё польскамоўнае прыгожае пісьменства ўстаўлялі наша, тутэйшае (па-беларуску гаворыць адзін з персанажаў пераробкі тым Радзівілам (1712 – 1770) твора Э. Бурселя “Камедыя Эзопа”. – *Г.Д.*). Больш – я шчыра дзякую, што якраз Вы захоплена прывілі мне цікавасць да многіх моў, любоў вялікую да кніг, да гісторыі. Рады, што змог памагчы Вам тое-сёе складаць для “Апісання ўсіх нацый у Еўропе”, для “Універсальнай гісторыі”, а таксама для іншых кніжак. Я шчыра захапіўся Вашай парадай паехаць у Маскву і пашукаць клад духоўны вялікі таго нашага, што асела тут, а ў нас цяпер мала ведама. Таму, меўшы ягамосьці Вашай фундацыю, прыбыў сюды, пакінуўшы ціхую і вольную працу ў Вільні і Варшаве, дзе па Вашай і Яна Фрыдэрыка Сапегі пратэкцыі перапісваў пацярпелыя ад часу кнігі Метрыкі Вялікага княства Літоўскага (спісы з маскоўскіх дыпламатычных дакументаў і інш.).

Каб я меў Божы дар ці забароненым родным, ці змусовым польскім словам пісаць займальна і пекна, то па знойдзеных скарбах склаў бы свае быліцы. І мо найперш пра нашых... жанок. У свой час, гадоў 200 таму, нашы многія пісьменныя прадзеды захапляліся перакладнымі на мову нашую аповесцямі пра Трою, Атылу, Баву, пра Трышчана і Ізольду. І надта многія з іх пралілі шмат слёз над аповесцю нашага, тутэйшага невядомага творцы пра моцнае, лічы, нябеснае, але няшчаснае каханне Жыгімонта і Барбары Радзівіл. Цяпер, у век наш больш асветны, але і звышсуровы, канечне, многіх ужо проста так не зацікавіш прыпавесцямі пра геройскіх рыцараў і іхнія прыдуманыя неверагодныя подзвігі, пра верных ім цудоўных целам і душой паненак, якія, не выходзячы з дому і з сумам пазіраючы ў акно, цярпліва чакалі іх з доўгіх паходаў. Цяперашняму ўмельцу слова мастацкага трэба пісаць па-новаму – не столькі легенды, міты розныя, а

праўдзівыя творы. Праўды той у нашай пакутлівай гісторыі шмат і праўды часамі вельмі як велічнай, так і гораснай. І гэта тычыць не толькі нашых князёў, баяраў, вояў, аратаяў простых, але і жанок таксама розных саслоўяў. Бальшыня дзяўчат, мацярок, бабуль, ясна, ліла пот і слёзы, мела радасць або адгаравала, множыла край, пайшла ў зямлю ў сябе дома, але многія ўраджэнкі краю, як і мужчыны, таксама хадзілі ў свае, часамі ў далёкія "паходы" – хто палонніцай-рабыняй, а хто па ахвоце ці па прымусе камусьці каханкай альбо і жонкай.

Скажам, як пакінула родны дом полацкая князёўна Гарыслава-Рагнеда? Як напісана ў летапісах старых, найперш з-за прымусу і гвалту дзікунскага наўгародскога, а потым кіеўскага князя Уладзіміра. Ды не зусім: былі на тое і іншыя прычыны... Як і многія, скарылася, але... Не толькі з сынам старэйшым вярнулася, каб ён прадоўжыў дзедаў род "па кудзелі". Яшчэ так выйшла, што спачатку яе дочкі, а потым унучкі, праўнучкі не проста, як кажуць, разбрыліся па многіх краінах Еўропы. Трапілі ў палацы каралеўскія! Нямала чаго добрага там зрабілі для люду тамтутэйшага, за што шанаваліся і шануюцца. Але... не ў нас, а там. Як іхнія каралевы і маці, бабулі, прабабулі ўладароў іхніх. І таму, і па горшых прычынах (абмеленай цікавасці да памяці нашай спрадвечнай) мы цяпер не толькі амаль нічога не ведаем, не гаворым пра тое, а нават падумаць не можам: а яны ж, тыя наступніцы па маці і дабрадзейкі вялікія для іншых народаў, *– таксама ж у чымсьці нашы. Бо – Рагнедзіны па яе высакародных крыві і духу!!!*

Хоць... І цяпер, калі ў Еўропе ўжо насміхаюцца са слёзных рыцарскіх раманаў, усё роўна ёсць і будуць тыя, хто і ў былой манеры будзе чытаць пра мужчынскія подзвігі, пра шчаслівую і гаротную жаночую долю. А тут, у блізкай нам Расеі, асаблівы адбітак следу жанок зямелькі нашай любай. Што праўда, то праўда: тут яны не проста папоўнілі новым людам новы для іх край, але і па-свойму прыкладаліся да лёсу тутэйшай дзяржавы – сёння вялікай і моцнай. Да слова, Аляксандра (Праскоўя), дачка іншага, пазнейшага полацкага князя, Брачыслава (мусіць, апошняга па жаночай, Рагнедзінай, повязцы з Рагвалодавым родам) мела шчаслівейшы за Рагнеду лёс: здаецца, без прымусу ніякага ў 1239 годзе стала жонкай князя наўгародскага, а потым вялікага князя уладзімірскага, будучага Аляксандра Неўскага. Хоць мо і іх жанілі найперш з-за разліку. Каб Палацеск наш памог Ноўгараду засцерагчыся ад шведаў у Неўскай бітве і ад крыжакоў у Лядовым пабоішчы (дапытлівыя гісторыкі ведаюць імёны некаторых тых герояў-палачан). Аляксандра-Праскоўя сталася маці ... – першага маскоўскага князя (Маскоўскае княства было ўтворана ў 1276-м, сама меней на 30 гадоў пазней, чым ВКЛ), прапрабабуляй Дзмітрыя Данскога. Ужо не толькі полацкія, але і іншыя дружыны ВКЛ разам з ім лілі кроў і ў бітве на полі Куліковым. Як Альгерд у 1362-м, так і Данскі ў 1380-ым спрытка спажыў варажнечу мангола-татарскіх ханаў, пазамінаў ім злучыцца ў адну сілу. Не пазбавіў свой люд ад татара-мангольскага іга яшчэ на сто гадоў, але падбадзёрыў: ардынцаў можна біць! Канечне, смешна, што яго-пераможцу сечы збаяўся наш Ягайла са свежымі сіламі, уцякаў так, што нібыта ажно конксія капыты мільгалі. Лухта! Ягайла-хітрун саюзіўся з Мамаем ды наўмысна паблізу затрымаўся, не кінуўся яго ратаваць і зусім не меўся браць голымі рукамі рэшткі ацалелага войска Данскога (гэта было б не славай, а вераломнасцю!). Яму было даволі таго, што два грозныя супернікі зняможаныя (не ён першы, не ён апошні, хто вёў такую сабе патрэбную, а для іншых паўзагібельную гульню). Пазней і Вітаўт умяшаецца ў татарскую міжусобіцу, захоча падмацаваць Тахтамыша (пасля пагібелі Мамая хан Арды, але няўдачнік у вайне з сярэднеазіяцкім эмірам Цімурам-Тамерла-

нам, бежанец у ВКЛ), рызыкне ў 1399 годзе даць новы бой яго праціўнікам на Ворксле, але яго і Тахтамыша моцна паб'е крымскі стаўленнік неперможнага тады Цімура-Тамерлана (сам Тахтамыш будзе ратавацца ўцёкамі ў Сібір, дзе яго заб'е тамтутэйшы хан. Многія яго воі з сем'ямі папросяцца на службу да Вітаўта і будуць несці яе спраўна, як і многія гаспадарыць. А вось з крымскімі татарамі, падбухторанымі турэцкім султанам, нашым продкам прыйдзецца весці крывавыя бітвы яшчэ доўга, нават пасля збіцця іх у 1506-м пад Клецкам. Пазней – у войсках ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Ваяўнічае Крымскае ханства не адно стагоддзе будзе ірваць многім "падбрушша", таксама і вялікай Расеі – яна паб'е крымчакоў толькі ў 1771 годзе, ушчэнт зруйнуе ўсе іхнія гарады, а падуладзіць надоўга крыху пазней.

Але, васпане, ёсць такая праўда, якую не зацьміш: Данскі ўпершыню без згоды Арды перадаў вялікае княжанне сыну Васілю. Чакаючы ад яе помсты, маскоўская знаць абачліва папрасіла помачы ў ВКЛ – калі не па любові, то па ўзаемнай дамове жонкай Васіля I стала Гедзімінаўна. Соф'я, дачка Вітаўтава. Яна шмат зрабіла як для Масковіі (да прыкладу, словам палымяным, дзеяй мужнай паказала прыклад мужчынам, як трэба абараняць Маскву ад крымскіх татараў), так і для зямель родных. Надта пасля 1410 года, калі стрымала мужа і баяр яго нападаць на аслабелае пасля бітвы з тэўтонцамі ВКЛ. Пры малалетнім сыне Васілі II (і пасля таго, як яго асляпілі родзічы-сапернікі) больш двух дзесяткаў гадоў ачольвала... Маскоўскую дзяржаву! Мы неяк гэтым не вельмі ганарымся, а туттутэйшыя знаўцы пра тое наўмысна ўмоўчваюць! Для іх і яна, і яе родзічы – дзедаў брат Альгерд, першы, паўтару, з зямель славянскіх пераможца татар, але і грозны нападнік на Масковію, – ліхадзей з ліхадзеяў. А яшчэ больш настойлівы ў наступе на маскоўцаў сынавец яго Вітаўт Вялікі, які з Ягайлам пераламаў хрыбет тэўтонцам, – драпежнік з драпежнікаў! Так было, ёсць і будзе: адзін і той жа чалавек, найперш палкаводзец альбо кароль-цар для свайго люду можа быць героем, славай, а для іншага, нават суседняга – злыднем са злыдняў! Бо свайму люду – набыткі, багацце, а чужому – страты і гора вялікае!..

Каб Вы пабачылі, якая радасць і цяпер тут у прыдворні, што палякі пазбавілі Вітаўта нашага каралеўскай кароны, з-за чаго мо ён і раптоўна памёр! Радаснаванне вялікае ад таго, што Вітаўт ужо як кароль вялікай дзяржавы мог бы з палякамі і іншымі еўрапейцамі, з яшчэ моцнымі татарамі ды крыжакамі такое Масковіі ўчыніць, што яе магло б і не... быць! Ды гэтае "каб" у гісторыі паўтаралася і будзе паўтарацца тысячы разоў... Колькі чаго змарнела, узнікла з-за таго, што тое ці іншае павярнулася менавіта вось так! Але, васпане, цяпер я тут больш уведаў пра страшную долю той жа Соф'і Вітаўтавай: яна – мудрая, мацнейшая духам за мужчын многіх – нагаравалася дык нагаравалася ж за сваю спагадную для бацькі палітыку. Яе, баючыся гневу ВКЛ, паасцерагаліся звесці са свету, але ссылалі з абароненай ёю Масквы. Незадоўга перад смерцю яна стамілася ад, мякка сказаць, нягод розных і падалася ў манастыр, дзе ўзяла слаўнае імя нашай Еўфрасінні.

Дасталося і яе мужу, а таксама сыну Васілю II за любоў вялікую да жонкі і маці ("Гедиминовичи – пришлые, чужие нам. Василий I предал дело отца, и сын его не достоен славного деда"). Соф'інага і Васілёвага ўнука, Івана III, баяры настроілі ўжо ў сваім, найперш ваяўнічым, захопніцкім духу. Ён не дапусціў саюзу Ноўгарада, Цверы з ВКЛ, скарыў названыя гарады і люта расправіўся з імі. Яму ўдалося скінуць татара-мангольскае, як тут кажуць, "иго" – г. зн. "чужеземное владычество и порабощение". Яго войскі ўпершыню з поспехам вялікім рушылі за Уральскія горы. Калі другім разам ажаніўся з пляменніцай апошняга візан-

тыйскага імператара Соф'яй Палеалог (яе яшчэ называлі Зояй), то аб'явіў сябе нашчадкам тых базілеўсаў і "государем всея Руси", увёў свой герб – візантыйскага двухгаловага арла. З апраўданнем змагання з каталіцтвам павёў жорсткія войны з бабулінай радзімай. Карацей, уладанне Масковіі павялічыў у чатыры разы. Соф'я Вітаўтаўна сталася прабабуляй Васілія III (1479 – 1533; пры ім Вялікае княства Маскоўскае, пазней – Русь, пачало набываць новае найменне – Расія ці Расея), прапрабабуляй Івана Грознага, у нас празванага Жахлівым.

Тут больш даведаўся пра цікавую показку пра Соф'ю – не нашу, а візантыйскую: бежанка, яна была мо і не зусім бедная, але бяспраўная. Ды яшчэ з імперыі-развалiны, да чаго давялі яе Візантыю туркі-асманы. Дык не толькі сынкі еўрапейскіх каралёў, але і знатных графаў і баронаў не хацелі браць яе замуж. На ёй запыніла позірк праваслаўная Масква – канечне, не на ёй, малодцы, а на тым, якую велькую карысць яна можа прынесці для ідэі адужэлай Масковіі. Нібыта ў падзяку яна прывезла вельмі дарагі на той час тавар на 70 падводах з акаванымі скрынямі. "Ліберыю" – вялікі збор – даўніх рукапісаў (быццам 800 велізарных фаліянтаў, а ў іх напісанае яшчэ Гамерам, Арыстоцелем, Платонам, сапраўдныя Евангеллі), ратуючы яго ад туркаў. Нібыта пазней Іван Грозны, хаваючы такі рэдкі дар-скарб, у таямніцы вялікай нават для многіх блізкіх так затаіў яго пад зямлёй, што цяпер таго неацэннага спрату аніяк не знайсці. А ў ім – быццам не толькі проста вельмі даўнія кнігі розныя, але і тайны пра Хрыста ды першых хрысціян, пра апосталаў, якія былі далёка не святыя людзі, але па словах свайго настаўніка склалі евангеллі, пра рымскага імператара Канстанціна I, які благаславіў хрысціянства, але не забараняў і старую веру. Урэшце, кажуць, у тым кнігазборы было і нямала праўдзівых звестак пра нашых праславянскіх продкаў, пра што ўжо не адно стагоддзе суцэльная блытаніна, безліч выдумак, падробкаў найперш з часу Соф'і Палеалог і яе мужа Івана III, "візантыйскага спадкаемцы".

Канечне, той кнігазбор быў. У Канстанцінопалі. Але іншая рэч, ці выпусцілі яго ў 1453 годзе са сваіх рук туркі-заваёўнікі (была, ёсць думка, што яны, якім слаўны і багаты горад быў аддадзены на тры дні на суцэльнае разрабаванне, здзіралі з кніг срэбра і золата, а ўцалелае на незнаёмых ім мовах прадавалі за бесцань альбо кідалі ў вогнішчы). Да ўсяго і Рым, адкуль падалася ў Масковію Соф'я, наўрад ці дазволіў бы ўсё вывезці. Каб не выявіць асобныя таямніцы хрысціянства. У папскай "ліберыі", як і я чуў у Варшаве, многае асела і не ўсё сёння даступнае нават тым, хто знаходзіцца паблізу папы.

Хацелася б мне напісаць і пра нашу зямлячку Алену Глінскую – другую жонку Васіля III, маці Івана Грознага. Пры ёй мяцежнікі, уцекачы з ВКЛ і прыслужнікі Івана III Глінскія не толькі прывіліся да новага дрэва, а на пэўны час, як раней Соф'я Вітаўтава, заўладарылі ўсёй Расейскай дзяржаваю. Ды цяжкі лёс перабежчыкаў, здрайцаў. І некаторыя з Глінскіх, хоць і прадажліва спусташалі Бацькаўшчыну, тым не менш усё роўна не дагадзілі, паплаціліся жыццём (да слова, Алену Глінскую нават звінавацілі за велькі маскоўскі пажар, што ў 1547 годзе бушаваў тры месяцы, спапяліў не менш 25 тысяч дамоў, а з імі палацы цара ды мітрапаліта. Маўляў, яна загадвала дставаць сэрцы з нябожчыкаў, вымочвала іх у вадзе і абпырсквала ёю ўсе вуліцы, ездзячы па Маскве. "Вот от чего мы сгорели!"). Мо была і атручаная з-за новай прычэпкі – нібыта па яе віне няўдалую новую вайну з ВКЛ. Без бацькоў у юным узросце яе сына, Івана IV, туманілі плёткамі, нацкоўваннем на іншых, і ён вырас недаверлівым, вельмі лютым. Пры ім "скарылі" гордыя Казань, Астраханскае ханствы, "падначалілі" Сібірскае і Вялікую Нагайскую арду. Іван не шкадаваў і сваю Расію. Вы, Ваша

ягамосць, гаварылі, што каталіцкія інквізітары загубілі шмат невінаватых, але ім няўгодных. Як у сваёй Гішпаніі, так і па ўсёй Еўропе. Дык вось “особое войско, телохранители и каратели” Івана IV – так званыя апрычнікі, што падуладжваліся толькі аднаму яму, таксама расправіліся з тысячамі, пры гэтым бязлітасна вырывалі з карэннем многія даўнія роды, хціва прысвойвалі і рабавалі іхнія землі. Царскі любімец Малюта, нават вокам не міргнуўшы, задушыў самога мітрапаліта за гнеў таго супраць гэтых нелюдзяў. Урэшце іх, ашалелых ад крыві чалавечай, пачаў ужо асцерагацца і апякун іхні. Мо і яго выратавала ад гэтых катаў тое, што яны, смелыя з безабароннымі, былі ў душы баязлівыя, зусім не ўмелі ваяваць супраць навучаных чужацкіх вояў. Цар скарыстаў гэта і іх разагнаў, а многіх нялітасціва “предал казни”. Тады Расія пабольшала, але і была знясіленая сваім жа правіцелем-тыранам, які ў гневе неўтаймоўным і сына роднага забіў (М. Карамзін пра гэта пісаў так: “Одним словом, Иоанн достиг наконец высшей степени безумного своего тиранства; мог еще губить, но уже не мог изумлять россиян никакими новыми изобретениями лютости”, “Унижаясь перед врагом, Иоанн как бы обрадовался новому поводу к душегубству в бедной земле своей”). І што за страшнае дзіва: тыя, хто сам мог трапіць на дыбу, у вогнішча, быць пасечаны заўтра, гатовы былі знішчаць іншых сёння (“Пусть царь укажет нам своих изменников: мы сами истребим их!” (Тут і далей задвухкоссенае таксама належыць М. Карамзіну. – *Г.Д.*). Кажуць, што стаць “образцом государя и чудовища” Івана Грознага паштурхоўваў і вылучаны ў апрычніну Барыс Гадуноў: ён нібыта раз’ятрываў шаленства цара, а потым атруціў, падаслаў забойцаў да яго сына Дзмітрыя, давёў да смерці “блаженного и бесчадного”, нямоглага, прыхільніка жыцця “тихого и благостного” Фёдара Іванавіча, чым абарваў Рурыкаў род, саслаў у манастыр Фёдараву жонку, сваю сястру Ірыну, каб яна не стала царыцаю, і ўрэшце праз хітрыкі сам зацараваў. Але завёў у дзяржаве Смуту... (Тут Ян Ермаловіч запыніўся менавіта на шматкроп’і: яго апякун, канечне ж, добра ведаў, што пры Гадунове Польша і ВКЛ спажылі імя быццам ўратаванага царэвіча Дзмітрыя і замест яго падаслалі рускага “попа-расстригу”. – *Г.Д.*).

Мо не толькі наш зямляк, баярын Андрэй Кабыла, але і яго жонка сталася “па кудзелі” родапачынальніцай першага рускага цара Раманава, а значыць, і далёкай родзічкай Пятра I. Ды, на жаль, не змог штосьці пэўнае адшукаць пра яе: не вельмі дазваляюць абы-каму корпацца ў сховішчах дакументаў старых, тым больш па царскіх радаслоўных. Калі спраўлюся, то, Ваша ягамосць, мо і напішу пра тое, што хоць крыху адкапаў у вялікім кладзе. Хоць... Божа мілы, колькі і чаго нашага тут, у зусім не казачным кладзе! Колькі не толькі плёну, смеху, радасці нашых землякоў, але і іхніх слёз, крыві тут! То намерыўся даследаваць, запісваць усё , што толькі трапіцца пад руку, пра наш люд. Калі не цяпер, то,можа, некалі і гэта спатрэбіцца нашым летапісцам, умельцам слова пекнага.

Канечне, хацелася б больш уведаць пра розныя дыпламатычныя стасункі, войны малыя і вялікія ВКЛ з Масковіяй у 1368–72, 1534–37 гадах, Масковіі з ВКЛ у 1406–08, 1492–94, 1500–03, 1507–08,1512 – 22-х, Рускай дзяржавы з Рэччу Паспалітай у1632– 34, 1654–67-х і Рэчы Паспалітай з Рускай дзяржавай у 1609-18-х ды і пра бліжэйшы час – Паўночную вайну 1655-60 і Паўночную вайну 1700-21 гадоў. Ды пра многае не засталося запісаў падрабязных ці да тагосяго (пра апошнія войны, дзе вялікая палітыка) не дапускаюць. Нават штосьці новае ўведаць пра лёс люду паспалітага, хто падаўся сюды ваяваць ці лепшай долі шукаць альбо і гвалтам быў выведзены з зямлі нашай у палон. А палоны былі вялікія. Асабліва люду пісьменнага і рамеснага. Да слова, у вайну 1654–67 гадоў “тишайший” Аляксей Міхайлавіч быў на самай справе “ціхі” дык “ціхі”:

ён, як гаварыў, “браў пад абарону адзінавернікаў” (дзеля чаго, як ведаеце, даслаў спакушальную грамату да нашага люду праваслаўнага, заклікаючы іх нават апранацца і стрыгчыся на маскоўскі лад), але хіба бараніў? Хіба, нацкаваўшы на нас казакоў з поўдня, не сплюндраваў, не папаліў і не разрабаваў наш край, а насельнікаў нашых не скараціў напалову – ці не на паўтара мільёна? Хіба самых маладых здаровых, майстравітых, ажно 300 тысяч, не вывеў, каб імі папоўніць нашмат скарочанага за войны і хвароб свайго люду і каб прымаскоўскіх неславян-язычнікаў разбавіць славянамі-хрысціянамі? Нямала зла зямлі нашай прычынілі і новыя саюзнікі Аляксея Міхайлавіча – казакі з поўдня, хоць і самі шмат пацярпелі ад крымскіх татараў, туркаў і ад “уціхамірвальных” атрадаў з Польшы і нашага ВКЛ. Казакі мусілі папрасіць Аляксея Міхайлавіча ўзяць іх пад абарону. Ён жа, падакляраваўшы заступніцтва праваслаўным і вялікую моц незалежнасці іх, на што спакусіўся Багдан Хмяльніцкі, як паказаў час, не даўшы клятвы на Бібліі, зусім не збіраўся спрыяць, а найперш глядзеў на іх як на новых сваіх халопаў. Вось такім чынам скараючы Украіну (Маларосію) у змове з іншымі, нават з лютымі ворагамі палякамі, Аляксей Міхайлавіч, а пасля яго больш ваяўнічы і хіжы сын Пётр І і спарадзілі Мазепу, якога і цяпер тут лічаць здраднікам са здраднікаў... Хоць каму той здрадзіў? Роднаму люду?

Ды не маглі выцерпець пабораў, гвалту беззаконнага “Цішэйшага” і яго падданыя: скажам, больш за 10 гадоў данскія казакі і іншыя аднадумцы Сцяпана Разіна вялі супраць яго, “роднага”, сапраўдную вайну, каб “чорным людзям даць волю” (паўстанні вялікія супраць тыраніі былі і ў час Пятра І). Аляксей Міхайлавіч прысвоіў сабе тытул вялікага князя смаленскага, полацкага, віцебскага імсціслаўскага, увогуле “всея Великиа, и малыя, и Белыя Росии самодержец”, шчодра раздаваў нашы паваяваныя ім землі сваім верным баярам і дваранам (рускі гісторык М. Кастамараў пра тую вайну зазначыў так: “Поспех быў бы яшчэ больш замацаваны, калі б маскоўскія людзі вялі вайну з большым устрыманнем і не рабілі бясчынстваў і насілля над насельнікамі.” Гісторык-патрыёт быў праўдзівы: “не вызвалялі”, а “вялі вайну”. – *Г.Д.*). Карацей, ратуючы нас аб бізуна польскага, Аляксей Міхайлавіч “ціха”, да крыві, захлістаў бізуном сваім!..

Не ўсё святло, што ішло з зямель нашых, спатрэбілася ўладарам тутэйшым. Так, ужо ўпомнены князь вялікі Васіль ІІІ па настойванні баяраў загадаў не дапусціць да сваіх падданых, спаліць “Біблію” слаўнага сына з Полацка Скарыны, а цар Міхаіл Фёдаравіч з бацькам мітрапалітам Філарэтам у 1627 годзе, асцерагаючыся “лацінізму”, выдалі ўказ, каб “ніхто ніякіх кніг літоўскага друку... не купляў”. У 1639-м не дапусцілі друкара Собаля Спірыдона, а пазней такому вучонаму мужу, майстру ў высокай паэзіі і драматургіі, тлумачу з іншых моў, выхавацелю дзяцей царскіх, як Сімяон Полацкі, зноў жа нібыта “з-за лацінізму” абвясцілі анафему. А яго ж, аднаго з адукаваных людзей свайго часу, сам Аляксей Міхайлавіч учыніў настаўнікам сваіх дзяцей! І ад яго першыя азы асветы пасягаў юны Пётр І!

Паколькі я асеў у Маскве, то для пошукаў сваіх падзяліў яе на 8 мясцін. Абіваў парогі розных уведзеных Пятром І калегій, шукаў сведак. Спачатку хацеў больш уведаць пра *Літоўскі пасольскі двор*, што завёўся з 1530 гадоў паміж вуліцамі Нікіцінскай і Цвярскай, а потым пераводзіўся ў іншыя месцы, урэшце апынуўся ў 3-павярховым будынку з галерэяй і абгароджаным пляцам у Кітай-горадзе, дзе быў у 1650-х закрыты па волі названага Міхаіла Фёдаравіча. Недзе да гэтых часоў быў і *Літоўскі купецкі двор*. Да 1571 года (да нашэсця хана Даўлет-Гірэя) у першай слабадзе іншаземцаў у *Налейцы* жылі драбы ВКЛ.

Яны абаранялі Маскву ад татарскіх наездаў і мелі за гэта такія-сякія прывілеі (маглі круглы год варыць піва і мёд, таму і назва такая ад просьбы ахвотных да пітва маскоўцаў: “налей-ка”). З часу вайны 1654–67 гадоў у *Ганчарнай слабадзе* пачалі рамеснічаць запалоненыя з нашых зямель ганчары, цагельнікі, кафляры. Яны і іншыя нашы людзі сталі спраўнымі “дворцовыми мастерами”, праславіліся ў справе паліхромнай кафлі і скульптуры з керамікі. Аздобілі Круціцкі падворак, цэрквы Рыгора Неакесарыйскага, Успення ў Ганчарах, Верхаспаскі сабор у Крамлі. З Інфлянцкай вайны 1558–82-х, а таксама і з пазнейшых войнаў у *Броннай слабадзе* пачалі працаваць нашы кавалі і збройнікі. Іхняя зброя ахарошвае Крамлёўскую Аружэйную палату. У *Старапанскай* і *Панскай* слабодах найбольш у 1638 годзе было вайскога люду Рэчы Паспалітай. Але, як удалося выявіць, сама болей гуртам нашы рамеснікі, пісьменныя людзі з 1672 года засялялі *Мяшчанскую слабаду*: у 1695-м тут налічвалася 787 двароў нашых землякоў (бяздворных сюды не дапусцілі; іншыя 200 сем’яў люду нашага, каму не хапіла тут зямлі, пасялілі ў іншых слабодах). Як склаў я здабытыя лічбы, то выявіў: у 1676 годзе ў Маскве нашы рамеснікі мелі больш за 60 заняткаў, больш траціны ўмелі чытаць і пісаць, а ў 1680-м яны складалі каля пятай долі ўсіх насельнікаў Масквы. Тут, у Мяшчанскай слабадзе, яны заснавалі сваю школу, багадзельню, тэатр, балетную вучэльню. На жаль вялікі, гэтая адметная мясціна са здабыткам нашым пайшла агнём і дымам у пажар 1712 года (а незадоўга перад гэтым таксама бушаваў агонь вялікі, пасля чаго Пётр І рашыў будаваць воддаль на поўнач новы, найбольш з каменю ды цэглы горад і перанесці ў яго сталіцу). Помніце, васпане, неяк аднойчы я вам расказваў, што напаткаў у віленскіх сховах старых папер рукапіс былога земскага пісара з Навагрудка Самуіла Маскевіча (1580–1642; шляхціц-вайсковец, быў у Маскве ў рэчпаспалітым войску, якое ўссаджвала на трон Ілжэдзмітрыя І. – *Г.Д.*). Ён, наш зямляк, канечне, апынуўся тут, у Масковіі, не з такой місіяй, як я, а , можна сказаць, злачыннай, але і мне хацелася б па яго прыкладзе апісаць тутэйшыя побыт, норавы і звычаі, да чаго прыклаліся і нашы людзі, гэтак жа спакойна, уважліва да ўсіх дробязей і без ніякіх задзірак, абраз. Але праўдзіва і, з другога боку, без розных умоўчванняў.

Яснавяльможны пане, пра ўсё гэта напішу я яшчэ болей падрабязна. Хоць, Бог сведка, рабіць гэта вельмі і вельмі нялёгка. Мае паходы па канцылярыях і па названых мясцінах маглі дарага абыйсціся мне: хоць я меў засцерагальныя паперы ад шаноўнага канцлера ВКЛ пра мае зусім неварожыя намеры, але мяне зняволілі і строга дапытвалі ў *Тайнай розыскных дел канцелярии* як ліцьвінскага, а то і польскага шпега. Мог застацца з перабітымі ломам рукамі ці апынуцца з каменем на шыі ў рацэ Маскве або з вырванай наздрынай у страшнай Сібіры, дзе ўзімку марозы надта моцныя, снягі глыбокія, а ўлетку высмоктвае кроў усякая заядзь, дзе пакутлівая праца на казённых заводах, дзе норавы тамтутэйшага як разбойнага, так і простага люду дзікія. Калі я, пакуты вялікія маючы ў падзямеллі, чакаў такога, то не мог не ўспомніць і чытаны мною ў кнігасховішчы рукапісны яшчэ адзін дыярыуш земляка нашага, родам з-пад Нясвіжа Адама Каменскага-Длужыка ці Доўжыка, які ў 1657 годзе патрапіў у расейскі палон, быў вывезены ў Маскву. Потым яго ў складзе вялікага атрада паслалі ў Сібір і на Далёкі Усход памагаць збіраць ясак (даніну), дык ён пабываў у Яраслаўлі, Вологдзе, Перміі, Табольску, Сургуце, Нарыме, Якуцку, на Енісеі і каля Ахоцкага мора. Канечне, ён не быў зусім бяспраўны, кінуты на волю лёсу, але таксама ўсяго нагледзеўся і нацярпеўся. “Край той надзвычай багаты, пекны...”, але: “Было той бяды тры гады з палавінаю, пакуль мы валачыліся па пушчах, па рэчках і моры, мала калі паспытаючы хлеба, харчуючыся толькі зверынаю

ды рыбаю. А бялізны і знаку не мелі на сабе, апрача аленевых шкур. Апрача неба ды зямлі, нічога не бачылі...". Было б добра, васпане, каб тыя дыярыушы надрукаваць; калі мы пра Масковію знаем нямала, то вачыма нашага земляка Длужыка-Доўжыка мы можам упершыню зірнуць на такія бязмежныя расейскія прасторы, як Сібір і Далёкі Усход.

Вырataваў мяне Гасподзь наш строгі, але міласэрны (добра казалі ў Рыме першыя хрысціяне, што "Deus est in omnibus rebus" – "Бог усюды"): мной зацікавіўся адзін вельмі важны чалавек – дваранін Васіль Тацішчаў. Ён быў у ваенным паходзе на нашых землях у 1705–06 гадах, у Палтаўскай бітве, спаўняў па вайне і дыпламатыі наказы Пятра I, а потым доўгі час кіраваў заводамі на Урале, быў губернатарам у Астрахані. Калі ў 1745-м выйшаў у адстаўку, то, любіцель рускай і ўвогуле даўніны, рашыў напісаць падрабязнае дaследаванне "Историю Российскую с древнейших времен". Як неяк дачуўся, хто і дзе я, небарака, сам прыйшоў і папрасіў у Тайнай канцылярыі дазволу пагаварыць са мной. Найболей цікавіла яго адно: ці магу я чытаць тое, што некалі пісалася якраз на нашых землях *уставам* (самае даўняе кірыліцкае пісьмо. У старабеларускай пісьменнасці мела абыходак да пачатку 15 ст. – *ГД.*). Калі я сказаў, што ўмею, тым больш, што, апроч старaславянска-царкоўнай, ведаю яшчэ старагрэцкую, лацінскую, нямецкую, польскую, рускую мовы, выбавіў ад пагібелі вернай і ўзяў да сябе. Вось і я патрапіў калі не ў запалоненыя, то ў лік купленых, цяперашніх падуладных Расейскай імперыі нашых пісьменных людзей (крый Божа, не падумайце, што прадаўся, пяром буду чыніць зло любай і дарагой сэрцу Бацькаўшчыне; кажу ж, закалюты лёсу майго змусілі шукаць паратунку і ў няволі не толькі ацалець, але і неяк дбаць пра зямлю родную). Тацішчаў паспрыяў, каб вярнулі мае запісы таго, што я здолеў спазнаць у тых васьмі слабодах. Але знаёміцца з імі ён не стаў, схаваў іх у скрыню і начапіў на яе замок. Сказаў, што цяпер для яго не яны самае важнае. Больш патрэбнае іншае. А што іменна, скажа пазней. А пакуль што даваў правіць, перапісваць тое, што накідваў пяром для сваёй "Гісторыі...", дыктаваў новае.

Няволя – цяжкая доля. Больш я не маю права без дазволу хадзіць у розныя канцылярыі і слабоды. Паколькі я – грэшны зямны чалавек, дык суцяшае тое, што ёсць цёплы прытулак і неблагі пракормак (грошай гаспадар на рукі не дае, кажа, што ўручыць пазней, калі працу скончым). Ды яшчэ нямала цікавіць тое, што магу быць з Тацішчавым у дзвюх (во дзіва дзіўнае – дзьве галавы ў адной асобіны!) расійскіх сталіцах – у старой, у Маскве, і ў новай альбо "северной", у Санкт-Пецярбурзе (некаторыя санавітыя называюць яго на іншы лад – Петербурхом). Масква цікавая мне даўнінoй, да якой прыклаліся розум ды рукі і нашых землякоў, былымі звычаямі і норавам як заможнага, так і простага люду, нават, як тут кажуць, "затрапезностью" – гэта значыць, знаццю ў вялікіх сабаліных шапках-стаўбунах, доўгіх, да пят, шыкоўных футрах, з вялізнымі, як венік, барoдамі, з гонарам вялікім за радню з Рурыкавічамі, цэрквамі (іх тут "сорок сороков"), кірмашамі, піўнымі, рознымі служакамі, п'яніцамі, бадзягамі, махлярамі, "фискалами" ("ад іх усюды царовы вочы і вушы", – кажа Тацішчаў), "юродивыми – безумными дурачками, отроду сумашедшими, но божьими, с безсознательными поступками да с глубоким смыслом, предчувстимиями, до которых с почетом езжали советоваться даже государи"), рознымі "кликушами" (хворымі на падучку і прытворнікамі, каб "извергнуть правду-матушку"). Ды і гулі-забавы маскоўскія адмысловыя: не толькі піўныя, кірмары-ярмаркі з "балаганом – шарманщиками, фокусниками, акробатами" ці павадзіць на аборачцы пеўня альбо мыш, але і з кулачнымі баямі і бойкамі слабады на слабаду

з аглоблямі (расейская прымаўка “лежащего не бьют”, адпаведна, адсюль). Ці з “состязанием”: хто глыне каштан, больш вып’е вады, брагі, піва ці яек альбо хто зубамі падыме багацеем наслінены і прыклееены да лёду сярэбраны пятак. А маскоўская *Пыточная башня*, дзе ўпотай “истязают” злачынных і невінаватых! (“Один бог без греха”). Асобны аповяд быць можа і пра ўзаконенае яшчэ Аляксеем Міхайлавічам “питейное дело”.

Санкт-Пецярбург уражвае, як тут ганарацца, “изначальной европейскостью” – знаццю з шыкоўнымі парыкамі-буклямі, карункавымі кашулямі, гальштукамі, кафтанамі-камзоламі, панчохамі, ступакамі з пазалочанымі ці пасярэбранымі пражкамі, уладальнікамі не толькі сваіх, але і галандскіх саней у выглядзе лебедзя. І замежнымі мовамі, новымі побытам і этыкетам. Што ні кажы, а Пётр І не проста ўвёў новы год з 1 студзеня, ён не толькі ўгаворамі, але і сілай сваімі “новинами” – зменамі-пераменамі перавярнуў ўсю Расею, зламаў аб калена Маскву з яе ганарыстай візантыйскасцю ды сярмяжным ладам і на суровай паўпоўначы, лічы, на балоце за кароткі час зладзіў нечуваны сталічны бляск, што не саступае і Вільні нашай, Варшаве, і Вене. Прыгнаў мноства свайго люду простага (і з нашых зямель, і з украінскіх ды іншых), не проста запрасіў, а дазволіў хлынуць лавіне замежных майстравітых людзей, купцоў, вайскоўцаў, годным і ілжывым навукоўцам, настаўнікам розным, даў ім пасады, грошы вялікія, землі многія, званні ганаровыя, дык за кароткі час тут паўсталі крэпасць з саборамі і турмой, розныя казённыя дамы, крамы, лаўкі і забаўляльныя месцы, палацы, шырокія дагледжаныя вуліцы, плошчы, сады. Па-за горадам завёў галандскія каровы і, як тут кажуць, “аглицкие” свінні. Пачаў ладзіць, як і ў нас, але цалкам на заходнееўрапейскі ўзор пышныя палацы і сядзібы. Узвысіў як чужаземных, так і сваіх просталюдзінскіх, але здольных людзей, бязлітасна б’ючы дрынам радавітых ды “нерадивых”. Тут ужо новая расейская “белая кость”. На чужой заквасцы. У гэтую сталіцу ляцяць як мухі на агмень. Хто хоча адукавацца ці ўдала займець па пратэкцыі ці за грошы пасаду, ачмурыць багатага жаніха або багатую нявесту, пагуляць (прыезджыя памешчыкі). А яшчэ – віжы, авантурысты, злодзеі, зводні і звадыяшы розныя, маладыя жанчыны, якія хочуць шыкаваць за сваё здатнае для любоўных уцех цела. Калі ў Маскве гонар і гордасць патомных князёў і баяр, то тут – усіхнае модніčанне на замежны лад, форс (“франты” і “бахвалы”). Не толькі саноўныя, але і простыя службістыя намагаюцца апранацца на замежны лад, гаварыць па-замежнаму – раней па-нямецку, а цяпер усё больш па-французску (пра апошняе тое-сёе пазней). Тыя, хто выбіўся ў новыя вяльможы, сароміюцца сваіх нядаўняга простанароддзя і прозвішчаў. Скажам, як цяпер быць Свіньіным, Абалдуевым ці Дураковым! І мой апякун Тацішчаў тлумачыў мне, што яго прозвішча не ад слова “тать” (зладзюган, разбойнік), а і яшчэ ад аднаго слова – “ищи”. Значыць, яго гасударавы продкі вышуквалі злачынцаў. Я толькі пасміхнуўся сам сабе, бо адзін з расейскіх ягоных памочнікаў аднойчы пахмыльнуўся без яго: “Тать не тать, да на ту же стать!”

Пётр І пабурыў баярскія вольнасці, увёў шмат новых законаў, часамі надуманых падаткаў і штрафаў (трэба недзе будаваць, скажам, канал – давай грошы на гэта, не схадзіў на споведзь – адкупляйся; гэтае дае шанец розным начальнікам абіраць просты люд да ніткі, даводзіць іх да адчаю, да самагубства ці да бунту і разбояў). У кожную губерню паслаў даверанага суддзю-наглядчыка, якія мелі права на “правеж” – судзіць і мілаваць, збіраць падаткі, даўгі, пені праз “истязание”. Любіў цешыцца смяротнымі прысудамі і дзеля “поучения” зганяў на гэтае страшнае відовішча натоўпы люду. Больш – часамі яго “увлечения” не стасуюцца да цвярозага розуму. Любіў пасля ваеннай перамогі загадаць і для “черни”

выкаціць з падвалаў бочкі моцных напояў, смажыць тушы бараноў і цялят, для радасці і пацехі напаіць ды накарміць усіх да страты прытомнасці, а то і смерці, але мог не толькі саслаць у манастыр сястру і першую жонку, аддаць на загубу сына. Па-дзікунску катаваў стральцоў (пастаяннае войска з выгодамі рознымі, што было не меней 100 гадоў. Калі яно пачало ўмешвацца ў лад дзяржаўны, нават у выбары патрэбнага найперш ім цара, то Пётр I разагнаў іх і завёў замест іх верную яму армію). У 1711-м увёў сваю інквізіцыю (“Кнут – не бог, а правду сыщет”). Мог, ні з кім не раячыся, самахоць “повелеть” адсекчы галаву нявернай каханцы (Марыя Гамільтон), а потым падхапіць яе, гэтую аддзеленую ад цела галаву, і пацалаваць у губы яшчэ нядаўна жывой і пекнай жанчыны. Не толькі простыя, але і саноўныя людзі з жахам баяліся захварэць: калі пра гэта дачуваўся “знаўца навук усіх” цар , то мог тут жа заявіцца са струмантам і лячыць, ажно да пускання крыві (кажуць, ён сабраў ці не мех калецыю вырваных ім зубоў, а сярод іх шмат і зусім здаровых). Ці такое: па ягоным гневе палюбоўніка жонкі, па-просталюдзінску “Катьки”, таксама абязгаловілі, заспіртвалі яго галаву і паставілі посуд з ёю ў яе спальні. Так што, васпане, я зусім веру таму, што ў магілёўскай хроніцы пісалі Сурта (купецкі стараста Магілёва ў 1690-х. – *Г.Д.*) і Трубніцкі (службоўца гарадской канцылярыі ў Магілёве; даў звесткі за 1701–1746 гады. – *Г.Д.*) пра, скажам, учынкі гнюсныя Пятра I у Полацку, калі ён з Меншыкавым, абодва п’яныя, сваёй рукой у саборы секлі шаблямі святароў-уніятаў! Праўда, Тацішчаву сказаў пра гэта мімаходзь, асцярожна. “Берсеркиер, опъяенный мухомором, значит – одержимый бешенством, как и побежденный им Карл XII”, – у тую хвіліну шчырасці, сам-насам адказаў ён мне, маючы на ўвазе, што шведы і іншыя паўночныя люднасці, каб набыць несвядомую адвагу, наўмысна елі атрутныя мухаморы. – Но все его грехи перекрывает выдающееся: он великую империю нам оставил!”).

Для Тацішчава – так, ды... Нідзе не бачыў я такіх раскошы і ўбогасці ды галечы, пыхі і ўніжэння, сваволля не толькі ўзвышаных “Табелем по рангам”, але і розных дробных хамулаў – “канцелярщиков, будочников, приказчиков”, подкупу, хабарніцтва, як у Санкт-Пецярбурзе! Без знаёмства са знанымі і без грошай тут ты – *ніхто!* Таму ўладныя і прыстасаваныя лічаць Пятра I збаўцам і абнаўляльнікам, *бацькам* вялікай Расеі-матухны – а значыць, і сваім карміцелем. А іншыя (у Маскве і асабліва ў аддаленых мясцінах сярод “раскольнікаў-старавераў”, над якімі па яго волі падуладная яму царква чыніла і чыніць дзікія расправы) не прызнаюць яго, маюць за антыхрыста (і не толькі за тое, што жыўцом вырываў з радавітых бароды ці падпальваў іх або нават не за тое, што загадваў здымаць царкоўныя званы і пераплаўляць іх на гарматы. Больш – многія лічаць, што ён – не сын Аляксея Міхайлавіча, а “жидовин – еврей из колена Данова”, ці што сапраўднага Пятра маглі ў Галандыі падмяніць і замест яго прыслаць у Расею пярэваратня, новага Ілжэдзмітрыя). Яны лічаць Санкт-Пецярбург новым Вавілонам, шэпчуцца, што люд тут ёсць і будзе няшчасны: горад пабудаваны на зямлі, слязах карэнных плямён – чухонцаў ды на касцях сагнаных на будоўлю. Што да шматлікіх рэформаў Пятра I, то, канечне, нямала сярод іх талковых і патрэбных. Скажам, і ў нас не замінала б увесці тое, што ўвёў ён да сем’яў паноў: не дзяліць, не драбніць гаспадарку, а пакідаць яе аднаму нашчадку; астатнія ідзіце на гасудараву службу, а каб чагосьці дабіцца на ёй, вучыцеся дома, а то і за мяжой! Ды плач стаяў вялікі, калі отракаў забіралі ад бацькоў і змушалі іх, маладых, набыць веды! У нас прасцей, нашы многія пазакончвалі еўрапейскія універсітэты, але нашы шляхецкія гаспадаркі вельмі ж

дробняцца і мізарнеюць! Многія нашы шляхцюкі высока задзіраюць нос ад гонару, але ў кішэні – вецер!

...Ды зноў пра нашых землякоў у Санкт-Пецярбурзе, пра тых жа кабецін. Мы з Вамі, васпане, урогат чыталі на лацінскай мове адзін з першых ў Еўропе раман Апулея “Залаты асёл” пра любошчы Амура і Псіхеі, меліся нават перакласці на мову нашу, але хіба не цікава было б прачытаць і пра былую прыгонную Марту Скаўрашчук з-пад нашага Менска, каталічку, сірату, выхаванку лютэранскага пастара, жонку шведскага драба, каханку расейскіх салдат і генералаў, а ўрэшце жонку Пятра І і імператрыцу Расейскай імперыі?!.

Не проста *цікавая* была асоба наша зямлячка! Ледзь не з халопкі – у царыцы-імператрыцы!!! Ды першай!!! Хай сабе і са спрыяннем былога палюбоўніка Меншыкава (а пасля “працерабіла” дарогу да імператарскага трону іншым жанчынам – Ганне Іаанаўне і дачцы Елізавеце). І хіба толькі за прыродай адоранае цела, за красу, за здольнасці да любошчаў? Мо больш за ўсё – *асаблівы* лёс яе!!! Да слова, і ў тым, што якраз яна выратавала не толькі Пятра І, яго армію, але мо і ўсю... пятроўскую Расею! Калі цар не давёў да канца вайну са шведамі і рушыў на туркаў (Пруцкі паход у 1711-м), спадзеючыся, што яму памогуць у будучай бітве паўсаюзнікі. Не памаглі. Туркі абкружылі расейскае войска і маглі яго знішчыць, а цара паланіць. Дык вось якраз Кацька-палюбоўніца падказала цару паратунак: да апошняга сабраць ад усіх заможных расейскіх вайскоўцаў каштоўнасці і падкупіць імі прагавітага турэцкага пашу. Удалося. Удзячны Пётр І яе з паходнай уцешлівай жарскай каханкі перавёў у законную жонку, у гасударыню і ў яе гонар учыніў ордэн святой Кацярыны. Вартая яна пашаны, пісанага твора яркага і за тое, што не заганарылася, не выраклася бедных родзічаў і іншых землякоў сваіх, а калі стала імператрыцаю (Расеяй пры ёй “правил” наш зямляк Меншыкаў – у сапраўднасці Меншык альбо Менжык. Той-сёй з нашых ганарыцца гэтым. Я – не. Нават не па-хрысціянску цешуся, што ён і за слёзы нашага люду, полацкіх светароў люта пакараны, калі яго, адурэлага ад улады і нахапанага багацця, зрынулі і саслалі на загібенне). А Кацярыне І – павага вялікая за тое, што пачала выкупліваць у ВКЛ сваіх прыгонных братоў і сясцёр (пазней яе дачка-імператрыца Елізавета, надасць ім і іхнім нашчадкам графскія тытулы), абшлюбіць сваю пляменніцу Соф'ю Скаўрашчук з Пятром Сапегам (як мы з Вамі і меркавалі, з далёкім разлікам: мела намер яго, свайго любімца, пасля смерці польскага караля і вялікага князя ВКЛ Аўгуста ІІ у нас укаралевіць і ўкнязіць. Стаў пецярбуржскім генерал-губернатарам, хоць гэтую пасаду не мог займаць іншаземец. Потым яго паслалі ў Варшаву спаўняць расейскія інтарэсы, але, як ведаеце, там ён перакінуўся да Ляшчынскага), а яго бацьку яна ўзвысіць да звання расейскага генерала-фельдмаршала. Іменна тут, у Санкт-Пецярбурзе, васпане, я пераканаўся: не трэба і нам пасміхоўвацца-пацешвацца з нашай Кацькі! Паўтаруся, яна – таксама па-свойму асоба з жаночага роду, што дала зямля наша ліцьвінска-беларусінская! Жыццё, дзеі яе, нечуванае ўзвышэнне варты пяра творцы таленавітага! Так што ўсяго-усякага нарабілі-натварылі нашы землякі і іхнія нашчадкі ў матухне-Расеі!!!

...Быў я вельмі ўражаны, што нават у Акадэміі навук рэдка чуў рускае слова (аказваецца, у ёй 20 гадоў акадэмікамі былі толькі замежныя вучоныя, першым з рускіх у іх лік патрапіў народны самародак, сын паморскага селяніна Міхайла Ламаносаў, з якім мяне пазнаёміў Тацішчаў). Ламаносаў – поўны, губаты, з вялікімі шэра-блакітнымі вачыма, з басавітым голасам – яшчэ не стары гадамі, яму няма і 40, але яго і ганарлівыя заморскія вучоныя лічаць за вельмі адукаванага мужа па розных навуках, за здольнага вершаскладцу, малявальшчыка, гісторыка, які шчыра і аддана жыве інтарэсамі Расеі. Ён хоча адкрыць універсітэт і ў Маскве,

а ў Санкт-Пецярбургу – Акадэмію мастацтваў і Акадэмію рускай мовы і славеснасці, складае рускую граматыку, піша сваю гісторыю Расеі. Мне было цікава слухаць, як і што ён гаварыў пра нямецкіх гісторыкаў-акадэмікаў, “которые засели здесь и перекручивают историю российскую, возвеличивают своих предков, особенно варягов, приписывая только им создание нашего государства. Говоря ихним языком, “Das alles sind Hirngespinste!” – “Усё гэта лухта!” Надо, дружище, – горача, вельмі натхнёна звяртаўся да Тацішчава, – написать настоящую нашу историю, во славу Отечества нашего великого. Непозволительная глупость наша: империю имеем, а написание её истории отдали на откуп всяким выдумщикам и подлецам типа Байера и теперешнего Миллера. Надо нашу историю открывать, как удивительную, но малоизведанную страну-империю!”.

Што, васпане, да немцаў (надта да курляндскіх, якіх навяла Ганна Іаанаўна), то тут, праўда, нянавісць да іх вялікая. Люта ўпёкся ў печані і знаці, і люду простаму Ганнін палюбоўнік Бірон. Хоць пры ёй быў адзін з трох кабінет-міністраў, але найперш ён правіў Расеяй як сваёй вотчынай. Калі ж падаў голас супраць таксама кабінет-міністр, рускі А. Валынскі, то Бірон дабіўся для таго смяротнай кары. Ды пралічыўся: змоўшчыкі пры новай імператрыцы, Ганне Леапольдаўне, выдалілі яго з палаца, а пасля – і яе, прывялі да трона дачку Пятра І і Кацярыны І Елізавету (яе называюць Елисаветой) найперш з-за таго, што яна дала слова вырваць з коранем “бироновщину”, “спасти Россию от нового чужаземного ига”. Яшчэ адзін штрышок пра тую Ганну. Вельмі цяжка было да яе падступіцца: бывала, нават ад самых вяльможных рускіх яе ўсёўладныя немцы па году не прыймалі прашэння. І вось раптам незадоўга перад маім прыездам да яе лёгка патрапіла наша зямлячка, нейкая Саламея Пільштын – навагародская ўраджэнка, падарожніца (аб’ездзіла паў-Еўропы), лекарка (без дыплома, але ўмела лячыць рэдкія хваробы, скажам, катаракту вачэй) і, як кажуць, рэдкая авантурыстка. І цяпер, калі яе тут няма, не сціхае гамана пра яе: яна апынулася ў царскіх пакоях, зачаравала царыцу сваімі расказамі, надта пра турак і іхнія гарэмы, перапалохала смелым і ўдалым лячэннем нават царскіх замежных лекараў. Шмат каго прыезджага вытурвалі не толькі са сталіцы, але і ўвогуле з Расеі, а яе, тую Саламею, сама імператрыца праводзіла з пашанотай: падаравала некалькі палонных туркаў (значыць, тая зноў падасца ў Турцыю), тысячу рублёў, некалькі срэбраных кубкаў, адрэзаў дарагой тканіны, сурвэтак з імператарскімі гербамі. Дык хіба і яна, зусім не знатная, але рызыкоўная, не вартая прыгодніцкага твора? А сваё караванне Ганна Іванаўна закончыла ці то дзівотай, ці то дурнотай: па яе волі пабудавалі з вады і лёду вялізны і незвычайна пекны палац, у якім жанілі яе любімага блазна, ды для пацехі жывым замарозілі “малороссийского” двараніна...

Ды хачу, васпане, яшчэ колькі слоў сказаць пра Ламаносава. Што да мяне, “беларусца-лацініста”, то сустрэў з насцярогай, але прызнаў: “кемны, начытаны, з думкай сваёй яснай і цвёрдай”. А калі загаварылі пра нашага Скарыну, то пачціва захітаў галавою: “Зело ученый муж наук и искусств разных!”, “ прывёз з Італіі ўменне пісаць на славянскай мове сілабічныя вершы”. Тут ужо я не ўтрымаўся, як кажуць, пахваліўся, па памяці прачытаў Скарынава:

Богу в троицы единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселию,
Людям посполитым к доброму научению.

“Так, так, так, – пацвердзіў Ламаносаў. – Але Біблію напоўніў духам лацінізму, а ў яго прадмовах і пасляслоўях – паланізмы”.

“Там – не паланізмы, а яго родная крывіцка-полацкая гаворка, – асмеліўся запярэчыць я. – Таму і стаў самым знакамітым беларусцам. У італьянскай Падуі ўшанаваны”.

“Увогуле твае суродзічы шмат зрабілі для станаўлення рускай літаратурнай мовы, паэзіі, драматургіі, – прызнаў Ламаносаў. – Надта Сімяон Полацкі. Скажам, з яго прыездам у нас друкарняў пабольшала ўдвая. – Усміхнуўся: – Была адна, стала дзве... А ў вас тады колькі іх было?”

“Ва ўсёй саюзнай Рэчы Паспалітай іх мелася 134” (лічбы паводле Ул. Арлова. – *Г.Д.*).

“Але нам трэба рашуча і мову Полацкага пачысціць. Сучасная руская больш жывая, гібкая. А што да вершаскладання, то з Традзьякоўскім увядзём новую сістэму – сілабатанічнасць. Уяўляеш, што гэта такое?”

“Я, Міхайла Васільевіч, не паэт. Не даў Бог мне такога дару, – прыклаў я руку да грудзіны. – Але з вашага дазволу магу лічыць, што і самыя простыя беларусцы ўжо засвоілі і на сваёй роднай мове:

Качарэжку ў лапу ўзяўшы,
Чорт, у печцы памяшаўшы,
Дастаў Еву з жаркай печы.
Абгарэлі яе плечы.

“Гэта – па-польску?”

“Не, Міхайла Васільевіч. Вось такая ў нас, беларусінцаў, родная мова. Па-польску будзе зусім іначай”.

“А па-славянску, па-глыбіннаму! – пляснуў у ладкі Ламаносаў. – Га, Васілій Мікітавіч?!”

“Таму і ў памагатыя ўзяў яго, Міхайла Васільевіч, – усміхнуўся Тацішчаў. – Як ты кажаш, кемны. Толькі і яму, беларусінцу, тым больш лацініскаму, трэба новыя мазгі ўстаўляць”.

“Трэба, Васілій Мікітавіч. На нашу свядомасць.”.

“Таму часта і цярплю яго завіхрэнні. Ён – пчала, якая ўмее збіраць нектар...”

“Пчала – мёдатворца, – шугнула мне ў галаву. – Але ж у пчалы век кароткі...”.

“Дарэчы, – аднойчы загаварыў да мяне Ламаносаў, – як ведаеш, назва дзяржавы нашай Расія ці Расея ўзнікла не так ужо і даўно, пры Іване III, у канцы XIV стагоддзя. Перад гэтым панавала слова “Русь”, пераемнікам якога ад Кіева і Уладзіміра, Суздаля стала Масква. Як сам бачыш, цяпер мы апантаныя пошукамі, адкуль яно, тое слова, узялося? Версій шмат. Адна з іх тычная і вашых зямель. Палескіх і асабліва тых, што каля Нёмана. Што і там за Рось такая?”

Скажу шчыра, я нічога не ведаў і цяпер не знаю пра тое.

У Санкт-Пецярбурзе, у Маскве, бывае, удаецца пабачыць, а калі-нікалі і пачуць віцэ-канцлера Міхаіла Варанцова, новага канцлера Аляксандра Бястужава-Руміна (ён многіх адпіхвае ад Елізаветы Пятроўны, набірае моц і становіцца самым уладным дзяржаўцам у Расеі), апекуна асветы Івана Шувалава, аднаго з першых сярод роўных пры урадзе Пятра Шувалава. Нават пазіраў у вочы самой імператрыцы, калі хадзіў да яе з дабрадзеем з рукапісамі па вышэйназванай гісторыі (не заўсёды дапускалі ў яе кабінет, а толькі тады, калі трэба было штосьці сказаць маё па гісторыі нашай зямлі).

Яе, васпане, – статную, рыжавата-каштанавую, круглатварую , блакітнавокую, з кудзерамі распушчаных валасоў на плячах красуню, ахвотніцу да француз-

скіх мовы і танцаў – бацька-цар хацеў асямеіць з французскім каралём, але не выйшла гэта. За іншых сама адмовілася выходзіць замуж. Першы раз я пазіраў на яе заварожана, з двaіста-траістым пачуццём. *Дачка ж Марты з-пад Менска, першай рускай імператрыцы Кацярыны I!* Але... Як пачуў, у маладым узросце не імкнулася ў царскія палацы, захаплялася пекнымі ўборамі, танцамі, яздой на кані і лодцы, канькамі, народнымі танцамі з простымі людзьмі, паляваннем, быццам была бязладная і шалапутная. Але здолела ўхіліцца ад замужжа з сынам усёўладнага Бірона, каб не падоўжыць яго тыранію над Расеяй, а затым, клянучыся ў любові і вернасці, перахітрыць валадарніцу пры неўмаляці-царэвічу Ганну Леапольдаўну – для той быў зусім нечаканы, як гром сярод светлага дня, Лізавецін пераварот. Значыць, хітрая была, умела прыкідвалася і глыбока таіла свае мары. Праўда, Елізавета адбірала ўладу годна: скажам, адмовілася ад ваеннай помачы Швецыі і перадачы той за гэта зямель. “Лепш, – сказала яна, – я не буду царыць, чым куплю карону такой цаною” (М. Кастамараў. – *Г.Д.*), толькі шчодра і нібы мімаходзь медзякамі падкупляла салдат. Таксама хітра здабыла у іх апірышча ў часіну перавароту: “Знаете, чья я дочь?” Ведалі. На руках паднялі. Жыцця дзеля яе не шкадавалі. І, як хваліліся змоўшчыкі, “через час мирно овладела державою”. Не парушыла слова перад імі за сваё тронацараванне: услед за сасланым раней Біронам выдаліла і іншае нямецкае верхаводдзе (віцэ-канцлера, кіроўцу расейскай палітыкі Остэрмана, які раней інтрыгамі не дапусціў шлюбу дачкі Меншыкава і Пятра II, фельдмаршала Мініха – скаральніка палякаў у 1733 годзе, а затым пераможцу туркаў; іх прысудзілі да смерці, але абыйшліся толькі іхнім ганьбаваннем праз публічную кару і высылкай). Кажуць, у парыве шчырасці Лізавета нават падмелася запыніць у імперыі страшэнныя допыты-катаванні (з-за спачування да брата па бацьку Аляксея, які сканаў лютай смерцю на дыбе). Хоць годнасці той надоўга не хапіла. Даверлівую да яе Ганну Леапольдаўну з мужам таксама саслала, а іхняга маленькага сына Івана VI з калыскі перасяліла ў муры, дзе ён рос і пакутаваў 24 гады без імені, калі не зусім, то мала ведаючы, хто ён, і загінуў, калі яго захацелі вызваліць і замест яе самадзержцам зрабіць (можна толькі ўявіць, як бы ён, азлаваны, помсціў бы. Мо і новым Іванам Жахлівым стаў бы). З выкрытымі змоўшчыкамі супраць яе, “пазашлюбнай, таму незаконнай” па яе загадзе расправіліся, як і раней, люта. Ды пра гэта баяцца ўголас гаварыць. Хваляць яе, што “яна зноў пабіла шведаў”, што пры ёй “ пачалі квітнець навука і асвета, хараша абладкоўваюцца яе мудрыя новыя рэформы”. Як і бацька, таксама з дзівацтвамі да шлюбу і сям’і: ён ажаніўся з яе маці-сялянкай, а яна, адцураўшыся ад многіх прынцаў і герцагаў, таемна сышлася з украінскім пастухом ці казаком Аляксеем Разумоўскім(ён, “начны імператар”, цяпер граф. Відны мужчына і, кажуць, хараша спявае мілагучныя ўкраінскія песні) і, шэпчуцца, мае ад яго дачку (у дзённіку А. Пушкіна за 4 снежня 1833 года паводле ўспамінаў старых людзей-знаўцаў названа яе прыдуманае прозвішча: Будакова. – *Г.Д.*).

Вось і пазіраў я на яе з хваляваннем вялікім. Яна не магла не заўважыць гэта, прыязна пасміхнулася: “Вы имете ко мне какую-то просьбу?” Сумеўся, як хлапчук. “Ён, ваша вялікасць, – падратаваў Тацішчаў, – зачараваны вашай красой”. Што не кажы, праўда: красуня. І хоча быць адзінай. Да яе нават у служкі не дапускаюцца прыгожыя жанчыны, ніхто з іх не мае права апранацца шыкоўней, чым яна. Уразіла мяне і яшчэ адно: ласкавая, прыязная (канечне, з гульнёю), але можа і раптоўна ўспыхнуць гневам вялікім. Аднойчы накрычала і на мяне – за мае скаргі, што ў першую Паўночную вайну загінуў кожны другі чалавек з нашай зямлі, у другую – кожны трэці і што тыя войны ўшчэнт

спустошылі ВКЛ. Амаль усе буйныя яго гарады былі калі не зусім спаленыя, то пабураныя і спустошаныя (Праўда, уголас я не сказаў, што як Карл XII, так і Пётр I адзін перад адным наўмысна аддавалі іх агню, каб “не дать пропитания сопернику”). – “У першую Паўночную вайну, – ужо не як дачка Марты Скаўрашчук, а як расейская імператрыца выгаварыла мне Елізавета, – вы не падуладзіліся Аляксею Міхайлавічу, калі ён хацеў выратаваць вас ад паланізацыі і каталіцызму, і калі некаторыя вашы Радзівілы заключылі згодніцкі саюз са Швецыяй. А ў другую не зусім прыхільна сустрэлі гасудара-бацьку майго Пятра Аляксеевіча. Ды таксама асобныя вашы важныя людзі перакінуліся да шведаў. Яны спажылі гэта ў сваю карысць, супраць Расіі. Вось вы і паплаціліся... Рэаліі такія, што цяпер вы павінны адысці ад палякаў і менш трымацца за сваю вотчыну, шукаць уяўных саюзнікаў, а пагарнуцца да нас. А мы ўмеем адданых нам ацаніць і адарыць...” – “Не злуй сваімі беларусінскімі ўздыхамі гасударыню, – перасцярог пасля Тацішчаў. – І дзякуй Богу, што ён не затуманіў твой розум, стрымаў штосьці распытваць пра вашу Марту Скаўрашчук! Ці яе чатырох сясцёр і двух братоў. Іначай ад расправы і маёй апекі табе не хапіла б. Пераможца любіць паслухмянасць, падзяку, ушанаванне, пакланенне, нават абагаўленне, а не папрокі! Самае вялікае – пакорная просьба... А нам, рускім, цяпер яе сам Бог паслаў. Яе бацька-гасудар прасвятліў Расію з замежнікамі, якія потым селі на карак, а пры ёй узбуджаецца наша асветленая народнасць”.

Імператрыца Тацішчава шануе. Аднойчы і пры мне запытала ў яго: ці трэба згаджацца з Ламаносавым у тым, што Рурык быў ніякі не скандынавец, а палабскі славянін, варын ці вэрынг – значыць, вараг, а на востраве Руген жылі русы, дык і карэнне дзяржаўнасці расійскай палабска-славянскае. “Я, гасударыня, – адказаў Тацішчаў, – у гэтым не раіў бы зусім прыслухоўвацца да Міхайлы Васільевіча. Найперш з-за Прусіі. Фрыдрых I быў “фельдфебель на троне”, але пакінуў сыну багатую казну і моцную армію, ідэю з’яднаць нямецкія дзяржавы і княствы. Вядома шырока: цяперашні Фрыдрых II, здавалася, зусім не ўдаўся ў бацьку-караля: не цярпеў вайсковую муштру, інтрыгі, захопніцкія войны, захапіўся навукамі, літаратурай і мастацтвам, марыў пра справядлівы лад у дзяржаве і ў Еўропе, дзеля чаго пасябраваў з Вальтэрам. Але... Армію павялічыў, увёў у ёй дрынавую дысцыпліну, палюбіў вайну. Цяпер не толькі ваюе за аўстрыйскую спадчыну, але хоча падуладзіць многія нямецкія землі, амацаваць Прусію, узвысіцца ў Еўропе. Дзеля чаго мяняе і будзе мяняць саюзнікаў, шэпчучыся з Аўстрыяй, Францыяй і Англіяй. Будзе ў яго полі зроку і наша Расія. Дык яму наш палабскі след можа быць вельмі прыдатны для сваіх мэт”. – “Бадай, так, – згадзілася Елізавета, – з гэтым Фрыдрыхам нам трэба трымаць вуха вельмі чуйна. Задуму дальнюю ён мае і як да майго пляменніка, так і да яго жонкі... “

Хоць і мільгом, удалося мне пабачыць і таго пляменніка – яшчэ зусім маладога нямецкага прынца Карла Пятра Ульрыха, якому прадракаюць будучае імператарства як Пятру III (Тацішчаў: “прусский сумасброд”), і яго крыху маладзейшую жонку, здаецца, сястру ў трэцяй стрэчы, высакаватую, цёмнабровую і з грэчаскім носам немку Сафію Фрэдырыка Аўгусту Ангальт-Цэрбскую, тут у праваслаўе ахрышчанай Кацярынай. Тацішчаў па сакрэце сказаў, што яна па таемнай змове з прусакамі тайна прывезеная пад чужым імем у Пецярбург, нелюбімая нявестка і жонка, таму яе трымаюць “у чорным целе”. Без дазволу яна не можа ступіць і кроку, усюды і ўсе ў палацы ды ўсяляк з яе здзекуюцца, ад чаго яна, мабыць, у душы адчаілася на самагубства. Калі ўсё ж яе адратавалі, то яна, прыгнечаная (хто ведае добра, праўда гэта ці не?!) нібыта знайшла адну выратавальную ўцеху – сам-насам з кніжкамі (на свае вушы, васпане, чуў, што

ўвесь вышэйшы свет быў уражаны, што пры шлюбе (вяселле было нядаўна, цягнулася дзесяць дзён) яна даволі складна прамаўляла ўжо на рускай мове). Сустрэцца з намі, зразумела, найперш з Тацішчавым, яна, мабыць, папрасіла, каб, маючы інтарэс да гісторыі расейскай, пагаварыць пра летапісы. І, прызнаюся, немка ці не ў 16 гадоў, вельмі ўразіла мяне сваім цвярозым разлікам: маўляў, тое-сёе патрэбнае трэба перапісаць альбо падаць па-новаму "для асветы рускага народа па імперскім мысленні", а тое-сёе нявыгаднае глыбока схаваць, а то і знішчыць ("О, гэта не проста разважлівае і гаспадарліва-ашчаднае племя! О, гэта галодная, скрыўджаная, але, душой адчуваю, пажадная з прагнымі вачыма і вялікімі персямі ваўчыца-самачка! Малады, яшчэ пабачыш: у спрыяльную хвіліну яна пакажа цяпер схаваныя вострыя кіпцюрыкі!"). Не ведаю, васпане, але мне здаецца, што гэтая Кацярына – разумная, дапытлівая, але, праўда, прыгнечаная, без цвёрдага характару і без моцнай апекі асоба, на імператрыцу не асмельваецца падняць вачэй, пры кожнай міласці той рукі яе цалуе (шаноўны Ян Ермаловіч – мо і халасцяк – не вельмі разбіраўся ў жанчынах: зусім не разгадаў будучую Кацярыну II, яе распуснасць, тым больш тое, што і яна будзе здольная на пераварот. Калі пасля вераломнага забойства мужа (гэтага, канечне ж, яна "не хацела!") амацуецца імператрыцай, то па-свойму адпомсціць Елізавеце яе ж чынам: загадае адшукаць яе і Разумоўскага дачку (Будакову) і, каб не мець суперніцы, запраторыць тую ў заснаваны ж яе маці жаночы манастыр для знатных пад новай чужой прозвай, прышле да яе наглядчыцай-выхавацелькай манахіню з імем... Елізавета. Няшчасная вязніца, унучка нашай Марты, мусіць будзе называць яе, душагубку, "матушкой Елисаветой". Гэтак жа, як... і родную маці! І ў шмат якіх іншых выпадках Кацярына II стала вялікай і... у зламыснасці ды вераломнасці! Зусім не выпадкова яе ненавідзеў сын Павел: ужо саракдвухгадовага, лічыла яго за недаростка, да самай смерці не аддавала яму законную ўладу, чым таго прыніжала і азлоблівала. (І да ўсяго крывавы ўзыход на трон прадоўжыцца: праз гадоў пяць праз забойства бацькі ўладу возьме ягоны сын Аляксандр. – *Г.Д.*).

Спадзяюся, Ваша ягамосць, гэтыя мае звесткі не будуць лішнія для Вас і тых, каго зажадаеце азнаёміць з маім лістом: я агледзеў не тую Расею, якую ўяўляў, а новую, з вельмі шырокім замахам на вялікую ролю ў Еўропе, Азіі і нават у далёнай Амэрыцы, куды неўзабаве збіраецца паслаць новых "атаманов-землепроходцев", якімі раней былі Ярмак і іншыя. І Тацішчаў прызнае: ермакі гэтыя, як такія ж "землепроходцы" у Іспаніі, Англіі, Францыі, Галандыі, Партугаліі, – ніякія не дабрадзеі, а разбойнікі і рабаўнікі, але без іх не абыйсціся прагным да чужога краінам, якія хочуць яшчэ болей абагацець і ўзвысіцца. Яны падуладжваюць каралям-царам новыя неабдымныя землі і абарыгенаў, багацце вялікае на іх (не выпадкова ж Ламаносаў кажа, што моц Расеі ад Сібіры велізарнай будзе). Цяпер надта спрыяльны для Расеі час. Цяпер, яшчэ раз асекшы Швецыю, яна заможнее і ўважліва назірае, як чубяцца яе супернікі – Прусія, Аўстрыя, Францыя, Іспанія, Англія і спакойна вычэквае і ад гэтага карысць для сябе мае. Грэшны, праз гэтую дальнабачную палітыку прадбачу зыходны лёс і дзяржавы нашай, і Польшчы, якія ад Пятра пад ценем расейскіх штыкоў... Паўтаруся, вельмі ж цяжкай, нават пагібельнай для нас сталася Паўночная вайна 1700–21 гадоў. А пасля яе голад, паморкі вялікія... Ды і шляхецкія вольнасці нашы, наезды цяпер на пагубу вялікую... Хутка не акрыяць, дый не дадуць на гэта часу... Мне, выбачайце, грэшнаму, выпадае думаць, што ўсё ўжо рашылася ў 1733 годзе, калі памёр кароль і вялікі князь наш Аўгуст II і калі Мініх з войскамі не дапусціў да ўлады Ляшчынскага і аддаў яе іншаму, паслухмянаму... Душа мая плача:

спачатку ці не два стагоддзі крыжакі хцівыя, а затым каля трох стагоддзяў маскоўскія вялікія князі і цары ў подкупе з хцівымі суседзямі бясконцымі войнамі знясілілі, давялі да пагібелі дзяржаву нашу слаўную. Далейшая доля наша будзе горасная: не гаспадарамі заможнымі і культурнымі, а цёмнымі, бяспраўнымі парабкамі ў сваім доме станем... Цяжка мне, вяльможны пане, пра гэта нават думаць, але, шмат чаго пабачыўшы тут, мушу гаварыць праўду горкую. Чакае нас нешчаслівы лёс... Як і суседзяў нашых блізкіх, якія апынуліся пад хцівым назіркам хай сабе і адной пары вачэй двухгаловага арла...Прайгралі мы спрэчкі з моцнымі, пераможаныя, скораныя, трацім дух Рагвалода, яго ўнука Ізяслава, Усяслава Чарадзея, Глеба Менскага, Альгерда і Кейстута, Вітаўта Вялікага, Канстанціна Астрожскага. Апалі душой, апусцілі галаву. Нішто так не абядняе, не апустошвае і не абяссільвае, як страта веры, гонару, самапавагі. А яшчэ страшней – не столькі чужаземныя заваёва і скарэнне, а самаўніжэнне. Канечне, я – не знаўца задум патаемных, але, дазволю назваць сябе рэалістам. Іменна адсюль бачу добра: нечуванае новае чакае і ўсю Еўропу. Англія, Прусія, Аўстрыя і Францыя клапаціліся сваімі турботамі, прагавіта засяродзіліся на іспанскай спадчыне, нібы дазволілі знясільвацца ў зацяжных войнах Рэчы Паспалітай, Швецыі, Расеі і Турцыі і, можа, як у нас кажуць мудра, праваронілі. З войнаў гэтых выплавілася, узяла разгон на сушы, на морах новая імперыя з асяродкам у Санкт-Пецярбурзе і зусім не з ціхамірнымі намерамі, а з далёка наступным замахам, што, нашчадкі пабачаць, зменіць лёс усёй Еўропы... Наперадзе – куды не зірні, новыя і новыя іншыя крывавыя паляванні, паглынанні слабых і новыя, жудасна страшныя бітвы дзяржаў-атлантаў...

...Толькі праз некалькі месяцаў даверыў Тацішчаў, што цяпер для мяне "самае важнае". Аднойчы з таямнічым выглядам паказаў у сваім кабінеце вялікую акаваную жалезам скрыню, дзе стосам ляжалі рукапісы ў драўляных і скураных вокладках. Узяў верхнюю тоўстую старую кнігу з пацямнелымі акладкамі і меднымі зашпількамі, з абламанай прывяснай пячаткай і кавалкам шнура і зноў жа з загадкавай усмешкай разгарнуў – у вочы мне кінуўся пракавечны, жаўтаватага колеру пергамент, спісаны ўставам. Падаў: "На, патрымай у руках *тое ваша*, пра што ў вас ужо і гаварыць перасталі". Летапіс? З нашых зямель? "Ваш, ваш, – хітра пасміхаўся гаспадар. – Будзеш па-свойму тлумачыць мне асобныя падзеі. Я хачу ведаць, як пра іх *цяпер* думаюць у тваёй айчыне, а заадно прадбачыць, як могуць *гаварыць* пра іх у маім пераказе. Знаёмся, але для сябе не падумай нават што-небудзь перапісваць. Тлумач так, як я скажу ці як мне скажуць Іван Шувалаў, а то і яе вялікасць царыца-матухна. Чым хутчэй забудзеш тое, пра што прачытаць змог, тым будзе для цябе лепш. Іначай – кара бязлітасная, нават не зважаючы на тое, што ты мне патрэбен!"

Вяльможны пане, я чуў і не чуў гэтыя словы. Асцярожна, з хваляваннем вялікім разгарнуў пададзенае – сэрца замлела: не проста былы, а вельмі даўні летапіс, пісаны кірыліцкім пісьмом, што заявілася ў нас з хрысціянствам! Прыкладна так, як пісалася Тураўскае евангелле 11 стагоддзя!

"Гэта – полацкі летапіс, – патлумачыў Тацішчаў, – мо і адзін з самых ранніх спісаў яго".

О, Божа! Полацкі летапіс! З яго засталіся ж толькі ўрыўкі, узятыя ў іншыя хронікі! Не мог запытаць, як ён трапіў у рукі Тацішчава, нават красамоўна дыхнуць баяўся, каб гаспадар не забраў пісанае і больш ніколі не дапусціў да яго! Я чуў, што былі ў нас даўнія летапісы з Палацеска, Віцебска, Навагародка, Слуцка, Турава-Пінеска, Магілёва , што тое-сёе з іх было перапісана, але каб патрымаць у руках тыя, асновапачатковыя! Тое ж лічыцца калі не знішчаным

навек, то згубленым! Многія з нас, дасведчаных, пра полацкую даўніну тое-сёе ведаюць найбольш з "Повести временных лет", з пазнейшых летапісаў ды з "Повести жития и преставления святыя и блаженныя и преподобныя Еуфросинии..." (спіс 14 ст.). Скажам, знаюць, што яна, гэтая мудрая жанчына, яшчэ ў 12 гадоў уцякла з бацькоўскай сям'і "под иго Христово", звабіла да сябе ў манастыр малодшую сястру Гардзіславу і пляменніцу Звеніславу, дзе яны перапісвалі царкоўныя кнігі, складалі летапіс. Дык вось я пераканаўся, што запісы ў Полацку вяліся яшчэ болей за 100 гадоў да святой Еўфрасінні. Мо яшчэ і з часоў яе прапрапрабабкі Рагнеды ("прекрасной невесты Христовой" – Анастасіі) і яе сына, полацкага князя Ізяслава, бо невыпадкова яго называлі князем-кніжнікам ("прилежаша прочитанию книг").

Прагна чытаў я той летапіс днямі і начамі, часта забываючыся пра яду і сон. Перакушу, падрамлю – і зноў за чытанне. Уведаў я, вяльможны пане, што Полацк быў задоўга да 862 года і што былі ў ім князі перад Рагвалодам, з часоў міфічных калі не Бая – першанасельніка зямлі нашай крывіцка-радзіміча-дрыгавіцкай, то Крывіі. Ды і адкрылася мне па-новаму, хто ён, той Рагвалод, што значыць тое, што ён ''прыйшоў з-за мора". Мае доступ гаспадар мой і да вялікай бібліятэкі, якую вывезлі з полацкага Сафійскага сабора, калі Іван IV у Інфлянцкую вайну ў 1563 годзе Полацк праз аблогу ўзяў. Але вось чаму і калі, амаль праз 200 гадоў, спатрэбілася дастаць з сакрэтных спратаў летапіс полацкі! Як і кіеўскі, які цяпер таксама ў руках Тацішчава.

Варта быць справядлівым: ён, любіцель даўніны, шмат знае і мне нямала ведаў дае, дазваляе сам-насам спрачацца. Толькі ўпарта гне сваё. Каб быць больш вольным у поглядах сваіх, ён, да слова, бярэ за аснову не толькі запісы інока манастыра кіеўскага Нестара – першага летапісца зямель кіеўска-полацка-наўгародскіх і іншых, але і невядомы мне летапіс Іаакіма, які нібыта прыбыў з Візантыі з царэўнай Ганнай, жонкай Уладзіміра, Святаслававага сына, і стаў першым наўгародскім епіскапам і быццам апісаў не толькі наўгародскую даўніну (праўда, аднойчы ўсміхнуўся: ніякіх запісаў таго Іаакіма не знойдзена, але іх трэба "сочинить для дела").

Тацішчаў таксама не можа пэўна праясніць, адкуль і як прыйшлі на свет, заявілі пра сябе славяне, якія мелі карані, калі і як у іх узніклі плямёны, княствы, хто былі самыя першыя князі. Мне не так цікава, што дзеелася ў Ноўгарадзе да ўкняжання там варага Рурыка і пасля яго (у скандынаўскіх сагах, здаецца, няма ні слова пра таго Рурыка на землях крывічоў); гэта няхай даследуюць зацікаўленыя, мяне больш вабіла іншае – погляд Тацішчава на скарэнне Рурыкавічамі палян, драўлян і іншых, на ўзвышэнне імі Кіева і ўтварэння там таго, што мы ведаем пад паняццем "Русь" ці "Руская зямля", іх стасункі з нашым Полацкам. Як да ўварвання туды Уладзіміра (Тацішчаў лічыць, што тое адбылося ў 975 ці самае позняе ў 976 годзе, з чым я зусім згодзен), так і пасля яго.

Пра Полацк таго часу вялі мы доўгія і зацятыя спрэчкі. Хоць мелі пад рукамі запісы пра ранніх полацкіх князёў, але Тацішчаў настойваў, каб першым запісаным там князем лічыць Рагвалода, які "прыйшоў з-за мора з Рурыкам і займеў пасад у Палацеску". Яму надта хацелася лічыць, лепш сказаць, сцвярджаць: і Палацеск, Палацеская зямля не былі самі па сабе, таксама адзяржавіліся варагамі – значыць, таксама былі Руссю. Не было ў мяне моцы супрацьстаяць гэтаму націску. Толькі мог у душы пазлараднічаць. Як пазначыў першы кіеўскі летапісец Нестар, Рурык памёр у 879 годзе. Дык колькі ж было нібыта яго сучасніку Рагвалоду праз ледзь не 100 гадоў, у 975 ці 976-м, калі яго забілі? Пад 120! І ў колькі гадоў ён прыдбаў Рагнеду? У 100? Дык яна стала жонкай Уладзіміра ў 80 і нарадзіла яму столькі

дзяцей? Ды не стаў выяўляць свае довады. Наўмысна змаўчаў. Няхай учэпістыя ўбачаць намерную падтасоўку! Злаваў я моцна Тацішчава і тым, што гаварыў: а нідзе не запісана, што Палацеск Рурыку ў Ноўгарадзе і Рурыкавічам у Кіеве даніну плаціў! Значыць, быў моцны і ні перад кім не гнуў галаву, быў сам па сабе! Тым больш, што зазначана іншае: пабітая і палацескімі воямі сама магутная Візантыя ў адзін час яму плаціла даніну! “Быў-быў гардавус твой Палацеск, – мусіў згаджацца ён. – Бурыў еднасць Русі”. Тады мы счапіліся па паняццях “Русь”, “Кіеўская Русь”, “Русь Белая”, “Русь Чорная”, “Русь Чырвоная”, ‘’Русь у ВКЛ”: паняцце “Русь” ці раней “Рось” з”явілася зусім не на славянскай зямлі, а прыйшло зводдаль. Тацішчаў і слухаць не хацеў, што была Славія, Крывія (“племя адной крыві”), згаджаўся толькі, паўтару, на запіснае, што была непакорлівая і ганарлівая Палацеская зямля. Я яму: “Вы ж добра ведаеце: не былі ўсходнія славяне адной Руссю. Яны вылучыліся амаль у 15 плямён. Скажам, крывічоў так упаміналі яшчэ да 1162 года, дрыгавічоў – да 1162-га, радзімічаў – да 1169-га! А ў гэтым, 1169-м, Кіеў ужо, лічы, паў! Пачалася новая эпоха – эпоха Суздаля і Уладзіміра, а потым Масковіі”. Ён – у адказ: “А хіба ты не ведаеш: кожныя амацнелыя народ, дзяржава вышукваюць, нават выдумляюць сваю старажытную, знатную радаслоўную. Канечне, лухта вялікая, калі некаторыя нашы апантаныя і з найлепшых памкненняў на поўным сур’ёзе даказваюць, што паняцце “Русь” – ажно з самой Бібліі! Там, сказалі мне знаўцы старажытнаяўрэйскай мовы, няма такога імя , ёсць толькі найменне пасады начальніка. А вось, як не злуе наш слаўны Міхайла, трэба запыніцца на падзеі 862 года, на Рурыку, які і ўкараніў у нас назву “Русь”. І пры гэтым падкрэсліваць: Рурык – не проста немец ці датчанін, нарвежац альбо швед, ён – нашчадак у 14-м калене рымскага імператара Аўгуста, які быў унукам сястры самога Юлія Цэзара і якога называлі “бацькам Айчыны”! Версію такую можна падтасаваць для інтарэсаў імперыі. Не удалося ні Кіеву, ні твайму любімаму Вітаўту Вялікаму сабраць Русь пад сваёй рукой, падрэзаць карані нашай сённяшняй Расіі: яна – што ні кажы, даўно ўжо ёсць і вечна будзе пераемніцай Кіева, Ноўгарада, Смаленска, Разані, Уладзіміра-Суздаля і вашага гордага Полацка! Як гэта золатам адчаканіў гасудар наш Васілій III, давёўшы ўсім, што ён, яго наступнікі – не толькі ўладары маладой Маскоўскай дзяржавы, а іменна пераемнікі як названых зямель, так і візантыйскіх імператараў, дык, значыць, збіральнікі найперш усіх рускіх зямель, а Масква – не проста сталіца яго краіны, а славянскі і праваслаўны цэнтр”.

І далей, падняўшы палец, горда: “Цудоўна! Мудра: “Масква – Трэці Рым. Чацвёртаму не быць!” Вось на гэтую ідэю, дружа, і будзем прысвячаць працу сваю!” – “Але ж гэта – нават не паўнавука! – усклікаў я. – Гэта – найперш, як і пруская, разліковая палітыка! Кіеўская дзяржава з Рурыкавічамі – гэта асобная старонка гісторыі. Адзін з яе вялікіх князёў, Юрый Даўгарукі, заклаў Маскву як сваю калонію, таму і не затрымаўся ў ёй.” – “Значыць, паслужым “усердно” палітыцы! Будучыні нашай! Пакажам, што ўсё да ўзвышэння Масквы-цэнтра – няпросты, міжусобны – адрэзак “отроческого” перыяду станаўлення цяперашняй Расіі вялікай! Яна споўніла і будзе далей спаўняць сваю місію! Няўжо табе не гонар, што і твой Полацк даўні быў таксама ў аснове сусветнай славянскай імперыі?! Ці табе даражэй быць “со смутьянами, полячишками подлыми? Разорвать империю нашу на части?” – “Добра, – адказаў я. – Тады чаму вы стагоддзямі змагаліся, столькі пралілі крыві і слёз сваіх, выцерпелі гора, каб пазбавіцца ад татара-мангольскага іга?! Пакорліва засталіся б пад уладай Арды, дык былі б падмацункам не толькі славянскай, але і ўвогуле сусветнай імперыі!” Дабрадзею ажно не хапіла паветра. Зазяхаў, а потым выдыхнуў: “Ну, сравнил!..”

Грэшны, я тады ажно ўскіпеў душою: усё ж “тать” ты, Тацішчаў!

Што тут скажаш?! Ягняці, якое становіцца харчам для ваўка, каб ён не толькі выжыў, але і яшчэ больш драпежнічаў?! Ганарыся, што патрапіў у страўнік пераможцы! Больш – часамі майго адукаванага і даволі стрыманага гаспадара раптоўна душыла ўспышка гневу, здавалася б, ад дробязі. Вось адна з такіх “драбніц”: “ Ваша чэсць, – не мог не пайсці на задзірку я, – вы адмаўляеце, што была, ёсць беларусінская мова, сцвярджаеце: яна – дыялект рускай і польскай. Але як тады зразумець, што на закладзеным у 1037-м (больш 700 гадоў таму!) Сафійскім саборы адзін з майстроў надрапаў, што ён – “полоцянинь”? Значыць, з Полацка. Яго “ц” ужо тады было ў полацкай гаворцы, а потымураслося і ў беларусінскую!” – “Пусцяковіна, – адмахнуўся той. – Хіба цяжка ваша “ц” замяніць на наша “т”?

Бачыце, васпане, што і як спазнаю тут. Цярплю з усіх сіл. І для Вас, і, даруйце за нясціпласць, *для нашчадкаў. Каб веджалі і помнілі, каб не згаснуў у іх дух нашых продкаў*.

Ягамосць, мушу быць справядлівым да канца: Тацішчаў нямала чаго праясняе і для нашай гісторыі – ён, лічу, пранікліва вызначыў месца бітвы князя Уладзіміра, сына Святаслававага, з братам Яраполкам (р. Друць), па-свойму цікава патлумачыў намер менскага князя Глеба ў 1119 годзе заваяваць Навагародскую і Смаленскую землі, а таксама ацаніў стасункі Уладзіміра Манамаха і полацкіх князёў у 1121-м, помсту Войшалка за забойства бацькі (хоць Войшалк, калі меркаваць па Галіцка-Валынскім летапісе, дзе найбольш звестак пра ўзнікненне прыкладна ў 1246 годзе ВКЛ, не столькі помсціў за смерць нялюбага бацькі, колькі пашыраў і ўмацоўваў новую дзяржаву), пазначыў час заснавання Навагародка 1044 годам (калі Яраслаў Мудры дзеіў паход на летапісную Літву і мог закласці Навагародак як свой фарпост супраць яе), а Барысава – 1102-м. Праўда, што да паняццяў найбольш блізкім нам такіх, як “Белая Русь” і герб “Пагоня”, то застаўся непахісны: “яны ўзятыя з рускіх зямель”. Праўда, я заікнуўся сказаць, што ў нас пад паняццем “белы” маглі мець тое, што землі (найперш полацка-віцебскія) былі вольныя ад мангола-татараў і даніны ім, а пад русінамі, Руссю мелі на ўвазе, што тут люд праваслаўны, але Тацішчаў абарваў мяне. Як і не паслухаў у тым, што азначае летапіснае паняцце “Літва”. Болей – намагаўся яго, гэтае паняцце, усяк зацямніць. Асабліва тое месца ў вядомым Галіцка-Валынскім летапісе, дзе гаворыцца, што тая, летапісная, Літва была побач з Навагародкам па мяжы ракі Нёман, гэта значыць – сярод між сённяшніх Маладзечна, Менска, Навагародка, Слоніма. Ён апантаны перанесці найменне “Літва” найперш на Аўкштайцію і Жамойць. Нібыта аўкштайцка-жамойцкая Літва заваявала славянскія землі, якія былі “исконно русскими”, ваявала з Масковіяй, а мы, заваяваныя прыбалтамі, “постоянно тяготели к общерусскому братству”, плакалі, прасілі-умольвалі, каб нас уратавалі ад каталіцызму і паланізацыі. “А дзеля гэтага, – пстрыкаў мне па лобе, – мы ратуем вас, беларусінаў, ад папрокаў. Усе вашы грахі перад намі спісваем на палякаў і літоўцаў!” Зразумела, многія усе такія вось “навуковыя высновы” патрапяць у яго кнігу. А з яе як аксіёма – у іншыя кнігі. Тым больш цяпер і ў хуткім часе, калі мы “нарэшце” станем прышчэпленай галінкай на вялікім дрэве.

Ашаламіўшыся полацкім летапісам, я, васпане, паразважыў так: цікава было б паспалітаму адукаванаму люду прачытаць пра землякоў у Маскве, пра названых нашых слаўных жанчын, але пра гэта можа і лепш за мяне напісаць і іншы. Тым больш, што пачуў страшны вырак: “Ты, ліцьвін-беларусін, апошні, хто трымаў у руках першыя летапісы з вашых зямель. Павер мне: больш ніхто не толькі з вас тых “сведак” не пабачыць! Яны будуць знішчаныя альбо складуцца ў яшчэ больш патаемны куток. А калі ты выжывеш (знішчаць асабіста я цябе не збіраюся, паколькі ты міжволі неацэнна паслужыў мне) і па памяці нешта напішаш пра

ўведанае, то, знай, цябе аб’явяць выдумшчыкам-шарлатанам. І нашы, і палякі. Значыць, шаноўны мой Яне, ты – незвычайны беларусец. Паколькі больш ты гэтых пергаментаў, запісаў на бяросце не пабачыш, то на табе абрываецца ваша даўняя прадзедаўская памяць”.

Дык вось, Ваша ягамосць, рашыў цвёрда: калі я апошні, хто трымаў у руках полацкі летапіс, то я не проста магу, а павінен аднавіць тое, што ўжо, а пазней яшчэ больш будзе зламысна з памяці даўняй нашай выдрана. І, можа, навек! З галавой мы то застанемся, але з якімі мазгамі ў ёй! Божа, якая будзе неймаверна цяжкая доля ў тых, хто будзе несці крыж Бацькаўшчыны нашай: я, грэшны, бачыў на свае вочы сляды, працы продкаў нашых у асобах полацкіх не менш чым з 862 года, за які пазначыў Полацк вышэйнапомнены Нестар, то іншыя нашчадкі-даследчыкі зямлі нашай не будуць ведаць таго, што ведаю я. Не маю права панесці скарб наш усіхны з сабой у дамавіну! Няхай абуджае ён чулае крывіцка-беларусінскае сэрца... Як сказаў некалі слаўны Авідзій, мо “Forsan et haes olim memenisse invabit” – “Можа быць, калі-небудзь прыемна ўспамінаць і гэта” – некаму будзе.

Ды... Усё ж нідзе, васпане, не дзецца мне ад маіх глыбока пашанотных думак пра жанок зямлі нашай роднай! Мо, кажу, не паспею ці не змагу як след расказаць больш пра тых, каго называў, але не запыніць увагу сваю на адной. На нашай, бадай, Прамаці – на той, каго першай паіменавалі ў летапісе і якая ў даўнім нашым Полацку, у Кіеве, а пасля зноў на Бацькаўшчыне па-свойму споўніла сваю, не толькі жаночую місію і для сваіх сучаснікаў, і для наступнікаў... Так, паспрабую больш уведаць і расказаць пра нашу Гарыславу-Рагнеду. Яна, як пацяперашняму, па маіх падліках пабачыла свет у 962 годзе ў слаўным Полацку. І пачаць з таго, што першае, славянскае яе імя зусім не ад яе гаротнасці, а ад – мары бацькоў бачыць яе ў славе вялікай. У нас, як казаў вышэй, некаторыя крыху ведаюць пра яе лёс, пра прымусовае ўзвышэнне да вялікай княгіні кіеўскай, пра яе выгнанне адтуль з сынам і што ён тут заклаў род Ізяслававічаў. Але ж у яе было і яшчэ пяць дзяцей! Яны – не толькі Рурыкавічы па бацьку, але па ёй, “па кудзелі”, – *Рагвалодавічы*!!! Двое з іх – гонар вялікакняскіх і царскіх Рурыкавічаў ды Раманавых. Але ж два тыя слынныя вялікія князі кіеўскія – яе сыны і ўнукі Рагвалодавы!!! А колькі знакамітых было яе ўнукаў і ўнучак, іншых шматлікіх нашчадкаў, якія парадніліся з многімі еўрапейскімі каралеўскімі сем’ямі!!! Яна, папраўдзе, адгаравала для ўсіх іх – і хто помніў, шанаваў яе, і хто ішоў насуперак яе помыслам. Не столькі муж яе Уладзімір, хоць і ўвёў хрысціянства, а Яна – ВЯЛІКАПАКУТНІЦА, СВЯТАЯ для нас!!!”

## Ад аўтара

*Можна ўсё: пусціць каханне дымам,*
*Ўзяць і занядбаць мінулы шлях.*
*Але толькі – не любіць Радзімы*
*З чорнаю павязкай на вушах,*
*З чорнаю павязкаю на вуснах,*
*З чорнаю павязкай на вачах.*
Уладзімір Караткевіч
*Мой утрывалы,*
*Мой добры, пад Богам, народ!*
Ніл Гілевіч

*На гэтым на час перапыняю знаёмства з “Рукапісам...” Яна Ермаловіча, але далей буду браць яго ў рукі яшчэ не адзін раз, падаваць асобныя*

*ўрыўкі: многае, што ён спазнаваў і намагаўся занатаваць, сёння вядомае, але і нямала чаго па-ранейшаму адкрытае ці спрэчнае. Да слова, пра яго палеміку з Тацішчавым пра паняццце "Русь". Здавалася б, можа, і ўсё пазней праясніў іншы рускі гісторык, М. Карамзін-імпершчык, калі пазначыў наконт гэтага такое ў "Истории государства Российского" (кніга I, т. I, с. 69): "Частка цяперашняй С.-Пецярбургскай, Эстляндскай, Ноўгарадскай і Пскоўскай губерній была названа Руссю, па імені князёў варага-рускіх", "Смаленск, населены таксама Крывічамі, і сам Полацк заставаліся яшчэ незалежнымі і не мелі ўдзелу ў пакліканні варагаў (вылучана мной. – Г.Д.)". Ды палітыка ёсць і будзе патрэбная, але праклятая рэч. Дзеля яе і малолі, і цяпер некаторыя мелюць языкамі, што "мы, усходнія славяне, з аднаго кораня", "маем адну гісторыю", але ў нас "ёсць старэйшы брат", што "мы павінны быць у адной сям'і", дзе таму па праве моцы і сярод іншых народаў належыць уладарыць, заводзіць свой лад са сваімі звычаямі ды норавамі, мовай... І злосць вялікая, калі браты хочуць быць роўнымі, нават крыўда, што нібыта няўдзячныя... Гэта значыць, непаслухмяныя...*

*Што да Яна Ермаловіча, на жаль, не магу сказаць, ці патрапіла напісанае ім пра Рагнеду да адрасата, чаму і як знайшло яно прытулак, як звычайна, не ў сховішчах Масквы, Пецярбурга альбо Вільні, Кракава, Варшавы, а на гарышчы сялянскай астравецкай хаты. Нічога не вядома мне і пра тое, ці напісаў ён і яшчэ тое-сёе пра тое, пра што марыў. Урэшце нават цяпер хвалюе, які быў ягоны жыццёвы зыход: вярнуўся на любую Бацькаўшчыну альбо скончыў жыццё на чужыне? І як? Сваёй смерцю або ад бязлітаснай чужой рукі? Пра яго можна толькі крыху праясніць. Скажам, паколькі ён упамінае Ламаносава-акадэміка (ім той стаў у 1745 годзе) і паколькі вядома, што мецэнат нашага земляка Васіль Тацішчаў памёр у 1750-м, то няцяжка вылічыць: першая частка Ермаловічавых нататак, пра якую ідзе гаворка, пісалася ў 5-годдзе таго азначанага часу. Ды ён нагадваў яшчэ пра вяселле будучай Кацярыны II з будучым Пятром III, сведкам чаго быў. Шлюб той адбыўся 21 жніўня 1745 года. Значыць, мы знаёмімся з яго запісамі праз больш чым чвэрць тысячагоддзя і, на шчасце, яго праца не зніклая ў сырой зямлі альбо ў попеле! Ён, як і іншыя задоўга да яго, якія пакінулі на паперы слова пра свой час, пра розныя падзеі, канечне, варты за гэта пашаны і падзякі нашай глыбокай: пакінулі свой унёсак у тое, каб наш люд быў не безымянны, стаўся вядомы як са сваімі радасцямі, так і са сваімі бядой і пакутамі, не пакідаў веры і надзеі і на сваю будучыню. І наказ ягоны пра творы пра жанчын, ураджэнак зямлі нашай, якія зрабілі столькі дабра для вялікай суседкі нашай Расіі, зусім не састарэў. Як цікавыя, значныя былі б творы і пра нашчадак іх "па кудзелі", якія і ў славянскіх краінах, і ў Заходняй Еўропе бачны след пакінулі. Паўторым, "абкудзеленыя" Рагнедай. Пра яе ў нас нямала ўжо напісана, але і мяне, грэшнага, вабіць сказаць сваё слова і пра яе, і пра яе дзяцей: зусім нечакана натхніў на гэта з 18 стагоддзя пісар, бібліятэкар і журналіст Ян Ермаловіч, рукапіс якога мо і не выпадкова патрапіў мне на вышку вясковай будыніны. Хоць, канечне, нямала знаёміўся я і з іншымі даўнімі і новымі гістарычнымі творамі, асабліва ўважліва чытаў гістарычныя эсэ сённяшніх беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў (загорнеш апошнюю старонку новай кнігі, а там пад загалоўкам "Літаратура"названыя дзясяткі, сотні крыніц, а ў Міколы Ермаловіча ў "Старажытнай Беларусі" – звыш за 900!).*

*Вось і ад іх, тысяч светачаў, святлее памяць і душа...*

## Апавяданне першае. Слёзы Гарыславы-Рагнеды

Аднойчы, калі ён прыйшоў да яе і заснуў, яна хацела яго зарэзаць нажом. І надарылася яму (у той момант) прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: "Ты бацьку майго забіў і зямлю яго *паланіў* дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцём". І загадаў ёй прыбрацца па-царску, як у дзень шлюбу, і сесці на белай пасцелі ў палацы, а ён прыйдзе і заб'е яе... Яны (баяры) ж параілі яму: "Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а *аднаві* яе бацькаўшчыну і *дай* ёй са сваім сынам..."
(Важныя дзеясловы вылучаныя мной. – *ГД.*).

Паданне пра Рагнеду з Лаўрэнцеўскага летапісу.
Пераклад В. Чамярыцкага

*Как месяц утренний, бледна,*
*Рогнеда в горести глубокой,*
*Сидела с сыном у окна*
*В светлице ясной и высокой.*
К. Рылееў

### 1.

Цяпер, напрыканцы сакавіка, неба было як часта і ў позню восень: па ім з халоднага краю нізкавата плылі адна за адной цяжкія сіза-цёмныя хмары, раз за разам засланялі высь, а ў перапынках яна, вышыня, праяснялася, нават паказваліся молада блакітныя лапіны, а неўзабаве зноў хутка насоўваліся шэрасць і змрочнасць. Дык і цяжка было зразумець: неба вось так і будзе праз некалькі хвілін мяняць свае колер і аблічча ці, паколькі няма моцнага марозу, густа пацярусіць мокрым снегам, што тут, сярод лясоў і балот – скопішчы ценю і холаду, быў і цяпер, увесну, стылы. Ужо залівала палі, дарогі і двары снежніца – талая вада, ёй апаласнуліся, напіліся птушкі і ўдосталь здаволілася маці-сыра-зямля, адбіраў вочы дыван руні, ужо цурчэў кляновік, капаў бярозавы сок, а моладзь гэтых прысвіслвіцкіх мясцін "спаліла зіму" і "пагукала вясну", дзеці пацешыліся не толькі салодкім печывам-"жаўрукамі", а і спевам над праталінамі на полі гэтых любімых раннепрылётных птушачак, ды, як верылі тубыльцы, адагнаны веснавым цяплом Зюзя зноў выскачыў з лесу, затрос булавой і белым футрам, каб узвіхурыць вецер і снег, непагаддзю засланіць высокага і гарачага Даждбога, не дапусціць Лялю і Перуна.

Рагнеда – у доўгай сукні з дарагой візантыйскай тканіны, аблямаванай залатой і сярэбранай вышыўкай, каштоўнымі камянямі, з накінутым на плечы футрам, аздобленым гарнастаевымі скуркамі, – стаяла тут, на другім паверсе баярскага церама, каля невялікага акенца, затуленага даволі празрыстым здалёку прывазным шклом, несвядома ўзіралася ў надворную прастору і не толькі як след не разумела, што ў яе на душы, але нават і таго, чаму нечакана апынулася тут, у далёкім, невялікім, абгароджанымі завостранымі бярвёнамі гарадзішчы (яго пабудавалі прадзеды на мяжы з дрыгавіцкай зямлёю), у асобна абкружанай плашкамі сядзібе багатага баярына Мудраслава. Тут, у святліцы, стаялі скрыні з яе "державою" (маёмасцю) – з адзеннем, абуткам, посудам, грашыма – візантыйскімі солідамі, кіеўскімі срэбранікамі і залатнікамі, але найбольш з мордкамі і лапкамі куніц ды вавёрак, пергаментнымі кнігамі. Гэтыя рэчы напоўнілі цёплы пакой (ёй сказалі, што ў гэтай будыніне адзінае ў паселішчы некуродымнае ацяпленне, падлога незаглінаваная, а з расколатых, аплазаваных і нацёртых воскам бярвёнаў) сваім нязвычным тут, пахкім кіеўскім духам. А яшчэ тут былі стол, лавы, сынаў ложак (за шырмай з ядвабу меліся столік, ложа і

для яе). Сын, Ізяслаў, таксама ў княскай апратцы – у пазалочанай жоўта-рудой туніцы, у сінім пасярэбраным падцепленым сукном расхінутым плашчы, зашпіленым на шыі залатой фібулай, – цяпер сядзеў каля стала. Як і ўсе дзеці, спаўняючы нейкую марудную работу, цярпліві́ўся, ад чаго крыху высунуў язык і кончыкам яго паводзіў па губах.

Вось лавіна сырой хмары сплыла за рэчачку Свіслач і лес, але на прагале не зусім асвятлелася: туды кінулася плойма варонаў. Яны закружыліся і так зайшліся крыкам, што і тут, у будыніне, праз вузкае акенца ўкулілася іхняе трывожнае ці нават злавеснае галёканне.

“Бяда нейкая будзе. Мо і пажар”, – міжволі падумалася ёй. А калі ў вароннім ляманце замест “кар-кар” ёй здалося “ук-раў, ук-раў”, то мільганула думка пра нейкую пакражу. Яна змалку, як і халопы, чэлядзь, таксама лічыла, што свойскія і дзікія птушкі, якія жывуць паблізу чалавека, многае пераймаюць ад яго: куры, гусі, індыкі – гаспадарлівасць, галубы і лебедзі маюць добрыя людскія душы, шпакі – вясёлыя, ластаўкі – чыстыя і святыя, вераб’і – хітрыя, а вось вароны і крумкачы – паганыя. І яшчэ пэўны знак: на дварэ, мо седзячы на загародзе, застракаталі сарокі. “На гасцей і на нейкую навіну вялікую. Ці надвор’е зменіцца. Пара ж: хутка будзе ўжо камаедзіца, калі час мядзведзю з бярлогі выпаўзці і шукаць па першым часе маладую сакавітую траву”.

Здаецца, сын ціхенька аклікнуў. Не, ёй не здалося, сапраўды падае голас:

– Мама, паглядзі.

Яна павярнулася:

– Што, чада маё?

– Што і як я напісаў.

Яна падышла, зірнула на адчыненую васкоўку – скрыначку, запоўненую воскам і выгладжаным да бліскучасці. Па ім Ізяслаў пісаў заточаным металёвым шылам (другі канец шыла быў пляскаты, каб сціраць напісанае, зноў раўняць воск). Потым, калі яна ўхваліць альбо скажа, што і як паправіць, ён перанясе напісанае на пергамен.

Уладзімір-муж, бацька і яе дзяцей, найбольш часу траціў на паходы і гульбішчы, мала глядзеў за нашчадкамі, але хацеў, каб яны былі пісьменныя. Паколькі за ёй у прыкіеўскай Лыбедзі асабліва сачылі яго віжы, яна схітравала: падмелася, калі яны навучацца грамаце, параіць ім апісаць яго род па бацьку Святаславу. Ёй галоўнае было займець пергамен, чарніла і стыло. Затым яна папрасіла тую родавую і іншыя кнігі дазволіць ёй прывезці сюды, у Свіслач (каб Ізяслаў, тое-сёе саскрэбшы, па чыстым запісаў імёны князёў з яе роду Рагвалодавічаў). Там, у Лыбедзі, не паспела дый не вельмі магла заахвоціць Ізяслава запамінаць хоць па памяці: толькі да юных гадоў сямі быў з ёю, а пасля яго забралі ў кіеўскі княскі палац. Цяпер яму ішоў дванаццаты год – узрост больш прыдатны да разумення і запамінання.

– Малайчына, добра ўсё запісаў.

– Ясная, але і чужая гэтая азбука, – паскардзіўся Ізяслаў. – Пішаш пра сваё, але і як пра чужое.

– Гэтая азбука новая. Нялёгкая, але найбольш зразумелая нам, бо старая была зусім цяжкая. Новую таксама склалі славяне па азбуцы грэцкай, але па складзе мовы балгараў. Дабіліся, каб на яе перакладаць хрысціянскія кнігі. Балгарская мова далёкая ад нашай, ды ўсё ж даступная. Егда (калі)

і ў нас па дзясніцы (сіле, уладзе) бацькі твайго будзе адзін Бог, вера ад сына яго Хрыста, то па гэтай азбуцы будуць пісаць усе навучаныя ад хрысціянства людзі. Сваёй азбукі мы не намыслілі. Раней, як казала табе, у нас, у Палацеску, былі толькі “черты” (рыскі) і “резы” (засечкі). Іх высякалі на камянях і дрэве ці выціскалі на гліняных плітках. Ды меліся яшчэ патаемныя знакі – руны. Іх яшчэ прадзеды нашы далёкія прынеслі. Малой спазнала азбуку славянскую і я, дык спазнаеш і ты, бо не мутны розумам і не нішчы духам, а мыслісты. Дый ізвол (жаданне) да навук маеш. Цяпер прыходзіць такі час, што ўжо грэх лічыць пісанне і чытанне чарадзействам вялікім...

Сын супакоіўся. Разбіраецца, куды і да чаго маці раней хіліла нашэптам, а цяпер асаблівы ізвол мае. Спазнае, што ён цяпер адзіны з Рагвалодавага роду. Таму і сталее рана.

– Нам з табой, сын, выпаў лёс і для тых, хто яшчэ будзе на гэтым свеце праз шмат сонцаваротаў, памяць пакінуць пра зямлю нашу родную, пра слаўнага дзеда Рагвалода і яго прашчураў... А без запісанай памяці не будзе святла ў галаве і на душы. Дык не будзе і языка (народа)...

– А мы доўга тут будзем, мама? – запытаў са скрухай. Бедны, перажывае, што не бачыцца з братамі і сёстрамі, што ссыльны ў глухамань: можа выйсці са свайго двара толькі з дазволу прысланых з імі Уладзіміравых дружыннікаў-прыстаўнікоў (надзіральнікаў). Нават у паездцы да блізкіх святых капішча, дуба і агню, што на Лысай гары каля паселішча Валоўшчына, іх адных не адпускаюць ды замінаюць, каб да іх хто з тубыльцаў наблізіўся. Дружыннікі, якія жывуць у прыбудове да іхняга дому, па чарзе заўсёды стаяць пры варотах у іхні двор, а калі вольныя, дык ці валочацца па паселішчы, шукаючы медавухі і маладых уцех, ці балабоняць-шумяць, храпуць у сваёй бакоўцы. Нялепшая і прысланая з імі ключніца: калі прыстаўніковая варта віжуе па-за домам, то яна – і тут. Да ўсяго абкрадае іх нават з таго, што самахоць прыносяць ёй і сыну людзі. Не ў цямніцы ці ў порубе яны з Ізяславам – яна за тое, што на п’янага і соннага Уладзіміра руку падняла, Ізяслаў за тое, што, прыехаўшы з бацькам у Лыбедзь, змог заступіцца, але ўсё роўна ў высыльным зняволенні.

Ды што яна магла сказаць пра іхні далейшы выгнанніцкі лёс? Што рошаць у Кіеве (цяпер найперш візантыйка, новая жонка Уладзіміра), тое і стане. Толькі пастаралася не ўздыхнуць цяжка:

– Не ведаю, сыне.

– І мы з табой будзем адны?

– Чаму адны? – усміхнулася, але нявесела. – З людам родным, крывіцкім, і блізкім дрыгавіцкім. І з сілай стрымліваючы цяжкі ўздых: – А вось з меншымі братамі і сёстрамі мо і не будзеш бачыцца. Не захацелі твой бацька і баяры адаслаць іх з намі.

– Ніколі не будзем бачыцца?

– Не ведаю, сын, – зноў прызналася ў сваім няведанні. – Мы з табой “гардавусы” і “горкасердыя” (злыя) есі, на жывот князя вялікага замахнуліся... Ці мо каешся, што заступіўся за мяне, ад расправы выратаваў?

– Не.

– Дзякуй, – прытуліла, села непадалёку. Ён, адчуваючы яе ласкава-пяшчотны позірк, жаноча-матчыную цеплыню, пачаў па памяці далей выводзіць прыгожыя літары. Ёй па-мацярынску было прыемна, што яе першынец такі здатны, вартны, хораша адменны сын, згодны з ёй цярпець

усе высланніцкія нягоды, але мацярынскае яе сэрца не знала спакою і ўцехі. І за пакінутых далёка малодшых дзяцей, і за Ізяслававы ўзрушэнне, нездароўчасць. За апошняе не магла не дакараць і сама сябе.

...Калі ачуняўшы, зірнула на яго пасля родаў, прыклала да грудзей, адразу ж пільна агледзела: на каго падобны? Запыніла позірк і цяпер. Як у бацькі і яго маці Малушы, цёмныя, з адценнем сінізны валасы, высокі лоб, роўны прыгожы нос, ад яе, маці, – не валявыя, а лагодна шараватыя, з тамлівай паваловай вочы, пухлаватыя губы. Можа быць гаваркі, гарэзны, але і можа раптоўна пабялець, абвянуць і надоўга стаць абыякавым. Вось гэта і прыносіць ёй пакуту: бадай, і Уладзімір, і яна абое вінаватыя ў сынавай мо і хворасці. Ён – у тым, што даў жыццё дзіцяці неправедна: па падбухторванні дзядзькі Дабрыні з помаччу яго слуг (трымалі за рукі і ногі) браў яе, ледзь не звар'яцелую ад страху і ганьбы, на доле перад вачыма бацькоў, братоў і баяраў, якіх потым закалолі яго дружыннікі. А яе віна мо ў тым, што са змусам, са слязьмі і пракляццем ехала ў Кіеў жонкай не любага ёй Яраполка, а ненавіснага гвалтаўніка і, пакуль не нарадзіла, мела, мала сказаць, непрыязнь да нежаданага дзіцяці. Палюбіла толькі тады, калі яно прыпала да яе грудзей і прагна ўцягнула яе яшчэ тады невялікі смактунок: адразу ж адчула сябе маці палюбленага хлопчыка.

Усцешыўся ім і Уладзімір, хоць любоў яго да яе і іншых іхніх дзяцей была дзіўная, а то і дзікаватая. Мо і ад успыхвальнага характару ці ад таго, што меў дзяцей і ад іншых жонак. Вяртаючыся з паходу, часта кіраваў не ў Кіеў, а да яе ў Лыбедзь – то ўміляўся ласкамі незвычайнымі, то ўзрываўся грубасцю і папрокамі, што любіла Яраполка і мо Ізяслаў ад таго (маўляў, ён загадаў забіць таго, зводнага брата, найперш з-за рэўнасці). А калі напіваўся, вымольваў на каленях дараванне, называў яе і іхніх дзяцей самымі прыгожымі на свеце. Вельмі шкадаваў, што іхні Яраслаў не можа хадзіць (калі і яго прынеслі развітацца з ёю, то ірвануўся з рук няньկі і... паімчаў нават ад страху за тое, што бяжыць. Пасля гэтага пачаў хадзіць, толькі моцна кульгае). Уладзімір, як і першы раз, браў яе сілай. А потым і па пакоры, а то нават і згодзе: не, не прыходзіла каханне вялікае да яго, але па-свойму ўладарыла яе моцнае і пышнае цела – страсцю да мужчынскага цела. Маладосць, жаноцкасць бралі сваё. За кароткі час абсыпаўшыся дзецьмі (за дванаццаць гадоў шасцёра; іншыяУладзіміравы жонкі-суперніцы, зайздросцячы за яе красу і любоў-цягу да яе мужа, кпілі з гэтага па-жаночаму непрыязна), змірылася са сваёй жаночай доляй: павінны ж быць у нашчадкаў і маці, і бацька – ды не проста заступнік і карміцель, а бацька-князь.

– Калі стаміўся, то адпачні, – бачачы, што сын вяне, пагладзіла яго па галаве. – Толькі сёння схавай васкоўку ў тайнік. Я таксама прылягу, – але не дадала, што сёння чамусьці вельмі трывожна на яе душы.

## 2.

### Паводле Яна Ермаловіча

### Рагнедзін расказ сыну пра іхні род "па кудзелі"

– Я, отракавіца, больш пры маці, Любцы, была. Яна гадавала, змалку вучыла быць князёўнай, каб, як і яна, потым, калі косы да паясніцы да-

стануць (тагачасны знак, што гэта ўжо нявеста, дзетародная. – *Г.Д.*), стаць жонкай князя, маці княжнаў і княжычаў, даць свой род “па кудзелі”. Бабуля твая была са знатнага роду Харальда Шэрай Скуры – далёкія паўночныя людзі, вікінгі ці варагі-нурманы, ужо здаўна, мо і болей двух вякоў таму, пачалі спазнаваць пуцявіну з Варажскага мора ў Панційскае, дык уведалі і наш Палацеск. Але яго не бралі сілай, у нас не князілі, як у Ноўгарадзе і Кіеве, дык і не было, няма тут іхняй Русі. Яны толькі спыняліся, мелі прытулак. Адзін час сядзела тут іхняя дружына, ахоўвала, каб на рэках і волаках (суша; па ёй перацягвалі лодкі з цяжарам ад адной вады да іншай) не чынілі шкоды іхнім гасцям і воям. Мусіць, не пасягалі на Палацеск і яго зямлю таму, што не зусім упадабалі нашу увесну і ўвосень сырасць – лясы, рэкі, балоты, а ўзімку – холад. Сырасці, халадэчы ў іх саміх было ўдосталь. Іх больш цягнула ў Кіеў, у заможную Візантыю. Да багатых рынкаў, да срэбра, золата, шоўку, дываноў, пасуды, шкла, зброі, віна, прыпраў усякіх. Іхняя мара запаветная была такая: пабыць у іншых краях, займець здабычу ды славу! Часамі любой цаною! Ды калі пазней іхнія ўнукі ці праўнукі пабачылі твайго дзеда Рагвалода, то дужа ўпадабалі. Самі прывезлі яму нявесту – дачку ярла Ізольду; яе бацька Любкай назваў. І, праўда, любая і яму, і нам, дзецям, была. І люду палацескаму. Адным словам, ваяры, уладнікі, прагнікі да скарбу вялікага, яны, варагі, як і іхнія прадзеды, з Палацескам з мірам паводзіліся. Я не чула пра тое, каб калі нашы князі з імі якія бітвы ці войны мелі...

Ізяслаў, лежачы пад цёплай коўдрай, уважліва слухаў маці: яна шмат чаго ведала і магла расказваць яму так, што ён заслухоўваўся. Праўда, калі яе аповяд быў доўгі (вечарамі ды начамі яна не магла толькі “размаўляць” сама з сабой у думках, ёй хацелася і штосьці сказаць уголас. Тым больш сыну), ён часамі і засынаў. Яна ўтульней накрывала яго і сядзела пры ім, любуючыся, што сын спакайнее і ўжо, не маючы трывожных думак нават пра заўтрашні дзень, спіць моцным сном падлетка. Бывае, нібы спрабуе адплюшчыць вочы, стогне, ускрыквае, нават падхопліваецца. Тады яна суцішае яго, і ён ад яе лагоднага голасу, мяккіх рук зноў апускае галаў на падушку і ўжо да раніцы ў палоне сну. Пасля гэтага яна ідзе да сваёй пасцелі і спрабуе таксама заснуць. Ды не заўсёды тое ўдаецца. Ці можа задрамаць, сніць страшныя сны, а потым прачнуцца з ясным розумам і да світання не самружыць вачэй.

– Маці мая не хутка навучылася гаварыць па-палацеску, – баяла сёння Рагнеда. – Дык я змалку шчабятала па-дваякаму: па-матчынаму і так, як гаманіла са мной нянька. Чула: госці іншаземныя паміж сабой нібы муркаюць зусім іначай, па-свойму. То вось пакрыху і спазнала: свет не толькі ў нашым хораме, ён вялікі, а на ім безліч плямён розных і моў іх. У леты, калі мне іх стала болей за дзесяць, пачала дапытвацца ў бацькі: госці – з іншых краёў, а мы – хто? Адкуль? Спрадвеку тут былі? Ён жартаваў: дачка, не абцяжарвай сваю галоўку мужчынскімі грузнымі думамі! Тады я крыўдзілася: а чаму Усяслаў і Рагвалод павінны тое ведаць, а я – не? Браты – ведама, маладыя былі, пацяшаліся, што хачу надта разумніцай быць, а бацька ў вольную хвіліну расказваў. Не ўсё яшчэ разумела, яшчэ менш запомніла. А потым, у Кіеве, больш нічога не магла ўведаць: твой бацька забараніў, каб ніхто нават не напомніў пра твайго дзеда Рагвалода і яго сыноў! Нібы іх і не было! Нібы Палацеск заўсёды быў пад уладай Кіева і там правяць пасаднікі вялікага князя!

Уздыхнула:

– Ты хоць крыху можаш штосьці ўведаць ад мяне пра дзеі палацескія. А малодшыя браты твае і сёстры і гэтага “штосьці” знаць не будуць... Дык вось бацька расказваў: некалі – мо і паўтысячы летаў таму ці і болей альбо меней – нешта змусіла славян (а іх называлі па-усякаму) рушыць у наш і іншыя бакі з поўдня і захаду. Яны дзе выцяснялі тубыльцаў або разумеліся з імі, а дзе проста займалі вольныя мясціны. На правым беразе Прыпяці, Дняпра, каля Нёмана і аж пасюль, па Менск і наш град асеў блізкі па родзе люд, і яго назвалі дрыгавічамі. У іх былі свае князі. Імён іх не магу назваць. Ведаю толькі дзядзьку Тура і тых, хто ўладзіў у Тураве пасля яго.

Зямля, дзе цяпер мой родны Палацеск, здаўна была абжытая: даўнікі для яго выбралі добрае месца. Пры Дзвіне (Заходняй), а па ёй і Дняпры вёўся гандаль з хазарамі, Кіевам, нават з далёкімі Візантыяй і Арабіяй, а таксама з варагамі. Палацеск, казаў бацька, назвалі па рэчцы Палаце, а насельнікаў – палатчанамі (палачанамі). А раней ад люду, што спрадвеку жыў там, раку нібыта называлі Палтэ ці Палтс, а першага князя – Палтэс. Ад крывічоў, што прыйшлі туды, на правы бераг Дзвіны, а потым перабраліся і на левы, нібыта першым князем стаў Крыў, а княства сваё ён называў Крывіяй.

Цёпла ўсміхнулася:

– Як цяпер, чую бацькавы словы: “Над Палацескам з цемры выплыла яркае сонца, заззяла над ім і асвяціла вакол яго вялікія абшары!” Канечне, ён так гаварыў пра тое, што палачане-крывічы да свайго града далучылі шмат новых зямель. На заход сонца і крыху на поўнач яны дзе адпіхнулі, а дзе зрасліся з тамашнім людам (маюцца на ўвазе балты, некаторыя з якіх пазней, адступіўшы да Балтыйскага мора, паспрыялі згуртаваць плямёны, народы літоўцаў і латышоў. – *Г.Д.*). А вось тут паблізу, каля Менска і Лагожска яны, тыя палачане-крывічы, пачалі перамешвацца з дрыгавічамі, што ад Прыпяці купкамі зайшлі сюды, а па Дняпры да радзімічаў, да смаленскіх крывічоў. Увішныя палачане-крывічы рушылі яшчэ і ў дрыгавіцкую Панямонь. Канечне, варажскія князі ў Кіеве ўбачылі гэтыя палацескія захопы і паасцерагаліся іх. Таму не раз і не два асаджалі Палацеск, хоць, запомнілася мне, ні Вользе, ні Святаславу ён даніны не плаціў. Значыць, быў сам па сабе. А бацька мой... Цяпер раскажу...

– Хто ён такі быў? – зацікавіўся Ізяслаў. – Пра дзеда Святаслава мне расказвалі нямала, а вось пра яго – не. Я нават не ведаў, як яго звалі.

– Мяне перавезлі ў Кіеў, калі мне трынаццаць сонцаваротаў было. Значыць, нарадзілася ў лета 6470-е (962). Старэйшы (на два сонцавароты) мой брат, Усяслаў, і малодшы (за мяне на тры), Рагвалод, як толькі на кані навучыліся ездзіць, рэчку нашу вялікую пераплываць і – чуеш? – запомнілі дзеі зямлі палацескай, яе княскі род самае малое па пятае калена, хадзіць у далёкія паходы, умець мечаваць, болей часу пры бацьку былі. Дык яны і больш ведалі пра вотчыну нашу. Бацька жыў ці не 35 сонцаваротаў, маці была маладзейшая на сонцавароты чатыры (іх забілі ў лета 6483-е, дык сам падлічы, калі яны нарадзіліся). Усяслаў быў ужо ў отракавай дружыне, аднаго разу яго паранілі ў памежавай Ноўгарадскай зямлі. Бацька скупіўся хваліць сыноў, а да мяне быў ласкавы. Але пры размове з нашай маці, чула я, ганарыўся імі, казаў, што стануць яму добрымі памочнікамі, яго наступнікамі. Не сталі... І пакуль што слаўная

зямля Палацеская без валара свайго, пад рукой кіеўскага пасадніка-нягодніка. Бедны бацька мо і ў сне не сніў, што так выпадзе, што Палацеск будзе мець такую горкую долю...

– “Ён” гэтак без літасці табе адпомсціў? – падаў голас Ізяслаў.

– Не столькі “Ён”, колькі яго нелітасцівы дзядзечка. За сястру сваю. Я яе рабыняй назвала, а “Яго” – рабынічам...

Яна запыніла на ім позірк: сын пасля таго, калі мячом загарадзіў шлях разгневанаму Уладзіміру да яе, святочна ўвабранай дзеля смяротнага пакарання (каб яе, забітую рукой самога мужа, усё ж убачылі па-свойму прыўкраснай) і калі і яго залічылі ў зламыснікі, пачаў бацьку называць толькі найменнем “Ён”.

– Дзед твой, як і прадзеды, быў рослы, дужы (мог меч рукамі пераламаць), меў лоб высокі, негустыя і кароткія жаўтаватымі, як жыта, валасы. Праўда, яны раптоўна сталі як снег, калі ці не шэсць Дабрыневых дружыннікаў трымалі яго за вывіхнутыя рукі, а мяне на яго вачах, як ты кажаш, “Ён” ганьбіў... Потым мне сказалі, што скусіў да крыві губы і плакаў, хоць дагэтуль не ведаў, што такое адчай... А мужнасць сваю загартаваў, калі бацька, Ізяслаў, паслаў яго і брата Тура з дружынамі памагаць паморскім людзям, як раней ён і яго бацька, блізкіх і далёкіх нападнікаў адбіваць. І навуку ваенную спасцігаць, паколькі Палацеск доўга ўжо не вёў войнаў, апошні раз Ізяслаў з кіеўскім Ігарам на Візантыю хадзіў (паход Ігара быў у 941-м. – *ГД.*). Ізяслававым бацькам быў Усевалад, а яго – Мсціслаў, а Мсціслававым – Яраслаў. Што да таго твайго далёкага продка Яраслава, дык я толькі запомніла, што яму такое новае імя далі за адпор кіеўскім князям Аскольду і Дзіру (нашэсце тых было ў 865-м. – *ГД.*), пасля чаго Кіеў больш на Палацеск не пасягаў ужо і даніны не патрабаваў.

Усміхнулася, бачачы, што Ізяслаў слухае, варушыць губамі і загінае пальцы – нібы ўгінае памяць.

– Запомні, запішы хоць гэта. Ага, яшчэ: першы пачаў на далёкую, гордую і грозную Візантыю хадзіць Мсціслаў. З кіеўскім князем Алегам. Палацеск нават ад Візантыі даніну меў! Мо і з таго часу (Алегавы паходы на паўднёвую імперыю былі на пачатку 900-х гадоў. – *ГД.*) пра наш Палацеск больш і здалёку ўведалі. Чаму – “больш?”. Маці ведала нямала варажскіх саг. Калі пачала збірацца ехаць сюды, то завучыла тыя, дзе было і пра Палацеск. Дык і расказвала пра тое мне. Праўда, казала: ручацца за іхнюю праўдзівасць нявартa. Сагі не запісваліся, перадаваліся ад старых маладым, а пераказчыкі тое-сёе тлумачылі па-свойму, дадавалі ад сябе і часамі нямала чаго блыталі. І, канечне, найперш хвалілі подзвігі сваіх землякоў. Але калі ўпаміналі наш Палацеск, то не выдумлялі ж яго, не прадбачвалі, што ён будзе. Значыць, быў і ў няпомнай ужо даўніне. Яшчэ ў часы грознага валара гунаў Атылы (маецца на ўвазе ў свой час шырока вядомая ісландская сага пра Цідрэка, дзе, можа, і ўпершыню ўпамінаецца пра асаду і ўзяцце Палацеска гунамі ў першай палове 5 ст. Калі давярацца логіцы, то можна палічыць: раз горад асаджвалі, то ён быў умацаваны, а калі было амацаванне, то ён узнік яшчэ раней. Значыць, на сёння Полацку больш за 1550 гадоў. – *ГД.*).

– А чаму ты імем дзеда Рагвалода нікога не назвала?

– “Ён” не дазволіў вас, сыноў, называць яго імем і імем маіх братоў. Дык я дала кожнаму з вас імя ранейшых нашых палацескіх князёў. Ізяслаў – узяць меч і славу. – Усміхнулася: – Ты і ўзяў меч (хоць і на бацьку).

А слава твая – наперадзе. Яраслаў – яркая слава. Мсціслаў – помста непрыяцелям. Усевалад – усяладны.

– З дзедам пяць родаў, – паказаў сагнутыя пальцы левай рукі Ізяслаў. – А хто ў шостым і сёмым калене князем быў?

– Кажу ж, сын, пра гэта больш ведалі мае браты. Прыпамінаю толькі, што нібыта былі перад імі Светавід, Мяцеліца, Гром. А самым першым з крывічоў, як казала ўжо, нібыта быў Крыў. Мо той, хто прыйшоў з-пад Дунаю. Што яшчэ, сынок, магу сказаць пра дзеда Рагвалода і яго брата Тура? Яны сіл і ваеннага ўмельства набіраліся, як чуў, каля Варажскага мора. Бацька з памаранамі адбіваў саксаў і данаў, а Тур – з бодрычамі і люцічамі германцаў. Іх хвалілі, Палацеску дзякавалі. Ды памёр прадзед твой Ізяслаў, крыху пакнязіла яго жонка Прадслава, а потым кліч падала: вяртайцеся, сыны. Рагвалод, ты сядзеш у Палацеску, а цябе, Тур, з баявой тваёй дружынай просяць да сябе на княскі пасад дрыгавічы, што паблізу драўлянаў, палянаў і бужанаў жывуць.

– І Прадслава была ўжо!

– Была. Прабабуля твая. А Праміславе дасталося імя прапрабабулі. Як бачыш, усіх вядомых мне прашчураў ушанавала. – Усміхнулася гарэзна: – А ты доўж род па маёй “кудзелі” і свой пачынай... Каб Ізяслававічы пайшлі...

Ён, канечне, тое-сёе – з дарослага свету – ужо адчуў. Сумеўся.

– А цяпер, сын, пра тое, што нядаўна адбылося. Пра бяду вялікую палацескую... Пра нашую з табой нядолю... За сонцавароты чатыры да таго, як твае дзед і бабуля, дзядзькі былі забітыя, я зганьбаваная і забраная ў Кіеў, а Палацеск спалены (помніце, В. Тацішчаў тыя полацкія падзеі абазначыў прыкладна 975 годам. – *Г.Д.*), у Палацеск прыехалі паслы з Кіева ад князя Святаслава. Ён меўся зноў ісці ў вялікі паход па Дняпры ўніз, дык прасіў помачы дружынамі. Раней Палацеск меў карысць ад такіх паходаў, бо, як ты чуў, Візантыя і яму казну папаўняла. Такое было яшчэ і пры бабулі Прадславе, калі пасля смерці мужа княжыла. Рагвалод паклікаў на раду спачатку вешчуноў, а потым склікаў веча: парайце, дзяды мудрыя, мужы знатныя і дзяржаўныя, што рабіць мне. І вешчуны, і веча сказалі: цяпер не варта шукаць грабежнага шчасця ў далёкай Візантыі, траціць там сілы дзеля Русі ці Рускай зямлі – так ці не з часу Алега пачалі называцца раней зямля палянаў, Кіева, а потым і тыя краі, што яны заваявалі. Палацескія інтарэсы больш тут, паблізу. Мабыць, яны былі пра тое, пра што я табе пераказвала. Тады кіеўскія пасланцы папрасілі хоць міру. Каб Палацеск не ўдарыў ім у спіну, не спустошыў зямлю северскую, драўлянскую і кіеўскую (значыць, цанілі ўжо моц палацескую і пабойваліся яе!). Мір зладзілі, кленучыся Вялесам і іншымі багамі. Калі паслы ад'ехаліся (а яны тады мяне агледзелі, сказалі, што будуць раіць мяне ў жонкі сыну Святаслава Яраполку) і калі потым дайшлі весці пра Святаполкаву загібель, бацька зноў запрасіў да сябе вешчуноў і склікаў веча: ці не выпаў нам цяпер шчаслівы шанец? Ці не павінны мы паціснуць на Ноўгарад, каб не замінаў мець вольны доступ да шляху “варагаў у грэкі?” Ці не можам самі мець над ім назірк ад Ршы (Оршы) да Прыпяці? Ці не мусім пачаць больш цесна яднацца з Туравам, каб нашы землі злучыць у Палацеска-Тураўскую дзяржаву?

Вешчуны і веча сказалі: толькі так трэба рабіць, пакуль князі ў Кіеве і ў Ноўгарадзе яшчэ зусім маладыя дый тыя гарады цяпер не маюць сілы па-

замінаць Палацеску. А мяне папрасілі пайсці за Яраполка: той, Рагвалодаў зяць, не будзе ўпарта супярэчыць цесцю, каб да яго далучылася дрыгавіцкая зямля. Я не бачыла таго Яраполка, але згадзілася пайсці за яго: гэта трэба было найперш бацьку, Палацеску. А тут як тут – пасланцы з Ноўгарада. І з падлашчваннем: Рагвалод, аддай дачку за Уладзіміра, будзь яму бацькам і памажы зяцю сесці ў Кіеве... Добра ведалі: калі бацька пасаюзіцца з Яраполкам, то Кіева ім не бачыць, як сваіх вушэй... Спыталі нашы мужы знатныя: а дасцё вольны, без пошлін, доступ да Дняпра і вольнае плаванне па ім? Тыя пачалі пацiскаць плячыма і мармытаць штосьці невыразнае: яны не маюць права даваць такі адказ... Дык ім сказалі: тады не дадзім вам нашай князёўны і не пойдзем з вамі на Кіеў, тым больш, што ў нас мір з ім. Тады я толькі краем вуха, з гутарак бацькі і маці, чула, што і як рабілася далей. А потым перадумала ўсё і цяпер лічу так. У Кіеве рэй вялі варажскія ваяводы і баяры; яны не хацелі мацаваць Палацеск, прыстрашылі вайной, калі ён злучыцца з Туравам (і там не ўсе баяры былі за гэтую еднасць). Больш – варажскія ваяводы запатрабавалі вайны Яраполка супраць брата Алега. Яраполк выйграў, але застаўся маласільны. У Ноўгарадзе правіў хітры, бязлітасны да непрыяцеляў Дабрыня. Ён падгаварыў веча, каб туманіць Палацеску галаву, а сам адправіў Уладзіміра да варагаў па наймітаў. Разлічыў: Палацеск і Кіеў трэба разбіць паасобку. Некаторыя ляпечуць, а то і дакараюць: не абражала б я Уладзіміра, што ён “рабынін сын”, выйшла б за яго, дык і Палацеск быў бы цэлы і бацька ды браты былі б жывыя! Лухта! Хто-хто, а Дабрыня на сваёй скуры адчуў, як трэба паводзіцца з непакорнымі, залішне вольнымі і гордымі! Калі яго бацька Мал, драўлянскі князь, дазволіў сваім людзям разарваць коньмі прагнага кіеўскага паборніка Ігара, то Ігарава хітрая і жорсткая жонка Вольга нібы нават не засмуцілася, прыймала драўлян з ласкай, падмелася прызнаць вярхоўным Мала і стаць яго жонкай, але... Кажуць, неміласэрна знішчыла 5 тысяч драўлян, а Мала запраторыла ў сыры поруб, каб ён жыў, чуў пра яе дзеі, але жывым гніў. Дабрыня знаў гэта, сцярпеў. Нават і тады, калі яго сястра стала другой жонкай Святаслава, а той не аддаў яму драўлянскі сталец. Калі самае вялікае яго паставілі быць пестуном і ваяводаю сынаўца... Не толькі дзеля яго, але яшчэ і з-за сваіх крыўд, абраз, набранай злосці і ярасці за лёс свой ён уздумаў расправіцца з Палацескам без ніякай літасці... “У маім княстве выкаранілі мой род, а я выкараню род палацескі! І тут сядзе мой сын! Хоць бы пасаднікам!”

“Ён” кланяўся варажскім конунгам, ярлам, ажаніўся з варажкай. Пакляўся, што дасць цесцю вялікую плату, калі той падсобіць яму сваімі баявымі дружынамі. Больш – даваў ім на разрабаванне Палацеск! То – чаму не. З Дабрынем прывёў полчышчы варагаў, чудзі, наўгародцаў. Бацька перастрэў яго, даў бой. Але не ўстояў. Мусіў схавацца за сценамі града. І тут Дабрыня прыслаў варага, матчынага сваяка. І той пачаў угаворваць яе, бацьку: не трэба нам гэтай вайны. Хай Палацеск застаецца Палацескам, а дачка ваша выходзіць замуж за каго хоча. Давайце мірыцца, а ў знак міру прыміце нашы дары... Яны былі... Але з імі прыплялася, уварвалася лютая сіла... Цяпер ніхто не прасіў мяне стаць жонкай “Яму”, ёй мяне, паўтару, зрабілі пад гвалтам...

Рагнеда апомнілася, убачыўшы, што Ізяслаў апануранаы. Можа, і ад таго сёння не можа заснуць пры яе аповядзе.

– Сынок, – прытулілася да яго. – Людзі добра кажуць: не было б ліхадзейства – не было б і шчасця... А я маю яго, гэтае зямное шчасце: цябе,

Яраслаўку, Мсціслаўку, Прадслаўку, Усеваладку, Праміслаўку! Аж шэсць шчасцяў! А што да Палацеска, то глыбока веру: люд яго не апанурыцца за няўдачу, устоіць, амацуецца і яшчэ скажа сваё слова вагавітае! Яго аніяк не прыспяць зламыснікі!.. Якія б чары не ўчынялі, чым бы апаіць не намагаліся! Былі, ёсць тыя, хто знойдзе жывую ваду ад гэтага!..

## 3.

Сёння Рагнедзе не ўдалося пасля полудня ні падрамаць, ні паляжаць з заплюшчанымі вачыма і думаць-передумліваць пра ўсё, што навалілася вялікім цяжарам за апошнія паўсонцаварота (паўгода). Толькі скінула візантыйскія боцікі, прылегла на засланы прасціраддлам і посцілкай пухавік, накрылася футрам і прымружыла павекі, звыкаючыся з ціхім звонам увушшу, як да слыху данесліся тупат, штурханне і злосныя галасы ў двары. Канечне, ахоўнікі зноў чэпяцца да непажаданых ім гасцей і не пускаюць сюды, у церам. Калі хто па загадзе ці па спагаднасці прыходзіць з клункам, дзе хлеб, мяса, яйкі, малако, то дружыннікі ўсё перагледжваюць, штосьці смачнае бяруць сабе (хоць іх па змусе кормяць ды мояць свіславіцкія людзі), а астатняе перадаюць яе ключніцы. За гэты месяц, што тут, так і не сустрэлася сам-насам з нікім з мясцовых людзей. З сынам – церамныя пустэльнікі.

Надакучыла гэтае дружынніцкае сваволле, паднялася, абулася і, накінуўшы на плечы футра, выйшла з будыніны на двор, што і ў шары час асвятляўся ад снегу, што зноў убельваў зямлю. Сапраўды, каля варот адзін з маладых дружыннікаў (а тут, у зацішным месцы крывіцка-дрыгавіцкай зямлі, яны хадзілі не толькі без шчытоў, але і без цяжкіх нагалоўнікаў, нашыйнікаў і наплечнікаў – шлемаў з барміцай, – без нагруднікаў-кальчуг, без рагацін, паліц і сякер, толькі з мячамі, апранутыя былі ў мясцовыя аблавухі, кажухі ды боты), – дык вось чарнявы і кучаравісты дружыннік груба выштурхоўваў за вароты трох старцаў – сівабародых мужчын у лапцях, старых кажушках, аблавушках, а дваіх з паўпустымі торбамі на грудзіне, з жабрачымі посахамі.

– Ды пусці ты, акаянны, да княгіні!

– Кажу, пайшлі прэч, валацугі!

– Мы хочам пакланіцца княгіні, жонцы вялікага князя кіеўскага і сыну яго. З намі сам старэйшы валхвец!

– Добры моладзец, – Рагнеда падышла, прыкінута ласкава загаварыла да дружынніка, – пусці святых людзей. Я папрашу іх памянуць крэўных, памаліцца за здароўе ўсіх нас, за прыплод скаціны гэтых мясцін, на пакаранне злоснікаў жытла чалавечага.

– Ім месца не ў цераме, – той не меўся саступаць. – Іх слухай, частуй не далей парога.

– Холадна ж. Ды яны, моладзец, мо і табе пашлюць лепшую долю, чым гібець тут. Мо зноў вернешся з гэтых балот і лесу ў стольны Кіеў. Ды пабойся за знявагу святых людзей бед і нястач розных – пажару, на што і сёння каркалі вароны, няўроду ці мору скаціны.

Той цяпер прымхліва паслухаў, адступіў. Як мо згадзіўся б нарэшце ўшанаваць яе і яго старэйшына.

– Скажу ключніцы, каб з майго запасу віна грэцкага дала табе, – спакусай падзякавала яна і запрасіла нечаканых гасцей зайсці ў дом. Яны,

зняўшы аблавухі і схіляючы галовы, патупалі да ганку з накрытым – ад дажджу – прыдашкам. Іх яна, здаецца, нядаўна бачыла. Каля капішча ў Валоўшчыне. На першым паверсе ў цераме, дзе вісела верхняе адзенне, былі паліцы з посудам, хлебам, стаялі розныя кадоўбчыкі (пад гэтым паверхам яшчэ была клець, дзе стаялі скрыні з жытам, пшаніцай, ячменем, просам, лёнам, з рэпай, капустай, буракамі, а таксама былі ступа і жорны; воддаль ад церама знаходзіліся хлеў і прыхлеўнікі для коней, кароў, авечак, свіней і курэй, азярод з сенам – Мудраслаў быў багаты чалавек, ён і цяпер валодаў усім гэтым), дык вось тут, на першым паверсе, звычайна гаспадарыла ключніца, таму і густа пахла вараным ды смажаным. Госці пасталі адразу за парогам. Спусціўшыся сюды, уніз, іх тут ужо чакаў цікаўны на новых людзей Ізяслаў.

– Сядзьце, людзі добрыя, – кіўнуўшы на шырокую, нацёртую людзьмі да бляску лаву, запрасіла Рагнеда, радая, што нарэшце бачыць не проста мясцовых, а мудрых людзей. – Няхай адпачнуць вашы старыя ногі.

– Не, не, княгінька, – загаманілі. Тут жа апусціліся долу, а адзін, сляпы, з даўнавата скалечаным тварам, сашчапіў рукі з душэўным плачам: – Мы адпачнем, княгінька, на каленях. Гонар наш! Гарыславачка! Рагнедзька!

Голас яго здаўся ёй знаёмы – яшчэ з тых часоў, калі была ў Палацеску. Прыгледзелася, але не пазнала. Канечне, з-за ягонага калецтва.

– Хто ты, дзядуля? Ты не чужы мне чалавек.

Ён заплакаў, хоць слёз з аплылых вачэй не было відаць. Толькі затрэсліся яго і цяпер шырокія плечукі.

– Я, княгінька, баярын Вярнідуб. Падваяводак твайго слаўнага бацькі Рагвалода. Калі цябе ў Кіеў забіралі, тысячы жанок і дзяцей у нявольніцкі палон пагналі, а мужчын многіх пазабівалі, тады на мне жывога месца не пакінулі. Лічылі: забілі. Але я выжыў... Хаваўся ў лесе ды па воўчых логавах... Добрыя людзі раны залячылі...Потым старцам-жабраком пачаў хадзіць, слухаць, што і як людзі гавораць... Як дачуўся, што ты з сыночкам тут, паспяшаўся сюды з вешчуном і святым чалавекам, што не толькі вушы, але і вочы маюць...

– Дык ты, выходзіць, зусім яшчэ не стары... І не дзед яшчэ...

– Я не буду дзедам, княгінька. Маю Любку і дзетак маіх звялі. Мо цяпер нявольнікі-рабы за Понтам...

– Падыміцеся, сядзьце, – на яе вочы нагарнуліся спачувальныя слёзы. – Прашу. Я хачу ў вас многае запытаць, часу ў нас на размову можа быць мала. І так вы першыя, каго дапусцілі да мяне.

З крэктам падняліся. Былы баярын-ваявода наблізіўся да яе.

– Вачмі, княгінька, не бачу, дык дазволь пальцамі паглядзець... – Падняў рукі і з пояса абвёў імі яе ўздоўж цела вышэй галавы. – Высакаватая, поўненькая, статная. І малая была ўся з красы, а цяпер, у яшчэ маладыя леты жаночага веку, мусіць, ярка расцвіла! Здаецца, і сынок твой тут?

– Тут.

– А можна і яго пальцамі пагляджу?

Яна хітнула галавой Ізяславу – ён падышоў да сляпога. Той, як і яе, абвёў сына рукамі і, мабыць, прыкідваючы па сваім росце, прамовіў усцешана:

– Рослы. Значыць, ужо не падлетак, а дзяцюк. Хутка ўжо можа і сам па сабе князем быць... – А затым скрушліва: – Саслалі вас, княгінька?

– Саслалі, баярын.

– За гордасць тваю?

– Так і не так. Уладзімір надумаўся панішчыць старую веру, багоў нашых і замест іх прызнаць аднаго, хрысцінскага. А хрысціяніну, як ведаеце, можна толькі адну жонку мець. Дык цяпер такой яго жонкай, можа, будзе сястра візантыйскіх базілеўсаў. Калі ён прыйме хрысціянства з рук Візантыі і візантыйскі патрыярх будзе мець хрысціян тут за новых сваіх паслушнікаў. Праўда, пры гэтым ён хоча паказаць, што не столькі просіць, колькі робіць Візантыі гонар.

– Але ж ён у Кіеве гэтак ушанаваў нашых багоў! Срэбрам, золатам ухарошыў іх! – падаў голас святар зніча.

– Ён нават дазволіў кіеўскім жрацам прынесці ў ахвяру хрысціян. Але “дазвол” яго зусім не просты: ахвяравалі дзядзькам маім, князем Турам і яго сынам Іванам. Уладзімір рукамі жрацоў дарэшты высек наш мужчынскі род. І каб помснікаў не было, і каб забраць Тураў. Таму падаслаў цёмных людзей, каб яны забілі Туравага сына Уладыку. Той быў для яго страшны і тым, што дазволіў хрысціянства не толькі на візантыйскі, але і на рымскі лад. Лічыў: яны роўныя, дык люд сам мог выбіраць, як пакланяцца аднаму богу. Яшчэ меней князіў яго брат Камар. Пасля яго пагібелі люд папрасіў сесці на пасад ўдаву-язычніцу. Люд яе любіў, быў ёй адданы. Падасланых да яе забойцаў пакаралі. Тады Уладзімір рашыў скарыць яе і Тураў сілай, паслаў туды дружыну. Тураўцы пабілі яе. Але неўзабаве не стала і княгіні. Уладзімір казаў: памерла. Ды наўрад ці сваёй смерцю. Новы напад кіеўскай дружыны Тураў без мудрага і моцнага ўладара не адбіў, быў скораны, пачаў, як і Палацеск, быць пад рукой і воляй Уладзіміравага пасадніка.

– Грэшнік вялікі ён. Не толькі чужая, але і братавая кроў на яго руках, –горасна пахітаў галавой Вярнідуб. – Забівае яго душу прага ўлады вялікай.

– Тут ён не першы і не апошні, – адрачона сказала Рагнеда. – Колькі было і некалі, хто вёў вайну за вайной, ліў мора чалавечай крыві, каб захапіць як мага болей. Не толькі заўладарыць, але дабіцца ад усіх пакоры і пакланення. І з-за гэтага многія вакол ужо прынялі хрысціянства. І Уладзімір загарэўся ўзвысіцца яшчэ больш, чым яго бацька. – І, ведаючы, як у Кіеве спрачаліся пра тое, якую новую веру прыняць і як урэшце пагадзіліся пра выбар, патлумачыла: – Хрысціянства будзе яму спрыяць: адзін бог, адна вера. Па ёй, кожны чалавек – усяго толькі раб, а люд – усяго толькі паства, статак, а ўлада князя – улада ад бога. Толькі трэба будзе дабіцца, каб новыя светары служылі не толькі богу нябеснаму, але і богу зямному. Ці трэба будзе ўмець з імі ладзіць... Мяне ва ўсім гэтым не так пакрыўдзіла тое, што Уладзімір адракаецца ад веры даўняй і мяне. Зняважыла яго “дабрыня”: у новыя мужы ён падшукаў мне старога баярына-ўдаўца. Каб не аддаць маладому. Хіба так ужо трэба мне новы муж, тым болей грыб сапшэлы? Ускіпела адпомсціць яму за сваю і Палацеска крыўду, знявагу вялікую – зарэзаць п’янага і соннага. Як на тое, прачнуўся і перахапіў нож. Са злосці ён таксама ўскіпеў: “Як любіў і люблю, так і сам заб’ю!” І мо загубіў бы, каб не стаў Ізяслаў перад ім з мячом. Ды і баяры адгаварылі: суціш гнеў, даруй ім, іначай Візантыя палічыць дзікім язычнікам, не годным для хрысціянства. А іх вярні на зямлю прадзедаў. Але не ў Палацеск, каб ён не падняў галавы!..

– Як без Сварога? – за сваё зажаліўся святар зніча. – Ён жа свет ут-

варыў! А без яго дзяцей? Перуна? Дажбога? Светавіта? А без Ярылы? Купалы? Багача? Каляды? Яны ж – святло, крэсь (агонь), без чаго мы не жылі б! Усё гэта будзе апаганена!

– Будзе. Кажу ж, і ў іншых краях гэта апаганьваецца, абзываецца дзікунскім, паганьскім. Такі час наступіў... І Уладзімір не хоча адставаць альбо быць убаку. Прагне выйграць, як выйграюць іншыя. І не даць, скажам, ляхам скарыстацца, нападаць нібыта для таго, каб прынесці новую веру дзікім язычнікам... – А потым без крыўды і злосці: – Як мо і ведаеце, веру Хрыстову ўпадабала бабуля Уладзіміра. Ахрысцілася ў Канстанцінопалі трыццаць сонцаваротаў таму і стала Аленай. Уговорвала ўзяць хрост і сына Святаслава і ахрысціць усю Русь. Але таму было не да таго. Ён любіў паходы, новыя заваёвы ды хацеў пакінуць Яраполку Кіеў, а самому асесці на зямлі балгараў. А мо і жадаў марокі, што меў князь Мешка, калі ахрышчваў сваіх ляхаў. Наколькі помню, пра старую, новую веру думаў і мой бацька. Брат яго, Тур, чулі ж, ахрысціўся, а вось ён – не. Не хацеў змушаць палачан адракацца ад веры прадзедаў. Ведаў: цяжка пакінуць з калыскі ўзятую з малаком маці веру і перайсці на новую, нязнаную...

– О, Рагнедзька! – усклікнуў былы бацькаў вой. – Рагвалод быў мудры князь! Гаспадар! Бацька ўсім!

– Але скажу шчыра: цяпер і ён наўрад ці адмаўляўся б прыймаць хрысціянства. Яно рушыла і яшчэ больш рушыць не толькі на ўсе славянскія землі.

– У цябе ж, княгінька, пяцёра дзетак? – запытаў Вярнідуб.

– Шасцёра.

– Чулі, іхнімі імёнамі ты прадзедаў сваіх ушанавала.

– Бацьку – не. Не змагла. Як і братоў. А іншых ушанавала. Во ён, старэйшы, Ізяслаў. Яму 11 сонцаваротаў, малодшыя – Яраслаў, Прадслава, Мсціслаў, Усевалад. А самая малодшанькая – дачушка Прамілава. Ёй няма яшчэ і двух сонцаваротаў.

– Сюды Уладзімір больш нікога не адпусціў? Нават дачок?

– Не. Выгнаў са старэйшым, бо ён за мяне заступіўся...

– Цяжар, боль вялікія на матчыным сэрцы тваім, Рагнедзька, – уздыхнуў Вярнідуб. – Малыя яшчэ твае крывінкі. Без цябе іх на свой лад гадаваць будуць. Канечне, не ў павазе да Палацеска нашага.

Што яна магла сказаць пра сваю жаноча-мацярынскую горыч несусветную? Заплакаць, заліцца слязьмі? Гэта ні ў чым не ратавала яе. Ды была надзея, што ўсё ж Уладзімір верне ёй калі не старэйшых іхніх атожылкаў, то хоць малечу. Каб з маці раслі, з ёю свет, дабро спазнавалі. Дык і перавяла цяжкую гутарку на іншае:

– Чула, Палацеск наш абудаваны.

– Абудаваны. На новым месцы. Паўнапраўны гаспадар Уладзіміраў пасаднік, люты сын Касцяцін лютага Дабрыні. Веча наша забараніў, усё чыніць па сваёй прыхамаці. Яго дружына акі зверы. Ніякай непакоры не дапускае. Таму вось і ажывіліся ўсе, калі ты з сынам тут апынулася. З надзеяй... Можа, выкрасці нам твайго Ізяслава ды схаваць? Калі паб'ём прыхадняў, яго – на палацескі пасад... Падлеткі нашы, што пры табе былі, цяпер спраўныя вои... Гатовы для ўнука слаўнага Рагвалода жывата не пашкадаваць...

– Не трэба, – папрасіла. – Моц ва Уладзіміра вялікая. Самі візантыйскія базілеўсы папрасілі ў яго помачы, калі ваяводы супраць іх паўсталі. Цяпер ён у паходзе. І з яго ўжо вернецца з візантыйскай ухвалой. Дык

трэба чакаць лепшага часу... – І зноў перамяніла размову: – А кніжніца (бібліятэка) наша захавалася?

– Не, княгінька, – горасна пахітаў галавой Вярнідуб. – Кнігі дараваныя, пергамен чысты вывезлі, гліняныя дошчачкі з запісамі пабілі. А камень вялікі, дзе даўняя памяць пра Палацеск была высечаная, абклалі агнём, палілі, а потым вадой аблівалі... У агонь пакідалі і драўляныя дошчачкі з рунамі, рэзамі і рысамі... Навучальня адна ёсць, але ў ёй толькі дзеці пасадніка і яго верных людзей вучацца...

Рагнеда красамоўна перавяла позірк на Ізяслава: чуеш? Так што трэба нам, ох як трэба чыніць тое, што тут рабіць пачалі!

– Уся надзея на нашых багоў-апекуноў, – уздыхнуў Вярнідуб. – Трэба ім заўзяцей маліцца.

– Але, кажу ж, баярын, што і ў Палацеску, і ў Ноўгарадзе, ва ўсіх землях, над якімі Уладзімір уладу мае, будзе адзін хрысціянскі бог.

– А мы, княгінька, і сваіх, дзедаўскіх, шанаваць будзем. Выбачай, родная, а ведаеш, чаму тады Уладзімір гэтак лёгка ў Палацеск увайшоў, бацьку твайго знянацку захапіў?

– Аднаго разу, п'яны, ён сам расказаў пра тое, – адказала яна. І цяпер яшчэ адзін боль быў іменна і за тое. Уладзімір прыйшоў з Ноўгарада і з варажскай дружынай, дзе быў сынавец яе маці, Олаф. Вось ён і стаў іх не толькі госцем: варагі напаілі палачан сваім пітвом (у яго загадзя падсыпалі штосьці тое, што хіліць на сон), а ўночы перабілі варту, адчынілі вароты і ўпусцілі ў горад схаваныя іншыя Уладзіміравы дружыны. Олаф за падман і здраду займеў не адну маладую палонніцу-палачанку (апроч любімай, астатніх з дзецьмі і без іх прадаў на нявольніцкім рынку ў Візантыі, і яны патрапілі ва ўсходнія гарэмы ды рабыні) і шмат грыўнаў... Пасля, ужо ў Кіеве, і яго Уладзімір выдаліў з горада, і ён падаўся шукаць шчасця ў Візантыі...

– Мы, княгінька, гадалі, – загаварыў вяшчун. – І выгадалі: будзе твой Ізяслаў князем у Палацеску...

Яна не паспела нічога адказаць: сюды ўварваўся дзесяцкі дружыннікаў. Пажылаваты, цяпер п'яны, дык з чырвонымі шчокамі і налітымі злосцю вачыма. Як і яго дружына, ва ўсім абарыгенскім адзенні. Толькі ў новым і дарагім: аблавуха і кажух былі аблямаваныя шоўкам. Аблавуха – па-заліхвацку набакір, рука – на поясе, а з яго звісаў меч у скураных, вышытых срэбнымі ніткамі похвах.

– Прэч адсюль, зброднi (валацугі!) – закрычаў з парога.

Старцы спалохана падхапіліся: агонь у вачах дзесяцкага быў пагрозлівы, нават бязлітасны. Рагнеда ледзь паспела схапіць з паліцы і падаць сляпому баярыну бохан хлеба.

– Княгіня! – пасля таго, калі госці адзін за адным шпарка пакінулі пакой, ужо на яе зайшоўся крыкам дзесяцкі. – Ты!.. Ты парушаеш забарону князя Уладзіміра! Ні сама – за тын церама, і ніхто – нагой у церам! Ты!.. Ты за празорства (гордасць) заслужыла такую кару! Дык і сядзі хоць у залатой, але ў клетцы! Хіба не ведаеш, што я маю права і на пагубу цябе аддаць?! Князь, баяры не маглі, а я магу! І звестку падам: памерла! Ела, задыхнулася...

Яна не пачала ні апраўдвацца альбо штосьці тлумачыць, адвярнулася і, падаўшы знак рукой Ізяславу, падалася на другі паверх, выявіла да ненавіснага назірача толькі адно – маўклівую гордую пагарду.

## 4.

...Праз некалькі дзён Рагнеда зноў ўздрыгнула ад знадворнага лаянкавага голасу. Рэзка-грубавата-уладны, ён быў ёй добра знаёмы і, мала сказаць, непрыемны. Гэты тон запомніўся ёй яшчэ ў дзявоцтве, калі ім, зусім не напевам, было прамоўлена, каб Уладзімір па-мужчынску ўзяў яе пры бацьках. А пазней, у Кіеве, ён стаў ёй прыкры. Калі яна толькі ўчувала яго, ёй адразу прыпаміналася полацкае: “Коршак прыляцеў”. Гэты чалавек і быў у яе ўяўленні каршуном-шкоднікам, служкай Цмока, таму яго трэба гнаць прэч ад сядзіб. Цяпер знаёмец за штосьці выгаворваў падуладным яму дружыннікам.

– Хуценька хавай васкоўку, пергамен, – тут жа загадала сыну.

Падскочыўшы з лаўкі ад прачування блізкай небяспекі, Ізяслаў мігам затаіў усё на сваёй пасцелі пад падушкай і сеў паблізу яе. Як пачулася, непажаданы госць зайшоў у церам, у чорную хату, спаважна; перад ім там лісліва залепятала ключніца – прыстаўленая Уладзімірам да яе гаспадыня-пакаёўка, хітрая і выкрутлівая жанчына. Ён не затрымаўся і сюды, на другі паверх, падымаўся досыць па стромкай лесвіцы не спяшаючыся, нават цежкавата: быў ужо не малады уростам. Можа, і дзеля прыліку пастукаўся. Не чакаючы запросін, зайшоў. Вышэй сярэдняга росту, плячысты, з густымі навіслымі бровамі, сагнутым носам, як у драпежных птушак, таўстагубы, з сіваватымі вусамі і барадой. У дарагім візантыйскім кафтане, па чырвонай сукні якога залатымі і срэбнымі ніткамі былі вышытыя дзвівосныя кветкі і птушкі, на галаве – высокі стаўбун з чырвонага сукна, аблямаваны чорным собалем, на нагах – боты з зялёнага саф’яну. Абвёў яе цяжкім, спадлобным позіркам вялікіх жаўтаватых, як у лоўчага звера, вачэй. Не павітаўся, зноў не пачакаў запрашэння, сам прысеў пры стале, паклаў рукі на яго, пальцамі адной пастукаў па ім. Дабрыня. Уладзіміраў дзядзька па сястры Малушы. Тую яна, Рагнеда, у свой час назвала “рабыняй”, а Уладзіміра, не жадаючы выходзіць за яго замуж, – “рабынічам”. Хоць Малуша была не проста, як кажуць, чорная нявольніца: усё ж – дачка драўлянскага князя Мала. Кіеўская княгіня Вольга, звёўшы з гэтага свету таго за расправу над яе мужам Ігарам (за лішнія данінныя пабory), прыладзіла яе сваёй ключніцай. А сын Вольгі Святаслаў, закахаўшыся ў прыгожую чарняўку, зрабіў яе жонкай, маці Уладзіміра.

Рагнеда прысела каля сына. Як магла, супакойвала моцна заштуршкаванае сэрца: пазірай і ты Дабрыні ў вочы смела, нават задзірыста, не паказвай, што табе цяжка на душы, што ты зноў чакаеш ад яго новай злыбеды! Не трэба даць непрыяцелю пацешыцца з тваіх не толькі гора, але і асцярогі!

– Чаму парушаеш князеў наказ? – схмурыўся ён.

– Якую-такую забарону я парушаю? – Не павіталася з ім і яна. Як, лічы, не прывячаліся яны і ў Кіеве ды Лыбедзі. Ці абыходзілі адно аднаго, ці пры стрэчы не падымалі вачэй.

– Адлучалася. І прыймала пасланцоў з Палацеска.

– Адлучалася да свяцілішча, каб пакланіцца багам, святому дубу і каменю.

– Ты ж яшчэ ў Палацеску болей у царкву хадзіла, чым да капішча! –хмыкнуў. – Мы з Уладзімірам нават лічылі, што князь Рагвалод – патайны хрысціянін.

– Я зналася з хрысціянамі, вучылася ад іх грамаце, мудрасці кніжнай.

Яны ўгаворвалі нас прыняць хрост. Але бацька-князь сказаў: люд палацескі сумеецца. А то і незадаволіцца. Здрадзіць сваім багам-аберагальнікам і прадзедамі заведзенаму ладу спрадвеку? Ды яшчэ бацька сумняваўся, што хрысціяне маюць міласэрнасць, зычлівасць, дабрадзейства вялікія... “Пастырь и овцы...” Нават на паслухмяных авечак ёсць бізун і нож... Хоць бацька ўгадаў, што і на нашых землях будзе хрост. Змусовы, канечне. Не столькі на карысць пастве, а пастырам-пастухам...

– А пасланцы Палацеска? – перавёў гутарку на сваё Дабрыня. – Выпадкам тут заявіліся? Не на нейкі пошапт?

– То былі старцы. Бедныя людзі. Прыйшлі адведаць і пайшлі. А я, як была, так і засталася тут. Дык у чым мая такая вялікая віна перад вамі? У тым, што яшчэ жывая?

– Распрануцца дазволіш? – нібыта падлагодзіўся. – Гутарка ў нас будзе доўгая.

Яна хітнула толькі галавой. Ён падняўся, зняў з сябе staўбун, кафтан, потым адчыніў дзверы і гукнуў уніз, на першы паверх:

– Заносьце.

Неўзабаве сюды два дружыннікі ўвалаклі па пакоўным клунку, сшытымі з валовай скуры. Дабрыня нагнуўся, рассупоніў адзін з іх, пакорпаўся і дастаў шаўковы скрутак. Развязаў яго – яна ўбачыла знаёмую рэч. Вышыты ёю залатымі ніткамі пояс, з княскімі сімваламі – падарунак для жаніха-князя. Не толькі сярод князёў, баяр, але і паміж чэлядзі, смердаў і зямлі полацкай была такая завядзёнка – дарыць нявестай па поясе жаніху і яго сваякам. Каб тыя былі здаровыя, мелі сілу, былі ўратаваныя ад розных няшчасцяў (“без пояса быць грэх, а падперазанага чалавека і хатнік асцерагаецца, і лясун абыходзіць” або на няўдаліцу ці на зламысніка: “ён расперазаны...”).

– Уладзімір вяртае табе гэты дар, – Дабрыня паклаў пояс на стол. – Тым болей, што яго ты вышывала для Яраполка. Таго ён не ўбярог, а Уладзіміру даваў сілу. Я і Малуша паясы твае пакінулі сабе на памяць. Усё ж ты – маці нашых унукаў.

Яна пазірала на свой пояс калі не абыякава, то спакойна. Не трэба ён Уладзіміру, не патрэбен і ёй. Хоць мо будзе абярэгам для Ізяслава.

– А гэта, – Дабрыня кіўнуў на торбы, – табе падарункі ад вялікай княгіні Ганны. Яна, праўда, па-хрысціянску міласэрная. Хвалюецца за цябе, узяла на сябе клопат пра тваіх дзяцей.

Значыць, за гэтыя месяцы, што яна тут, у Кіеве ўжо многае змянілася: Уладзімір памог візантыйскім базілеўсам Васілю і Канстанціну адбіцца ад нападнікаў і задушыць паўстанне супраць іх, ахрысціўся і ўзяў шлюб з іхняй сястрой.

– А якое цяпер тваё будзе слова? – запытаў Дабрыня.

– Што ты хочаш пачуць?

– Вялікая княгіня Ганна хоча ведаць, што ты не запакінутая. Чакае ад цябе граматы, што дзеля дзяржавы нашай адмаўляешся ад шлюбу з Уладзімірам і ладзішся з іншым.

– Давай пагаворым пра гэта не пры дзіцяці.

– О, тваё гэтае чада! Як ты на мужа, так ён на бацьку меч падняў! Дык і не малы ўжо.

– Ён бараніў невінаватую маці.

– Маці-грэшніцу!

– Скрыўджаную і паганьбаваную вамі!

– Цяпер позна пра гэта гаварыць. Ты красна, велмі лепа (прыгожая) есі, да цябе і малады князь будзе рады пасватацца. Скажам, з ляхаў.

– Раней аддавалі за старога баярына, а цяпер ужо і за маладога князя гатовы спіхнуць!

– Вось гэтае тваё кічэнне (гонар!) – пакруціў галавой Дабрыня. – З-за яго ты мяне, маю сястру абразіла! Ды і з-за яго твае бацькі, браты пацярпелі!

– І ў чым жа была іх віна? – як і раней, не сцерпела яна і цяпер папікнуць Дабрыню ў злачынстве. – У тым, што мне, дачцы, сястры, жадалі шчасця?

– Не прыкідвайся авечкай нявіннай, – не саступаў са свайго і Дабрыня. – Ашуклівы Рагвалод хацеў абхітрыць Кіеў, каб узвысіцца над Ноўгарадам! Святаслаў быў спраўны палкаводзец, але не мудрэц вялікі. Ён нават сталіцу сваю хацеў перанесці ў зямлю баўгарскую! Не слухаў маці сваю, не хацеў прыймаць хрост. Не бачыў, што і праз яго можна дзяржаву амацаваць! Палацеску вялікую волю даў! І Яраполк быў не мудры, таксама Палацеск не меўся асадзіць. Вось Уладзімір і мусіў скарыць як яго, так і Кіеў. Ды так, каб яго і сябе ўзвысіць над многімі землямі блізкімі і далёкімі. І шмат новых краёў узяў пад сваю руку. Візантыйскія базілеўсы яго за роўнага сабе прызналі! Як ніхто да яго, цяпер ён тут сам базілеўс! Ды ладна. Ты – не дурная, але і не разумееш, што Уладзімір хоча... Давай мне яснасць: напішаш грамату, што хваліш хрысціянскі шлюб яго?

Зірнуў на яе зноў цёмна:

– Іначай пойдзе ад мяне грамата, што ты “прастудзілася каля капішча і памерла...”.

– Табе не першы раз чыніць загубу, – не збаялася. – Ты адурманены злосцю, помстай. Ты – з няскай сям'і, бацькоў тваіх загубіла княгіня Вольга. Вас пашкадавала. Ты пакутаваў, але разлічыў: калі твая сястра стане хоць бы толькі палюбоўніцай Святаслава, то ён верне табе бацькаў пасад. Не вярнуў. Ці не паспеў: па зламыснасці візантыйскай і па іхняй падказцы яго загубілі печанегі. Тады ты стаў хітры і злы. Захацеў Уладзіміра ў руках трымаць. Зноў нічога ў цябе не выйшла. Уладзімір змусіў цябе, дзядзьку, яму служыць. А ў Кіеў не буду пісаць, што хвалю гэты шлюб. Скажу толькі: не супраць яго і перастаю лічыць сябе жонкай Уладзіміра.

– Я еду ў Ноўгарад з дружынай вялікай і візантыйскім епіскапам, – сказаў той. – Будзем, калі трэба, і сілай нішчыць старыя ідалы і гнаць люд у ваду на хрост. Каб застацца жыць, ты і Ізяслаў таксама павінны ахрысціцца. Ужо днямі. А потым ахрысціць зямлю палацескую. І пра гэта павінна напісаць. А мужа табе падбярэ ўжо Ганна наша.

– Болей замуж не пайду, – цвёрда сказала яна.

– Дык хто вас будзе карміць?

– Люд не дасць прапасці з голаду.

– Ладна. Парадую: візантыйскія базілеўсы, Уладзімір і Ганна, баяры нашыя рашылі лёс Ізяслава. Ён паедзе князем у Палацеск і па бацьку падоўжыць род Рурыкавічаў, а па табе, па кудзелі, – род Рагвалодавічаў.

Нарэшце не толькі за месяцы, але і за многія гады шчаслівa ўстрапянулася сэрца: хоць з адным дзіцем ды будзе ў родным Палацеску! Ізяслаў – яго дзедзіч-князь! Хай сабе не ганарова “па мячы”, а “па кудзелі”, але род палацескіх князёў, гісторыя Палацеска падоўжацца! Зірнула на сына: ажывіўся, асвятлеў тварам і ён. Адчувае тое, што ведае яна.

Дабрыня назіраў то за ёй, то за Ізяславам, паблажліва пасміхаўся з зіхоткага бляску ў іхніх вачах. І раптам ужо са злараднай насмешкай:

– Ізяслаў паедзе ў Палацеск адзін. Без цябе.

О, хрысціянская міласэрнасць! Льнулі, як з бадні ледзяной вады! Больш – ткнулі шылам у сэрца! Як? Адзін? А яна?

– Ён жа малалетні яшчэ, нікога там не ведае, – усё ж не стрывала, зажалілася.

– Пры ім пасаднікам будзе мой сын, – "супакоіў" ужо вясёлы Дабрыня. – Сталы, кемлівы, разважны, здольны пеставаць юнага князя і памагаць кіраваць княствам.

Рагнедзіна сэрца адстрапянулася ад радасці, зайшлося мо і самым занылым за ўсе часы болем. Ужо зусім не мела сіл стрымацца, не толькі дала волю слязіне – душа, вочы затуманіліся, аплылі слязьмі, і яны пацяклі па шчоках.

– Што ж вы, міласэрнікі, дабрадзеі, чыніце? – адчаілася. – Вы рвяце мне сэрца! Адбіраеце ад мяне ўсіх дзяцей! – Яна ўставіла позірк у Дабрыню, дык не бачыла, што Ізяслаў анямеў і стаў белы-белы. – Як мне жыцьбыць адной, як персту?!

– Паўтараю, ты можаш выходзіць замуж, мець яшчэ дзяцей, – яе слёзы Дабрыню не кранулі.

– Як бяздушна! Нелітасціва! Бязлітасна!

– Так? Дурная, табе будзе вялікі падарунак – тваё жыццё... Базілеўсы візантыйскія, іх любімая сястра добра ведаюць: ты – стрэмка Уладзімірава. Яны мала вераць, што ты проста так адмовілася быць вялікай княгіняй. Напішы, што гэта так. Тады твае дзеці будуць дагледжаныя. Яраслаў паедзе князем удзельным у Растоў, Мсціслаў – у Цьмутаракань, а Усевалад – ва Уладзімір-Валынскі, што, як ведаеш, на мяжы з ляхамі. Іншыя Уладзіміравы сыны паедуць у іншыя гарады. Вось я вязу Вышаслава ў Ноўгарад, а Святаполк паедзе ў ваш любімы Тураў.

Вышаслаў – самы старэйшы сын Уладзіміра з варажкай Алогіяй; яе бацька даў сілу зяцю, каб ён вярнуў сабе Ноўгарад, узяў там падмогу і рушыў на Палацеск і Кіеў. Уладзімір і Алогія, як казалі, толькі кароткі час жылі як муж і жонка. І з-за яе, Рагнеды, і з-за таго, што Уладзімір падмануў яе землякоў-вояў: кляўся, што шчодра заплаціць ім за паслугу, але пасля сваёй перамогі плату адкладваў, дык урэшце пакрыўджаныя памагатыя сыйшлі на службу ў Візантыю. Святаполк – сын Яраполкавай жонкі, балгарыні Мілалікі. А вось хто яго бацька – пра гэта рознае гаварылі. Адны называлі Яраполка, іншыя – Уладзіміра. Святаполк рос злым ваўчанём. Мо і па настроі маці. Святаслаў хацеў зрабіць сваёй сталіцай у паваяванай ім балгарскай зямлі; казалі, балгары згадзіліся і на гэта, і на тое, каб ён, язычнік, узяў за жонку іхнюю манахіню. Ды штосьці не выйшла, сталіца засталася ў Кіеве, а Мілаліку Святаслаў перадаў як жонку... сыну Яраполку. Пасля яго забойства Уладзімірам яна, нашмат старэйшая, нялюбая, па тагачасным звычаі дасталася яму, Уладзіміру. Да яе і Святаполка той быў абыякавы. Цярпеў па законе таго часу.

– Уладзімір не зусім жадаў укняжваць сыноў, – патлумачыў Дабрыня. – Пазней, пасля яго, яны могуць не паладзіць, перасварыцца, пайсці адзін на аднаго вайной. Як ёю вызначалі сваё месца на кіеўскім пасадзе Алег, Яраполк і ён, Уладзімір. Ды ён мусіў услед за бацькам Святаславам парушыць "единодержавие". На гэта настояла Візантыя. Каб не надта

ўмацоўваць Кіеў, Русь. Таму і яна настаяла даць найбольшыя правы твайму Ізяславу...

– Хоць дачок пакіньце пры мне, – Рагнеда, канечне, прыслухоўвалася да ўсіх гэтых навін, ды мусіла папрасіць пра іншае. Пра крэўнае. Мацярынскае.

– Не. Імі будзе апекавацца Ганна. А потым яны стануць жонкамі тых князёў, што будуць патрэбныя Кіеву, – як адсек Дабрыня, а пасля забадзёрыўся да Ізяслава: – Ну што, княжыч? Рады?

Ізяслаў змаўчаў. Яго мо не столькі ўсцешыла, што ён будзе ўзвышаны, колькі засмуціла тое, што ён апынецца без апірышча – любімай маці.

– Едзь і помні пра вялікую ласку да цябе, – вёў сваё Дабрыня. – Без матчыных пяшчот, пры розуме і моцнай руцэ, кажу, сталага пасадніка ты станеш сапраўдным князем. Але помні: ты – не толькі ўнук Рагвалода, але і Святаслава. То слухайся парад свайго мудрага бацькі-базілеўса, будзь яму верным сынам. Не гардавуся Палацескам. І не настройвай яго на нязбытнае. Мо і ведаеце, Палацеск ужо не трымае ў сваіх руках многія валокі па шляху, што вядуць з варагаў у грэхі. Дык не надумайся адбіраць іх у бацькі. Іначай ён строга пакарае цябе. А жаночую ласку табе скора дасць жонка. Ганна падбярэ табе годную князёўну.

Калі Дабрыня пакінуў іх, Рагнеда шпарка кінулася да кута святліцы, узяла венік-дамавік і падмяла да таго ж кутка ўсю мясціну, дзе ступалі ногі страшнага для яе чалавека. Каб вымесці яго і адсюль, і з памяці.

## 5.

Пры Дабрыні Рагнедзе і Ізяславу дазволілі выходзіць з церама не толькі на двор, але і па-за яго. Дык яна бачыла ўжо, як свіслачане святкавалі камаедзіцу. Іх запрашалі не ў адну драўляную будыніну і паўзямлянку, палівалі ім рукі з глінянага гляча, што наверсе меў форму разяўленай мядзведжай зяпы (мядзведжая галава на адным са слупоў пасярэдзіне была і на капішчы ў Валоўшчыне), частавалі вараным рэпнікам, аўсяным кісялём, гарохавымі камамі. Пасля, калі старыя і малыя паляжалі на тапчанах ці на ложках, паварочаліся (каб было лягчэй устаць у бярлозе мядзведзю), пацешыліся забаўкай аднаго з гаспадароў з прыручаным мядзведзем. Праўда, калі затым ушаноўвалі адну з маладзіц, Дабранегу, як самую дужую сярод жанчын, якая магла паваліць долу не аднаго мужчыну (значыць, яна волатаўскім ростам і сілай, водалюбствам, апякунствам маладых і парадзіх, ваярствам удалася ў сяброўку бога Вялеса), засмуцілася. Ёй успомнілася стрыечная сястра, дачка дзядзькі Тура Настасся. Яе таксама называлі волаткай: яна спрытней за многіх мужчын-ваяроў вершнічала на кані, страляла з лука – магла зводдаль стрэліць ва ўваткнуты касяком у дрэва нож так, што стралу расколвала аб лязо. Было паданне: аднойчы гэтым пасаромела перад воямі свайго маладога мужа-асілка, і той, падпіты, не выцерпеў насмешак за свае няўдалыя стрэлы і новую стралу паслаў не на нож, а ў любімую жонку. Самалюбец-гарачун, загубіў і яе, і ненароджанае дзіця. Ад жаху вояў апомніўся, увагнаў меч сабе ў грудзі...

Рагнеда і Ізяслаў сузіралі, як прыляцелі буслы – марудна веславалі парамі, плаўна кружыліся над паселішчам, а пасля велічна апусціліся на старое гняздо, на яшчэ летась накрытую барану. Прынеслі люду не адну радасць: і ўшанаваннем, і знакам, што некаму “будзе ўкінутае дзіця”, і дабра-

весцем, што ўжо зямля перастала быць цяжарнай, пачынае свае роды, дык можна араць і тое-сёе сеяць. Скажам, у сонечным і загадзя ўгноеным месцы зерне капусты на расаду, а неўзабаве – авёс, пасля пшаніцу, проса. Услед за прылётам буслоў наваколле асвятлелася, нібы разгарнулася, водарна і п’янка запахла – вясенняй сырасцю, сухім удзень паветрам, падцепленай зямлёю, авесялым жытам ды маленечкімі вяршочкамі маладой травы.

Сёння, у сонечны, з высокім блакітным небам, ацеплены, нават гарачаваты красавіцкі дзень, Рагнеду і Ізяслава падвялі да нешырокай, ужо з даволі празрыстай вадою ракі, толькі яшчэ з голымі алешынамі, лазой і з набухлымі пушыстымі кветкамі на вербах абапал берагоў (нямала галінак на вербах было адламана – на пляценікі (кошыкі). Тут, на лузе яшчэ з леташняй, шэрай травой, але ўжо і з адростачкамі новага, зялёнага пустазёлу, з вырытымі кратамі ўзгорачкамі чорнай зямлі, сабраўся прысвіславіцкі люд. Усе, хто мог хадзіць, – старыя, маладыя, дзеці. Яны з цікавасцю азіралі незвычайную працэсію – яе з сынам, Дабрыню, трох незвычайных візантыйцаў, свайго Мудраслава і дружыннікаў, – што кіравалася да грудка каля рэчкі.

Гэтае прысвіславіцкае паселішча было невялікае, усе добра ведалі адзін аднаго, дык раней мігам разышлася погаласка пра тое, што тут заявіліся былая полацкая князёўна, цяпер вялікая княгіня кіеўская і яе старэйшы сын. А цяпер таксама птушкай абляцела навіна: прыезджым, іхняму Мудраславу і ім усім трэба будзе прымаць новую веру. Вось і загадалі ўсім сабрацца тут. Незадоўга да таго часу, калі тут і воддаль звычайна збіраліся грамадою вітаць Ярылу – бога сонца і пладнасці. Як Рагнеда добра помніла, звычайна раней вось гэтак жа сыходзіліся людзі, да белага каня падводзілі і садзілі на яго маладую прыгожую дзяўчыну ва ўсім белым і ўхарашаванай першымі вясновымі кветкамі. Вакол Ярылы моладзь карагодзіла, спявала. Цяпер не было ні слупа, ні белага каня і дзяўчыны на ім. Таму люд быў не проста насцярожана сціхлы, а разгублена- ашаломлены. Тым больш, што яго абкружыла дружына ў баявых даспехах.

– Крывічы і сем’і дрыгавіцкія, – на грудку наперад іх выйшаў Дабрыня ў сваіх шыкоўных стаўбуне, кафтане і ботах, уладна падняў руку. – Глаголеці буду ад імя вялікага кіеўскага князя Уладзіміра, мітрапаліта кіеўскага Міхаіла і па просьбе епіскапа Іаакіма, – кіўнуў галавою таму, пажылаватаму, выпешчанаму тварам, строгаму, які пазіраў на ўсіх звысоку (быў у цёмнай рызе, але з багата ўпрыгожанымі яркімі накладніку на плячах, мітры і падвесцы на грудзіне, з посахам у руцэ; тыя візантыйцы, якія стаялі абапал яго, былі маладзейшыя і нібы на адзін твар і ўбор – у чорнай рызе і клабуку на галаве, з падвесным крыжам на грудзіне). – Бачыце, які сёння яркі, светлы і цёплы дзень! Вы па-старому лічыце: такую радасць дае нам нейкі Ярыла. Не! Не было і няма ніякага Ярылы! Гэта – выдумкі старых, цёмных людзей! Як і пра іншых стодаў ці, як яшчэ кажуць, ідалаў. Яны – ад нашай старой веры, а яе ўжо многія языкі (народы) палічылі паганскай. (Як вядома, слова “паганства” па-лацінску мела абразлівы сэнс, як прыкладна ў нас вымоўе “дзеравеншчына”. Хоць старая вера ў шматлікіх народаў шчыра была язычніцкая – г. зн. шматбожная, ідалапаклонніцкая, калі не толькі прыносілі крывавыя ахвяры, але і берaглі кожныя раслінку, жывёлінку, нораву і звычаі сваіх прадзедаў. – *Г.Д.*).

Дабрыня вёў сваю казань далей:

– Амаль усе нашы суседзі адмовіліся ўжо ад ідалаў, перайшлі на

новую веру. Яны параілі зрабіць гэта і нашаму Уладзіміру. Ён паслухаў магаметанаў, іўдзеяў, хрысціян ад Царграда і ад Рыма. Потым паслаў у тыя краі мудрых людзей: паглядзіце і скажыце сваё слова пра тыя рэлігіі. Затым сабраў многіх мудрых людзей і ўсе разам паслухалі ім пасланых. І амаль усе пагадзіліся: нам найбольш падыходзіць хрысціянская вера з Візантыі. Такое слова сказаў і вучоны муж з Палацеска Іаан. Яго ведае і Рагнеда, што во за маімі плячыма, – не азіраючыся, на яе паўз плечука толькі тыцнуў вялікім пальцам. – Вялікі князь, баяры паслухаліся яго. Гэта во, – паказаў на неба, – сонца, святло і цяпло наступіла пасля непагадзі. Ад новай веры. Яна – не ад зямнога нейкага бажка – ад нябеснага Бога! Ён утварыў Сусвет, ён і ўладар яго! Ён – трыадзіны: бог-бацька, бог-сын і святы дух. Бог-сын, Хрыстос, узяў на сябе кару за грахі чалавечыя, прыняў смерць на крыжы, то наш усіхны выратоўца. Яго ўмярцвілі ворагі і рымляне, ды ён уваскрос, узняўся ў неба. Вучні-апосталы перадалі нам яго наказ. Ён так і называецца: Новы запавет. Калі мы пачнем слухацца яго і нашага вялікага князя (а ён будзе са слугамі Хрыстовымі спаўняць яго волю тут, на зямлі), то будзем жыць не толькі на цвердзі зямной, але і ўвысі, на небе. У пакоях нябесных. Ураі. У Богу і праз Бога. Калі ж хто не прыме святога Новага запавету, падоўжыць жыць з сілай грэшнай, па старых забабонах, у непаслушэнстве і не раскайванні, то яго чакае пасля смерці пекла – гарачая смала ў катле. Ад веры Хрыстовай нам будзе і яшчэ вялікае святло – храмы божыя, духоўныя вучылішчы, грамата, кнігі боганатхнёныя. Самыя разумныя, душой адданыя новай веры, праведнікі навучацца чытаць і пісаць, яны будуць шмат ведаць, а з імі і мы ўсе перастанем быць цёмнымі. Праўда, цяпер многім можа не спадабацца тое, што хрысціяніну трэба мець толькі адну жонку. Адна яна будзе і ў вялікага князя Уладзіміра – візантыйская царэўна Ганна. Рагнеда, – зноў непачціва, не павярнуўшы галавы, патыкаў тым жа пальцам паўз плечука, – згодная з гэтым. Як і згодная з сынам сёння ж і асвяціцца хростам. Яна сама можа сказаць тут жа пра гэта. А хрост дасць ваш свяціцель, святы айцец візантыйскі епіскап. Канечне, не так як яго давалі вялікаму князю Уладзіміру. А так, як можна тут, у вашай глушы. Ад аднаго майго кіўка гэтай рукі... – Замаўчаў на некалькі хвілін, вытрымаў паўзу. Пасля: – Глядзець буду пільна, дзе ваша згода, а дзе непакора! Вялікаму князю кіеўскаму Уладзіміру! Ён так і сказаў: хто не са мной, той супраць мяне!

Канечне ж, бадай, усе не зразумелі, тым больш не пахвалілі ў душы, пра што ён, грозны Дабрыня, гаворыць пра новую веру, але ўсе, старыя і малыя, кожнай жылкай адчулі іншае – баявых Дабрыніных дружыннікаў перад сабой і за плячыма. Яны тут не для пацехі і забаў!

Названы епіскапам (у грэчаскай мове “наглядчык”) Іаакім нечакана са строгасці змяніўся нібы на міласцівасць і, мабыць, крыху разумеючы палянска-кіеўскую гаворку, не зусім чужую да крывіцка-дрыгавіцкай, хітнуў Дабрыні ў знак падзякі галавой, павярнуў галаву да праваручнага сусвяціцеля – той шпарка са срэбным глечыкам рушыў да Свіслачы, зачэрпнуў там вады і зноў паўстаў каля свайго старэйшыны. А той быццам безуважна павярнуўся да яе, Рагнеды, Ізяслава, Мудраслава з сям’ёй. Леваручны памагаты епіскапа паднёс да іх ікону.

– Рагнеда, – спаважна прамовіў Іаакім помессю славянскай мовы. –Знаю добра: хто– хто, а ты ведаеш: гэта – абраз Найсвяцейшай Багародзіцы, маці Хрыстовай. Яна нарадзіла яго, Хрыста, ад духу святога сабе і на радасць,

але і на гора вялікае. Каб яе сын адзіны і любімы праз пакуты пайшоў на подзвіг вялікі. Подзвіг яго адбыўся. Ты – зямная жанчына вялікая, маці дзяцей многіх. Ці згодная ты ўшанаваць боль матчын, пакланіцца той маці, Хрыстовай?

– Я любой маці пакланюся нізка, – звышспакойна адказала яна незнаёмаму ёй візантыйскаму святацелю. – Але і вы зразумейце мяне: у той Маці было адно дзіця, а ў мяне іх – шасцёра! Значыць, і боль мой большы.

– Але яно, тое адно дзіця, пайшло на такія нечуваныя пакуты і смерць дзеля людзей на ўсім свеце. А твае дзеці будуць дагледжаныя! Укняжаныя! Дык ты супраць іх шчаслівай долі? Ты можаш хоць крыху ўзяць на сябе сваю асабістую горыч мацярынскую? Адмовіцца ад звання вялікай княгіні і стаць простай рабай божай? Божай авечкай у божым статку?

– Магу. Калі гэта трэба дзеля маіх дзяцей і ўсіхнага людскога дабра, – ужо ахвяруючы ўсім сваім душэўным, адказала Рагнеда гэтаму Іаакіму, які з магутнай дружынай Дабрыні прыбыў менавіта сюды – дзеля яе скоранасці. А там далей – паслухмянасць усяго гэтага годнага для жыцця чалавечага, духоўнасці яго люду, які цяпер замёр: а як павядзецца яна, былая князёўна полацкая? Яна можа ахвяраваць сабой, але яна не мае ніякага права ахвяраваць гэтым людам. Самага лепшага з яго сёння ж выб'юць, і за гэта віна ляжа на яе. І мо на яе дзяцей. А маленечкай з іх няма яшчэ і двух гадоў! Згодна біблейскіх паданняў, тая Маці змірылася, аддала на пагубу адзінага, лёгка народжанага ад Духу сына, але як абыякава аддаць у чужыя рукі на жыццёвыя турботы з зямным болем спароджаных шасцярых дзяцей?! І што яна цяпер павінна тлумачыць роднаму крывіцкаму люду? Пакланяйцеся Уладзіміру і ім пакліканых святацеляў, кайцеся перад новым Богам? Не будзьце самімі зямнымі, а толькі спадзявайцеся на рай на тым свеце?!

Праваручны святаслужка паказаў вачыма ёй, Ізяславу і Мудраславу працягнуць далонямі рукі. Кожнаму тры разы льнуў на іх, каб яны апалосквалі вадой твар. А потым паказаў стаць на калені. А калі яны апусціліся, то епіскап паводзіў перад імі крыжам, гаварыў і спяваў ужо на, можа, толькі ёй і Ізяславу зразумелай грэчаскай мове.

– Вось яны– першыя тут хрысціяне, – калі яны зноў сталі на ногі, сказаў Дабрыня. – У Кіеве, у Ноўгарадзе хрост будзе іншы. Там ідалы будуць патопленыя, а люд амыецца ў рацэ. А цяпер, тубыльцы, слухайце іншае! Вялікі князь Уладзімір ласкава пасылае князем у Палацеск сына Ізяслава, – як па-бацькоўску прытуліў таго да сябе. – Ён становіцца і вашым князем. А паселішча ваша з сённяшняга дня – хрыстаносны град Ізяслаўль. Дык прысягніце свайму князю, сыну Уладзіміраваму, унуку Святаслава на вернасць! І таксама прыміце хрост.

Усе збянтэжыліся; старэйшыя пачалі абменьвацца позіркамі адзін з адным. Канечне, уражвала, што акленчыліся былая полацкая князёўна і яшчэ нядаўна вялікая княгіня кіеўская, яе сын, іхні Мудраслаў, але...

– Вы – што?! – прыкрыкнуў Дабрыня. – Супраць волі Уладзіміравай? Супраць сына яго Ізяслава?! Супраць свайго Мудраслава, які будзе тут мо і пасаднікам?

Людскі гурт разгубіўся; Рагнеда сэрцам адчула: бадай, ніхто не быў супраць таго, каб тут закнязіў Ізяслаў, але зноў жа "але..." Вера! Здрада хоць сабе і "старой", як кажа Дабрыня, але дзедаўскай!

– На калені! – уладна загадаў Дабрыня. – Хто не пакалоніцца, хай не

наракае на мяне! Кажу ж, загад! Калі аслухаецеся, з кожнай сям’і выберам па чалавеку і...

І выхапіў з похвы меч, ускінуў руку з ім уверх:

– Хочаце спазнацца з ім, вострым і смертаносным?

Люд бухнуў вобзем. Візантыйскі епіскап, канечне, цяпер, можа, і не мог не адной сотні чалавек па тры разы ваду на рукі ліць(колькі трэба было бегаць па яе); ён зноў прачытаў сваю незразумелую людзям малітву, бласлаўляў усіх крыжам, а потым у паднесены памочнікам глечык апускаў кадзіла і акрапляў ім каленнасхілены люд. Пакуль ён хадзіў сярод паствы, а Дабрыня з уцехам назіраў за гэтым, адбылася такая размова:

– Я нічога не зразумеў з малітвы гэтага Хрыстовага слугі, – улучыўшы момант, шапнуў Рагнедзе Мудраслаў. – Чужая нам мова.

– Але такой яна будзе для нашых асветных людзей, – шэптам адказала яна. – Гэтай веры трэба не столькі, каб просты люд у чымсьці разбіраўся, а каб найперш верыў, пакланяўся... І Хрыстоваму слузе, і князю...

– Не хутка, княгінька, люд паверыць чужаземнаму, адрачэцца ад свайго, роднага... Калі ты едзеш у Палацеск?

– Мяне туды не пусцяць. Змушаная застацца тут, пры табе.

– Як?

– Вось так... Не трэба я там, пры сыне і людзях сваіх... Але пра гэта пазней. Калі адсюль выберацца гэты коршак...

– Мы цябе ў бядзе не пакінем.

– Дзякуй. Тады папрашу: я дам табе куны, грыўны – пабудуй для мяне паўзямлянчку. А сам вяртайся ў свой церам.

– Што ты, княгінька?

– Я не магу больш жыць у харомах і церамах... Не магу жыць у палатах-святліцах, сытна есці, весяліцца, моцна спаць...

...Дабрыня падаўся хрысціянізаваць Ноўгарад; Рагнеда мусіла выпрасіць у яго некалькі дзён, каб пабыць на развітанне з сынам.

“Дык што ж усё-такі ты будзеш рабіць тут, у гэтых лясах і балотах?” – запытаў ён.

“Жыць, – як заўсёды дзёрзка адказала яна. – Ці дажываць”.

“Не хітруй. Калі ты толькі паспрабуеш неяк трапіць у Палацеск альбо перадаць свае павучэнні Ізяславу, цябе чакае верная смерць!..”

“Што ж, памучуся тут. А потым, можа, пайду ў чарнарызніцы. Я ведаю, што гэта такое, – манашка.”

“Але ж і ў Кіеве яшчэ не хутка будзе манастыр”.

“Значыць, я стану першай манашкай на землях гэтых. Без манастыра”.

“Усюды ты хочаш быць першай!”

“Памыляешся. Я не першая нявеста Хрыстова. Але ад імя Яго буду маліцца за дзяцей, за люд гэты...”

...Ізяслаў жа пры развітанні, калі выходзілі з Мудраслававага церама, каб яму сесці на каня і з Дабрыневымі дружыннікамі ехаць у Палацеск, утуліўся ёй у грудзі:

– Мама! Мамачка! Родненькая!

– Едзь, сынок, – сказаўшы ціхенька, каб не пачула чужое вуха, папрасіла. – Такі ўжо выпаў якраз табе лёс. Цяпер аднаму паслужыць і прадзедам нашым, і ўсяму люду палацескаму, іхнім дзецям, унукам. Больш назірай,

слухай, чым гавары. Мацуй Палацеск. Паволі спазнавайся з усімі суседзямі палацескімі, старайся зрабіць іх не ворагамі, а сябрамі. Потым ох як гэта спатрэбіцца! Калі – на тое прыйдзе свой час...

– А мы бачыцца будзем?

– І на гэта пакажа час, – а пасля зноў ціхенечка яму на вуха: – Яшчэ – пра час. Прыйдзе ён – ты пасталееш, жэнішся. Як казаў Дабрыня, знойдзеш ласку жаночую. З жонкай. Радуйся, калі табе трапіць пекная, пяшчоты і дабрыні вялікай. І я цешыцца буду за гэта. Але толькі прашу цябе сардэчна: не называй свайго сына Уладзімірам. І каб твой сын не называў свайго сына так. Чуеш?

– Чую, – прашаптаў таксама Ізяслаў. І ўжо зусім стала: – Так і будзе, мама.

## З “Рукапісу...”

“Божа, як засвяцілася мне наша даўніна, калі я прачытаў старажытны полацкі летапіс!

Як я па-новаму спазнаў кароткі век жыцця лёс і сёння для многіх загадкавага Рагвалода! Лёс для яго, чалавека і князя, трагічны, а для нас... шчаслівы! Шчасны тым, што быў Ён, гэты багамі старымі пасланы нам Рагвалод! І сваёй смерцю Ён напрарочыў ацалелым ад Уладзіміравага мяча, нават нам, цяперашнім, годнасць Людзей, Народа, Дзяржавы!

Які па-чалавечаму высокаўзнёслы, але і не па-чалавечаму звышпакутны Рагнедзін шлях! Колькі чаго яна выцерпела! Але як адуховіла, наладзіла быць у вялікім сэнсе Будаўніком старэйшага сына, Ізяслава! Якія іншыя былі б пры ёй малодшыя сыны і іхнія дзеці ды ўнукі, некаторыя з якіх Полацку ўчынілі шмат зла!..

Розны лёс Рагнедзіных дзетак, ёй так аплаканых, што, можа, і ад выплаканага яе чалавечае сэрца не вытрывала, спынілася, каб яна больш не пакутавала на гэтым свеце, дзе ёй было забаронена нават бачыцца са сваімі крывінкамі!.. Калі пра Ізяслава найбольш напісана ў полацкім летапісе, то, скажам, пра яго малодшых братоў Яраслава і Мсціслава, нямала напісана і ў іншых хроніках, у тым ліку і замежных, з часу першага гісторыка ўсходнеславянскіх і суседніх зямель Нестара.

Паселішча, куды з Кіева перабраліся Рагнеда і Ізяслаў і названае ў гонар Ізяслава, полацкі летапіс спачатку называў па-living – Изяславль, Жеславль, Жаславль, але затым прыжылося іншае, апрошчанае, ахарошанае, як кажуць, просталюдзінамі: Заслаўе.

Ізяслаў аднавіў і павёў далей лад дзеда Рагвалода. Праўда, спачатку не меў ад гэтага вялікай радасці... (далей пра гэта ў апавяданні “Ізяслаў”. – *Г.Д.*). На жаль, мне не ўдалося шмат вычытаць, як жыла ў Заслаўі ў глыбокай самоце ўжо не вялікая кіеўская княгіня Гарыслава-Рагнеда, а манашка Анастасія і што ды як яна дзеела. Таксама, на жаль, маю зусім скупыя звесткі пра Рагнедзіных дачок, Ізяслававых сясцёр Прадславу і Праміславу, хоць яны ў свой час былі вядомыя. Яшчэ раз паўтаруся: калі не першыя, то адны з першых з дачок усходнеславянскіх князёў сталі жонкамі замежных уладароў, дык і самі розумам, высакароднымі дзеямі, і дзецьмі, унукамі спрыялі іншым краінам. Яшчэ менш магу штосьці сказаць пра самага малодшага Рагнедзінага сына Усевалада: ён і не вызначыўся, як Ізяслаў, Яраслаў ды Мсціслаў, і мусіў ратавацца ўцёкамі са свайго княства, рана скончыць сваё жыццё за мяжой (тое-сёе з Ермаловічавых доследаў пра Прадславу, Праміславу і Усевалада ў творах з такімі назвамі таксама будзе далей. – *Г.Д.*)”.

*(Працяг будзе)*

Васіль Жуковіч



...Недалюбліваю клятву.
Не трываю здрады...

# Дабро і зло

### *БУДЗЬ ДАБРАСЛАВЁНАЯ*

Я люблю цябе, мая Беларусь!
Люблю тваю мірную і мужную зямлю,
Ласкавыя і пагрозлівыя тваё нябёсы,
З акіянамі, марамі ды азёрамі сінечы
Між фантастычна-велічнымі гарамі аблокаў,
Паўстаннямі навальніцаў, бліскам маланак,
Гучнымі арганамі грамоў,
сямістыннай вясёлкай.

Самыя пяшчотныя васількі
цвітуць на тваіх палях,
Самыя натхнёныя жаваранкі
заліваюцца песнямі ў тваім небе,
Самыя закаханыя ў свеце – твае салаўі,
Самыя тужлівыя ў свеце – жураўкі твае.

Беларусь! Мая любоў да цябе – святая.
Не магу цябе пакінуць надоўга:
Радавацца і пакутваць хачу толькі з табой
(Спачуваю змучана-змушаным
тваім эмігрантам--
Папярэднікам і сучаснікам,
а магчыма й наступнікам)...
Ты ўся – з песнямі, палямі і пушчамі,
рэкамі і азёрамі,
Дарогамі і сцяжынкамі, крыжамі і валунамі –

Жывеш у маім сэрцы.

Мая любоў да цябе драматычная,
Маці-пакутніца, у стагоддзях залежная,
Жорстка абкрадзеная, зняважаная!
Скрыжаванне тваіх шляхоў –
Гэта крыж, на якім распнуты
Хрыстос запаветнае волі тваёй.
Але мудрыя твае казкі вучаць:
Агрэсіўнае, вераломнае зло
Не зможа перамагчы даверлівага дабра.
Ці не таму ў тваёй чуйнай душы
Побач з легендамі й казкамі
Народжаны самыя сардэчныя песні
І гучаць яны на мове, такой мілагучнай!

Маці прачыстая! Кланяюся табе,
Няскоранай, мужнай, пакуль незаможнай,
Лясной і азёрнай зямлі,
Сівым курганам, манументам,
Нябёсна-сінім зорачкам васількоў;
Услухоўваюся, як цішыня крыніцаў,
Водар суніцаў, грыбоў
Рыфмуюцца з навальніцай, дажджом,
раскатамі грому --
І душой багамольна ўзыходжу
Да жаўруковых мелодыяў,
Да мадрыгальных пошчакаў салаўёў,
Светлай тугі жураўлінай,
Да нябёсаў тваіх жыццядайных.
О, мая назаўсёды любімая,
Будзь дабраславёная!
Багаславёная!

*2000, 2010*

## НАІЎНАЕ ПЫТАННЕ

Няўжо вам не баліць, панове,
Вярхі, дзяржаўныя мужы,
Што нашай, бы дзяржаўнай, мове
Няма як вольна дыхаць, жыць?!

Няўжо ніколечкі не сорам
Вам, хто вакол руля стаіць,
Мірыцца з найцяжэйшым горам,
Яго старацца й затаіць?!

Так, гора нацыі цяжкое,
Бо дзе сустрэнецца яшчэ
Дзікунства страшнае такое,
Каб мова зводзілася ўшчэнт!

Ад цемрашальства сёння мода:
Каб мове дагадзіць чужой,
Глушыць сваю, не даць ёй ходу...
Як можна зашкурэць душой?!

А прыйдзе час – і кожнай здрадзе
Трэ будзе ганьбу перажыць,
Усім, хто, будучы ва ўладзе,
Для мовы роднай стаў чужы.

*2005*

## МУДРЫЯ ПТАХІ

На адным з помнікаў Менску
Выбіта: ФЭ Дзяржынскі,
Хоць і так вядома:
Дзяржынскі – фэ!..
Гэта й два птахі адчулі,
Што селі на галаву
Справіць патрэбу.

*1990*

## ЦАРКВА, СВЯТАР І ПАЦУКІ

*У. С. С.*

А святар будаваў людзям храм,
Не адзін замінаў яму хам.

Год за годам святар шчыраваў,
Павячэраць не раз забываў.

Храм сышоў з яго лёгкай рукі –
Увайшлі ў чысты храм пацукі.
Самы смелы з іх кажа яму:
"Замінаеш ты войску майму,

Непатрэбен парадак нам твой –
Ты на нашай дарозе не стой!.."

Здзіваваўся святар, думаў ён,
Мо кашмарны яму сніцца сон.

Ён святыняю так даражыў,
Верай, праўдаю людзям служыў,

Дзеля іх узвёў храм на вякі!
А ў яго увайшлі пацукі...

*Кастрычнік, 2008*

## ЗАПАВЯТАЕ ГЕНІЙ

1
Шаўчэнка ў думках зноў паўстаў,
Любоўю, праўдай, верай моцны;
У рабстве быў – рабом не стаў,
Жыццё за свой народ аддаў
І выйшаў пераможцам.

2
Ён моцы духу прыдае
Не толькі словам векапомным,
Пачуцці ўзрушвае мае:
Гаротны, а такі нязломны!

Займеўшы волю, мог, бадай,
Ствараць каханай мадрыгалы
І маляваць сямейны рай,
Пра долю хвалявацца мала.

Спакойнай долечка была б
У здзейсненым вялікім цудзе:
Учорашні прыгонны-раб
Так слаўна выбіўся у людзі!..

А ёнствараў "Каўказ" і "Сон"
І асуджаў самадзяржаўе,
І "Запаветам" гнеўным ён
Біў царскі той рэжым іржавы.

І зведаў здзекі, суд, астрог
У адзіноце шматпакутнай.
Як дапусціць такое змог
Прысутны ўсюды Ўсемагутны?!

Ўсё ж да Ўсявышняга Тарас,
Відаць, маліцца ўдзячна рынуў
За волю тую, што якраз
Займела ўрэшце Украіна.

3
Вольналюбівы геній мужны
Належыць свету, як і сонца;
Не толькі Бацькаўшчыне служыць –
Спрыяе і маёй старонцы.

Бо цемра вісла і над намі,
Бяды і ў нас не бракавала,
І мы грымелі кайданамі
Пад той жа самаю навалай.

У рэчаіснасці суровай
Жыла й жыве любоў святая:
Шлях да дзяржавы вольнай, новай
І нам Кабзар запавятае.

*1994*

* * *

*Васылю ГЭЮ*

У шчырым і шчодрым сяле, у Білыні,
У светлым кутку знакамітай Валыні,
З гасцямі быў я, там сардэчна віталі
Шматлікіх гасцей, там нас так частавалі!
Усё там было: і братэрская чарка,
Каўбаскі, з гарачаю бульбаю скварка,
Й вяндліна, й варэнікі ў свежай смятане,
Ды я пералік ужо доўжыць не стану –
Яшчэ пачастунак быў болей адметны,
Бо скарбаў датычыўся ён запаветных:
О, там, на Валыні на Лэсінай роднай,
Не страцілі людзі смак песні народнай –
Так хараша, звонка пявунні спявалі,
Аж слёзы на вочы ў мяне наплывалі!
Падумай, скажы, пабрацiме, чаму так
Усё, што жыве ў песні, – радасць і смутак –

Душу так глыбока хвалюе, праймае?
Таму што народ Украіны спявае,
Яго прага поўнай свабоды – жывая,
І ўсё, што для шчасця патрэбна, ён мае.

*15.08.2010*

### *ЗАМАЛЁЎКА*

Горад абняў жытнёвае поле
Пад'ёмнымі кранамі,
Будаўнічымі пляцоўкамі
Ды гандлёвымі кропкамі.
Горад пашырае межы
За кошт раёна,
Крочыць па яго землях.
Раён хутка справіць дажынкі
І, пэўна, апошні раз
Ён збярэ ўраджай
З абкружанага "монстрам" поля,
Каб накарміць свежым хлебам
Свайго захопніка.

*7. 07. 2010*

*Імгненні роздумаў*

### *НАСТРОЙ*

Шэры асфальт.
Шэрыя гмахі.
Шэрае неба.
А ў небе майго настрою
Вясёлка грае.

### *У СВАЁЙ СТЫХІІ*

Як птушка ў нябёсах,
Як рыбка ў вадзе,
Жыве балярына ў танцы.

### *ПАД НЕБАМ ЗОРНЫМ*

У рачулцы адбіліся зоркі,
І падумаў я раптам:
"Яе душа – вада".

### *НЕПАДУЛАДНАЕ*

Каханне юнае? Бывае.
А старэчае? Ніколі!

Старасці непадуладнае
Каханне. Хаця яму
Ўсе ўзросты падуладныя
(Тут з Пушкіным я згодны)!

* * *

Часта
смерць – кара,
А часам –
ратунак...

* * *

Недалюблівaю клятву.
Не трываю здрады.

* * *

Адзіноту ўсім сэрцам люблю,
Хоць парою – яе не цярплю.

* * *

Дабро і зло – побач,
Часам мяняюцца месцамі,
Плаўна пераліваюцца
Адно ў другое.

*2009*

### *БЯЗМЕЖНА ДОБРАЯ ДУША*

*Ніне Мацяш – у іншасвет*

Ты мне прыслала мумiё,
Як карыстацца, расказала.
Здароўе, пэўна, ты маё,
Больш чым сваё, аберагала.

О, колькі помню я, спярша
Ты клапацілася пра бліжніх...
Бязмежна добрая душа
Не ведала турботаў "лішніх".

Не столькі, можа, мумiё
Майму здароўю памагала,

Як слова вернае тваё.
Любоў твая аберагала.

*17. 01. 2010*

## ТВАЯ КРЫЎДА

Як мог недалікатным словам
Ці, лепш сказаць, неасцярожным,
Няхай сабе і выпадкова,
Цябе пакрыўдзіць так бязбожна!

Я не прыняў твайго паэта,
Твой смелы пераклад Жакмэна,
А напісаў табе пра гэта
Зусім не почыркам джэнтльмена.

О, разумею, як балюча
Табе стрываць было такое!
Тады на водгук мой калючы
Абрынуўся твой гнеў ракою.

Пазней за ўсё мне даравала.
Быў я азораны табою.
Драбніцай крыўда патанала
У моры шчодрае любові.

*9. 01. 2010*

Сяргей Рублеўскі



...я ў свой час зразумеў,
што працяг рыбалкі
па сваёй значнасці
роўны працягу жыцця...

# Святло лускі

***З кнігі для тых, хто любіць лавіць рыбу ўсім сэрцам***

## Дзед Міколька і дзед Рыгор

Дзед Міколька жыў на ўзгорку, у трэцяй хаце з краю вёскі, дзед Рыгор – у другім канцы, бліжэй да возера. Абодва былі зацятымі рыбакамі, прычым прызнавалі толькі лоўлю вудай. Гэта дзяды майго маленства, той пары, калі яшчэ не было пластыкавых тэлескапічных вудзільнаў – толькі бамбукавыя, і тое ў прыезджых гарадскіх рыбакоў. Вяскоўцы, дужэйшыя падлеткі і сталыя мужчыны, выразалі бярозавыя вудзільны, а мы, падшыванцы, адпаведна, – больш лёгкія ляшчынавыя. Перавага бярозавага вудзільна была ў тым, што яно прыкметна даўжэйшае – вядома ж, з асобнага дрэўца, а не з хмызовага атожылка. Даўжэйшым вудзільнам найдалей, аж за “асіту”, як у нас называлі прыбярэжныя чараты, можна было закінуць прынаду і спаймаць вялікую рыбіну.

*Працяг. Пачатак у №1 (50).*

У шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя ніхто ў нас не меў лодак. Рыбакі, якія лавілі рыбу мярэжамі або сеткамі,

карысталіся дубіцамі – выдзяўбанымі з камлістага дрэва чоўнамі. А ўсе вудары – у тым ліку і нашы рыбалоўныя патрыярхі дзед Міколька і дзед Рыгор – лавілі з берага: поспех, калі не наўпрост, дык у многім залежаў ад даўжыні вудзільна.

Дзяды, як і спрыяў у гэтым іх узрост, былі кансерватыўнымі рыбакамі і не звярталі ўвагі на якія-кольвечы навінкі ў рыбацкім рыштунку. Дзед Рыгор, напрыклад, нягледзячы на тое, што ў продажы з'явілася шмат розных узораў лёскі, па-ранейшаму працягваў лавіць на самаробную, сплеценую з конскага воласа. Яна была ў колькі столак, спрэс пабраная ў зграбныя вузельчыкі. Дзед Рыгор казаў, што такая лёска ўтрымлівае асаблівы жывёльны дух, які падабаецца рыбе. Што ні кажы, але ж "нітка" сапраўды была натуральнай, прыроднай.

Мы было перайшлі на пёравыя паплаўкі, якія пад уздзеяннем грузіка стаялі ў вадзе тырчаком, а дзядуля і не думаў мяняць на такі свой ляжачы, выразаны з тоўстай сасновай кары.

Такі паплавок пры закідванні гучна шлопаўся на ваду, але дзеда гэта ніколькі не бянтэжыла. Здаецца, ён не лічыў патрэбным наладжваць далікатныя адносіны з рыбай, быў упэўнены ў тым, што яна чапляецца на кручок незалежна ад хітрыкаў рыбалова, сама па сабе.

Кансерватыўнасць дзеда Рыгора выдавала не толькі вуда, але і рыбалоўная «амуніцыя». Прынаду, нашых заўсёдных дажджавых чарвякоў-мазюкаў, напрыклад, ён насіў у маленькім кужэльным мяшэчку, які чапляў на шыю, і той вісеў на грудзях. Зручна было даставаць чарвякоў, да таго ж, у такім пакунку яны добра захоўваліся.

Перакінутая цераз плячо торба, вядома, таксама кужэльная, прызначалася для рыбы. Яна была дастаткова вялікай, а ўсё ж не з разлікам на рэкордны ўлоў, а толькі на пару кілаграмаў дробных плотачак, акунькоў, гусцёрак, верхаводак...

Рыгор, зазвычай, лавіў на адным і тым жа месцы ў пачатку возера, калі ні прыйдзеш – ён там. Бывала, бяжыш цёплай сцежкай на рыбалку, а дзед ужо ўзнімаецца на ўзгорак – адлавіўся, вяртаўся дадому. Так было не аднойчы, дык і запомнілася: маленства "коціцца" з гары ўніз, а старасць узнімаецца на яе няспешнай хадою.

Пры такіх сустрэчах я заўсёды пытаўся ў дзеда пра ўлоў і абавязкова прасіў паказаць яго. Спайманая рыба ў кужэльнай торбе здавалася куды прыгажэйшай, чым наша на куканах. Калі я дзесяцігоддзямі пазней глядзеў французскі фільм пра рыбалку і ўбачыў, як тамтэйшыя рыбаловы паказваюць сваю рыбу ў лазовых кошыках і пры гэтым нахвальваюць яе прыгажосць, – расфарбоўку плаўнікоў, форму цела – дык у чарговы раз згадаў дзеда Рыгора. У свой час мы з ім паводзілі сябе, як французы, толькі моўчкі.

Наогул рыбаловы ўсяго свету любяць паказваць ды разглядаць з іншымі свой улоў. Мусіць, аніяк не могуць нацешыцца з яго, дарма што заўсёды не столькі спаймаеш, колькі хацелася б, ніколі не займееш поўнай уцехі.

Дарэчы сказаць, і дзед Рыгор, і дзед Міколька звычайна лавілі патроху, не на шмат больш, чым мы, падшыванцы. На возера яны хадзілі зарана – са світальнымі промнямі, каб а сёмай гадзіне раніцы вярнуцца да сваіх сялянскіх клопатаў.

Дзед Міколька, панылы, неахвочы да размоў, мне таксама добра запомніўся. Наогул гэтыя рыбаловы здаваліся непадзельнай парай. Яны былі падобнымі адзін да аднаго сваімі зусім не спажывецкімі адносінамі да рыбы,

успрыманнем лоўлі як адной з галоўных мужчынскіх уцех на свеце, тым больш, у сталым узросце, калі ў душы ўжо астыне жарсцевы вар.

Гэта былі рыбакі, якія лавілі рыбу ўсім сэрцам, і мы, бабчанскія мальцы, у большасці сваёй выраслі падобнымі да іх.

Дзякуючы дзеду Мікольку, я ў свой час зразумеў, што працяг рыбалкі па сваёй значнасці роўны працягу жыцця.

Адзін састарэлы чалавек казаў: "Ну, дажыву да пары, калі мае пчолкі на першыя кветачкі вылецяць, дык увесь гадок – мой, не здамся хваробам, не памру".

А дзед Міколька пасля васьмідзесяці пяці, мусіць, так лічыў: "Калі дайду вясной да возера, здолею закінуць вуду, дык яшчэ паўпарчуся смерці".

Сухенькі, у гумавых ботах з шырокімі халявамі, якія гучна шлопалі на спруцянелых нагах, ён доўжыў гэты бясконцы веснавы, намацаны душою шлях. Доўгае бярозавае вудзільна, якое дзед трымаў пасярэдзіне, зыбалася важкімі канцамі, ледзьве не дастаючы зямлі. І гэтае зыбанне ды шлопанне халяваў задавалі старому рыбацкаму сэрцу жыццядайны рытм.

Калі дзед Міколька ўжо зусім састарэў і ледзьве даходзіў да возера, яшчэ цяжэй, бадай, давалася яму закідванне вуды – камлюкаватай, не па гадах цяжкой і доўгай. Нашым тадышнім дзядам, па-добраму, з гадамі трэба было б прыроўнівацца да жаўтароцікаў і перавязваць свае лёскі на арэшнікавыя "дубцы", але ж гонар ды звычка... Дык і атрымалася: аднойчы Міколька, з усяе сілы закідваючы сваю вуду, па інерцыі следам паляцеў за ёй у ваду. Кулём апрануты, плюхнуўся ў яшчэ не надта прагрэтую веснавую каламуць – і каб табе крыку ці войку, толькі вяла перабіраў рукамі... На шчасце, той парой рыба добра лавілася і на возеры было шмат мальцаў. Яны стаялі на беразе побач, дык хуценька падбеглі і выцягнулі дзеда з вады. Агаломшаны Міколька нават не надта ўцяміў, што адбылося, і было наважыўся лавіць далей... Але дарослыя рыбакі загадалі падлеткам адвесці дзеда дамоў. І яны павялі яго нібы з ганаровым эскортам: адзін нёс вуду, другі – торбачку з уловам, трэці – нацваглую вільгаццю кухвайку...

Як прыемна, што нашы рыбалоўныя старэйшыны Рыгор і Міколька сваім прыкладам падцягвалі нас, рыбачкоў-пачаткоўцаў, да свайго акадэмічнага ўзроўню. Нам было на каго раўняцца!

У вянок памяці Рыгора і Мікольκі я, удзячны вучань, уплятаю на завяршэнне гэтай зацемкі іхняе слоўца-краску – "патапок". Так яны называлі звычайную валавяную драбінку-грузік на лёсцы.

Але нездарма "патапок" рыфмуецца са словам "паплавок": так суладна, дапасавана былі ўсчэплены на лёскі і лёсы дзядоў, непатапляльнае намкненне жыць з Божай ласкі, Ягонымі шчадротамі.

Я расчуліўся, дык завяршаю, падчапляю на нітку радка "патапок".

## Лінь

Толькі ўслухайцеся, як гучыць слова: "лінь..." – нібы кропля вады сарвалася з пялёстка плаўніка. Назва рыбы так мякка цешыць слых, што хочацца па-кітайску прымружыць вейкі.

Лінь камлюкаваты, круглабокі, не тое што падлешчыкава ці, таго горай, гусцёрчына "фанера"...

А якое смачнае мяса ліня, беларусы кажуць "салодкае" – вышэйшая ў нас ухвала ежы!

Дужа смачны лінь смажаны. Прытым з яго зусім не абавязкова абчышчаць луску. На гарачай патэльні яна расплаўляецца, а потым цвярдзее крамянай скарыначкай, якая смачна хрумсціць на зубах.

Хоць лепш захапляцца не смакам ліня, а ягонай прыгажосцю. Гэтая рыбіна створана Богам і на ўцеху сузіральнікам.

О, якую лінь мае расфарбоўку! Як пераліваецца рознымі адценнямі ягоная дробная, цесна сашчыльненая луска! Густы колер бронзы. Прытым з куды большай, чым звычайна, мерай чырвонай медзі. І гэты цёплы колер у дадатак, калі прыгледзецца, мае крыху зеленаватае адценне, нібы злёгку крануты пацінай. Пры такой велічнасці можна на пастамент, а ён плавае...

А яшчэ ліня можна параўнаць з глыжом сонца, ачахлага ў бузянай азёрнай затоцы.

А якія ў гэтай рыбіны вочкі!

Свецяцца густой чырванню, нібы вугельчыкі з нацепленай грубкі.

Адным словам, надта ўпадабаная беларусамі рыбіна – і па смаку, і па прыгажосці. Толькі павінен удакладніць: маецца на ўвазе лінь не з бузянай сажалкі, а з возера, дзе са дна пульсуюць сцюдзёныя крыніцы. Няхай сабе каля іх бадзёрыцца і лечыцца белая рыба, а наш цяльпук знаходзіць сабе затоку з мяккім глеем. Ён бавіцца на цёмным дне, нібы сава, якая ўнікае зыркага святла.

На празрыстых азёрах лінёў мала, а, можа, так здаецца таму, што яны амаль не ловяцца на вуду. У дзяцінстве, памятаю, на нашым возеры ўсе даваліся дзіву, калі хто выцягваў лінька. Гэтыя рыбіны былі для нас, хлапчукоў, таямнічымі: не лавіліся на вуду і ў той жа час штораз патраплялі ў мярэжы дзеда Барыса, асабліва калі ён ставіў іх у зацененых чаратамі затулках...

Калі я ранічкай з падскокам ад радасці бег з вудай на возера, дык даволі часта сустракаў на сцежцы дзеда, які ўжо, праверыўшы свае мярэжы і сеткі, няспешна вяртаўся дадому. Я заўсёды прасіў яго расхінуць сваю незаменную торбачку ды паказаць лінёў: карцела дакрануцца да іх рукой, як да праўджанай, няхай сабе і не табой, мары.

Лінь непараўнальны, але лёгка дапасоўваецца. Напрыклад, да стронгі. "Ну хіба можна яго, цельпукаватага маруду, параўнаць з гэтай імклівай срэбнай жыгаўкай?" – здзівіцеся вы. Можна. Яны роўныя ў непаўторнасці прыгажосці.

У ліня ёмкі, шырочанькі, як абшчапіць далоняй (але не ўхапіцца, бо надта слізкі), хвост. Гэта выдае ў ім старажытнасць паходжання. Такі хвост не разлічаны на імклівае, як, напрыклад, у шчупака сяганне праз тоўшчу вады, але вельмі зручны для павольнага плавання. У гэтай рыбіны большае спадзяванне на тое, што яна выслізне з рук, чым на хуткія ўцёкі, калі што, з месца небяспекі.

Апошнім часам у крамах з'явілася шмат вэнджаных невялікіх лінёў. Гэта прыклад таго, як можна знявечыць прыгажосць. Рыбіны цалкам страцілі сваю афарбоўку, амаль счарнелі, луска ўсохла, скура задубела – хоць чаравікі шый. Мяса па-ранейшаму саладкаватае, але гэта ўжо больш здзіўляе, чым усцешвае.

Вэнджаныя ліні прыкладна аднаго памеру, нібы карпы, вырашчаныя ў сажалцы. Мусіць, так узгадоўвалі і іх. Няма нічога больш сумнага, чым "тыражаваны" лінь. Гэта ж страта непаўторнасці!..

Аднойчы я бачыў, як ловяць лінёў падчас нерасту. Падлетак паставіў сетку непадалёк ад берага, на водмелі, а сам, распрануўшыся да трусоў,

стаў метрах у пяці ад яе. Калі паплаўкі сеткі, добра бачныя на паверхні вады, пачыналі гайдацца, рыбачок паволі, як мага цішэй, падыходзіў, узнімаў сетку над вадой і даставаў толькі што патрапіўшых туды лінькоў. Потым зноў адыходзіў на сваё месца і чакаў, як чапля, новую здабычу. Балазе стаяць даводзілася нядоўга: хвілін сем – і паплаўкі зноў усчыналі сваё вясёлае гушканне. Торба на плячы юнака прыкметна цяжэла...

Але было гэта не на Віцебшчыне, а ў цэнтральнай Беларусі, на штучным, бузяным неглыбокім возеры з добра ўгрэтай вадой. Спрыяльнае для лінёў асяроддзе... А сетка была ўдала пастаўлена, акурат на рыбінай "сцежцы".

Добра, што я за ўсё сваё жыццё ніводнага чырванавокага прыгажуна не выцягнуў вудай... Мусіць, і таму лінь застаецца для мяне рыбінай недасяжнай царскай прыгажосці і ў той жа час такой беларускай. Можна сказаць, мужыцкай.

## Жабінак

За маёй роднай вёскай на Лепельшчыне пачынаецца ланцужок азёр. Іх тры, злучаных натуральна ўтворанымі рачулкамі-канавамі. А можна сказаць, і чатыры, калі палічыць за возера Жабінак. Але ж хто ў нас Жабінак – звярніце ўвагу на этымалогію слова – будзе ўлічваць.

Ды справа не толькі ў этымалогіі. Жабінак маленькі, як сажалка, хоць яго ніхто не капаў, не абладжваў берагі... Прырода пастаралася, а можа, проста захапілася. У вёсцы казалі, што азярко-сажалка такое глыбокае, што немагчыма дастаць дна. Вясковыя мужыкі было звязалі двое лейцаў, прычапілі да іх камень і мералі. І сапраўды, дна не досталі. А куды ўжо далей мераць?.. Да таго ж хтосьці, нібы між іншым, заўважыў: "Тут жа дно тарфяна-бузянае...".

А паколькі азярко такое глыбокае, у ім можна ўтапіць што-небудзь вялізнае і значнае. Як сцвярджае паданне, гэта была цэркаўка. Стаяла сабе на пагорку, бомкала звонам, буран усчаўся – і на табе, перакуліў яе ў Жабінак. Не верыце, што тут стаяла царква, а вось паглядзіце – жывая крыніца на тым пагорку пульсуе. А ключ святой вады абы-дзе з зямлі біць не будзе...

Мы, вясковыя мальцы, баяліся купацца ў Жабінку, хоць да яго было бліжэй ад вёскі, чым да куды большага памерам возера. Мала таго, што Жабінак быў надта глыбокім, дык ён меў дрыгвяныя, плывуновыя берагі. Толькі аднойчы мы асмеліліся і ўсё адно як з упуду, нібы качкі, плюхнуліся з берага ў ваду. І пачалі "малаціць" рукамі і нагамі, нібы ў пякучым кіпені, – такой гарачай здавалася вада ад страху. Пераплылі на той бераг і, як мага хутчэй, вылезлі з таго пуду – "пуд, пуд, заставайся тут!". І болей ніколі там не купаліся – адзін і той жа страх колькі разоў не перажываюць – няма ахвоты...

Жабінак, калі быць больш дакладным, складаўся з двух, злучаных пратокай, сажалак.

Адна з іх, бліжэйшая да дарогі, была, наадварот, даволі мелкай, з цвёрдым дном. Мы любілі купаць там коней, а то і не распрагаючыся заязджаць у ваду на калёсах так, што хаваліся колы, а конь заходзіў па самае пуза і такім чынам крыху ахалоджваўся ў спякотны дзень ды хоць на якую хвіліну адганяў ад сябе назолаў-аваднёў.

Было гэта падчас працы ў калгасе на летніх канікулах.

У Жабінку з вясковых амаль ніхто не лавіў рыбу, хаця і ведалі, што

там водзяцца карасі. Іншым разам лаўцы крыгай на завяршэнне рыбалкі заходзілі туды пасля возера, рабілі пару спробаў залучыць у сетку колькі рыбін – і ўсё на тым. Дзеля таго, напэўна, каб мець больш разнастайны ўлоў, бо карасі патрапляліся толькі тут.

Якое ж было нашае здзіўленне, калі аднойчы на беразе Жабінка мы ўбачылі добра экіпіраванага, з выдатным рыштункам рыбака. Гэта было вельмі нечакана. Спачатку мы назіралі за ім зводдаль, а потым асмеліліся і абступілі незнаёмца.

Авохці! Дык ён жа ловіць на звычайнае цеста. Карасі, якія зноў і зноў траплялі на кручок, поклічна блішчэлі сваімі круглымі бакамі: маўляў, хутчэй бярыце ў маці цеста ды гайда на Жабінак!

Мы так і зрабілі. Назаўтра дружна абступілі ўсёй чарадою невялічкае азярко-сажалку.

Дзіўна, але як нечакана ўсчалася нашая лоўля карасёў, так яна і скончылася... Усё ж, як ні круці, што ні кажы, Жабінак ёсць Жабінак, а карась – не стронга і нават не плотка ці язь. Ну як, скажыце, лавіць карасёў у сажалцы, калі літаральна за пагоркам – хвалістае возера з усім магчымым у нашай мясцовасці наборам рыбы, з помнымі сцежкамі і мясцінамі на беразе...

Калі я цяпер згадваю тыя даўнія рыбалоўныя падзеі, дык думаю пра ўзаемаадносіны гарадскіх і вясковых, няхай сабе і такіх маленькіх, як мы ў свой час, рыбакоў. У гарадскіх вясковыя пераймаюць новыя спосабы лоўлі, навінкі рыштунку і прынадаў... Можна сказаць, здабыткі навукова-тэхнічнага прагрэсу. Гарадскія ў нашых хіба што выпытваюць мясціны, дзе якая рыба ловіцца. Але гэта ўсё адно што ў грыбнікоў пытацца, дзе растуць баравікі.

Аднойчы гараджане спыталіся пра рыбныя мясціны ў спрактыкаванага вясковага рыбалова дзеда Рыгора.

Хітры дзед прымружыў вейкі, смактануў цыгарку і зусім сур'ёзна, паказваючы рукой накірункі, адказаў:

– Значыць так: вунь там – плотка, там – акуні, а трохі правей, каля той алешыны, – падлешчыкі. Бывае, і лешч зачэпіцца.

Гэта і сапраўды бывае, асабліва, калі ўмееш лавіць, як дзед Рыгор.

## Перабівачка

Усе пісьменнікі вельмі падобныя адно да аднаго, асабліва, калі гэта сын і маці, як атрымалася ў мяне.

Калі я завяршаў работу над гэтай кніжкай, патрапіў мне ў рукі двухтомнік "Народная проза беларусаў Падзвіння", выдадзены стараннямі Уладзімера Лобача ды іншых навукоўцаў Полацкага дзяржуніверсітэта. А ў ім – вось гэты, пададзены ніжэй, расповед маёй Ірыны Юстынаўны.

Я памятаю абставіны, пры якіх адбывалася ейная творчасць. Падчас адпачынку ў роднай вёсцы ў 2007 годзе завіталі да нас на сялібу дзве студэнткі, якія рабілі фальклорныя запісы. Хтосьці падказаў ім пагутарыць з мамай: маўляў, «Ірына больш здатная распавесці пра нашыя «дзівосткі».

Я паклаў у груду бярэмца дроў, якія складваў у тынянцы, і адвёў дзяўчат у хату, дзе бавілася мама, тады яшчэ нікому не вядомая аўтарка «народнай прозы». А як толькі студэнткі распачалі размову, я вярнуўся да сваіх спраў.

І вось згадкі пра тое наведванне абудзіў выдадзены двухтомнік.

Што і казаць, прыемна адчуць яшчэ больш трывалую панітаванасць з маці, у тым ліку і праз літаратурнае сугучча.

Яно зусім не ўмоўнае, нягледзячы на паблажлівае вызначэнне – «народная проза» – творчасці такіх распавядальнікаў, як матуля.

Калі перанабіраў на камп'ютары ейны расповед, надрукаваны ў кніжцы, дык стараўся не прапусціць ніводнай косачкі, ніводнага «лішняга», як могуць палічыць стылістычна далікатныя літаратары, слоўца. Хіба бывае лішнім удых – глыбокі ці кароценькі, каб патрапіць у рытм сэрца... Удых тваёй маці.

Калі ў мяне і ёсць чуйнасць да роднага слова, дык таму, што я ўсё сваё жыццё ўслухоўваўся, як прамаўляе матуля, нібы квяцістых мятлікаў з мяккімі крыламі лавіў ейныя сказы-выразы. Слухаў і слухаўся.

Мама зусім састарэла, дажывае ўжо, дзякаваць Богу, дзявяты дзясятак. Бывае, заседжуся запозна над рукапісам, а яна прысне – ані гуку з дальняга кутка хаты. Устрывожуся, падыйду, схілюся над ложкам і ўслухваюся, каб учуць дыханне.

Спіць, мая родная, ды так лёгка, ціхенька, нібы сама беларуская мова.

## Азярко Жабінак і культавая крыніца

Крыніцы ёсць на горачкі. Ага, і вада цікла, цікла і ксцілісі на яе, а цяпер кароў пусцілі, зарудувалі. Гарушка стаіць, шчавель там расцець, во тут во. Там крынічка, а там, кала крынічкі, ёсь такое азярко, во тут у нас азярко ёсь, а тады во ферма стаіць, а за фермай там такое азярко. Ну, як вот у драгбе, там ніхто не купаецца, нічаво. Там вот такія, гэта яшчэ даўно гаварылі, што там ёсь вокны, што ты туды ўсунесся і ня вылезеш.

Гэта гавораць, вот там, дзе крынічка, кагда-то стаяла каплічка. Каплічка там была і распяція там. Гэта можа мая баба гаварыла, што там када-то была цэркаўка, а быў вецер і цэркаўку згарнула, во гэта месца, дзе стаў Жабінак гэты. Дзе вада цяпер, дзе вокны. І цэркаўкі не стала, а крынічка асталася, і тут, гавораць во, няйдзіці, там вокны. А мы, во там журавіны растуць, а мы трошку шак-шах туды, а там во так усё дрыжыць, калоціцца. Мы тады назад адступаем, дык вот гэта было даўно, а цяпер ужо гэны Жабінак, завецца "Жабінак", а цяпер ён ужо звужаецца, мусіць там гэтыя ўжэ дзёрны ператвараюцца ў зямлю, можа, камянеюць. Жабінак, ён ад прэдкаў, ад прэдкаў – Жабінак. Там царква правалілася, гэта я чула. А мы цяпер тут і відзім Жабінак, і відзім, што гэта там трава і там ніхто не пасецца, і туды ня ўсходзюць. Карова раз усунулася, за ногі чуць выцягнулі.

Крынічу, як хадзілі мы, старыя, на работу, мы яе вычысцім, і там ены ручаёк бяжыць цэла лета і зіму ён там. Жывая яна, а цяпер ужо каровы стада там ходзюць во так во. "Жабінская" мы яе звалі, крыніцу тую. Ну, яе не зраўнялі, стаіць там гара во тут во. Ваду бралі, памагала. Што святая, гэтак не гаварылі. А гэта нада сам сябе ўнушыць. Тады ты вазьмі во вады з майго калодца, памаліся, пастаў і сам сябе ўнушы к Божачку. А рушнічкі прынасілі. Там быў хрэсцік, пакрывалі гэта ўсё. А цяпер там няма нічога, там толькі крынічка, і тую ўжо затаптываюць болей. Гэта самая аснаўная тут крыніца, яны ж болей ёсь вот па горках дзе-ліба крынічнае места, вот туды, пад Двор [Бабча] ёсь. Там ужо пазарастала.

Зап. студ. ПДУ Жолудзева П., Шэпіла У. у 2007 г. ад Рублеўскай Ірыны Усцінаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Кісялёва Ушацкага р-на) у в. Бабча Лепельскага р-на.

## На што нас ловяць?

Раней, калі прыязджаў у які гарадок, дык найперш цікавіўся кніжнай крамай: уважліва аглядаў паліцы з надзеяй вышукаць сярод ідэалагічна выраўненых выданняў, цесна састаўленых на доўгай паліцы, які-небудзь выкшталцоны томік неабавязковага для афіцыёза, але незаменнага для мяне аўтара. Цяпер, калі мінула столькі гадоў, падчас сваіх вандровак я амаль з такой жа цікавасцю заходжу ў рыбалоўныя крамы. І таксама абмацваю позіркам усе палічкі, зашклёныя вітрыны, стараюся не прапусціць ні адну прынаду, шпулю пляцёнкі новага ўзору ці якую ледзь заўважную драбніцу, накшталт вертлюжка... Дарэчы, я не ўпэўнены, што слова «вертлюжок» ёсць у нашай мове, але смела дапасоўваю яго, бо надта ж натуральнае па гучанню.

У кожнага спінінгіста ёсць улюбёная прынада. У мяне – невялічкая бляшня, спрытная круцёлка з пялёсткам складанай, зусім не падобнай на іншыя формы: краі пялёстка сагнуты пад пэўным вуглом так, што гэтыя згібы акрэсліліся дзвюма выразнымі рабрынамі, а паміж імі атрымалася палоска прыкладна ў тры міліметры. Вытворцы фарбуюць яе чорным колерам... Чорнае на “срэбры”. Вось такая складаная штампоўка з мінімальнай трапнай афарбоўкай.

Добрая збалансаванасць па вазе пялёстка, які пасаджаны на тонкі сталёвы стрыжань, забяспечвае яму ўстойлівае і зусім лёгкае кручэнне вакол гэтай восі. Дасведчаныя, мусіць, здагадаліся, што я кажу пра бляшню “Люсокс” фірмы “Мэпс”. Яна “раскрываецца”, пачынае круціцца яшчэ ў паветры, а як толькі ўпадзе ў ваду, дык рух робіцца зусім устойлівым. Адметнасць бляшні, апроч арыгінальнасці пялёстка, у тым, што яна абцяжарана адмысловай галоўкай на дроціку, якая рухома злучана з асноўнай часткай прынады. Зверху галоўка пакрыта блішчастым металам і такім чынам дапасоўваецца да пялёстка, па сутнасці, стварае з ім адно цэлае.

“Люсокс” пасля падзення ў ваду пад прымусам важкай галоўкі пачынае апускацца на дно, і тады рыбалоў крыху ўзнімае яго ўгору, потым робіць паўзу, зноў апускае і такім чынам ажыццяўляе, бадай, самую зваблівую прыступкавую праводку.

Мой сябра Пятрок лічыць, што “Люсокс” больш прыдатны для лоўлі на рэках. Можа, таму, што я, зазвычай, калі сплаўляемся па рацэ разам, лаўлю ў асноўным гэтай бляшнёй...

Даўно перакананы: калі дзень, фаза Месяца, надвор’е, у тым ліку і накірунак ветру хоць трохі спрыяюць драпежніцкай актыўнасці шчупакоў, на працягу ўсёй рыбалкі можна лавіць толькі ёй. Кідаю і кідаю “Люсокс” у звабныя куточкі ўздоўж берага...

А можа, і таму рэдка мяняю прынаду, што надоўга не запыняюся на адным месцы. Каб любіў, як Пятрок, да апошняй водарасціны аблоўліваць тую ці іншую затоку, дык, натуральна, мяняў бы блёшні адну за адной, а то і воблер зачапіў бы ці якую сіліконавую звабу... Цярплівы рыбалоў перакананы, што ў аблюбаванай затоцы, у якім-небудзь яе куточку, абавязкова стаіўся тлусты шчупак, і калі ён не спакусіўся «Люсоксам», трэба падвесці пад губу якую іншую “бляху”. Потым яшчэ адну... І так – пакуль не перабярэш у скрынцы ўвесь свой запас блёшняў і воблераў.. Шчупак, змораны такім дакучлівым “церабленнем” ягонай затокі, бывае, і сапраўды “адгукаецца”.

Дык на якую ж прынаду найлепш спакушаюцца вадзяныя драпежнікі? Я не спяшаюся з адказам.

Пасля вайны з нястачы, зруйнаванасці побыту нашы рыбаловы рабілі блёшні з латунных снарадных гільзаў, балазе такога дабра было багата. І шчупакі не грэбавалі пякельным металам – свяціўся ж, адпаліраваны, спакушаў...

– Браліся будзь здароў як! – кажа заядлы лавец шчупакоў дзед Яўген з Янавіч, падлеткавы ўзрост якога выпаў якраз на пасляваенныя гады.

Нават калі зрабіць папраўку на тое, што ў дзяцінстве ды юнацтве, як нам здаецца, рыба бярэцца куды лепш, чым у пару сталага ўзросту, нельга не ўзяць да ўвагі гэтае сведчанне.

Уловістасць бляшні ці якой іншай прынады вельмі залежыць ад канцэнтрацыі ў рацэ ці возеры драпежнай рыбы. У маім кіназборы ёсць фільм пра лоўлю жэрахаў у вусці Волгі. Рыбалоў-эксперт перад відэакамерай раз-пораз мяняе на сваім спінінгу прынады: то адну бляшню зачэпіць, то другую, а то воблер і праз пару закідаў – ёсць, трапечацца на трайніку чарговая здабыча! Лацвей лавіць, калі тых жэрахаў процьма і яны ледзьве не навыперадкі гоняцца за бліскуча-мітуслівай вяртляўкай.

А на той жа Касплі ці Дзвіне “вадзянога каня” спаймаеш толькі выпадкова, калі патрапіш бляшнёй пад самую губу.

Так і з судакамі. Іх можна спрабаваць лавіць, напрыклад, на Лукомльскім возеры або на Браслаўскіх азёрах, дзе гэтыя рыбіны збіваюцца ў чароды. Натоўп дурнейшы, чым адна асобіна. Хтосьці лёгка абуджальны ўзрушыцца і, каб апярэдзіць іншых, пойдзе ў атаку на кавал бліскучага жалеза. Толькі ўчуйце, як дакранецца ротам...

Вось і атрымліваецца, што я, плаваючы па малых рэках, розную драпежную рыбу, апроч шчупакоў, лаўлю выпадкова – калі перакрыжоўваюцца памкненне маёй душы, траекторыя руху прынады і поле зроку няўцямнай згаладалай рыбіны.

Затое доўга помню кожны выпадак такога збегу абставін, ці інакш кажучы, шанцунку. Але ён, шанцунак, на гэтым свеце (мусіць, і на тым таксама) бывае рэдка.

Шмат што можа пашкодзіць стварэнню спрыяльных для рыбнай лоўлі дапасаванняў.

Узяць атмасферны ціск. Які ён: вышэй ці ніжэй нормы і, галоўнае, – ці ўстойлівы на працягу некалькіх дзён? Лепш, калі толькі пачынае зніжацца...

А вецер... Слабы ці моцны, адкуль дзьме? Лепш, каб дзьмуў. Калі цішыня такая, што за ёй і шолаху лісця не чутно, усё замёрла і карціць адчуць хаця б які зрух сваёй душы, дык, натуральна, нават кругам на вадзе ад далікатнага дотыку плаўніка да ейнай паверхні не выдае сваёй прысутнасці ў свеце і рыба.

Найбольш спрыяльны для рыбалкі ацішаны да дробнага рабаціння на вадзе вецер, а не віхурысты, з раптоўным подыхам-пошумам. Тады, выбіраючы шпуляй бляшню ці вібрахвост з вады, лацвей зрабіць асаблівую паўзу, падчас якой душа, нібы лёгкае пёрка, суправаджае абніжэнне прынады на самае дно і затойваецца ў шчаслівым прадчуванні... Бляшня з вяртлявым пялёсткам ці вібрахвост з гнуткай тканкай на імгненне запыняюцца – і адбываецца выбух. Узрываюцца сэрцы – і шчупака, і рыбалова, ды перамешваюцца іх рассыпаныя па наваколлі аскепкі. І ў рэшцэ рэшт асядаюць на прыціснутую стомай пачуццёвую роўнядзь. І ты не ведаеш, калі пачалася і калі скончылася гэтая вялікая паўза, гэтая спроба адбыцца ў згодзе з усім шчодра-існым. А

можа, вялікая паўза – усяго толькі закладка ў кнізе шчаслівых здарэнняў – паміж старонкай майстэрства і старонкай натхнення...

Адкуль, з якога боку дзьме вецер? Лепш, калі з захаду. У нас, на Віцебшчыне, зазвычай, пераважае гэты накірунак, а рыба – улюбёніца звыкласці.

Калі ты, рыбачок, выруліў сваю лодку на рачную плынь? У якім стагоддзі, якой парой года, на світанку ці ўвечары?.. Пытанні...

Вясной лепш выкарыстоўваць прынады натуральных колераў, прытым невялічкія, тыя, што імітуюць мальгу. Гэта блёшні, якія вабяць кручэннем пялёстка, а не гайданнем. Шчупакі вясновай парой больш пераборлівыя, не тое што восенню, калі падчас жору не грэбуюць нават лягушкамі.

Увосень іх найлепш правакаваць нечакана яркімі прынадамі. Некаторыя рыбаловы нават самаруч падфарбоўваюць блёшні.

У дзень зыркага сонца, на празрыстай вадзе, калі шчупак і ценю баіцца, чапляю жоўтую ці лепей мядзяную, густога цёплага колеру «Аглію Лонг» і «цераблю» рэдкія чараты на прыбярэжнай водмелі. І ў рэшце рэшт «выцыганьваю» шчупака.

Нават самая сумнеўная прынада раптам спрацоўвае падчас доўгага, на працягу ўсяго светлавога дня сплаўлення па рэчцы. Ці а дзевятай гадзіне раніцы, ці ў паўдзён, ці ў другой палове дня, пасля пятнаццаці гадзін, шчупак, падштурхнуты пажадай наедку, гэтым вечным рухавіком усяго жывога, абавязкова адгукаецца. Хаця б адзін. І ягоная атака нават больш нечаканая, чым шчаслівы выпадак.

Як добра плыць па рацэ, калі ў цябе амаль поўная скрынка надзеі, якая пераліваецца срэбрам найперш на металёвых баках блёшняў “Люсокс”, “Аглія Лонг”, “Цыклоп”, “Атам”, “Блю фокс” ды іншых... Якая затоена ў мяккасці сіліконавых прынадаў самых разных расфарбовак ці ў качкавых лапатках воблераў... А больш за ўсё яе ў адной-адзінай улюбёнай старой бляшні, з якой можаш праплыць па рацэ ўсю адмераную адлегласць, нават не згадаўшы пра тое, што яе можна замяніць.

...У рыбалоўных крамах зноў і зноў разглядваю ўвесь набор прынадаў. Рэдка калі ўтрымаюся, каб не купіць што-небудзь новенькае, хоць віврахвост які танны...

“Дайце гэты, блакітна-белы...”.

Вось мяне і спаймалі!

Мне здаецца, што некаторыя вытворцы прынадаў не столькі заклапочаны эфектыўнасцю той ці іншай бляшні або воблера, колькі імкнуцца здзівіць, захапіць, зацікавіць рыбалова якой-небудзь навінкай, яе формай, расфарбоўкай. І гэта ім лёгка ўдаецца. Мы, заўзятары спінінгавай лоўлі, такія ж безабаронныя перад спакусай, як згаладалыя пасля нерасту шчупакі. Незваротныя ў сваім нецярпенні, як кропля дажджу, што саслізнула з вузкай лісцінкі, навіслай над вадой вербалозіны.

## Тралінгісты

Такім словам прыемных людзей не назавеш.

У іх самыя шыкоўныя пластыкавыя лодкі, з адмысловымі рухавікамі сусветных вытворцаў. Такія рухавікі імкліва дастаўляюць у самую аддаленую затоку вялізнага возера. А калі пачнецца лоўля, лодцы надаецца самы запаволены ход, па хуткасці роўны руху бляшні ці воблера, калі

іх самаруч выбіраеш з вады спінінгавай шпуляй. А можна і яшчэ больш замаруджана.

А якія ў іх спінінгавыя вудзільны! Самых надзейных фірм, з найноўшых матэрыялаў, строга вызначаных тэставых параметраў, з платынавымі накіроўваючымі кольцамі для лёскі ці пляцёнкі, па сутнасці, вечнымі!

А якія шнуры! Плеценыя-пераплеценыя і ў дадатак спаяныя ў суцэльную жылку, ды яшчэ пакрытыя адмысловым рэчывам, каб лягчэй саслізгвалі са шпулі. І не парвеш – толькі рукі парэжаш. Такімі можна карчы з рэчкі выцягваць.

А якія воблеры! Поўныя "лінейкі" самых знакамітых у свеце фірм. І ў асобным наборы – толькі для тролінга, тыя, што скародзяць сваімі лапаткамі дно, спакусліва ўзнімаючы хвастом уверх перад шчупакамі ды судакамі сваё заманліва расфарбаванае тулаўка. Матор "падшавельвае" ваду, нібыта выйшла карміцца шчыльная чарада рыбін, воблер імітуе адну з іх, якая раздражняльна праплывае раз-пораз перад пашчай. А ўсё таму, што тралінгіст бачыць на дысплейчыку свайго рэхалота дзе, на якой глыбіні стаіць тоўстахрыбетны шчупак ці камлюкаваты судак. Гэта ўжо не спакушэнне бляшнёй, а, лічы, настойлівае змушэнне.

І тут да месца згадаць старую показку.

У шчупака пытаюцца:

– Ну што ты, боўдзіла, спадманную прынаду хапаеш, нібы год не еў. Хіба не бачыш – звычайны кавал жалеза, толькі блішчасты ды разгойдваецца спакусліва...

– Ды бачу я ўсё, але нічога з сабой зрабіць не магу...

Так засякаюцца на трайнік і спакушаныя на самай патаемнай глыбіні тымі блёшнямі, а яшчэ лепш воблерамі неабачлівыя драпежнікі.

На той глыбіні – улюбёная прахалода для вялізных, тоўстых ікранак, якія даюць самы значны мальговы прыплод. Вядома, калі іх не спакусяць бязлітасныя тралінгісты.

А яны ж, дарэчы, заўсёды нацэлены на здабычу перш за ўсё трафейных экзэмпляраў. Як спрактыкаваны паляўнічы імкнецца здабыць лося з шырачэзнымі лапатамі разгалінаваных гадамі рагоў, так і тралінгіст – шчупака мінімум кілаграмаў на пяць.

Мой знаёмы за адну рыбалку "выскарадзіў" на сваёй маторцы двух мерных шчупакоў па дзевяць з гакам кіляў – як узняць!

Магу ўявіць, як ён радаваўся такой здабычы.

Тралінгісты – невыпраўныя тэхнакраты ў рыбнай лоўлі. Менавіта яны, самі таго не ўсведамляючы, падразаюць крылы ластаўцы шчаслівага здарэння да няўзлётнай прыземленасці статыстычнага факта. Спытайцеся ў такога майстра:

– Ну які ў цябе сезон быў, ці ўдалы?

Не здзіўлюся, калі пачуеце ў адказ:

– Не надта каб. Усяго трыццаць заліковых шчупакоў – звыш пяці кэгэ. І толькі адзін на дзясятачку пацягнуў...

Сумная арыфметыка. І раздражняльная. Сябра Пятрок не знаходзіць сабе месца, калі я ўсчынаю гаворку пра тралінгістаў.

– Шкоднікі! – абураецца ён. – Па сутнасці, матачнае пагалоўе зводзяць, самых жыццядайных ікранак вылоўліваюць, каб ім пуста было. Бывае, прыедзеш на возера, аблюбуеш затоку – і пачынаеш няспешна аблоўліваць, а тут яны заяўляюцца. Гаманкія, хварсістыя, з бутэлькай віскі на борце.

І пачынаюць наразаць свае кругі, ускаламучваць ваду, насякаць вінтамі рухавікоў, нібы храп'е свінням, паверхневыя водарасці... Трасца ім!

Каб мець такую шыкоўную лодку, рухавік, вудзільна, шпулю, пляцёнку, воблеры, трэба мець ёмкі партаманэт, так званы лапатнік. Тралінгісты – прызнаныя заможнікі ў рыбацкай супольнасці. У свой час, пры камуністах, іх з'яўленне патлумачылі б разбуральным уплывам Захаду і маглі б прыраўняць да стыляг, джазменаў. Не ведаю, як я, а Пятрок абавязкова выступіў бы грамадскім абвінаваўцам, калі не на таварыскім судзе, дык на старонцы раённай газеты.

Я згадваю дзеда Рыгора і дзеда Мікольку, і задумваюся пра сваю непазбыўную старасць. Як яны ў свой час адмаўляліся ад крамных паплаўкоў і лёскі, аддаючы перавагу ўсяму самаробнаму, так і я цяпер грэбліва і нават трохі з іроніяй стаўлюся да рыбалоўнага рыштунку тралінгістаў. Цураюся гаворкі з імі. Каб была мая воля, забараніў бы такую лоўлю.

Шкада, што тралінгісты не ўсведамляюць, як шмат яны згубілі калі ад традыцыйнага спінінгавага спосабу перайшлі на свой – цалкам тэхналагічны, як вытворчы працэс. Як гэта сумна, калі шанцунак (яго глыбінная верагоднасць) добра бачны на дысплейчыку рэхалота. Зусім іншая справа, калі ён, рыбацкі шанцунак, нечаканы, неспадзяваны, неспрагназаваны, заўсёды раптоўны, як каханне. Такі можна папрасіць у Бога.

А можна і на сябе спадзявацца. Асабліва, калі ўсёй душой, усёй існасцю да дрыжыкаў усярэдзіне адчуеш, што ён вось тут – пад нахілёным веццем вербалозаў, у прыбярэжнай заглыбленасці, спакой якой выдаюць на паверхні амаль знерухомленыя маленькія бурбалкі, вось тут у водарасцях – смарагдавы, з жоўта-лісцёвымі асеннімі кроплямі сонца на тулаве шчупак...

Але дзе дакладна, на якой глыбіні? Няхай гэта падкажа не рэхалот, а сэрца. Няхай яно ёкне ў прадчуванні ўдару імклівай маланкі па бляшні – і на імгненне запаволіцца на шпулі рука, а тады ўзляціць уверх, як ад спуду, разам з узятым у абшчэп пальцамі спінінгам... І тады ты адчуеш, што сэрца б'ецца ўжо не ў грудзях, а ў вадзе, на самым канцы танюткай жылкі.

Ці няхай усё гэта адбудзецца ў трохі інакшым парадку: можа, сэрца ёкне пазней, калі рыбіна ўжо засячэцца на трайнік, або гэтае ёканне адбудзецца колькі разоў запар... Хто ведае, як доўжацца пачуцці ў шчаслівым імгненні, і які іх суплёт.

## Скрылі блакіту

Каб вы ведалі, якая восенню на Касплі вада: празрыстая, нібы шкло, але, здаецца, больш шчыльная і таму больш важкая, чым летам. Яна свежая, нібы неперабарляныя скрылі сыраквашы...

У крайнім выпадку, у той кастрычніцкі дзень, калі мы з Петраком узнімаліся на маторцы ўверх па плыні, мяне апанавалі менавіта такія параўнанні і ўражанні. Седзячы на носе лодкі, я раз-пораз узнімаўся і зачараваны аглядаў некранутыя ветрам затокі.

Вада свяцілася густым блакітам нізкіх нябёсаў, але з ледзь прыкметным зялёным адценнем, нібы дно хто ўсыпаў смарагдавай расцярухай.

Адкуль на самой справе бралася гэтае святло – невядома. Трава даўно ўчарнела, набярэжныя хмызы гублялі рэшткі свайго, таксама пачарнелага восеньскага ўбрання... Але ж не прыдумаў я тое адценне вады цяпер, пі-

шучы гэтыя радкі. Было ўражанне. Можа, так своеасабліва сашчыльніўся блакіт, што ў ім заіскрыліся “прыблудныя” промні... Так альбо інакш, але вада была запамінальнай, асабліва прыгожай.

Карцела спыніцца і разбіць неруш каторай затокі важкай срэбнай бляшнёй. Я зноў і зноў пазіраў на Петрака, але той быў непахісным: маўляў, як і наважыліся, дойдзем да Верхніх Храпуноў і толькі там заглушым рухавік і аддадзімся на волю плыні, пачнём спускацца ўніз ды аблоўліваць кожную яміну, кожны вір... Я трываў, але на душы было неспакойна: а якая тады рыбалка...

Прыгажосць ракі не толькі натхняла, але і раздражняла, бо мы праплывалі міма. І ўжо другую гадзіну запар. А восеньскія ж дзянькі, як вядома, згараюць хутка, нібы сярнічкі.

Калі мы даплылі да Верхніх Храпуноў і пачалі, спінінгуючы, спускацца ўніз, мяне ахапіла дзіўнае пачуццё. З раніцы сунуліся ўверх, каб прыхапіць як мага даўжэйшы адрэзак ракі, а галоўнае – парыбачыць каля сваёй помнай вёскі, у шырокай затоцы, дзе колькі разоў патраплялася добрая здабыча, і вось цяпер, нягледзячы на пару ўдалых шчупаковых атак, даводзіцца так жа імкліва, як і ўзнімацца, сплаўляцца ўніз. Да неабачліва прапушчаных прыгожых мясцін з іскрыстай вадой.

Сэрца напаўняла трывога і чым далей – тым болей. А ўсё таму, што, зноў зазначу, дзянёк восенню кароткі...

Мы і не згледзіліся, як рэчышча напоўніла вечаровая смуга. Хаця як яе назваць вечаровай, калі яшчэ і чатырох гадзін пасля паўдзёну не было.

І тут мяне раптам апанавала прадчуванне: дык мы ж не даплывём да нашага прыстанку, дзе пакінулі машыну, пры святле – сцямнее...

Дакучлівы морак пасля гэтага прадчування пачаў на вачах гусцець і абніжацца ў лодку. Неўзабаве, каб хутчэй паспець, нам давялося скарыстаць рухавік. Яно і лавіць такім змрокам ужо не было сэнсу.

Я пачаў шкадаваць аб неабачліва прапушчанай прыгажосці, аб магчымай здабычы ў ранішніх, не кранутых лёскай скрылях вады і пры гэтым трохі крыўдзіцца на Петрака, які нідзе не хацеў прыпыняцца падчас нашага паходу ўверх па плыні. Сябра незадаволена бурчаў у адказ ды прасіў не згадваць пра гэтую хібу.

“А так жа спрэс у жыцці, – падумаў я. – Імкнёмся да зваблівай мары і, захопленыя, не заўважаем, як па імклівай плыні часу сплываюць, як потым высвятляецца, абяцаныя радасцю імгненні...”.

Мы плылі з Петраком уніз, і я зноў і зноў згадваў напоўненыя блакітам з зялёным адлівам затокі. Было шкада, што іх паклічная прыгажосць так і засталася некранутай, не абуджанай плюханнем цяжкой бляшні на люстраную паверхню ды жамярыным вжыканнем лёскі, якое сячэ закружляную жаўталісцем цішу. А некранутая прыгажосць усё адно як нічыя, ідэальная, гэта значыць, не перамеленая на жорнах чалавечых душаў.

## Узнятая за шчэлепы прыгажосць

Французскія аматары рыбнай лоўлі прызвычаіліся ўважліва аглядаць сваю здабычу, цешыцца з ейнай прыгажосці і такім чынам натхняцца на новую лоўлю. Гэта стала своеасаблівай і нават трохі ўрачыстай завядзёнкай.

Французы з асаблівым натхненнем любуюцца злоўленай фарэллю, тым больш, калі патрапляюць у аб’ектыў відэакамеры. Бярэ каторы гэтую

кветкавую рыбіну ў рукі, паварочвае, кладзе на бок, пашлопвае далоняй па лусцэ, адным словам, дэманструе сваю замілаванасць і пры гэтым кажа:

– От жа, якая прыгожанькая. Вы толькі паглядзіце: якія плямцы, нібы абведзеныя каляровым алоўкам, які смарагдавы адліў... А плаўнікі! Нібы пёркі райскай птушкі... – і далікатна адпускае рыбіну на волю, папярэдне патузаўшы яе сюды-туды за хвост, каб абмыць, зноў прызвычаіць да вады шчэлепы.

Аднойчы мне падумалася: "Якія ўсё ж у іх, французскіх рыбаловаў, прыкрыя адносіны да здабычы! Не вараць з яе юшку, не смажаць, не вэндзяць, не высушваюць да піва, нарэшце, а толькі навярэдзяць, натрудзяць, давядуць да смяротнага стрэсу, а тады адпускаюць. І ўсё гэта дзеля пустой уцехі, казытання нерваў, падвышэння адрэналіну ў крыві...".

Хіба атрыманае такім чынам сузіранне прыгажосці ўзвышае душу?..

І чаму я з гадамі паддаўся ўплыву французскіх рыбакоў?.. Можа, таму, што дзякуючы ім, упэўніўся ў залежнасці ўдачы падчас лоўлі ад прыгажосці азёрнай ці рачной затокі, стаў надзвычай патрабавальным да празрыстасці вады: у каламуці і зайздросна вялікіх рыбін лавіць, паверце, не хочацца...

Нядаўна заўважыў: калі рыбачу адзін, і я ўжо магу даволі доўга любавацца спайманым шчупаком і пры гэтым адчуваю, што гатовы ўсміхнуцца Богу – настолькі праясніваецца на душы...

Параўнальна невялікае «люстэрка» майго Бабчанскага возера. Закідваючы спінінг, абыходжу яго на лодцы ўсцяж чаратоў параўнальна хутка – і маю пару шчупакоў. А на гэты раз – на табе: аднаго не тое што ладнага, а вялізнага, важкага і прытым на самым пачатку рыбалкі – колькі метраў адплыў ад прыстані...

Добрую вагу яго адчуў адразу па выгінанню вудзільна. Выцягнуў. У лодку залучыў без падсачака, асцярожна, але моцна, як абцугамі, узяўшы за карак. А тады з задавальненнем узняў угору, каб шчупак адкрыўся ўсёй сваёй прыгажосцю, як птушка ў вольным паветры.

І ён адкрыўся: затрымцелі растапыраныя пёры-плаўнікі на ветры, хвост на бруістых павевах пругка пацвярджаў сваю заграбастую сілу, а жоўтае рабацінне на тулаве здавалася сонечнымі пырскамі, якія, яшчэ імгненне, – і скоцяцца ў ваду.

Я ўзняў шчупака крыху вышэй, нібы на шалі вагаў, каб яшчэ больш пераканацца ў ягонай важкасці. Яна ўражвала, і было зразумела, што ўразіць яшчэ больш маю жонку, якая з мясаёмкіх шчупакоў налаўчылася рабіць духмяныя, непаўторнага смаку катлеты. Гэтае прагматычнае прымерванне зусім не зацяняла прыгажосці вялізнай рыбіны, а толькі пераконвала, што шчупак па-сапраўднаму прыгожы менавіта з-за сваіх пераканаўчых памераў!

Я зноў зірнуў на ягоныя натапыраныя, расхінутыя ў паветры плаўнікі. У вялізнага шчупака яны прыкметна гусцей расфарбаваныя – свецяцца тэракотай, а чорныя графічныя рыскі яшчэ больш падкрэсліваюць адметнасць колеру. Ды і вохрава-сонечныя плямцы на вялізным тулаве больш асляпляльныя. А пагражальны выгляд вostразубкавай пашчы здаецца наўмысна перабольшаным.

Але вось жа ў чым штука: як толькі шчупачына пераўзыходзіць пэўную мяжу цельпукаватасці – прыгажосць прыкметна губляе сваю пераканаўчасць. Справа ў тым, што непамерна вялізныя драпежныя рыбіны праз сваё абжорства адгадоўваюць вялізныя абвіслыя чэравы. Каб такі шчупак меў

ногі, дык валачыў бы сваё пуза па зямлі. А гэта ўжо разбурэнне ўстойлівага ўяўлення калі не эстэтычнага ідэалу, дык пэўнага эталону. І тады сапраўды, як тая жонка, пачынаеш больш думаць пра рыбныя катлеты.

Але ж малыя шчупакі-травянкі (жыгаўкі, “карандашы”), можна сказаць, непрыгожыя. Калі і можна, разглядаючы іх, прымерацца да якой прыгажосці, дык толькі з праекцыяй на будучы рост. Нецікава, і таму я адпускаю іх на волю. Але без французскага валаводжання: плюх у ваду – плыві, нябога!

## Прымерванне надвор’я на сябе

Так атрымалася, што рыбная лоўля стала для мяне, бадай, галоўным заняткам у вольны час, а ўсё астатняе, у тым ліку і літаратурная творчасць, адбываецца ў паўзах паміж выездамі на раку ці возера. Я лёгка кіну на пісьмовым стале рукапіс на пачатым аркушы, калі хто прапануе паехаць на рыбалку. Гэта просты выбар – як чарговы ўздых, які немагчыма адкласці на потым.

Калі раніцай выходжу з дома і, як і ўсе людзі, гляджу, якое надвор’е, дык найперш прымерваю яго да рыбнай лоўлі – спрыяльнае ці не? І так з 1 чэрвеня, калі дазваляецца лавіць шчупакоў ды іншую рыбу з лодкі, і да самага зазімку.

Калі на двары млявае надвор’е: запарушанае аблокамі сонца, лёгкі ветрык, які навявае згадкі пра ўдалую рыбалку, на душы робіцца хораша. Хоць праз колькі імгненняў зажурваюся, што вымушаны спяшацца па службовых справах, а не збірацца на ўлюбёную раку...

Прыемна, што такі ж “млявы” дзянёк быў і ўчора, можа надарыцца і заўтра, і паслязаўтра, і, нарэшце, тады, калі я выпраўлюся на лоўлю.

Але ж згадваецца і непаўторны выпадак. Плывём мы з Петраком па Касплі, а надвор’е пакрысе пачынае псавацца. Пакрысе, пакрысе, а тады – раптам і зусім.

...Нагрувасціліся нізкія цяжкія хмары, узняўся моцны віхурысты вецер. У абніжаным між высокіх берагоў рэчышчы не адчувалася яго поўная сіла, але яе праявы былі добра бачныя наўкруг. Дрэвы на пяколках берагоў гнуліся пад націскам ветру ад самага камля, кроны гайдаліся, нібы лёгкія мяцёлкі чаратоў. А ствалы, якія падгнілі ля каранёў, магутны подых валіў, як пастаўленыя стацьмака камянькі даміно. Стала нават трохі вусцішна. Але гэта было толькі да першай паклёўкі...

На павароце ў Петрака ўзяўся ёмкі шчупачына, а крыху ніжэй трохі меншы – у мяне. Потым зноў у Петрака, зноў у мяне... Як ніколі не было такога надвор’я падчас нашай рыбалкі на Касплі, так і такога безупыннага шчупачага жору. Тады мы аблавіліся, некуды было пакаваць рыбу, каб данесці да легкавушкі ў Суражы, напхалі яе ў чахол з-пад вёслаў. Ледзьве ўспаўзлі на стромкі бераг з цяжкой, але такой прыемнай ношай.

Праўда, і пасёння я перакананы, што найбольш спрыяльнае для лоўлі на спінінг – млявае, з прыглушаным хмарамі сонцам, і ўсё ж ацішанае надвор’е. Перакананы, хоць і маю на ўвазе, што могуць быць і выключэнні...

Мушу прызнацца, паважаны чытач: у прымерванні надвор’я на сябе ў рыбацкай корці мяне засмучае пэўнае падабенства да... жонкі. Можна сказаць, нават абражвае. Тая ж, як толькі прачнецца, усчынае: “А сёння, бачу, на дождж хмарыцца, можа, і падсілкуе агурочкі...”.

Ці: “Ай, які вецер узняўся, хоць бы плёнку на цяпліцы не парваў...”.
Або мілоснае:
“Якое надвор’ека, усё трубой ідзе ў рост у агародзіку. Трэба за праполку брацца, але ж лацвей – зямелька не ўсохла яшчэ...”.
Нялюба мне слухаць гэтыя пераборы бабскіх струн... Яшчэ ў калгасным маленстве я з лёгкасцю адрокся ад свайго, прадвызначанага лёсам земляробскага надзелу– і думаць пра яго не хачу, і згадкі не люблю.
Я вольны чалавек: апусціў вёслы – і ўніз па рэчцы... Цягавітая плынь вынесе да рыбацкай раскошы, як спраўны конь у хамуце.

## Дзедава Дзіва

Мой дзед Юстын Мікалаевіч Амбрасёнак вельмі любіў парыбачыць. Можа, таму, што менш, чым іншыя аднавяскоўцы, быў захоплены земляробскай справай. А бацька Васіль Рыгоравіч быў куды больш спраўным селянінам... Выходзіць, я пайшоў па дзеду.
Юстын лавіў рыбу на рэчцы Дзіва, непадалёк ад вёскі Кісялёва Ушацкага раёна. Абтоптваў яе берагі з крыгай, сакам, ставіў нераты і зробленыя з лучыны лавушкі на ракаў. На рыбалку, зазвычай, ён, самотнік, хадзіў адзін. І, як з гадамі высветлілася, найбольш паспяховым рыбаком у маладосці быў менавіта на Дзіве. На азёрах ягоная душа не прыпісалася.
Я ў сваю чаргу ўпадабаў раку Каспля.
Сёлетняй вясной мы з Петраком блукалі на аўто па наваколлю вёскі Камень, цэнтра нашага сельсавета: іншы раз заманецца агледзець радзіму...
Мы сноўдалі ўверх-уніз па высозных пагорках і прымерваліся: як няблага было б прыехаць сюды восенню, калі асіны і клёны апрануцца ў барву, набудуць непаўторную прыгажосць – такую, што вачэй не адарваць...
– Паслухай, а тут жа непадалёк Дзіва цячэ, рэчка твайго дзеда. Можа зірнём, – раптам сказаў Пятрок.
Як жа не зірнуць!
І мы паехалі да вёскі Немірова. Дзіва тут, даючы “нырца” пад невялічкі драўляны масток, цячэ каля самых хат.
Адсюль, з гэтага мастка, мы і агледзелі з сябрам рэчку – крывулістую, па ўсяму відаць, глыбакаватую, з бухматымі зараснікамі квітнеючай лотаці па берагах. Не ведаю, што пры гэтым думаў Пятрок, а я прыкідваў, як па такому заросламу беражку ішоў з сакам мой дзед Юстын, прымерваўся і закідваў сваю прыладу лоўлі ў ваду, абтопваў прыбярэжныя водарасці, выганяючы з іх рыбу...
Гэта было дзесяткі гадоў таму і на пару кіламетраў вышэй па рацэ, якая даўно сплыла – дзедава Дзіва.

## На плыні

Калі падчас рыбацкага паходу начуеш на беразе ракі, дык зазвычай падхоплівешся прыцемкам – на прыродзе немагчыма кунежыцца ды і сверб як мага хутчэй распачаць новую лоўлю даймае.
Адным словам, не высыпаешся, клюеш потым носам на лодцы, асабліва калі рыба не ловіцца...
Рачная плынь то імкліва панясе па нахілу на перакаце, то запаволіцца на нізіннай роўнядзі і ледзьве зрушвае лодку з месца... І гэты ірваны рытм

зусім не абтрасае, як восеньскі вецер яблыкі, зморны сум, а, наадварот, яшчэ больш закалыхвае. На ціхай плыні пасля чарговага пустога закідвання спінінга выбіраеш хвілінку, каб “параўняць спіну”, адкідваешся назад, масцішся, як мага больш зручна, на лавачцы і гумавым борце і ўжо не можаш устаць, захоплены ў палон расслабляючай перад сном млявасцю. І каб не абуджэнне, напрыклад, ад кроплі дажджу, дык і не ведаў бы, што заснуў – проста знік.

Гэтае абуджэнне такое ж нечаканае, як і сон, дзіўнае, як нараджэнне.

І ўсе гэтыя перамены, сашчыльненыя ў сваім чаргаванні, нагадваюць плынь асаблівай, нязнанай дагэтуль ракі. І ты раптам пачынаеш адчуваць, што не можаш адрозніць прастору сваёй душы ад прасторы рэчаіснага наваколля – анідзе няма драбніц звыкласці. Спрасоння не можаш вызначыць, куды цячэ рака і ў якой вышыні лунае ці ў якім куточку абвяла твая душа. Толькі пачынаеш усведамляць, што цалкам належыш плыні, што яна, мусіць, вось гэтая рачная касплянская плынь, і вынесла цябе з царства Марфея.

Прадзіраеш вочы, аглядаеш берагі, а яны, нібы адлюстраваліся ў сне, – аднастайныя, зарослыя бухматым хмызоўем ды высокай зніцелай травой... І каб табе якая прыкмецінка тваёй колішняй прысутнасці тут.

І тады па месцы сонца на небасхіле, кірунку ветру, які ў нас дзьме ў асноўным з Захаду, па невядомаму птушынаму пачуццю дэкартавых каардынат пачынаеш на імгненне ў думках прыпыняць гэтую плынь, каб усвядоміць сябе на ёй. І бярэш у рукі спінінг.

Усё у рэшце рэшт вяртаецца ў звыклае рэчышча суадносін. І невядома чаму раптам згадваецца завяршальны радок вядомага верша вялікага Пушкіна: “Куда ж нам плыть...”.

А можа, вяртанне адбываецца таму, што раптам усвядоміў сябе не на касплянскай, а на сусветнай вярбальнай плыні?..

І чаму тады не адклаў убок спінінг?..

## Рукапіс не згарэў…

Бывае, усё гатовы кінуць-рынуць, каб паехаць на рыбалку – так захочацца асалоднай адзіноты.

А калі збіраешся ў рыбацкі паход загадзя, паволі, усё старанна плануеш, дык выязджаеш на ўлонне прыроды са звыклымі паўсядзённымі клопатамі, якія немагчыма абтрэсці, нібы пыл з вопраткі.

Аднойчы, улічыўшы, што надвор’е не надта спрыяльнае і, хутчэй за ўсё, рыба будзе брацца дрэнна, прыхапіў з сабой незавершаны рукапіс ды ладны пук алоўкаў у адмысловым футарале. Усё, як заведзена. «Каб перачакаць высокае сонца, – думаю, – пастаўлю на якой пожаньцы намёцік, цяпельца распалю, перадыхну, а заадно і дапішу колькі аркушаў ці падпраўлю напісанае. Калі Каспля заліта сонцам, шчупакі ўсё адно не адгукаюцца...».

Так я з лёгкасцю падманваў сябе і, здаецца, падману яшчэ не аднойчы, нават калі стокроць пераканаюся, што падчас рыбалкі ніколі не дакранешся да тых аркушаў і алоўкаў.

Праўда, калі я ўпершыню разам з рыбацкім рыштункам узяў з сабой і рукапіс, дык усё ж дакрануўся да яго. Толькі не ў паўдзён, калі спыніўся перачакаць зыркае сонца, а познім вечарам, калі прыстаў на начлег і ўзяўся

распальваць касцёр, каб у тым ліку і дымам ратавацца ад камар’я. Перад гэтым трошкі папырскаў дожджык і агонь аніяк не хацеў пераскокваць з галінкі на галінку і нават перапаўзаць. Вось я і адлучыў са свайго стоса колькі, здавалася, чыстых аркушаў дзеля падсілкавання кволых язычкоў полымя. І ў чарговы раз падумаў пра тое, што літаратура для мяне, па сутнасці, другасны занятак, нават куды больш аматарскі, чым рыбная лоўля.

Я скамечыў шчыльныя паперыны, каб лацвей было падторкнуць пад галінкі. І раптам на адной з рабрын камечыны ўбачыў свае літаркі. Авохці, мне! Ледзьве не пусціў на дым перадуманае за пісьмовым сталом...

Схамянуўся, разраўняў, выпрастаў аркушы і хуценька аддзяліў спісаныя ад некранутых. Уважліва прагледзеў, якія старонкі патрапілі б пад вогненны вырак, хоць кожную шкада...

Выратаваныя аркушы далучыў да рукапісу, а чыстыя зноў скамечыў ды падторкнуў пад галінкі. Папера на слабых вуглях паступова занялася жвавым агеньчыкам.

“А калі б сярод гэтых аркушаў былі і старонкі рукапісу, дык куды горш гарэлі б. А калі б гэта быў урывачак з рукапісу Майстра, дык агонь і наогул затух бы. Тым больш, калі б Майстра быў побач з кастром...”.

## Плыву адзін, як сіротка

Сапраўднае каханне памірае ад стамлення часам. Доўжыцца ў лепшым выпадку колькі дзесяцігоддзяў, а тады памірае. Ці значна раней, калі хварэе.

Сяброўства можа атруціць адна з жонак – палічыць яго пагрозай для сваёй “прыватнай уласнасці” на чалавека. Або крызіс эканамічны атруціць, калі за клопатам аб пражыцці няма часу сустрэцца, пасядзець каля рыбацкага кастра, трошкі выпіць, пагутарыць пра вечнае...

Я плыву адзін уніз па Каспплі і прывыкаю да поснай думкі: і ў рыбнай лоўлі, як і ў літаратуры, застаюся сам-насам са смерцю – гэта значыць у атуленні сапраўднай, скразной адзіноты.

Выцягваю чарговага шчупака з прыбярэжнай яміны, нібы даволі вялікае апавяданне – нечаканае, непаўторнае. Сваё. Праўда, няхай сабе на крышачку, але ўжо не так апантана, як раней, хочацца, каб яшчэ адно апавяданне зачапілася, яшчэ, яшчэ адно... Потым эсэ – гэта значыць, акунёк. Няма перад кім натхніцца ў памкненні да першынства...

Як і ў літаратуры, цяпер рыбачу дзеля натхнення, якое – і ў гэтым я даўно пераканаўся – прыходзіць не спярша, а пасля здзейсненага. Ці падчас. Напісаў апавяданне – і яно цябе натхніла. Ці пішаш – і трошкі натхняешся са сваіх стылёвых магчымасцей. Ці пасля рыбалкі, змор採ны, радуешся, што столькі праплыў, што не састарэў за гэты час ні на хвілінку. І амаль забыўся на людзскі свет. А калі не патрапіцца ніводзін шчупак, усё адно рады, што натхніўся прыгажосцю ўлюбёнай ракі і празрыстасцю ейнай вады. Бо перакананы: якраз гэтая вада абмывае, нібы вунь той валун, тваю душу.

Дык і атрымліваецца, што рыбалка цяпер мяне лучыць не з людзьмі, больш дакладна, не з сябрам, а з вадой.

Міжволі дасягнуў таго, да чаго паступова імкнуўся доўгія гады – стаў самадастатковым, амаль эгаістам. Па стылю жыцця. Бо людзей усё ж

люблю, асабліва знаёмых, і часта прэзентую ім свае апавяданні – маю на ўвазе шчупакоў.

## Пераход да згадак Касплі

Блізіўся да завяршэння мой водпуск, лічаныя дзянькі заставаліся, а я, занураны ў рамонт бацькавай хаты, і рыбы не налавіўся, і прыгожым пісьменствам не ўтаміўся – некалі было разагнуць спіну за фарбаваннем. А калі вярнуўся ў Віцебск, дык адразу запланаваў паездку на рыбалку. Што тут планаваць, калі праз пару дзён на работу...

Як на тое, на мае два вольныя дні сіноптыкі паабяцалі непагадзь – раптоўнае паніжэнне атмасфернага ціску, несупынныя дажджы... Але ж намечаную рыбалку нельга адкладваць нават перад смерцю.

...У сем гадзін раніцы я ўжо быў на вадзе. На гэты раз вырашыў праплыць па Лучосе, прытым, не прымерваючыся, адхапіў добрую даўжыню – дваццаць пяць кіламетраў з гакам! Ведаў, што замнога, але, як той шчупак перад зваблівым блішчаннем не мог утрымацца, бо ўжо паплыў у думках... Усё было неадкладным. Праўда, на ўсялякі выпадак (калі не буду паспяваць да цемры вярнуцца ў Віцебск) узяў з сабой усё неабходнае для начлега на беразе – і намёцік, і спальны мяшок, і надзімны матрас пад бок, і сякерку...

Шчупакі не лавіліся. Яно і не дзіўна: непагадзь запанавала з самай раніцы. Дождж адбіваў ірваны рытм: то сыпане часта дробнымі крупамі, то пойдзе ўпрэрадзь, нібы прасеяны на буйным сіце, то аціхне на колькі дзясятак хвілін, каб потым усчацца знячэўку ды абліць з ног да галавы...

Мой цыратовік так і ляжаў увесь шлях пад рукой на лавачцы –апранаў яго і здымаў, зноў апранаў...

Але не столькі надакучыў дождж, колькі павуцінне водарасцяў – тонкажылкавых, цемнаватых, учэпістых, як непазбыўны смутак. Амаль штораз пасля выбірання бляшні даводзілася абскубваць з трайніка прыкрыя травяныя лішкі – менавіта абскубваць, ірваць, бо водарасці былі моцныя, як шавецкая дратва. І гэта пачало надакучаць, перш за ўсё аднастайнасцю. Ды і стамляла. А між тым, не было бачна канца-краю маёй воднай пуцявіне. Я ж ведаў яе толькі па карце: а як суаднесці тую блакітную жылку на паперы з рэальным рэчышчам ды вызначыць, дзе знаходзішся... Міжволі пачаў трывожыцца: вечарэла, а вандроўцы не было бачна канца-краю. Часам здавалася, што нанова праплываеш тыя самыя мясціны. Можа таму, што тым днём ўсё раз-пораз паўтаралася – дажджы, водарасці на трайніку, прылівы маркоты...

У некаторых прыбярэжных вёсках я бываў у свой час, але цяпер не мог спазнаць іх з абніжанай плыні ці памыляўся, прыгадваючы зусім не тую назву. А між кронаў дрэў ужо, як павуцінка, засноўваўся вечаровы морак. Дык і занерваваў і амаль перастаў думаць пра рыбу, зрэдку закідваючы спінінг, а толькі пра тое, як хутчэй даплыць да Віцебска.

Праўда, было і адно суцяшэнне – супакоіліся дажджы, неба збольшага праяснілася.

Нічога не заставалася, як патэлефанаваць сябру ды апісаць яму прыкметы месца, каб той як-небудзь вызначыў яго на карце ды паведаміў мне, колькі яшчэ засталося плыць. Невядомасць замаруджвае плынь...

Я расказаў Петраку пра ўбачанае будаўніцтва новага чыгуначнага моста

цераз раку, хоць, вядома, пазначкі пераезду на карце яшчэ не было, пра лініі электраперадач, але ж іх вельмі шмат вісіць над Лучосай і вызначыць, пад якой ты праплываеш, немагчыма... Так і не ўдавалася мне паведаміць хоць якія свае трапныя каардынаты-прыкметы – хіба што вельмі прыблізна.

Але пасля чыгуначнага моста пакрысе пачала мяняцца рака і гэта вельмі захапіла. Ну як жа! Камяністы, працяглы, з імклівай буркатлівай плынню перакат падхапіў маю лодку, не раўнуючы як на Касплі. Больш за тое, метраў праз трыста адкрыўся новы перакат, не такі працяглы, але з такой жа неаб’езджанай, як маладая кабылка, плынню. З імклівага разгону гопнуўшыся лодкай на перакатную брую, я не толькі пачаў углядацца ў яе віраванне, баючыся наскочыць на які валун, але і азірацца па баках, каб не прапусціць заглыблены ў бераг водны запынак, дзе вада, нібы сонная, ледзьве зрушваецца з месца. І што вельмі важна – побач з імклівымі, “ababітымі” на камянях бруямі... Менавіта ў такіх “закібаінах” і затойваюцца шчупакі, усё адно як з надзеяй, што хуткая плынь паднясе ім рыбную мальгу пад самую пашчу.

Неўзабаве я заўважыў, што і вада ў гэтай частцы Лучосы прыкметна пачысцела, стала больш празрыстай пасля таго, як “перацёрлася” на перакатах.

І зноў я згадаў крышталёвую Касплю. Але ж якім доўгім быў пераход да гэтых згадак: за маёй спінай ужо заставалася пятнаццаць, а то і больш кіламетраў.

І тады падумаў: мусіць, усе рэкі, па якім мне яшчэ давядзецца плаваць, будуць вось так з цягам адлегласці, нібы патрапляючы мне, станавіцца Каспляй, маім ідэалам ракі, “дашліфаваным” уяўленнем.

Плывучы далей, я яшчэ больш пераканаўся, што разасланы на камяністым зямным абсягу блакітны сувой Лучосы заварожвае сваёй прыгажосцю ды калыскавым люляннем лодкі на перакатных хвалях нікольки не менш, чым плынь Касплі.

Перакаты падхоплівалі мяне імклівай вадой зноў і зноў, я перастаў іх лічыць, адно адзначыў, што тут іх нават больш, чым на маёй улюбёнай рацэ. І забыўсяператэлефанаваць сябру ды спытацца, ці знайшоў ён на карце месца па апісаных у чарговы раз прыкметах. Гэта было ўжо не важна, бо я знайшоў свае каардынаты, сваё месцейка, няхай сабе не на блакітнай пульсуючай жылцы Зямлі, а ў цэлым сусвеце ці, што яшчэ лепш, – у ягоным адбітку ў маёй свядомасці.

Настрой прыўзняўся, я перастаў пазіраць на гадзіннік, звяртаць увагу на вечаровую смугу, наадварот, мне пачало здавацца, што сонца не заходзіць за зубчыкі елак, а толькі пачынае ўзвышацца над імі і неўзабаве залье наваколле абуджальным святлом. Узнікненню гэтага аблуднага ўражання спрыяла і тое, што вецер адагнаў яшчэ далей на небакрай набрынялыя вільгаццю хмары. А галоўнае – праяснілася на душы. Можа, таму больш зырка адкрылася не толькі прыгажосць плыні, але і высокіх, абрывістых берагоў Лучосы.

Раз-пораз я ўздымаў галаву, каб агледзець высозныя дрэвы, якія, здавалася, хтосьці неміласэрна магутны падпіхнуў на самы край стромы – далей некуды, яшчэ які вяршок – і яны грымнуцца, як з каптура, у раку. У адным месцы елкі зачапіліся карэннямі за самы грэбень абрыву, у другім – ясені, клёны, ўсюдыісны алешнік...

Адразу за паваротам стромкі берагавы схіл быў зрэзаны з самага верху і да сярэдзіны, а то і ніжэй сталёвымі лёзамі дажджоў. Парушаны схіл свяціўся густой жаўцізной пяску і быў добра бачны здалёк. Я не мог адвесці вачэй ад

гэтай светлай плямы, паварочваў галаву назад, каб як мага даўжэй патрымаць у зрэнках і потым зноў і зноў згадваць незабыўны відарыс прыроды.

У асобных месцах лязо дажджоў зрэзала бераг настолькі неабачліва, што дрэвы засталіся вісець, можна сказаць, на валаску. Зрушаная глеба абсунулася з-пад іх так, што карані значнай сваёй часткай віселі над абрывам у паветры, не маючы магчымасці ўсмоктваць зямны сок. Трохі мацнейшы, чым звычайна, подых ветру ў любы момант мог парваць каранёвы сашчэп, на якім трымаецца бухматая шчодрасць.

Калі я праплыў крыху ніжэй гэтых мясцін, дык і без сябра нарэшце вызначыў сваё рэчаіснае месцазнаходжанне. Па зграбных дамках, абладжаных парэнчамі прыступках да вады спазнаў дачны пасёлак Лятохі, ад якога да Віцебска шэсць-сем кіламетраў.

І вось дзіўна: і тут, у ніжняй частцы рэчышча мне таксама давялося задзіраць галаву ды азірацца, каб разгледзець узвышак берага. Усе дамкі, пастаўленыя ўздоўж яго, прываблівалі позірк: невялічкія, пабудаваныя не па чарцяжах, а са шчасліва ўбачаных відзяжоў мары, непаўторныя, як асабістае шчасце...

Я заўважыў, што некаторыя дамкі падобныя на толькі што ўбачаныя на берагавой строме дрэвы – настолькі яны былі набліжаныя да яе краю: якіх паўметра – і кульнуліся б у ваду. Некаторыя, калі яшчэ не кульнуліся, дык, нібы слімакі, папаўзлі з гары: падмурак даў трэшчыну, зруб трохі нахіліўся і застыў у нерашучасці, усё адно як распрануты купальшчык над сцюдзёнай вадой...

Падмуркі некаторых дамкоў, асабліва трохі пашкоджаных зрухам берагавога грунту, пазней былі прыкметна падтоўшчаны гаспадарамі.

Плывучы ўздоўж берага, я бачыў, што сярод летуценных насельнікаў Лятохаў ёсць і спрактыкаваныя будаўнікі-інжынеры, якія ўмела ўмацавалі не сам дом, а берагавы схіл. Прытым зрабілі бетоннае апірышча каля самай вады, каб грунт нават у павадак не зрушваўся і на міліметр.

Калі насенне дрэў занёс на край стромы вецер, дык што ж занесла сюды дамкі? Вецер рамантызму, узнёсласці, летуценнасці або легкадумнасці?..

Уціхамíраны прыгажосцю, я плыў і думаў пра тое, што зусім не маю патрэбы зайздросціць адчайным уладальнікам налепленых на берагавой строме дамкоў. Навошта, калі мае ластаўчына гняздзечка, мой плыткі гумавы дамок такі ўтульны і пры гэтым падатлівы рачной бруістай волі... Асабліва на перакатах.

На чарговым з іх, ужо пасля Лятохаў, я закінуў бляшню ў невялічкую яміну наўзбоч плыні. Лодку панесла так хутка, што не паспяваў выбіраць шпуляй пляцёнку, і яна прыкметна абвісла. Тым часам краем вока заўважыў, што да бляшні памкнуўся даволі вялікі шчупак. Але я бачыў рыбіну якое імгненне, а тады яе, нібы фіранкай, захінула раптоўна выхукнутая павевам ветру на паверхню вады рабізна. Але дастаткова было і таго імгнення: я ўсім нутром адчуў, што вадзяны драпежнік вымкнуў са сваёй схованкі з сур'ёзным намерам і калі ўжо не атакаваў бляшню, дык зробіць гэта ў якое імгненне. А, можа, ужо адчуў спадман, хуценька раззеўрыў пашчу і стараецца вытрасці адтуль жалязяку?..

З розных верагодных сітуацый для мяне падыходзіла толькі адна: бляшня схоплена, пашча сцялася, як паляўнічая пастка з пругкай надзейнай спрунжынай. А калі шчупака штосьці насцярожыла ці спужала і ён перадумаў, крутануў убок ад прынады?..

Я зразумеў, што трэба вытрымаць адзіна магчымую паўзу і ёй, нібы вострай сякерай, адшчапіць ад цурбака часу аскепак шчаслівага імгнення.

У мяне хапіла вытрымкі.

Сцяліся сківіцы вечаровага шчупака і заціснулі паміж шчотак вострых зубоў калматую вату цішыні – ані гуку, ані ягонага глухога ценю... Узнікла адчуванне поўнай завершанасці свету, хоць яна, гэтая завершанасць, і не абяцала супакой. Толькі пачатак.

Я адчуў заканчэнне паўзы, але не дзергануў вудзільна, нібы спужаны, як гэта бывае пры рэзкім удары шчупака, а пачаў выбіраць шпуляй ліску пляцёнкі, а потым даволі асцярожна пацягнуў яе, прымерваючыся ў думках да магчымай барацьбы.

І тут нанова абудзіўся свет і забіліся ў трывожным рытме дзве ўстрапянёнасці: адна – на пляцёнцы, другая – у цеснай грудзіне, такія розныя, як страх і радасць.

Мая радасць заважыла 1800 грамаў. Рыбаловы, бывае, робяцца вельмі падобнымі да дзяцей, а дзіцячая радасць вымяраецца дужа проста.

...Ужо прыцемкам, азіраючы асветленыя вокны, я ўплыў у Віцебск. Як прыемна, зрабіўшы вялікі пераход, яшчэ раз пераканацца, што ты не зломак.

Тым больш, пераход да згадак Каспλі, выяўлення існых каардынат свайго рэальнага, а таксама прыдуманага, уяўленага, і часткова запісанага (літаратурнага) быцця.

## Смерць на вадзе

Смерць – усяго толькі недарэчны выпадак...

Калі плывеш на хісткай, з тонкай, як лісцінка, дном гумавай чавёнцы, пра смерць згадваеш міжволі: а раптам насунешся на які тырчак – востры сук карча, напрыклад, і напампаванае паветра выпшыкаецца за лічаныя хвіліны, і цябе завірыць на дно, у цемру. Прыкра плыць з такой неадольнай перасцярогай, пакуль не забудзешся на яе. А забываешся хутка – плывеш жа ўслед за сваёй корцю...

Аднойчы з сябрам Петраком рыбачыў на разгалінаваннях Бярэзіны ў Барысаўскім раёне. Незлічоныя рукавы галоўнага рэчышча – улева, управа, проста ці наўскасяк, павернеш, грабанеш пару разоў вёсламі – і заплываеш наўпрост на... воблака.

Калі мы вярталіся на прыстань, незнаёмы рыбак, які затуліўся на лодцы ў ціхім чаратовым куце, пасля колькіх прывітальных слоў раптам запытаўся:

– Хлопцы, а вы куды кіруецеся? – голас незнаёмца выдаваў пераможнае прадчуванне чаканага адказу.

– Дадому сабраліся, на прыстань вяслуем...

– О, дык вы ж не тым рэчышчам плывяце. Паварочвайце направа, вось сюды, – задаволена прамовіў незнаёмец, як здавалася, усцешаны нашай неабазнанасцю.

– Тут некаторыя паўдня блукаюць, пакуль не патрапяць на асноўнае рэчышча, – усміхнуўся на развітанне наш нечаканы прыхільнік.

Калі мы з Петраком вырульвалі на галоўную плынь, на рагу рачнога “завулка” раптам убачылі помны знак, з тых, які людзі ставяць на месцы гібелі свайго роднага, – металічную пірамідку з крыжыкам.

Можа, тут перакулілася лодка і чалавек не змог выплыць са сцюдзёнага віра ці проста немач прыхапіла сэрца і заціснула яго сваёй лапай, як слабую птушачку... Стала змрочна на душы.

На густым разгалінаванні на паверхні зямлі рачных рукавоў гэты журботны знак здаваўся засохлай счарнелай лісцінкай.

Век не думаў, што тое скрушнае відовішча праз колькі гадоў я згадаю з прыкрай нагоды і шчыльна прымераю на сябе.

...Тым днём у мяне была звыклая рыбалка на Касплі – па шматразова паўтораным маршруце, з добра знаёмымі вірамі, ямамі, затокамі, якія ўжо не “абмацваеш” старанна бляшнёй, а збольшага правяраеш – зайшоў сюды адкуль няўцямны шчупачок ці не.

І ў Сураж я ўплыў, як заўсёды, у звыклы час, а шостай вечаровай гадзіне. Лодка зашаргацела дном па чыстаму пясочку вусцевай водмелі і, здавалася, сама вырульвала да заўсёдняга месца прычалу. Чавёнка нарэшце села дном на пясок, а калі я ўзняўся з лаўкі, каб цалкам выцягнуць яе на бераг, дык адразу адчуў, што бяда са мной: павяло ў бок, ногі пачалі ламацца ў каленях, нібы падрэзаныя касой спруцянелыя сцяблы, звялыя рукі выцягнуліся ўздоўж цела, як выдаўжаныя плынню водарасці... У галаве запульсавала віхура.

Я асунуўся, дапоўз да бліжэйшай вялізнай купіны асакі і лёг на бок. Панаваў ужо добры восеньскі прыцемак, і суражскія ліхтары на мосце цераз Касплю, перад самым яе ўпадзеннем у Дзвіну, гарэлі роўна і адчужана, як зоркі, але ні адзін не падміргнуў мне. Не мы ў рэшце рэшт выракаемся свету, а ён нас, найперш – сваёй абыякавасцю.

“Ну вось, далей ісці некуды...” – падумаў я і адчуў сябе маўклівым няўцямным сведкам невядомага працэсу, які адбываўся ўсярэдзіне цела, ды так незалежна ад маёй волі.

Душу пачала браць у свае ледзяныя абцугі вусціш.

І тут з Віцебска, як і дамаўляліся, за мной прыехаў зяць Дзяніс. Ён, падтрымліваючы, дапамог мне дакавыляць да машыны, а тады ўзяўся борздзенька парадкаваць лодку ды іншы рыбацкі рыштунак. Я сядзеў у легкавушцы і турбаваўся, каб Дзяніс не пакінуў на беразе якую прычындаліну. Рыбак жа можа не знаходзіць супакою і ад усведамлення сваёй рыштункавай незавершанасці, няпоўнасці...

Па дарозе ад Суража да Віцебска я туліўся да спінкі аўтамабільнага крэсла, як сноп абмалочанага цапамі жыта. А калі па прыезду зноў жа з дапамогай Дзяніса дашкандыбаў да пад’езда і памкнуўся сам зрабіць колькі крокаў да ліфта, дык зусім знядужаны асунуўся долу, на цэментную падлогу – надта ж па-рачному вірліва закруціўся ў галаве белы свет. А потым так жа вяла асунуўся на падлогу ў сваёй кватэры і нарэшце – на ложак. Але перад гэтым усё ж сабраў у жменьку сілу, памераў ціск і нарэшце спужаўся: 90 на 50. І гэта пры тым, што ён у мяне зазвычай прыкметна падвышаны. Згадалася сцэнка з аднаго кінафільма: у карэце хуткай дапамогі ўрачы вязуць у шпіталь параненага ў перастрэлцы паліцэйскага, па ходу замяраюць у яго слабеючы пульс і ціск і ўспалохана прамаўляюць: “Мы яго губляем!..”, ды пачынаюць спешна рабіць свае медычныя захады, каб выратаваць чалавека...

А змушэнні сямейнікаў адрынуў і не паехаў у лякарню: верыў, што адляжуся, адгараджуся ад смерці сваім упартым спадзяваннем на лепшае.

Спадзяванне – самы лёгкі захад. Да таго ж халодным розумам прыкінуў: калі не сканаў на вадзе, дык на сушы – тым больш не сканаю.

Нават падчас сваёй немачы я заставаўся невыпраўным сузіральнікам і цікаваў, як рэагуюць на мае пакуты сямейнікі... Не магу на іх наракаць, асабліва на Дзяніса, які нагадаў мне аб даўнейшай мары мець сына.

Пазней я даведаўся, што са мной здарылася: адкрылася язва і дала лёгкі крывацёк: кроўка тачылася і тачылася ў шлунак, а я закідваў і закідваў спінінг у спадзяванні на ўдачу ды і забыўся на ўвесь белы свет і на сябе ў тым ліку. Час цёк нават не па рачной, а па нябеснай плыні.

Але ў Суражы, у дэльце Касплі, ён зліўся з рэчаіснасцю і звіўся ў клубок у маім целе.

Калі пазней думкі скіраваліся ў не менш звыклае, чым касплянскае, літаратурнае рэчышча і я згадаў, што якраз з такой жа прычыны сканаў у свой час незабыўны Уладзімір Караткевіч, які любіў плаваць па Прыпяці. Але гэтая згадка і на драбок не суцешыла мяне, наадварот, толькі засмуціла. Няма нічога больш простага, чым зраўняцца ў смерці, асабліва, калі яна не гераічная.

Праз пару тыдняў, адчуўшы сілу ў руках, я пачаў ладзіцца да чарговай рыбалкі: Бог можа адкласці на пэўны час смерць, але не жыццё. І ніхто з сямейнікаў не мог запярэчыць маёй корці, хоць і спрабавалі.

Дзяніс, калі заехаў за мной, каб адвесці на Касплю, толькі запытаўся: “А Вы хоць таблеткі з сабой прыхапілі?”

“Цэлую пласціну у скрынку з блёшнямі паклаў, злавіўся на “хімію”, не раўнуючы як шчупак на жалеза”, – жартаўліва адказаў яму.

Плывучы гэтым разам па сваёй улюбёнай рэчцы, я прыслухоўваўся не толькі да булькацення вады на перакатах, шматгалосся ўстрывожаных птушак, але і да свайго цела, каб своечасова апярэдзіць выратавальнай пігулкай магчымую неспадзяванку. Але, як і тады, перад кананнем, аніякага шкрабання кіпцюроў болю па вантробах ці вяласці ў руках не адчуваў. Праўда, навучаны ўкрадлівасцю немачы, я быў больш асцярожным і, збочыўшы з плыні, прыпыніўся і праглынуў наперад лекавае гаркоцце. А потым супакоены падумаў: “Калі смерць не можа двойчы запар патрапіць разам са снарадам у адну і тую ж варонку, дык тым больш ёй не дадзена, як і нам, смяротным, двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку, каб пераняць каго прыкмечанага. Трасца касавокай!”.

Але мы можам колькі заўгодна разоў увайсці ў адну і тую ж плынь сваіх асацыяцый...

Падплываючы да Суражскай прыстані, лодка звыкла зашаргацела дном па шурпатаму пяску. Здавалася, гэта мая душа патрапіла на бязлітасны наждак вераду. Адразу згадалася нядаўняе кананне. Згадкі захлынулі гарачай хваляй, калі я ўбачыў вялізную купіну асакі, якая нібы падушка, нямулка прытуліла тады маё цела. Акурат вось тут пры няўдалым выніку сябра мог бы зрабіць якую пазнаку, не помную піраміду ўсталяваць (не люблю гэтага), якую мы бачылі з ім на Бярэзіне, а, напрыклад, прыкаціць звычайны валун. Калі-небудзь пасядзеў бы на ім пасля рыбалкі ды згадаў нашы сумесныя вандроўкі, шчаслівыя хвіліны ціхага сумоўя каля кастра. І, мусіць, падумаў бы пра тое, што вось такім зыходам толькі і можна замярцвіць рыбацкую жарсць – цалкам і канчаткова, разам з душою.

Я прычаліў лодку, і трывога вострай іголкай зноў нагадала пра маё нядаўнюю сумную прыгоду. Але укол – адно імгненне. Пераадолець яго мне было ўсё адно што перайсці вузкую ручаінку – адным крокам.

Я ўстаў – і ўзрадаваўся: ногі, хоць і задзервянелі пасля доўгага пераходу, трымалі цела цвёрда, як свежыя слупкі плот.

Каб трошкі разварушыцца, прайшоў уздоўж берага колькі дзясяткаў метраў, а потым з прыўзнятым імпэтам абмыў лодку, узваліў яе на плечы і вынес на пагорак. А калі нёс, дык радаваўся кожнаму кроку, бо яны пацвярджалі маю ранейшую моглась.

Пасля лодкі вынес на ўзвышак скрыначку з прынадамі, заплечнік з рознымі дробязямі, спінінгі... Мог бы перанесці іх за адзін раз, але мне падабалася бадзёра сноўдаць сюды-туды, пазначаючы на прыбярэжным дробным пяску вузкую сцяжынку.

Апошняй я вынес на ўзгорак торбу са здабычай: гэтым разам патрапіўся толькі адзін, праўда, ладны шчупак. Але я сябе лёгка суцешыў: маўляў, лавіў зусім не рыбу, а сваю будучыню. І яна лягла ў торбу важкім прыемным цяжарам.

## Каса, граблі ды крыга пад страхой…

Усё мне дарага ў бацькавай спадчыне. Асабліва – розныя інструменты, сялянскі рыштунак. Калі бачу ягоную сякеру, дык перад вачыма паўстае даўжэзны плот, якім у свой час татулька абгарадзіў ад збрадлівых кароў увесь вялізны агарод. Плот згніў, а памяць жыве.

Ягоныя абсягі сялянскай працы яшчэ добра помняцца і дапамагаюць смялей адмерваць і свае жыццёвыя вёрсты.

Шкада і якую драбніцу згубіць з бацькавай спадчыны. Памятаю, пазычыла мама на колькі дзён суседу лейцы, а той прапіў іх – узяў і праглынуў маю памяць.

Так нечакана прапала і дзедава пастка для ракаў.

У дзяцінстве лавушка-нераток уразіла мяне сваёй сонечнай прыгажосцю: замест сеткі ў ёй выкарыстоўваюцца раўнюткія, з добра падгабляванымі краямі палоскі сасновай шчапы. Па таўшчыні яны, як фанера, і аббіваюцца па кругу асновы так шчыльна, што паміж імі не праціснецца нават невялічкі рак. А зверху – накрыўка на петлях, нібы маленькія дзверцы з такіх жа сасновых палосак. Праз гэты прарэз клалася прынада, даставалася здабыча. Ракаў гэтай пасткай дзед Юстын лавіў хіба што ў маладосці, а ейную вохрыстую прыгажосць пазней заўважыў, мусіць, толькі я. Але не ўгледзеў, як прылада прапала з гарышча.

І старадаўняй крыгі, што была падвешана на адмысловых круках пад страхой, не стала. Хоць бы аснова захавалася, калі сетка згніла...

Рыбацкія прылады вяскоўцаў былі такім жа інструментам і рыштункам, як сякера, скабёлка, вілкі або лейцы, барана або саха. Рыбная лоўля ўваходзіла ў шчыльнае кола абавязковай гадавой сялянскай працы разам з сяўбой і касавіцай, хоць і не належала да тых работ, якія, як даўней казалі, “год кормяць”.

Рыбай “перамяжоўваюць” аднастайную і таму, бывае, надакучлівую ежу, робяць больш лагоднымі грубыя сялянскія харчы. А гаспадара сялібы яна заручае з удачай, абуджае, прыцiснутыя дзірваном гадоў, маладыя ўзрухі душы.

Як і любая сельскагаспадарчая праца, рыбная лоўля, можна сказаць, мела сваю асабліва шчодрую пару. “Уборка ўраджаю” з вадзяного палетку, натуральна, прыпадала на веснавы нераст. Тады рыбы можна было наесціся

ўволю і яшчэ суседзяў пачаставаць – аднесці ранічкай, па вяртанні мужа з агляду сетак, місачку-другую камлюкаватых плотак. Зазвычай, рыбай частавалі жанчыны:

– Вазьмі, Ганулька, вось, поўная місачка, тоўсценькія плотачкі. Я і насмажыла і натушыла ў печы... З ахвоты ясі і супыніцца не можаш... Нагатуй і ты, пачастуй сваіх дзетак...

Сёння даўнейшыя спосабы лоўлі лічацца браканьерскімі, і не дзіўна: кітайскія танныя капронавыя, можна сказаць, аднаразовыя сеткі-крапанкі хціўцы ставяць кіламетрамі, абкладваюць возера наўкруг, выграбаюць рыбу без разбору. І з кожным годам колькасць такіх здабытчыкаў павялічваецца.

А раней жа сталых рыбакоў па нашых віцебскіх вёсках было не больш, чым пчалаводаў, – адзін-два. Мярэжы, невялічкія сеткі з буйнымі ячэямі, пасткі для ракаў, традыцыйны сак для лоўлі "таптуном"... І кожны вузельчык той сеткі ці мярэжы быў заціснуты сваімі ручкамі. Такім чынам цераз карпатлівую працу, якая доўжылася познімі вечарамі падчас своеасаблівых зімовых сялянскіх вакацый, выяўляўся ўдзячны паклон рыбакоў свайму шчодраму возеру ці рацэ, выпрошвалася Божая лагода-спрыянне.

Рыбальства ў аддаленых ад мора беларусаў ніколі не было лёсавызначальнай справай, нават у нашым Паўазер'і. Мала таго, што захопленыя ім вяскоўцы лавілі рыбу ў асноўным толькі спрыяльнай парой – падчас нерасту, дык яшчэ і прыхапкам перад або пасля ворыва, касьбы, акучвання бульбы ці якой іншай работы... Гэтыя абставіны і надавалі рыбалцы земляробаў аматарскі характар. Ну як жа, займаліся ёй, можна сказаць, у "паўзах" паміж рознымі прыпарамі... Селяніну, зануранаму ў цяжкую працу, у радасць і паляжаць на баку гадзінку-другую, перавесці дых, а ён сунецца на возера. Такімі сцежкамі вядзе чалавека толькі вялікая корць.

Тым часам прылады лоўлі, нібы звыклы сялянскі рыштунак, "глядзелі" і ў другі, больш звыклы для вяскоўца бок. Напрыклад, ляшчынавае вудаўё, нібы звычайны дубец, – не толькі ў накірунку возера, але і ў бок збрадлівых кароў.

Дзякаваць Богу, што маіх землякоў-рыбаловаў, гэтых ціхамірных абраннікаў шчодрай прыроды, апроч спажывецкай патрэбы, вабіла на азёрную ці рачную лоўлю і асалода, замілаванне ад датыкання да трапяткога срэбра, няхай сабе і хуткацечная супакоенасць на люстраной, падстаўленай небу далоньцы.

Так і вагаецца душа рыбалова-селяніна паміж прагматызмам здабывання харчоў і асалодай быць сам-насам з сабою, нават калі і адзінай верхаводачкі не залучана ў торбу.

У сялян ніколі не было і не будзе моды выпускаць злоўленую рыбу на волю, з недаўменнага шкадавання, а можа, дзеля хварсы ды фанабэрыі перад «нецывілізаванымі» сужыхарамі Зямлі. (І гэта пасля таго, як бедную істоту натрудзяць на жывадзёрным кручку, змусяць задыхацца паветрам, надарвуць губу, вынімаючы з яе смяротную вастрыню ды яшчэ абціскаюць сваімі коўзкімі пальцамі бакі... І, зазвычай, перад відэакамерай, фіксуючы свой нібыта высакародны ўчынак.).

У сялян-рыбакоў хоцькі-няхоцькі на працягу стагоддзяў выпрацавалася залатое пачуццё меры паміж гаспадарчай неабходнасцю і асалоднай душэўнай уцехай.

*27. 01. 2012.*

Алесь Бакач



...яшчэ жыве

ўва мне паэт...

# Пад поўневым святлом...

### ПАЧАТАК ВЕРША

Пачатак верша боскай стрэмкай
садніць паэтавай душы.
А Бог глядзіць смяшлівай зрэнкай:
маўляў, пазбаўся – дапішы.

Няма ад слова вызвалення!
У хмарах дум сваіх жывеш,
пакуль маланкай азарэння
не бліснe так чаканы верш.

### ПАМЯЦІ БРАТА МІКАЛАЯ

Брат віншаваў з днём нараджэння.
Я затрымаў яго руку,
нібы хацеў спыніць імгнення
лісток
на лёсе-скразняку.

Было ў тым поціску гарачым
за ўсе гады, на ўсе гады
зняццё віны, зычэнне ўдачы...
і развітанне...
назаўжды.

Званок з Масковіі па-руску
ўначы ударыў, як набат:
пад Рослаўлем на трасе вузкай
ў аварыі загінуў брат...

Не папракну анёлаў смерці –
работа ў кожнага свая.
Сувой грахоў пакутай сцерці
яшчэ, напэўна, мушу й я.

### ДОМ ЯНА ЗБАЖЫНЫ

Дом дванаццаць.
Завулак Паўночны. Вясна.
Ціш. Трава выбягае пад ногі.
Жыў тут сябар мой Ян Збажына
да знямогі.

Ён знямогся ад краю манкуртаў-мяшчан,
ён люляў беларушчыну ў сэрцы
і пацвердзіў славянскае званне Іван
ранняй смерцю.

Кнігі выкінуць, дом прададуць сваякі
і пасварацца, хто з іх раднейшы.
Знікне ўсё, а душа яго тут на вякі
жыцьме ў вершы.

### БЕЛАРУСАЎ – НЯМА!

Беларусаў – няма!
Вывучаем дарма
мы няродную мову ў школе.
Мы яе адмялі,
з Божых рук не ўзялі –
і народу не стала болей.

З нас што хочаш ляпі:
хоць любі, хоць забі,
кожны кожнаму катам родным.
Будзе вечна наш лёс

цяжкай карай нябёс
за адрынуты дух народны.

## *ПЕРАПРАГЛЯД*

*Зычэнне кастанэдаўцу Андрэю Дзятлёнку*

*...Сабраць з дарог камені тыя,*
*Што губяць сілы маладыя...*
Якуб Колас, «Новая зямля»

Так і жыццё аднойчы надакучыць,
калі больш ні на што не стане сіл...
і ты, змарнелы, стомлены, засмучаны
агледзіш дзён сшарэлы небасхіл.

Перапрагляд уласнае дурноты
хай верне тваё згаслае святло
са свету, што вярбуе ў ідыёты,
падманам зніштажаючы на тло.

## *НУ-ЛЯ-ВЫ-Я*

*На Нямізе снапы сцелюць галовамі...*
"Слова аб палку Ігаравым"

Тысячу гадоў «ідзем на вы»* –
аж на Вы адзін другога клічам!
А духоўны вынік – ну-ля-Вы,
хоць зямлю святою Руссю лічым.

Тыя ж смерды, чэлядзь і князі,
воі ды апрычнікаў дружына
ў гістарычнай выжылі гразі,
з коней пераселі на машыны.

Рускай Праўды** варварскі закон
у галовах, як даўней, пануе,
Слова Збаўцы падмяніў нам ён –
на сябе, на свет, на Вы ваюем.
\- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -
З роднасці, любові, прастаты
брату брат, як Богу, мовіць – ты.

---

* «Ідзем на вы» – славянскае, – ідзем на вас вайною
** Руская Праўда – першы запісаны збор законаў Кіеўскай Русі XI ст.

## *БЯЗЛАДДЗЕ*

Пад поўневым святлом працую ў садзе.
Ноч на Пакровы: холад, вільгаць, змрок.
І ў гаспадарцы, і ў сям'і бязладдзе,
і поле духу абрабіць не змог.

Зграбаю ў гурбы лісце дзён забітых,
нязбыўнае на вогнішчы палю.
Ляцяць да зорак іскры самавіта,
ды, згасшы, ападаюць на зямлю.

Дзён і начэй маіх цяпер замала,
каб хоць бы нешта, збольшага, паспець.
Гарыць жыццё, як пустацвет збуялы, –
да раніцы майму вуголлю тлець.

## *ЗА 50*

*Божа мой, якая стома – жыць*
*І да самай смерці паміраць.*
У. Някляеў

Скахаліся, стаміліся, счужэлі.
Агульнага – манаткі ды дзіця.
Любошчы ў ціхі вырай адляцелі
да юных дзён наступнага жыцця.

Канвеерам – нуда, згрызота, праца,
дзе нам праменнем радасці згасаць,
без бою непазбежнасці здавацца,
дасварвацца, дахворваць, дажываць.

* * *

***Віктару Сырыцу,***
***старшыні Баранавіцкай гарадской Рады ТБМ***

*На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход*
*Ідзі, аграблены, закованы народ!*
Янка Купала, “На сход!”

Эх, сябра Вітусь, летуценнік,
хацеў сабраць народны сход!..
А дзе ж народ? Ёсць “население” –
яно без мовы – не народ.

Меў суд і штраф ты ад “смотрящих”,
каб нават пікнуць люд не змог.

Ды не скарыўся, не злядашчаў.
Дух беларускі – перамог!

Хоць ведаў вынік да пачатку,
ды, ахвяруючы сабой,
ты смела кінуў злу пальчатку,
бо ты – народ, бо ты – герой!

## БЯССОННЕ

Зачапіліся думкі адна аб адну
і забралі спакой, і пазбавілі сну.
Наляцеў цэлы рой успамінаў і мар,
і да рання  душыў разумовы кашмар.
Асалоду і боль я ізноў пражываў,
аб мінулым тужыў, сам сябе шкадаваў.
Планы бралі ўзахоп: што сказаць, што зрабіць...
І... плялася паэзіі тонкая ніць,
і выбліскваў радок, нібы першы прамень,
і бяссонне вяло ў новы сонечны дзень.

## ЯШЧЭ

*...праўду, праўду кажу табе:*
*калі хто не народзіцца звыш,*
*не можа ўбачыць Царства Нябеснага.*
Евангелле паводле Іаана, 3:3

Яшчэ плыву, як малады,
і, хоць пасля ўжо з ног валюся,
струмені сонечнай вады
вяслую, не скароны скрусе.

Углыб цябе, углыб гадоў,
гляджу, жыццём зачараваны,
мая апошняя любоў,
мая вада, мая нірвана.

Яшчэ рамантыкі імпэт
дзівачыць і гарэць натхняе,
яшчэ жыве ўва мне паэт.
...Ды гэта больш не наталяе.

Сам ад сябе плыву, бягу,
бо духу выспеламу цесна...
І звыш радзіцца не магу,
і ў грамадзе не маю месца...



Валеры Гапееў



...яна ішла, і так ішла, нібы не голая сялянка пад прагна-юрлівымі позіркамі адурэлых ад жаночых целаў і ўсёдазволенасці байцоў, а царыца...

# Мы нікому пра гэта не раскажам

***Урывак з ненапісанага рамана***

## Пралог. Бой

Кляштар быў агароджаны высокай каменнай сцяной, якая замыкалася на галоўным храме. Сам храм адной галоўнай вежай і дзвюма другімі вежамі-званіцамі ўзвышаўся на гары ля дарогі. Толькі адна гэта дарога вяла да сяла – з трох бакоў паселішча абмывала рака, робячы тут роўны паўкруг. Далей дарога шырокай вуліцай мінала сяло, узбягала на вялікі драўляны мост і цераз поле хавалася ў лесе. Цяпер яна з мостам цераз раку сама нагадвала раку: ручайкамі сцякаліся з вуліц людзі, фурманкі, цягнулася жывёла, каб ужо на мосце сабрацца ў шчыльную рознакаляровую плынь і павольна, панурыста цекчы далей – сяло выязджала. Жывая маўклівая рака людзей цякла над шэрай бязгучнай ракой вады.

Гэты мост цяпер трэба было захапіць, каб дагнаць часткі белых, якія адыходзілі, спыніць вываз усяго самага каштоўнага з сяла. Але трэба было мінуць кляштар.

Пярэдні фасад храма быў высокі і сам па сабе ўяўляў не што іншае, як баявы вартавы пост: дзве высокія вежы-званіцы па баках цэнтральнай рабілі мясцовасць непрыступнай, калі паставіць на якой вежы хоць адзін кулямёт. І ён там стаяў.

Наскок конніцы на сяло не тое, каб захлынуўся – конніцы проста не стала, зрэзанай прыцэльнымі кароткімі чэргамі са званіцы. Пяхота падымалася ў наступленне раз за разам і адыходзіла назад, за выратавальны паварот, пакідаючы на дарозе і ўзбоч яе новыя трупы і целы параненых. За параненымі ніхто не хадзіў, хоць кулямёт і маўчаў у тыя хвіліны, калі выцягвалі параненага намкамроты.

Спрабавалі ўпаўзці ў мёртвую зону – не атрымлівалася. Трапна, ашчадна страляў кулямётчык.

Праз гадзіны дзве ў адказ на чарговую атаку са званіцы пачуліся вінтовачныя, а потым – рэвальверныя стрэлы. І пасля зазваніў звон. Але звону ўжо не спалохаліся.

Пабеглі без асцярогі.

Трое байцоў адразу ўзлезлі на вежу званіцы, і ўніз паляцела хударлявае цела амаль падлетка. Яго злавілі на дзясятак паднятых насустрач штыкоў. Ужо мёртвага маладога белагвардзейца яшчэ на зямлі калолі штыхамі. Сцягнулі боты – спатрэбіцца абутка! Густа здзіраўлены і насычаны крывёй мундзір нікога не зацікавіў.

Ад здзекаў над мёртвым целам маладога юнкера чырвонаармейцаў адцягнуў глухі гук недалёкага выбуху – белыя ўзарвалі мост.

Байцы ірвануліся было ў невялікі ўнутраны храм кляштара, дзе ўкленчылі ў адчайнай малітве манашкі. Але камісар, паклаўшы двума стрэламі са свайго даўгаствольнага маўзера на зямлю двух самых ахвотных да баб матросаў, не пусціў байцоў выплюхнуць сваю злосць на жанчын. Гэта ён зрабіў не з жалю: камісар памятаў пра сакрэтны загад.

Рабавалі сяло, пустое, бязлюднае. Ды толькі не было чым пажывіцца – гаспадары змаглі забраць з сабой усё найбольш каштоўнае, кулямётчык на званіцы даў ім тое зрабіць. Хіба што ў невялікай карчме ўсё як быццам чакала гасцей. І бутэлькі з рознымі напоямі былі, мабыць, самым каштоўным, чым маглі ўдосталь пажывіцца ацалелыя чырвонаармейцы. Выпілі і з'елі ўсё, што знайшлі. Потым некалькі хат па загадзе разабралі для рамонту падарванага мосту. У п'яным азвярэнні, якое насыцілася стомай, няўдачай і прыкрасцю ад гэтулькіх страт пры ўзяцці сяла, падпальвалі вялікія светлыя хаты і сціплыя шэрыя халупы.

І сышлі.

Жаночы кляштар застаўся некранутым. Сёстры малілі Бога за выратаванне храма і іх выратаванне.

## Частка першая. Каты

– Чуеш, Студэнт, а як з бабамі пры камунізме будзе? Якую пажадаеш, тую сабе і цягнеш? А вось калі мне ціцькастая якая ўпадабалася і Ямельку таксама? Не, у Ямелькі я забяру, ён і не пікне, а вось з Дронам як будзем дзяліць? Па чарзе, ці што?

Міцяй задзірае Студэнта ўжо які дзень, і незразумела – ці то яго сапраўды хвалююць гэтыя пытанні, ці то ён атрымлівае задавальненне ад таго, як Студэнт пачынае смешна моршчыць лоб у спробах адказаць на

самыя выкручастыя пытанні даходліва для мужыцка-салдацкага розуму. Міцяй яшчэ зусім малады, яму гадоў дваццаць пяць. Ёсць у яго аблічны нешта ад пацука – выцягнуты ўперад вузкі твар, вочы-кропкі, востры нос заўсёды прынюхваецца, імкнучыся ўлавіць у паветры запах ежы. З учорашняга вечара байцы спецыяльнага асобнага чырвонаармейскага атрада нічога не елі. Думалі, будуць начаваць у вёсцы, а знайшлі папялішча.

Ямелька, саракагадовы мужычок, трошкі нягеглы, паслужлівы (правільней – па-ваеннаму выключна дысцыплінаваны, за што і ўзяты камандзірам у атрад), толькі ніякавата ўсміхаецца на словы Міцяя – ён пабойваецца гэтага языкатага пацучонка. Андрон, якога з лёгкай рукі Міцяя ў атрадзе клічуць проста Дронам, на словы Міцяя рэагуе скупым адказам:

– Сунешся – заб'ю.

Ён – мужык дужы, такіх, як Ямелька, напрыклад, двое трэба, каб адзін Дрон атрымаўся. У яго ўсё вялікае: вочы, нос, рот, толькі лоб вузкі: валасы на галаве пачынаюць расці блізка ад брывоў.

– Камунізм адменіць сям'ю як буржуазную ячэйку, – пачынае Студэнт адказваць на пытанне Міцяя. – Тая сям'я ёсць сродак эксплуатацыі. Цяпер шлюб будзе вольным, і кожны ў шлюбе будзе роўны: мужчына і жанчына.

– Гэта значыць, што жонку нельга будзе біць? – асцярожна ўдакладняе Ямелька.

– Оха, ты няўжо можаш бабу стукнуць? – не дае адказаць Студэнту, рагочa Міцяй. – Сваю біў?

– Не біў, – збянтэжана прызнаецца Ямелька. – Яна добрая была, навошта яе біць? Сястру ў замужжы моцна білі... А яна ціхая зусім...

Усё ведаюць, што пакуль Ямелька сядзеў у акопах, усю яго сям'ю скасіў тыф. А вёску разабралі на бліндажы.

– Бабу біць трэба! – гыркае Дрон і дадае: – Баба для мужыка створаная, для ўцехі і службы. І браць яе трэба, калі жадаеш. Таму што гэта тваё.

– Во! І я ж пра гэта! – радасна падтрымлівае Міцяй. – А то сядзіць у рэчцы голая, так падперла – дыхаць не можаш, а не крані, чужая, кажуць. Ага, стрываў, як жа...

– Кранул? – паварочваецца да гутаркі байцоў Кір, пытліва мружыць вочы, ад яго позірку Міцяй бянтэжыцца, круціцца на калёсах.

На Кіры – цяльняшка, цяльняшкі на двух яго змрочных, маўклівых сябрах. Але ўсё ведаюць, што Кір – не матрос, што ён быў на катарзе за рабаванні, крадзяжы і разбоі. Аднак камісар (не гэты, новы, а той, што быў раней) сказаў, што для рэвалюцыі Кір – сацыяльна блізкі элемент, паколькі рабаваў і абкрадаў багацеяў, значыць, ён на баку чырвоных. Кіра ўзялі ў атрад за нюх: яго не абдурыш. Ён быццам прыляпляецца да чалавека сваім цяжкім прымружаным позіркам, і гэта мала хто можа вытрымаць, калі што хавае. Потым Кір агледзіць памяшканне – і ўжо ведае, у якім куце трэба памацаць уважліва, каб знайсці схованку. Яго не тое, каб баяцца, але проста імкнуцца не патрапіць пад яго ўвагу. Адчуваецца, што руды Кір не прабачыць у свой бок ні касога погляду, ні крыўднага, на яго розум, слова. Вось і Міцяй з асцярогай пачынае расказваць:

– Дык... Як не крануць? Іду, значыць, гляджу з берага – така-а-я кабылка! Плёскаецца адна ў вадзе, зацішна там, кусты. Ну, я да яе...

– Дык куды ж ты лез, да кабылкі? А калі б падбрыкнула? У табе ж духу на адзін капыт! – не верыць Дрон.

– Ціха... – працягла шыпіць Кір. – Ну, а далей, далей як было? – дапытваецца ён, а ў вачах успыхвае непадробны агеньчык інтарэсу. Яно і зразумела: усе яны ўжо даўно пазбаўленыя жаночай ласкі – камандзір незвычайна строгі ў гэтым ужо двухтыднёвым паходзе. – Падрабязна давай, з дэталямі... – пад'юджвае Кір, а Міцяй, задаволены жывой цікавасцю да свайго расказу самога Кіра, працягвае:

– Ну, на бераг яна выйшла, як стала сукенку нацягваць, тут я яе і схапіў – і на зямлю. Яна, зразумелая справа, выбрыкваць стала... ага... – маленькія вочкі Міцяя пачынаюць ільсніцца ад некалі перажытай узрушанасці і задавальнення. – А бабу ж самую наравістую супакоіць можна проста – ёй па мордзе трэба стукнуць добра. Каб кроў пачула сваю. Праверана! Ураз дзвюма рукамі хопіцца твар прыкрыць – ён жа ў іх, думаюць, галоўнае! Вось і гэтай, значыць, трэсь, вусны ў кроў – і ляжыць, ногі раскінула...

– Брэшаш, – недаверліва цягне Кір. – Так ужо і раскінула?

– Ну, сам раскінуў, – папраўляецца з ухмылкай Міцяй. – Так, супраціўлялася трошкі... На жывот сеў, сукенку наверх задраў, завязаў вузлом – усё, ляжыць! А смачная была баба, ах смачная! Цела белае, свежае, крамянае ўсё, ах ты...

– Ну, а потым што было? – адчуваючы недагаворанасць Міцяя, пытае Дрон. – Ты яшчэ скажы, што і заўтра яе там сустрэў і яна цябе гукала, так ёй спадабалася?

– Не, не сустрэў, – выскаляецца Міцяй. – Яна мяне, сучка драная, прызнала. І ўвечар яе мужык з сябрукамі мяне каламі збілі. Тыдзень адлежваўся...

У гучным рогаце тонуць апошнія словы Міцяя. Але сам ён ані не збянтэжаны, усміхаецца загадкава. Усе перастаюць смяяцца, бачачы яго рэакцыю, таму што здагадваюцца: гэта яшчэ не канец.

– Ды ўжо, нядрэнна ты пад'еў з чужой бабы, – супакойвае рогат Дрон. – Бачу, ачуняў?

– Даўно ачуняў, – сплёўвае Міцяй, і ўсмешка на яго твары становіцца драпежнай. – Тыдзень, значыць, я паляжаў ды і пайшоў у тое сяло, адкуль баба гэтая была. І падпаліў. Добрае надвор'е было, з ветрыкам спраўным – усё зараз пыхнула! А вось рэвалюцыю скончым, камандзір мне маўзер абяцаў. Вярнуся туды – паперастраляю ўсіх, як памагатых контры. Студэнт, а Студэнт! Ты чаго маўчыш? Калі пры камунізме ўсе бабы агульныя, значыць, мужыкоў, якія баб сваіх іншым не даюць, страляць трэба, так? Ну, адказвай: так?

Пытанне Міцяя гучыць са злосцю, дробныя пырскі сліны ляцяць у твар Ямелькі, які сядзіць побач. Ямелька асцярожна выціраецца, ціха кажа:

– Няправільна гэта, рабят...

– Цыц ты! Хто цябе пытае? Студэнт! – ужо крычыць патрабавальна Міцяй.

– Рэвалюцыя адмяніла прыватную ўласнасць на жонак, – павольна пачынае Студэнт, відавочна не жадаючы яшчэ больш раззлаваць Міцяя. – Але адначасова...

– Ага! Зразумеў, ты, Ямеля! – крычыць ужо весела Міцяй, не даўшы Студэнту дагаварыць. – Ніякай уласнасці!

– Толькі я з боку, – з пагрозай папярэджвае Міцяя Дрон. – Маё толькі мне будзе. Што зямля, што хата, што жонка. Сунецца хто – заб'ю.

– Супраць рэвалюцыі ты, ці што? – насцярожваецца Кір, прымружваецца. – Пра экспрапрыяцыю экспрапрыятараў чуў?

– А пра дэкрэт Леніна аб зямлі чуў? – гыркае ў адказ Дрон. – Зямля – яна наша будзе. А мне зямлі шмат трэба, зразумеў? А за сваё я глоткі грызці буду...

Спакойна закончыў Дрон, а ўсім стала ясна адразу – будзе. Будзе грызці глоткі вялікія і малыя, калі ў яго пачаць адбіраць...

Стомлены конь павольна цягне доўгія калёсы, у якіх сядзяць чырвонаармейцы. Дарога віхляе сярод пустых палёў. Самы час араць і сеяць, ды няма каму. Сонца падымаецца ўсё вышэй і вышэй, становіцца горача для такой вясновай пары. Хіліць у сон. Камандзір ужо адкрыта адкінуўся назад, і Ямельку адціснулі на самы краечак калёс. Бадзёрымі застаюцца толькі двое: фурман, адзін з сяброў Кіра, ды новы камісар. На ім доўгая чорная скуранка, у драўлянай кабуры – такі ж маўзер, як і ў камандзіра. Камандзір звяртаецца да яго напаўголасам з павагай: “Таварыш камісар”, але пра што яны размаўляюць, ніхто не чуе. З чырвонаармейцамі гэты ў чорным пакуль не размаўляў. Усе ў атрадзе разумеюць: ён галоўней за камандзіра. Ну і добра...

## Частка другая. Рупніца

– Матухна, з Вамі рупніца пагаварыць жадае...

– Рупніца? – цёмныя бровы ігуменні Параскевы сышліся на пераноссі ў незадавальненні. – А ты для чаго тут прыстаўленая, калі з дурнотамі ўсякімі да мяне простыя рупніцы лезуць?

Ахмістрыня пакорліва апусціла галаву, ціха прагаварыла:

– Дык Кацька гэта... Абавязкова да Вас просіцца. Кажа, справа вельмі важная...

– Якая такая важная справа можа быць у д’ябальскай дзеўкі? – загаварыла са строгасцю ігумення. – Сама выслухай спачатку, потым да мяне ідзі.

– Не гневайцеся, матухна, – працягнула ахмістрыня. – Мне ніяк не кажа. З твару яна змянілася... Зусім іншай стала. І напраўду здаецца мне, нешта важнае сказаць хоча. Ужо вельмі просіцца.

Ахмістрыня замоўкла, спалоханая ўласнай дзёрзкасцю – не сышла ж адразу, стала пярэчыць ігуменні.

Але тая маўчала. Можа, у гэты момант яна ўспамінала рупніцу Кацярыну – маладую, асмуглую дзеўку гадоў дваццаці, якая прыйшла ў кляштар два тыдні таму. Яе роднае сяло было спалена, сваякоў не засталося, вось яна і прыбілася. Што праўда – гневацца на яе нельга было. І сама ігумення часам больш патрэбнага затрымлівала вочы на рупніцы, калі тая працавала. Вось ужо сапраўды – справа ў руках гарэла. Усякая: ці двор месці, ці свінням крапіву маладую збіраць, ці градкі капаць. Рупніца працавала з такой вясёлай ахвотай, свавольствам нават, такая радасная сіла жыццёвая ў ёй білася, праз край плёскалася на навакольных усмешкай, ясным позіркам, што здавалася яна чужародным, непатрэбным нечым для ціхага манастырскага ўкладу. І ўжо колькі разоў спрабавала ахмістрыня прымусіць Кацьку быць спакайней, не дапамагала. Тая і не хадзіла па двары – козачкай скакала. А калі і не ўсміхалася вуснамі, дык вочы свяціліся жывым агнём.

“Ацалела, прытулак ёсць, вось і цешыцца...”, – прабачала яе ахмістрыня.

“Пасталее”, – была ўпэўненая яна, і кожны раз, дакладваючы ігуменні ўвечар аб дзённых справах, імкнулася падкрэсліць у Кацярыне-рупніцы яе стараннасць і ўменне, а не вясёлы нораў.

Ігумення Параскева маўчала доўга, потым спытала нечакана:

– З твару змянілася? І што ж у тым твары?

– Страх, матухна. Баіцца яна чагосьці, смяротна баіцца. Так баіцца, што свой страх толькі Вам даверыць можа.

Хітрасць удалася – ігумення кіўнула:

– Добра, прывядзеш перад вячэрняй.

Кацярына, маладую зграбнасць цела якой не магла схаваць патрапаная шырокая кофта і спадніца, якія выдала ёй ахмістрыня, стаяла ў парозе з паднятай галавой, адкрыта сустракаючы позірк ігуменні.

– Ты, дзеўка, ведаеш, што выглядам сваім і паводзінамі бянтэжыш сясцёр? Колькі табе казана разоў было: паводзь сябе сціпла. Чаму ахмістрыні пярэчыш? Яна табе ва ўсім маці і бацька, мяне для цябе няма. Для іншых спраў я тут, а не для таго, каб рупніц выслухоўваць, – пачала вымаўляць строга Параскева, седзячы на сваім высокім стуле.

Але рупніца Кацярына маўчала, усё гэтак жа гледзячы на ігуменню. Слабае святло з невялікага акна не давала той магчымасці лепш разгледзець твар, і яна дарэмна імкнулася адгадаць: усміхаецца наравістая дзеўка ці слухае ў пакорлівым страху.

– Вам старыца Палагея пра мяне сказвала...

Ігумення рэзка ўстала са стула, падышла блізка да рупніцы, зірнула ў яе твар – і адхіснулася: яна ніяк не чакала ўбачыць гэтульki болю ў вачах дзеўкі. На імгненне ёй здалося, што вочы гэтыя – чужыя вочы, яны не павінны быць на такім юным твары.

– Адкуль ведаць табе, што мне старыца казала? – спытала строга ігумення, але з хваляваннем у голасе.

– Хто мяне паставіў, той і веды дае, – незразумела адказала Кацярына. – Казала старыца: праз чужую маладую дзеўку выратаванне прыйдзе...

Параскева прамаўчала, не ў сілах адвесці позірк ад вачэй рупніцы.

– Казала... – нечакана хрыпла пагадзілася яна. – Ты тут прычым?

Кацярына нічога не адказала, хутка расшпіліла кофту, адняла анучыну, прылепленую між двух невялікіх дзявоцкіх грудзей. Анучынай жа працерла скуру ад загуслай крыві, адной рукой прытрымліваючы збоку вялікі раўнакутны крыж у крузе, што быў начэплены на шыю на тонкай аборцы.

Ігумення, не адрываючы вочы, глядзела, як на працёртай чыстай скуры між грудзьмі сталі выступаць маленькія кропелькі цёмнай крыві. Стыгмат аформіўся ў роўны шасціканцовы крыж – быццам намаляваны. Потым выява яго стала размывацца – кропелькі збіраліся ў большыя кроплі, павольна сцякалі.

Кацярына прамакнула анучынай між грудзей, прыклала яе, прытрымала, пакуль зашпільвала кофту.

– Ты якому богу молішся, дзеўка? – ціха спытала Параскева, і Кацярына зразумела, што ігумення пытаецца таму, што ўбачыла яе незвычайны цяжкі крыж..

– Навошта пытаеце, ведаеце ж... Адзін у нас бог з вамі. Толькі завём мы яго па-рознаму, па-рознаму молімся... Сыходзіць вам трэба. Усё выносіць з сабой, або хаваць. Неадкладна. Заўтра смерць прыйдзе. Ніхто не выжыве!

– Нікуды не пойдзем. На ўсё воля Божая, – амаль урачыста заявіла ігуменння.

– А як жа старыца, як яе воля? Няўжо не казала яна мяне слухаць?

– Чаму сама не сыходзіш? Ці сыдзеш? – не стала адказваць Параскева.

– Не сыду. Мне воран ужо смерць прынёс, мне ад яе не сысці. Мяне заб'юць – крыж выжыве. Мне яго ўратаваць трэба. Я каля крыжа памерці павінна. А вас Хрыстос не паміраць пакінуў, а слова яго несці людзям. На смерць застанецеся – а вера як жа?

– Гасподзь за ўсіх вырашае, – упарта, але цішэй адказала ігуменння, мімаволі адчуўшы незразумелую ёй сілу ў гэтай дзеўцы. – Што ад мяне табе трэба? Не толькі ж папярэдзіць ішла?

– Не толькі... Да каменя адвядзіце.

Параскева не стрымалася – здрыганулася, але нічога пытаць не стала.

– Не.

– Старыцу ўспомніце! Яе воля на вас ляжыць. Тры крыжы на нашай зямлі засталося. Усе заб'юць – усякай веры канец, усякі бог ад нас адвернецца.

– Ведаю...

– Не верыце?

Ігуменння маўчала, і Кацярына павольна і асцярожна зняла з сябе свой крыж, уклала ў раскрытую далонь, працягнула да Параскевы:

– Я трымаю. Гэты крыж толькі свой утрымае. Вы ведаеце пра гэта. Вам веру. Таму – паспрабуйце...

Ігуменння разгублена глядзела на маленькую далонь дзяўчыны і вялікі старадаўні крыж. Жаданне пакратаць яго было вялікім, як і вялікім быў страх забароны дакрануцца да язычніцкай святыні, апаганіць сваё цела і душу. Але было і трэцяе, што дыктавалася яе абавязкам старэйшай, якой прымаць рашэнне – яна павінна была ведаць дакладна, ці тая гэтая дзяўчына, пра якую казала перад смерцю старыца.

Ігуменння працягнула руку. Кацярына павярнула далонь, і крыж упаў на сухую старэчую скуру.

Зашыпела, амаль засквірчэла, узвіўся салодкі дымок гарэлага. Рука ігуменні задрыжала, старая сашчапіла вусны, але не адшмаргнула руку, не скінула крыж – асцярожна, годна, павярнула ўжо сваю далонь, каб крыж упаў назад у руку гаспадыні. Нават не зірнула на сваю абпаленую далонь.

І раптам з цвёрдай і ўладнай ігуменні Параскева ператварылася ў простую пажылую жанчыну, плечы яе ўнурыліся, куткі вуснаў задрыжалі і апусціліся.

– Што ж гэта на цябе, такую маладую, ношку ўсклалі? Мне ўжо няхай...

– У кожнага ношка па яго сілах, – адказала Кацярына і нечакана ўсміхнулася: – Хадзем, матухна. Нашы косткі заўтра нікому не патрэбныя будуць, а многае з таго, што маем, схаваць можам і павінны.

– Пачакай, – Параскева зноў стала суровай ігуменняй, узяла са стала невялікі званочак, страсянула яго. Манашцы, якая зайшла на гэты ўмоўны гук, загадала: – Рызнічай перадай: хай скарб збярэ і нясе да трапезнай...

...Мінулі пустую і гулкую трапезную з адным доўгім, ва ўсё памяшканне сталом, чорным, як дамавіна. У куце кухні ігуменння спынілася:

– На дваіх цяжар бярэм. Больш няма каму...

Перакацілі ў бок паўпарожнюю бочку, ігумення ўторкнула між камянямі тоўсты нож, дастала адзін, другі камень...

Спускаліся ніжэй і ніжэй, ішлі доўга і апынуліся ў невялікім памяшканні, з нізкай столлю і выкладзенымі з тонкай цэглы сценамі. Стала зразумела, што яны пад самым храмам, ля аднаго з яго кутоў. І гэты кут абапіраўся на велізарны камень-валун. Чвэрць яго, адкрытая іх позіркам, вільготна паблісквала ў трапяткім агні дзвюх свечак.

Кацярына наблізілася да каменя, апусцілася на калені і кранула яго рукой. І адшмаргнула, з жахам гледзячы на далонь – тая была ў густой ліпкай крыві.

– Ой, якая ж бяда ідзе, якая бяда... – гаротна прагаварыла яна. – На сто гадоў бяда, а колькі ж загіне... Глядзі, матухна, камень крывёй зыходзіць...

Ігумення Параскева маўчала, кусаючы свае тонкія вусны.

Кацярына павольна, бы з неахвотай, зняла з сябе вялікі раўнакутны крыж у крузе, паклала ў паглыбленне на камені, потым некалькі хвілін нешта ціха шаптала.

– Як жа будзе? – спытала яе ігумення, калі Кацярына паднялася з каленяў. – Веды ж не ў крыжы, у табе. Табе жыць трэба.

– Па макавінках веды збяруцца, ім не згінуць... Крыж сам гаспадыню знойдзе, раз ужо я не паспела. Прыйдзе час, павінен прыйсці. Цяпер вашае давайце...

Да позняй ночы рупніца Кацярына і ігумення кляштара Параскева пераносілі да падножжа каменя і складалі скарб: разьбяны куфар са святымі мошчамі, залатое царкоўнае начынне, рукапісныя кнігі ў цяжкай залатой вокладцы, абразы ў дарагіх акладах...

– Пастой хвілінку, – сказала ігумення, калі ўсё было скончана. – Зайдзі-тка, пачакай там, я толькі рызнічую клікну.

У пустым пакойчыку Параскева за руку вывела Кацярыну да сярэдзіны, трымаючы ў руцэ скрутак.

– Не па правілах гэта, ды Бог прабачыць. Здымай адзежку, малы пастрыг прымеш...

Кацярына запытальна ўскінула вочы на ігуменню.

– Маўчы, маўчы, – адказала Параскева. – Цябе адну шукаць стануць, будзе надзея між сёстрамі схавацца. Хай Гасподзь дапаможа...

Кацярына хутка, але не мітуслíва, скінула з сябе адзежу, распусціла касу, схіліла перад ігуменняй галаву. Тая, ледзь чутна шэпчучы малітву, павольна абрэзала валасы дзяўчыны.

– Апранай, – падала ёй кашулю і падрызнік.

Ужо ад парога ігумення ізноў паклікала Кацярыну.

– Пастой... Імя тваё як... сапраўднае?

Дзяўчына завагалася на імгненне, потым падняла галаву і, гледзячы прама ў вочы Параскевы, адказала:

– Ведаеце Вы імя такое... Дабрава.

Ледзь улоўны цень слізгануў па твары ігуменні, быццам рэзка калыхнулася полымя свечкі.

– Ведаю імя... Прабабка мая так звалася.

Калі Кацярына зачыняла дзверы, ігумення хутка перахрысціла яе тройчы ў спіну, а потым павярнулася да кутніх абразоў, упала на калені, і так, на каленях, прыпаўзла ў кут, стала адбіваць зямныя паклоны, апантана шэпчучы незразумелыя чужому вуху словы.

## Частка трэцяя. Барока

Дарога неўпрыкмет выцягнулася ў прамую лінію, і хоць яшчэ ныркала ўніз-уверх, было ясна, што яны ўз'язджаюць на вялікі пагорак, падымаюцца вышэй і вышэй. І па кані гэта стала відаць – ён амаль увесь час ішоў, напружваючыся, прыкметна прыцішыўся ход.

– Так, годзе спаць усім, – падняўся камандзір. – Пад'язджаем! Цяпер прыпынак, перакур-перакус. Далей каб без затрымак. Злазь з калёс!

– Ага, які тут перакус, дробкі ў роце з вечара не было, – заскавытаў Міцяй.

– У цябе, дурня, заўсёды торба пустой будзе, – адгукнуўся Дрон, дастаў з падсумка вузельчык, развязаў, абадзьмуў чэрствы акраец хлеба і, адкусіўшы адразу чвэрць, стаў жаваць.

– Ну, ты і кулак, – праглынуў сліну Міцяй. – Студэнт! Скажы гэтай скнары, што дзяліцца трэба з таварышамі!

– Ага, скажы, скажы, разумнік, – кіўнуў з пагрозай Дрон.

– Мы пакуль яшчэ не пабудавалі таго грамадства, дзе ўсім будзе пароўну заўсёды. Але як толькі завершым вызваленне рэспублікі...

– А нам усё пароўну выдавалі, – бесцырымонна перабіў Дрон Студэнта. – Ён сваё зжор ад прагнасці, а я вось збярог. І што, мне інтэлігенцыя загадае дзяліцца?

Студэнт не паспеў адказаць – умяшаўся камандзір.

– Адставіць спрэчку! У таварыша камісара ёсць чаго і на зуб пакласці, і душу сагрэць.

Камісар і напраўду саскочыў з калёс з валізкай, адышоў на затравелую абочыну і прыняўся даставаць адтуль загорнутыя ў анучыны хлеб, сала, потым – бутлю з крышталёва-празрыстай вадкасцю, невялікую чарку.

– Ямелька, будзь гаспадаром тут, – кіўнуў на хлеб і сала камісар, і Ямелька прыняўся акуратна ўсё наразаць.

– Ого! – раздаліся радасныя воклічы, вакол камісара паселі без запрашэння паўколам.

Камісар наліваў гарэлку сам, не шкадуючы, па поўнай. Студэнт выпіў толькі адзін раз – спаслаўся на хворы страўнік.

Камандзір паказаў рукой уздоўж дарогі:

– Далей... бачыце? Над лесам белае? Ён і ёсць. Студэнт, правільна? – камандзір працягнуў Студэнту карту.

– Так, усё дакладна, таварыш камандзір, – заспяшаўся студэнт. – Наперадзе прама – кляштар бернардынцаў. Храм Пятра і Паўла. Барока...

– Што-што? – ускінуў вочы на Студэнта Міцяй. – Ты пра што сказаў, хрэн вучоны? Якія нандзінцы? Што за бароны? Здзекуешся над намі, гад... ну, я цябе штыхом у азадак сапраўды калі-небудзь прыгрэю.

– Бернардынцы – гэта манахі... Ордэн, гэта значыць... група такая. Шмат розных было ордэнаў...

– І ўсё на шыю працоўнага класа! Дармаеды! – уставіў камандзір.

– Ну... манахі, яны працавалі, – пачаў было Студэнт, але тут жа стаў папраўляцца: – Так, кляштары былі буйнымі землеўладальнікамі, мелі ва ўласнасці і фабрыкі... некаторыя.

– Вось я і кажу, – закончыў задаволена камандзір, – эксплуататары.

– А бара.. – пачаў Ямелька, мабыць, больш ад жадання дапамагчы Студэнту выйсці з сітуацыі.

– Барока, – падхапіў Студэнт. – Гэта, разумееце, стыль такі архітэктурны. У гэтым стылі пабудаваны і галоўны храм кляштара.

– Эт, загнуў, – жуючы, выскаліўся Дрон. – Стыль... Ізноў кідаешся словамі разумнымі. Нам то што да гэтага? Наша справа – золата ды іншае.

– Не-не, Вы няправільна думаеце, – асцярожна пачаў абараняцца Студэнт. – Барока – не проста стыль архітэктуры, гэта цэлая філасофія жыцця. І менавіта яна дала штуршок развіццю ўсяго чалавецтва! Як наша рэвалюцыя. Вось ведаеце, – пасмялеў Студэнт, бачачы, што яму не пярэчаць, але наадварот, пачалі прыслухвацца да яго слоў, – да эпохі Барока людзі жылі як... як жывёлы, вось. Яны ўсё рабілі толькі затым, каб задаволіць свае самыя першыя патрэбы.

– Правільна жылі, – ухвальна кіўнуў Дрон. – Так і павінна.

– Не, што вы... Уладзімір Ілліч Ленін правільна казаў, што сапраўдным камуністам можна стаць, узбагаціўшы свае веды ўсім лепшым, што прыдумала чалавецтва.

Згадванне Леніна надало вагі Студэнту, Дрон незадаволена хмыкнуў.

– Дык вось, барока – гэта самая сапраўдная рэвалюцыя! І яна павінна была спачатку адбыцца ў галовах, як і вучыў нас Уладзімір Ілліч. Рэвалюцыя свядомасці! Лепшыя розумы таго часу зразумелі, што чалавек не жывёла, што ён павінен сам ствараць прыгажосць. Што чалавек – галоўны на зямлі.

Камісар, які да гэтага маўкліва глядзеў у бок далёкага кляштара, нечакана павярнуўся і спытаў:

– І як жа гэта папы маглі дапусціць? Каб не Бог, а чалавек – галоўны?

Студэнт нават узрадаваўся пытанню – сур'ёзнаму, на яго погляд і разумнаму.

– Ці бачыце... Тады ў грамадстве саспела думку, што Бог ёсць, але ён сваю справу зрабіў, даў усё патрэбнае чалавеку і зараз на небе. А справа чалавека – спазнаць створанае Богам, кіраваць сваім развіццём на зямлі, ствараць чароўнае. І сталі развівацца мастацтвы, навука, архітэктура. Сталі будаваць хараша...

– Дык, значыць, Бога на зямлі няма? – улавіўшы паўзу, асцярожна спытаў Ямелька.

– А ты што, Ямеля, у Бога верыш? – кпліва спытаў Дрон. – Дык я цябе асабіста ў новую веру, рэвалюцыйную, ахрышчу!

– Ды нам вось бацюшка... поп, значыць, у арміі казаў: Бог, кажа, усярэдзіне цябе. Ну, як бы сумленне тваё. Праз яго, значыць, Бог сябе паказвае. А калі Бога на зямлі няма, значыць, сумлення няма, так ці што? – адважыўся Ямелька выказаць свае сумненні.

– Дурасці папоўскія! – упэўнена адрэзаў Студэнт. – Сумленне чалавека вызначаецца яго культурай, яго ведамі, яго духоўным развіццём.

Камандзір даў каманду садзіцца ў калёсы. Крануліся. Відаць было, што Студэнту вельмі блізкая была тэма яго ўлюбёнага барока, таму што ён працягнуў гутарку, абраўшы ў слухачы Ямельку:

– Сумленне – гэта не ад выдуманага Бога, гэта дадзеныя чалавеку выхаваннем нормы стаўлення да навакольнага свету. Вось у часы барока людзі імкнуліся адысці ад агрэсіўнай сілы, ад жывёльных эмоцый – яны выхоўвалі ў сабе чалавека.

– І чаго ж не выхавалі? – нечакана ізноў задаў сур'ёзнае пытанне камісар. – Дзе ж рэвалюцыя скончылася?

– Уладзімір Ілліч Ленін, – пачаў Студэнт, хапаючыся за імя правадыра, як за выратавальную саломінку, – казаў, што ўсе рэвалюцыі да нашай не былі сацыяльнымі, а альбо культурнымі, альбо духоўнымі. Ці прасцей – буржуазнымі. Гэта значыць, плёнам гэтых рэвалюцый скарысталася толькі вярхушка...

– А кажаш, барока тваё – рэвалюцыя, як наша, – упікнуў камісар.

– Тут важны прынцып агульнага кірунку – як і эпоха барока, наша рэвалюцыя накіраваная на стварэнне новай светабудовы праз нараджэнне новага чалавека: культурнага, пісьменнага, духоўна багатага.

– А храм гэты... ён які? – ізноў улавіў паўзу Ямелька.

– Вельмі прыгожы, – усміхнуўся летуценна Студэнт. – Па архітэктуры барока на прыкладзе нашых храмаў я пісаў працу. З намі барока звязана, вядома ж, першым чынам з храмавым будаўніцтвам. Да гэтага часу людзі зразумелі, што прыгажосць у прыродзе на самай справе ёсць прапорцыі. Гэта значыць, розныя адносіны памераў. Каб хата хораша глядзелася, трэба каб дах яе быў вось такой вышыні пры такой вышыні сцен – гэта і ёсць прапорцыя, – паказаў Студэнт рукамі. – Зразумела?

– Дык чаго не зразумець, зразумела...

– Дык вось, у архітэктуры барока гэтыя прапорцыі пачалі ўжываць не толькі пры разліку асноўных памераў, але і самых дробных дэталяў. Шырыня і вышыня вокнаў, дзвярэй, вышыня веж, сцен, шырыня фасада – усё было вельмі дакладна звязана! Будаўнікі таго часу вывучылі архітэктуру старажытнай Грэцыі. Вядома, яны не сталі слепа капіраваць усё, але нейкія элементы ўзялі, дэталі. Трохі змянілі іх. Гэта зразумела...

– Ды не, – вінавата прызнаўся Ямелька. – Гэта як – элементы?

– Ну, скажам, у Грэцыі храмы будаваліся з калонамі. Вось і ўзялі ад калон частку... Да простых вонкава прастакутных фасадаў сталі дадаваць вежы – або адну цэнтральную, або ўсе тры – дзве па баках, адна ў цэнтры.

– Чуеш, Студэнт, – бесцырымонна ўлез у гутарку Дрон. – Ты мне казкі не расказвай, лепш прама скажы: вось калі ў мяне на хаце няма пеўня, а ў суседа – ёсць, дзе цяплей узімку будзе?

– Выбачайце... А што такое – певень на даху?

– Цю... вучаны, кажаш... З дрэва певень, на каньку самым, ясна?

– А, так-так, вядома, ясна... Гэта характэрна для драўлянага дойлідства, выступ каньковай латы ўпрыгожваўся... Але гэта наўрад ці можа паўплываць на цеплыню ў хаце...

– Вось і дурань ты, інтэлігент. Цяплей будзе ў той хаце, дзе гаспадар за лета дроў больш нагатаваў, зразумела табе? А певень – ён упрыгожвальніцтва адно. Вось што толку ад упрыгожвальніцтва?

– Як жа... Толк прыгажосці ў ёй самой...

– Цьфу, прыдурак! – сплюнуў Дрон. – І якая ад вас карысць, ад такіх вось, вучоных? Дармаеды. Вось успомні маё слова – мала вас застанецца пасля рэвалюцыі, таму як няма чаго вас, дармаедаў, карміць. Ні сеяць, ні араць, толькі кніжкі чытаць. Бач яго, барока ён ведае...

На гэтым замоўклі.

Храм вырастаў павольна, няўхільна, нібы не яны ехалі да яго, а ён рос з зямлі, рабіўся ўсё большым і большым. Спачатку ледзь чутна, а потым ясней і гучней пакаціўся з веж храма цяжкі звон: прызыўна-трывожны, аддаваўся ў грудзях шчымлівым водгукам, сэрца бухкала ў такт яму.

– Чаго гэта яны звоняць? – з незадаволенасцю ў голасе падумаў услых Дрон.

– Нас клічуць, – рагатнуў Міцяй.– От цяпер у лазеньцы папараць, блінамі накормяць...

Звон раптоўна сціх, калі яны апынуліся ля самога храма.

– Усім далоў. Каня прывяжы, – стаў распараджацца камандзір. – Пастроіліся! Слухай мяне: гэтае заданне асаблівае. Якое асаблівае – таварыш камісар скажа, – і адступіў крок назад, саступаючы камісару месца.

Камісар агледзеў няроўны шэраг байцоў, адхінуў край скуранкі, дастаў з драўлянай кабуры цяжкі даўгаствольны маўзер.

– Калі пачынаю камандаваць я, гэта значыць, што загады павінны выконвацца неадкладна і дакладна. У сувязі з асаблівым значэннем сённяшняга задання я ўпаўнаважаны асабіста судзіць любога і прыводзіць прысуд у выкананне, – ён прыпадняў пісталет. – На гэта ў мяне пойдзе адна секунда часу. Так што, менш пляскаем вачамі. Раты закрыць. Што б я не загадаў – ваша справа выконваць, – і нечакана амаль лагодна ўсміхнуўся: – Ды не трэба так палохацца! Будзе весела, абяцаю, галоўнае – слухаць мяне. Пяць хвілін пакурыць, аправіцца...

Ямелька адышоў далей ад фасада храма, стаяў, задраўшы галаву, глядзеў.

– Што, хораша, так? – падышоў да яго Студэнт.

– Гэта ж трэба такое пабудаваць, – не стаў хаваць сваё захапленне Ямелька. – Гэта ж прыдумаць трэба было, як усё будаваць... Хораша...

– А ўся прыгажосць – яна ў разліках, у дакладных прапорцыях, – заспяшаўся Студэнт. – Вось, бачыце, пярэдні фасад карнізам пасярод падзелены, быццам толькі для прыгажосці карніз, і ляпніны там трохі, але не, ён візуальна, ну, гэта значыць відно добра... увогуле, дзеліць увесь фасад на дзве часткі, ніжнюю і верхнюю. І сам фасад ужо не здаецца такім маналітным, цяжкім. А вось гэтыя як бы калоны тонкія ў ніжняй частцы, глядзіце – як яны ўверх імкнуцца... Яны завуцца пілястрамі. А паглядзіце, як вышыня цэнтральнай часткі суадносіцца з вышынёй званіц? Самі званіцы – вежы ў два ярусы. А сярэдняя частка фасада заканчваецца франтонам фігурным, ён завецца атыкавым. І вышыня франтона як раз на ўзроўні першага яруса вежаў званіц...

– Вось адтуль і страляў кулямёт, – заўважыў Ямелька. – Бач, як густа сценка кулямі пабітая...

– Так-так, мусіць адтуль, – некалькі разгублена адказаў Студэнт, яму было трохі прыкра, што і ў Ямельку ён не знаходзіць цяпер удзячнага слухача. Студэнт зрабіў яшчэ адну спробу звярнуць увагу Ямелькі на архітэктуру храма: – Вам не цікава?

– Ды не, што ты, – збянтэжыўся Ямелька. – Яно цікава вельмі, толькі слоў я многіх не разумею. Мне галоўнае – хораша. Эх, умелі ж людзі будаваць...

– Я жа вам казаў усім, што гэтае ўменне ідзе не з ніадкуль, а з усёй філасофскай сістэмы эпохі барока – чалавек пачаў жыць не толькі практычна, але і прыгожа, ён зразумеў, што народжаны для стварэння прыгажосці ў прыродзе... Я вам больш скажу: вось цяпер, калі мы зойдзем у храм, звернеце ўвагу. Вось вонкава ўвесь храм – пакуль яшчэ такой грубай, прастакутнай формы, хай і ёсць трохі дэкору... ну, упрыгожванняў. Бачыце: дах просты,

двухсхільны, корпус храма на чатыры вуглы. А ўсярэдзіне – усё ў круглявых формах! Сцены плаўна перацякаюць у столь, паўкалоны пераходзяць у аркі, аркі злучаюцца паўкупаламі... Гэта барока! Гэта сутнасць чалавека: вонкава – жывёла, а ўсярэдзіне – вышэйшая душэўная арганізацыя, духоўны пачатак, віртуознасць, перапляценне думак і формаў...

– Дык я што ж, – замяўся Ямелька. – Вядома, паглядзім, час будзе...

– Скончыць перакур! Пайшлі! – выратавала Ямельку каманда.

## Частка чацвёртая. Рэквізіцыя

Расхінулі дзверы ў храм, камісар ступіў першы ў змрочнае нутро прыходу. За ім па адным зайшлі ўсё. Ямелька ледзь замарудзіўся, і, робячы выгляд, што папраўляе картуз на галаве, зладзеявата і хутка перахрысціўся – і тут жа сустрэўся з позіркам Студэнта.

– Звычка, вось... – збянтэжана зашаптаў ён, апраўдваючыся. – Хто яго ведае, можа і ёсць там хто... А рука ж не адсохне.

Студэнт, было відаць, сам збянтэжыўся больш за Ямельку і паспрабаваў супакоіць яго:

– Так-так, звычка – гэта бяскрыўдна, гэта чыста механічна, міма волі...

– Ага, механічна, вось, – радасна паўтарыў Ямелька прасцейшае для сябе слова...

У цэнтральнай частцы храма перад алтаром на каленах па абодва бакі ад цэнтральнай шырокай дарожкі стаяла дзясяткі тры чорных згорбленых постацяў – манашкі маліліся. Ні адна галава не павярнулася на крокі.

Духоўнік храма, стары святар, які чытаў перад гэтым нешта з амбону, перапыніўся, зірнуў на чырвонаармейцаў і раптам пайшоў ім насустрач:

– Што вам трэба? У храм Гасподні ўваходзіць у галаўных уборах нядобра мужчынам...

– Маўчаць, – ціха працадзіў скрозь зубы камандзір. – Пайшоў прэч.

– Я прашу Вас...

Камісар, які ішоў побач з камандзірам, раптам ускінуў руку з пісталетам і стрэліў духоўніку ў твар.

Закрычалі-загаласілі ў жаху жанчыны, адначасова падхапіліся з месца, збіліся, як чорныя авечкі, разам.

Здрыгануліся ад нечаканасці і байцы – так, хуткі на расправу камісар...

– Ціха! – крыкнуў камандзір.

Манашкі замоўклі, глытаючы свае ўсхліпы.

– Галоўная хто? Да мяне! – запатрабаваў камандзір.

Ігуменння Параскева выйшла наперад.

– Я ігуменння кляштара, – злёгку дрыготкім голасам сказала яна. – Што вы жадаеце?

– Баб жадаем! – нечакана ўставіў з-за спіны Дрона Міцяй і тут жа схаваўся – на ўсякі выпадак. Але камандзір усміхнуўся краёчкам вуснаў.

– Чула?

– Тут кляштар, а не бардэль, – ужо ўпэўнена адказала ігуменння.

– Гэта нам вырашаць, – прагаварыў камандзір. – Студэнт! – паклікаў ён не абарочваюся, пачакаў, пакуль за спіной не прагучала “Я тут”, працягнуў: – Агледзець усё ў храме на прадмет прыдатнасці... сам ведаеш. Ямелька!

Беларусь, маму разарылі, але яна гэтага не зразумела. Выдаткаваўшы тысячу на тое, каб студэнт Аляксандр Фядута не адчуваў дэфіцыту сродкаў падчас вучобы, яна трымалася за рэшткі рахунку на сваёй ашчадкніжцы з той зацятасцю, з якой тапелец хапаецца за трэснутае, але яшчэ не цалкам садзьмутае выратавальнае кола. На ўсе мае заклікі прыватызаваць нашу гарадзенскую "палутарку" мама адказвала катэгарычнай адмовай. Зламала яе раніца 7 студзеня 1992 года, калі я выпраўляў яе з Мінска на радзіму. Я павінен быў ехаць у Рэчыцу на нейкі педагагічны семінар, таму мама, якая сустрэла Новы год у мяне, у няўрочны дзень памкнулася ў Гародню. Мы стаялі каля аўтобуса, спрачаліся, як раптам кіроўца зрабіў гучней радыё. І мы пачулі, што аднапакаёвая кватэра ў Маскве прададзена за астранамічную па тых часах суму – дваццаць тысяч даляраў...

Мама замоўкла. Яна параўнала дваццаць тысяч даляраў у рублі па тагачасным шалёным курсе – і словы скончыліся неяк. Раптам скончыліся.

Яна з'ехала. І праз два тыдні датэлефанавалася да мяне на працу, каб сказаць пра прынятае рашэнне: кватэру яна ўсё-ткі прыватызуе.

Мама ніколі не ўяўляла сябе ўласніцай чаго-небудзь. Яна вырасла ў сіняй бабцінай хатцы, потым атрымала пакой у фабрычным інтэрнаце, куды і прывезла мяне пасля родаў. Там я і вырас, прынамсі, адтуль панесла мяне ў фабрычныя яслі. Мама ўцякала на працу, пакідаючы мяне на догляд Варвары Іванаўны Шаўчэнка – суседскай бабулі, чый малодшы ўнук Колька стаў для мяне адзіным сябрам дзяцінства. Варвара Іванаўна была галоўным кансультантам у справе выхавання позняга мамчынага дзіцяці – мяне.

Сямейная легенда данесла да маёй цяперашняй, злёгку саслабелай памяці эпічную сцэну, калі маладая 39-гадовая матуля вырашыла дадаць у рацыён сына трохі вітамінаў. Сокаў і пюрэ ў іх цяперашнім асартыменце тады не было, і мама вырашыла абыйсціся спадручнымі сродкамі. Набліжаўся Новы 1965 год, на фабрыцы раздавалі падарункі – і на мяне выдалі традыцыйны набор цукерак і два маленькія бура-рудыя абхазскія мандарыны. Ачысціўшы адзін, мама рашуча выціснула ў лыжку дольку, адпіла частку, а пакінутую частку соку ўліла мне ў рот. Праз імгненне пачуўся крык немаўляці, які па сіле перакрываў пажарную сірэну. Варвара Іванаўна, якая ўляцела ў пакой, заспела маму, якая плакала нада мною.

— Валенька, што здарылася?!

Мама, сама заходзячыся ад слёз, распавяла Варвары Іванаўне, як паспрабавала пачаставаць мяне сокам. Колькава бабуля смяялася доўга:

— Трэба было цёплай вадзіцай развесці!

Больш "сірэн" не было. А мандарын дагэтуль – галоўны фрукт майго жыцця.

Потым мама перасялілася ў аднапакаёвую кватэру па вуліцы Міра, дом 3. Гэта таксама была "камуналка" тытуннікаў – Мірановічы, Радзевічы, Ціунчыкі, Арцішэўскія, Растаргуевы жылі тамака, і адчуванне было, што ўсе яны са змены на змену хадзілі дружным натоўпам – балазе, ісці да "тытунёўкі" было зусім блізенька. Мы глядзелі тэлевізар у Мірановічаў, з дочкамі-двайняткамі якіх, Светай і Наташай, я сябраваў. Вуліцай ніжэй, на Чырвонапартызанскай, жыла іх бабуля, у якой быў чорны вялікі сабака, аб'ект маёй таемнай зайздрасці. Я вельмі хацеў мець сабаку. І калі ў суседзяў з'явіліся шчанюкі, Светка і Наташа прынеслі маленькага чорнага

шчанючка, з белым “гальштучкам” і белымі “панчохамі”. Напалоханы шчанюк скавытаў, як толькі яго клалі ў скрынку або на падлогу, і сцішваўся, адчуваючы чалавечую цеплыню. Я назваў яго Муха.

Мама прыйшла ўвечары, стомленая. Няўхвальна паглядзела на Муху, якога я трымаў у руках і радасна працягваў ёй.

— Ну, будзеш выхоўваць.

Выхавальнік з мяне быў кепскі. Муха скавытаў увесь вечар, пакуль маме не стала блага. Яна легла на тахту, пратрывала гадзіну і катэгарычна запатрабавала:

— Ідзі, будзі дзядзьку Бору!

У дзесяць гадзін вечара, ці каля таго, зарумзаны, я стаяў на парозе 58-й кватэры. Дзядзька Бора сурова прыняў скрынку з сабачкам, які стомлена скавытаў:

— Давай. Заўтра прыходзь – пагуляеш.

Але Муху ўбачыць мне было не наканавана. Ноч скавытання ў двухпакаёўцы Міраповічаў прывяла да таго, што з самага ранку сёстры-двайняткі былі выстаўленыя за дзверы разам са шчанюком, якога і аднеслі да бабулі.

Так адзін дзень у жыцці ў мяне быў сабака.

Мама была не супраць хатніх жывёл. Але ў цэху ёй хапала шуму, таму згаджалася яна, у лепшым выпадку, на тупаватых і маўклівых, але вельмі прыгожых рыбак. І тое – пры ўмове, што я сам буду займацца акварыумам. А захапленні ў мяне змяняліся раз на месяц – апрача кніг і тэатра, таму мама ніколі не спяшалася з выкананнем маіх просьбаў. Нават аддаўшы мяне вучыцца іграць на піяніна (музычны кіраўнік дзіцячага саду, Валянціна Іванаўна, сцвярджала, што ў мяне ёсць слых), яна не стала спяшацца купляць дарагі інструмент і, як паказаў досвед, правільна зрабіла. Мая кар’ера віртуоза скончылася бурным выкананнем кантаты “Ва-си-лёк, ва-си-лёк, мой лю-би-мый цве-ток!”, а да “Сабачага вальса” справы нават не дайшло.

Затое мне дазволілі хадзіць у танцавальны гурток. Кіраўніца, наша настаўніца рытмікі Яўгенія Валянцінаўна, была добрым педагогам, і мне падабалася танчыць. Гэтую справу я люблю і цяпер, так што мая жонка адзін час запэўнівала мяне, тоўстую і непаваротлівую істоту, што я спакусіў яе падчас танца. Але ў танцавальны гурток я прах**о**дзіў усяго адзін сезон: мама, дачасна з’явіўшыся з працы, выявіла, што юны разгільдзяй сышоў халодным кастрычніцкім вечарам на танцы без курткі. Яна ўварвалася ў танцавальную залу на першым паверсе школы, адлупцавала мяне і прымусіла сысці з гуртка — у пакаранне.

Мама ганарылася маімі поспехамі. Сама яна не змагла атрымаць адукацыю. Фабрыка паслала яе ў 1953 годзе на Вышэйшыя курсы харчовай прамысловасці ў Маскву, дзе яна ледзь не загінула падчас пахавання Сталіна. Але мама марыла аб іншым. Па ейных аповедах, у дзяцінстве ёй добра давалася матэматыка, таму з маёй настаўніцай матэматыкі, Галінай Серафімаўнай Янчэўскай, яна знайшла агульную мову. Граматы за ўдзел сына ў гарадскіх і абласных алімпіядах яна складала ў сваю Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР, падпісаную Фёдарам Сурганавым. А другое месца на рэспубліканскай алімпіядзе па рускай мове

і зусім вырашыла мой лёс. Калі ўжо мне не было наканавана паступіць у маскоўскую або ленінградскую ВНУ (мама цвяроза глядзела на свой матэрыяльны дабрабыт і разумела, што ў адзіночку выцягнуць сталічную адукацыю сына не зможа), то, ва ўсякім разе, у родным горадзе я быў проста асуджаны на ўніверсітэт. Калі не на гістфак (ён лічыўся блатным факультэтам), то на філфак.

— А калі не паступлю?

— Пойдзеш скрыні збіваць на тытунёўку, — жорстка казала яна.

Як і належыць фабрычнаму чалавеку, мама з павагай ставілася да любой працы. Але пагроза адправіць мяне біць скрыні ў тарны цэх тытунёўкі была для яе прызнаннем уласнага жыццёвага краху. Яе адзіны сын павінен быў сапраўды, без блату, без хабару паступіць ва ўніверсітэт. Дзеля гэтага яна жыла. І калі ў 1997 годзе, паміраючы пасля інсульту, сінімі тонкімі вуснамі яна будзе шаптаць нешта незразумелае для мяне, Марына, мая жонка, зразумее яе і гэтак жа цвёрда, як калісьці мама, паабяцае:

— Саша абароніць дысертацыю, Валянціна Іосіфаўна, я абяцаю...

І, гледзячы на паспакайнелую пасля гэтых слоў старую сівую жанчыну з белымі худымі рукамі, якая ўсяго тыдзень назад была такой жа моцнай, ганарлівай, упэўненай у сабе, як і ў маім дзяцінстве, я зразумеў, што Марына ўсё правільна калі і не прачытала па ейных вуснах, то – адгадала.

Мама не хацела пераязджаць у Мінск. Ён быў для яе чужым і халодным горадам. Усё жыццё пражыла яна ў Гародні і, урасла ўсімі магчымымі для чалавека каранямі ў гарадзенскі трохкутнік – вуліца Міра, “тытунёўка”, вуліца імя касманаўта Паповіча, дзе жыў і зусім нядаўна памёр, абязножаны, але, як і мама, ён не страціў жорсткасці характару, мой хросны бацька і муж яе любай малодшай сястры Галі, Мікалай Сцяпанавіч Свістун, мама проста не разумела, як можна з’ехаць у іншы горад. “Іншы” – гэта як канец жыцця. Па-за Гародняй можна памерці, але жыць – нельга, яна была ў гэтым упэўненая.

— А калі ўсё скончыцца? – паўтарала яна мне, як замову. – Куды ты вернешся? Трэба ж, каб было, куды вярнуцца! А тут у цябе будзе кватэра. Тут – усё сваё.

Гародня была для яе “сваёй”. Дзень мамінай старасці праходзіў на тэлефоне. Раніца пачыналася са званка “тытунёўцам”: Веры Савельеўне Кардабнёвай, Лідзіі Іванаўне Бутрымовіч, Марыі Аляксандраўне Сафронавай... Яны абмяркоўвалі вытворчы працэс з такім запалам, быццам бы ўсё яшчэ працавалі на фабрыцы. Рэўнасць да тых, хто прыйшоў на іх месца, была адкрытай і апраўданай. Цяжка змірыцца з тым, што ты раптам перастаў быць патрэбным – я гэта ведаю па сабе.

Потым ішлі тэлефанаванні радні. Сястры – у Друскінінкай, пляменніцам, маім стрыечным сёстрам, — па горадзе.

Потым яна займалася маімі справамі. Мама была ідэальным сакратаром. Арганайзераў не было, і яна была маім арганайзерам.

— Патэлефанавала Аўтуховіч, ператэлефануй ёй. Ты не забыўся, што ў цябе сустрэча з Ягоравым? А чаго хацела Левіна?

Мае сябры рабіліся яе сынамі. Валодзя Ляўшук замяніў ёй мяне пасля майго ад’езду ў Мінск. Ён і патэлефанаваў мне ў пачатку снежня 1995 годзе:

— Валянціну Іосіфаўну паклалі ў лякарню. Прыязджай.

Я прыехаў.

Мама сядзела ў палаце той самой другой гарадской бальніцы, дзе ўсё сваё жыццё прапрацавала санітаркай бабця Каця. Невідушчымі вачыма яна глядзела міма мяне і маўчала.

— Гэта я. Мама, гэта я.

Яна маўчала. У ёй гаварыла крыўда. Мама не магла змірыцца з тым, што я з'ехаў у Мінск і пакінуў яе. Яна ўсё разумела – і тое, што з'язджаць было трэба – ад яе, ад яе цвёрдага і ўладнага кіраўніцтва, каб, у выніку, ажаніцца і пачаць самастойнае жыццё... Але вось змірыцца з гэтым яна не магла.

— Я зварыў табе курыны суп.

Я дастаў яшчэ гарачы слоік з супам.

— Паеж, мама!

— Тут даюць суп, — амаль не расціскаючы вуснаў, сказала яна.

Так, суп варылі і ў бальніцы. Але сына гэта не магло замяніць.

— Мама. Ты хочаш са мной? У Мінск?

— Не.

Яна не хацела ў Мінск. Але выйсця ўжо не было. За паўгады мама пастарэла, страціла сваю ўпэўненасць і стойкасць. Жыць у розных гарадах мы проста не маглі.

Я прыйшоў у пустую без мамы "палутарку" і патэлефанаваў Марыне. Новы год трэба было сустракаць у Гародні, з мамай.

Марына прыехала. Я сустрэў яе на аўтавакзале 31 снежня 1995 года, і на халодным аўтобусе з замёрзлымі шыбамі мы даехалі да вуліцы Гагарына.

Гэта было самае цяжкое свята ў маім жыцці. І змрочнае паліт-тэхналагічнае наваготдзе 2008 года, якое прайшло ў Нар'ян-Мары, і "амерыканка" (СІЗА КДБ РБ 2010/2011 гг.) не магло параўнацца з імі. Мама была маўклівай, самотнай; яе фірмовыя катлеты падгарэлі, а салаты, спехам прыгатаваныя Марынай, здаваліся нясмачнымі... Праз два дні, калі мы з'язджалі, мама змірылася з непазбежнасцю пераезду ў Мінск.

Пытанне было вырашана за месяц. На працягу студзеня мой старэйшы сябар і таварыш па працы ў школе. Аляксандр Віктаравіч Шчарбакоў знайшоў пакупніка на нашу старэнькую "палутарку". Прадалі мы яе за вар'яцкі па тых часах кошт – за 6,5 тысяч даляраў. Марына знайшла і афарміла куплю аднапакаёвай кватэры на вуліцы Рафіева ў Мінску. Я бегаў і шукаў грошы, якіх бракавала. І знайшоў.

Мой былы кіроўца з ЦК Саюза моладзі, Віктар Яскевіч, прыехаў у Гародню па нас. Мама правяла апошнія свае гарадзенскія дні ў маёй стрыечнай сястры Лоркі. Мы з Віктарам туды за ёй і прыехалі. Гэта было 1 лютага 1996 года.

Я потым згадваў, як з'язджала з Гародні ў апошні месяц свайго жыцця бабця Каця, мамчына мама, Кацярына Карлаўна Фядута, народжаная Крыштопік. Маленькая, далікатная, чорна-сівая, бабця пагадзілася з'ездзіць у Друскінінкай да сваёй сярэдняй дачкі, Раісы Іосіфаўны Шацікоўскай, у якой гасцявалі жонка майго старэйшага стрыечнага брата, Сашкі, Тамара, з дачкой – адзінай да таго часу бабцінай праўнучкай Воляй. Бабця хацела яе пабачыць – самы малодшы свой працяг. І яе ўгаварылі паехаць на месяц у Літву.

Бабця спускалася з трэцяга паверху нашага дому павольна, трывожна, баючыся спатыкнуцца. Ёй ішоў семдзесят чацвёрты год. Калі ўлічыць, што выпала на яе долю падчас вайны, пяцёра дзяцей, скон малодшай дачкі і знясільвальная праца санітаркай, ёй можна было даць і ўсе восемдзесят пяць.

Яе сустрэў у пад'езда любы зяць, мой хросны, Мікалай Сцяпанавіч Свістун. Усёй сям'ёй, сапраўды адчуваючы сыход Вечнасць, мы пасадзілі бабцю ў яго "масквіч" – сіняга, як сцены бабцінай старой хаткі на Левана-бярэжнай, даўно прададзенай і падзеленай ёю, падобна шэкспіраўскаму каралю, паміж дзецьмі. Сцяпаныч, па звычцы крэкнуўшы, сеў за стырно і адвёз бабцю назаўсёды.

...Мама спускалася па лесвіцы Лорчынага дому цяжка, хоць ёй было ўсяго семдзесят гадоў. Накладала адбітак вайна, гады працы на "тытунёўцы" з яе так і не выкашляным з лёгкіх зеллем. Мы з Віктарам стаялі ўнізе. Воўка Ляўшук, мой сябар, які замяніў мяне пры маме, клапатліва распытваў пра новую маміну кватэру: ці будзе ёй там добра, цёпла, што за кухня...

Дзверы чорнай "Волгі" зачыніліся, як дзверы катафалка. Мама з жахам паглядзела на чужы ёй двор, заплюшчыла вочы, потым раптам шырока расплюшчыла іх і сказала:

— Я не паспела...

Але машына кранулася. Мы ехалі ў Мінск.

*6-15. 01. 2011*
*СІЗА № 1 КДБ РБ*

Сяргей Прылуцкі



...краіна – гэта не лес, не азёры, мама,
не сябры і нават не школа
гэта чатыры сцяны...

# Пад знакам сабакі

Глядзець тэлевізар ці глядзецца ў люстра –
не бачу ніякае розніцы
мая краіна ё...лася напоўніцу
штовечар сц...ся ў штаны ад страху
раз на месяц лягаю пад кропельніцу
але ні першае ні другое не дапамагае
мама бухае, тата таксама не прасыхае
сястра вучыцца
брат колецца.

***I***

***МАМА П’Е АЦЭТОН***

для большасці праца здымае пытанне свабоды:
вось – занятак для рук, вось – пара выходных
у Талашоў памірае дзядуля, у Марозавых

падрастае Паўлік
на сцяне алоўкам накрэслены графік

а міма плывуць параходы з баблом,
яхты з бабамі,
за акном мянты маршыруюць атрадамі,
пад акном – гапата з петардамі
у такія моманты звычайна ставяць джаз,
толькі ж – ніхто не слухае джазу
краіна гасне, гніе, дрэнна пахне
блюеш, але не адразу

спачатку згасаюць сябры,
        потым маральныя прынцыпы
цёмна, бы ў будцы сабачай – і ніяк
не прыходзіць сон
мама, думаеш, хіба тут магчыма
        выбіцца  ў светлыя рыцары?
але мама п’е ацэтон, мама п’е ацэтон

так часта бачыш машыны пад домам
з насілкамі і санітарамі
(пад халатам – пагоны,
        прышытыя дома каханымі)
што і сам чакаеш званка, блытаеш
дні з серыяламі
глядзіш як сонца заходзіць, як сонца ўзыходзіць,
чакаеш і па цябе прыходзяць

краіна – гэта не лес, не азёры, мама,
не сябры і нават не школа
гэта чатыры сцяны, чатыры кубікі галаперыдолу
шэсць паўжывых абласцей галаўнога мозгу
бясконцы памежны шлагбаўм псіхозу
але, мама, я ўсё адно чакаю Дзеда Мароза

### ***Палата святых хуліганаў***

пакуль усе ў глыбокай ср...цы
змагаючыся са стрэсам, загінаюць пальцы:
тому расстрэл, той пуцёўка на мора,
тому званне героя, той цёплае месца
ў агульным хоры
а рэшце, па разнарадцы,
медалі за ўдарную працу

мы ляжым на койках: Напалеон, Гітлер, Гогаль
разглядаючы неба ў дзіцячы бінокаль

нас такіх, шызанутых, па восем у кожнай
палаце. сцены ў корпусе –
па ўсіх канонах – колеру гаўна і жоўтае лотаці
буйных няшмат, ды й тых закрываюць у боксах,
трымаючы на ланцугу і калёсах

час тут падобны на іржавую карусель у парку
па начох мы ладзім пад коўдраю рэвалюцыі,
ідзем у атакі
святкуем перамогі, п'ючы з уяўных фужэраў
памінаем палеглых учора блізкіх, і верым,
верым,
што гэтыя сволачы, сукі, гэтыя зверы
адчыняць дзверы і брамы
і адпусцяць дадому, матляючы на развітанне
на шыбеніцы нагамі

***II***
***ІДЫЁТЫ***

***1***

Коля наведвае старога ...энку
ў псіхіятрычнай палаце:
без асаблівай ахвоты, без аховы,
без братоў і маці.
На тумбачцы памаранчы, шакаладная плітка.
У душы – х...ва.
"А было ж так клёва!"
– крычыць стары, з рота пырскае пенка.
Трымціць фіранка, дрыжыць каленка.

За акном – краіна, наноў зелянеюць дрэвы.
Калі ў санітараў раз-пораз здаюць нервы –
старога пі...зяць, збольшага з лёту, нагамі.
Пакой – маленькі: справа сцяна,
        злева – таксама.
Кормяць – добра, здароўе – жалезнае,
        хіба што – вошы.
Колю даўно хочацца крыкнуць:
"Калі ж ты здохнеш, калі ты здохнеш!?"

**_2_**

Палітычная карта свету,
што вісіць на сцяне,
расфарбаваная ў танчыкі й парашуты.
Ярмошына Люда
з суседняга корпуса,
з агрэсіўным псіхозам, частковай стратай голасу,
грызе голымі дзяснамі жалезны ложак,
ніяк не можа супакоіцца
пакуль не паставяць кропельніцу.
На вячэру мае боршч, кампот, таблеткі.
На прагулку пускаюць рэдка.
Коля чуе, як люта
хрыпіць цёця Люда.

Коля не памятае ваенных парадаў,
салютаў, палігонаў, калгасаў,
Коля памятае пачутае за спінай "підарасы".
Памятае міністраў, падобных на кролікаў.
Сваё аблічча ў дзяржаўных хроніках.

Пакуль твае ахоўнікі
глядзелі парнуху, набівалі татухі,
каўталі нагбом прапаганду і бром,
вандравалі па турцыях і еўразвязах,
білі студэнтаў, бухалі ў лазнях,
пакуль камбайнёры бралі крэдыты,
а эліта, па старой звычцы, – х... у рот,
стоячы дупай на захад і ўсход,
ты, Коля, па той бок дабра і ліха,
у эпіцэнтры буры, у мёртвай кропцы няволі,
быў маленькім героем
вялікага цырку.

Кола замкнулася, Коля.
Жыццё выявілася даўжэйшым за цыркуль.

Алесь Усеня



...за ўласныя грахі
кожны будзе адказваць асабіста...

# Мой лістапад...

## Пасланец

Зменны сакратар, як кайданамі, прыкаваны да рабочага крэсла: штодня трэба маляваць макеты, вычытваць белтаўскія матэрыялы, сачыць за газетнымі палосамі. І толькі адзін дзень на тыдзень — "творчы". Гэта значыць, можна нешта напісаць дома ці выправіцца ў камандзіроўку. Але што ж гэта за камандзіроўка — на адзін дзень? Якою фактураю можна разжыцца за такі кароткі час? Аднак жа выйсця ў мяне няма: каб выбрацца з сакратарыяту, з гэтага гнілога балота, трэба нешта пісаць. І пісаць шмат. Толькі ў такім разе ёсць шанец перабрацца ў які-небудзь аддзел. Таму ў камандзіроўкі-аднадзёнкі я звычайна выбіраюся ў пяць-шэсць гадзін раніцы, каб да вечара нахапаць у райцэнтры фактуры рознага кшталту.

*Працяг. Пачатак у №№5-6 (54-55) за 2011 г., №1 (56) за 2012 г.*

На гэты раз мой шлях — у гарадскі пасёлак Акцябрскі. Паспяваю праверыць ліст-скаргу, заскочыць у пракуратуру, сустрэцца з народным умельцам... Фактуры — на шэсць матэрыялаў! Пад вечар валюся з ног, сілы

стае толькі для таго, каб дабрацца да мясцовай гасцініцы. Вырашаю тут пераначаваць, а ў Гомель падацца раніцай — адразу на працу.

Ужо драмлю. Нехта стукае ў дзверы пакоя. Ад злосці скрыгачу зубамі: каго яшчэ чэрці прынеслі? Аднак жа адчыняю. І... не веру сваім вачам. На парозе — Віктар Стрыжак. Ён кідаецца да мяне з абдымкамі. Я таксама сціскаю ягоныя плечы, але без жарсці, з прахалодаю. Як ужо пісаў, у студэнцкія гады ніякай прыязнасці паміж намі не было.

Высвятляецца, што Стрыжак працуе ў сельгасаддзеле мясцовай райгазеты. Даведаўся пра мой "візіт" — вось і завітаў. Кажа, што заходзіў ужо тры разы і ніяк не мог мяне заспець. Віктар выцягвае з-за пазухі пляшку шампанскага.

— Давай пасядзім, пакалякаем, прыгадаем... — з імпэтам прапануе ён.

Я адступаюся, на хвіліну задумваюся і рашуча адказваю:

— Не! Піць мы не будзем. Дый увогуле я вельмі стаміўся. Мне б хоць трохі адпачыць... Не да размоў. Так што прабач...

Я проста разумею: калі "пачнём", дык адною пляшкаю шампанскага не абмяжуемся... А заўтра з раніцы трэба быць на працы. Гэта — адно. А другое — як яна яшчэ складзецца, тая размова? Стрыжак — чалавек непрадказальны, вуглаваты...

Віктар з дакорам і крыўдай пазірае на мяне і моўчкі сыходзіць за дзверы.

Гэты дакор вярэдзіць душу да сённяшніх дзён. Ніяк не магу прабачыць сабе той учынак. Лёс закінуў паэта Стрыжака ў самую глухмень, дзе няма ні літаратурных суполак, ні творчага асяродку. А галоўнае — на ягонай памяці яшчэ свежы ўспамінак пра студэнцтва, самыя шчаслівыя гады. І я для яго — як пасланец з таго жыцця, можна сказаць, блізкі чалавек. Дый увогуле: калега са сталіцы ці нават з абласнога цэнтра ўспрымаецца там, у глушы, нібы светлы праменьчык, у якім хочацца абагрэцца, адвесці душу...

Хіба ж я сам, працуючы ў Старых Дарогах, не бег з пляшкай дарагога віна ў гасцініцу, калі даведаўся, што з "Чырвонай змены" прыехала ў райцэнтр зусім яшчэ маладое дзяўчо, нядаўняя выпускніца журфака? Пад час вучобы з ёю нават не здароўкаўся — старэйшыя студэнты на маладзёнаў не зважаюць, а тут во закарцела пабачыцца, прычасціцца да мінулага, незабыўнага, непаўторнага...

З якой жа надзеяй, з якім прадчуваннем радасці ішоў да мяне Стрыжак, калі прыхапіў нават не пляшку гарэлкі, а шампанскага! Раней мне было цяжка ўявіць: Стрыжак — і шампанскае...

А я, можна сказаць, плюнуў яму ў душу. І цяпер вось выціраюся сам...

## **"Парнуха"**

Галоўны рэдактар Уладзімір Лазько дае заданне:

— Паедзеш у Жлобін, у міжрэгіянальны аддзел КДБ. Там цябе пазнаёмяць з матэрыяламі пра распаўсюд парнаграфіі. Напішаш артыкул ці фельетон.

Будынак КДБ уражвае дыхтоўнасцю і манументальнасцю. "Колькі ж вас тут сядзіць?" — міжволі закрадваецца крамольная думка.

Найперш кадэбэшнікі даюць пачытаць тлумачальныя запіскі прастытутак.

Аўстрыйская фірма будуе ў Жлобіне металургічны завод, таму яны зляцеліся сюды, як пчолы на мёд. Але ж гэта, так бы мовіць, толькі прыказка.

Знаёмлюся з матэрыяламі крымінальнай справы пра распаўсюд парнаграфіі. Малады жлобінец сабраў у кватэры сяброў і знаёмых, дзе яны кагалам глядзелі па "відыку" (тады гэта была вялікая рэдкасць) фільм "Грэчаская смакаўніца". Тут іх і "накрылі" аператыўнікі. Мінскія эксперты прызналі фільм парнаграфічным. (Цікава, што пазней, ужо ў наш час, "Грэчаскую смакаўніцу" будуць без аніякіх перашкод круціць па рэспубліканскім тэлебачанні).

І яшчэ адзін выпадак, пакуль што не даведзены да суда. У югаслава, які працуе на будоўлі, хлопец купіў крамольную касету. Іх удваіх і "павязалі". Югаслава выслалі з краіны, а жлобінскі пакупнік паліруе нары ў следчым ізалятары.

Каб "высмактаць з пальца" артыкул, хапіла б і гэтага. Але ж мне карціць хоць вокам зірнуць: якая ж яна, парнаграфія? Што ў ёй такога прыцягальнага? Голых дзевак на экране я насамрэч ніколі не бачыў.

Нясмела, здалёк "закідваю вудачку" да кадэбэшніка, які прыстаўлены мяне апекаваць:

— Каб атрымаўся добры артыкул, няблага было б набрацца ўражанняў, эмоцый... Так бы мовіць, напоўніць сваю душу гневам на гэтых распуснікаў...

Кадэбэшнік разумее мяне з паўслова і чамусьці з непрыхаванай радасцю падхопліваецца з месца:

— Зараз арганізуем прагляд!

Я мяркую, што мяне, аднаго, пасадзяць у якім-небудзь зашторанным пакойчыку і, уключыўшы "відык", пакінуць сам-насам з тэлевізарам. А як жа інакш? Гэта ж парнаграфія! Прыстойнаму, старонняму чалавеку глядзець яе ганебна і злачынна! Я — іншая справа! У мяне прафесійны інтарэс, трэба набрацца эмоцый і праведнага гневу...

Як жа дзіўлюся, калі праз нейкі час трапляю ў невялікую залу, запоўненую людзьмі, пераважна маладымі. Не іначай, аддзел КДБ у поўным складзе. "Як жа вас многа..." — даю адказ на пытанне, зададзенае самому сабе напярэдадні.

Кіно дэманструецца не ў тэлевізары, а на вялікім экране. Такой жорсткай "парнухі", прызнаюся шчыра, я не пабачу болей ні на парыжскім кабельным канале, ні ў сябра, які мецьме сапраўдную калекцыю гэтага "дабра". З экрана стогнуць, вохкаюць, скуголяць, і ўсё гэта суправаджаецца красамоўнымі каментарамі з залы:

— Ты глядзі, як засадзіў...

— А цыцкі, цыцкі якія ў бабы...

Гэта нагадвае мне колішні прагляд кіно ў нашым вясковым клубе, калі дзядзькі і цёткі ўголас каментавалі падзеі на экране, а Міша Крышэнікаў увогуле да кожнага слова кінагероя дадаваў свае "тры капейкі".

А яшчэ прыходзіць здагадка: вось чаму з такою ахвотаю кадэбэшнік-апекун пагадзіўся "арганізаваць прагляд" для мяне. Ды ўсім ім самім карцела паглядзець гэтае "кіно". Касета ж у следчага ў сейфе, як рэчавы доказ. Папрасіць яе для прагляду і няёмка, і сорамна. Дый прыстойныя ж людзі, лічыцца, працуюць у "канторы", каб цікавіцца гэткім паскудствам. А тут прыехаў карэспандэнт. Чым не падстава, каб наладзіць масавы прагляд, задаволіць, нарэшце, нездаровы інтарэс да жарсных любошчаў?

Пасля прагляду з залы ўсе выходзяць усчырванелыя, узмакрэлыя, узбуджаныя... Прызнацца шчыра, мне таксама наступнаю ноччу спіцца мулка...

Следчыя давядуць крымінальныя справы да судоў, і "за распаўсюд парнаграфіі" хлопцаў заканапацяць у калонію на два гады кожнага.

Трохі паразумнеўшы, задам сабе пытанні: "А чым яны, тыя кадэбэшнікі, якія рукою бязлітасна падпісвалі пратаколы, а вачыма юрліва зыркалі на экран, лепшыя за асуджаных? А чым лепшы я, той, хто зганьбіў "распуснікаў" у газеце, а сам "пішчом лез" у кіназалу, каб пабачыць парнаграфію?"

Трохі ўсцешвае толькі тое, што напісаў я артыкул, а не фельетон...

## "Брацкая магіла"

Дасылаю ў выдавецтва "Мастацкая літаратура" рукапіс свайго першага зборніка вершаў. Меў магчымасць выдаць яго яшчэ ў студэнцтве, на другім курсе. Тады на журфак завітаў Рыгор Барадулін — кумір усіх вершатворцаў. Пасля сустрэчы ў актавай зале мы, журфакаўскія паэты, пакінулі яму па некалькі твораў — каб пачытаў і потым выказаў сваю думку.

Патэлефанаваў Рыгору Барадуліну праз тыдзень.

— Цудоўна! А верш "Слалі нам рабочыя Берліна..." дык і ўвогуле магутны, — абрадаваў Рыгор Іванавіч. — Прыносьце ўсё, што ў вас ёсць. Будзем рыхтаваць зборнік.

Некалькі месяцаў я падносіў вершы-"патроны" Барадуліну (ён тады працаваў у "Мастацкай літаратуры"). Справа ішла да фінішу. Рыгор Іванавіч даў мне на праўку з дзясятак апошніх вершаў.

Студэнцкае жыццё — вірлівае. Я загуляў... І калі прыйшоў час несці вершы ў выдавецтва, нічога ў іх не было папраўлена. Трэба сказаць, што заўвагі Рыгор Іванавіч рабіў простым алоўкам. Вось я і падумаў: "Калі акуратна падцерці памечанае, дык Барадулін гэтага не заўважыць. Можа, пад ягоны добры настрой і ў ранейшым варыянце сыдзе"...

Не сышло. Рыгор Іванавіч дужа пакрыўдзіўся, і на доўгі час нашых адносінаў як не было...

Ужо на семінары ў Каралішчавічах, калі нехта скажа пра мяне "глядзіце, які таленавіты паэт", Барадулін раздражнёна дасць яму належны адлуп:

— Так, таленавіты. Але страшэнна лянівы! Над гэтымі рукапісамі, — ён страсяне перад сабою аркушамі з маімі вершамі, — я сядзеў на кухні яшчэ пяць год таму і асцерагаўся, каб не запэцкаць іх сваімі засаленымі рукамі...

І вось, паправіўшы і дапоўніўшы, пасылаю рукапіс у выдавецтва. Неўзабаве атрымліваю рэцэнзію Раісы Баравіковай. Staноўча адзначыўшы два дзясяткі вершаў, яна не рэкамендуе рукапіс да друку.

А яшчэ праз нейкі час у кнігарнях з'яўляецца калектыўны зборнік "Крыло", у якім змешчаны і тыя мае "два дзясяткі вершаў". Ніякай радасці гэтая публікацыя мне не прыносіць, хутчэй наадварот. У тым зборніку, пазначаным як першая кніга паэта, яшчэ дваццаць такіх жа гаротнікаў, што пішчом лезуць у паэзію. Якую выснову пра творчасць таго ці іншага можна зрабіць паводле "нізкі вершаў"? Куды паткнуцца з такою кнігаю? Як кажуць, ні сабе, ні людзям...

Кожны паэт, хай сабе і графаман, у глыбіні душы лічыць свае творы калі не геніяльнымі, дык хоць бы вартымі нечай увагі. Паэту патрэбен

чытач. І калі яго няма, з'яўляецца пачуццё безвыходнасці, марнасці памкненняў і патуг. Можна, вядома, пісаць "у стол" са спадзевам на "светлую перспектыву". Але не ў кожнага стае для гэтага цярпення...

Канчаткова вырашаю: не варта пісаць вершы, калі яны не знойдуць свайго чытача. А ў зборніку "Крыло", падоранаму Сяргею Дубаўцу, пакідаю надпіс — як эпітафію самому сабе:

Хоць зараз я выходжу з "бойкі"
І адыходжу у "было",
Хоць для мяне ён, гэты зборнік,
Як перабітае крыло,
Хоць я душу сваю прымусіў
На горла наступіць сабе ж,
Я назаўсёды застануся
У свеце тым, дзе ты жывеш...

Сяргей толькі і скажа:

— Сапраўды: як перабітае крыло...

Дарэчы, такія зборнікі называцьмуць "брацкімі магіламі". Колькі надзей і мар у іх пахавана!

## "Прадстаўнік абкама"

Выклікаўшы ў свой кабінет, рэдактар Лазько дае чарговае заданне — на гэты раз не творчае:

— З абкама партыі, з сектара друку, патэлефанаваў Віктар Лоўгач... Трэба, каб нехта з нашай газеты паехаў у Жыткавічы і выступіў на " куставым" семінары рэдактараў раёнак. Я рашыў, што павінен паехаць ты...

Ягоная прапанова мяне вельмі здзіўляе. Так, я друкуюся ў абласной газеце часцей за ўсіх (вылузваюся са скуры, каб атрымаць кватэру). Але ж пасада, якую займаю, самая нізкая ў рэдакцыйнай іерархіі. Нават карэспандэнт аддзела глядзіць на зменнага сакратара звысака.

Потым даведаюся, чаму атрымаў такое заданне менавіта я. Проста ўсе астатнія, так бы мовіць, адбрыкваліся ад яго рукамі і нагамі. Там жа трэба не "папляцкаць языком" на абстрактныя тэмы, а прааналізаваць змест тых раёнак. А гэта значыць, належыць папярэдне наведаць бібліятэку і пералапаціць там горы "макулатуры". Ну што паробіш: трэба "вылузвацца са скуры" і далей...

У Жыткавічах мяне сустракаюць як самага высокага госця. Лепшы нумар у гасцініцы, багата накрыты стол у кабінеце рэдактара... Пачуваю сябе ніякавата: зусім нядаўна сам быў усяго адказным сакратаром старадарожскай райгазеты, а заўтра давядзецца "вучыць розуму" ссівелых рэдактараў з Лельчыцаў, Петрыкава, Ельска...

Маё выступленне рэдактары газет, іхнія намеснікі і адказныя сакратары слухаюць уважліва, а хто-ніхто нават і запісвае.

Пасля "афіцыйнай часткі" — банкет у вялікай зале рэстарана. Запрошаны ўсе ўдзельнікі семінара. На століках пляшкі з гарэлкай і прыстойная закусь. Рэдактар жыткавіцкай раёнкі, гаспадар, запрашае мяне за адасоблены ад астатніх стол, за які садзіцца сам, а таксама ўладкоўваюцца сакратары райкама. Пасярэдзіне — пляшкі не з гарэлкай, а з каньяком. Бутэрброды не з каўбасой, а з ікрой.

Першы тост прапануецца за мяне, за тое, што ўсе пачулі з маіх вуснаў вельмі карысныя парады і надалей будуць імі карыстацца. Ад няёмкасці юзгаю ў крэсле, бо, відавочна, такой пашаны ніяк не заслугоўваю...

Ужо потым даўмеў: мяне асабіста ніхто і не шанаваў. Шанавалі "прадстаўніка абкама партыі". У той час (зрэшты, як і цяпер) чалавека ацэньвалі не па ягоных асабістых вартасцях, а па пасадзе, якую ён займаў.

## "Намесніца"

Прынамсі, уплывовае месца ў грамадстве вызначалася не толькі высокай пасадай...

Удзельнічаю ў рэйдзе па вылоўліванні "зайцоў" у гарадскім транспарце. Нават міліцыянты падсабляюць выцягваць безбілетнікаў з аўтобусаў і тралейбусаў. Я стаю збоку, на прыпынку каля "Гомсельмаша", і толькі запісваю прозвішчы затрыманых. Падыходзіць кіраўнік рэйдавай брыгады.

— Там адна жанчына-безбілетніца верашчыць на ўвесь тралейбус, кажа, што яна — намесніца рэдактара "Гомельскай праўды", пагражае, што заўтра ўсіх нас паздымае з работы...

"Няўжо Харытонава? — мільгае неверагодная думка. — Жанчына-намесніца ў нас адна. Але ж Тамара Канстанцінаўна такая інтэлігентная, такая прыстойная..." Падыходжу да тралейбуса. Згледзеўшы мяне, затрыманая скандалістка-безбілетніца радасна ўскідвае рукі:

— Во, Усеня! Ну пацвердзі, пацвердзі!...

Жанчыну я сапраўды добра ведаю, але гэта, на шчасце, не Харытонава, а прадаўшчыца рэдакцыйнага буфета...

Адразу ўсплывае ў памяці нешта падобнае з яшчэ старадарожскага жыцця. Нашая шахматная каманда едзе на чэмпіянат вобласці ў Салігорск. У яе складзе і сакратарка кіраўніка раёна. Дзядзька з судзейскага камітэта запаўняе нашыя анкеты. Даходзіць чарга да сакратаркі.

— Дзе працуеце? — пытаецца ў яе дзядзька.

Сакратарка горда ўздымае галаву і фанабэрыста адказвае:

— У райкаме партыі!

— А кім? — не адрываючыся ад папер, без аніякага "піэтэту" задае ён чарговае пытанне.

— А якая вам розніца! — нечакана выбухае сакратарка і ўскоквае з крэсла.

Збянтэжаны дзядзька нічога не разумее, і толькі мы, старадарожскія шахматысты, хаваем у рукавах усмешкі...

Дык што мне сказаць удзельнікам рэйдавай брыгады? Пацвердзіць, што гэтая жанчына сапраўды намесніца рэдактара? Абвергнуць словы самазванкі? Не ўсё так проста. І я нейкую хвіліну стаю моўчкі...

Каб зразумець маю збянтэжанасць, трэба ведаць, якім быў той час. А быў ён галодным. На паліцах магазінаў гуляў вецер, лядоўні пуставалі, знячэўку набыты кавалак каўбасы лічыўся за вялікую ўдачу. Уратоўвалі толькі так званыя "заказы". На буйных прадпрыемствах, ва ўплывовых арганізацыях раз на тыдзень выдаваўся набор дэфіцытных прадуктаў: бляшанка шпротаў, пачак грэчкі, палка каўбасы, баначка кавы... Быў такі "стол заказаў" і ў нашай рэдакцыі. Інакш кажучы, буфет. Як толькі разносілася чутка пра чарговы "завоз", усе зрываліся з наседжаных крэслаў і беглі ў рэдакцыйны падвал, дзе гэты буфет акурат і месціўся. Чарга — ажно на

лесвіцы. Не стаялі ў ёй хіба што рэдактар Лазько ды адказны сакратар Рувім Рутман — іх чакаў “заказ” персанальны...

Зрэшты, “заказаў” у традыцыйным значэнні (на заводах іх выдавалі ўсім аднолькавыя, у папяровых пакетах) у нас не было. Буфетчыца, дзябёлая кабета, як кажуць, кроў з малаком, усё размяркоўвала сама. Не, яна кожнаму выдавала абавязковую курыцу ці колца каўбасы. Але ў тым і цымус, што курыца магла быць “сухарэбрай” і “паўнацелай”, колца вялікім ці малым... І што каму ўзважыць, вырашала яна, буфетчыца. Не дзіва, што ўсе да яе “падлізваліся”. А яна адчувала сваю значнасць, сваю перавагу. Магла нават і прыкрыкнуць. А мы, тыя, хто часам вырашаў чалавечыя лёсы на старонках газеты, паслухмяна, як чарада авечак, выстойвалі ў чарзе, з удзячнасцю пазіралі ў вочы буфетчыцы, калі яна клала на вагі большы кавалак.

Дык што мне трэба было сказаць кіраўніку рэйдавай брыгады?

— Так, намесніца... — нарэшце пацвярджаю я. І, напэўна, не дужа крыўлю душою.

Бо яна была нават больш чым намесніцай...

## Асабісты грэх

Гарбачоўская “барацьба з п’янствам і алкагалізмам” даецца народу ў знакі. У крамах знікаюць віно і гарэлка, ладзяцца паказушныя “безалкагольныя” вяселлі, паўсюль вывешваюцца лозунгі “За цвярозы лад жыцця”... А папойка на працоўным месцы ўвогуле лічыцца ледзь не смяротным грахом.

Газета павінна ў кожным нумары друкаваць артыкулы пра поспехі ў гэтай “бязлітаснай барацьбе”, ганьбіць тых, хто не хоча парваць сяброўства з “зялёным змеем”. На асвятленне тэмы кінуты ўсе аддзелы рэдакцыі, матэрыялы на паласу ідуць, так бы мовіць, з калёс.

У мае рукі трапляе акт праверкі на нейкім сакрэтным прадпрыемстве (такіх тады было шмат). Ён сведчыць, што ў канструктарскім бюро наладзілі п’янку ў рабочы час. Усіх чакае суровае пакаранне.

З акта цяжка зразумець, з якой нагоды і пры якіх абставінах канструктары кінуліся ў запой, таму дамагаюся, каб мне дазволілі наведаць прадпрыемства і сустрэцца з “апойкамі”.

Інтэлігентныя людзі, мілыя, зусім не азызлыя твары... Хіба што трохі насцярожаныя — у чаканні “аргвывадаў”. Дый візіт карэспандэнта нічога добрага не зычыць.

Высвятляецца, што ў дзень нараджэння маладзенькай супрацоўніцы канструктары падарылі ёй букет кветак, а заадно прыкупілі дзве пляшкі шампанскага — каб хоць сімвалічна адзначыць свята.

Разлівалі пітво ў абедзенны перапынак, і на табе — акурат чорт прынёс гэтую праверку (відаць, без “стукацтва” не абышлося).

Сівавалосы і сівавусы адстаўнік, намеснік начальніка бюро, пры развітанні з адчаем і чамусьці з дакорам мне выгаворвае:

— Ну што гэта за п’янка — па шкаліку шампанскага? Спакон веку гэтак было... Дый няўжо вы самі такі бязгрэшны? Няўжо не прыгубляеце з калегамі ў выключных выпадках?

Запярэчыць няма чым... Тым не менш у газеце неўзабаве з’яўляецца мой артыкул пра той “сабантуй”, і нават акрэсліваецца нейкая мараль.

Памятаецца, яшчэ тады, калі пісаў артыкул, мяне грызла сумленне: ён, сівавалосы канструктар, мае рацыю. Хіба ж мы, журналісты, пры любой

нагодзе не зачыняемся ў кабінетах і не “бяром на грудзі”? Яшчэ як! Дый не шампанскае, а мацнейшыя напоі.

І ў той жа час супакойваў сябе, адганяў згрызоты: калі не напішу я, дык знойдзецца нехта іншы.

Цяпер жа мне сорамна за тое надуманае апраўданне. Няма чаго спасылацца на “іншых”. За ўласныя грахі кожны будзе адказваць асабіста.

## На сенажаці

У калгасах катастрафічна не хапае кармоў для жывёлы. Таму кожнаму прадпрыемству, арганізацыі даводзіцца план па нарыхтоўцы сена. Мае такі план і рэдакцыя.

Ліпеньскім ранкам нас, усіх рэдакцыйных мужыкоў, акрамя Лазько і Рутмана, вязуць на сенажаць, дзе мы да полудня ўвішна абкошваем меліярацыйныя каналы. У такім шматлікім мужчынскім гурце, ды яшчэ на прыродзе, ды яшчэ пасля “ўдарнай працы” абавязкова павінна было “павіснуць у паветры” пытанне пра сто грамаў... Не памятаю ўжо, адкуль узяліся тыя некалькі пляшак. Мусіць, нехта абачліва прыхапіў іх з сабою. Ад чаркі не адмаўляецца ніхто.

Мінаюць тыдні. Пра той лёгкі пікнік не застаецца і згадак. І раптам — як выбух: рэдактар Лазько выклікае кожнага “касца” ў кабінет і прымушае пісаць тлумачальныя запіскі пра “п’янку” на сенажаці. Прычым дамагаецца, каб арганізатарам і натхняльнікам папойкі быў названы першы намеснік рэдактара Леанід Карачун.

Усе добра ведаюць, што Карачун — аднакурснік Лазько. Мусіць, і намеснікам ён стаў па пратэкцыі рэдактара. А вось жа нейкі сабака прабег паміж былымі сябрамі, і цяпер Лазько спрабуе “зжыць са свету”, любымі спосабамі звольніць Карачуна з пасады. Якраз у самым разгары “барацьба з п’янствам”, і пікнік на сенажаці, хай сабе і даўно забыты, для гэтага акурат дарэчы. Трэба толькі падаць выпадак так, што “замуціў” усё менавіта Карачун. А хто ж іншы? Ён жа быў самым высокапастаўленым у тым гурце!

Нарэшце Лазько выклікае і мяне. Без аніякай прадмовы загадвае:

— Вось табе папера і ручка. Напішы пра касьбу, пра п’янку. І падкрэслі, што на гэта ўсіх падбіў першы намеснік Карачун.

У яго няма ніякага сумневу, што я напішу як належыць, бо вось-вось мяне плануецца прыняць кандыдатам у партыю, а следам за гэтым чакае пасада загадчыка аддзела савецкай работы.

Але пісаць такую тлумачальную мне не хочацца. Гэткага спакойнага, спагадлівага, добразычлівага чалавека, як Карачун, у рэдакцыі болей няма. Ён не фанабэрыцца сваёй пасадай, ставіцца да ўсіх, можна сказаць, панібрацку, калі трэба, з ахвотаю нешта параіць, нязмушана паразважае пра жыццё-быццё. Пад час тае папойкі ніякая ініцыятыва ад Карачуна, натуральна, не сыходзіла. Ён увогуле, як помніцца, моўчкі стаяў збоку, а калі і прыгубіў — дык чыста сімвалічна, каб засведчыць сваю роўнасць з астатнімі.

— Гэткую тлумачальную я пісаць не буду, — кажу рэдактару. — Усё было зусім не так...

— Што?! — ускоквае з крэсла Лазько. — І ты яшчэ марыш пра партыю? Пра загадчыка аддзела?

Я ўціскаю галаву ў плечы, але ўсё ж стаю на сваім:

— Карачун не быў арганізатарам...

Лазько глядзіць на мяне доўга, зацята, з неўразуменнем і, нарэшце, скрозь зубы выціскае:

— Ладна, хрэн з табою. Напішы хаця б тое, што Карачун проста піў. А тлумачальных пра ягоную арганізатарскую ролю і без тваёй хапае.

“Хто б сумняваўся...” — мільгае ў маёй галаве іранічная думка.

У рэшце рэшт Лазько Карачуна “з’еў”. Калі ўжо з’еду ў Мінск, мне паведамяць, што неўзабаве ён памёр.

Здавалася б, сумленне мяне грызці не павінна: нічога ганебнага, надуманага я пра Карачуна ў тлумачальнай не напісаў. Але яно грызе, бо нічога не напісаў і ў ягоную абарону...

## Ратунак ад радыяцыі

Каб ужо завяршыць алкагольную тэму, распавяду яшчэ адну гісторыю.

Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС рэдакцыі раённых газет на забруджанай радыяцыяй тэрыторыі літаральна пусцеюць. Журналісты ратуюць сябе, свае сем’і, пакідаюць наседжаныя месцы. Але ж газеты выпускаць трэба. У “пракажоныя” раёнкі пасылаюць журналістаў з іншых выданняў — вахтавым метадам.

Не мінае і двух тыдняў пасля катастрофы, як рэдактар збірае на лятучку ўвесь калектыў. Пытанне адно. І яго Лазько задае:

— Хто добраахвотна хоча паехаць у Брагін, папрацаваць там у раённай газеце?

Зацятае маўчанне. Усе ўжо добра дасведчаны пра небяспечныя наступствы радыяцыі...

Мяне толькі што прынялі кандыдатам у партыю, прызначылі в.а. загадчыка аддзела, таму ёсць адчуванне, што я абавязаны адплаціць за такія “даброты”. Таму пасля невялікай развагі вымаўляю:

— Я гатовы паехаць...

У рэдактарскім кабінеце — агульны ўздых палёгкі...

Лазько сам суправаджае мяне ў Брагін на рэдакцыйнай “Волзе”. Знаёміць з рэдактарам раёнкі, глухаватым і белагаловым мужчынам сталага веку, са старшынёй райвыканкама. Гасцініца забіта “вахтавікамі” розных прафесій, таму “на пастой” уладкоўваюся да адзінокай бабулькі, якая даводзіцца Лазько нейкай раднёй.

Прывучаны да працы ў раёнцы, ніякіх праблем не маю. Пасля чарговага кароткага наскоку ў які-небудзь калгас адразу з блакнота надыктоўваю лінатыпістцы цэлыя палосы. І хоць у рэдакцыі, акрамя фатографа і яшчэ аднаго журналіста, нікога няма, газета атрымліваецца паўнавартасная і выходзіць без затрымак.

У багажніку рэдакцыйнай “Волгі” я прывёз амаль цэлую скрыню гарэлкі і некалькі пляшак “Кагору”. Сам Лазько дапамог здабыць гэткае “багацце”, бо ў гомельскіх крамах трэба выстаяць неймаверныя чэргі і пры гэтым атрымаць можна толькі “дзве пляшкі ў адны рукі”. А ў народзе ходзяць чуткі, што спіртное, асабліва “Кагор”, выводзіць з арганізма радыяцыю. Вось я і назапасіўся “лекамі”...

Зрэшты, хапае іх ненадоўга. У Брагіне спіртных напояў у вольным

продажы ўвогуле няма. Толькі па запісцы старшыні райвыканкама (!) у краме могуць прадаць пляшку-другую гарэлкі.

Таму мой алкагольны "боезапас" мужыкі з рэдакцыі ўспрымаюць як манну нябесную. Калі ўсё выпіта, іду да старшыні райвыканкама (як добра, што Лазько мяне з ім пазнаёміў!) і атрымліваю патрэбную запіску...

Не думаю, што супрацоўнікі брагінскай раёнкі былі дужа ўдзячныя мне за тое, што я падсабляў ім рабіць газеты. У рэшце рэшт палосы можна было б "забіць" і белтаўскімі матэрыяламі. Але затое я дапамагаў ім "ратавацца ад радыяцыі". І ў гэтым была хоць нейкая карысць ад маёй "вахты".

## "Мы ў адказе за тых, каго прыручылі"

За сваю журналісцкую кар'еру я напісаў столькі артыкулаў і фельетонаў, што, вобразна кажучы, не кожны можа панесці іх за спіной. Газетныя выразкі захоўваю не ўсе. Аднак пульхную папку (нават не з публікацыямі, а з матэрыяламі ўласнага журналісцкага расследавання) выкінуць не падымаецца рука. Яна, гэтая папка, як дакор мне, як яскравы напамінак пра гнілую эпоху, у якой давялося жыць...

У "Гомельскую праўду" прыходзіць пакаянны ліст ад дазнаваццеля Гомельскага райаддзела міліцыі Юрыя Маўляна. Ён спавядаецца, што беспадстаўна спыніў крымінальную справу і з-за гэтага не можа "спакойна спаць па начах".

Праз некалькі дзён сустракаюся з Маўлянам у рэдакцыі, слухаю яго расповед...

Кіраўнікі абласнога таварыства паляўнічых і рыбаловаў па-браканьерску забілі лася. Доказы — неабвержныя. Трэба накіроўваць справу ў суд. Аднак раённая пракуратура прымусіла Маўляна яе закрыць.

Напачатку падаецца, што артыкул можна напісаць без асаблівай напругі. Каб жа ведаў тады, якія цяжкасці чакаюць наперадзе і на каго выведзе нітачка...

Маўлян, парушаючы ўсе ведамасныя інструкцыі, рызыкуючы пасадай, выносіць з райаддзела папку з матэрыяламі справы, каб я мог з імі пазнаёміцца. І тут — першая нечаканасць. Найбольш важныя пратаколы допытаў у справе адсутнічаюць. Нехта іх "канфіскаваў". Маўлян у адчаі. А мяне гэта толькі распальвае: правяду ўласнае расследаванне!

Яно доўжыцца амаль два месяцы. Цяжка паверыць (мне і цяпер гэта здаецца неверагодным), але паказанні даюць самыя высокія начальнікі, нават кіраўнікі абласных упраўленняў, прычым з прыпіскай, як у сапраўдных міліцэйска-пракурорскіх пратаколах: "мною прачытана, паводле маіх слоў запісана правільна". А маглі б жа папросту паслаць нейкага карэспандэнта, як кажуць, на тры літары...

Калі ўвесь неабходны "кампрамат" сабраны, ноччу ў маім кабінеце нехта выломвае дзверы (пазней стала вядома, што падсабляў узломшчыкам адзін з супрацоўнікаў рэдакцыі), выварочвае ўсе паперы з шуфлядак у пісьмовым стале. Відавочна, што шукалі тую папку з кампраматам. Але напярэдадні я абачліва занёс яе дадому.

Што ж у ёй такога "выбуховага"? Ад каго сыходзіць ініцыятыва закрыць справу? Нітачка вядзе да пракурора вобласці і нават да сакратара абкама партыі. Намеснік абласнога пракурора Шаладонаў выклікае мяне ў сваё ведамства і простым тэкстам, пагражаючы, патрабуе "супакоіцца", не лезці

куды не след”. (Пазней ён стане наменікам старшыні Вярхоўнага Савета, і я з агідаю буду слухаць ягоныя прамовы пра неабходнасць барацьбы са злачыннасцю).

Зразумеўшы, што ў вобласці праўды не дабіцца, пішу ліст Генеральнаму пракурору Беларусі. Адказ прыходзіць на дзіва хутка. Ён таксама раіць не сунуць нос не ў сваю справу.

Чаму ж на абарону “галоўнага паляўнічага” вобласці паўсталі такія высокія начальнікі? Ды яны ж самі, пры ягонай дапамозе, мусіць, не раз браканьерылі ў гэтых краях...

Артыкул напісаны. Друкаваць яго Лазько адмаўляецца. Кажу яму, што напішу ў “Правду”. Лазько паведамляе пра гэта сакратару абкама партыі. Той дае “адмашку”: лепш надрукаваць артыкул у “Гомельскай праўдзе”, “выпусціць пару” на месцы, не выносячы смецце з хаты.

Калі чытаю сваю пісаніну ў газеце, не веру вачам. Артыкул настолькі абкарнаны, што з яго вынікае: галоўным абаронцам браканьераў з’яўляецца наменік раённага пракурора... Зрэшты, ні ён, ні самі браканьеры пасля публікацыі так і не былі пакараны. Нават штрафам.

Аднак жа не для таго я ўспомніў справу пра забітага лася, каб нагадаць, якая кругавая наменклатурная парука панавала ў тыя часы. Пра гэта і так кожны добра ведае (дый мала што змянілася пасля камуністычнае паразы).

Быў у гэтай гісторыі чалавек, якога сапраўды пакаралі, — дазнавацель Маўлян. Зусім няшмат яму заставалася да пенсіі. Але звольнілі Маўляна за “службовую неадпаведнасць”. Перад гэтым папярэджвалі:

— Кінь упарціцца, перастань падсабляць карэспандэнту.

Ён ужо было і пагаджаўся з пракурорамі, але кожны раз я перацягваў сумленнага міліцыянта на свой бок:

— Не хвалюйцеся, мы ўсё адно пераможам. І за вас я пастаяць змагу...

Аднак жа не змог. Ці ёсць у тым мая віна? Мусіць, не. Я сапраўды шчыра верыў, што “газетай можна забіць міністра і муху”, што справядлівасць у рэшце рэшт пераможа. Але дробненькі чалавек, хай сабе і карэспандэнт абласной газеты, — толькі вінцік у дзяржаўным механізме...

“Мы ў адказе за тых, каго прыручылі”, — сказаў некалі Экзюперы. Маўляна я, можна сказаць, прыручыў. Ды не апраўдаў ягоныя надзеі.

## Як мяне вербавалі

Не мінае і двух тыдняў, як мяне перавялі на працу ў Мінск, у рэдакцыю газеты “Звязда”, на дзвярах кабінета яшчэ не павесілі шыльдачку з маім прозвішчам, а з тэлефоннай слухаўкі ўжо чую таямнічы голас:

— Я — з Камітэта дзяржбяспекі. Хачу з вамі сустрэцца. Не, не ў рэдакцыі. Давайце так. Праз дзесяць хвілін падыходзьце да ўваходу ў кінатэатр “Кастрычнік”. Я буду ў жоўтым плашчы, у руцэ трымацьму газету...

Дом друку суседзіцца з кінатэатрам, так што я, нават не апрануўшыся, кіруюся на сустрэчу. Высокага, коратка стрыжанага дзецюка з газетай відно здалёк. Ён запрашае зайсці ў фае кінатэатра. Сядаем на крэслы ў зацемненым кутку залы. Дзяцюк доўга распытвае мяне пра ўражанні на новай працы, з кім паспеў пасябраваць, дзе ўладкаваўся жыць. Але я разумею: гэта толькі падводка да галоўнага, дзеля чаго і паклікалі мяне

сюды. Чакаю, калі будуць сказаны асноўныя словы. Справа ў тым, што ў мяне ўжо ёсць досвед зносінаў з кадэбістамі...

Упершыню сутыкнуўся з імі яшчэ ў Старых Дарогах. Рэдактар газеты па тэлефоне паведамляе, што мяне хочуць бачыць супрацоўнікі “органаў”. Зараз яны ў гасцініцы. Чакаюць.

Увогуле я ў адпачынку. Толькі што прыехаў з турыстычнага злёту, дзе апошняю ноччу мы не зусім цвяроза пасядзелі каля вогнішча, і сёння я ўжо паспеў “паправіць здароўе”. Мусіць, таму ў галаву ўзбрыдае бязглуздая ідэя прыхапіць з сабою ў гасцініцу пляшку старадарожскага першаку. Развага такая: трэба ж, каб госці, наведаўшы самагонны край, паспыталі фірмовага напою. А задумацца, што гэта за “госці”, не хапае розуму...

У пакоі — двое мужыкоў. Паказваюць пасведчанні маёраў. У мяне за пазухай муляе пляшка, і я, нават не пацікавіўшыся, навошта паклікалі, стаўлю яе на стол.

— Што гэта? — недаўменна пытаецца адзін з маёраў.

— Старадарожская! Хлебная! — адказваю з гордасцю і чакаю словаў удзячнасці.

— Не-не! Забяры! Схавай!

Упершыню на маіх вачах нехта адмаўляецца ад старадарожскай! Падзівіўшыся гэтаму, засоўваю пляшку за пазуху.

Кадэбісты выкладваюць на стол з дзясятак лістоў, напісаных дробным почыркам. Аказваецца, нехта закідаў розныя ўстановы ананімкамі на другога сакратара райкама партыі Алену Калешку. Зламысніка-ананімшчыка трэба знайсці. Мне прапануецца зірнуць на почырк і прыгадаць: ці не трапляўся такі ў рэдакцыйнай пошце?

— Не, не трапляўся, — цвёрда кажу я, прабегшы вачыма па радках. І ўжо імкнуся сысці, але маёр, які толькі што загадваў мне “схавай”, шматзначна пытаецца:

— Хлебная, кажаш?

Разумею ягоны намёк і зноў выцягваю пляшку з-за пазухі.

Уражвае, як яны п’юць. Набулькаўшы палову гасцінічнага хрушчовіка, кожны з іх па чарзе падыходзіць да акна і, стоячы спіною ў пакой, перакульвае шклянку ў горла. Паварочваецца і ідзе закусваць. “Гэта ж яны не толькі мяне, яны, мусіць, адзін аднаго асцерагаюцца!” — прыходзіць здагадка. І сапраўды: ніхто ж не бачыў, як гарэлка лілася ў рот...

Пазней высветліцца: ні рэдактару газеты, ні загадчыцы аддзела пісьмаў кадэбэшнікі тых лістоў чамусьці не паказвалі. І я тады задумаюся: чаму ж яны звярнуліся толькі да мяне? Тым болей што рэдакцыйную пошту я, адказны сакратар, увогуле не чытаю...

У Гомелі напачатку мяне будуць клікаць у будынак абласнога КДБ толькі для таго, каб даць фактуру для чарговага артыкула. А аднойчы запросяць “проста так, для размовы”.

Кадэбіст расчыняе дзверы ў кабінет, што з самага прыходу і направа. Ківае галавой: заходзь. Кабінет прасторны і на дзіва пусты. З усяе мэблі толькі выцягнуты ўздоўж сцяны карычневы стол, крэслы абапал яго ды жоўтая тумбачка ў кутку.

Кадэбіст заходзіць у кабінет следам за мною і чамусьці пстрыкае выключальнікам каля самых дзвярэй. Загараецца святло. Я не разумею, навошта яно: вокны не зашторaныя, а на дварэ — самы разгар дня. (Толькі

пры наступнай “размове” здагадаюся: пстрыкнуўшы, кадэбіст уключае магнітафон, які акурат і прыхаваны ў той адзінокай жоўтай тумбачцы).

Трымаюся напружана. Наслухаўшыся гісторый пра “сексотаў” і “стукачоў”, чакаю, што вось-вось кадэбіст прапануе мне тое ж самае. Але ён, сеўшы насупраць, распачынае звычайную гутарку: як працуецца, чым займаюся ў вольны час. Просіць выказаць сваю думку пра некаторых супрацоўнікаў рэдакцыі. Тут ужо баюся каму-небудзь нашкодзіць і характарызую кожнага толькі станоўча.

Ці можна было ўвогуле адмовіцца ад падобных сустрэч? На той час, бадай, не. Таямнічай і ўсемагутнай “канторы” адважваліся пярэчыць і супрацьстаяць толькі адзінкі...

Трэцяя “размова” адбываецца ў кабінеце на другім паверсе. Гэтага чалавека ў цывільным бачу ўпершыню. Прыкідваю: кабінет вялікі, дыхтоўны, і ягоны гаспадар, мусіць, начальнік аддзела, а па званні — не меней чым падпалкоўнік. Ён моўчкі тупае ад сцяны да сцяны, а затым, нарэшце, агучвае прапанову, якую я з асцярогаю чакаў, наведваючыся сюды раней:

— Мы хацелі б наладзіць з вамі больш цеснае супрацоўніцтва. Ведаем, што вы пішаце вершы. Часта сустракаецеся з гомельскімі пісьменнікамі, маеце стасункі з творчай інтэлігенцыяй увогуле. Мы хацелі б, каб вы паведамлялі нам пра сутнасць размоў, пра іхнія настроі...

— Прабачце, але “стукачом” я не буду, — нечакана смела для самога сябе і нават з выклікам перабіваю “падпалкоўніка”. — Згодзен рыхтаваць публікацыі паводле вашых матэрыялаў — і не болей.

Уплывовы кадэбіст пільна пазірае мне ў вочы.

— Вы добра падумалі?

— Тут і думаць няма чаго.

— Ну, тады ідзіце...

Дзіўна, але ніякіх сумных наступстваў для мяне не было. Хіба што з КДБ перасталі падкідваць тэмы для публікацый.

І вось ужо тут, у Мінску, усемагутная “кантора” праяўляе да мяне інтарэс. Дзяцюк у жоўтым плашчы, нарэшце, кажа прыкладна тыя ж словы, што і гомельскі “падпалкоўнік”. Толькі ўжо “стукаць” мне належыць на “звяздоўцаў” і...

Што мелася на ўвазе пасля “і”, я не даслухоўваю (мусіць жа, літаратурна-творчае асяроддзе, якое ў сталіцы не раўня гомельскаму). Катэгарычна заяўляю:

— Пісаць, калі прапануеце тэмы, буду, а “закладваць” — не.

Мой суразмоўца толькі і кідае на развітанне:

— Мы падумаем...

“Думаюць” да гэтага часу, бо ніхто болей не прызначаў сустрэч і не прапаноўваў напісаць артыкул на “патрэбную” тэму. Нават не выкарыстоўвалі мяне “ўцёмную”, як рабілі гэта ў Гомелі, калі запрашалі для “шчырай размовы” і пстрыкалі выключальнікам...

Ніводнай паперкі для КДБ я не падпісаў, ніводнага, нават вуснага, абяцання не даў. Ды ўсё адно тадышняя пільная ўвага “канторы” да маёй асобы чамусьці насцярожвае і цяпер. Ніяк не даўмею: чаму яны палічылі мяне “сваім”, чаму спрабавалі завербаваць? Адказ, магчыма, можна было б знайсці ў сакрэтным дасье, якое захоўваецца ў нетрах таямнічай структуры (чамусьці не сумняваюся, што такія дасье ёсць амаль на кожнага з нас). Вось толькі пагартаць і прачытаць тое, што захоўваецца ў “маёй” папцы,

мусіць не ўдасца ніколі. А шкада. Даведаўся б пра сябе нават болей, чым ведаю сам.

## Стэрэатып

Працую старшым карэспандэнтам у аддзеле пісьмаў, таму даводзіцца правяраць розныя скаргі, "лётаць" па ўсёй рэспубліцы. Чарговая камандзіроўка — у Магілёў.

Там нейкая Люцыя Савіцкая называе сябе экстрасенсам, дурыць людзям галовы, быццам бы лечыць іх ад розных хваробаў, тым лікам і СНІДу. "Махлярка", — загадзя вызначаю для сябе.

Тры дні наведваю "сеансы" Савіцкай, каб пераканацца, што яна сапраўды ніякімі звышнатуральнымі здольнасцямі не валодае. З працягам у некалькіх нумарах "Звязда" друкуе мой выкрывальны артыкул. І не толькі пра Савіцкую. Стаўлю пад сумненне ўсю экстрасенсорыку як з'яву, даводжу, што мы павінны кіравацца толькі марксаўска-ленінскім матэрыялізмам. Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Савелій Паўлаў, прачытаўшы артыкул, скажа галоўнаму рэдактару "Звязды" Івану Макаловічу:

— Столькі газетнай плошчы аддалі гэтай непатрэбшчыне! Не пра экстрасенсаў трэба пісаць, а пра будаўніцтва жылля і вываз гною...

У абарону Савіцкай выступаюць некаторыя навукоўцы, а пісьменнік Васіль Якавенка прыносіць у рэдакцыю водгук, у якім дае мне поўны адлуп. "Абкарнаўшы" да непазнавальнасці, "Звязда" яго друкуе. Для навукоўцаў газетнай плошчы няма: як ужо пісаў, выданні не любяць друкаваць абвяржэнні...

Міне з дзясятак год, і навука амаль афіцыйна прызнае і экстрасенсаў, і тэлепатыю, і нават рэінкарнацыю. На экранах тэлевізараў з'явяцца Кашпіроўскі і Чумак. Будуць ладзіцца розныя "бітвы экстрасенсаў". Народныя лекары мецьмуць ліцэнзіі.

Самае цікавае, што тады, на сеансах Савіцкай, я пераканаўся ў ейных здольнасцях. Напрыклад, калі Люцыя Андрэеўна, стоячы за маёй спіной, пачала рабіць рукамі нейкія маніпуляцыі, мне давялося прыкласці немалыя высілкі, каб не заваліцца назад.

Чаму ж я пра ўсё гэта не напісаў? "Звязда" — газета партыйная, і артыкул пра нейкае "шаманства" папросту не надрукавала б. Гэта адно. А другое — я і сам быў закасцянелым, зашораным, выхаваным савецкай ідэалогіяй асобай.

Геніяльныя творы і навуковыя адкрыцці атрымліваюцца толькі тады, калі ламаюцца стэрэатыпы.

## Сваё месца

Майскім днём на стадыёне парку імя Горкага ладзіцца футбольны матч паміж зборнай журналістаў сталіцы і камандай ветэранаў мінскага "Дынама".

Дагэтуль у розных камандах я гуляў толькі форвардам і ў іншым "амплуа" сябе не ўяўляў. Але ў журналісцкай зборнай месца на правым краі поля для мяне не стае — усе хочуць забіваць галы. Даводзіцца стаць паўабаронцам.

Калі спрошчана, задача мая такая: атрымаць мяч каля сваіх варотаў, прабегчы з ім цераз усё поле ўздоўж правае броўкі і зрабіць перадачу ў штрафную пляцоўку саперніка.

Гэта, бадай, мая лепшая гульня ў жыцці. Яшчэ не паспеў канчаткова пракурыць свае лёгкія, таму "абыходжу" састарэлых футбольных знакамітасцяў, як стаячых. Пасля гульні адзін з ветэранаў падыдзе да мяне і скажа:

— Ну ў цябе і хуткасць! Прыроджаны правы паўабаронца!

Я і сам ужо зразумеў: вось яно, маё месца. А раней жа ўсе гульні таптаўся ў штрафной пляцоўцы, чакаў, пакуль хто-небудзь адпасуе мяч. Ды позна зразумеў. Цягнік, як кажуць, сышоў.

Як гэта важна — знайсці сваё месца. І не толькі на футбольным полі.

Як слова наша адгукнецца...

Журналіст старадарожскай раёнкі Міхась Татур прапануе цікавую фактуру для рэспубліканскай газеты. Непадалёку ад маёй Пасекі ёсць забыты Богам і людзьмі куток. Усе завуць яго хутарам Аляшкевіча. Жыве там адзінокая і не зусім састарэлая жанчына. Ніякіх зносінаў з людзьмі не мае. Мяне і сапраўды разбірае цікаўнасць: чаму яна добраахвотна асудзіла сябе на вечную адзіноту, як перабіваецца, чым харчуецца? Газеты толькі і трубяць пра нейкіх Лыкавых, якія вякамі жылі ў дрымучай тайзе, а тут свая пустэльніца, ды яшчэ пад бокам...

Прыхапіўшы з сабою былога старшыню сельсавета, мы наведваем той хутар. Вакол — непралазныя балоты. Хацінка і хляўчук месцяцца на невялікай сухой выспе.

Гаспадыня хутара, Ганька, сустракае нас непрыветна. Але паступова сельсавецкаму актывісту ўдаецца ўвайсці ў ейны давер, і, нарэшце, Ганька распавядае пра сваё жыццё-быццё.

Аляшкевічы перабраліся сюды з заходніх раёнаў Беларусі. Шляхцічы, яны не жадалі зносіцца з "мужыкамі", таму і аблюбавалі для сябе вось гэтую выспу. Пасля вайны падобныя хутары ўлада пасцягвала ў вёску, аднак Аляшкевічаў гэтая навала чамусьці мінавала. Неўзабаве бацькі Ганькі паўміралі, і яна засталася на выспе адна. Чаму не перабралася ў вёску? Ды з-за таго ж шляхецкага гонару!

Артыкул у газету я не пішу. Але затое ў галаве нараджаецца сюжэт для прыгодніцкай аповесці "Здань на хутары". У сюжэце ёсць хоць і другасная, але дэталь: быццам бы бацькі Ганькі недзе на хутары закапалі шмат золата.

Аповесць ніштаватая. Фінал у ёй шчаслівы: Ганька перабіраецца з хутара ў сяло і дажывае свой век побач з людзьмі і з імі ў згодзе.

А ў жыцці развязка атрымліваецца трагічнай...

З хутара Ганька нікуды не з'ехала. І праз год-другі прыйшла жахлівая вестка з родных мясцін. Зімою, калі намяло сумётаў вышэй за галаву, нейкія два бэйбусы змаглі дабрацца да хутара Аляшкевіча. Ганьку яны жорстка згвалцілі і збілі да паўсмерці. У хаце ўсё перавярнулі. Мусіць, нешта шукалі...

Вось тут і прыгадалася золата, прыдуманае мною для інтрыгі ў аповесці. Яе надрукаваў часопіс "Маладосць", а затым, у перакладзе на рускую мову, і "Неман". Да таго ж, аповесць выйшла асобнаю кнігаю — дваццацітысячным накладам, што для беларускамоўнага выдання аж залішне. Так што аб "прыхаваным золаце" маглі прачытаць і тыя самыя бэйбусы...

Вядома, малаверагодна, што я паспрыяў таму гвалту. Ды ўсё ж... “Нам не дано предугадать, как слово наше отзовется...”

## “Фальшывая нота”

Праглядваю ў судзе крымінальныя справы, шукаю тэмы для публікацый. І натыкаюся на сенсацыю. Саліст ансамбля “Верасы” Аляксандр Ціхановіч, аказваецца, абвінавачаны ва ўжыванні наркотыкаў. Яго нават умоўна асудзілі на два гады. А пра гэта ж у прэсе не было ніводнага слова. Вось дык атрымаецца “бомба”!

Каб мець падставу для публікацыі, прыдумваю ліст у рэдакцыю ад нейкай “Лаліты Марчанка”, якая быццам бы цікавіцца, чаму апошнім часам у “Верасах” не відно на сцэне Ціхановіча і Паплаўскай. Гэты “ліст” дае мне падставу заняцца журналісцкім расследаваннем: сустрэцца з самім Ціхановічам, пагутарыць з артыстамі “Верасоў”.

Не мог і ўявіць, які распачнецца вэрхал. Каб папярэдзіць публікацыю, Ціхановіч і Паплаўская абіваюць парогі рэдакцыі: просяць, даказваюць, пераконваюць. Кіраўнік ансамбля Васіль Раінчык вылівае на іх “цэбар кампрамату”. Для яго публікацыя будзе якраз дарэчы. Паміж Раінчыкам і сямейнай парай салістаў — раздрай. І Васіль не супраць лішні раз “уесці” сваіх працаўнікаў.

Неўзабаве артыкул пра “Ціхановіча-наркамана” з’яўляецца ў “Звяздзе”. А гэта ж, як ні круці, орган ЦК КПБ...

Ці была патрэба ў тым артыкуле? Шчыра кажучы, не. Судова-псіхіятрычная экспертыза Ціхановіча хоць і прызнала хранічным наркаманам, але з тае пары мінула шмат часу, Аляксандр здолеў пазбавіцца ад наркатычнай залежнасці. Дык навошта спатрэбілася мне “варушыць брудную бялізну”? А для сенсацыі! Для таго, каб зарабіць сабе, так бы мовіць, імя, тым болей што працаваць у “Звяздзе” я толькі-толькі пачынаў. А яшчэ — каб пахваліцца каму-небудзь пры выпадку, што “сам Ціхановіч перада мною на каленях стаяў...”

“Фальшывая нота” — так называўся той артыкул. Вядома ж, мелася на ўвазе, што “не тую ноту” ўзяў Аляксандр Ціхановіч. Насамрэч жа сфальшывіў менавіта я...

## “Не верым слязам дзіцяці...”

Рыхтую кнігу “Споведзь знявечаных душ”. Пра сваё жыццё спавядаюцца асуджаныя злачынцы. Пад час адпачынку са згоды міліцэйскага кіраўніцтва цэлымі днямі не вылажу з мужчынскай і жаночай калоній. Гартаю крымінальныя справы, і калі хто-небудзь з асуджаных выклікае цікавасць, яго вядуць у асобны кабінет, дзе мне дазволена праводзіць “допыты”.

У гомельскай жаночай калоніі мяне апякуе намесніца начальніка па выхаваўчай рабоце Ірына Вялікая. Яна і прапануе выслухаць адну з маладых дзяўчат, якая недзе праз месяц павінна выйсці на волю.

— Яна хоць і мае тры ходкі на зону, але яшчэ не зусім прапашчая, — тлумачыць Вялікая.

Звычайна Ірына пакідае мяне сам-насам са “спавядальніцай”, каб не зашкаджаць шчырай размове. А на гэты раз Вялікая застаецца.

Дзяўчына высокая, чарнявая. Яе можна было б назваць нават прыгожай,

калі б не задужа вялікі нос, які зусім не стасуецца з пульхнымі малінавымі вуснамі. У калоніі рэжым, не надта накурышся-нап’ешся, таму і выглядае яна дагледжана, свежа.

Гісторыя ў дзяўчыны тыповая. Адбілася ад рук бацькоў, уцягнулася ў нейкую хеўру. Блуд, цыгарэты, пітво... Нешта гуртам укралі, так і трапіла яна ўпершыню за “калючку”. Выйшла на волю — а куды прыткнуцца? Бацькі паўміралі (пакінуўшы, праўда, кватэру), а на працу нідзе не бяруць. Каму патрэбная ўчарашняя зэчка? Зноў хеўра, зноў крадзеж, зноў зона... Па такім жа сцэнарыі — і трэцім разам.

— Калі б мяне на працу хто ўзяў, дык я б зусім па-іншаму сябе паводзіла, — апраўдваецца перада мною дзяўчына. — А так, во, хутка вызвалюся, і не відно, за што жыць...

Мне вельмі шкада дзяўчыну. Хочацца хоць чым ёй дапамагчы.

— Вы пасля вызвалення зазірніце да мяне на працу, — прапаноўваю. — Вось адрас “Звязды”. Пастараюся якую-кольвеч працу для вас знайсці...

— І праўда дапамажыце, — Вялікая кажа з удзячнасцю, а дзяўчына глядзіць на мяне з надзеяй.

...У абедзенны перапынак гуляю з супрацоўнікам у шахматы. Гулка расчыняюцца дзверы кабінета, на парозе — расхрыстаная, разбэрсаная жанчына, па ўсім бачна, на добрым падпітку.

— А вось і я! — весела кажа яна, нязмушана кіруецца да стала і грузна плюхаецца ўсім целам у крэсла, што стаіць збоку. — Ну, знайшоў для мяне працу?

Ад жанчыны патыхае гарэлачным смуродам, яна ўвесь час гулліва выскаляецца, таму відно, што ў роце няма паловы зубоў.

— Вы хто? — пытаюся, трохі ачуняўшы ад ейнага нахабства.

— А ты што, мяне не памятаеш? Там, у калоніі, у кабінеце Ірыны Уладзіміраўны, ты абяцаў мяне працаўладкаваць!

Узіраюся ў твар жанчыны, і толькі характэрны доўгі нос ды пульхныя вусны (яны ўжо не малінавыя, а бляклыя і парэпаныя) нагадваюць тую дзяўчыну ў калоніі, якой я абяцаў падсабіць. “Бач, што з ёю сталася. І ўжо за панібрата мяне трымае — на “ты” перайшла”, — дзіўлюся ў думках. А ўголас пытаюся:

— Чаму прыйшлі толькі цяпер? Вы ж, паводле маіх падлікаў, вызваліліся яшчэ два месяцы таму...

— Ды загуляла я трохі... Жыццё ж адно!

У душы ўзнікае сумнеў: а ці вартая гэткая апушчоніца той працы, якую мне сапраўды ўдалося знайсці? Сораму ж потым не абярэшся за сваю “пратэжэ”. Ды ўсё ж, каб засведчыць, што не сядзеў склаўшы рукі, імкнуўся выканаць абяцанне, кажу:

— Ёсць месца на цукерачнай фабрыцы. Рабочай...

Працяглая цішыня. Раптам наведніца ўскоквае з крэсла і кідаецца на мяне.

— На цукерачную фабрыку? Рабочай? Ды ты мяне ў прыёмную міністра павінен уладкаваць! — крычыць яна раз’ятрана, з бяззубага роту ажно пырскае сліна. Тонкімі пальцамі жанчына спрабуе ўчапіцца ў маю шыю, але я паспяваю перахапіць ейныя рукі і пры гэтым заўважаю, што пазногці ўсё-ткі пафарбаваныя...

Не ведаю, чым бы ўсё скончылася, калі б супрацоўнік за карак не адцягнуў нахабніцу ад мяне.

— Прэч з кабінета! — сам ужо пераходжу на крык. — А Вялікай абавязкова патэлефаную! Раскажу, як вы тут сябе паводзілі і да чаго дакаціліся!

Пачуўшы гэта, жанчына раптам камянее, а затым... плюхаецца перада мною на калені.

— Толькі не кажыце Ірыне Уладзіміраўне! Я вас малю!

Калі жанчыну ўсё ж удасца выштурхнуць з кабінета, я трохі супакоюся і, падумаўшы, зразумею, чаму ёй так не хацелася, каб пра ейны візіт даведалася Вялікая. А таму, што жанчына і сама не сумняваецца: неўзабаве зноў давядзецца "парыць нары" ў той жа калоніі (жаночая ў Беларусі — адна). І вось цяпер ужо не будзе ні спагады, ні літасці...

Пасля гэтага выпадку рукапіс кнігі я грунтоўна перарабіў. Узяў на ўзбраенне хоць заштампаваны, але справядлівы выраз: "Не вер слязе дзіцяці і раскаянню злачынцы..."

## Знявага

Калі размаўляў з асуджанымі жанчынамі, трымаўся ветліва, звяртаўся да іх "на вы". Мусіць, таму, што гэтак жа ставіліся да іх усе кантралёры і кіраўнікі калоніі.

Для сустрэч і гутарак у мужчынскай калоніі начальства выдзяляе мне не пакой, а... камеру. Яно, магчыма, і лепей. Тут можна ўволю пакурыць, дый зняволеныя пачуваюць сябе ў звыклай абстаноўцы, ім лягчэй выказацца. Мне ў помач даюць высокага, самавітага мужыка гадоў пяцідзесяці — з асуджаных. Ён, мусібыць, мае нейкія прывілеі, вольна перамяшчаецца па калоніі і павінен дастаўляць у "маю камеру" ўсіх, каго запатрабую.

— Прывядзі Кавалёва! Ды хутчэй! — загадваю яму, нібы парабку.

— З гэтым размова не атрымалася. Клыпу давай з першага атрада!

— А цяпер валачы сюды Румачыка, ён за забойства сядзіць. Ну чаго ты валюхаешся, як целяпень? Варушы касцямі!

У рэшце рэшт мой памагаты не вытрымлівае і, стоячы ў праёме дзвярэй, з крыўдай у голасе ціха кажа:

— Што гэта вы мяне панукаеце, як хлопчыка... Я, між іншым, на волі генералам быў...

Да мяне даходзіць, што я сапраўды абнахабіўся, ганяю чалавека тудысюды ды яшчэ на яго пакрыкваю. Раптам робіцца няёмка, таму, апусціўшы вочы, прашу:

— Прабачце...

Потым пазнаёмлюся з ягонай крымінальнай справай. І праўда: генерал. Асуджаны на дзесяць год за фінансавыя злоўжыванні. Прапаную яму таксама "паспавядацца", але генерал рашуча адмовіцца.

Аднак жа які я паганец. Наслухаўся-наглядзеўся, з якой знявагай і пагардай ставяцца да зняволеных афіцэры калоніі, дык і сам стаў лічыць гэтых людзей быдлам. А яшчэ прыйшоў выслухоўваць іхнія споведзі...

## Без віны вінаваты

З раніцы ў кабінет заходзіць карэспандэнт сельгасаддзела Мікола Міхальчык. Усхваляваны, узлахмочаны.

— Дружа, выручай!

Аказваецца, напярэдадні вечарам, добра пасядзеўшы ў рэстаране, ён “пацапаўся” з міліцыянтамі: сяржант склаў пратакол. Ноч Мікола правёў у “малпоўніку” — камеры для часова затрыманых.

Цяпер бяды не мінаваць. З міліцыі абавязкова прышлюць адпаведную паперу ў рэдакцыю, а тут цырымоніцца ніхто не будзе. Усё-ткі “цэкоўскі” орган. Могуць і з працы пагнаць.

Ведаючы няпросты характар Міхальчыка, здагадваюся, што адным “цапаннем” там не абышлося. Мусіць, Коля, як гэта часта бывае з журналістамі, “качаў правы”, а магчыма, браў таго сяржанта за грудзі...

Чаму ж Міхальчык звярнуўся менавіта да мяне? У газеце я пішу на прававыя тэмы і, натуральна, маю зносіны з вышэйшым міліцэйскім начальствам. Мікола просіць, каб я “падключыў сувязі” і справу замялі.

Лёгка сказаць — “замнулі”! Ёсць показка: “Што напіша сяржант, не папpавіць і генерал”. І ўсё-ткі еду ў Міністэрства ўнутраных спраў, да начальніка Упраўлення па ахове грамадскага парадку Віталя Іванавіча Апанасевіча. Прыемны чалавек, памяркоўны. Праўда, не генерал, а толькі палкоўнік. Не адзін артыкул мы з ім напісалі сумесна.

Віталь Іванавіч, выслухаўшы, з якою бядою я завітаў, пасля невялікай развагі абяцае:

— Паспрабую што-небудзь зрабіць... Хоць, шчыра кажучы, не надта хочацца...

Абяцанне Віталь Іванавіч выканаў. Папера ў рэдакцыю не прыйшла. Больш за тое: сяржанта міліцыі, які “наехаў” на Міхальчыка і склаў пратакол, самога зрабілі вінаватым і нават неяк пакаралі.

— Можа, гэта ўжо залішне? — пытаюся па тэлефоне ў Апанасевіча.

— А інакш нельга было, — адказвае Віталь Іванавіч. — Пратакол ёсць, затрыманне ёсць — усё зафіксавана. Значыць, некага трэба пакараць: калі не вашага карэспандэнта, дык нашага сяржанта...

Мікола Міхальчык быў на сёмым небе ад шчасця. Я таксама цешыўся, што здолеў дапамагчы калезе. І не задумваўся тады над тым, што, ратуючы аднаго, раблю непрыемнасці другому. Не сумняваюся: той сяржант меў рацыю, сумленна выканаў свой абавязак і справядліва заканапаціў Міхальчыка ў “малпоўнік”. А яго з маёй падачы ні за што ні пра што пакаралі...

Нездарма кажуць: каб нешта некаму даць, трэба штосьці ў кагосьці забраць.

## “Ты пакруці, пакруці…”

Заўсёды гарнуўся да сатыры. І калі галоўны рэдактар “Вожыка” Валянцін Болтач запрашае ўзначаліць аддзел фельетонаў часопіса, пагаджаюся без разваг. Лічу: вось яно, тое месца, дзе змагу рэалізавацца напоўніцу. Ды не ўсё атрымалася, на што спадзявалася...

У “Звяздзе” мае фельетоны ішлі на паласу, так бы мовіць, са свістам. А “Вожык” паказаў мне свае калючкі.

Валянцін Болтач — таленавіты пісьменнік. Калі зрэдчас ён падахвочваецца сам напісаць для часопіса які-небудзь памфлет, атрымліваецца сапраўды здорава. Іншая справа, што і нас, супрацоўнікаў, ён імкнецца перайначыць на свой капыл.

У маім аддзеле працуе Сяргей Навумчык. Здольны, нават таленавіты

хлопец. Хіба, можа, яму варта было б заняцца не сатырай, а публіцыстыкай. Аднак жа зараз змушаны пісаць фельетоны. Дакладней будзе сказаць — перапісваць.

Фельетон пра буйныя свінагадоўчыя комплексы Сяргею даводзіцца перарабляць ажно 15 разоў! Пачытаўшы новы варыянт, Болтач усё адно яго "заварочвае" і кажа адны і тыя ж словы:

— Ты яшчэ пакруці, пакруці...

А што і дзе "пакруціць" — не ўдакладняе.

Сяргей ужо настолькі ўсё "пакруціў", што, вобразна кажучы, збілася разьба...

Зрэшты, гэтае "пакруці" чуем і я, і рэдактар аддзела пісьмаў Уладзімір Правасуд, сталы вожыкавец, з якім мы дзелім адзін кабінет. Праўда, мне ўдаецца задаволіць густ галоўнага рэдактара сама болей з трэцяга разу.

Натуральна, усе мы, "недакручаныя", асаблівай любові да свайго шэфа не маем. Я дык і ўвогуле шкадую, што пакінуў наседжанае месца ў "Звяздзе". Тым болей што газета дала мне кватэру, я, па вялікім рахунку, так і не "адпрацаваў" (да гэтае пары вярэдзіцца сумленне), а Іван Пятровіч Макаловіч так угаворваў застацца ў "Звяздзе", што я не мог прыняць канчатковае рашэнне цэлыя тры месяцы.

Мінулі гады і дзесяцігоддзі. Я ўжо сам стаў галоўным рэдактарам. І, згадваючы працу ў "Вожыку", зусім па-іншаму гляджу на "прыдзіркі" Валянціна Уладзіміравіча Болтача. Тады, калі ён узначальваў "Вожык", наклад часопіса дасягаў амаль двухсот тысяч асобнікаў! (Безумоўна, трэба ўлічваць, што ў той час увогуле быў выдавецкі "бум", людзі цягнуліся да свежага слова, часопісы і газеты раскупляліся, як аладкі). А што сталася з "Вожыкам" цяпер? Маланакладны літаратурна-мастацкі альманах, які выдаецца два разы на год...

Так што, магчыма, зараз якраз і не хапае для ўсіх нас гэтых словаў:

— Ты пакруці, пакруці...

## Выхад з партыі

Напрыканцы 1989 года падаю заяву аб выхадзе з камуністычнай партыі. Ейным чальцом я прабыў усяго нейкія тры гады.

Даведаўшыся пра гэта, Валянцін Болтач доўга адгаворвае ад "такога непрадуманага ўчынку". І яго можна зразумець. Сам Болтач прыйшоў у "Вожык" з пасады загадчыка сектара ЦК КПБ, дый я, як рэдактар аддзела рэспубліканскага часопіса, — "цэкоўская наменклатура". Так што магчымы вялікі скандал. Дасюль з партыі добраахвотна амаль ніхто не выходзіў, а Барыс Ельцын "кіне на стол" свой партыйны білет нашмат пазней.

Імкненне выйсці з партыі выглядала яшчэй болей дзіўным, калі ўлічыць, з якімі вялікімі патугамі мне ўдалося ў яе ўступіць.

У Старых Дарогах такога шанцу не было. Існавала разнарадка на прыём у партыю: адзін інтэлігент — тры рабочыя ці калгаснікі. Натуральна, мала каму з сялян карцела стаць "парцейным" дый яшчэ плаціць са свайго нягеглага заробку ўзносы.

У Гомелі па гэтай жа прычыне таксама нічога не "свяціла", аднак я здолеў стаць, як сказаў рэдактар Лазько, "адным з лепшых пёраў газеты", і яму, Лазько, дужа хацелася, каб я застаўся ў рэдакцыі назаўжды. Для гэтага мяне трэба было заахвоціць — прызначыць хаця б загадчыкам ад-

дзела (калі прыйдзе запрашэнне са “Звязды”, Лазько нават прапануе стаць ягоным намеснікам). Аднак жа загадчыкам аддзела абласной газеты нельга было прызначыць беспартыйнага, хай сабе і таленавітага, журналіста. Таму Лазько і паспрыяў, каб мяне прынялі кандыдатам у партыю.

А ейным чальцом стаў ужо ў “Звяздзе”. У гэтай газеце беспартыйнымі былі хіба што карэктары.

Для чаго большасць з нас пішчом лезла ў партыю, калі ўступіць у яе было яшчэ цяжэй, чым у таварыства паляўнічых і рыбаловаў? Магчыма, хто-ніхто і сапраўды верыў у камуністычныя ідэалы, а я, шчыра прызнацца, “верным ленінцам” сябе не лічыў. Аднак жа дзявацца не было куды: не станеш партыйным — так і згніеш карэспандэнтам абласной газеты (самае большае).

Дык чаму ж я гэтак смела падаў заяву аб выхадзе з партыі? Усё проста: адначасна я паклаў на стол галоўнага рэдактара “Вожыка” і другую заяву — на звальненне. Мяне запрасіла на працу Савецкая асацыяцыя дэтэктыўнага і палітычнага рамана, якую ўзначальваў знакаміты пісьменнік Юліян Сямёнаў. Мне належыла стаць шэф-рэдактарам Мінскай штаб-кватэры. І для гэтага быць камуністам не абавязкова.

Аднак жа як ні круці, мае адносіны з партыяй можна лічыць крывадушнымі: мелася пільная патрэба — уступіў у яе, няма болей ад партыі ніякай карысці — ну дык і гуд бай. Адно толькі і апраўдвае: сама сістэма вымагала крывадушнічаць...

## Чаго болей?

Вечарына ў кватэры Барыса Сачанкі (Пятровіча) не проста сяброўская — часам яна нагадвае сходку бальшавікоў ва ўмовах падполля. Прыехалі Алег Мінкін, Вінцэсь Мудроў, Анатоль Казлоў... І, натуральна, прысутнічае наша беларускамоўная “троіца” з “Гомельскай праўды”. Барысава жонка Люда і абранніца Сяргея Дубаўца Таня (цудоўная паэтка Тацяна Сапач, якая, на жаль, нядаўна трагічна загінула) — паўнавартасныя ўдзельніцы дыскусіі, якая раз-пораз успыхвае паміж згадкамі пра колішняе жыццё-быццё і нешматслоўнымі тостамі. Як і зазвычай для маладых максімалістаў, калом стаіць галоўнае пытанне: што менавіта мы можам зрабіць для адраджэння беларускасці? Прапановы самыя розныя — ажно да правядзення палітычных акцый. Усе сыходзяцца ў адным: сядзець склаўшы рукі нельга ніяк. І толькі я далдоню сваё:

— Нам дастаткова пісаць высокамастацкія творы. Людзі захочуць іх пачытаць і тым самым прыахвоцяцца да беларускай мовы.

Мінкін злуе:

— Ды напішы ты хоць шэдэўр, але, калі ён па-беларуску, масавы чытач яго ў рукі не возьме!

І сапраўды, хіба ж не шэдэўры стварылі Купала, Колас, Быкаў, Караткевіч? Аднак жа не скажаш, што па іхнія творы ў крамах ці бібліятэках выстройваецца чарга. Але я па-ранейшаму стаю на сваім:

— Трэба пісаць высокамастацкія творы...

Да гэтага часу не магу зразумець, чаго болей было тады ў маёй душы: шчырага перакanання ў тым, што кажу, ці звычайнай боязі за свой лёс, за кар’еру і дабрабыт?..

## У кожнага свой крыж

Уладзімір Някляеў тэлефануе мне тройчы — просіць сустрэчы. А ў мяне ўсё неяк не выпадае, не хачу адрывацца ад рукапісу, бо, як кажуць, паперла. Я чамусьці не задумваюся, што ў самога Някляева на ўліку кожная хвіліна, бо ён узначальвае кампанію “Гавары праўду”. Ходзяць пагалоскі, што збіраецца стаць кандыдатам у прэзідэнты і змушаны з ранку да вечара сустракацца з людзьмі.

Някляеў хоча падарыць мне сваю кнігу з “залатой серыі” выдавецтва “Беларускі кнігазбор”. Проста я паспрыяў, каб яна выйшла ў свет. Калі мы з Кастусём Цвіркам і Генадзем Вінярскім абмяркоўвалі, кнігі якіх аўтараў я прафінансую, паставіў адну ўмову:

— Дам грошы толькі тады, калі ў гэтай “залатой серыі” да канца года будуць выдадзены творы Някляева.

Дасюль з Валодзем мы амаль не былі знаёмыя. Калісь ён, працуючы літкансультантам у газеце “Знамя юности”, дасылаў адказы на мае каструбаватыя школьныя вершы, а затым, калі я ўжо стала ўзбіўся на свой хлеб, нашыя шляхі пару разоў перасякліся ў кавярні Дома літаратара. І ўсё. Так што ніякае “пачуццё сяброўства” мною не рухала. Проста паэзія Някляева суладна клалася (і кладзецца!) на хвалі маёй душы. Такое ўражанне, што іх напісаў я сам...

У бліжэйшых планах выдавецтва кнігі Някляева не было. Аднак Цвірка і Вінярскі пагадзіліся.

Валодзя неяк даведаўся пра мой “ультыматум”, і вось, удзячны, хоча падарыць асобнік з аўтографам.

Пры сустрэчы ў рэдакцыі маёй газеты размова, натуральна, заходзіць і пра магчымы ўдзел Някляева ў выбарах. Я даводжу, што рабіць гэта не варта:

— Лепей бы ты, як і раней, пісаў цудоўныя вершы. Каго б ні выбралі насамрэч, хто будзе прэзідэнтам, ужо прадвызначана...

— Не ўсё так песімістычна... — коратка і шматзначна адказвае Валодзя, не расшыфроўваючы, аднак, на чым грунтуецца ягоны аптымізм.

Зноў пераконваю, што ў сённяшняй сітуацыі разлічваць на перамогу, на нейкія змены — усё адно што біцца галавою аб сцяну, якую, і ты гэта ведаеш, прабіць не ўдасца.

— Трэба ж некаму пачынаць... — ціха, але са сталёваю цвёрдасцю ў голасе адказвае Някляеў.

Калі ўжо праводжу Валодзю да ліфта, выстаўляю апошні аргумент:

— Усё гэта закончыцца тым, што трапіш за краты... Можна было б, вядома, і адсядзець, калі б ты быў, як дуб...

Маю на ўвазе, вядома ж, моцнае здароўе, але Валодзя са смехам зрывае з майго языка недаказаную фразу:

— Ага, як дуб. Такі ж дубаваты...

І мы смяемся разам.

А што было 19 снежня і пасля, пераказваць не трэба...

Пішу гэтыя радкі на наступны дзень пасля Вялікадня. У памяці яшчэ аддаюцца рэхам царкоўныя званы, яшчэ не заціхлі ў душы згадкі пра ахвяру Хрыстову. Каму Ён, Збавіцель, прынёс гэтую ахвяру? Д’яблу, каб не спакушаў нас на грахі? Ды глупства! Не будзе Гасподзь прыніжацца перад сатаной. А можа, Бог запатрабаваў, каб Хрыстос, які ўвасобіўся ў

чалавека, пайшоў на крыж, зведаў неймаверныя мукі? Таксама бязглуздзіца. Ці ж патрэбная бацьку кроў і пакуты ўласнага сына? Хрыстос прынёс сваю ахвяру нам, людзям!

Калісьці біблейскі Адам і ягоная спадарожніца Ева здзейснілі першародны грэх, палічылі сябе роўнымі Богу, за што і былі пакараныя Госпадам. Яны сталі смяротнымі, тленнымі і пакутнымі. Хрыстос, стаўшы паўнавартасным чалавекам і адначасна захаваўшы ў сабе Боскі пачатак, спазнаў пакуты і смерць, а затым уваскрос, "смертию смерть поправ". Ён стаў бессмяротным і нятленным. Здавалася б, якая карысць чалавецтву ад ахвяры Хрыста, чаму Яго называюць Збавіцелем? Гэта ж толькі Ён бессмяротны і нятленны, а мы ўсе па-ранейшаму пакутуем, паміраем і гніём у сырой зямельцы. А справа ў тым, што Хрыстос праз сваё праведнае жыццё, праз свае пакуты выратаваў самога сябе і тым самым паказаў нам, людзям, шлях да выратавання...

Аналогія, якую я хачу прывесці, некаму можа здацца наіўнай, надуманай і нават блюзнерскай, кашчуннай. Але не спяшайцеся з кпінамі.

Не сумняваюся: Уладзімір Някляеў, ідучы на прэзідэнцкія выбары, безумоўна, у душы здагадваўся, чым можа скончыцца ягоная спроба. Тым не менш ступіў на гэты шлях ("Трэба ж некаму пачынаць..."), абраў для сябе пакутны лёс. Каму ён прынёс сваю ахвяру? Уладзе, дзейнаму прэзідэнту? Ага, хаця б не так... Ён ахвяраваў сваё здароўе і волю нам, беларусам. Ён паказаў нам шлях, які вядзе да выратавання.

Кожны з нас — часцінка Бога. І ўсе мы — Ягоныя дзеці. Таму кожнага чакае і свой крыж, і свая Галгофа...

## Дзве чаргі

Падрыхтаваўшы для асацыяцыі шэсць нумароў газеты "Детектив" і зарабіўшы для яе кучу грошай, вырашаю заснаваць уласнае выданне — "Частный детектив". Помачы ад асацыяцыі ўсё роўна аніякай, а працаваць "на дзядзьку" не надта хочацца.

У Беларусі пакуль што няма недзяржаўных газет (хіба, можа, толькі "Свабода", якую выдае Павел Жук), таму "Частный детектив" ідзе наўзахоп. Наклад дасягае паўмільёна асобнікаў, і нават болей. Газета распаўсюджваецца ледзь на ва ўсіх краінах Савецкага Саюза. Прапановы тыражаваць яе паступаюць з Ізраіля, Польшчы, Даніі, Германіі... Але навошта мне лішнія клопаты? Грошай і так няма куды дзяваць. Цяжка ўявіць, але кашальком для мяне сапраўды служыць чамадан. У аперацыйную залу супрацоўнікі банка вывозяць грошы ў цялежках, мы перагружаем іх у багажнікі, наняўшы таксі...

(З часам такая лафа скончыцца: з'явяцца канкурэнты, чытачы "наядуцца" крыміналам. Восемдзесят адсоткаў прыбытку ўкрадуць мае нячыстыя на руку партнёры, дзесяць я раздам, і столькі ж застанецца мне...).

А пакуль што я хаджу ў метро, каб пацешыць сваё самалюбства, паназіраць, як да століка, з якога прадаецца "Частный детектив", выстройваецца чарга-вужака (ці будзе яшчэ калі-небудзь такое: чарга — па газету?).

Нацешыўшыся, еду дамоў. Выходжу з тралейбуса і каля ўніверсама "Серабранка" таксама бачу чаргу, якая ўтыкаецца не ў галоўныя дзверы, а ў бакавыя — там прадаюцца спіртныя напоі. Нехта падказвае, што сюды прывезлі піва.

На той час усе тавары першай неабходнасці — цукар, мука, малако, мяса, гарэлка, — прадаюцца людзям па талонах. Піва чамусьці "таварам першай неабходнасці" не лічыцца. Яно у вольным продажы. Лёгка сказаць — "у вольным". А паспрабуй купі...

За дзень вельмі сасмяг (дый люблю піва ўвогуле), таму вырашаю адстаяць у гэтай чарзе, каб атрымаць свае "дзве пляшкі ў адны рукі".

Рухаюся да акенца, з якога раз-пораз вынырваюць пляшкі, больш за гадзіну. Бліжэй да акенца чарга (у ёй, вядома ж, адны мужыкі-рабацягі) нагадвае маналіт. Людзі спрэсаваныя адзін да аднаго так, што палец не праткнуць. Цяжка дыхаць: спераду і ззаду падціснуты суседзямі, як жалезабетоннымі плітамі.

Да запаветнага акенца застаецца якіх паўметра, я ўжо ў прадчуванні блізкага шчасця. І тут нехта галёкае, што піва канчаецца, на ўсіх не хопіць. Чарга пачынае хвалявацца, варушыцца, выгінацца, і — во дзе гора! — "выплёўвае" мяне і яшчэ дваіх гэткіх жа бедакоў. Няма чаго і думаць, каб зноў уклініцца ў гэты маналіт. Застаецца толькі ў роспачы скрыгатнуць зубамі...

Ну і навошта мне той "кашалёк-чамадан"?

## Папка

Кавярня Дома літаратара завалоканая дымам ад цыгарэт і напоўненая галасамі разнамасных творцаў. Да століка, за якім я з сябрамі нетаропка "пацягваю вінцо", нетрывалаю хадою падыходзіць Анатоль Сыс і плюхае на столік пульхную светла-шэрую папку.

— Усеня, ты павінен выдаць маю кнігу, — безапеляцыйна кажа ён, разварочваецца і ідзе да іншай гурмы.

Ашаломлены, я спачатку, як рыбіна, моўчкі разяўляю рот, затым кідаюся за Сысам, спрабую ўсунуць папку ў ягоныя рукі:

— Забяры!

— Не-не! — адпіхваецца ён і спрабуе аддаліцца ад мяне як мага.

— Забяры, кажу!

Тады Сыс увогуле кіруецца да выхаду з кавярні, і ягоная постаць знікае за дзвярыма. Папка застаецца ў маіх руках. Я вяртаюся на сваё месца, кладу папку на стол і не ведаю, што з ёю рабіць...

З Анатолем Сысам я знаёмы з часін, калі працаваў у "Гомельскай праўдзе", а ён, здаецца, толькі-толькі адслужыў у войску і быў на раздарожжы. Часцяком заходзіў у сакратарыят да Сяргея Дубаўца, і мы, бывала, утрох выходзілі ў ціхі рэдакцыйны дворык, каб перакурыць. Тады яшчэ Сыса мала хто ведаў, дый ягоныя вершы пакуль што не лічыліся геніяльнымі, таму Дубавец пад час гэтых перакураў рабіў Анатолю такія-сякія заўвагі, выказваў сваю думку. Аднаго разу "тры капейкі" ўставіў і я. Прычым не зусім хвалебныя.

— А хто ты такі, каб мяне папраўляць? — з пагардай "узвіўся" Сыс. — Што ты ўвогуле разумееш у паэзіі?

— Ды нешта ж, мусіць, разумею... — толькі і адказаў я, перакінуўшыся позіркамі з Дубаўцом.

Сяргей, вядома ж, ведаў пра мае творчыя патугі і нават іх ухваляў. Сыс жа і не здагадваўся, што я таксама пішу вершы.

Праз некалькі тыдняў, калі Сыс зноў завітаў да Дубаўца, у Сяргея на стале ляжаў адбітак літаратурнай паласы, якую толькі што прынеслі з друкарні.

— На, во, пачытай, — прапанаваў Дубавец Сысу і паказаў пальцам на два вершы. — Файна напісана, ці не праўда?

Сыс без энтузіязму прабег вачыма па радках:

Ніхто не лез. Гарэлі кроквы —
І позна кідацца ў агонь.
А ён зрабіў рашуча крокі,
І ўсе глядзелі на яго.

І крыкі:
— Газ!
І побач хаты
Тулілі плечы да зямлі...
І да грудзей, нібы дзіцятка,
Балон гарачы ён туліў.

І асцярожна нёс наводшыб,
Нібы яшчэ рвануць магло.
І нехта вымавіў:
— Навошта?
Балон пусты.
Пусты балон...

Толькі прачытаўшы гэты верш, Анатоль глянуў на прозвішча аўтара. Затым перавёў позірк на мяне і... нічога не сказаў. А я, вядома ж, чакаў ад яго пахвальбы, таму нават злёгку пакрыўдзіўся на гэтую, як мне здалося, абыякавасць. Толькі пазней, спазнаўшы Сыса глыбей, пазнаёміўшыся з ягонымі сябрамі-паэтамі, зразумею: добра ўжо і тое, што вершы Сыс увогуле не зганьбіў. Рэзкі, катэгарычны, безапеляцыйны, ён мог “змяшаць з гразёю” любога, гледзячы яму ў вочы...

“Дык што ж рабіць з папкаю Сыса?” — няўцямна думаю я.

Пакінуць яе тут жа, на стале? Дык немаведама хто яе падбярэ. Магчыма, што і прыбіральшчыца, якая выкіне папку ў сметніцу. Аддаць каму-небудзь з заўсёднікаў кавярні, каб ён ўсё-ткі перадаў яе Сысу (сам я бываю тут гады ў рады)? Але ў зале ўжо амаль нікога не засталося.

У рэшце рэшт падыходжу да прадаўшчыцы кавярні, працягваю ёй папку і прашу, каб пры выпадку яна вярнула рукапіс гаспадару. Прадаўшчыца ўсміхаецца:

— Заўтра ж і аддам. Сыс адсюль, лічы, не вылазіць...

Кніга Анатоля Сыса, вядома ж, неўзабаве выйдзе ў свет, хоць і без майго ўдзелу. І будзе мець поспех.

Чаму ж я гэтак адпіхваўся ад рукапісу? Прычыны розныя, і дасюль мне самому дакладна няўцям, якая з іх галоўная. Тады Сыс, як і некаторыя іншыя маладыя літаратары, лічыўся таленавітым, і толькі пасля смерці яго пачнуць называць геніяльным. Да таго ж, Анатоль меў скандальную рэпутацыю (чаго вартая місачка баршчу, якую ён прынёс Максіму Танку, калі той сядзеў у прэзідыуме). Ужо на той час Сыс шмат піў і, трэба прызнаць, часам выглядаў як бадзяжка.

А можа, мною кіраваў чыста меркантыльны інтарэс? Ніякай узаемнай прыязнасці паміж намі не было. Здароўкаліся — і не болей. Дык якога ляду я павінен ахвяраваць грошы не надта блізкаму мне чалавеку?

Не ведаю, не магу разабрацца, што ўсё ж было галоўным...

## "Сціхі" Быкава

Калі кіраўнік нашае дзяржавы публічна прызнаўся, што некалі ён з задавальненнем чытаў "сціхі" Васіля Быкава, гэта выклікала шквал насмешак і здзекаў. З прэзідэнта не кпіў толькі лянівы. А я ўспрымаў тыя насмешкі трохі і на свой адрас...

Я яшчэ студэнт. Журналістка рэспубліканскага радыё бярэ ў мяне інтэрв'ю — як у маладога паэта. Для "ажыўляжу" яна просіць прачытаць які-небудзь верш, хоць бы самы апошні. Напярэдадні якраз і напісаўся верш "Сон". Чытаю яго:

Сорак памятны год.
Трывожна.
Дымна.
Трэск саламяных стрэх.
Неба. Сонца. Зямля.
Прыгожа.
І мяне вядуць на расстрэл.

Вось і ўсё.
І ва ўпор — аўтаматы.
Я стаю на апошняй мяжы.
Ах, як хораша пахне мятай!
Ах, як хочацца,
Хочацца жыць!

Хто прымусіць застыць імгненні?
Дзе мне мужнасці ўзяць і сіл?
Перад імі
Я стаў на калені,
Стаў я літасці ў іх прасіць...

Як жа раніцу я сустрэну?
Як з людзьмі сустракацца мне?
Ну чаму,
Ну чаму ж і стрэлу
Не паспеў я пачуць
У сне?..

Журналістка пасля кароткай паўзы цікавіцца:

— І хто ж ваш любімы паэт?

— Васіль Быкаў, — адказваю я без запінкі і нічога больш не тлумачу.

У журналісткі лезуць на лоб вочы...

Праз паўтара дзясяткі гадоў я назаву Быкава паэтам і пры размове з Сяргеем Дубаўцом. Нечакана для мяне ён пагодзіцца:

— Слушна кажаш. Я з табою згодзен.

Паэзія — гэта не толькі "кветачкі і матылёчкі", асацыяцыі і тропы пра каханне і нянавісць. Паэзія — гэта ў першую чаргу душа. І найбольш яна "працуе" ў трагічных, псіхалагічна цяжкіх сітуацыях, калі чалавеку патрэбна зрабіць пэўны выбар. Таму хоць і не пісаў Васіль Быкаў "сціхі" ў традыцыйным сэнсе, але паэтам ён усё ж быў...

*(Заканчэнне будзе)*



## Стас Ільін



*...а ці гэта самае простае выйсце,*
*ці ёсць яшчэ прасцейшае?*
*Што я раблю? Прасцей, прасцей,*
*успрымай усё як мага прасцей......*

# Off

***Апавяданне***

У амерыканцаў усё проста. Прычым ва ўсім. Ад малога да вялікага. Чым прасцей, тым лягчэй жыць... Не трэба ніякіх асацыяцый, патаемнага сэнсу, нагрувашчвання лішняй інфармацыі. Навошта доўгія назвы, якія цяжка запамінаюцца? Як бачу, так называю. У гэтым і ёсць здаровы сэнс.

А некаторым рэчам, напрыклад вуліцам, зусім не варта даваць назву. Калі я гуляю па роднаму гораду, паставіўшы канкрэтную задачу – ні пра што не думаць, мае вочы ўсё роўна чапляюцца за месцы, дзе адбываліся вялікія гістарычныя падзеі, за імёны нацыянальных герояў, палкаводцаў, філосафаў, вучоных, якія імкнуцца незаўважна пралезці мне ў галаву і там застаюцца...

Але ж ёсць такая цудоўная рэч, як лічбы. Лічбаў хапае на ўсе вуліцы, каб іх палічыць.

– Ты дзе жывеш? – Я на дваццаць першай, а ты? – А

я на скрыжаванні сто дваццатай і трэцяй, – вось і ўсё! І ніводная звіліна не задрыжэла. Так усё прадумана, што зусім не думаючы, ты называеш рэчы канкрэтнымі імёнамі.

Ёсць у доме пакой, у якім зранку халодная вада абдае цябе бадзёрасцю на ўвесь працоўны дзень, а ўвечары цёплая вада змывае з цябе стому і клопаты дня, які прамінуў, – пакой гэты так і называй bathroom (ванны пакой). Ручніком абкруціўся, вылез з ванны, а на падлозе – пылу! І спатрэбіцца нейкая пасудзіна, нейкая міска ці бляшанка, каб гэты пыл сабраць і выкінуць, пакуль ён не праглынуў твой бадзёры, адмыты халоднай вадою, настрой. У кутку і стаіць гэтая пасудзіна. Хапаем, акуратна ўсё туды змятаем, і назва сама сабой прыходзіць – dustpan (савок). І крэкчаш ад захаплення, растапырыўшы пальцы, шлэпаеш па чыстай падлозе, як задаволены качар.

А як прыемна глянуць на кухню! У каго гэта ўчора перад сном было маўклівае змаганне з лянотаю? Але ўвесь посуд перамыты, кожны прадмет стаіць на сваім месцы. Асцярожна прашчупваючы мясцовасць, святло крадзецца тонкімі доўгімі палоскамі праз пластыкавыя шчыткі, што прыглушаюць сонца, у назву якіх далікатныя еўрапейцы спрабавалі замаскаваць кемлівых і раўнівых усходніх мужчын, ды на радзіме папкорна і кока-колы гэта называецца выразна і ясна – sun blinds (жалюзі). Імгненна гэтыя шчыткі са свістам скачуць уверх, і сонца шугае ў адзінае, вялізнае акно і раліваецца па кухні, і пачынае ганяць зайчыка па люстранай паверхні нажоў, якія сціпла гайдаюцца на сваіх кручках. І як у такі ранак не закруціць якога круцяля(завітушку?) да гарбаты? Ды самому яго не спячы! Тым больш, пасля ўчарашняй вячэры засталося замяшанае цеста ад пяльменяў!

Праўда, гэта крыху не зусім тое, што трэба. А лянота ў апошні час маю памяць заганяе ў хамут. А мая памяць пад цяжарам хамута ўзяла ды і выкінула ў сметнік усе рэцэпты. Але каго я тут ваджу за нос, мая памяць зроду тых рэцэптаў не мела... Але ж дзень пачынаецца так прыгожа... Калі з сур'ёзнымі лінгвістычнымі працэсамі так усё проста, то ў кулінарным рамястве не можа быць праблемаў. Схема тая самая. Пачынаем эксперымент. Патрэбны драўляны прадаўгаваты прадмет, падобны да кеглі, каб раскатаць цеста. А вось і ён, схаваўся ад сонца за бліскучымі нажамі, што ганяюць вырай сонечных зайчыкаў па сцяне. І назва выгравіравана майстрам на ручцы... Зараз праверым. Rolling pin (каталка). Я так і ведаў. Думаць не трэба, імя само знайшло свайго спадара. Пасыпаем рукі мукою, адразаем бясформенныя кавалкі цеста, лепім некалькі пухлых снежкаў. І так усё проста, а ў амерыканцаў яшчэ прасцей: снег+шар=snowball, і навошта прыдумваць новыя лішнія словы?

Нашай каталкай-кегляй раскатваем гэтыя ляпёшкі ў плоскія блінцы, болей авальныя, чым круглыя. Разумеючы, што нічога добрага цяпер яе не чакае, духоўка ўсхліпнула і так расхвалявалася, што ў адно імгненне тэмпература ў ёй падскочыла да трохсот градусаў.

У начынне пойдуць тварог і два адзінокія фрукты, што аж пакрыліся цёмнымі пролежнямі ад часу...

Не, ну чаму дзень пачынаецца без усялякай прычыны так цудоўна?! Нічога не змянілася навокал, ды і ў жыцці таксама, а нібы нацягнулі на вочы нейкія ружовыя лінзы, а яны ўсё замазваюць і загладжваюць. І здаецца мне, што ў такія хвіліны якраз і нараджаюцца геніяльныя ідэі.

Гэтак трыццаць гадоў таму назад на радзіме салодкагалосага панк-рока ў бесклапотнай Каліфорніі пачынаўся цалкам пазітыўны ранак. Хлопец майго ўзросту, не падстрыжаны і няголены, пасвістваючы, выйшаў з душа, марудна нацягнуў на голае цела любімую і страшэнна модную ў постбітнікаўскую эпоху чорную вадалазку, і так яму стала добра... На што ні гляне, усё цешыць вочы. У кватэры не павярнуцца, маленькая кухня, мэбля – стол, крэсла ды шафа. Ну і што? Затое нічога лішняга, усё проста, і таму думкі чыстыя, выразныя і ясныя... І так яму раптам зажадалася яблычнага мафіна. Менавіта мафіна, і менавіта яблычнага. Ніколі ён гэтага не рабіў, але думка спячы гэтыя амерыканізіраваныя кексы дома падалася прасцейшай, чым штодзённы ранішні выхад у бейкер італьянскай пампушкі цёткі Біёнды, што на рагу праз два блокі ад дому. Рукі машынальна лепяць цеста, а ў думках дэталёва і старанна лепіцца персанальны кампутар, адзін з першых у свеце. Паступова рукі пачынаюць адставаць ад думак, якія набіраюць усё большыя абароты, не могуць спыніцца, імкнуць ды імкнуць...

У выніку ў галаве проста непраходнае барока, наш герой шпурляе цеста ўбок, абапёршыся аб стол, спрабуе разабрацца, што зляпілася ў яго думках. Захоплены цалкам гэтым працэсам, не заўважае, што рукі замест таго, каб дробна наразаць і мяшаць з цестам пацямнелы фрукт, нечакана хапаюць яго і цягнуць у рот. І вось, калі будучы мільярдэр бездапаможна грызе любімы ласунак пакемона Пікачу, а з ім і начынне свайго жаданага мафіна, у той жа момант уся ляпніна ў галаве імгненна крышыцца, – вобраз пагрызеных фруктаў і падказвае галаве самы запамінальны сваёй прастатой лагатып, назву брэнда і, адрозную ад іншых, экалагічна чыстую стратэгію гэтага брэнда. Адна секунда – і ўсё. Свет у цябе пад нагамі. І ўсё спантанна. Гэткае не заплануеш. Якія прычыны? Ніякіх. Але можна, вядома, здагадацца, па якой прычыне хлопец у канцы сямідзясятых, ды тым больш у Каліфорніі, дзе яшчэ не прайшла аскома ад эпохі "дзяцей кветак", зажадаў "спячы смакаты" з гэткай жа лагоднай, сяброўскай і ўсмешлівай лінзай на вачах...

А які ж гэта андалузскі сабака рэжа мае вочы нябачнымі брытвамі? Ух, аж слёзы пацяклі! Усе спецыі высыпаліся са сваіх банак і пакецікаў, і атрымалася надта даўкая сумесь. Гэтая нават мацнейшая, чым "спецыі", якімі прасвятлялі свядомасць, калі хіпі рабілі эксперыменты ў пачатку шасцідзясятых. Калі ўчора прыбіраў гэтую паліцу, мае ўнутраныя рэзервы скончыліся, і наступіў імгненна глыбокі, як у дзяцінстве, сон. А вось яны, кучкуюцца ў кутку – вінаватыя ў маіх зімовых няўдачных спробах зрабіць глінтвейн: гваздзік, кардамон, карыца, мускатны арэх, ваніль, молаты імбір. Калі б тады гэтая матуля-лянота не толькі маю памяць, а ўсяго мяне добра адлупцавала, я толькі сказаў бы ёй дзякуй, а то бегаў увесь выходны па нейкіх кітайскіх лаўках, вышукваў усе неабходныя мне ў тыя хвіліны складнікі непаўторнага глінтвейна. Ну, што тут скажаш?! Тады ў мяне быў абсалютна супрацьлеглы перыяд жыцця. Я быў захоплены складанасцямі свету. Ва ўсім: у кіно, у музыцы, у той жа кулінарыі, у працы. Чым больш дэфектыўнай, заблытанай і незразумелай была кіношная мова, тым больш таленавітым мне здаваўся фільм, а калі рэцэпт стравы меў усяго тры-чатыры складнікі, то мяне і не цікавіў. Вось чаму, нават у звычайную яечню я тады мог напіхаць усе спецыі, якія сёння знайшоў на паліцы...

Ды з сённяшняга ранку з гэтым скончана назаўжды. І круцялі мае стануць прыкладам, эталонам мінімалізму і прастаты. Так што, нягледзячы на такі шырокі выбар, абмяжуемся шчупцем карыцы для смаку, і далей, малышня, з вамі, няхай няньчыцца агнядышная пашча маёй сентыментальнай духоўкі.

Тут пачынаецца непрыемны працэс, які мяне раздражняе сваёй пустатой, калі ўжо ад цябе нічога не трэба, замірай у рэжыме чакання, паглядай, як сам час скончыць пачатае табой. Аж няёмка ад таго, што ты тут лішні, непатрэбны.

Дома-та яшчэ можна знайсці, што рабіць. А вось, калі стаіш на аўтобусным прыпынку ў чарзе ці проста сустракаеш некага, і гэты нехта спазняецца, як заўсёды, а ты стаіш, як пень, на адным месцы, праз зубы цэдзячы пачутае ў савецкім кіно: "Вот, не люблю я такіх людзей непунктуальных..." Гэта проста невыносна. Рукі не ведаюць, куды сябе падзець, а ногі так і топчуць адна другую... Так што, мне сягоння пашанцавала, я магу гэты час патраціць на разборку простых словаў і паназіраць з акна, як сонныя суседзі завальваюцца спехам у свае прасторныя аўто і мчацца на працу. Страх! Амаль усе яшчэ дома і не збіраюцца выходзіць, калі лічыць па машынах.

Толькі мясцовая бабуля "Божы дзьмухавец" з дому насупраць прачнулася, з добрай усмешкай чарадзейнічае ў вакне каля сваіх ад нябеснага промня дзяцей, што растуць у паласатых гаршочках. Тут усё ясна. Такую ласку і цеплыню, калі над кожным тваім лістком дрыжаць цёплыя рукі гаспадыні, можа мець толькі "нябесны квет" sky-flower. Няхай усе інстытуты садаводства і агародніцтва даказваюць нашай мілай спадарыні, што яе квет, якому яна аддае вольны час, – а яе час увесь святочны! – нібы яе квет называецца такім брыдкім словам "дурында"... Хіба яна паверыць? Усміхнецца і скажа так: "Ну, мілыя, ну, якая дурында? Самі вы – дурынды! Вы толькі паглядзіце на гэтых малых: ці ж яны не цуд?" І нельга ёй пярэчыць?

Нарэшце пачаўся тупат з вібраэфектам скрыпучай падлогі ў маёй кухні. Дзіцячы садок прачнуўся! Праз дзве-тры хвіліны на сцэне паркоўкі, абмежаванай відам з акна, паявіцца вялізная лацінская жанчына і будзе важка ўсаджвацца ў свой мініяцюрны "Нісан". Гэта новая "гёрлфрэнд" чарнаскурага паліцэйскага Крыса Вэба, суседа з першага паверху. Як жанчына яна нічога сабой не ўяўляе. Купляючы кожны ранак у яе каву, я ніколі яе не заўважаў. І ў першыя дні, калі яна з'явілася ў нашым доме, ніяк не мог успомніць, дзе яе бачыў. Ды нешта ж у ёй такое ёсць! Ніяк не магу зразумець – што? Але ж змагла яна ў рэкордны тэрмін, менш, чым за месяц, апрацаваць нашага паліцэйскага, зусім не прастачка, каб у канцы месяца паўнапраўна гаспадарыць у яго апартаментах, якія займаюць увесь першы паверх, са сваімі чатырма дзецьмі, якія шуму спраўляюць болей, чым любы дзіцячы сад, ды яшчэ з нейкімі сваякамі... Калі б там, дома, наша міліцыя мела такія нервы і цярпенне, цаны ёй не было б!

Сцэна зноў пустая. Толькі з газона чуваць стрыкатанне кузуркаў у траве... Як іх тут называюць? Травяныя скакуны? Так, дзе мой родны кішанковы Колінз? Ну, калі і тут простае траплянне, то варта задумацца, які сэнс пяць гадоў ва ўніверы вывучаць ангельскую мову. Grasshopper (травяны конік). Ну, я так не гуляю! Прымітывізм кіруе гэтым светам. Але нехта ўжо не

стрыкоча, а канкрэтна лупіць чаргой на ўвесь раён. Што яшчэ за дзяцел зранку аб'явіўся? Ды гэта бразільцы на суседняй вуліцы лупяць страху. Дарэчы, а як у нас з дзятлам? Гэта я з дзіцячага мультфільму памятаю. Woodpecker (дзяўбаць дрэва). Ды бываюць жа дзятлы розных відаў.

Як яны тут выкруціліся? Пашукаем у інтэрнэце якога-небудзь самабытнага дзятла. Напрыклад, залаты шыладзюбы. Глядзім у слоўніку – yellowhammer (жоўты малаток). А гэта ўжо цікава. Сумесь дзіцячага гумару ды асацыятыўнага шэрагу. Але – стоп! Аўсянку таксама жоўтым малатком называюць. Яе за што? Толькі з-за падабенства па афарбоўцы? Ну, можа і так... Чорт! З пахам зусім нядобрая асацыяцыя. Няўжо падгарэлі?

Эх, духоўка раззлавалася не на жарты. І чаго ты так, сяброўка, раз'юшылася?

Добра, што пашкадавала некалькі ражкоў. Якраз хопіць мне да гарбаты. Так што, навошта псаваць нервы. Як кажуць у нас дома, махнуўшы раўнадушна рукой: "Драбяза!" А тут з усіх бакоў льецца шматгалосае "Take it e-e-e-asy!" Часам узнікае такое дзіўнае ўражанне, што галоўная, можна сказаць, нават фундаментальная жыццёвая функцыя амерыканцаў – хадзіць па горадзе, усміхацца кожнаму сустрэчнаму і як мага больш расцягнута і меладычна гаварыць "Take it easy!" Гэтымі лінгвістычнымі ўстаноўкамі яны быццам адшэптваюць адзін другога ад складанасцей. У гэтым ёсць пэўная магія, нешта падобнае да ахоўнага абярэгу. Чалавек чуе гэта штодзень па некалькі разоў ад кожнага сустрэчнага, праз нейкі час ловіць сябе на думцы, што пра сябе няўцямна паўтарае: "Так, стоп, а ці гэта самае простае выйсце, ці ёсць яшчэ прасцейшае? Што я раблю? Прасцей, прасцей, успрымай усё як мага прасцей..."

Зранку, выходзячы з дому, што б ні здарылася, усе, нібы акторы старажытнага грэцкага тэатру, нацягваюць маскі крывадушша на твары і ідуць на працу. Увесь дзень маскі круцяцца ў шалёным карагодзе, спяваюць адна другой "Take it e-e-e-asy!" У канцы дня ўсе зноў запіраюць сталёвыя дзверы на замкі і ўжо дома, калі цябе ніхто не бачыць, маскі акуратна здымаюцца з твару, плюхаюцца з бутылкай піва на канапу перад тэлікам і дазваляюць сабе ўсіх дзіка ненавідзець.

Гэтае салодкае крывадушша створана тут выключна дзеля прастаты і спакою ўспрыняцця свету. Навошта мне ведаць, што пра мяне думае, ці якія эмоцыі я выклікаю ў прадавачкі ў краме ці ў служачага банку, што афармляе мой чэк, або ў інтэрв'юера пры ўладкаванні на працу? Усміхаецца, і ладна. Мне ж з ім у выведку не хадзіць. Многія кажуць звычайна: "Гэта, вядома, зразумела. Але ж выразна відаць, што ўсмешка штучная, што на справе яна цябе цярпець не можа, а ўсміхаецца. Ды лепш бы ты плюнула ў морду, чым гэтай гумовай усмешкай свідруеш маю душу..."

Вось тут якраз глабальная памылка. Якая да чорта душа? Не трэба на іх глядзець, як на людзей, у якіх ёсць сям'я, турботы, надзеі, эмоцыі, тым больш такая неканкрэтная субстанцыя, як душа. Гэта проста лялькі. Прыгожыя лялькі, створаныя для працы, яны якасна робяць частку працы, таксама некім прафесійна запраграмаваную. З такім падыходам у чалавека з любым менталітэтам будзе класічнае "Ноў проблем", таму што штучная ўсмешка лялькі, згадзіцеся, натуральная рэч...

А дзень у мяне сёння вольны. Ён не тое, што не натуральны, у апошнія два месяцы нават супрацьнатуральны. Дзень, які на ўсёй старонцы кален-

дара можна смела выводзіць тоўстым чырвоным маркерам слова жыццё і шчыра цешыцца гэтымі простымі пяццю літарамі. Я сёння не лялька, а нарэшце чалавек. І застануся чалавекам увесь паўнавартасны дзень. Працуючы ўвесь час на дзвюх работах, стыкоўка выходных на адной і другой супадае так рэдка, як у арбітальных станцый з касмічнымі караблямі. На жаль, ні ў беларускай, ні ў расейскай мовах не знайшлося асобнага месца для майго дня жыцця. А вось буржуйская ангельская гэтае месца ў сабе знайшла і працягнула мне руку дапамогі. У школе і ва ўніверсітэце нас вучылі, што слова "выходны" можна перакладаць двума словамі – holiday і weekend, дзе holiday – гэта „святочны выходны", напрыклад, Божае Нараджэнне, Першамай, Дзень Незалежнасці, а weekend, паводле дакладнага тлумачэння, уключае два вольныя дні ў канцы тыдня.

І як жа быць бедным работнікам сферы абслугі, якія ўсе гэтыя дні цягнуць, як коні, толькі таму, каб ва ўсіх людзей гэтае свята, ці афіцыйны выходны, адбыўся на славу? Ёсць жа яшчэ мы! Так-так, мы, якія мяняюць тоны вашых фужэраў, запускаючы ў іх ігрыстае віно. Якія наталяюць ваш не толькі фізічны, але і эстэтычны голад, упрыгожваюць сталы інсталяцыямі з фруктаў, парцалянавыя талеркі – сакаўнымі бутонамі з салямі і вяндліны, а дарагія кактэйлі – лісцем лімоннай мелісы.

Гэта мы дастаўляем вам, лянівым, якія самі гатаваць не ўмееце, смачны гарачы абед, драім пакоі ў гатэлях, дзе вы „б'еце посуд і плаціце" ў час адпачынкаў. І як жа назваць гэты будні дзень сярод тыдня, калі ўсе мы забываем на імгненне пра работу, заказваем сабе дадому піцу, і ўжо нам наразаюць лімоны і наліваюць каньякі. І тут магутныя свету зліталіся нарэшце над папіхачамі гэтага свету, – на самой справе гэта два паралельныя светы, але ад безвыходнасці яны суіснуюць у адной плоскасці, хоць вельмі "абломваюць" гэтым гардыню першых...

Вось так і вылілася гэтае шкадаванне ў выглядзе выразу "day off" (дзень у адключцы), які ў далейшым бурным масавым ужытку скарочаны, проста, OFF.

Мяне як гора-лінгвіста гэтае слова забівае да глыбіні душы, якая якраз і праяўляецца ў гэтым off, калі я трансфармуюся з лялькі ў чалавека... Сваім лаканізмам, папулярнасцю і неабдымным значэннем гэтае слова пераўзыходзіць нават тое з трох літар, якое ў нас пішуць на платах. Літар тут усяго дзве, другую проста прадублявалі, каб пазбегнуць памылак у напісанні, ды не пакрыўдзіць важны прыназоўнік of. Запамінаецца яно імгненна. Нават не запамінаецца, а ўрэзваецца ў памяць, гэтак жа, як назвы вуліц роднага гораду сядзяць у галаве, у якой бы краіне ты ні знаходзіўся. І ў кожнай краіне знойдзецца той, хто ператварыўся ў вечную ляльку, прадаў душу такому Мефістофелю сучаснасці – змрочнаму сівабародаму ці тое вандроўнаму цыркачу, ці тое чарадзею Дзядзечку Сэму. Ён мружыць вочы, моршчыць бровы і злосна рагоча ў густую бараду, брынкоча залатымі манетамі ў адной руцэ – гэты звон прыцягвае народ усяго свету ў непраходныя гушчары яго злоснага тэатру лялек. Другая рука спрытна шморгае за нябачныя ніткі і трымае статак прадажных лялек у бясконцым руху. А марыянеткам, якія не бачаць і нават не адчуваюць нітак, што няволяць іх рукі і ногі, трэба выдумваць туманныя прычыны, каб растлумачыць сваю прагавітую жадобу да брынклівых грашоў, рассыпаных сярод прыгожых пластыкавых дэкарацый, якія лёгка ламаюцца.

І ўсё прадстаўленне заключаецца ў тым, што яны носяцца, быццам у

ліхаманцы сярод гэтых дэкарацый па галовах другіх марыянетак, а то і дратуюць іх на трэскі, каб сабраць як мага больш круглякоў, якія слепяць вочы сваім зыркім святлом.

У канцы кожнага акту "акторы" бачаць, што манеты быццам выпарыліся, хоць яны ўвесь час так старанна іх збіралі. Не здагадваючыся пра існаванне лялечніка, марыянеткі шукаюць прычыну ў сабе, у сваёй неэканомнасці, неберажлівасці да матэрыяльнага дабра, і пачынаюць яшчэ хутчэй і з большай злосцю "збіраць незлічоныя багацці", якія ў канцы наступнага акту зноў лопаюць, як мыльная бурбалка. А на самай справе гэта Дзядзечка Сэм з кожным разам усё люцей вытанцоўвае за кулісамі і звар'яцела турзае за свае ніткі. Манет у яго дрыжачай руцэ ўсё больш, звон іх, быццам удары шаманскага барабана, даводзіць дзеда да трансавага экстазу. Спрабуючы зразумець, што адбываецца, галовы марыянетак цьмеюць, як асмаленыя галавешкі, у якіх родзіцца апраўданне ў стылі: "Ды я цягну з ранку да ночы, кручуся, як вавёрка ў коле, затое магу сабе дазволіць усё!" На гэта адразу ж хочацца адказаць: "Дазволіць-та ты можаш, а карыстацца – наўрад. Ты ж цягнеш з ранку да ночы". І пакуль марыянеткі працуюць і на запрацаваныя грашы ўсё сабе дазваляюць, усім гэтым і карыстаецца Дзядзечка Сэм.

Гэта ён гуляе ў вашых чатырохпавярховіках на беразе акіяну. Загарае пад пальмамі ў шэзлонгах з чырвонага дрэва, купаецца ва ўтульных басейнах і турзае за ніткі, падганяе вас выгрызаць капітал з брудных загазаваных мегаполісаў, а вы валіцеся з ног ад стомы. Вы збіраеце гадамі капейку да капейкі, якія эканоміце штодзённа, памнажаеце. І пакуль круціцеся зранку да ночы ў душных офісах, ён катаецца на шыкоўных аўто, што спраўляе за вашы гады эканоміі.

Гэта значыць, што на сцэне з'яўляецца яшчэ болей дэкарацый і рэквізіту, якімі Дзядзечка Сэм засмечвае сваё жыллё, не разумеючы навошта, падобна да памешчыка Сцяпана Плюшкіна, таксама занятага ў сферы валютных аперацый з "душамі".

Дзядзечка ён моцны, ды далёка не Тэрмінатар, рука ў старога не жалезная, стамляецца Дзядзечка Сэм. Трэба адпачыць, абмыць са старога твару пот. Таму і хапаецца абедзвюма рукамі за рубільнік свайго лялечнага тэатра, пераводзіць яго рэжым з on адпаведна ў off.

І ўсе лялькі імгненна валяцца на падлогу, а ў гэткім стане ў іх прачынаецца нешта такое, накшталт свядомасці. Яны ўспамінаюць, што ў мінулым жыцці і вакол іх было шмат прыбораў з такімі on/off-выключальнікамі. У тым мінулым жыцці яны ўсе дні былі занятыя: вучыліся, працавалі, сустракаліся з сябрамі, хадзілі на дзелавыя спатканні, ездзілі ў камандзіроўкі, увогуле, знаходзіліся ва ўнутраным on-рэжыме. Вярталіся дамоў, націскалі на кнопку "on" на тэлевізары, а яна аўтаматычна пераключала іх унутраны рэжым на "off"... Так адключаліся ад рэальнасці, іх свядомасць праглынаў тэлевізар, як тут праглынае Дзядзечка Сэм. Пасля зноў пераключалі сябе на "on", на кароткі час, націскалі на рычажок таршэра, ізноў патаналі ў off-цемры.

А ранкам на іх, санлівых, з усіх бакоў нападаў гэты on, скакаў у кававарку, у таршэр, у мікрахвалёўку, у тэлевізар, у плэер... Бо ранкам усюды поўны on.

І куды тут уцячы, схавацца ад гэтага бясконцага on/off-марафону, даўжынёй у жыццё?

Таму, так выглядае, што ў краіне, якую лічаць сімвалам інтэрнацыяналу, больш інтэрнацыянальнага слова, чым гэтае, і не знайсці. І не трэба нікому тлумачыць, што яно азначае. Эмігрант і сам разумее, што ў свой выходны ён тут, нібы яго стары запылены тэлевізар на лядоўні маленькай кухні там, дома, патухае імгненна, нібы нехта насупраць націскае на засаленую кнопку off.

Як я ўжо казаў, само імя, нібы верны сабака-шпік, беспамылкова знаходзіць у славесным тлуме свайго спадара. І кожны мексіканец, які толькі што перабег мяжу ў Тэхасе, на наступны дзень пры ўладкаванні на працу, карыстаецца вольна гэтымі трыма літарамі.

А ў мяне сягоння наадварот план такoff – абсалютна нічым не карыстацца, а ў першую чаргу – машынай. Стамілася мая паабдзіраная баявая сяброўка з хрыплым прастуджаным рухавічком, згубіўшы праз мяне на амерыканскіх дарогах сваю маладосць і падвеску. Ёй таксама трэба адпачыць, падрамаць дзянёк пад вясновым сонцам... Так што, не хвалюйся! Можаш спакойна дрыхнуць адна на ўсім паркінгу, а я ўвесь дзень буду цешыцца пешай хадой. Толькі, давай, маці-гераіня ты мая, выцягну з цябе крыху барахла, якое сёння можа мне спатрэбіцца...

Так, цяжка ўявіць, колькі тонаў бульбы-фры, бюргераў ды, вядома ж, піцаў ты вынасіла і вывазіла за дзевяць месяцаў у сваім чэраве, якое кожную суботу спрабую хоць мінімальна адчысціць.

Выходзіць, што я, твой бесталковы верны акушэр, увесь час, сяброўка, у цябе прымаю роды... Кожны дзень я, запацелы і раскудлачаны, у сіняй, замызганай алеем і мукою майцы з надпісам Dolce Italia Pizzeria, скачу вакол цябе, прымаю гэтыя надакучлівыя і бясконцыя “роды”, лупячы тваімі вялікімі сінімі дзвярамі па трыццаць разоў на дзень. А галодныя вялізныя зомбі-канібалы збіраюцца на гэты шабас абжорства, распускаючы сліны, з усіх закуткаў Нью-Ёрку, Пенсільваніі ды Ілінойса, выштурхваюць ляніва свае цюленевыя тушы з басейнаў у гатэлях і цягнуцца да мяне дрыжачымі рукамі, каб як найхутчэй разарваць тваіх “дзіцянят”, запіваючы кока-колай, напіцаваць імі свае бясформенныя кіндзюкі.

Згаджаюся, што апісанне – не самае прыемнае воку. Ды калі кожны дзень на працягу дзесяці гадзін назіраеш, як ва ўсіх найдрабнейшых дэталях амерыканцы не перастаюць паглынаць кілаграмы ежы, слоў для параўнанняў выбіраць не прыходзіцца.

– Развозчык піцы ў курортным горадзе – ганарова гучыць! – здзекуюцца з мяне сябры...

Але не будзем сёння пра сумнае і ганаровае! Гэты дзень створаны для жыцця, у яго алергія да працы. Толькі не трэба думаць, што алергія ўзнікла з-за нейкай там нянавісці, варожасці ці ляноты да працы. Гэта проста натуральная рэакцыя ў адказ на алергію ўсіх іншых дзён да таго самага жыцця. Таму публічна заяўляю, што болей у гэтым маім аповедзе не будзе пра працу ні слова.

Каб у свой доўгачаканы off унутраны on-рэжым працаваў у поўным аб’ёме, неабходна з самага ранку запоўніць сябе пазітыўнай энергіяй. Такія рэчы, як халодны душ у “пакоі для паласкання” і гарбата з рагалікамі, безумоўна, у гэтым дапамагаюць, але нішто не дае такой бадзёрасці, як добра звараная, салодкая, менавіта салодкая! кава. Я не люблю варыць каву дома. Для хатніх сумоўяў з сям’ёй або з сябрамі створана гарбата: вяліз-

ныя гліняныя кубкі, звон лыжак, жаночы смех, вясёлыя размовы, добрая кампанія. А наравістай каве спрыяе свежае паветра, самота і цішыня, чаго так бракуе людзям у вялікіх гарадах. Кава – напой мегаполісаў, дзе строгія шахматныя тоны: белыя кашулі, чорная кава, бляск начышчанага абутку адбіваецца на белых мармуровых плітах, насцярожаныя вочы, унутраны спакой і адзінота на фоне запоўненых людзьмі шумных вуліц.

Што мне падабаецца ў ЗША – тут у кожнай забягалаўцы, на аўтазапраўцы, у сямейнай пякарні або ў мясной лаўцы стаіць дзе-небудзь у кутку столік з вялікім чорным кафейнікам свежага свяшчэннага напітку. А яшчэ на кожным скрыжаванні спецыяльна для гурманаў свецяцца запрашальна надпісы кафі-шопаў. Так у мяне з'явілася звычка кожную раніцу па дарозе на працу спыняцца ў новым месцы, каб зрабіць дэгустацыю іх непаўторнага смаку.

Прычым, выбіраю звычайна самыя сціплыя дарожныя кафэшкі, што рэдка мільгаюць сярод густых лясных зараснікаў нашага суровага штату Нью-Джэрсі. Суровага, але не аднастайнага... Таму пакінем лясныя масівы на працоўныя дні, а сёння на пошукі кавы мяне цягне адкрытая прастора. Што можа быць лепш, чым ранняя прагулка ўздоўж акіяну?! Ісці далёка не трэба. Жыву на вуліцы з вясёлай назвай Верас (Heather). Як у многіх амерыканскіх гарадах, каб прасцей арыентавацца на месцы, вуліцы дзеляцца на свайго роду "групы па інтарэсах". Першыя пятнаццаць вуліц – гэта назвы буйных гарадоў Амерыкі. Каго захапляе бясклапотная сонечная Фларыда, той можа пасяліцца на вуліцы Маямі, а каму падавай горныя рэкі ды снежныя пагоркі, можа ўладкавацца на Дэнвер Авеню. А пасля ідзе мая група – кветкі. Ёсць у нас і незабудка, і мірт, і гліцынія і лотас, і нават родная наша шыпшына... А я атрымаў вуліцу Верас!

У наступным мікраараёне пад кодавай назвай "Дрэвы" жывуць мае сябры. Аднаму кожны дзень стукае ў вакно і запрашае на прагулку стары добры клён, а яшчэ трое цалкам апраўдваюць выбраную вуліцу, бо людзі там бываюць толькі летам і ўсе – турысты, а з восені да наступнага лета яны там як "тры таполі на Плюшчысе", і вартуюць вуліцу Таполю. Вуліцы гэтыя кароткія – пачынаюцца ад заліва і ўпіраюцца ў акіян. Злучаюць іх у адно пяць, месцамі шэсць, галоўных "праспектаў", якія цягнуцца ўздоўж усяе выспы. Каб дабрацца да акіяну, мне трэба прайсці чатыры вуліцы. Назвы ў іх таксама адметныя.

Развітаўшыся з машынай, я крочу да галоўнай цэнтральнай вуліцы з гучнай і ганаровай для мясцовых жыхароў назвай Нью-Джэрсі. Далей усё прасцей. Жоўтаю таблічкаю з назвай Ціхая сустракае мяне наступная вуліца, на якую ў пачатку мікрараёну Дрэвы нанізваецца наш сціплы, непрыкметны даўн-таўн. Пасля з геаграфічнай дакладнасцю ўзнікае надпіс Атлантычны. Ну, а наступная вуліца злучае і надае сэнс дзвюм папярэднім... Менавіта так, да непрыстойнасці проста – Акіян! А за ёй ужо – і дурню зразумела... ён сам! Грозны і магутны!

Як ні дзіўна, але гуляць па вуліцы Акіян не цікава, таму што самога акіяну толкам і не відаць. У сучасным капіталізме – від на акіян – гэта не жывапісны рэгулятар супакаення душы і цела, а зусім канкрэтны прадукт, які выгодна і дорага прадаецца. Таму вуліца Акіян уздоўж і ўпоперак забудавана шыкоўнымі гатэлямі і велізарнымі асабнякамі, у якіх з восені да лета балакае Дзядзечка Сэм, пакуль гаспадары шчыруюць у Філадэль-

фіі і Нью-Ёрку, каб аплочваць круглыя сумы штогадовых падаткаў на зямлю за свае пустуючыя дамы-прывіды. Ды для падцверджання міфа аб “свабоднай краіне” і “дэмакратыі” за вуліцай Акіян было пабудавана нешта накшталт драўлянай набярэжнай, дакладней, драўляны мост уздоўж пляжу, з аднога боку якога суцэльным патокам цягнуцца ўсялякія крамы, забягалаўкі, палаткі татуіроўшчыкаў хной, а з другога боку – лаўкі, від на акіян і сходкі на пляж. У адрозненне ад мяне амерыканцы і тут пра назву доўга не думалі, іх два словы растлумачаць усё больш хутка і дакладна, чым маё доўгае апісанне. Гэта: Boardwalk – дошка хадзіць. Выйшаў з дому, крыкнуў, зачыніўшы дзверы:

– Я дошка-хадзіць і вочы-глядзець.

І ўсе адразу зразумелі, што ты пайшоў на бордвок любавацца прыгажосцю.

Летам амаль усе работнікі гэтых крамак і шапікаў – студэнты з Расіі, Беларусі, Украіны, Балгарыі, Румыніі. А сам бордвок поўнасцю забіты амерыканцамі, якія швэндаюцца без занятку.

Але цяпер я іду – і анікога. Ну, проста – анікога! Восенню, зімой і вясной прыходзіш, каб пабыць у гордай адзіноце сам-насам з думкамі, а летам, каб знайсці самоту, трэба адсюль уцякаць.

Ёсць, вядома, адзін абагульняючы вобраз, які абавязкова сустракаецца ранкам на вуліцы ў амерыканскай правінцыі. Назавем яго “Дама з сабачкам”! Як ні ўглядайцеся, але нават малога намёку на Антона Паўлавіча Чэхава вы тут не знойдзеце. А вось аматары фільмаў Кіры Муратавай знойдуць у гэтым персанажы родную душу. Элегантны берэт гэтая дама замяніла на пушыстыя ружовыя навушнікі ў кантрасце з цёмна-сіняй майкай з надпісам Eagles або Phillies. Тут усё залежыць ад яе спартовых захапленняў, якія, нягледзячы на пол, узрост і жыццёвую пазіцыю ёсць у кожнага. У той жа каляровай гаме дапаўняюць вобраз шырокія спартыўныя порткі. Усё гэта, як мінімум, на два памеры большае. Ну, і як лагічнае завяршэнне – карычневыя Угі на нагах, або нават – будаўнічыя бацінкі ў духу Катэрпілар. І таямнічая ўсмешка на твары. А замест белага шпіца – шакаладны лабрадор-рэтрывер. Тут ужо варажыць не трэба. І так ясна, што гэта самая папулярная парода ў ЗША. Амерыканцам яна вельмі падыходзіць. Часта чуем выраз “сабака падобны да свайго гаспадара”, вось тут якраз той выпадак. Дагледжаныя, укормленыя, з ільснянай шэрай поўсцю і радасна-дурнымі вачамі, яны заўсёды ўсміхаюцца свайму бесклапотнаму жыццю, высунуўшы доўгія ружовыя языкі. Падбегшы да цябе на вуліцы, яны так і кажуць усім сваім выглядам:

– Не парся, дружа! Жыццё – цудоўная штука! Паглядзі на мяне! Як сыр у масле катаюся, ніякіх табе праблемаў, і ўсё вакол – суцэльны пазітыў!

І гаспадары такія ж – укормленыя і ўвесістыя, дзякуючы любімаму фастфуду, бадзёрыя і вясёлыя, усяго ў іх досыць, ну, а калі і ёсць праблемы, то для людзей з нашым менталітэтам – яны зусім не праблемы. Шукаючы супрацьлеглы вобраз, у галаве адразу ўсплывае повар мясцовай піцэрыі – маленькі змрочны мексіканец. Насупіўшыся, апусціўшы галаву, ён ідзе па бязлюдным бордвоку і лічыць у галаве гадзіны за апошні працоўны тыдзень, пераводзячы яго ў доларавы эквівалент. Паралельна ён ненавідзіць сваю працу і, скончыўшы з тыднёвым заробкам, пачынае лічыць, колькі гадоў прыйдзецца яму тырчэць у гэтай ненавіснай чужой старане, каб на заробленыя грошы адчыніць маленькі рэстаранчык у сваім родным гарадку на

захадзе Мексікі. А побач, чапляючыся за свой ланцужок, гэтак жа змрочна перабірае кароткімі ножкамі плямісты басет-хаўнд. Каб пераканацца, што гаспадар ідзе побач, перыядычна паднімае ўгару сумныя стомленыя вочы і, пераканаўшыся, прадаўжае далей цягнуць доўгія вушы праблем і цяжкасцяў па пыльных дошках бордвока. Ён ніколі не ўсміхаецца, высунуўшы ружовы язык, а толькі сумна сапе сваім доўгім носам з абвіслымі губамі. А на падбягаючых вясёлых і радасных лабрадораў яму нудна глянуць; не паднімаючы галавы, ён пляцецца далей за сваім уздыхаючым у роздумах гаспадаром. Шкада, што такі персанаж ніколі не трапляўся на вочы... Мусіць, шпацыр з сабакамі падыходзіць толькі амерыканцам. Мексіканцаў з сабакамі я ўвогуле не сустракаў. Гэта і зразумела, у іх дзяцей заводзіць больш папулярна. А калі столькі дзяцей, там ужо не да сабак.

Я прайшоў вуліц з дваццаць і нарэшце знайшоў тое, што мне трэба. Грэчаскі фастфуд з вялізнай таблічай OPEN на дзвярах. У сярэдзіне ўсё завешана плакатамі з аграмаднымі цяжкімі гіросамі. Але апусціўшы вочы, я шыбую проста да кафейніка. Дзіўна, што я тут не адзіны наведвальнік. Побач са мною заварвае каву смуглы і санлівы электрык. Усё ён робіць марудна, пэўна, працуе недзе побач і, зразумелая справа, на работу не рвецца. Двое скейтэраў пераступаюць з нагі на нагу каля лядоўняў, выбіраючы пратэінавыя кактэйлі. Каля ўваходу ў кіпе ранішніх газет кешкаецца дама з сабачкам. У гэты момант у сярэдзіну зайшоў бадзёры пажылы амерыканец і, паглядзеўшы на даму, адразу спыніўся, з выглядам здзіўлення на твары сказаў:

– Няўжо? У гэтай краіне яшчэ нехта чытае?

Абодва засмяяліся, звяртаючы на сябе ўвагу астатніх. Дама ў сваю чаргу праспявала:

– Так, лепшы спосаб сапсаваць сабе зранку настрой!"

Тут ужо ён фыркнуў у кулак і, нахіліўшыся да яе, прамовіў нібы шэптам:

– Не верце ім, яны ўсе ілгуць. Чортавы лгуны! – і зноў засмяяўся, задаволены сваім пачуццём гумару, пагладзіў вусы. Электрык, выходзячы, вырашыў далучыцца і фліртоўна з усмешкай сказаў:

– Так, так, ён кажа праўду! Лепей прамарнуйце лішні долар на шклянку кавы або аддайце яго мне. Я вазьму, – і, спыніўшыся, працягнуў руку. Усе зноў затрэсліся ад смеху. Электрык выйшаў, сказаўшы ўсім запаветнае "take it easy!"

Гумарыст-пенсіянер, адказаўшы тым жа, пайшоў да стэнду з донатамі, гэта бублікі, якія амерыканцы ўжываюць да кавы, а бедная дама ад такога лішку ўвагі ўся расцвіла, усмешка зрабілася шчэ больш таямнічай. У выніку, пакуль я па дарозе да касы глянуў на гіросы (гэта грэцкая шаурма) – мужычок, які ганьбіў газеты, мяне апярэдзіў.

На касе стаяла мілавідная мулатачка, відаць было, што вельмі стомленая, таму злосная на жыццё. Ну, а мужычок адразу звярнуў увагу на яе бэйджык з надпісам Dayanara. І з асаблівым артыстызмам былога лавеласа пачаў захапляцца:

– О, вы паглядзіце, што за цуднае імя – Dayanara! Проста захапленне! Божа мой, ніколі не сустракаў больш прыгожага імя. І яно вам да твару!

Ніяк не рэагуючы на захапленні старога спакусніка, дзяўчына прадаў-

жала задумліва выбіваць нешта на касе і абсалютна без усялякіх эмоцый сказала:

– Калі чэсна, я таксама вельмі люблю сваё імя!

А мужычок усё паўтараў:

– Вельмі прыгожа, ну, проста вельмі прыгожа!

Сабраўшы ўсе прадукты ў пакет, Dayanara усміхнулася прабачальна і дадала:

– Гэта адзінае, што я люблю ў сваім жыцці...

Тут наш лавелас зразумеў, што ён выбраў няўдалае месца для фліртаў, адступіў. Ён узяў пакет, нацягнута ўсміхнуўся і сказаў:

– Добрага дня! – і пайшоў.

Дзяўчына пачала лічыць маю каву, а я, каб праявіць спачуванне, сказаў:

– Добры адказ. А вы гэта сур'ёзна?

А яна гэтак жа абыякава спытала:

– Што?

Я крыху збянтэжыўся, але ўсё ж перапытаў:

– Ну, гэта на самай справе – адзінае?

Тут яна рэзка адарвалася ад касы, падперла рукамі клубы і з яхіднай усмешкай сказала:

– Не, не адзінае! Яшчэ ў мяне заўтра нарэшце off і я змагу выспацца. І гэта я таксама вельмі люблю! Такі варыянт цябе задаволіць? – і не чакаючы ўжо майго адказу, зноў падыйшла да касы, хутка адрэзала:

– З вас долар, пяцьдзясят!

Я даў ёй грошы і ўсё ж сказаў:

– Вось, здачы не трэба. А ў мяне – сёння...

– Што сёння?

– Off...

– М-м-м... шчаслівы! – задуменна закрыла касу, пайшла на кухню...

Назад вяртаўся, не выбіраў ні вуліц, ні накірункаў, нібы ў тумане, піў каву, ішоў. Думкі так доўга тлуміліся ў галаве без дзейнасці, што як толькі мая свядомасць прачнулася, няхай на дзень, яны ўсе рынулі на паверхню і ў галаве запанаваў поўны хаос. Шалёным вірам віравалі ў галаве думкі, нараджаліся і зноў знікалі. Кожны імгненны імпульс страляў, нібы разрыўны салют, яркай канкрэтнай думкавай успышкай, якая рассыпалася на сотні дробных думак, якія ўспыхвалі, рассыпаліся. У нейкі момант злавіў сябе на тым, што ўспамінаю, як толькі людзі ні калечылі маё імя за гады эміграцыі, падстасоўваючы яго да сваёй роднай мовы.

Пасля гэтая думка забрыла ў непраходны філасофскі гушчар, блукаючы там, я зразумеў, што людзі, якія сустракалі мяне, стваралі ў свядомасці нейкі вобраз, і ўсе гэтыя вобразы – розныя, але яны ў сукупнасці ўяўляюць мяне, якім я ёсць... Я з гэтымі людзьмі быў знаёмы на кароткія прамежкі часу, таму яны мяне пазнавалі толькі з аднога боку, прыдумвалі мяне праз імя, лічылі, што гэты бок – адзіны, і я менавіта такі, якім мяне яны намалявалі ва ўяўленні. Такім я застаўся ў іх памяці.

Думаю, група ўжо былых студэнтаў са Шчэціна памятае тое трускаўкавае лета 2004, якое правялі на карачках, поўзаючы па градках ангельскай фермы, зарабляючы там сабе на вучобу. І на тле ўспамінаў пра той бесклапотны час, які на ўсё жыццё стварыў аскому да такой смачнай ягады трускаўкі,

усплыве вобраз усмешлівага сарамлівага хлопца Сташка, які ўпершыню апынуўся адзін так далёка ад дому, у чужой старане, таму паводзіў сябе разгублена і глядзеў на ўсё вялікімі спалоханымі вачамі... З гэтым Сташкам яны ўсё лета навылёт гулялі ў валейбол і каталіся аўтаспынам па пагоркавых ваколіцах Уэльса, дэгуставалі ангельскую марыхуану. А ўтульныя палацы свабоды, роўнасці і братэрства, якія, дзякуючы суровым літоўскім сквотэрам, узнікалі, нібы язвы на целе спальных раёнаў Лондана, сустрэлі ў пракураных кухнях ужо больш смелага і размоўнага балтарусаса Стасаса, які марыў пра беззатратнае жыццё ў вялізным мегаполісе, таму шукаў у паўночным Лондане свой палац свабоды. Ну, а самалюбівыя літоўцы, змрочныя звонку, але добрыя знутры, былі задаволеныя, што звяртаюся да іх, як да духоўных настаўнікаў або нават сталкераў у небяспечны і нязведаны свет, таму яны шчодра падзяліліся з дзівачным балтарусасам справавымі ведамі, правялі яго ў патаемную зону з пакоем, дзе спаўняюцца “самыя запаветныя, самыя шчырыя, самыя выпакутаваныя жаданні”, якім стаў доўгачаканы сквот у паўночным Лондане.

Для начных мяснікоў усходняга Лондана гэта быў ужо Стэнлі фром Бэларус, іх напарнік па працы, з якім яны працавалі па начах у непрыкметнай мясной лаўцы, наразалі стэйкі, круцілі фарш і вучылі пачаткоўца Стэнлі-мясніка арудаваць крывым нажом (bone knife).

Шатландскія мыйшчыкі шыбаў перамывалі вокны ўсёй Шатландыі ад Глазга да Лідса сумесна са Стэнам зэ Мэнам (Stan the Man!), які крычаў на кожным рагу, што ведае ангельскую мову, а сам ні ў зуб нагой не разумеў іх “абсалютна простага” акцэнту.

Амерыканскія кухары, ну, і па сумяшчэнні мясцовыя рэп-рэчытальнікі, яны ўжо кулінарылі ў рэстарацыі традыцыйнай еўрапейскай кухні курортнага гораду на Усходнім узбярэжжы з музыкам з гучным іменем Стаааар (Star!), які прыехаў з групай музыкаў з нейкай краіны, што недалёка ад Расіі. Ну, а калі ехаць ад тае рэстарацыі таксама па Усходнім узбярэжжы дні два на поўдзень, то можна трапіць у грэцкую піцэрыю, дзе таксама ёсць кухар, па сумяшчэнні гітарыст. Якраз сюды ўзялі кіроўцу, які па сумяшчэнні аказаўся бас-гітарыстам з дзівоснай краіны, недзе недалёка ад Польшчы. На першым жа перакуры кухар прадставіўся Тэдам Гарыцасам, а суразмоўцу, не думаючы доўга, назваў Ташам.

Таш аказаўся спагадлівым хлопцам, ахвотна згадзіўся падвезці Тэда пасля працы дадому. Там Таш убачыў міні-студыю Тэда, абсталяваную ў гаражы яго ўтульнай хіжыны, якая схавана пад пальмамі ад пякучага фларыдскага сонца.

У гэтай студыі абсалютна выпадкова завалялася бас-гітара, у выніку Таш і Тэд джэмілі ў гаражы пад пальмамі да позняй начы на ўцеху цярплівым суседзям. Праўда, не доўга Таш і Тэд цешылі свае оффы музыцыраваннем. Таш вырашыў падацца на Поўнач, дзе таксама была піцэрыя, толькі італьянская. І кухары там былі. Мексіканцы. Саса і Раэль. Акрамя як кухарамі, яны нікім па сумяшчэнні не былі, а кіроўцу новага назвалі Істакісам. Праўда, хутка перайменавалі ў Эстаса. Расчуленыя ад сваёй дасціпнасці, крычалі, калі ён заходзіў на кухню:

– Estas, como Estas? (Эстас, як справы?)

Ужо добрыя дзесяць гадоў кучаравы чарнавусы Раэль вывучаў у Амерыцы тонкасці кулінарнага майстэрства. Рабіў гэта так старанна, што аб засваенні мовы гэтай дзівачнай Амерыкі нават і не падумаў. І адпаведна

ангельскі слоўнікавы запас рабацягі Раэля быў такі, што ніякая Элачка Людажэрка нават побач не стаяла. А тут раптам высветлілася, што Эстас гэты ў сябе ў краіне, якая недзе далёка ад Мексікі, узяў ды іспанскага нахапаўся. Раэлю, вядома ж, было асабліва прыемна працаваць з Эстасам, таму што не прыходзілася доўга прасіць і тлумачыць на пальцах, колькі і якога піва Эстас павінен таемнана прынесці яму на кухню праз заднія дзверы. А загадвае піцэрыяй цётачка Мікалета на пару са сваім мужам Джакома, які ў Амерыцы адразу зрабіўся Джэкам. Усё жыццё Джэк лепіць піцу, штурхаючы свой сямейны бізнес, гаворыць толькі па справе і коратка, а ў эмацыйных маналогах Мікалеты няма ніякай канкрэтыкі, затое яна гаворыць заўсёды. У Мікалеты ніколі не пытаюцца, з якой яна краіны, таму што, як і кітайцы, здольныя ствараць у кожнай краіне Кітай вакол сябе, гэтак жа і ў кожным жэсце і міміцы Мікалеты выразна і паказальна чытаецца адно слова – Італія. Калі брала на дастаўку піцы новага кіроўцу, яна не прымушала свой язык вымаўляць грубае слова Стас, тым горшае – Станіслаў. Яна адразу акунулася ў сваю маладосць, калі яшчэ не ведала, як гэта быць скупой і прагавітай да грошай, бегла ў белай паркалёвай сукеначцы па П'яца Вільена свайго роднага Палерма да маньерысцкага фантана, дзе магла крыху адпачыць ад ап'яняльнага паху архідэй. Не было часу ў беднай Мікалеты доўга сядзець каля фантана, таму што добры і ўсё разумеючы пастар Стасі чакаў яе ў касцёле, дзе яна раскрыла яму прычыну сваіх заблытаных, як пахі аліўных і міндалёвых дрэваў, пачуццяў...

І вымаўляючы гэтае імя кожны раз, калі заходзіць у піцэрыю стомлены маўклівы кіроўца, зусім да яе пастара не падобны, яна ўсё ж зноў вяртаецца на імгненне ў сваю рамантычную маладосць. Як кіроўца гэты Стасі нават вельмі добры, працуе хутка, машына ў яго не ламаецца, на працу ён не спазняецца, праўда, не гаваркі, але кіроўцу гэта і не трэба. Толькі крыху дзіўны. Калі няма заказаў, асабліва восенню ды зімой, сядае гэты Стасі за першым столікам справа і ўсё нешта піша ў свой скураны нататнік. А раптам піша там нейкія гадасці пра яе? І што самае крыўднае, калі і зірнуць адным вокам у той нататнік (што Мікалета часта з цікавасці рабіла, калі той ад'язджаў), то ўсё роўна нічога не вычытаеш з гэтых каракуляў на незразумелай мове СССР. Пасля Мікалета прымірылася з гэтай пастаяннай пісанінай, а даведаўшыся ад Стасі, што ён піша сачыненні для свайго малодшага брата, які недзе там жыве ў СССР, прымусіла сябе паверыць гэтаму і нават пахваліла Стасі за такі клопат пра малодшага брата.

У хвілінах дзесяці язды ад піцэрыі знаходзіцца мясцовы шпіталь, дзе ёсць аддзяленне хуткай дапамогі. Там усё не могуць знайсці хлопца Стэна з загадкавым кітайскім прозвішчам Ліні. Усе выразна памятаюць, што ён паступіў з падазрэннем на перелом рукі. Ніякіх дакументаў, што засведчвалі асобу, як і грошай, пры ім не было. Ну, і зразумела: болевы шок, усё адбылося выпадкова, гранітная стальніца ўпала на руку, калі ён дапамагаў сябру прыбіраць у гаражы. Сябра адразу завёз яго ў шпіталь, ні пра якія дакументы не падумаў, пакінуў Стэна, а сам паехаў, бо спяшаўся на працу. Але ж гэты Стэн, паклаўшы на сэрца руку, абяцаў, што як толькі вернецца дадому, адразу аплоціць даволі сур'ёзную суму за паслугі, не доўгія, праўда, затое патрабуючыя неверагодных намаганняў дактароў, якія былі патрачаны на тое, каб разабрацца, быў перелом, ці не было.

Ну, дыягназ зрабілі няправільны, але ж стараліся. А Стэн гэты як вый-

шаў, так праз зямлю і праваліўся. А па мабільніку заўсёды міла адказвае ветлівы хлопец. Гаворыць ён таксама з усходнім акцэнтам, называецца Станіславам. А Стэн Ліні, аказваецца, здымае з ім адно памяшканне, свайго сотавага тэлефона не мае, пакідае ўсюды нумар Станіслава, чым вельмі яго падводзіць. Праўда, Стэна ніколі не бывае дома, а беднага Станіслава ўвесь час даставаць званкамі нават няёмка, таму праз нейкі час Станіславу болей не звоняць. І як знайсці гэтага Стэна Ліна?

І сапраўды нейкі буралом. Як толькі офф, дык збіваюцца ўсе ўстаноўкі па самакантролі.

– Прасцей, прасцей, успрымай усё як мага прасцей!

Пакуль вяртаўся, ніхто не праспяваў мне “Take it easy!”, так плынь думак і выцягнула мяне з рэальнасці. А збіраўся не думаць пра работу. Ды гэта не так проста.

Затое дарога дадому праляцела незаўважна, нібы выйшаў з фастфуда і апынуўся дома. А час у нас ужо лічы абедавы. Звычайна абедаю за рулём па дарозе з работы дадому, дзе застаецца хвіліна толькі на хуткі душ у “пакоі для паласкання”, і ўжо трэба імчаць на другую працу да Джэка і Мікалеты. Я так прывык. Таму бываюць імгненні, калі ясі суп і гаворыш па тэлефоне, заходзячы на круты паварот. Так што, у такі асаблівы дзень ды каб не паабедаць дома, будзе проста тупасць і непавага да сябе самога.

Ну, цяпер я павінен быў бы доўга і падрабязна апісаць арыгінальны рэцэпт якой-небудзь невядомай стравы, якімі мы ў Амерыцы забаўляем сябе, чым прыдаў бы майму аповеду крыху экзотыкі, а заадно і пахваліўся б сваім кулінарным майстэрствам... Але – не. Паколькі ў гэтай краіне ўсе пастаўленыя задачы, таксама і кулінарныя, вырашаюцца проста, прымітыўна, без усялякай экзотыкі, таму ніякіх рэцэптаў не будзе. Вось, захацелася вам на абед італьянскіх цэпелінаў. Праўда, цэпеліны яны ў Італіі, а як пачалася масавая экспансія кухні італьянскай, грэцкай і іспанскай на месца знішчанай і забытай індзейскай, якой да гэтага часу аддаюць тут даніну павагі, наразаючы з пафаснымі важнымі тварамі індычку на Дзень Удзячнасці, – амерыканцы як убачылі гэтыя тонкія спагецці, адразу сказалі:

– О, не! Якія ж гэта цэпеліны? Хіба цэпеліны могуць быць такімі танюсенькімі, хрумсткімі і беласнежнымі! Гэта быццам валасы анёла, які спусціўся да нас з неба дапамагчы амерыканскаму народу не памерці з голаду!

Так і назвалі – angelhair... Вось вы і бярэце пачку гэтых валасоў і кідаеце ў вар, пакуль анёлы лётаюць над рондалем, аберагаючы свае валасы, вы чытаеце на пачцы збоку: “Калі вам хочацца, каб усё было, ну, вельмі смачна, то да пасты можна дадаць сыру армазану і рыкота”. Бярэце і дадаеце. А калі ўжо вельмі захацелася наблізіцца да італьянскай кухні і проста не можаце вытрываць, каб не паліць усё гэта соусам марынара або альфрэда, то ідзеце ў любы супермаркет і бярэце пакецікі з надпісамі “Сырны соус для пасты”, “Соус марынара для спагецці”, “Грыбны соус”. Усё проста. Трымайцеся простай інструкцыі, і праз некалькі хвілін італьянскі гарнір будзе гатовы. І не трэба паўдня таўчы, варыць, парыць свежыя таматы, каб атрымаць доўгачаканую марынару. А з мясам да гарніра таксама ніякіх праблемаў. Таксама лёгка і проста. Ідзяце ў супермаркет і купляеце акуратна раскладзены на пластыкавай талерцы і загорнуты ў этылен стэйк – такі вялізны кавалак свежай гавядзіны. У залежнасці ад таго, з якой часткі беднай каровы ён выразаны і як там размешчана костка, яны

дзеляцца на рыбай-стэйк, клаб-стэйк, ты-боўн-стэйк і іншыя. У сённяшні офф гэта будзе ты-боўн. Называецца так, таму што костка стэйка нагадвае вялікую літару Т. Калі верыць амерыканскім баявікам, то ў амерыканскіх турмах зэкі абедаюць выключна найлепшымі сакаўнымі ты-боўн-стэйкамі з бульбай фры. Падмацаваўшыся і набраўшыся сілаў, яны хапаюць костку ў выглядзе Т, а яна служыць ім як кастэт і "пяро" адначасна, і рэжуць адзін другога ў час сваіх гангстэрскіх разборак.

Рэзаць я нікога не буду, выкарыстаю костку як костку, аддам сабаку нашага паліцэйскага Крыса Вэба, – вые на верандзе першага паверху ўжо добрую гадзіну. Арыгінал наш паліцэйскі, у яго зусім не лабрадор-рэтрывер, а проста дварняга.

Стэйк з абодвух бакоў пасыпаецца соллю, перцам і якой-небудзь травой – арыганай ці базілікай. Кідаеце на патэльню, у грыль або ў духоўку на хвілінаў пятнаццаць. І ўсё. Страва гатовая. Абед плаўна перацякае ў агляд старога і добрага савецкага кіно. На партале расейскага тэлебачання, за якое я плачу васямнаццаць доларaў у месяц, ёсць такі канал "Дом кіно", там які фільм ні ўключы, усё падыйдзе на абед. Ведаю, што я не маю дачынення да таго часу і не магу адчуць яго так, як пакаленне маіх бацькоў, і не можа тая эпоха выклікаць у мяне ніякіх эмоцый, бо для майго пакалення гэта ілюстрацыя пэўнай старонкі ў гісторыі. Але ўсё роўна цягне. Назіраць свет з размераным цячэннем жыцця, дзе ўсе персанажы жывыя, сапраўдныя, заўжды ўсміхаюцца, знаходзяць пазітыў у любой прафесіі, ведаюць наперад, як складзецца іх жыццё, ад гэтага на душы адразу робіцца спакойна і добра, і ў галаве гэтак жа раўнамерна ўсё займае свае месцы. Усе думкі раскладваюцца па палічках, ніякага вар'яцкага віру і хаосу. А можа гэта проста мой розум "разводзіць" мяне такім чынам на настальгію?

Пасля абеду і кінасеансу блукаю па прасторах інтэрнэту, гуляючы ў няхітрую гульню "Накрэмзай Google любы сказ, і ён дасць табе адказ!" Проста забіваеш у шукальнік першае, што прыходзіць табе ў галаву. Бессэнсоўныя пытанні, якія сорамна задаваць жывому чалавеку: "Як размнажаецца мураўед?", "Чаму валасы не растуць на лобе?", "Дзе жыве снежны чалавек?", "Колькі светлавых гадоў да Марса?", "У якога дрэва самая тоўстая кара?", "Этымалогія слова глупства?" Адказы яшчэ дурнейшыя, чым пытанні. Ну, і ў працэсе блукання ў інтэрнэце натыкаешся на якую-небудзь ідыёцкую прымітыўную флэш-гульню. І разумееш добра, што трэба гэта ўсё прагарнуць хутчэй, што не бывае такога "разок згуляю і ўсё!" Трэба хутчэй уцякаць ад кампутара, а рука сама ловіць стомленую мыш, і праз тры секунды ты ўжо маленькая ртутная кропля, якая ганяецца па экрану ў пошуку яшчэ драбнейшых, злучаецца з імі, робіцца ўсё большай і большай. Але як толькі ты натыркаешся на большую, чым твая, кроплю, вялізны надпіс "Game over" залівае экран. І чаму нават самая простая і абсалютна, здаецца, нейтральная гульня запраграмавана на псіхалагічнае рабства і зьяржэнне сабе падобных. Чаму нельга быць вялізнай кропляй, раздаваць сябе другім і, ператварыўшыся ў самую дробную, проста знікнуць?

У такія моманты хто-небудзь з мікраараёну "Дрэвы" нібы адчувае, што цябе трэба як найхутчэй вырваць з чорнай дзіры інтэрнэта, якая засмоктвае, – тэлефануе і прапануе прагуляцца ў бар.

Вясною, а тым больш пасярод тыдня, працуючых установаў не так і шмат. Можна іх пералічыць на пальцах адной рукі. У нашым "кветніку" няма ніводнай, ёсць дзве у раёне першай і другой вуліц, дзе я са сваёй прастуджанай баявой сяброўкай адкормліваю мясцовых піцай ад Джэка і Мікалеты, і ўсе астатнія залезлі сярод "Дрэваў". Там у раёне "змяшанага лесу" паміж Топалем і Ядлоўцам на вуліцы Ціхая працуе гучны і ўсімі любімы спорт-бар, назву якога можна перакласці як "Ад Іры ўсім спакойнай ночы!" (Good night Irene's). Мне са свайго Верасу прыходзіцца туды ехаць на машыне, а ўсе астатнія падцягваюцца пехам. За барнай стойкай вельмі шумна, размаўляць нязручна, а мы прыйшлі менавіта для гэтага. Калі ты лялька і мазгі выключаныя, то размаўляць не пра работу проста не выходзіць, таму ў працоўныя дні мы і не перасякаемся, нават не тэлефануем адзін другому, таму што ўжо ведаем з практыкі, што размова ўсё роўна не склеіцца, толькі сапсуецца настрой.

Таму замаўляем па піву і займаем самы далёкі столік у кутку. Народ у нас разнамасны. Нехта прыехаў у мінулае лета як студэнт і застаўся на некалькі гадоў зарабіць грошай, а ёсць і такія, хто, пакатаўшыся па ўсім свеце, вырашыў спыніцца тут, далей ад тлуму мегаполісаў ды і ўвогуле ад людзей. Ёсць і старажылы, хто размяняў на нашым востраве не першы дзясятак. Апошнім да нас далучыўся былы баксёр Вася з гораду Віцебску, які пры такім да яго звароце звычайна ўдакладняе, што былых баксёраў не бывае. Па лёгкай шпіёнскай усмешцы, якая скрыўляе яго суровыя скулы і зламаны ў некалькіх месцах нос, я ўжо разумею, што ён мае пры сабе чарговыя, вычытаныя недзе доказы нашай зацягнутай на некалькі гадоў спрэчкі: "Што ж з'яўляецца культурнай сталіцай Беларусі – Гародня або Віцебск?" Мы зноў зацягваем старую песню, ад якой усе стомлена ўздыхаюць, ды прадстаўніцы чароўнага полу з неабдымнай Расіі хутка пераключаюць размову. Калі побач сядзяць такія юныя стварэнні ды слухаюць з "гатовымі паверыць усяму" ўсмешкамі, то размова выліваецца ў "Астраўныя аповеды і легенды". Найперш эмацыйна і якасна ліецца з Васевых вуснаў "Быль пра вялікага кіта".

Было гэта даўно, і ці гэта праўда, ужо ніхто не можа разабрацца, але факт застаецца фактам – выкінула ранкам на наш пляж марскою хваляй велізарнага мёртвага кіта. Вялізны кіт ляжаў доўга на пляжы, а ўсе яго абыходзілі бокам. Мясцовыя ўлады не ведалі, што з ім зрабіць: не атрымоўвалася распілаваць на часткі, не мог яго падняць ніводзін кран, а смурод запаўняў выспу, і ўсе турысты ўцякалі ад гэтага смярдзючага балота. Вырашана было – узарваць і там жа закапаць. Параскідала кіта па ўсёй выспе – што маглі, тое вывезлі, а што не вывезлі – тое там і закапалі. У розных кутках нашай выспы закапана частка беднага кіта. Вось такая гісторыя.

– А ты сам яго бачыў – гэтага кіта? – здзіўленыя дамы пытаюцца ў Васі. Характэрна падмыргнуўшы мужчынскай палове стала і вытрымаўшы паўзу, Вася з сур'ёзным відам кажа:

– Ну, ты даеш, а хто ж яго першым заўважыў?

Пасля пасыпаліся легенды пра знакамітасцяў, якія працавалі ў нашым горадзе, калі былі студэнтамі...

– Дык у гэтым гатэлі вокны мыў Брус Уіліс, а крыху далей – дом у Тома Круза... чэснае слова, зуб даю, – чуваць з усіх бакоў.

Гэтак жа праскочыла легенда пра шалёную акулу, якая некалькі год

таму прарвалася праз металічныя сеткі пляжа і адкусіла турысту нагу. Усё наша жаночае таварыства аж падскочыла са словамі “О, які жах!” Калі дамы супакоіліся, каб падкрэсліць сваю лінгвістычную адукацыю, пацікавіліся пра слова shoobies, якое яны на працягу лета бачылі то на вывесцы крамы, то ў выглядзе графіці на сцяне, і ні ў якім слоўніку яго знайсці не могуць. Тут ужо я ўзяў слова і распавёў гісторыю, пачутую ад старога мясцовага рыбака.

Слова гэтае з’явілася ў пачатку трыццатых гадоў, калі турысты поўным ходам пачалі атакаваць наш ціхі і спакойны Уайлдвуд. Турысты гэтыя былі хітрымі, каб не купляць ежу за шалёныя грошы, прывозілі прадукты з сабою.

І на пляж яны прыходзілі са скрынкамі ад абутку, у якіх ляжалі хатнія сэндвічы і хатдогі... Адрозніць турыста ад мясцовага было лёгка, яны на пляж прыходзілі ў абутку і там разуваліся, а мясцовыя прыходзілі з дому басанож. Да таго ж, усе мясцовыя былі гаспадарамі розных закусачных і кавярняў. Таму яны і раззлаваліся на турыстаў за тое, што тыя нічога не куплялі, і прыдумалі для іх абзывалку, злучыўшы shoe box (скрынка ад абутку) і beach (пляж) у адно слова shoobies. І цяпер пры выездзе з гораду можна прачытаць на дрэве выразаны некім даўно надпіс “Shoobies go home!”

Дамоў я прыехаў ужо пад вечар і адразу ўспомніў, што ў свой дзень жыцця забыўся здзейсніць самы якраз важны для жыцця абрад – мыццё. Кінуўся адразу выграбаць па сусеках капейкі ў дваццаць пяць цэнтаў, пакаваць у пакеты для смецця адзенне, і паехаў у кругласутачную пральню. Не ведаю чаму, але паходы ў грамадскія пральні тут вельмі папулярныя. Не сказаць, што пралька тут такая дарагая. Часта можна сустрэць нават багатых амерыканцаў, якія чаруюць побач над пралькай. Пральня ў ЗША – гэта месца, дзе абмяркоўваюцца важныя палітычныя падзеі, выбіраюцца новыя знаёмыя і сябры, і нават, як ні дзіўна гучыць, нараджаецца каханне. Калі б у гэтай краіне праводзілі спаборніцтвы на колькасць наведвальнікаў, то грамадская пральня магла б даць фору любому тэатру.

Ну, а ў позні час – гэта самае лепшае месца, дзе можна пабыць аднаму. Я і сяджу цяпер адзін на пустой пральцы проста пад таблічкай “Сядзець на машынах строга забаронена!” Насупраць у велізарным металічным барабане круціцца за шклом маё рабочае адзенне, напамінаючы мне, што мой офф вось ужо і канчаецца, і прыйдзецца зноў апранаць працоўную вопратку. Дзядзечка Сэм пстрыкне мой on-рычажок, і я буду гэтак жа дзіка круціцца, ганяючыся за яго бліскучымі манеткамі.

А пакуль што, не звяртаючы ні на што ўвагі, хутка запісваю ў свой тоўсты скураны нататнік тое, што вы цяпер прачыталі. Таймер на сушылцы паказвае дзве хвіліны, пасля якіх яна завізжыць і табло замыргае трыма чорнымі літарамі... OFF...

Эўрыпід



...Гнеў жахлівы ў цароў:
так прывыклі яны
Валадарыць, а слухацца – не!..

# Медэя

[Асобы:
К а р м і ц е л ь к а
К р э о н т
Д з е ц і Медэі
В ы х а в а л ь н і к дзяцей
Я с о н
Х о р карынфскіх жанчын
А й г е й
М е д э я
В я с т у н]

***[Пралог]***

*Пераклад са старагрэцкай – Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

[К а р м і ц е л ь к а, В ы х а в а л ь н і к,
М е д э я (за сцэнай)]

К а р м і ц е л ь к а. Калі б ладдзя “Арго” тады не праплыла
Ах! у Калхіду між замглёных Сімплегад
Ды каб на Пеліён калісь не падала
Падсечаная хвоя, што дала мужам
У рукі вёслы, каб прывезлі Пелію
Руно чысцютка-залатое! І тады
Медэя-гаспадыня ў Ёлк не прыплыла б,
Без памяці ў Ясона закахаўшыся,
І, бацьку каб забіць, дачок цара
Не ўгаварыла б і ў Карынфе не жыла б
Пасля з сужэнцам, з дзецьмі, дзеля радасці
Жыхарства горада, які па ўцёках тых
Прыняў яе, Ясону паслухмяную...
Бо сама лепш, калі ў сям’і пануе лад
І жонка мужу не пярэчыць ані ў чым.
Але цяпер нянавісць разбурыла шлюб,
Бо здрадзіў дзецям і спадарыні маёй
Ясон: іх памяняў на ложа царскае –
Узяў дачку Крэонта-ўладара, і вось
Медэя пачуваецца зняважанай –
Крычыць пра здраду клятвам і багоў усіх
За сведак заклікае быць: чым адплаціў
Ясон за вернасць ёй. Яна не есць, не п’е,
Пакутуе і целам, і душой; і час
Імкнецца ў слёзныя рыданні пераліць.
Яна сядзіць, глядзіць перад сабой,
Сваіх вачэй не падымае – з той пары,
Калі пра здраду ўведала Ясонаву,
Сяброў не слухае, маўчыць, нібы скала.
Ды зрэдку, шыю белую адкінуўшы,
Прыгадвае пра бацьку ці пра родны дом,
Якім яна калісьці гэтак здрадзіла,
Уцёкшы – дзеля мужа, што яе прадаў.
Цяпер праз гэткія пакуты ўцяміла
Яна, што гэта ёсць – пакінуць родны край.
Дзяцей узненавідзела яна сваіх:
Без радасці на іх глядзіць. Баюся я,
Што нешта прыйдзе ў галаву ёй кепскае.
Яна не церпіць крыўдаў: можа ўзяць штылет
Смяротна-востры – і ўваткнуць суперніцы
У сэрца, патаемна ў дом прабраўшыся,
Або забіць уладара ці жаніха,
Зрабіўшы новую бяду сабе. Бо гнеў
Яе жахлівы. Той, хто стаў ёй ворагам,
Бяскроўнай перамогі не даможацца.
Ды вось, набегаўшыся, хлопчыкі ідуць:
Пакуты маці ім не зразумелыя,
Бо розумам дзіцячым не ўспрымаюцца...
В ы х а в а л ь н і к. Старая гаспадыніна нявольніца,
Чаму адна стаіш ты перад брамаю
І скардзішся сама сабе? Чаму цяпер
Медэя хоча абысціся без цябе?

К а р м і ц е л ь к а. О, апякун стары Ясонавых дзяцей!
Для добрага нявольніка бяда, калі
Здараецца з гаспадарамі кепскае.
Бо ў скрусе гэткай я – не скажаш словамі, –
Што я чамусьці прагну расказаць зямлі
І небу пра няшчасці гаспадыніны.
В ы х а в а л ь н і к. І што – яна ўсё плача па-ранейшаму?
К а р м і ц е л ь к а. Ты што! Не вычарпаўся й да паловы боль...
В ы х а в а л ь н і к. Дурніца... хоць пра гаспадынь не кажуць так,
Пра беды новыя ж не ведае яна...
К а р м і ц е л ь к а. Пра што, пра што? Ну, гавары хутчэй, стары!
В ы х а в а л ь н і к. Нічога... проста так зляцела з языка.
К а р м і ц е л ь к а. Тваёю заклінаю барадой, скажы
Рабыні (бо й ты ж – раб)! І буду я маўчаць...
В ы х а в а л ь н і к. Я чуў пра гэта, як праходзіў паўз гульцоў
У шашкі – а яны мяне не бачылі...
Сядзяць старыя ля Пейрэны вод святых.
Дык вось: з Карынфа захацеў прагнаць
Дзіцёнкаў гэтых разам з маці валадар
Крэонт. Але ці тыя чуткі спраўдзяцца,
Не ведаю і маю ўсё ж спадзеў, што не.
К а р м і ц е л ь к а. А што Ясон? Як гэта ён пераjжыве –
Няхай сабе й ён разышоўся з жонкаю?
В ы х а в а л ь н і к. Мілосць былая новай выцясняецца,
А ён – ужо не сябар дома нашага.
К а р м і ц е л ь к а. Відаць, канец нам тут: калі яшчэ бяду
Мы дадамо, ранейшай не адолеўшы...
В ы х а в а л ь н і к. Ты ж гаспадыні не кажы нічога, аж
Пакуль даведацца ёй не надыдзе час!
К а р м і ц е л ь к а. О, дзеці! Чуеце, што хоча бацька ваш?
Ды смерці не магу жадаць я ўладару
Свайму, хаця да блізкіх ён бязлітасны...
В ы х а в а л ь н і к. Хто ж іншы між смяротных?
Ці не бачыш ты,
Што кожны любіць сам сябе, чым бліжняга,
Куды як больш – калі не выгадна інакш?
Ад жарсці новай бацька разлюбіў дзяцей.
К а р м і ц е л ь к а. *[Дзецям:]*
А неяк, дзеткі, будзе ўжо... Ідзіце ў дом!
*[Выхавальніку:]*
А ты трымай іх як далей ад мацеры,
Бо ў роспачы яна, і я заўважыла,
Як люта часам зіркае на іх яна.
Баюся, можа ўдумаць нешта кепскае:
Ахвяры трэба ёй, каб гнеў утаймаваць –
Абы між ворагаў, а не сярод сваіх...
Голас М е д э і. Ах, гаротная я, няшчасная!
Ах, бяда! Я памерці хачу!
К а р м і ц е л ь к а. *[Дзецям:]*
Вось ізноў, дзеці мілыя, гнеў
Вашай маці рве сэрца й душу.
Паспяшайцеся ў дом – як далей

Ад вачэй раздражнёных яе...
Лепш маўчыце, хавайцеся лепш
Ад памкненняў жанчыны ліхіх,
Ад злосці яе –
Паспяшайцеся хуценька ў дом!
Зараз воблака стогнаў яе
Запалае ад злосці такой,
Што ж тады застаецца рабіць
Непакорлівай вечна душы,
Як гнеў яе так джаліць?
Голас М е д э і. Ах, цярпела, стагнала я! Каб,
Дзеці маці паганай, праклён
Вас дагнаў: каб вам кончыцца тут
Разам з бацькам і домам ліхім!
К а р м і ц е л ь к а. Ах, бяда! ах, няшчасце маё!
Што там бацька зрабіў... ці ж віна
Ў тым дзяцей? І чаму ты іх так
Ненавідзіш? О, дзеці, баюся за вас –
Што жахлівы чакае вас лёс..
Гнеў жахлівы ў цароў: так прывыклі яны
Валадарыць, а слухацца – не!
Лепш яно – паміж роўнымі жыць:
Я б хацела спакойна дажыць да канца
Дзён сваіх. Памяркоўнасць заўжды
І на словах, і ў справах прыносіць свой плён!
Як забудзе, аднак, чалавек пра яе,
Трэба толькі нягодаў чакаць.
А найгорш, як раз'юшыцца бог
І пакажа свой нораў – тады
І роду ўсяму будзе ліха.

### *[Парад]*

[Х о р карынфскіх жанчын, К а р м і ц е л ь к а, М е д э я (за сцэнай)]

Х о р. Чулі голас мы, чулі воклічы мы
Калхінянкі няшчаснай, Яна ўжо
Не, не сціхне. Але кажы,
Цётка! Праз дзверы палаца двайныя
Мы чулі стогн:
Радасці нам не нясуць, о жанчына, пакуты сям'і,
Бо яе даўно любім шчыра мы ўсе!
К а р м і ц е л ь к а. Дык сям'і ж няма! Гэта ўсё прайшло:
Прыкаваў яго ложак царэўны той.
Гаспадыня ж марнее ў пакоях сваіх,
І нікому з сяброў не сагрэць яе,
Не суцешыць ужо яе нічым...
Голас М е д э і. Ах, бяда!

Ах, пярун б’е нябесны мне ў галаву!
І навошта, які сэнс мне жыць яшчэ?!
Ох, калі б мне дала паратунак смерць:
Я жыццё гэтае ненавіджу!
Х о р.
*[Страфа]*
Чуеш, Дзэўс? А Сонца, Зямля? –
Як няшчасная стогне там
Маладзіца?
Навошта шукаеш ложак,
Вар’ятка: яго не будзе!
Хацела б ты смерці хуткай?
Малі не аб гэтым!
Прагне муж твой цяпер новай нявесты? Нашто
Праклён слаць яму за тое?
На Дзэўса спадзевы ўскладвай
І не знішчай сябе плачам па сваім былым!
Голас М е д э і. О Феміда! О Артэміда слаўная!
Паглядзіце цяпер на пакуты мае,
Хоць жа клятву даваў мне пракляты мой муж!
Каб жа ўбачыць нявесту й яго – абаіх –
Мерцвякамі ў руінах палаца таго,
Бо ж, бязвіннай, мне столькі ўчынілі бяды...
О, радзіма, о бацька, я брата свайго
Так ганебна забіла й ад вас уцякла!
К а р м і ц е л ь к а. Ці вы чуеце, што прамаўляе яна
Да Феміды да помснай, да Дзэўса, які
Клятвы людскія адсочвае?
Мала веры даю, што ўладарка мая
Помстай малой абмяжуецца.
Х о р.
*[Антыстрафа]*
Калі б толькі да нас яна выйшла
І пачула ад нас крыху
Слоў суцяшэння,
Калі б толькі свой смутак змрочны,
Сваю ўпартасць яна суняла!
Мы ніколі сваёй дабрынёй
Не абыдзем сваіх сяброў.
*[Карміцельцы:]*
Ды няхай яна
З дому прыйдзе сюды.
Па яе паспяшайся: не выйшла б чаго!
Каб сваім не нашкодзіла ў роспачы той.
К а р м і ц е л ь к а. Але, пайду. Ды ўсё ж баюся, што
Царыцу я не ўгавару.
Зраблю ўсё магчымае дзеля яе...
Ды, як цяжарная львіца, яна,
Глядзіць на нявольніцу сваю,
Калі тая хоча нешта сказаць...
Сказаць, што даўней у людзей было
Замнога розуму, я не хачу.

Урачыстыя гімны складалі яны
Для застолляў, бясед, каб уславіць жыццё.
Ды ніхто не прыдумаў мелодый для струн,
Што нянавісць, тугу між смяротных маглі б
Прыпыніць з дапамогаю таленту муз,
Калі смерць ды няшчасці ўламаліся ў дом...
Ах, каб танцамі, спевамі можна было
Боль і смутак смяротных суцішыць як след!
Што рабіць на вясёлых застоллях усім
Тым музыкам? Нашто тое гранне, нашто,
Калі цешацца людзі папросту з таго,
Што пітвом і ядою застаўлены стол?
Х о р.  Мы чуем зноў яе рыданне, стогн,
Свой боль выкрыквае яна, праклён
Страшэнны свой сужэнцу-здрадніку.
Ахвяра здрады моліцца багам –
Фемідзе, Дзэўсавай дачцэ: яна ж
Перапраўляла
Яе ў Эладу некалі,
Праз воды быстрыя затокі ў той
Салёнай гарлавіне.

## *[Эпісодый першы]*

[М е д э я, К р э о н т, Х о р]

М е д э я. Да вас я выйшла з дому, карынфянкі, каб
Не дакаралі вы мяне. Бо ведаю,
Што ёсць людзей нямала з гордасцю: адны
Ад позіркаў хаваюцца, а хтось пры ўсіх
Наперад лезе; толькі ўсё адно яны
Праз пыху іхнюю ды абыякавасць
Нядобрыя. Праўдзівасць – не ў вачах людскіх:
Падман у іх бывае – дый яшчэ які,
Нянавісць праглядае беспрычынная.
Бо мусіць прыхадзень мясцовай грамады
Заўсёды слухацца і не ўхваляць таго,
Хто йдзе ёй насупор з упартасці сваёй.
Бяда мне кроіць сэрца нечаканая –
І свет не мілы мне, жанчыны мілыя,
І ўцехаў больш няма, і жыць не хочацца!
Той, хто мне быў усім, павёў сябе найгорш –
І гэта, ведаеце, быў мой муж. З усіх
Істотаў, што жывуць і мысляць на зямлі,
Бывае нам, кабетам, найцяжэй заўжды.
Спачатку мы нятанна плацім за мужоў –
І назаўжды тырана маем над сабой.
Ды гэта не найгоршае: няведама,
Ці добры, ці благі табе натрапіцца...
Пакінуць мужа ў нас ганебным лічыцца –

Тады жанчына мае славу кепскую.
Жанчына мусіць быць празорлівай, калі
У дом чужы ідзе, бо не навучана,
Як выбраць, з кім дзяліць ёй ложа шлюбнае.
Калі ў тым шчасціць нам і муж сваё ярмо
Без слоў аддана валачэ, тады жыццё
Зайздроснае. Калі ж яно не так, дык лепш
Сканаць адразу! Бо тады, стаміўшыся
Ад сварак, муж шукаць уцех ідзе набок,
Шукае аднагодкаў, колішніх сяброў...
А нам глядзець на аднаго даводзіцца.
Мы чуем: дома нам бяспечна жыць,
А ім – хадзіць на бітвы трэба з дзідамі.
Які падман! Я тры разы, узяўшы шчыт,
Пайшла б на бітву лепш, чым раз хоць нараджаць.
Ды словы да мяне інакш стасуюцца,
Чым да цябе: твой горад, дом бацькоў тваіх,
Ты цешышся з жыцця, сяброўак маеш шмат,
А я адна, без котлішча; пакрыўджана
Тым чалавекам, што мяне ў чужыну звёз;
Ні маці, ні братоў, ні сваякоў няма,
Каб хоць які знайсці ратунак ад бяды.
Хацела б папрасіць у вас я аднаго:
Калі знайду я спосаб і магчымасці
За крыўды мужу адплаціць, як заслужыў
[– І цесцю, і дачцэ яго, разлучніцы –],
Дык вы маўчыце. Бо кабета хоць мячоў
Жалезных ды крыві жахаецца,
Ды, як зняважыць нехта ложа шлюбнае,
Няма душы на свеце крыважэрнейшай...
Х о р. Мы згодныя. Ты мужу мусіш адплаціць,
Медэя! Смутак твой зусім не дзівіць нас.
Ды вунь Крэонт ідзе, краіны валадар:
Відаць, ён нам абвесціць нешта новае.
К р э о н т. Табе, няветлай і на мужа ўгневанай,
Медэя, край пакінуць я загадваю
Хутчэй, з сабою ўзяўшы абаіх дзяцей.
Я сам за гэтым прасачыць збіраюся,
Дадому не вярнуся, аж пакуль не выганю
Цябе я прэч за межы краю нашага.
М е д э я. Ай-яй! Якое гора мне! І ветразі
Запоўніў вецер на варожых караблях,
І паратунку я не маю ад бяды!
Хоць нішчыш ты мяне, я ўсё ж спытаюся:
За што ты гоніш прэч мяне, Крэонт?!
К р э о н т. Я – што хаваць? – баюся, каб маёй дачцэ
Ты ліха не ўчыніла непапраўнага.
Прычын нямала ёсць для гэткай боязі.
Ты – хітрая занадта і падступная;
Ад страты мужа моцна ты пакутуеш.
Я чуў таксама ўжо, што пагражала ты
Нявесце, жаніху, і нават мне, цару.

Пакуль мы цэлыя, цябе ўгняўлю я лепш,
Чым буду каяцца, што даўся слабасці.
М е д э я. О, гора мне! Не першы раз ужо, Крэонт,
Мне слава шкодзіла мая і ліха шмат
Прынесла. Бо зусім той не мудрэц, хто сам
Сваіх дзяцей разумнымі выхоўвае.
Суграмадзяне гультаямі назавуць
Іх ад сваёй нянавісці і зайздрасці.
Калі ж ты будзеш дурняў мудрасці вучыць,
У іх здабудзеш ты няславу лайдака.
А ўзвысішся над імі хоць бы на драбок,
Дык будзеш горадам узненавіджаны.
Спазнаць і мне такую долю выпала.
Адны зайздросцяць розуму майму, другім
Здаюся абыякавай, а трэція
Мяне суворай лічаць – дзе ж той розум мой!
Ты ў страху, каб чаго не нарабіла я ,
Ды я ж няшмат магу – Крэонце, не дрыжы!
Не ў галаве ў мяне замах супроць цароў.
Ды і з чаго б? Што выдаў, як хацеў, дачку?
Мой муж мяне дапёк, а ты ж усё зрабіў
У гэтым выпадку зусім разважліва.
І не зайздрошчу я, што ў доме вашым лад.
Бярыце шлюб, хай шчасціць вам, але, прашу,
Дазволь мне не з’язджаць. Хоць я й пакрыўджана,
Ды абяцаю ўсё ж маўчаць пакорліва.
К р э о н т. Ты кажаш соладка, але ўнутры ў мяне
Ёсць боязь, што ліхое ты задумваеш.
Табе цяпер я меней веру, чым раней.
Бо ад запальчывых людзей лягчэй заўжды
Засцерагчыся, чым ад хітрых маўчуноў.
Прэч, прэч адсюль! І не апраўдвайся,
Бо так я вырашыў і не паслухаю
Тваіх намоваў, ты ж бо мне – варожая.
М е д э я. Не! Дзеля маладой клянуся, ўкленчыўшы...
К р э о н т. Мяне ты не ўгаворыш, слоў больш не марнуй.
М е д э я. І што – прагоніш, хоць я так цябе малю!?
К р э о н т. Вядома! Бо сям’я мне даражэйшая...
М е д э я. Мая радзіма! Як цябе я ўзгадваю!
К р э о н т. І я, апроч сям’і, свой горад жа люблю...
М е д э я. Ах, гэтая любоў – бяда для жыхароў!
К р э о н т. А гэта – як каму: ўсё вызначае лёс...
М е д э я. О Дзэўс! Хай кара знойдзе вінаватага!
К р э о н т. Прэч, прэч, вар’ятка, не змушай цярпець пакут!
М е д э я. Пакуты церпім мы, й нашмат мацнейшыя...
К р э о н т. Цябе прагоняць служкі – дачакаешся!
М е д э я. Не-не, Крэонт! Благаю і малю цябе...
К р э о н т. Здаецца, ты, жанчына, робіш клопат мне.
М е д э я. Я край пакіну. А малю я не аб тым...
К р э о н т. Чаго ж ты хочаш, не адчэпішся ніяк?
М е д э я. Дазволь застацца мне тут на адзін дзянёк –
Падумаць, шту і як, куды падацца мне,

І дзетак дзе пакінуць, бо іх бацька ўжо
Пра іх не паклапоціцца. Паспачувай
Ты ім. Бо ты ж таксама – бацька. І табе
Не можа быць чужым спагады пачуццё.
Выгнання не баюся... а што плачу я –
Дык толькі над няшчаснай доляю дзяцей.
К р э о н т. Натурай не тыран я, толькі шмат разоў
Сабе самому ўжо нашкодзіў моцна я.
І ведаю, што зноўку памыляюся –
Ды хай па-твойму будзе. Толькі памятай:
Як сонца ўспыхне боскаю паходняй зноў
І межаў краю з дзецьмі не пакінеш ты, –
Цябе чакае смерць, і я не схіблю ў тым!
Я дзень даю табе, бо маю ўсё ж спадзеў,
Што ты не ўчыніш нечага жахлівага.
Х о р. [Ах, жанчына няшчасная!]
Як пакутаваць цяжка табе давялося!
І куды йсці табе? Дзе гасцінны той дом
Ці то край, што ў няшчасці прыняў бы цябе,
Даў ратунак табе й абарону?
У якую ж прорву пакут бог суровы,
Медэя, цябе выпраўляе!
М е д э я. Усё так дрэнна... што тут я магу сказаць!
Але на гэтым не канец, не думайце,
І маладым яшчэ нялёгка прыйдзецца,
І сваякі нямала папакутуюць.
Няўжо б яго я слёзна так упрошвала,
Калі б карысліва штось не задумала? –
Маўчала б толькі ды не зварухнулася б!
А ён, зусім без клёку ў галаве, замест
Таго, каб проста ўзяць ды прэч прагнаць мяне,
Даў мне яшчэ адзін жаданы дзень, каб я
Магла прыкончыць лёгка ворагаў траіх –
І бацьку, і дачку, й таго, хто мужам быў...
На тое маю шмат, сяброўкі, спосабаў,
Ды выбраць мне які – не ведаю пакуль:
Ці дом нявесцін падпаліць, ці ім усім
Завостраным мячом пячонкі ўраз праткнуць,
Крадком прабраўшыся да ложа шлюбнага?
Адно мяне бянтэжыць: могуць жа схапіць
Мяне, перш чым я прабяруся ў іхні дом –
Тады загіну я, пад здзекі ворагаў.
Найлепш правераны мне сродак скарыстаць –
Са свету зжыць, атруты ім падсыпаўшы...
Хай будзе так! Ды што рабіцьму я пасля?
Дзе край, дзе сябар той, якія мне далі б
Надзейны сховў, прыстанішча бяспечнае? –
Няма такіх. Мне давядзецца вычакаць
І, толькі збудаваўшы ладны мур,
Забойства ўпотайкі як след падрыхтаваць.
Калі, аднак, лёс неадольны мне не дасць
Таго зрабіць, я меч вазьму – і ўсё адно

Пазабіваю іх: мне хопіць смеласці!
Магу паклясціся ўладаркаю, найбольш
Мной шанаванаю сярод усіх багінь –
Гекатай, апякункай котлішча майго,
Што ад тых слёз маіх не ўсцешыцца ніхто!
Вяселле будзе горкім і цяжкім для іх,
Боль высланай сваячкі дасца ў знакі ім!
Наперад! Не шкадуй спрактыкаванасці
Сваёй, Медэя! Да драбніц узваж усё!
На страшны чын наважся! Сэрца мужнасцю
Напоўні! Ты ж не можаш стаць пасмешышчам
Ясона жонкі, што з Сізіфавай радні,
І зганьбіць тым кроў Гелія свяшчэнную!
Бо гэта ўмееш ты. Жанчыны створаны
Прыродаю не столькі, каб дабро рабіць...
Ліхое ж выдумаць – куды спраўнейшыя.

## *[Стасім першы]*

Х о р.

*[1-я страфа]*
Вось хваляў свяшчэнных
Назад плынь коціцца ўжо:
Праўду і ўсё
Ў нас павярнула жыццё!
Столькі падступства ў мужоў, і божая
Воля ніяк іх не страшыць.
Можа, так нам выйдуць на добрае
Пагалоскі-чуткі,
Гонар, павагу сабе
Вернуць жанкі:
Славы нядобрай цяжар больш нас не будзе даймаць.

*[1-я антыстрафа]*
Зусім забудзецца музаў спеў
Даўні аб той
Здрадзе, бо нам
Не, не даў здольнасці
Боскія песні спяваць, пад лірны гук,
Фэб, што вядзе ўсе спевы. Мы б хацелі
Праспяваць у адказ мужчынскаму роду,
Бо за ўвесь час, што прайшоў,
Ёсць што сказаць нам пра лёс
Наш і лёс нашых мужоў.
*[2-я страфа]*
Было ўсё так: з роднай зямлі
Сюды вось з сэрцам шалёным
Праз скалы падвойныя
Ты прыплыла.

Без мужа на чужыне
І, страціўшы ложа шлюбу,
Ты, гнаная прэч з чужыны,
Няшчасная, з ганьбай ідзеш.
*[1-я антыстрафа]*
Забытыя клятвы зусім, і сорам
Знік у паветры з Элады славутае
Незваротна. Дом бацькавы дзе цяпер?
Хто змог бы заступнікам быць,
Бед, ліха цябе пазбавіць?
Нявеста-царыца ў доме
Другая цяпер ёсць.

## *[Эпісодый другі]*

[М е д э я, Х о р, Я с о н]

Я с о н. Не навіна: я ведаю, і ўжо даўно,
Што злоба дзікая стварае ліха шмат.
Ты б і цяпер магла радзіму мець і дом,
Калі б слухмянай прад мацнейшымі была –
За гэта вінаваць язык распушчаны.
Ды мне ўсё роўна. Можаш і далей казаць
Няспынна, што Ясон – найгоршы чалавек.
Але за сказанае тут пра царскі дом...
Ты цешся, што адно ідзеш ты ў высылку.
А царскі гнеў заўжды ўлагоджваў я –
Хацеў, каб ты магла застацца тут... Але ж
Ты робіш глупствы, гэтак кажучы цяпер
Пра царскі дом, – таму цябе і выгналі...
А я сяброў ніколі не зракаюся,
Кабета, і прыйшоў сюды – падбаць,
Каб ты жабрачкаю ў свет з дзецьмі не пайшла.
Бо ж у выгнанні не бывае соладка.
Хоць ненавідзіш ты мяне, ды ўсё ж такі
Ніколі я табе ліхога не жадаў.
М е д э я. Ах ты, нягоднік! Не знаходжу горшых слоў,
Каб гідкую тваю падступнасць выявіць.
І ты прыйшоў да нас вось гэтак, стаўшы ворагам,
[Багам магутным, роду чалавечаму!]
Не смеласць гэта, не велікадушнасць, не! –
Зрабіўшы блізкім ліха, ў вочы ім глядзець.
А бессаромнасць гэтая – найгоршая
Сярод заган людскіх. А добра ўсё-ткі, што
Прыйшоў ты: будзе мне лягчэй, як выкажу
Сваю пагарду я табе й тым дапяку.
Але найперш скажу табе пра першае:
Цябе я ўратавала – ведаюць усе,
Хто плыў тады з табою разам на “Арго”:
Табе паслалі агнядыхальных быкоў, –

Запрэгчы, каб смяротны ты засейваў лан.
Няўсыпнага дракона я забіла: ён
Над залатым руном у кольцы скручваўся...
То ж я прынесла ўратавальнае святло.
Тады я дом свой і бацькоў пакінула,
З табой на Пеліён паехала, у Ёлк –
Куды не розум вёў мяне, а пачуццё, –
Там смерць жахлівую ўчыніўшы Пелію,
Ад рук дачок – ты ж страху не зазнаў таго.
І вось за гэта, найнягоднейшы з людзей,
Ты здрадзіў мне, нанова ажаніўшыся,
Хоць маеш дзетак... Калі б ты бяздзетны быў,
Табе б я даравала жарсць да іншае.
У клятвы веры больш няма: не ведаю,
Ці верыш ты ва ўладу тых старых багоў,
Ці, можа, прынцыпы існуюць новыя,
Калі свядома мне ты гэтак здраджваеш?
Ах, правая рука, якую песціў ты,
Калені, да якіх гарнуўся – гора вам!
Нягоднік, як я горка ашуканая!
Няхай! Звярнуся як да сябра да цябе,
Хоць добрага нічога й не чакаючы,
Але каб лепш тваю падступнасць выявіць:
Куды ж цяпер падацца мне? Да бацькі ў дом,
У край, якому здрадзіла дзеля цябе?
Да Пелія дачок хіба што? Ну, яны
Забойцу бацькі павітаюць з радасцю...
Я сваякам варожаю зрабілася –
А тых, каму я мела быць апірышчам,
Дзеля цябе ператварыла ў ворагаў...
Вось так сярод жанчын Элады ты зрабіў
Мяне шчаслівай самай, вось падзяка мне.
Такі вось верны муж... а я няшчасная!
Край пакідаю, выгнаная, без сяброў,
Са мною толькі дзеткі. Варты пахвальбы
Той малады, што жабраваць іх выправіў
На пару з ратавальніцаю колішняй!
О Дзэўс! Ты ж навучыў людзей адрозніваць,
Дзе золата сапраўднае й падробка дзе,
Але ж чаму ў нягоднікаў не высмаліў
Таўро на целе, каб было іх як пазнаць?!
Х о р. Жахлівы, неўтаймоўны выбухае гнеў,
Калі ўзнікае сварка паміж блізкімі!
Я с о н. Відаць, патрэбны немалы дар слова тут,
Каб, нібы пільны стырнавы на караблі,
Вятрылы апусціўшы, уцячы ад хваль
Тваёй, жанчына, языкатасці ліхой.
Занадта хваліш ты заслугі тут свае:
Між тым, з усіх багоў і ўсіх людзей адна
Кіпрыда паратунак мне дала. Хоць твой
І спраўны розум, ды не хочаш ты прызнаць,
Як бог Эрот пры дапамозе трапных стрэл

Цябе падбіў уратаваць маё жыццё. Але
Не буду тут я ўдакладняць, бо ўсё ж такі
Ты мне дапамагала – як там ні было б.
Я доказы падам, што за ратунак мой
Ты атрымала болей, чым дала сама.
Найперш, што ты ў Эладзе, а не ў варварскіх
Краях жывеш, што ты пад абаронаю
Законаў – не ва ўладзе сілы грубае.
І э́ліны ўсе ведалі пра розум твой –
Тым славу здабыла ты. А калі б жыла
На ўскрайку свету, хто ж бы пра цябе ўзгадаў?
Мне не патрэбнае было б ні золата,
Ні дар спяваць хоць за Арфея лепш, –
Калі б мой лёс быў славай не асвечаны.
Ды пра цябе пачаў я тут казаць таму,
Што ты вайну на словах пачала сама.
А што да шлюбу да майго з царэўнаю...
Я давяду, што ўчынак мой разумны быў
І мудры, да таго ж карысны і табе,
І дзецям... Ты мяне спакойна выслухай:
Калі прыйшоў я з Ёлка ў гэты край,
Затурканы бясконцымі нягодамі,
Як мне, уцекачу, пашчасціць лепш магло б,
Апроч як шлюб узяць з самой царэўнаю?
Не ад нянавісці – як цвеліш ты сябе –
Ці ад жадання мець нявесту новую
Ці ад імкнення напладзіць найбольш дзяцей –
Мне хопіць тых, што ёсць, і я не скарджуся, –
Галоўнае, каб мець дастатак, добра жыць,
Бо я ўжо добра ведаю, што ўбогага
Ўсе абмінаюць – нават лепшыя сябры;
Дзяцей узгадаваць, нашчадкаў роду годнага,
І да народжаных табою далучыць братоў,
Іх роўнымі правамі надзяліць і род
Увесь мой аб’яднаць, і ў згодзе жыць. Нашто
Табе яшчэ прыплод? Мне ж дзеці новыя
Патрэбны, каб старым дапамагчы. І што,
Ці ж кепска гэта? З тым і ты згадзілася б,
Калі б не жэрла рэўнасць... У жанчын заўжды
У галаве адно: захоўваць шлюб – і ўсё.
А як што здарыцца са шлюбам, вы тады
І ўсё найлепшае ўжо ненавідзіце...
Каб дзеці ў іншы спосаб нараджаліся
І ў тым жанчыны ўдзелу каб не мелі – вось
Тады б нашмат лацвей жылі смяротныя.
Х о р. Ясоне, красамоўна ты выказваўся,
Ды нам здаецца, – кажам хоць супроць цябе –
Што ты ўчыніў нядобра, жонцы здрадзіўшы.
М е д э я. Я думаю інакш за шмат каго з людзей:
Па-мойму, той, хто іншым чыніць крыўды, хоць
Гаворыць гладка, кары заслугоўвае
Найбольшай; зло ён языком прыгладжвае,

На ўсё ўжо здатны, хоць без лішняй мудрасці...
Таму нас не палохай красамоўнасцю
Сваёй, бо словам я цябе заб'ю адным:
Калі б не быў ты подлы, ты б даверыўся
З тым шлюбам мне, а не хаваўся б ад мяне.
Я с о н. Ага, тваю падтрымку, пэўна ж, я б займеў,
Калі б пра шлюб сказаў табе... Ты ж і дасюль
Не можаш злосць сваю ніяк утаймаваць.
М е д э я. Не ў тым прычына: жыць з чужынкай нейкаю
На старасці было б цяжарам для цябе.
Я с о н. Павер мне: тут жанчына ні пры чым, што я
Узяў шлюб з царэўнай – тут прычына іншая.
Як я казаў, я ўратаваць хацеў цябе,
А дзецям нарадзіць братоў-царэвічаў
І дому гэткім чынам даць апірышча.
М е д э я. Не трэба шчасця мне, што прычыняе боль,
Як і багацця, што дашчэнту сэрца рве.
Я с о н. А ведаеш, як можна ўсё змяніць і стаць
Мудрэйшаю? Ты добрым не цвялі сябе
І ў шчасці не ўдавай з сябе няшчасную.
М е д э я. Ты можаш кпіць так, маючы прыстанішча,
А я ў выгнанне выпраўляцца змушана.
Я с о н. Твой выбар – і нікога ў тым не вінаваць.
М е д э я. Мой выбар? Я ўзяла шлюб, здрадзіўшы табе...
Я с о н. Уладцаў краю дзёрзка праклінала ты.
М е д э я. ...І я пракляццем роду сталася твайму.
Я с о н. Больш я з табой спрачацца не збіраюся.
Але, як хочаш у дарогу на дзяцей
Ці на сябе мець грошай ад мяне, скажы:
Гатовы шчодра я дапамагчы й яшчэ
Даць пэўны знак сябрам, каб падтрымалі вас.
*[У адказ на адмоўны Медэін жэст.]*
... Дарэмна ты, жанчына, адмаўляешся:
Суціш свой гнеў і, праўда, будзе лепш табе ж!
М е д э я. Не трэба мне паслугі ад тваіх сяброў,
І ад цябе нічога не вазьму – і не давай:
Няма карысці ад дароў ліхіх людзей.
Я с о н. Дык вось, няхай багі мне будуць сведкамі,
Што я хачу ўсяляк дапамагчы табе
І дзецям, а ты ўпарцішся й сяброў сваіх
Адпіхваеш. Ну што ж, табе тым будзе горш.
М е д э я. Ідзі сабе! Па жонцы маладой, відаць,
Засумаваў ты... і ўжо з дому так даўно.
Спраўляй вяселле! Бог дасць: возьмеш шлюб такі,
Што будзеш калі-небудзь праклінаць яго.

### *[Стасім другі]*

Х о р.
*[1-я страфа]*
Каханне, буяючы так,

Ніколі людзям годнасці,
Славы прынесці не можа.
Толькі калі йдзе Кіпрыда,
Між багіняў самая вартая шаны.
О багіня! Не высылай на мяне атрутных, трапных
Стрэлаў жарсці неадольнай той.
*[1-я антыстрафа]*
Найлепшы дарунак багоў –
Хай хопіць тут нам сціпласці,
Каб не спазнаць нам ніколі
Гневу знішчальнага, сварак,
Спрэчак злосных, цягі да ложка чужога –
Лепш Кіпрыда тая жахлівая
Няхай вострым клёкам
Шлюбам жанок апеку падорыць.
*[2-я страфа]*
Мілы наш край, любы наш дом,
Каб не спазнаць выгнання
Нам ніколі й бездапаможна
Не блукаць у скрусе
Ды не пакутаваць так!
Лепш бы смерць нас нагнала
Недзе – толькі б
Дня не ўбачыць гэткага нам.
Не можа быць большых пакут,
Як дом твой у цябе забяруць.
*[2-я антыстрафа]*
Бачылі мы самі як след –
Сведкаў нам больш не трэба,
І скажам мы так, як ёсць:
Да цябе ні сябры, ні горад
Літасці не мелі, як ты цярпела
Пакут велізарных цяжар.
Хай ліха возьме
Тых, хто здрадзіў лепшым сябрам,
Пракраўшыся так падступна
У чыстае сэрца –
Не можа быць нам сябрам гэткі!

## *[Эпісодый трэці]*

[А й г е й, М е д э я, Х о р, К а р м і ц е л ь к а]

А й г е й. Медэя, цешся! Прывітання між сяброў
Няма і быць не можа прыгажэйшага.
М е д э я. О цешся й ты, сын Пандыёна мудрага,
Айгей! Скуль ты прыбыў на гэтую зямлю?
А й г е й. Іду з вяшчальні Фэба старадаўняе.
М е д э я. Нашто ж быў Пуп Зямлі табе з аракулам?
А й г е й. Спытаць, ці мне дзяцей наканавана мець.

М е д э я. Багі мае, ці ўсё яшчэ бяздзетны ты?
А й г е й. Бяздзетнымі нас пакідае нейкі бог.
М е д э я. Ці маеш жонку ты, ці шлюбу не спазнаў?
А й г е й. Не, шлюбнага ярма я не пазбаўлены.
М е д э я. І што наконт дзяцей табе прадказваў Фэб?
А й г е й. Таго спасцігнуць розумам не дадзена.
М е д э я. Ці прадказанне гэтае магчыма чуць?
А й г е й. Вядома ж... пагатоў тут трэба добры клёк.
М е д э я. І што ж сказаў ён – калі ўведаць можна мне?
А й г е й. Каб мех я не развязваў да канца, пакуль...
М е д э я. ...Пакуль не зробіш штось, не прыйдзеш некуды?
А й г е й. ...Да бацькавага не вярнуся котлішча.
М е д э я. Дзеля чаго ж тады прыплыў ты ў гэты край?
А й г е й. Бо тут жыве Пітфэй, трайзенскі валадар.
М е д э я. Пабожны бацька, кажуць, у яго – Пелоп...
А й г е й. З тым прадказаннем да яго хачу прыйсці.
М е д э я. Ён мудры муж і ў справах тых дасведчаны.
А й г е й. І мне ён найбліжэйшы між паплечнікаў.
М е д э я. Табе я зычу дасягнуць жаданага.
А й г е й. Чаму ж твой позірк сумны й так змарнела ты?
М е д э я. Айгей, мой муж – найгоршы між усіх мужоў.
А й г е й. Што кажаш? Пра сваю бяду распавядзі.
М е д э я. Я збэшчана Ясонам, без віны зусім.
А й г е й. І што ж ён учыніў? Дакладней раскажы!
М е д э я. Узяў у дом ён гаспадыню іншую.
А й г е й. Ці ж ён на ганьбу гэткую наважыўся?
М е д э я. Вось-вось! Цяпер зняважаны ўсе блізкія.
А й г е й. Ён закахаўся ці яму абрыдзеў шлюб?
М е д э я. Ён блізкім здрадзіў – ад кахання ашалеў.
А й г е й. Хай прэч ідзе, як ён такі, як кажаш ты.
М е д э я. Ён парадніцца з царскім домам захацеў.
А й г е й. А хто ж яму дазволіць? Ну, кажы далей!
М е д э я. Крэонт, краіны валадар карынфскае.
А й г е й. Я ўвесь, жанчына, разумею смутак твой...
М е д э я. Прапала я й павінна стаць выгнанніцай.
А й г е й. Кім выгнаная ты? Яшчэ адна бяда...
М е д э я. Крэонт, карынфскі цар, такі аддаў загад.
А й г е й. А што Ясон? Зноў чыніць ён ганебнае...
М е д э я. Адно ён кажа, а выходзіць іншае.
Цябе я заклінаю барадой тваёй:
Укленчыўшы, малю ў цябе заступніцтва:
Май спачуванне да мяне, няшчаснае,
Не дай загінуць у выгнанні мне адной,
Прымі мяне ў сваім краі, ля котлішча!
Няхай багі тваё жаданне мець дзяцей
Урэшце споўняць і шчаслівы будзеш ты.
Не ведаеш, які ўва мне ты скарб знайшоў:
З тваёй бяздзетнасцю я скончу – так зраблю,
Каб ты дзяцей займеў: я сродкі ведаю!
А й г е й. Ёсць шмат падстаў, каб мне табе дапамагчы,
Жанчына, бо найперш хацелі б так багі –
І дзеля тых дзяцей, што ты прарочыш мне.

Бо гэта ў галаве ў мяне ўвесь час цяпер.
Дык вось: калі ў наш край прыбыць ты здолееш,
Тады прыму цябе з усёй гасціннасцю.
Але тут папярэдзіць я хачу цябе:
Адсюль цябе я не магу забраць з сабой.
А як сама да дому дойдзеш нашага,
Застацца зможаш, і цябе не выдам я.
Таму прыдумай, як ты дабірацьмешся,
Бо нараканняў ад сяброў чуць не хачу.
М е д э я. Хай будзе так. Каб запаруку даў ты мне,
Дык я не мела б і жадання іншага.
А й г е й. Што – ты не верыш мне? Трывога ў чым твая?
М е д э я. Я веру! Ды варожы мне дом Пеліеў,
Ну і Крэонт. Сябе звязаўшы клятваю,
Мяне ты ім ніколі ўжо не выдасі.
А проста так, багамі не пакляўшыся,
Ты можаш калі-небудзь, хоць ты й сябар мой,
Паддацца іх намовам. Бо я – слабая,
А ў іх багацце ёсць і ўлада царская.
А й г е й. Ну, ты абачлівасці выяўляеш шмат,
Але твайму жаданню не пярэчу я:
І для мяне лепш, як змагу я ворагам
Тваім, як што, падаць прычыну нейкую,
І для цябе. То кім жа клясціся з багоў?
М е д э я. Зямлі кляніся ўлоннем, светлым Геліем,
Прабацькам нашым, і багамі, што ў нас ёсць.
А й г е й. Дык што рабіць і не рабіць чаго, скажы!
М е д э я. Кляніся, што з тваёй зямлі не выганіш,
На просьбу ворагаў маіх не выдасі
Мяне добраахвотна ты, пакуль жывы.
А й г е й. Зямлі клянуся ўлоннем, Гелія святлом,
Багамі ўсімі – так рабіць, як кажаш ты.
М е д э я. Ну, досыць! А калі б ты клятвы не стрымаў?
А й г е й. Хай, як з бязбожнікам, са мною станецца.
М е д э я. Ідзі спакойна ўжо. Усё абладжана.
Я ў твой прыбуду край, як толькі я змагу,
Калі зраблю ўсё тое, што задумала.
Х о р. *[Да Айгея:]* Хай сын Маі, уладца, дадому
Адвядзе цябе: ўсё, што жадаў ты,
Хай жа здзейсніцца тут, бо прыстойна
Ты зрабіў усё.
Ты, Айгей, чалавек найсапраўднейшы.
М е д э я. О Дзэўс! О Дыке Дзэўсава! О Гелія
Святло! Цяпер, сяброўкі, я перамагу
Ўсіх ворагаў: цяпер мой высветліўся шлях!
Яны за ўсё заплацяць – гэткі мой спадзеў.
Бо чалавек у хвілю найцяжэйшую
З'явіўся гэты – і задумы здзейсню я,
І мне ён стане ўратавальнай лінаю,
Калі прыбудзем у Паладзін горад мы.
Цяпер задумы я хачу раскрыць свае,
Пачуйце словы, непрыемныя для вас.

Пашлю я да Ясона служку аднаго:
Хай просьбу перадасць, каб ён да нас прыйшоў.
Як прыйдзе – я лісліва патлумачуся:
Маўляў, і добра, што з царэўнай жэніцца,
І што ён здрадзіў мне, задумка спраўная,
І ўсё дарэшты ім прадумана як след.
Ды папрашу, каб дзеці тут засталіся.
Не для таго пакінуць я збіраюся
Іх тут, каб ворагам сваім аддаць на здзек,
А каб царэўну подлую са свету зжыць:
Дзяцей я да яе з дарункамі пашлю
(Нібыта, каб яна адсюль не гнала іх):
З уборам ладным, залатым вянком.
Уздзене гэта на сябе яна – й канец
Ёй і таму, хто дакранецца да яе:
Дары атрутай намачу смяртэльнаю.
Але пра гэта досыць... Я пакутую
Ад думкі, шту зрабіць мне прыйдзецца яшчэ –
Забіць сваіх дзяцей. І ўжо не дадзена
На свеце анікому іх уратаваць.
І знішчыўшы пад корань род Ясонавы,
Пакіну край я, ад крыві сваіх дзяцей
Куды далей, бязбожны ўчынак здзейсніўшы.
Мяне, сяброўкі, нішчаць кпіны ворагаў!
Хай прападзе ўсё! Жыць навошта? Ні зямлі,
Ні дому больш няма ў безабароннае...
Я цяжка памылілася, пакінуўшы
Дом бацькаў і намове таго эліна
Паддаўшыся! Дасць бог, заплаціць ён за ўсё!
Жывымі больш не ўбачыць ён маіх дзяцей
І не займее іх ад жонкі маладой:
Паганую чакае й смерць паганая
Ад сродкаў тых, прыгатаваных мной.
Ніхто не папракне ў пакоры й боязі
Мяне, а акурат наадварот – што я
Лагодная з сябрамі, злая з ворагам.
Жыццё вянчае толькі гэткіх славаю.
Х о р. Калі ты пра задуму нам распавяла,
Дзеля цябе ж, закон людскі шануючы,
Цябе мы просім толькі не рабіць таго.
М е д э я. Інакш я не магу, ды вам даруецца
Казаць так, бо няшчасця не зазналі вы...
Х о р. Жанчына, ці ж дзяцей забіць ты здолееш?
М е д э я. Ну так, я тым па мужу ўдару наймацней.
Х о р. Ты самай нешчаслівай будзеш між жанчын.
М е д э я. Няхай і так! Нашто тут словы марныя?
*[Да карміцелькі:]*
Ідзі, ідзі! Прыводзь Ясона найхутчэй!
Дасюль была ты мне ва ўсім адданаю,
Ды пра задуму не кажы маю, калі
Жанчына ты й да гаспадыні добрая.

### *[Стасім трэці]*

Х о р.
*[1-я страфа]*
Племя Эрэхтэева бласлаўлёнае,
Дзеці зямлі слаўных багоў, ад святых
Абшараў напаіліся мудрасцю вы.
Ушанаваныя ёй, туды,
Дзе празрысты эфір,
Вы рушыце, дзе некалі
Дзевяць цнатлівых
Муз-Піерыдаў,
Як кажуць, спарадзіла
Светлакудрая
Нам Гармонія.
*[1-я антыстрафа]*
І кажуць, ад водаў Кефісавых бярэ
Ўсё Кіпрыда:
Ветру павевы, які
Лагодна так, шчодра
Абвявае наш край.
І, у свае валасы
З руж пахкі вяночак яна,
Ўплятаючы, шле нам
Памагатых развагі,
Пекных Эротаў, якія ў дабрадзействах
Ва ўсялякіх спрыяюць нам так.
*[2-я страфа]*
Як горад свяшчэнных тых вод,
Край дарагіх сяброў
Здолееў бы гасцінна
Нягодную ўзяць ды прыняць,
Забойцу сваіх дзіцятак,
Дзе людзі жывуць звыкла?
Задумайся, што ты робіш,
Як кепска, злачынна гэта!
Мы молім, укленчыўшы:
Іх не забівай!
*[2-я антыстрафа]*
Адкуль набярэшся ты сіл
Сэрца ўзмацніць, руку
Супраць тваіх дзетак,
Жахлівую смерць учыніць?
Ім як ты зірнеш у вочы,
Ці слёзы стрымаць зможаш?
Не здолееш ты так проста,
Як дзетак пачуеш мольбы,
Запляміць руку іхняй
Роднай кроўкаю!

### *[Эпісодый чацвёрты]*

[Я с о н, М е д э я, К а р м і ц е л ь к а]

Я с о н. На заклік твой прыйшоў я, хоць без прыязі
Ты да мяне. Ды я гатовы выслухаць
Цябе, жанчына. Чым магу дапамагчы?
М е д э я. Прабач, Ясоне, мне за ўсё, што я табе
Нагаварыла. Добра, што мой гнеў стрываў
Ты мужна, бо ў нас столькі добрага было...
Падумала я – й дакараю ўжо сябе:
“Я, жорсткая, чаму я раззлаваная
І лаю тых, хто хоча мне адно дабра?
Нашто на краю ўладароў варожасцю
Мне дыхаць ды на мужа, што для нашае
Карысці ўзяў царэўну – спарадзіць братоў
Дзяржаўных для дзяцей маіх? Ці не пара
Мне сцішыцца? Ці ж не багі спрыяюць нам?
Ці ж я не маю дзетак і забылася,
Што мы ў выгнанні апынемся, без сяброў?”
І зразумела я, што неразважліва
Я гневу паддавалася свайму тады.
Цяпер за розум твой хвалю цябе, што ты
Сваяцтва гэткае прыдбаў нам, ну, а я,
Дурніца, лепш табе дапамагла б усё
Зрабіць як след: стаць каля ложа шлюбнага,
Тваёй нявесце прыслугоўваць з радасцю.
Ды што казаць – мы ўсе жанчыны гэткія...
Табе ж не варта ў кепскім нам наследаваць,
Адказваць глупствамі на глупствы нашыя.
Я прызнаю, рабіла кепска я раней,
Але цяпер, нарэшце, схамянулася.
*[У бок палаца, да дзяцей:]*
Гэй, дзеткі! Ну, выходзьце, дзеткі мілыя!
Хутчэй сюды – давайце, павітайцеся
З татулем вашым і цяпер не крыўдзьцеся
Больш на яго, як і матуля вашая!
Між намі мір цяпер, і гнеў увесь прайшоў.

[Я с о н, М е д э я, К а р м і ц е л ь к а, Д з е ц і,
В ы х а в а л ь н і к]

М е д э я. Руку вазьміце правую!
*[Сама сабе:]* О, гора мне,
Калі, што ведаю, мне лезе ў галаву!..
Ці доўга, дзеткі, жыць вам і працягваць так
Уперад ручкі? Бедная я, бедная!
Мне плакаць хочацца, і страх бярэ такі...
Цяпер, калі мы з бацькам замірыліся,
Пяшчотнасць шчок сваіх слязьмі я замачу.
Х о р. І ў нас патокі слёз ліюцца ўжо з вачэй.

Ах, каб жа ліха горшага не сталася!
Я с о н. Ну вось, жанчына, кепскага не ўспамінайма.
Мне зразумелая жанчыны злосць, калі
Яе законны муж у новы хоча шлюб.
Але ж змяніла думку ты да лепшага,
І ўцяміла, хоць не адразу, што для нас
Больш выгадна – цаню тваю разважлівасць.
*[Да дзяцей:]*
Вы ж, дзеткі, ведайце: пра вас я не забыў,
А з дапамогаю багоў аб вас падбаў.
Я ўпэўнены, што вы ў Карынфе некалі
Яшчэ між першых будзеце, сярод братоў.
Гадуйцеся! А ўсё астатняе для вас
Ваш бацька зробіць і багі прыхільныя.
Хацеў бы я, каб вы да мэты цвёрда йшлі
І каб мужнелі, ворагам маім назло.
*[Да Медэі:]*
Чаму ж зноў слёзы ты ліеш патокамі
І спалатнелы твар свой адварочваеш,
І слухаеш мяне зусім без радасці?
М е д э я. Ды не, нічога... я пра дзетак думала.
Я с о н. Ну-ну! Пра долю іх паклапачуся я...
М е д э я. Ну так, ці ж я магу не давяраць табе?
Але ж да слёз жанчыны схільныя заўжды.
Я с о н. Чаму ж аплакваеш дзяцей гаротна так?
М е д э я. Іх спарадзіла я. Ты ім жадаў дабра –
Мне ж стала вусцішна, ці ж будзе так яно.
Ды я хацела вось пра што прасіць цябе:
Адно ты ведаеш, цяпер пра іншае.
Раз высылка мая патрэбна ўладарам,
То й для мяне найлепш, відаць, было б, каб я
Ані табе, ані дзяржаўцам не змагла
Быць перашкодай, бо ім я варожая –
Таму гатова я пакінуць гэты край,
Адно каб дзеці пад тваёй апекаю
Былі – прасі Крэонта, каб ён іх не гнаў.
Я с о н. Яго ўгаворваць буду, хоць не ведаю...
М е д э я. І жонку папрасі – угаварыць цара
Не выганяць дзяцей з краіны гэтае.
Я с о н. Напэўна, я змагу яе пераканаць.
М е д э я. Калі яна жанчына, як і іншыя!
А я ў тым клопаце табе дапамагу.
Дарункі ёй я перашлю цудоўныя –
На свеце лепшых анідзе не знойдзецца –
Убор з тканіны тонкай, залаты вянок...
А дзеці занясуць іх. Хай як найхутчэй
Адна са служак прынясе дары сюды.
Шчаслівай не адзін раз будзе, а стакроць,
Найлепшага на свеце мужа маючы
І строй займеўшы, што калісьці Геліяс,
Дзядуля мой, сваім нашчадкам перадаў.
Вазьміце, дзеці, падарункі шлюбныя

І занясіце іх шчаслівай маладой! –
Не сорамна прыняць дарункі гэткія.
Я с о н. Нашто ж, дурніца, ты такая шчодрая?
Ці мала ўбораў дома ёсць ва ўладароў?
Ці ім бракуе золата? Пакінь сабе!
Калі я дарагі ёй, будзь упэўнена:
За скарбы ўсё-ткі я важнейшы для яе.
М е д э я. Не, кажуць, што й багам дарункі лю́быя,
За безліч слоў прыемней людзям золата.
А ёй спрыяе лёс; прыхільныя багі
Царэўне маладой. І я жыццём сваім –
Не нейкім золатам – за дзетак заплачу.
*[Да дзяцей:]*
Ідзіце ж, дзеці, ў той багаты, пекны дом,
І там царэўну – жонку бацькі новую –
Маліце, каб не йсці ў выгнанне вам цяпер;
Дары ўручыце ёй і дапільнуйце, каб
Адно сваёй рукой іх узяла яна.
Хутчэй ідзіце! Маці з добрай весткай вас
Чакацьме – што яе жаданне здзейснена.

## *[Стасім чацвёрты]*

Х о р.
*[1-я страфа]*
Няма больш надзей, што хтось паратунак дасць
Дзецям: яны мусяць загінуць напэўна!
Прыме ў вянку з золата смерць маладая
Дочка цара: прыме згубу,
Увянчаўшы Аідавай аздобай
Валасы светлыя.
*[1-я антыстрафа]*
Спакусіць яе тонкі ўбор,
Боскі прамень
Звабіць яе золатам пекным вяночка!
На свеце тым будзе ўбірацца да шлюбу:
У цянёты трапіць яна
І да смерці ў няволю, нешчаслíўка, –
Не ўратуеш яе.
*[2-я страфа]*
А ты, наважэнец злашчасны,
Цароў зяцёк,
Ці ж не бачыш, як сам
Ты рыхтуеш пагібель
Сыночкам сваім
І скон нарачонай сваёй?
Які сляпы – ў чым твой лёс, не цяміш!
*[2-я антыстрафа]*
Тваё я аплакваю гора
Матуліна,
Што са свету сама

Узялася звесці дзіцятак сваіх,
Бо ў шлюбнае ложа сабе
Твой муж узяў падступна другую.

## *[Эпісодый пяты]*

[Выхавальнік, Медэя, Дзеці, Хор]

Выхавальнік. Застацца дзецям вашым тут, спадарыня,
Дазволена, й дары царэўна прыняла
У рукі з радасцю. Мір з дзецьмі поўны.
Медэя. Ах!
Выхавальнік. Чаму ж не цешышся ты, а збялела ўся?
Медэя. Ой, бяда!
Выхавальнік. З маёю весткай гэта не стасуецца.
Медэя. Бяда, бяда мне!
Выхавальнік. Можа, несвядома я,
Замест каб з добрай, з весткай дрэннаю прыйшоў?
Медэя. Прыйшоў з такой, як ёсць. Тут не твая віна.
Выхавальнік. Чаму ж ты апусціла вочы й плачаш так?
Медэя. Інакш я, старча, не магу. Бо тое ўсё
Багі ўчынілі – й замутнёны розум мой...
Выхавальнік. Трывай! Яшчэ ж і вернешся ты да дзяцей.
Медэя. Раней вярнуся з іншымі няшчасцямі...
Выхавальнік. Дый не адна ж ты з дзецьмі разлучаешся –
Смяротным ліха трэба з лёгкасцю трываць.
Медэя. Так і зраблю я. Ты ж вяртайся ў дом цяпер
І дзецям дай, што патрабуецца штодня.

*[З'яўляюцца Дзеці]*

Ах, дзеці, дзеці, ёсць для вас і край, і дом,
Дзе вы ўсе надалей штодня жыць будзеце,
Калі мяне, няшчасную, адну пакінеце.
Мне ж на чужыну трэба йсці, выгнанніцы,
Не ўбачыўшы ні радасці, ні шчасця ў вас,
Ані вяселля. Мне ўжо ложа шлюбнага
Не прыбіраць вам, не стаяць з паходняю...
Ах, праз упартасць я сваю няшчасная!
Бо я дарэмна, дзеткі, вас выхоўвала,
Дарэмна давялося мне пакутаваць
І боль цярпець, калі я нараджала вас.
Што ж, калісь мела я, няшчасная, спадзеў,
Што мне на старасць вы апорай будзеце,
А як памру я, годна пахаваеце –
На зайздрасць іншым. Ды цяпер ужо няма
Тых спадзяванняў. Бо, калі я страчу вас,
Пакутліва я буду дажываць свой век.
Ды больш матулі вы сваёй не ўбачыце,
Бо ў іншае жыццё навек пяройдзеце.

*[Да дзяцей:]*
Ой-ёй! Чаму глядзіце на мяне вы так?
Што ўсмешкі кажуць вашыя апошнія?
*[Да хору:]*
Ах, што рабіць? І смеласць дзе падзелася,
Жанчыны, як зірну ў іх вочы ясныя?
Не, не змагу я: ад задум адмоўлюся –
Дзяцей сваіх з краіны гэтай забяру!
Няўжо, каб толькі іхні бацька смуткаваў,
Сабе пакут я больш раблю ўдвая?
Ды як мне быць? Не, ад задум адмоўлюся!
Але ж... а ці не стану я пасмешышчам,
Калі сваіх не пакараю ворагаў?
Зрабіць я мушу гэтак; ганьба боязі
Што ў сэрца да мяне цішком пракралася!
Ідзіце, дзеці, ў дом.

*[Дзеці выходзяць]*

Калі ж не хоча хто
Маіх ахвяраў сведкам быць – не будзе хай,
Ды затрымцець маю руку не змусіць ён.
Ах, не!.. Ніколі! Сэрца, не рабі таго:
Няшчасная, дай жыць ім, пашкадуй!
Са мною будуць жыць, каб быць мне ўцехаю.
Але... ў імя Аіда духаў помслівых
Я не дазволю, каб у рукі ворагаў
На здзек і глум мае сыночкі трапілі;
Іх смерць наканавана воляй вышняю –
Таму заб’ю іх я, што ім жыццё дала.
Так будзе, і ніхто не зменіць гэтага.
...Ужо вянок на лбе ў яе, і ў строях тых
Царэўна гіне ўжо: я добра ведаю.
І я ступаю ўжо на шлях цяжкіх пакут,
А ім – яшчэ пакутлівейшы выбрала.
Хачу звярнуцца да дзяцей.

*[З’яўляюцца Д з е ц і]*

О, дайце мне
Пацалаваць вам, дзеткі, хоць бы ручанькі!
О, ручкі мілыя, галоўкі вашыя
І тварыкі, і постаці зграбнюткія!
Хай шчасце будзе вам хоць там: яго не даў
Вам бацька тут... О, рук абдоймы любыя,
О, мяккасць скурачкі, дыханне роднае
...Ідзіце ўжо! Глядзець я болей не магу,
Бо ўсю мяне пранізвае нясцерпны боль.
Я ліха ўсведамляю, што ўчыніць хачу,
Ды гнеў мацнейшы за мае памкненні ўсе,
І церпяць ад яго смяротныя найбольш.
Х о р. Надта часта ўжо

Намагаліся мы глыбей
Спасцігаць рэчы нават цяжэйшыя,
Чым жаночаму розуму дадзена.
Хоць да нас часам муза спрыяльная:
Пакідае і нам трохі мудрасці.
Хоць далёка не ўсім. Ёсць сярод жанчын –
Можа, толькі адзінкі і знойдуцца –
Тых няшмат, музам не чужых.
Толькі вось скажам што: хто спаміж людзей
Не дасведчаны й дзетак не спарадзіў,
Той нашмат шчаслівейшы будзе за тых,
Што займелі й гадуюць дзяцей штодня.
Бо бяздзетным спасцігнуць не дадзена,
Ці прыносяць уцехі ці скрухі больш
Тыя дзеці: сваіх бо ж у іх няма –
І што вядома ім? А дзе
Ў доме парасткі дзетак пяшчотныя
Прарастаюць – там бачым мы, як свой век
У нялёгкіх турботах жывуць бацькі.
Напачатку – каб выхаваць тых дзяцей
І пакінуць у спадчыну ім дабро.
А ці гэта прыстойным дзеткам, ці
Не найлепшым урэшце патрапіць – хто ведае?
Пра найбольшае ж ліха сказаць хачу,
Найстрашнейшае ў свеце для ўсіх людзей:
Хай прыдбаюць бацькі тых багаццяў шмат,
Хай і дзеці цудоўнымі вырастуць,
Ды сустрэнецца дзеткам варожы бог –
І ў Аід панясе смерць няўмольная
Целы мілых дзетак, няшчасных тых.
І навошта нам тое: да ўсіх пакут
Мець і іншыя йшчэ, невыносныя,
Дзеля тых дзяцей,
Што багі спасылаюць нам нашыя?

[М е д э я, Х о р, В я с т у н]

М е д э я. Даўно, сяброўкі, я чакаю, шту мне лёс
Звястуе, і за домам пільна ўсё сачу.
Вунь, зрэшты, бачу аднаго з Ясонавых
Ганцоў: як ён бяжыць сюды, задыханы.
Відаць, пра нешта скажа нам нядобрае...
В я с т у н. Ты, чын бяспраўны ды жахлівы здзейсніўшы,
Медэя, уцякай адсюль! – хоць караблём,
Хоць возам сухапутным, ды ўцякай хутчэй!
М е д э я. Што ж сталася, каб гэтак спешна мне ўцякаць?
В я с т у н. Дачка валадара памерла толькі што,
І цар Крэонт сканаў, атручаны табой.
М е д э я. Найлепшую прынёс ты вестку, і цяпер –
Мой дабрадзей ты й сябар да канца жыцця!
В я с т у н. Што кажаш ты? Жанчына, хіба можна так
Быць не ў сабе ды цешыцца, што котлішча

Валадароў патухла – дый ад рук тваіх?!
М е д э я. Магла б сказаць я шмат чаго табе ў адказ,
Але... не трэба гарачыцца, сябра мой!
Якой была іх смерць, мне раскажы: ўдвая
Я ўсцешуся, калі быў скон пакутлівы.
В я с т у н. Калі табой народжаныя два сыны
Прыйшлі ў дом да царэўны з бацькам са сваім,
Мы, слугі, што перажывалі за цябе,
Былі так рады. Чутка абляцела ўвесь
Палац – што вы з сужэнцам замірыліся.
Цалуе дзецям хтось руку, хтось – белую
Галоўку. А я сам, усцешаны, іду
Ў пакой жаночы разам з тымі дзеткамі.
А гаспадыня, намі шанаваная
Замест цябе, перш чым заўважыла дзяцей,
Ясону так лагодна заўсміхалася.
Ды ўгледзеўшы дзяцей – схавала вочы ўраз
І нават белы тварык адвярнула свой
У гневе. Ды пачаў сужэнец твой яе
Ўтаймоўваць, супакойваць, прамаўляючы:
“Не трэба на сяброў сваіх цяпер злаваць –
Спыні свой гнеў і павярні свой твар да іх:
Лічы сябрамі тых, каго твой лічыць муж.
Прымі дары ад іх і бацьку папрасі
Свайго, каб іх не выганяў – дзеля мяне!”
Аздобы ўбачыўшы, стрымацца не магла
Яна й паабяцала мужу ўсё. Пакуль
Ён з дзецьмі за парог – царэўна ўжо хутчэй
Прыгожы на сябе надзела той убор,
Вянок уздзела залаты на кудзеры,
Якія пры люстэрку ўкладваць пачала,
Халоднаму адбітку заўсміхалася...
Устаўшы з трона, абышла пакой яна,
Прыгожа, зграбна ножкамі ступаючы
Бялюткімі, ад падарункаў шчасная.
На дыбачкі ўставала, азіралася –
Аж раптам сталася з ёй штось жахлівае:
Яна ўся спалатнела і затрэслася,
Назад пасунулася, дзе трон стаяў,
Упала потым на яго – не на зямлю.
Адна старая служка, ў тым угледзеўшы
Гнеў Пана ці якога бога іншага,
Ускрыкнула. І раптам ротам пацякла
Ў царэўны пена белая, і зрэнкі ўраз
Патухлі, закаціўшыся, і твар пабляк...
І тут пачуліся не крыкі роспачы,
А галашэнне гучнае. І нехта з іх
Да бацькі кінуўся ў пакой, а хтось яшчэ
Да мужа новага, каб расказаць пра ўсё...
І ўвесь палац ад тупату заходзіўся.
Прабег бы стадыю сваю ўжо да канца
Бягун-спаборнік, покуль – з непрытомнасці

Знямелай выйшаўшы – яна расплюшчыла
На хвілю вочы, невыносна стогнучы.
Пакуты сталі большымі ўдвая: 1185
На галаве той залаты вянок пачаў
Гарэць нязвыклым вынішчальным полымем.
А пышны ўбор – той падарунак ад дзяцей –
Стаў цела раздзіраць яе прыгожае.
Тут, з трону падхапіўшыся, уся ў агні, 1190
Яна пабегла, валасамі трасучы́,
Каб скінуць той вянок; ды моцна ўцяўся ён
Жанчыне ў скроні. І чым больш яна чалом
Трасе, тым больш шугае тое полымя.
І п*а*дае яна – так лёс прадвызначыў – 1195
І нават бацька не пазнаў бы ўжо яе.
Бо ўжо не згледзець ні вачэй царэўніных,
Ні твару пекнага: з ілба сцякае кроў,
Мяшаючыся з полымем бязлітасным – 1199
Плоць з костак адпадае, як смала з сасны,
Нібы ў атруты кіпцюры нябачныя...
Відовішча жахлівае! І ўсім было
Даткнуцца да яе прад лёсам боязна.
Яе ж няшчасны бацька, у няведанні,
Прыбег у дом і ўпаў перад нябожчыцай. 1205
Ускрыкнуў і абняў яе, цалуючы.
Стогн вырваўся ў яго: “Дзіця няшчаснае!
Каторы з дэманаў цябе са свету зжыў?
Хто сіратой зрабіў старога напярэдадні 1209
Канца свайго? Хачу, дзіця, сканаць з табой...”
Крыху суцішыўшыся, цар паспрабаваў
Хоць неяк цела выпрастаць старэчае,
Ды, як вісяць на дрэве лаўравым лісткі,
Стаў віснуць ён... Пачаўся дзікі супраціў:
Ён намагаўся хоць бы ўкленчыць, ды яна
Яго не адпускала. Адхіснуўся цар – 1216
І плоць старая распаўзацца пачала!
І ўрэшце ён знясіліўся і мёртвы ўпаў,
Бо з ліхам быў ужо не здольны справіцца.
І вось яны, няшчасны старац і дачка, 1220
Ляжаць – іх лёс павінен быць аплаканы.
Што да цябе, дык і размовы тут няма:
Ты мусіш выбаўляць сама сябе з бяды.
Заўсёды я лічыў: жыццё людское – цень.
Скажу без боязі, што хто за мудрага 1225
Сябе ўважае, ў сілу верыць розуму –
Той робіць толькі глупства найвялікшае.
Смяротным шчасце пазнаваць не дадзена.
Бывае, што ў багацці шчасціць некаму
За іншых больш, ды не спазнае шчасця ён.
Х о р. Здаецца, сёння шмат бяды бог учыніў 1231
Ясону, і ён пацярпеў заслужана.
О, бедная, тут мы твой лёс аплакваем,
Дачка Крэонтава, бо трапіла ў Аід

Ты, каб адно з Ясонам гэты шлюб узяць.
Медэя. Сяброўкі, я ўжо вырашыла: найхутчэй
Яго дзяцей забіць і з горада ўцякаць,
Каб не спазніцца і больш жорсткім ворагам
На смерць іх не аддаць. Бо ўсё адно яны
Загінуць мусяць – хай жыццё ў іх забярэ
Жанчына, што іх нарадзіла некалі.
Давай, узбройся, сэрца: хіба ты ўчыніць
Не здолееш злачынства неабходнае?
Бяры ж, рука бязлітасная, меч, бяры
І самае жахлівае ў жыцці зрабі.
Не можаш схібіць ты – дык не задумвайся
Над лёсамі дзяцей, табой народжаных:
Забудзь, што маці ты – ў кароткі гэты дзень,
А потым плач! Бо і забіўшы іх, любіць
Не перастанеш, маці нешчаслівая!

### *[Стасім пяты]*

Хор.
*[1-я страфа]*
О, маці-зямля, яснае
Праменне сонечнае! Паглядзіце на яе,
Кабету жорсткую – пакуль не ўзняла
Самагубную руку на дзяцей!
Бо род твой залаты жыццё ім даў –
Кашчунна было б, каб кроў боскую
Смяротны хто праліў.
О, святло Дзэўсава! Просім, спыні яе
І прагані з жытла, дзе помслівая
Жыве Эрынія з славай жахліваю!
*[1-я антыстрафа]*
Дарэмна пакутавала
За боль дзяцей сваіх ты; дарма нарадзіла іх,
Як ацалела ты каля Сімплегад
Негасцінных тых, абмінуўшы смерць.
Няшчасная, чаму ты робіш так,
Які шал цябе ахапіў – забіць?!
Бо ўсё адпомсціцца:
Недапушчальна ўсё ж забіваць сваякоў.
Не абмінуць багі злачынстваў ліхіх
Супраць сваёй крыві: ўвесь пакараюць род.
*[2-я страфа]*
Дзеці Медэі (у доме). Ай, ай!
Хор. Ці чуеш ты крык, сваіх дзетак крык?
Жанчына, бяда табе, о лютая!
Голас аднаго дзіцяці. Ой, дзе ратунак, дзе –
ад матчынай рукі?!
Голас другога дзіцяці.
Не ведаю: відаць, што мы загінем, брат.
Хор. Хадзем хутка ў дом – дзяцей ратаваць...

Давайце шпарчэй!
Д з е ц і М е д э і. Ратуйце, у імя багоў! Ой, ліха нам!
Вось-вось апы́немся ў цянётах смерці мы...
Х о р.
Вар’ятка, з жалеза ты ці з каменю,
Калі дзецям ты,
Народжаным табой жа,
смерць нясеш уласнаручна?
*[2-я антыстрафа]*
Ах, ведаем мы жанчыну адну, не больш,
Што руку на дзяцей падняла –
Іно, што звар’яцела, калі помслівы
Гнеў жонкі Дзэўсавай яе паслаў блукаць.
Дзяцей у салёную глыбіню
Паслала яна,
А потым сама са стромага берага
У мора, услед за дзеткамі, скочыла.
І што горшае магло надарыцца?
О жаночы шлюб,
Колькі ўжо няшчасцяў
смяротным ты прычыніў міжволі...

### *[Эксад]*

[Я с о н, Х о р]

Я с о н. Жанчыны, вы, што ля палаца стаіце,
Ці пасля ўчыненага там яшчэ яна,
Медэя? Ці ўжо з краю збегчы здолела?
Бо трэба схованку шукаць ёй пад зямлёй
Альбо ўгару ўзляцець на крылах, да нябёс,
Каб помсты не зазнаць ад дому царскага.
Ці ёй здаецца, што, забіўшы ўладара,
Яна беспакарана з горада ўцячэ?
Ды не па ёй – за дзетак я турбуюся,
Бо адплаціць ёй за забойства ёсць каму:
Я ж дзеткам мілым ратаваць жыццё прыйшоў,
Каб не ўчыніў ім ліха род пакрыўджаны,
За ўчынак помсцячы бязбожнай мацеры.
Х о р. Няшчасны, ты не ведаеш усёй бяды
Сваёй, Ясон! Інакш бы так не гаварыў...
Я с о н. А што, яна хацела б і мяне забіць?
Х о р. Твае забіты дзеці матчынай рукой.
Я с о н. О, жах! Жанчыны, вы мяне знішчаеце!
Х о р. Дык ведай: больш ужо няма дзяцей тваіх.
Я с о н. Дзе ж іх яна забіла: ў доме, ці вось тут?
Х о р. Адчыніш дзверы й дзетак целы ўбачыш ты.
Я с о н. Збівайце, служкі, засаўку як найхутчэй,
Каб і дзяцей забітых мог убачыць я,
І тую, на якой я ўжо адпомшчуся!

[Я с о н, Х о р, М е д э я (на калясніцы)]

М е д э я. Нашто ламаеш дзверы? Хочаш бачыць ты
Забітых і мяне, што тое здзейсніла?
Высілкі марныя твае! Ну, гавары,
Як маеш што! Рукамі ж не дацягнешся
Ты да мяне, бо некалі дзед Гелій даў
Мне абарону – калясніцу гэтую.
Я с о н. О, ўзненавіджаная ўсімі боствамі
І мною, і ўсім гэтым племенем людскім,
Ты, што змагла працяць мячом сваіх дзяцей,
Мяне знішчаючы праз страту страшную –
Глядзіш на сонца й на зямлю без сораму,
Зрабіўшы справу гэткую бязбожную!
Хай спруцянела б ты! І бачу ж я цяпер,
Чаго не бачыў – як з краіны варварскай
Цябе ў дом э́лінскі прывёз, праклятую,
Дзядоў, бацькоў, сваёй краіны здрадніцу.
Тваёй рукой вадзілі помсты дэманы.
Ты й брата так забіла каля вогнішча,
Каб трапіць на ладдзю “Арго” аздобную.
Пачатак быў такі. А ўзяўшы шлюб са мной
І дзетак нарадзіўшы, ты ж забіла іх –
Праз рэўнасць да чужога ложа шлюбнага.
Між э́лінскіх жанчын ніводная б таго
Ӯчыніць не здолела, а я ж абраў не іх
За жонку, а цябе – бяду наклікаўшы.
Бо не кабета – львіца ты, й тырэнскую
Марскую Скілу абагнала ў лютасці.
Ды й самымі вялікімі праклёнамі
Цябе не праймеш, з пыхай гэткай дзікаю –
Каб спрахла ты, дзетазабойца гідкая!
Адно мне застаецца: праклінаць свой лёс,
Бо новы шлюб не прынясе ўжо ўцехі мне,
І з дзеткамі, што спарадзіў я й выхаваў,
Паразмаўляць я не змагу. Усё, канец...
М е д э я. Магла б я шмат чаго сказаць табе ў адказ,
Калі б не ведаў бацька Дзэўс, што для цябе
Зрабіла я ды ад цябе што зведала.
Не, больш табе, што шлюб наш зганьбаваў,
Не жыць у шчасці, не ўсміхацца здзекліва!
Таму й царэўна, й той, хто вас натхняў на шлюб,
Крэонт, бяскарна ўсё ж мяне не выгналі!
Дык вось: як хочаш, хоць мяне ты львіцай кліч,
Хоць Скілаю тырэнскаю – а ўсё адно
Табе я ў сэрца самае пацэліла.
Я с о н. Сабе ж таксама: гора ж бо агульнае.
М е д э я. Тым лепей: хоць з мяне не пасміхацьмешся.
Я с о н. О, дзеткі, што за маці вам дасталася!
М е д э я. О, вы, малыя, здрадай бацькі знішчаны!
Я с о н. І што, хіба забіла іх мая рука?
М е д э я. Твой юр і новы ўзяты шлюб з царэўнаю.

Я с о н. Дык ты праз рэўнасць знішчыла сваіх дзяцей?
М е д э я. Што, для жанчыны гэта проста, думаў ты?
Я с о н. Для мудрай – проста, для цябе ж – адна бяда.
М е д э я. Яны памерлі! Хоць бы так пацерпіш ты.
Я с о н. Жывуць, лунаюць духі помсты над табой...
М е д э я. Багам вядома, ад каго пайшла бяда.
Я с о н. Вядома ім душа твая пачварная.
М е д э я. Крычы, сварыся! Слухацьму з пагардаю...
Я с о н. І я цябе... То лепей разысціся нам.
М е д э я. І што? Таго жадала я даўным-даўно.
Я с о н. Дай мне дзяцей аплакаць, потым пахаваць.
М е д э я. Не, я хавацьму іх рукамі гэтымі:
Іх целы ў храм Акраі-Геры занясу,
Каб зганьбаваць іх ворагі не здолелі,
Спустошыўшы магілку. На Сізіфавай
Зямлі ўсталюю свята я, каб адкупляць
Ахвярнымі дарамі кроў нявінную.
Сама ж пайду я ў Эрэхтэеву зямлю:
Ў Айгея, сына Пандыёна, буду жыць.
А ты сканаеш з ганьбай, і заслужана! –
Цябе заб’е асколак карабля “Арго”,
Бо нешчаслівым, горкім ты зрабіў мой шлюб.
Я с о н. Хай Эрынія помсціць за дзетак табе,
Дык кару пашле.
М е д э я. Хто захоча пачуць цябе з вышніх багоў,
Ашуканец ты й клятвaадступнік ліхі!
Я с о н. Гора, гора праклятай забойцы дзяцей!
М е д э я. Лепш ідзі вунь у дом – жонку трэба хаваць.
Я с о н. Што ж пайду я, пайду... без абодвух сынкоў.
М е д э я. Ды зарана стагнаць: прыйдзе старасць яшчэ...
Я с о н. Дзеткі мілыя!
М е д э я. Мацеры, а не табе.
Я с о н. Ты нашто іх забіла?
М е д э я. Табе на бяду.
Я с о н. Ах, да вуснаў дзіцячых прыпасці хачу
Хоць бы раз я, няшчасны такі чалавек!
М е д э я. Ты іх клічаш і моліш багамі цяпер,
А тады адштурхоўваў.
Я с о н. Ах, дзеля багоў
Дай яшчэ іх пяшчотныя цельцы абняць!
М е д э я. Не, не дам! І ўсе марныя словы твае.
Я с о н. Дзэўс, ты чуеш, як гоняць мяне прэч адсюль:
Колькі ж мне ад нягодніцы гэтай цярпець –
З сэрцам жорсткім ільвіцы, што кроў праліла
Дзетак родных? Ды буду я, колькі магу,
Іх аплакваць, пракляты свой лёс кленучы.
Буду сведкамі клікаць нябесных багоў,
Што не толькі дзяцей ты забіла, але
Не дала мне абняць іх, як след пахаваць:
Лепш бы іх аніколі я не спарадзіў,
Чым вось, бачыць няшчасных, забітых табой.
Х о р. На Алімпе шмат што нам прадвызначыў Дзэўс,

Шмат багі нечаканага могуць чыніць, 1416
І не робіцца так, як хацелася б нам.
І знянацку, бывае, заспее нас бог –
Гэтым разам і сталася так.

*Паст. у 431 г. да н.э.*

**Каментар перакладчыка**

Эўрыпід, наймалодшы сярод класікаў старагрэцкай трагедыі, нарадзіўся каля 480 (паводле некаторых звестак – у 484), а памёр каля 406 года да нашай эры. Месцам яго нараджэння лічыцца Саламін – востраў, які стаў месцам адной з вырашальных бітваў другой грэцка-персідскай вайны. Але большасць яго твораў, якія мы ведаем сёння, з'явілася і была пастаўлена напярэдадні і падчас іншай, Пелапанэскай, вайны. Да іх належаць: "Алкестыда" (438), "Медэя" (431), "Гіпаліт" (428), "Гекаба" і "Андрамаха" (абедзве каля 424), "Траянкі" (415), "Іфігенія ў Таўрыдзе" і "Электра" (абедзве каля 413), "Алена" (412), "Фінікійкі" (каля 410), "Арэст" (408). "Іфігенія ў Аўлідзе" і "Бакханкі" (абедзве пасля 406) і інш.

Камедыя "Бакханкі" ў 20-х гадах мінулага стагоддзя была перакладзеная на беларускую мову Юльянам Дрэйзіным, але публікацыя гэтага перакладу (нядаўна адкрытага Алесем Жлуткам у архіве) яшчэ не адбылася.

Змешчаны вышэй пераклад "Медэі" выкананы паводле тэксту, адпаведнага арыгіналу, апублікаванаму ў выданні:

Euripides. Fabulae. Recogn. brevique and. crit. instr. G.Murray. Vol. 1. – Oxford: Clarendon Press 1902 (Reprint: 1974).

Пры складанні каментару намі таксама выкарыстаныя кнігі:

Словник античної міфології: Укладачи І.Я.Козовик, О.Д.Пономарів. – Київ: Наукова думка, 1989.

Euripides. Medea: Griechisch / Deutsch. Ьbersetzt und herausgegeben von Karl Heinz Eller. – Philipp Reclam jun. Stuttgart 2005.

У гэтым месцы перакладчык хацеў бы выказаць вялікую падзяку Васілю Сёмуху і Алесю Жлутку за ўважлівае прачытанне электроннай версіі перакладу, а таксама за выказаныя заўвагі і ўдакладненні, якія ў абсалютнай большасці былі намі ўлічаныя. Перакладчык выказвае асцярожную надзею, што для тых, хто знаёмы з "Медэяй" Эўрыпіда толькі з найбольш вядомага рускага перакладу, выкананага Інакенціем Анненскім, беларускі пераклад адкрые пэўныя змястоўныя нюансы і дасць больш дакладнае ўяўленне пра паэтычную форму арыгіналу.

Радкі беларускага перакладу пранумараваныя. Прыведзеныя ніжэй каментары адносяцца да адпаведных указаных радкоў. Радкі і словы, пададзеныя ў квадратных дужках, у ацалелых рукапісах адсутнічаюць, але традыцыйна ўводзяцца дзеля дакладнейшага разумення тэксту.

Р. 1-2: "Калі б ладдзя "Арго" тады не праплыла / Ах! у Калхіду між замглёных Сімплегад...". Пад л а д д з ё й "А р г о" маецца на ўвазе карабель арганаўтаў з шырокавядомага міфа (гл., напрыклад: Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі: пераказ У.І.Анісковіча. Мн.: Юнацтва, 1996. С.20-37). На гэтым караблі Ясон (Язон) разам са сваімі паплечнікамі прыплыў у К а л х і д у (тэрыторыя на ўсходнім узбярэжжы Чорнага мора, сёння – "Эгрысі" ў Грузіі), каб здабыць там залатое руно – шкуру лятучага залатарунnага барана. С і м п л е г а д а м і грэкі называлі дзве невялікія выспы на ўваходзе ў праліў Басфор, якія часта служылі непераадольнай перашкодай для тагачасных мараплаўцаў.

Р.3-4: "Ды каб на Пеліён калісь не падала / Падсечаная хвоя...". Тут утрымліваецца намёк на П е л і ё н, гару ў Тэсаліі (Фесаліі), якая была знакамітая сваім карабельным лесам. З гэтага лесу мелася быць выраблены і ладдзя "Арго".

Р.5: П е л і й быў дзядзькам Ясона. Аракул прадказаў яму бяду, якую яму нібыта прынясе ягоны пляменнік – таму Пелій, каб аддаліць ад сябе Ясона, і прыдумаў выправу па залатое руно.

Р.7: Ё л к (Іолк) – горад на паўднёвым беразе Тэсаліі, Ясонава радзіма. Горад быў заснаваны Крэтэем, дзедам Ясона. Ясонаў бацька Эсон (Эзон) быў пазбаўлены ўлады сваім братам Пеліем.

Р.65: "Тваёю заклінаю барадой...". У грэкаў існаваў звычай пры звяртанні да каго-небудзь з надзвычай важнай просьбай злёгку церабіць яго за падбародак.

Р.67-68: "...як праходзіў паўз гульцоў / У шашкі...". Карынфцаў лічылі заўзятымі аматарамі гульняў.

Р.160: Ф е м і д а (Тэміда, Тэміс) – другая законная жонка Дзэўса, багіня справядлівасці і закону. А р т э м і д а – дачка Дзэўса і Лето, Апалонава сястра, напачатку шанаваная як багіня раслiннага і жывёльнага свету.

Р.166: "О, мой бацька...". Бацьку Медэі звалі Аетам. Медэя забіла свайго брата Апсірта і падчас сваіх уцёкаў на караблі разам з Ясонам скідвала кавалкі яго пасечанага цела ў мора, каб збіць з тропу пераследвальнікаў, пасланых яе бацькам.

Р.169: "...прамаўляе яна / Да Феміды да помснай..." – так Эсхіл называе адну з Эрыній, багінь помсты.

Р.210-211: "Праз воды быстрыя затокі ў той / Салёнай гарлавіне". Тут маецца на ўвазе праліў Басфор.

Р.232: "Спачатку мы нятанна плацім за мужоў...". Тут гаворка ідзе пра пасаг: з яго дапамогай бацькі як бы "куплялі" мужа сваёй дачцэ.

Р.236–237: "Пакінуць мужа ў нас ганебным лічыцца – / Тады жанчына мае славу кепскую". Узяць развод у Старажытнай Грэцыі жанчыне было складана. Яна мусіла абавязкова асабіста запатрабаваць яго ў архонта (кіраўніка горада). Мужчына ж мог проста прагнаць сваю жонку.

Р.397: "...Гекатай, апякункай котлішча майго...". Медэя лічыць сябе жрыцай багіні Гекаты, дачкі тытана Перса (паводле іншых міфаў – дачкі Дзэўса і Геры або Дзэўса і Дэметры), апякункі чараўніцтва і вядзьмарства. Менавіта Геката вучыла Медэю прыгатоўваць атруту.

Р.405: "...што з Сізіфавай радні...". Крэонт быў сынам Сізіфа, заснавальніка Карынфа. Паколькі Сізіф лічыўся разбойнікам, выраз "Сізіфава радня" гучыць абразліва.

Р.406: Г е л і й (Геліяс) – усевідушчы бог сонца, сын тытана Гіперыёна і Тэі, брат Селены.

Р.421-422: "...музаў спеў / Даўні...". Тут, відаць, маецца на ўвазе паэзія Архілоха, грэцкага паэта, які жыў у VII ст. да н.э.

Р.433: "Праз скалы падвойныя / Ты прыплыла...". Тут гаворка зноў ідзе пра Басфор.

Р.480: "Няўсыпнага дракона я забіла...". Пра "няўсыпнага дракона" пазней пісалі Апалоній Радоскі ў "Арганаўтыцы" і Авідый у "Гераідах".

Р.528: К і п р ы д а – адзін з эпітэтаў багіні кахання Афрадыты.

Р.613: "Даць пэўны знак сябрам, каб падтрымалі вас...". Развітваючыся з гасцямі, гаспадары мелі звычай разломваць папалам дошчачку або пласцінку, якія пры новай сустрэчы складаліся разам і былі як бы знакам сяброўства.

Р.665: П а н д ы ё н – цар Афінаў, які пераняў карону па сваім бацьку Кекропе, які лічыўся заснавальнікам горада.

Р.668: П у п З я м л і. Гаворка ідзе пра храм Фэба-Апалона ў Дэльфах, дзе замест алтара стаяў камень канічнай формы – "пуп зямлі". Паводле легенды, менавіта тут сустрэліся выпушчаныя Дзэўсам арлы, якія ляцелі з захаду і ўсходу.

Р.673: "Не, шлюбнага ярма я не пазбаўлены". Вядома, што рэальны Айгей быў жанаты два разы: напачатку з Мелітай, потым з Халкіёпай.

Р.679: "Каб мех я не развязваў да канца...". Тут маецца на ўвазе ўстрыманне ад віна і кахання.

Р.683: "Бо тут жыве Пітфэй, трайзенскі валадар...". П і т ф э й (Пітэй) – бацька Айтры. Пітфэй зразумеў, што прадказваў Эгею Апалонаў аракул (параўн. заўвагу да р. 679), але напаіў таго віном і дазволіў правесці ноч са сваёй дачкою. Ад гэтай сувязі нарадзіўся Тэсей. Т р а й з е н (Трэзен) – горад у Аргалідзе.

Р.759: "...сын Маі...". Тут маецца на ўвазе Гермес, які быў сынам Дзэўса і Атлантавай дачкі Маі.

Р.764: Д ы к е – дачка Дзэўса і Феміды (Тэміды), увасабляла сабою справядлівасць.

Р.771: "...Паладзін горад...". Гаворка ідзе пра Афіны (Палада – адзін з эпітэтаў багіні мудрасці Афіны).

Р.824: "Племя Эрэхтэева...". Тут маюцца на ўвазе жыхары Афінаў. Э р э х т э й быў сынам Гефэста і Геі (Гефайста і Гаі), адным з міфічных цароў Афінаў.

Р.831: М у з ы - П і е р ы д ы. Маюцца на ўвазе музы, дочкі Дзэўса і Мнемасіны (ці Гармоніі), якія ў сапраўднасці нарадзіліся ў Піерыі (Македонія, на поўнач ад Алімпа), а не ў Афінах, як паказвае Эўрыпід.

Р.834: Г а р м о н і я была музай, Дзэўсавай (паводле іншай версіі Арэсавай) дачкой і жонкай Кадма.

Р.844: Э р о т ы – пададзенае ў множным ліку ўвасабленне Эрота (Эраса), бога кахан-

ня, спараджэнне Хаосу і Урана. Пазней яго лічылі сынам Гермеса (паводле іншых міфаў, Арэса ці самаго Дзэўса) і Афрадыты.

Р.846: “Як горад свяшчэнных тых вод...”. Тут маюцца на ўвазе рэкі Іліс і Кефіс, водамі якіх арашаліся план Атыкі.

Р.954: Г е л і я с – гл. заўвагу да р. 406.

Р.980: А і д а в а  а з д о б а – смертаносная аздоба.

Р.1027: “...не стаяць з паходняю...”. У старажытных грэкаў маці маладога сустракала вясельную працэсію з запаленай паходняй у руках.

Р.1172: “Гнеў Пана ці якога бога іншага...”. П а н быў народжаным у Аркадыі богам лесу, статкаў, чарод, пастухоў. Яго часта прадстаўлялі напалову жывёлай з казлінымі нагамі.

Р.1181: С т а д ы я (у арыгінале “шэсць плетраў”) – старагрэцкая мера даўжыні, складала прыкладна 185 м.

Р.1284: І н о – дачка Кадма і Гармоніі, другая жонка Атаманта, цара Тэсаліі. Нацкаваны багіняй Герай Атамант у прыпадку шаленства забіў іх малодшага сына Леарха, пасля хацеў забіць Іно і другога сына, Мелікерта. У роспачы Іно разам з Мелікертам кінулася ў мора, дзе стала марской багіняй Леўкатэяй, а Мелікерт зрабіўся марскім богам Палемонам.

Р.1342–1343: Т ы р э н с к а я  С к і л а. Маецца на ўвазе дачка Форкія і Гекаты (параўн. заўв. да р. 397), якая была ператвораная ў пачвару з шасцю парамі ног і шасцю сабачымі галовамі, што быццам бы жыла ў пячоры каля пратокі паміж Італіяй і Сіцыліяй у Тырэнскім моры і, разам з Харыбдай, нападала на мараплаўцаў, якія спрабавалі праплысці міма.

Р.1379: Х р а м  А к р а і - Г е р ы. Маецца на ўвазе святыня ў гонар багіні шлюбу Геры, якая стаяла на гары каля горада Сікіён, за 10 кіламетраў ад Карынфа.

Р.1381–1382: С і з і ф а в а  з я м л я. Маецца на ўвазе Карынф, паводле легенды заснаваны Сізіфам (параўн. заўвагу да р.405).

Р.1387: “Цябе заб’е асколак карабля “Арго”...”. Паводле міфа, Ясон, які прылёг паспаць, хаваючыся ад спёкі ў цяні карабля “Арго”, быў забіты асколкам, што адваліўся ад ладдзі.

Ніл Гілевіч



...проба на беларускасць
павінна быць вельмі высокай,
але — і давер павінен быць
да паплечнікаў па змаганні...

# Год двухтысячны

## *Выбраныя старонкі дзённіка*

*Працяг. Пачатак у №№4-5 (53-54) за 2011 г. №1 (56) за 2012 г.*

*10-га студзеня.* Увесь першы тыдзень новага года парадкаваў публіцыстыку за 1955-1999 гады. І рукапісы, і выразкі з газет. Адбіраў тое, што прыдасца для Збору твораў, які хацеў бы пры жыцці пачаць хоць першым томам. Артыкулаў, выступленняў, інтэрв'ю, вартых увагі як матэрыялы да гісторыі барацьбы за Беларусь набіраецца на два тамы. Адно аб мове ў том не ўбярэцца. Астатняе ўсё, што па-за гэтай магістральнай тэмай, працаджу на самае густое сіта, — большасць пойдзе вон. Божа, колькі напісана і нагаворана, часам зусім неабавязковага. Аж сорамна цяпер. І пашчасціла ж жыць у такі пракляты час! І стаць яго ахвярай.

*13-га студзеня.* Заходзіў да Сярэдзіча, забраў рукапіс "Сказа пра Лігу" для скарачэння — па яго просьбе. Трэба разануць амаль на трэць — каб памясцілася на адну паласу. Сёе-тое адпілую безбалесна, але на трацiну такога не набярэцца, адпадзе нямала і дабрэннага.

*16-га студзеня.* Былі з Нінай на юбілейнай вячэры ў Ю.Б. Ці час не той, ці жыццё не тое, ці мы не тыя — нічога ад колішніх вясёлых, дасціпных, шумных (з песнямі) пасядзелак не засталося. Мабыць, усё-такі — мы не тыя. Жыццё зрабіла нас зусім іншымі, чым былі, — адкрыўшы на многае вочы. Як сумна!..

*17-га студзеня.* Вычытаў карэктуру артыкула пра Купалу — прадмову да яго Першага тома ў Кнігазборы. Забраў у ТБМ рукапіс зборніка вершаў Эд. Грахаўца — па просьбе яго суседа і сябра. Сам ён дажывае апошнія дні ў Бараўлянах, у анкалогіі. Ведаю яго з пачатку 60-х, быў шафёрам і друкаваўся ў Лагойскай раёнцы. А пасля знік. Аказваецца, вучыўся, працаваў настаўнікам і... пісаў. І няблага пісаў. Сябра яго просіць, каб я адрэдагаваў кнігу, — сказаў, што гэта і просьба Грахаўца. Як шкада добрага, сціплага і бясспрэчна здольнага чалавека! Чаму ж ён не звярнуўся да мяне гадоў 15 назад, калі я працаваў у СП?! Няздары і графаманы прыходзілі енчылі “памажыце!”, а ён — не адважыўся.

*20-га студзеня.* Учора быў у Ваўкавыску; на сустрэчы; начаваў там; сёння, к вечару, ужо дома. Вельмі цікавыя людзі на цэментна-шыферным. Разумныя, дасведчаныя, моцныя кіраўнікі. Калі б ды яшчэ ім не заміналі, не перашкаджалі рознага рангу вертыкальшчыкі! Ездзілі туды брыгадай — Законнікаў, Пісьмянкоў і Самковіч, апошні і дамаўляўся аб сустрэчы (стары знаёмы начальства).

*26-га студзеня.* Выступіў на ўроку па творчасці А. Моркаўкі ў бібліятэцы ДЛ. Там і пазнаёміўся з яго дачкой Ларысай Аркадзеўнай. Вельмі інтэлігентная і разумная жанчына, як сціпла і важка выступіла!.. Выдатнае слова (фактычна, даклад) сказаў А. Рагуля. Ну, ад яго я іншага і не чакаў; глыбока плужыць.

У 16.00 быў на Радзе ТБМ. Абмяркоўвалі 10-годдзе Закона аб мовах.

*27-га студзеня.* У 15.00 — Рада СП. Хай бы я не хадзіў на гэтыя пасяджэнні!.. Званіў малады паэт, студэнт Яўг. Сіткевіч (“піша па-руску, здольны хлопец”). Сустрэчу нам арганізавала Р. В. Ганчарык, дырэктар магазіна падпісных выданняў. З ёю ў нас дружба.

*28-га студзеня.* Быў у ТЭМГу на спектаклі па п’есе Дударава “Палачанка”. Прыгожы, паэтычна змястоўны спектакль. Сцэнічная легенда. Гісторыкі, напэўна, зробяць папрокі.

*1-га лютага.* “Народная воля” апублікавала “Сказ пра Лігу чыстакроўных” Мікалая Яцвяга-Тубыльца. У скарочаным на адну трэць варыянце. Хачу думаць, што пасля “Лысай гары” і “Незвычайнай эпідэміі” гэта лепшая рэч з усіх маіх містыфікацый.

*7-га лютага.* Бачыўся з Кагутэнкам — наконт майго зборніка паэзіі, новых вершаў і паэм, якія ён хацеў бы выдаць (калі знойдзе фундатара). Цікавы чалавек, закаханы ў кнігу, бессярэбранік, мог бы шмат зрабіць для беларускай літаратуры, калі б яму багатыя ішлі насустрач.

*16-га лютага.* Званіў Р. Гарэцкі — наконт юбілею Гаўрылы Іванавіча (у красавіку). Дамовіліся, што я выступлю на ўрачыстым пасяджэнні ў НАН.

*17-га лютага.* Заходзіў М. Купава — прыносіў на подпіс Зварот да беларускага народа ў сувязі з Днём Волі.
Званіў Я. Брыль — запрасіў на прэзентацыю яго кнігі ў ДЛ.

*20-га лютага.* Званілі з мінскай гімназіі № 12 — прасілі падарыць для іхняга Музея беларускай літаратуры кнігі, здымкі, рукапісы і г. д. Даў згоду. Заўтра прыйдуць гімназісты і забяруць. Дзякаваць Богу, што яшчэ трохі варушацца, каб падтрымаць беларушчыну.

*22-га лютага.* На прэзентацыі кнігі Брыля ў класічнай серыі “Кнігазбору” сказаў некалькі слоў і я, але, здаецца, не лепшым чынам. Нешта настрой быў вельмі кепскі.

*23-га лютага.* Ніну тэрмінова паклалі ў бальніцу: востры калькулёзны халецыстыт. Урач (заг. хір. аддз. Сацішур Я. А.) сказаў: будуць рабіць аперацыю, іншага выйсця няма. Якая нечаканая бяда звалілася! Бедная мая галубачка!.. Божа мой! — гэта пры яе букеце хвароб: печань, шчытавідка, падстраўнікавая і г.д. і г.д.!..

*25-га лютага.* Ніна ў бальніцы: пачалі даследаваць арганізм — рабіць самыя розныя аналізы. Гаротніца мая ў паніцы, кажа, што вельмі баіцца аперацыі.

*26-га лютага.* Ніна ў бальніцы. На душы трывожна. Настрой — кепскі.

*27-га лютага.* Ніна ў бальніцы. Новага нічога. Чакаем.

*28-га лютага.* Ніна ў бальніцы. Плача, як я зайду ў палату.

*29-га лютага.* Ніна ў бальніцы. Упала духам. Настроена вельмі трывожна. Сугалосна з ёю — і я.

*1-га сакавіка.* Ніна ў бальніцы. Плача. Гледзячы на яе, падаю духам і я. Супакоіць не ўмею.

*2-га сакавіка.* Ніна ў бальніцы. Усё тое ж. Вельмі-вельмі трывожна.

*3-га сакавіка.* Ніна ў бальніцы. Настрой той жа. Рыхтуюць да аперацыі.

*4-га сакавіка.* Сёння субота. Ніне дазволілі схадзіць дадому. Але і дома яна паніклая.

*6-га сакавіка.* Панядзелак. Вельмі-вельмі нядобры. У Ніны адкрылі: 1) хворая шчытавідка (у тры разы большая); 2) кістома, яічнікі. Трэба аперацыя ў гінеколагаў. І тэрмінова — калі нават аніёма і акажацца дабраякаснай. Бо яна можа хутка стаць нядобрай.
Загінуў М. І. Ермаловіч. Трапіў пад машыну таксі. Дакажы, што выпадкова.

*7-га сакавіка.* Ніна ў бальніцы моцна прастудзілася. Страшны кашаль. Прызналі трахеіт і адправілі лячыцца дадому.
Аддаў — нарэшце — Законнікаву “Паланез Агінскага”. Перад гэтым — употай — паэму прачытаў Г. Дзмітрыеў. Сказаў: спадабалася. Але — аб’ём 1500 радкоў. “Не выцягнем”.

*8-га сакавіка.* Ніна ў паніцы, толькі і думае, як быць — з якой аперацыі пачынаць, і плача яшчэ гарчэй, чым дагэтуль.

*10-га сакавіка.* Зрабіў ксеракопію “Паланеза” — з экземпляра, які дабаўляю ў Трэці том Збора. Перачытваю амаль кожны дзень. Здаецца, тое, што я хацеў сказаць, сказаў: вайна была і грамадзянская. І па чыёй віне?

*11-га сакавіка.* Захварэў і я. І, відаць, надоўга. Ужо трэці дзень — балючы дзяркаты кашаль. Востры дзяркаты кашаль — гэта бронхатрахеіт. Ляжу і чытаю трохтомнік народных прыкмет і павер’яў У. Васілевіча. Які ён малайчына, гэты сын Алены Сямёнаўны! Якую выдатную кнігу зрабіў! Не нацешуся!..

*13-га сакавіка.* Дзіва дзіўнае: чытаю павер’і, захапляюся, радуюся, а мне — званок: “Н. С., думала я думала і прыйшла да высновы: толькі Вы можаце належным чынам ацаніць трохтомнік Ул. Васілевіча і напісаць для нас рэцэнзію”. Г. Тычка — мая былая студэнтка. Ну што ты на гэта скажаш! Ну як тут адмовішся? А часу няма зусім. Да таго ж — страшна мучае хвароба.

*15-га сакавіка.* Адбылося магутнае шэсце — тысяч на 20-25 (некаторыя кажуць — 50 было). Гэта ўжо нейкі зрух. То дай жа Божа! Авось ды і абудзімся.

*16-га сакавіка.* А на 25 — на Дзень Волі — урад шэсце забараніў. Як і трэба было чакаць.

19-га сакавіка. Смурод, што цячэ з тэлевізара, немагчыма трываць. Асабліва ад Казіяткі. Закасаваў Зімоўскага ў сваім “сладострастным” слугаванні ворагам беларушчыны, у аплёўванні сумленных сыноў Бацькаўшчыны. Няўжо Бог не пакарае такіх запраданцаў?

*25-га сакавіка.* Ніна вярнулася ў бальніцу, адкашляўшы дома амаль тры тыдні.

А на вуліцах амапаўцы хапалі, збівалі і цягнулі ў “варанкі” тых, хто выйшаў святкаваць Дзень Волі. Тэрор працягваецца.

*28 сакавіка.* Хадзіў на адкрыццё семінара маладых пісьменнікаў; выступіў з успамінамі пра сваю першую нараду і першыя крокі ў літаратуры, але — без ніякага настрою.

Здзівіўся, што на семінары амаль адны дзяўчаты, рэдка дзе ў зале хлапец. Фемінізацыя беларускай літаратуры?

*3-га красавіка.* Быў у Ніны ў бальніцы. Рыхтуюць да аперацыі — робяць дадатковыя аналізы.

Занёс Пісьмянкову “Роздумы”.

Зранку быў у прафесара Я.П. Дзямідчыка, прасіў, каб тэрмінова зрабілі Ніне анкалагічны аналіз шчытавідкі. А паўтрэцяй пазваніў яму, і ён мяне заспакоіў: страхі былі дарэмныя. Але ўвогуле лячыць шчытавідку трэба.

Сустракаўся з М.Б. Яфімавай, зрабіў заўвагі па рукапісу артыкула для кнігі пра выкладанне беларускай літаратуры ў школе. Мае “дзіцячыя” творы яна ведае дасканала і гаворыць пра іх вельмі хораша — не забіваючы, а падкрэсліваючы паэтычнае і чалавечае.

*4-га красавіка.* “Народная воля” дала мае “Роздумы і згадкі”, у тым ліку

— пра вайну з чачэнцамі ў XIX ст. Многія паспелі адразу ж мне пазваніць, ураджаныя чачэнскай старонкай Роздумаў.

Ездзіў у "маёнтак", глядзець, ці ёсць шпакі на нашай бярозе.

*6-га красавіка.* "Чырвоная змена" апублікавала тое, што я нагаварыў карэспандэнту Св. Пазняк у ДЛ у час семінара маладых. З павагай паставілася, нічога не збэрсала.

Вечарам быў на ўгодках Г. Дз. Карпенкі, літаратурную частку якіх сам жа і рыхтаваў (і мастацкую таксама — прасіў Фінберга і інш.). Усё прайшло на ўзроўні, былі паслы замежных краін і нашы аўтарытэтныя палітыкі. Выступалі паслы ЗША, Нямеччыны. А я праваліўся, забыў свой верш і закончыў канфузам. Які ўжо раз пераконваюся: трэба мець пад рукою тэкст! Ну стары чалавек, ну склеротык! Змазаў гэтым усё сваё і без таго не вельмі прадуманае слова.

*10-га красавіка.* Быў у НАН на ўрачыстасцях, прысвечаных 100-годдзю Г. І. Гарэцкага. Як і было дамоўлена, сказаў сваё невялічкае слова, якое завяршыў вершам, што быў напісаны мною да 80-годдзя Гаўрылы Іванавіча. Брыль і Зуёнак атрымалі слова, як ганаровыя акадэмікі, а я — ну, не захацеў жа... А які гонар? Які гонар быць "ганаровымі" ў небеларускай акадэміі? Яна даўно небеларуская, і асабліва — сёння. Зміршыцца з гэтым немагчыма. Таму я і адмовіўся ад гэтага гонару, на пару з Быкавым.

*13-га красавіка.* Быў на выставе мастака Міх. Будавея, аўтара лепшага майго партрэта, — яго яшчэ дыпломнай работы. І сёння ён мне вельмі падабаецца. Гэтае ж сказаў мне Брыль пра свой партрэт — з той жа серыі (Брыль, Быкаў, Панчанка, Караткевіч, Гілевіч). А партрэты апошняга часу (Геніюш, Разанаў, Янішчыц, Адамовіч) менш цікавыя — на нашу агульную з Брылём думку. Дырэктар музея Хадкевіч нечакана даў мне першаму слова — і давялося імправізаваць, бо не разлічваў, — прыходзіў, каб паглядзець і спаткацца з М.Будавеем, якога даўно не бачыў.

*14-га красавіка.* Па запрашэнні М. Купавы быў і выступіў на адкрыцці традыцыйнай — да Дня Волі — выставы суполкі "Пагоня". Народу было як ніколі — бітком набіта. Слова сваё я падрыхтаваў — таму прагучала, калі меркаваць па воплесках, хораша.

А выстава — не з лепшых. Папярэднія, здаецца, былі цікавейшыя.

*16-га красавіка.* Ніна зноў дома і зноў па той жа прычыне: прастудзілася ў бальніцы і — трэба лячыць "кашаль", пры кашлі аперацыі не робяцца.

У пятніцу "ЛіМ" апублікаваў маю падборку роздумаў і згадак — пад назвай "Быў час, быў век, была эпоха" (назву прапанаваў мне Мікола). За гэтыя два дні атрымаў шмат званкоў (Брыль, Ліс, Васілевіч і інш.). Асабліва заінтрыгаваныя сябры першым кавалкам — "Пра паэта Лысагорскага". Ніхто такога не чуў, і ўсе падумалі пра Ведзьмака.

*22-га красавіка.* Званіў В. Казько, запрасіў на яго юбілейны вечар і на чарчыну з нагоды. Трэба абавязкова схадзіць і нешта сказаць з гэтае нагоды. Можа, нават вершыка якога прысвячу яму, калі прыдумаю: надта ж слаўны чалавек!.. Ніна казала, што бачыліся — выпадкова — у бальніцы, і таксама пацвердзіла: "Які ён чалавечны, шчыры, добры!.."

*23-га красавіка.* Званіў Я. Цумараў, крыўдуе, што ТБМ не прадае выдадзе-

ную ім кніжыцу пра ТБМ (пра яго першыя 8 гадоў, матэрыялы і дакументы). Буду гаварыць з Трусавым, — у чым жа справа? А хто тады будзе яе прадаваць, калі не ТБМ?

*29-га красавіка.* Ранічкой заходзіў — па настойлівай просьбе — нехта Лісоўскі, інжынер, будаўнік помніка ахвярам на Капыльшчыне, патрыёт беларушчыны, энтузіяст. Пакінуў мне для азнаямлення сваю перапіску з бюракратамі.

*1-га траўня.* Па “Свабодзе” прагучала доўгая перадача пра “Лысую гару”, — шмат лухты і ніякага набліжэння да ісціны, да высвятлення аўтарства. Наогул, уражанне такое, што задумана гэта размова для таго, каб абясцэніць паэму, прынізіць яе значэнне і ролю. Відаць, упэўніліся нарэшце, хто аўтар. Не той, зусім не той, якога б яны хацелі і маглі пахваліць. У іх вялікае расчараванне! Таму давай будзем патроху бэсціць!

*2-га траўня.* Ніну паклалі ў бальніцу. На аперацыю. На гэты раз — рэальна. Назначылі на наступны тыдзень. Тут святаў шмат: і Перамога, і Радаўніца.

*4-га траўня.* Аперацыю назначылі на 11-га, чацвер. Будзе рабіць стары прафесар Герасімовіч. Вельмі трывожна на душы.

*5-га траўня.* Быў у “маёнтку”, закончыў падборку роздумаў для “НВ”. А “Звязда” трэцяга кавалка штось не дае. Два апублікавала ў канцы красавіка — пра нямецкія цукеркі і пра верасень 1939-га, а водпаведзь тым, хто агулам бэсціць беларускую паэзію савецкай эпохі, не даюць. Што здарылася? Хто затармазіў?

*11-га траўня.* Ніне зрабілі аперацыю. З раніцы рабілі. У 17.30 урач сказаў: нармальна, без ускладненняў, павінна быць усё добра. Каб жа ды даў Божа! Бедная, бедная мая Іванаўна!..

*12-га траўня.* Ніна трохі адышла ад наркозу, але чуецца кепска. Трымаюць на кропельніцах.

*13-га траўня.* Нібыта трохі павесялела мая пакутніца, але, але!..
“НВ” змясціла чатыры мае кавалкі пад агульнай назвай “Ганебныя ўгодкі”. Апошні — пра крывавыя расправы над беларускімі пісьменнікамі. А дома ў мяне яшчэ чатыры кавалкі — у працяг гэтых. Занясу і іх Сярэдзічу.

*14-га траўня.* Не падабаецца мне самапачуванне маёй беднай Іванаўны. Ташната і рвоты, якія яна выклікае штучна. Якое ж гэта выздараўленне?!.

*16-га траўня.* Ніне кепска, а яе перавялі ў агульную палату. Маўляў, пяць дзён прайшло — хопіць, вызвалі ложак іншым. А ёй — вельмі кепска. Быў з 17 да 19 — чатыры разы падводзіў да ракавіны, выклікала — у страшэнных муках — штучныя рвоты. У 19.00 яе паглядзеў урач С.С. Сцебуноў, неадкладна загадаў піць барый, каб у 24.00 зрабіць рэнтген. Западозрыў спайку тонкіх кішок. Гэта часта здараецца пасля аперацыі на брушной поласці.

*17-га траўня.* Вечарам, з 18 да 20.30, Ніне зрабілі паўторную аперацыю — убіралі спайку кішок. Перад гэтым тройчы на працягу дня вазілі (за 300 метраў, у другі корпус) на рэнтген — і кожны раз нічога новага: барый не

праходзіць. Спайка. Марудзіць нельга ні трохі. Узялі з мяне і Ніны згоду на аперыраванне — бо гарантый, што арганізм вытрымае, ніякіх — і ў 6 гадзін вечара павезлі ў стары корпус рэзаць нанава... Прафесар Рычагоў Г. П., урачы Рубашэнка В. П., Сцебуноў С. С. і Калядка А. М., — каманда самая моцная, якую можна ўявіць... Аперацыя, па словах усіх удзельнікаў, прайшла добра, Ніна вытрымала яе гераічна, цяпер — усе надзеі на Бога. Каб толькі ніякіх нечаканасцяў! Божа прамілы, прасветлы! Памажы нам! Яві сваю літасць і ласку! Яна ж — святая жанчына!.. Ну я — грэшнік, можа, і вялікі, ну пакарай мяне! А яе — завошта? Завошта ёй такія мукі трываць?..

*18-га траўня.* Усе надзеі — на Бога. Кажу так, бо ўрачы — перш за ўсё тыя, што рабілі аперацыю, — робяць усё для маёй Іванаўны, як для сваёй роднай маці. Стан пакуль што — крайне цяжкі, крытычны. Усё акрэсліцца ў бліжэйшыя два-тры дні.

*19-га траўня.* Пра нейкія, хоць маленькія, зрухі да лепшага гаварыць рана. Малюся і плачу.

*20-га траўня.* На працягу дня — нібыта нейкае троху паляпшэнне. Але пасля таго, што здарылася, у душы — адзін страх, і верыць у паляпшэнне проста баюся. Ды і ці ёсць яно? Прыйшоў у 17 — нібыта крыху павесялелая, адыходзіў у 20.30 — выгляд зусім-зусім нядобры.

*21-га траўня.* Раніцою нічога хоць трохі суцешнага, чаго я чакаў, урач не сказаў. Да абеду быў там Сяргей з Таняй, з 17 да 19.30 быў я, затым і сын прыйшоў. І стала мне так трывожна, аж пачало сэрца млець. Нават учора Ніна пачувалася і выглядала лепш. Амаль не гаворыць, нічога не кажа. Адно прашаптала: ці званіў Багдан? У 19 А. М. Фурсевіч выцягнуў зонд — па яе просьбе... Кажа, што чуе перыстальтыку, можа, і чуе, але ж чаму яна ў такім цяжкім стане? У 23.00 пазваніў медсястры. Адказала: змен ніякіх. Пад кропельніцай. І — не хвалюйцеся так, у яе ж добрыя сённяшнія аналізы. — Якія? — Біяхімічны. Не ведаю, што там за добрыя аналізы. Ведаю, што сну ў гэту ноч мне не будзе ні трохі — не знаходжу сабе месца.

*22-га траўня.* Ніна, здаецца, чуць-чуць павесялела. Божа прамілы-прасветлы, злітуйся і дапамажы, вярні нам надзею на радасць чалавечую!..

*23-га траўня.* Падобна, што міласэрны Бог пачуў мае малітвы: Ніне сёння яшчэ трохі палепшала. Але, але!.. Да спакою яшчэ далёка.

Заходзіла дачка А. Жамойціна Зарына; вярнулася з Югаславіі, прывезла ад М. Джэркавіча два яго зборнікі і бутэльку віньяку. Просіць прыслаць найноўшыя вершы. Я сэнсу не бачу ў гэтым: нічога ён не зробіць. Зрэшты, перадаў жа яму праз З. свае апошнія кнігі — “На высокім алтары” і “Ёсць зямля”.

*24-га траўня.* Да абеду быў на III Кангрэсе беларусістаў, выступіў з прывітальным словам, а па сутнасці — з вострай палітычнай прамовай. Адам Мальдзіс ажно спужаўся і на правах старшыні зрабіў да майго выступу ўдакладненне, што мая крытыка не датычыць прысутных расійскіх беларусістаў. Ну чаму ж не датычыць? Таварыша Сураўцава (і калі ён стаў беларусістам?) вельмі нават датычыць.

Пад вечар хадзіў у бальніцу. Гутарыў з урачом. Суцяшае, што ўсё будзе добра, ідзе на папраўку. Пачалі даваць адвар і сок.

*25-га траўня.* З раніцы быў на сустрэчы з гімназістамі (№ 24), па просьбе К. М. Смірновай, там вучыцца яе ўнучка. Слухалі вельмі ўважліва, задавалі пытанні, і не толькі нейтральныя.

А ў 14.30 сустракаўся з настаўнікамі, якія ў Мінску на курсах перападрыхтоўкі. Застаўся задаволены, поўнае ўзаемаразуменне па асноўных набалелых пытаннях жыцця.

Учора з Венетай Георгіевай (была на Кангрэсе) адправіў у Софію артыкул пра кнігу Н. Радзева, — для газеты "Български писател". Сёння перачытаў копію і ўсумніўся: ці патрэбна было мне гэта рабіць? Балгарскі "цягнік" даўно пайшоў. Што — даганяць буду? У маім сённяшнім стане?.. А вось жа нейкі чорт падбіў, і некалькі вечароў ахвяраваў на "старую песню" сваю, якая стала ўжо сумнай-сумнай.

*30-га траўня.* А 17-й быў у бальніцы. Пагаварыў з урачом С. Сц. Сцебуновым, якому найбольш веру. Запэўнівае, што працэс зажывання і выздараўлення ідзе "па плану", як трэба. Праз тыдзень, сказаў, адправіць у Гарадзішча.

*1-га чэрвеня.* У "Народнай волі" апублікаваны мае чарговыя кавалкі "роздумаў аб жыцці-быцці нашым". Здаецца, трэба ўжо мне спыніцца, досыць. Хоць людзі кажуць, што ім маё слова вельмі патрэбна. Баюся вось чаго: мае кавалкі ствараюць ілюзію, што ідзе змаганне, і людзі чакаюць, спадзяюцца. І самі маўчаць, і сядзяць, як мышы пад венікам.

Апрача таго — выдыхся я дарэшты, стаміўся страшэнна, чуць цягаю ногі. Нядаўна было пытанне: Колькі вас у СП? — 500, кажу. — А дзе астатнія 499, што вы адзін на барыкадах? — Не адзін, кажу, але... ну, так, на барыкадах нашага брата мала.

*2-га чэрвеня.* Дзень нараджэння Ніны "адзначылі" ў бальніцы — прынеслі з сынам ёй кветкі, выпілі мінералкі. Растуць надзеі, што гора нас абмінула.

*6-га чэрвеня.* Юбілейны вечар А. Дударава. У спектаклі ролю Дабрыні выконваў ён сам, аўтар. Здаецца, зразумеў, чаму А. А. пакінуў у свой час сцэну. Быў сёння ў ролі статычны і нецікавы, асабліва ў параўнанні з Жуком. Затое — вячэра, банкет!... Чалавек трыста, пры перагружаных бутэлькамі і смакатой сталах. Мне і фальварка, прадаўшы, не хапіла б, каб расплаціцца. Спытаў: "Адкуль і як, А. А.?". Адказаў: "Приорбанк". Рэзюмэ: ніколі чалавек, які можа пры гэтым рэжыме так шыкавацца, не пойдзе на барыкады. Будзе змагаром на адлегласці.

Наконт п'есы: зноў думаю, наколькі апраўданае перакантаванне гістарычнай праўды?..

*7-га чэрвеня.* Вечар Э. Акуліна ў Чырвоным касцёле. Сенсацыя: тыраж яго зборніка "Радно" пайшоў пад нож — з-за верша "Паэт", прысвечанага Нілу Гілевічу. Далі і мне слова. Сказаў: "Не засмучайся, Эдуард, гэта факт, які ўпрыгожыць тваю біяграфію. Будзеш пасля ганарыцца. Няшмат такіх эпізодаў было ў гісторыі нашай літаратуры". Пасля было невялікае застолле, дзе я сказаў М. Скоблу ўсю праўду, хто і як перасяліў філфак на К. Маркса, у корпус былой партшколы. Заслугі А. А. Лойкі толькі тыя, што перавёз, будучы дэканам, дакументацыю, бібліятэку і сёе-тое з мэблі.

*8-га чэрвеня.* Ніну завезлі ў Гарадзішча. Суправаджаў. Пасялілі не лепшым чынам, з хворай бабуляй. Ёй бы цяпер пабыць адной, без цікаўных і далёкіх ад...

*13-га чэрвеня.* Запрашаюць на вечар М. Забэйды (100-годдзе) у Дом дружбы, на заўтра, але — не выпадзе. Ды і абураны “маштабамі” вечара. Гэта ўрачыстасць павінна праводзіцца ў Оперным, ці ў Купалаўскім, з удзелам усёй духоўнай эліты... А яны — вузкім колцам у ДД. Дзеля “птушачкі”.

*21-га чэрвеня.* Забраў Ніну з Гарадзішча. Трохі падужэла. Але яшчэ і тое і тое непакоіць, і давядзецца хадзіць у бальніцу. Вельмі перажывае: як будзе з ёю на факультэце, хацела б яшчэ трохі папрацаваць.

*22-га чэрвеня.* Занёс у “ЛіМ” новыя чатыры кавалкі з “Быў час, быў век, была эпоха...” Усё цяжэй даецца мне гэта публіцыстыка. Усё менш адчуваю агню і жару. А на тлеючых вугальчыках астылыя душы не сагрэюцца.

*27-га чэрвеня.* Учора званіў Г. Дзмітрыеў — наконт “Паланеза”. Могуць даць 400 радкоў. А ў ім — 1500. Сёння хадзіў у рэдакцыю, была доўгая размова, выйсця не знайшлі, з вялікім шкадаваннем забраў. Нават безганарарны не атрымліваецца, — нейкія жалезныя правілы не дазваляюць. Вось і “дажыліся палякі”...

*30-га чэрвеня.* Апошні “ЛіМ” — пусты, як і папярэдні. Чытаць няма чаго. Ні крытыкі, ні публіцыстыкі... Пасля 1987-1996 гадоў — неверагоднае апушчэнне, і чым далей — тым горш. Гэтак можна даехаць і да ўзроўню “ЛіМа” жычкаўскага... Вось вам і “няма цэнзуры”. Цэнзуры нібыта няма, але і свабоднага дыхання няма. Няма размовы пра тое, што баліць. А без гэтага газета мёртвая.

*1-га ліпеня.* Заходзіў Андрэй Мазько з Янава-Палескага, аўтар кнігі вершаў “Жывы калодзеж”. Паказаў калектыўныя зборнікі паэтаў Берасцейшчыны, галоўны віноўнік якіх — А. Каско. Малайцы, берасцейцы! Асабліва ўразіў “Дзядзінец”.

Госць — чалавек прыстойны, сціплы. На жаль, адчуваецца адарванасць ад вялікага літаратурнага табару. У правінцыі свае меркі. Даў яму рэкамендацыю ў СБП; чалавек, несумненна, здольны.

*2-га ліпеня.* Да абеду быў на IV Кангрэсе дэм. сіл Беларусі, далей быць не хапіла сілы: ні стаяць, ні сядзець, і на абмеркаванне рэзалюцый не застаўся. Даклады і прамовы, за выняткам дзвюх-трох жаночых, былі змястоўнымі, палымянымі і галоўнае — мэтанакіраванымі. Усе білі ў адну кропку: у такіх выбарах, якія плануюцца, удзельнічаць нельга. Толькі — калі будуць прыняты чатыры ўмовы апазіцыі! (А яны прыняты не будуць.) Вельмі задаволіла мяне атмасфера на Кангрэсе. Нашы сілы растуць! Час працуе на Беларусь.

А ў 16.00 глядзеў і слухаў Гэнага. Гаварыў на беларускай мове. Увесь час акцэнт на тым, што галоўная задача — умацоўваць суверэнітэт Беларусі. Каб не бачыў, хто на экране і не знаёмы скрыпучы голас, падумаў бы, што сяджу на Кангрэсе ДСБ, адкуль гадзіну назад вярнуўся.

*3-га ліпеня.* А на плошчы Перамогі Гэны гаварыў зусім іншае. Зноў — тая ж самая песня аб яднанні і аб’яднанні.

Як усё-такі недарэчна да Дня вызвалення Мінска далучылі Дзень незалежнасці! І аб’явілі галоўным святам краіны — Днём Рэспублікі. Аднойчы, веру, усё стане на сваё месца, “і першым святам Бацькаўшчыны стане Дзень 25-га сакавіка!” Абавязкова стане!..

На многіх ветэранаў глядзець і балюча, і сумна: так нічога і не зразумелі, якія перамены ў свеце і ў нас адбыліся.

*19-га ліпеня.* Думаў-думаў і ўсё-такі згадзіўся выступіць на Усебеларускім З'ездзе з дакладам (садакладам!) на тэму: "Суверэнітэт і культура" (дакладна будзе: "Дзяржаўная незалежнасць і нацыянальная культура"). Не ведаю толькі, як пры гэтым стане здароўя змагу падрыхтавацца, — каб не абнясславіцца.

*28-га ліпеня.* "ЛіМ" апублікаваў мае публіцыстычныя нататкі (аж чатыры) пад агульнай назвай "Быў час, быў век, была эпоха..." Ну так: гэта — матэрыял для характарыстыкі часу, у якім давялося жыць.

*29-га ліпеня.* Выступіў на Усебеларускім З'ездзе. Зала прыняла маё слова (а гэта было менавіта слова, а не даклад) вельмі-вельмі горача, з многімі воплескамі — усеагульнымі і бурнымі. Хоць сам не лічу яго маёй самай лепшай прамовай. Проста — шмат душы і сэрца ўклаў — і ў тэкст, і ў "выкананне". Думаю, што на вялікай трыбуне і на вялікім форуме — гэта мая лебядзіная песня. Лепш не здолею — выцягнуў на апошнім дыханні. На гэта і трэба настроіцца. Хіба што — дажыву да перамогі над рэжымам? Але тады будзе радасць, а гэта — не тая тэма, мая — боль, смутак, гнеў.

*3-га жніўня.* "НВ" апублікавала маё слова на З'ездзе, за што шчыра ўдзячны Сярэдзічу. Хай пачытаюць тыя, каму таксама баліць. Сёння ж "Наша Слова" апублікавала мае "Роздумы" — запіскі розных гадоў. Дакладней, сёння прынеслі газету (за 26 ліпеня). Тры месяцы праляжалі ў рэдакцыі! Пры іх вострай надзённасці (асабліва двух апошніх кавалкаў). Нечага не разумею ў паводзінах рэдактара.

*24-га жніўня.* Двойчы, калі мяне не было ў Менску, званіў чагосьці І.Каравайчык, які ў сваім "Здравом смысле" напісаў, што Н. Г. у палітыцы — як слон у пасуднай краме. Ну, нахаміў, ну а я плюнуў. І што яму трэба? Папрасіць прабачэння хоча? Дык прыму толькі апублікаванае ў ягонай жа газеце, а не вуснае.

*4-га верасня.* Я памыліўся: Каравайчык не толькі не просіць прабачэння за хамства, але пайшоў у сваіх цынічных прэтэнзіях далей: паласнуў беларускую творчую інтэлігенцыю ў чарговым нумары сваёй газеты — і прыслаў нумар мне. Ён выбраў шасцярых (Быкаў, Гілевіч, Гарэцкі і інш.) і звярнуўся да нас з адкрытым лістом, каб мы асудзілі Усебеларускі З'езд і яго рашэнне, каб не падтрымлівалі радыкальную апазіцыю ў пытанні аб выбарах і г.д. Дзівак чалавек, ці вар'ят? Ці цынічны нахабнік? Аказваецца, дзеля гэтага і званіў. Чакае адказу. Не дачакаецца. Бо — занадта ўсё зразумела.

*12-га верасня.* Хадзіў на юбілейны вечар Г. Каржанеўскай. Давялося сказаць невялікае слова. Напрацавала яна за чвэрць веку нямала, я нават здзівіўся: кнігі лірыкі, паэзіі для дзяцей, каля 20 п'ес для дзіцячых тэатраў (10 пастаўлена), мноства артыкулаў публіцыстычных, мноства рэцэнзій... І актыўная грамадская дзяячка. Патрыятычнага накірунку. Вось пра гэта я і сказаў. Нагадаўшы, што фактычна і мая зямлячка: школу канчала ў Янушкавічах. Была вельмі рада і ўдзячна, што я прыйшоў, а яшчэ і выступіў. А я быў балюча ўражаны, што на вечары Г. К. не ўбачыў ніводнай паэтэсы (апрача З. Дудзюк з Брэста) і наогул ніводнага пісьменніка (апрача А. Петрашкевіча; "ЛіМаўскіх" калег Г. К. і

апаратчыкаў СП — не лічу, — гэта па афіцыйнаму абавязку). Вось так, дарагія мае!.. Слова пра жыццё і творчасць Г. К. паспрабаваў сказаць малады (35 гадоў) доктар філалогіі А. Бельскі.

У “Звяздзе” Т. Бондар выступіла з ваяўнічых пазіцый супроць беларускіх пісьменнікаў, якія не хочуць яднацца з Расіяй, а хочуць незалежнасці. Міжволі ўспомніўся 1988-ы, і яе збор подпісаў, каб скінуць Н. Г-ча з пасады Першага сакратара СП. Цяпер яна — апантаны абаронца славянскага адзінства. І пасаду атрымала (апрача таго, што рэдактар): прэзідэнт ці старшыня Міжнароднага Форума “Паслы славянства”. Між іншым, убрыкнула Дударава за негістарычную, занадта вольную трактоўку вобраза Рагнеды ў “Палачанцы”.

*13-га верасня.* Меў сустрэчу і гутарку з У. Конанам — наконт стварэння Вольнай Беларускай акадэміі (ВБА). Гэту ідэю ён выказаў гадоў 9 назад у адным з артыкулаў у “Полымі”. Я наткнуўся на яго артыкул тыдні два таму — і вельмі загарэўся гэтай задумай, лічу, што трэба абавязкова яе ажыццявіць. Рэч у тым, што ў НАН буйнейшыя вучоныя-гуманітарыі і пісьменнікі не ўваходзяць, у ёй беларускага духу скора не застанецца зусім. Патрэбна альтэрнатыва. Патрэбна аб’яднанне выдатных, знакамітых навукоўцаў (для пачатку — гуманітарыяў), уваходзіць у якое, быць яго членам — гонар больш высокі, чым быць у НАН. І весці ў ВБА адпаведную навуковую працу (канферэнцыі, даклады, зборнікі і г.д.). Узгаднілі першыя імёны для Устаноўчай групы. Конан будзе думаць, — ён лепш ведае навукоўцаў, — каго запрасіць яшчэ... Наконт некаторых названых мною імён — у яго ёсць “пытанне” (я нават здзівіўся). Гэта мяне трохі занепакоіла: каб не ўзялі курс на “секту”, замест акадэміі. Вядома, проба на беларускасць павінна быць вельмі высокай, але — і давер павінен быць да паплечнікаў па змаганні.

*27-га верасня.* Сустракаўся з настаўнікамі ў Інстытуце ўдасканалення. Звычайна, як і раней. Без энтузіязму — і з іх боку (не адчуў), і з майго. Усе яны — як у ваду апушчаныя. І не да паэзіі ім. Пра кавалак хлеба думаюць. А тут паэта прывялі...

*30-га верасня.* Споўнілася 69. Чуюся на 79. Задыхаюся, асабліва ноччу. Віншаванняў было больш, чым мог спадзявацца (у асноўным — па тэлефоне). Ад сяброў — адно-два. Ну і яно сабе. Усё ідзецца, як і мае быць. Без ілюзій.

*3-га кастрычніка.* Званіў Матукоўскі, сказаў, што Быкаў перадаваў мне прывітанне. Паверыць? Не ведаю. Усё схлусілася ў гэтым свеце. Можа, і перадаваў. “За кампанію”.

*6-га кастрычніка.* Быў — па запрашэнні Я.Д. Грыгаровіч — на юбілейнай інаўгурацыі ў БУК. Уражанне — самае добрае. Можа, нават і выкажу свае думкі ў друку.

*17-га кастрычніка.* Сустрэча са студэнтамі педуніверсітэта. Традыцыйная (ужо гадоў пяць сустракаемся). Моладзь — усё такая ж: настроена вельмі патрыятычна. І разумее паэзію, што таксама радуе.

*18-га кастрычніка.* Аддаў У. Лапцёнку рукапіс зборнічка “Лірычныя мініяцюры” (назва будзе іншая, можа, па нейкім вершы). Гэта — для серыйнага выдання “малютак”, галоўным рэдактарам якога ён папрасіў быць мяне. Я ж і склаў яму (яшчэ вясной) праспект усяго выдання — па тэмах і па імёнах,

агулам больш 70-ці кніжачак. Не ведаю, як будзе ажыццяўляцца гэта яго задума, ці хопіць пораху. Ужо адчуў, як умешваюцца і дыктуюць яму волю гэтыя — усюдыісныя.

*23-га кастрычніка.* Сустрэча са студэнтамі тэхналагічнага (па "Знічу"). Ужо другая ў гэтым месяцы. Надзіва хораша ўспрымаюць і паэзію і "публіцыстыку" (адказы на запіскі) тэхнолагі, будучыя інжынеры, спецыялісты не гуманітарных прафесій.

*24-га кастрычніка.* Пазваніла Н. Семашкевіч, што ёсць карэктура майго 3-га тома. А я, па шчырасці, ужо і карэктуры не чакаў. Ну, што, памажы Божа! Каб і кніга, хоць да Новага года, паявілася. Каб хоць трохі весялей на душы стала. Але пэўнасці няма ніякай. Ніякай! Пры такіх няпэўных парадках у краіне... чакай, чаго хочаш.

*25-га кастрычніка.* "Звязда" апублікавала трэці, апошні, кавалачак маіх нататак пра неабыдзённае. На тыя два першыя былі добрыя званкі — нібыта "на тваім узроўні".

Яшчэ адна сустрэча ў Тэхналагічным. Апошняя. Вычарпаўся да астатку. Усё. Перадыхнём. Схаджу яшчэ на ўжо запланаваныя сустрэчы ў Мінскі інстытут кіравання (недзяржаўны) і ў Інстытут перападрыхтоўкі спецыялістаў с/г тэхнікі — і пасля нікуды ні кроку. Вычарпаўся.

*26-га кастрычніка.* Зранку гадзіны дзве забраў Я. Я. Крыцкі — рэдактар "Книжного колейдаскопа". З яго гаварлівасцю мог бы забраць і цэлы дзень. Хоча зрабіць часопіс цікавым, чытэльным і кідкім. Можа, і зробіць, энергіі, бачна, шмат. А вось ці зробіць яго беларускім (хоць бы напалавіну) — сумняваюся: у штаце рэдакцыі людзі, далёкія ад беларускай літаратуры і культуры, і зусім не сябры, мякка кажучы, нашага Адраджэння. Будуць гнуць сваё, эсэсэраўскае. Першыя пяць нумароў, прынамсі, для іншай высновы падстаў не даюць. А выдае "КК" — А. П. Аношка, вельмі мне сімпатычны беларус з Лепельшчыны (летась ён выдаў дзве паэмы — Дамавіка і Раскапэнды).

*30 кастрычніка.* Сустрэча ў Мінскім інстытуце кіравання. Самая цікавая з усіх за гэты год. Інстытут уразіў незвычайна! Перш за ўсё тым, чаго можна дасягнуць прыватнай ініцыятывай, калі прыкласці розум (вялікі!), сэрца і рукі, адным словам — творчую энергію, натхненне. Што ўжо яны паспелі зрабіць, пабудаваць, а якія планы, перспектывы! А як пастаўлены вучэбны працэс! Першая скрыпка — сам рэктар Мік. Вас. Суша. Ён усё цягне, — з калектывам, вядома. Выдатны арганізатар, думаю, што і навуковец таленавіты. Асоба. Не абы-якая асоба. Гутарылі з ім доўга. І да пачатку, і пасля. Мог бы спакойна кіраваць усім міністэрствам, а то і гаспадаркай усёй краіны. І быў бы лад. Дарэчы, сам быў на сустрэчы да канца — і адкрыў, і закрыў. Ужо гэта пра многае гаворыць (да яго — ніхто нідзе). Ну, і ганарар мне выдалі — амаль як Еўтушэнку ў Амерыцы.

*1-га лістапада.* Сустрэча ў Інстытуце перападрыхтоўкі пры БДАТУ. Не ўзрадавала. Дзеля птушачкі. Планавая. Запрашалі філосафаў, гісторыкаў, ну і мяне, — для лекцыі, а не для паэзіі. Такой казёншчынай старых часоў дыхнула! Між іншым, і ганарар — у 20 разоў меншы, чым быў заўчора. Таму што тут дзяржаўная стаўка, а там — ацэнка па якасці, ведаюць, каго запрасілі.

*10-га лістапада.* “ЛіМ” апублікаваў мае “Усмешкі з чорнай восені”. Ні ад каго ніякага водгуку не чакаю. Асабліва ад калег і некаторых сяброў. Бэндзьце здровы, кумпякі! Але помніце, што я вас не прадаваў. Бог сведка!.. Ён жа бачыў, што рабілі вы.

*11-га лістапада.* У палацы “Сукно” мінскі прафсаюз праводзіў акцыю-канцэрт у абарону культуры і працаўнікоў на ніве культуры. У акцыі прыняў удзел і я, — па звышнастойлівай просьбе У. Ад. Мамонькі. Прачытаў пяць васьмірадкоўяў і сказаў некалькі слоў. Заклікаў да актыўнай дзейнасці і — крый Бог — не маўчаць. Не думаць, што вашу місію выканае вясковы электарат Гэнага. З пісьменнікаў на акцыі былі: А. Дудараў і А. Вольскі. Апошні прагрымеў пад “фанеру” агульшчыну, Аляксей — па-жывому, разумна і досыць востра.

*15-га лістапада.* Хадзіў да земляка Міколы Тонкавіча. Не бачыліся, можа, і гадоў сорак, — не прыпомню. Вельмі хораша пагутарылі, паўспаміналі. У яго мілая жоначка, на жаль, як і ён — трохі калека. Вельмі душэўная жанчынка. Угаварыў Міколу, каб склаў свой зборнік. А я напішу прадмоўку.

*20-га лістапада.* Заходзіў у “Полымя”, па дарозе дадому. Бачыў Законнікава. Сказаў, што з пятніцы ў Мінску Быкаў, сёння ці заўтра паедзе назад, у Франкфурт на Майне. Законнікаў будзе друкаваць яго старое (1985) інтэрв’ю, — вялікае, старонак на сто, — узятае Адамовічам. Сказаў С. І., што досыць цікавае, асабліва некаторыя мясціны.

*24-га лістапада.* Сёння чакалі мяне ў Гайне. На свята. На жаль, паездка сарвалася, — па стану здароўя. Дакладней, няма ніякай сілачкі.

*30-га лістапада.* Вечар Караткевіча ў ДЛ. Быў. Слухаў. Бедна і сумна. Зусім не на тым узроўні, якога варты У. С. І крыўдна, і горка, і сорамна. Калі ж скончыцца гэтае ганьбаванне нашай культуры? Божа, дзе ты?!.

*6-га снежня.* Учора пачаўся З’езд беларусістаў. Сёння на некалькі хвілін слова атрымаў я. “Гваздаў” усё тое ж. Пра іншае не бачу сэнсу. У першым радзе сядзеў і спаў — пасля ночы ў дарозе — С. Я. (Гэта было ўчора.) Сёння была вячэра. Падыходзіў а. Надсан. М. Варчэня (Карпенка) расказала неверагодныя рэчы пра новую рэдактарку “Алесі”. Давідоўская мне і Конану крыкнула ў якасці тоста: “За Вольную Беларускую Акадэмію!..” Значыць, яна ў курсе. Баюся, што гэтым тостам усё і скончыцца.

7-га снежня. Юбілейны вечар В. Жуковіча. Хадзіў і сказаў слова, за якое вельмі дзякаваў юбіляр. На “другім аддзяленні” былі цудоўныя дранікі. Сядзелі з М. Захарэвіч, расказвала жахі пра Купалаўскі тэатр, пра яго дырэктара. Зусім не той! — не змагар за Беларусь.

*15-га снежня.* У 15.00 у НБ, выстава Э. Агуновіча як графіка і жывапісца. Давялося трохі сказаць, — з павагі да гэтага моцнага беларуса. А ў 17.00 — у ДЛ, у бібліятэцы, — юбілейная вечарына Алеся Барскага. Браў слова, — як і было дамоўлена. Стараўся аддаць яму належнае. Згадаў, як гадоў 20 назад на нейкай вячэры ў Мінску (на філфаку?) Барскі сказаў мне: “Ды лопне і разваліцца гэтая імперыя, вось пабачыш!..”

*16-га снежня.* Увесь дзень правёў на канферэнцыі, арганізаванай М. В. Сушам, дырэктарам МІК. Досыць сумна. Каб табе адно слова на беларускай мове! Парываўся выйсці і сказаць сваё — г.зн. куды ідзем? На якую мараль і культуру працуем? І не выйшаў. Такая апанавала апатыя... страх! Які сэнс выходзіць? Перад кім? А мо і дарэмна?..

*20-га снежня.* Спектакль “Зніча” ў Інстытуце ўдасканалення. Звыкла — як заўсёды. І жывая рэакцыя, і дзясяткі пытанняў, і поўны кантакт... І аднак жа — без асаблівага натхнення з майго боку. Стома — ва ўсіх фібрах, ва ўсіх клетачках душы.

*22-га снежня.* Юбілейны канцэрт аркестра М.А. Казінца. Міх. Ант. быў у бліскучай форме. Яшчэ раз пацвердзіў свае магчымасці. А ў мяне ўвесь час на душы нейкія смуты. Куды ты хілішся, сябра? Апомніся! Другі Міхась, Паўлавіч, віншуючы сказаў: “А наша песня, наша музыка будзе жыць, і яе не задушаць!” Сярдзіта сказаў. Значыць — душаць? Душаць!..

*28-га снежня.* Сустрэча са студэнтам Андр. Жыдовічам, па яго просьбе. Быў і яго сябра. Больш гадзіны прахадзілі паркам, каля ДЛ. Хацелі ведаць маю думку наконт палітычнай сітуацыі і паэўных дзеячаў, наконт мовы. Быў з імі да канца шчыры, бо здаліся мне сумленнымі і сімпатычнымі.

*31-га снежня.* Год скончыўся. І век. І тысячагоддзе. А трэці том так і не выйшаў. Перанеслі на 2001. Значыць, чацвёрты перанясецца на 2002 (у лепшым выпадку). Рэдактар Н. Семашкевіч супакойвае, што ў пачатку года трэці выйдзе. А я ўжо амаль не перажываю.

*(Працяг будзе)*



Алесь Жук



...няўжо дастаткова людзям толькі таго,
што хапае каб паесці
і шмотку модную на сябе нацягнуць ...

# Лісты абляцелыя

## *Дзённікавыя згадкі: 1974-2000*

Перад Новы годам змыла зіму разам з усім яе снегам. І хрышчэнскіх марозаў няма, хаця ветрана, холадна. Толькі зранку закаламуцілася неба і пасля абеду вецер паспрабаваў закруціць мяцеліцу. Шкода толькі, што не надоўга, з малым снегам. Але і на ноч застаўся вецер, насупленае неба без ніводнай зорачкі.

Учора заходзіў у “Нёман” да Левановіча. Прымусіў упісаць у пачатак рэцэнзіі, хто такі Стральцоў, што абсалютна не патрэбна, ды і гэтак званая мая кароткая рэцэнзія на “Ядлоўцавы куст” больш падобная на разгорнутую анатацыю ці на добрае чытацкае слова, чым на рэцэнзію.

Там жа ў змрочнай баковачцы між сталоў сядзеў Макаёнак плячыма да акна, а збоч у адпрасаваным касцюме, гладка прычэсаны, фізічна здаровы паэт Браніслаў Спрынчан.

Няёмка, калі пры табе самім цябе пачынаюць хваліць, нават адзін на адзін, а не прылюдна. Макаёнак мабыць гэта зразумеў, калі я перавёў гаворку з маіх надрукаваных у “Нёмане” апавяданняў на Шамякіна, сказаў, што “Атланты і

карыятыды" падпісаны ў набор, бо ведаў, што Макаёнак першым чытаў рукапіс. Тады і ён перавёў гаворку на сваіх, спытаўся, што плануюць на бліжэйшыя нумары. І Левановіч, і Спрынчан замітусіліся, пачалі паказваць планы, шматслоўна тлумачыць тое, што Макаёнак і не збіраўся запамінаць, махнуў рукою, пажартаваў: "Пакіраваў – і даволі!" На развітанне падаў руку ўсім. Супрацоўнікі пракаментавалі, што рэдактар хацеў паказацца, як кіруе. Я гэтага не адчуў. А яны самі паказаліся, зноў пачалі хваліць мае апавяданні,і трэба было альбо ісці па бутэльку, альбо адвітвацца.

Глядзеў па тэлевізары "Белую дачу" пра Чэхава. Запомнілася пра кроплю шчасця ў жыцці, на якую не ў кожнага чалавека ёсць шанс.

Учора быў на праглядзе "Тартака" па Пташнікаву. Фільм увогуле ёсць, нават і глядзецца будзе. Хаця многа ненатуральнасці, нашы акцёры іграюць так, як на сцэне, па-тэатральнаму, а на кінастужцы гэта бачыцца.

Не ў першы раз цудоўны літаратурны твор і даволі сярэдні фільм па ім. Непадалёк ад мяне сядзеў стары Мікола Хведаровіч. Усю вайну ён прабыў у Сібіры, на вольным пасяленні пасля лагера. Прыйшоў на прагляд, мабыць, каб неяк прабавіць вечар, добра павячэраўшы нават стагнаў паціху і ўсё дапытваўся: а куды гэта яны – абоз – усё едуць і едуць...

Тэмпература каля нуля. Туман, удзень капае з дахаў. Атрымалася гнілая зіма, гнілое надвор'е. Снегу мала нават у лесе. Вавёрачка весела бегае з галінкі на галінку, з сасонкі на сасонку, быццам нябачнаю нітачкаю аблытвае дрэвы. На верандзе забітага на зіму дзіцячага чыгуначнага вакзальчыка свежага зялёнага колеру – двое лыжнікаў націраюць маззю лыжы, вясёлыя і стройныя, ён і яна.

Учора быў у Адамчыка, нават крыху паназаляў яму: на стале ў яго многа ляжыць на чытку. Угаворвае пісаць нешта большае, чым апавяданні. Мне дзіўна было, калі сказаў: "Ніколі не лічыў самамэтай пісаць апавяданні. На іх вучыўся, каб пісаць нешта большае." Дарэмна вінаваціць Стральцова, што з-за яго я "засеў" на апавяданнях. А мне выпісваць усе атрыбуты рамана на сённяшні дзень сумна і нецікава, у рамане не абыдзешся без абавязковых "радоў", ну аповесць, дык гэта вялікае апавяданне. Вячаслаў Уладзіміравіч прызнаўся, што раман пісаць пачаў даўно, нават адзін варыянт напісаў і выкінуў. Лічыць сваім абавязкам захаваць людзям тое, што ведае пра свой народ. Яшчэ гаварыў пра тое, што сябе трэба прымушаць, падганяць, трымаць у рамках. Пра нешта падобнае здагадваюся і сам, хаця пішу таму, што проста хочацца пісаць. Сказаў, што будзе пісаць раман на далей, будзе атрымлівацца ён ці не...

Зноў перачытваў Бунінскую "Жизнь Арсеньева". Дзіўна, як змог запісаць на паперу і пакінуў жыць і мучыцца на свеце вялікую чалавечую тугу і сумоту ад радасці жыцця і неадступнага адчування яго імгненнасці.

Харошыя, сонечныя і такія, як каханне немаладой жанчыны, добрыя вераснёўскія дні, такі моцны пах апалага лісця, які стаў прывычным, што толькі зараз, пішучы гэтыя радкі, спахапіўся, што ўжо другая палова месяца, што вось-вось пачнецца толькі шэрань ды дождж.

Як усё мяняецца ў жыцці, і адносна даволі хутка. Цяпер ужо немагчыма, так як зусім нядаўна: Лынькоў у "Векапомных днях" Казлову даў прозвішча Саколіч як вялікаму партызанскаму кіраўніку. І тады нават крытыкі літаратуры называлі ў сваіх работах літаратурнага героя жывым Васілём Іванавічам, а не Саколічам.

Праўда, сам Міхась Ціханавіч называў сваё пісанне "апупеяй". Што ад яе застанецца ў будучым? Дзед Аўсей і Палашка, ці яшчэ што-небудзь?

Узяўся чытаць сёння "Маладосць", з задавальненнем чытаў Брыля, які ўмее пісаць са шчыраю адкрытасцю душы. І ў той жа "Маладосці" чытаў другога, які столькі ўжо гадоў жыве ў горадзе і не мысліць свайго жыцця без гарадскіх выгод, а ўсё яшчэ зноў і зноў апісвае чыгуны ля печы, мокрыя анучы, на якіх адцэджваюць параную бульбу і гэтак далей. І людзі паміж сабой не проста гавораць, а гутараць "пад народ". Як тут не падумаеш, што гэты даволі не стары яшчэ пісьменнік не "юродствует" у сваім сялянстве? Пра такое пісьменніцтва Адамчык аднойчы рэзкавата кінуў:

– Няма пра што пісаць, жыццё пачынаюць з натуры спісваць.

Аднак такое пісанне не клопатнае – і прахадное, і прыбыльнае.

Вярнуўся з нарады маладых пісьменнікаў з Масквы. Сама нарада мяне то і мала цікавіла, мая кніга ў перакладзе на рускую мову выйдзе ўжо ў наступным годзе, але пабыць там было цікава, пазнаёміўся з многімі цікавымі хлопцамі і з Расіі, і з іншых рэспублік. Слава Богу камсамольцы не ўстроілі маладым пісьменнікам казарменнага рэжыму, хто лічыў патрэбным, той хадзіў на семінары, каго на любоўныя прыгоды цягнула з выпадку вясны, той большую ўвагу ўдзяляў гэтаму. Жылі ў чыстай акуратнай гасцініцы побач з Новадзявочым манастыром, па два чалавекі ў нумары, так што можна было ў сяброўскіх гаворках за чаркаю прабавіць і ўсю ноч, што і галоўнае на ўсіх такіх нарадах.

А тым болей, што я быў не проста ўдзельнікам нарады, але і кіраўніком беларускай групы. Якраз на гэтыя дні па часе ў Літве праходзілі Дні беларускай літаратуры. І старэйшыя нашы пісьменнікі, і сакратары Саюза пісьменнікаў ірванулі туды, дзе гасцінная і скварка, і чарка. Скончылася ўсё тым, што сакратары ЦК ЛКСМБ кіраўніцтва беларускай групай даручылі мне.

Кіраваць я там нічога не кіраваў, але часу вольнага меў, каб выхадзіць усе Новадзявочыя могілкі, пабачыць магілы тых вялікіх, хто там пахаваны, і якія хацеў пабачыць, пабыць і ў рэдакцыях, і ў ЦДЛе пасядзець.

Для многіх маладых пісьменнікаў, якія з'ехаліся з усяго Савецкага Саюза, нарада была не проста нагода пабачыць Маскву, але і атрымаць падтрымку ў друкаванні сваіх твораў у маскоўскіх часопісах, у выданні ў Маскве кніг – нарада мела паўнамоцтвы найбольш здольных рэкамендаваць і да друку, і да выдання кніг. Таму са сваімі маладымі пісьменнікамі прыехалі і Кайсын Кулiеў, і Давід Кугульцінаў, і іншыя вядомыя нацыяналы, вадзілі хлопцаў і па рэдакцыях, і па выдавецтвах, знаёмілі з рэдактарамі і выдаўцамі за рэстараннымі цэдэлаўскімі сталамі, што давала на многа большыя шанцы, чым рэкамендацыі ад імя нарады.

На нарадзе здараліся і анекдатычныя выпадкі пры ўсёй яе разрэкламаванай сур'ёзнасці.

Па нашай з Далідовічам творчасці на семінарах павінен быў выступаць выкладчык Літаратурнага інстытута, крытык, зямляк, які заўсёды з'яўляўся на гарызонце, калі прыязджалі беларусы, Аляксандр Мікітавіч Уласенка. Ён, вядома ж, прымаў і актыўны ўдзел у семінары. Кнігі нашыя ён прачытаў відаць, але даклад мудра рабіў абапіраючыся на адно апавяданне. Ці то ён запіскі паблытаў, ці на памяць паспадзяваўся, але на семінары ў Далідовіча ён разбіраў маё апавяданне, на семінары ў мяне – яго. Ніхто акрамя нас з Далідовічам гэтага не заўважыў, але, як было заведзена не намі, дакладчыка трэба было частаваць. Заказалі мы з Генрыхам столік у рэстаране "Сафія", на чатырох, бо настаўнік захацеў пазнаёміць нас са сваім вучнем Барысам Лявонавым, які ў яго быў аспірантам і рыхтаваўся абараняць кандыдацкую.

Усё было ў звыкла маскоўсім стылі і так бы і прайшло, калі б падпіўшыя вучань і настаўнік не пачалі каціць бочкі на Быкава, ды яшчэ і ў стылі абразчыкаў “генеральска-ветэранскай” аглаблёвай крытыкі. Я спрабаваў аспрэчваць апанентаў, што не мела поспеху, тады Генрых Вацлававіч нечакана нават і для мяне прапанаваў кардынальны варыянт – паказаў нашым гасцям на дарогу ад стала да дзвярэй. Вось тут была мёртвая хвіліна: Уласенка абмацваў рукою ля крэсла свой абшарпаны аб’ёмны чорны партфель, з якім не разлучаўся, Лявонаў наліваўся чырванню, але праз хвіліну яны шыбанулі да дзвярэй пад здзіўленыя позіркі афіцыянтак.

Апошні дзень месяца. Дажджліва, ветрана і цёпла, нават “коцікі” на вербах выгортваюцца пад гэтаю вільгаццю, хаця пасля ночы яшчэ заставаўся мокры, сінявата-вадзяністы снег. У дзіцячым садзіку на шпакоўні на дрэве як ні ў чым не бывала святкаваў шпак, песню якога ў горадзе можна пачуць толькі прыслухаўшыся. Выжыў усё-такі, адолеў некалькі дзён з мяцеліцаю і – самае горшае – з марозам.

Пайшоў на збыт дзень, яшчэ незаўважна. Пачынае зацвітаць ліпа і цыкорыя. Лісце шуміць тугавата пад ветрам, ночы бываюць прахалодныя, думаеш, што няўтульна было б, каб заначаваў дзе ў лесе.

У горадзе раптам з’явілася многа прыгожых жанчын, можа таму, што зыходна пачало свяціць сонца.

– Калі не працую і прамінае дзень, адчуваю сябе такім падляцом. Вы то, хлопцы, можа гэтага і не адчуваеце?

Гэта гаварыў Іван Антонавіч Брыль. Адчуваць, як ён, можа, і не адчуваем, але нейкае прадчуванне ёсць.

За ўсёю яго гаворкаю і пра непатрэбныя групоўкі, і пра вайну за пісьменніцкія пасады, і пра графаманства – яго вышэйшасць, бачыць ён шырока і аб’ёмна. Ёсць прыкрасць, што людзі разменьваюць марна тое дарагое, што яшчэ маюць, – час, забываюць пра кароткасць жыцця.

Як гаварыла мая бабуля ў свае 76, што быццам яшчэ і не жыла, толькі ўсё збіралася жыць, а жыць і часу амаль не засталося.

На мінулым тыдні сабраліся ўтрох і з’ездзілі ў Вільню. Траяноўскі, Панізнік і я, на Сяргеевай машыне. Па дарозе заначавалі на беразе Віліі, непадалёку ад Залесся, дзе пісаўся геніяльны паланэз, дзе апошняю ўладальніцаю была нейкая пані Жабрацкая ці Жабраковіч.

Даволі шырокую, хуткую, але неглыбокую ў гэтым месцы рэчку перайшлі ўброд па пясчаным дне. Ноччу палілі вогнішча, пяклі на ражэнчыках сала і больш слухалі Траяноўскага, пра яго дачаснае сіротства і юнацкае партызанства, з якога пачыналася жыццё.

На колькі хапіла ног хадзілі па старой Вільні, а закончылі блуканне ў дзядзькі Пётры Сергіевіча, у ягонай загрувашчанай майстэрні на трэцім паверсе, загрувашчанай карцінамі, а не старой амаль антыкварнай мэбляй, слухалі гаварлівую пані Стасю на яе віленскім польскім жаргоне.

Паказваў цэлы альбом схопленых на аловак твараў розных людзей, проста розных людзей. Гэта цудоўна, гэта не горш за яго карціны, малюнкі шчырыя і простыя, як і наша лепшая проза 20-х гадоў.

Дзядзька Пётра акуратны рухомы чалавек з чыстымі блакітнымі вачыма. Ужо зусім стары. Фатаграфаваліся на памяць.

Пасля кароткага пахаладання зноў цёпла. Пазваніў з Нарачы Семашкевіч, жаліўся на дождж і на тое, што не надта пішацца там, хоць і жыве ў асобным пакоі. Нават папера адсырэла ў нумары. Ён напісаў грунтоўнае пісьмо Сіпакову наконт свайго эсэ пра Буйніцкага, якое сабраліся падаць чытачу ў выглядзе артыкула, а гэта дабротная проза.

Апошнія дні сяджу за машынкаю, перапісваю з рукапісу “ Зоркі над палігонам”, з усяго таго, што бачыў служачы, пакідаю толькі сітуацыі са стрэльбамі, з ваджэннем, маршамі на БМП і іншымі рэчамі, якія ёсць у арміі і якія захапляюць нават і сталых мужчын, раблю згодна армейскаму статуту ўсё правільна, бо інакш не пойдзе ў друк, і стараюся, каб было рамантычна хоць для падлеткаў. Такое прадукцыі пісаць можна многа і лёгка, а аплата за аўтарскі аркуш аднолькавая, на гэтай тэме можна жыць доўга і бесклапотна без вялікай натугі.

Чытаю рукапіс новае кнігі Брыля з “Ніжнімі Байдунамі”, “Туртавым”. Паспрабуй пераключыся на рэдактарства, чытаючы гэтыя “Байдуны”. Проста маеш асалоду пасля цэлых рукапісаў суцэльнае апісальнасці. Добра, што ёсць такія святы, ёсць мастацкая літратура, якая ў любы час будзе прынята чалавекам як суладная і добрая шчырая душа-спадарожніца.

Радасна і за самога пісьменніка, што яму пры жыцці дастаўся хоць акрайчык і славы, і прызнання. Да многіх слава прыходзіла ўжо тады, як холадна, няўтульна канчаўся дзень жыцця.

Бываюць дні, калі шанцуе на добрыя сустрэчы. Літаральна пазаўчора заходзіў у выдавецтва Адамчык. Прыносіў заказаную яму закрытую рэцэнзію. Напісана акуратным каліграфічным строгім почыркам. Сам хударлявы, лёгкі, добразычлівы, з сумнаватаю ўсмешкаю, падобнаю на гэтыя пажоўклыя жнівеньскія дні.

Не толькі прыемна чытаць строгія радкі рэцэнзіі, але і проста гаварыць з ім.

Так і сярод народу, калі сустракаеш майстра свае справы, прыемна гаварыць з ім.

Жорсткае, пачарнелае, паедзенае вусенню лісце шуміць на таполі пад ветрам так, што здаецца – дождж па шыбах.

Пазаўчора быў на пахаванні Хадкевіча. Як усё ж нямнога людзей прыйшло на развітанне. І не так выступоўцы хвалілі творчасць, як амаль усе гаварылі пра тое, што быў добрым чалавекам. А гэта і не так мала.

Ляжаў у труне крышку быццам павярнуўшы галаву да таго пляча, якое яму балела.

Канец верасня, а стаіць цеплыня да трыццаці градусаў, людзі купаюцца.

Адну белую месячную вераснёвую ноч над пустымі палямі пабачыў нядаўна ў вёсцы. Велічная высокая месяцавая журба, у якой не варухнецца нават і ліст на дрэве.

Такою вечнасцю і жаданнем жыцця дыхнула ад гэтае цішыні і велічы, ад палявога спакою, што і сёння яшчэ пры ўспаміне шчыміць сэрца.

Назаўтра са стрэльбаю хадзіў па пустых палях, па слабенькай, толькі прарослай руні, на лужках страляў па качках.

А пасля абеду пад жоўтым асеннім сонцам ішоў да аўтобуса, потым ехаў да горада ў цеснаце, п'янаватай, бесталковай гаварыльні.

Пахаванне за пахаваннем. Дзесьці ў мінулым годзе пісаў па нечыйму заказу слоўца пра Міхася Лынькова, а сёння адстаяў ля труны. Усё робіцца неяк паспешна, і над труною гаварылі чамусьці па-руску.

Пражыў амаль тры тыдні з цудоўным спакоем, з чытаннем і невялікім пісаннем, з любоўю да сына і яго бесклапотным і светлым прыняццем гэтай любові. Калі чалавек шчаслівы, ён тады не ведае, што ёсць шчасце, пра яго ён даведваецца, калі шчасця не стане, пачынае шукаць яго і рэдка калі знаходзіць.

Яшчэ раз чытаў "Млечны шлях" Чорнага. І думаў, што ні кароткія сказы, ні гэтыя частыя "было" – нішто не перашкода той сапраўднай мастацкай праўдзе, калі напісана спагаднаю і збалелаю душою. Адна з абавязковых і галоўнейшых адзнак сапраўднага мастацтва.

Цэнзура здымае з кнігі ў Пімена Панчанкі верш пра родную мову, знікла калыханка па-беларуску не толькі на тэлебачанні, але і па радыё. Збоку здзіўлена слухаюць, калі гавару з сынам па-беларуску. Няўжо дастаткова людзям толькі таго, што хапае каб паесці і шмотку модную на сябе нацягнуць. А якім жа і як будзе мой сын без гэтае вечнае "журбы ў палях", без святыні ў душы?

На секцыі прозы, пачынаючы ад Лобана, узводзілі мяне ў ранг "маладога таленавітага". Толькі ад усяго гэтага хвалення, думаецца, і шкоды не будзе, і карысці. Работу трэба рабіць доўга, і будзе ўсякага, лёгкага і цяжкага, удач і няўдач, дай Бог толькі здароўя і яснае галавы.

Выступаў на пісьменніцкім сходзе Яцко, намеснік старшыні Дзяркамдруку, і зусім сур'ёзна патрабаваў, каб мы самі пісьменнікі скарачалі колькасць выданняў на беларускай мове і больш выдавалася рускай класікі і дзіцячае літаратуры.

Ужо некалькі дзён мясцінамі ляжыць лёгкі сняжок. Ветрана і холадна ад настылае зямлі. Хочацца снегу і не хочацца думаць, што зноў можа быць дождж, гразь, хлюпота.

Учора заходзіў да Івана Антонавіча. Ён уважліва, да коскі, вычытаў не толькі сваё ўступнае слова да кнігі, але і ўсю маю карэктуру, напісаў пісьмо да Сяргеевай з заўвагамі, чаго не здагадаўся зрабіць я. І ўсё гэта зроблена з адчуваннем і свайго ўмення, і майстэрства, што гэта значная работа.

Калі я сказаў, што магчыма паўтараюцца некаторыя дэталі, ён быццам між іншым кінуў: маецца і такое – у пачатку кнігі хлопчык падводзіць пад стрэл свайго сябра-сабаку, а ў канцы кнігі хлопчык ужо сам страляе ў сабаку.

Праводзіў мяне з кватэры на лесвічную пляцоўку, і калі я сказаў, што толькі адбіраю ў яго час, спакойна адказаў:

– Нічога. Некалі і вы гэта будзеце рабіць.

Міхась Ціханавіч Лынькоў, дажыўшы век, прасіў, каб прозвішча Броўкі і Лужаніна не было пад некралогам. Броўку, здаецца, упісалі па загадзе зверху, потым зрабілі яму пампезны творчы вечар, дзе ён ад расчуленасці і шчасця так загаварыўся, што назваў роднаю моваю рускую. Лужанін на пару тыдняў залёг у бальніцу.

Чытаю ў "Литературном наследии» Буніна, у першым томе на 61 старонцы пра беларусаў, пра наша Палессе.

"Народ не понравился мне белыми зипунами, белыми бараньими треухами, белорусским жалким говором. Он был мне чужд сперва, а потом... Я нашел великую темноту невежества, бедность поразительную, жалкое подобие земледелия на болотных прогалинах лесов, лихорадки, колтун, цингу...»

І яшчэ пра пачуццё, якое рухае ўсю творчасць Буніна: «Я весь век под страшным знаком смерти, я несказанно боюсь ее» (ст. 384).

Ён ніколі не мог забыць пра тое, што часова жыве на зямлі, ні пра што так не думаў, як пра гэтую роспачлівую кароткасць чалавечага існавання на зямлі, міжвольна хацеў абессмяроціць сябе творчасцю. І потым, будучы ў выгнанні, зайздросціў уладкаванай страсці Целешава на роднай зямлі.

Марозік пад дзесяць градусаў. Пад вечар буйна, пушыста пайшоў снег, закруціла ўзвевамі па тратуарах. Пад вечар выглянула сонца, каламутна-чырвонае, са слупам – на холад. Прырода па ўсіх правілах рыхтуецца да Калядаў.

Жанчына, якая мабыць ніколі і не кахала мужа, мо і не ведае, што такое каханне, праз добры дзясятак гадоў пагардліва пасмейваецца з мужа, бо адчула, што ў яго не хопіць сілы разыйсціся з ёю з-за дзяцей, – і гэта для яе яшчэ адзін доказ, што нявартый ён кахання. А жыць без яго ніяк не хоча, за ім камфортна, паспрабуй толькі адбіраць яго.

Хораша не здаецца зіма. Сёння раніцай нават дзесяць марозу, удзень пры сонцы сышло да нуля. І над усім гэтым роўна цярусіць снег, і ноччу гэтакі месяц скрозь снегавое сейва, гэтакая зажуранасць, як з «Зімовага сну» Бялыніцкага. Ажно душа баліць. Мучыць мяне такая пара, гэтая касмічная прыцішанасць, здаецца, што адарвалася душа і вісіць на адным валаску, трымціць.

Прыглядаюся да Адамчыка і здзіўляюся яго выспелай засяроджанасці, мэтанакіраванасці. Ужо ёсць мудрасць, уменне бачыць, ненавідзець – і даражыць жыццём і любіць яго. Нешта ад таго ж Блокавага «что ж, пора приниматься за дело, за старинное дело свое» альбо Купалавага « я не для вас, паны, о не, падняць скібіну слова рвуся».

Пра ўсё, што пішаш, можна і трэба гаварыць з добрай чалавечнасцю, і на гэту спагаду будзе адгукацца чалавечае сэрца. А як сказаць горкае слова пра свой народ? У чым яно сэрцы адгукнецца?

Зашумеў вецер, пыл закружыўся над дарогаю, зашумела лісце, і ніхто не заўважыў, што зламалася лета. Было ўжо Купала – у каровы малако прапала, цяпер вось Пятрок – упаў лісток... Неўзабаве і жыццё ўкароціцца яшчэ на адно лета.

Талінскія могілкі. Там дзе ляжыць і Георг Отс, і іхнія класікі, якіх мы не ўсіх ведаем. Няма ні агароджаў, ні звыклых нам капцоў у бетоннай аправе. Пагорачкі, быццам зробленыя самой прыродаю, малады сасоннік на іх. На зямлі пастаўленыя наўскасяк каменныя пліткі. Лаканічныя надпісы, напрыклад: «Юхан Смул». Даты нараджэння і смерці. Там, дзе нядаўна былі наведвальнікі, дагараюць свечкі.

Чамусьці гэта, а нават не стары Талін успомніўся, калі стары добры ТУ-104 падлятаў да Мінска, дзе свой цёплы шэры дождж.

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі расказваў пра «Віленскіх камунараў». Іх знайшоў у Базыліянскіх мурах Янка Шутовіч і передрукоўваў на машынцы, стукаючы адным пальцам, ужо зусім хворы, нямоглы. Расказваў яшчэ, як сам Максім у час высылкі, працуючы на будоўлі, не меў грошай на паперу, каб пісаць.

Кворум на прэзідыуме ёсць. Правялі тайнае галасаванне, прымаючы новых членаў у Саюз. Праходзяць толькі тыя, у каго ўсяго сем галасоў супраць, а калі болей – не. Падліковая камісія бярэ скрынку і аб'язджае тых, хто па «ўважлівых» прычынах не змог быць на паседжанні. Тым да каго едуць, няма куды падзецца, прагаласуюць «за». Зроблена гэта дзеля П. і Я.

Сёння сапраўднае свята вясны, не толькі таму, што Першамай. Сонечна, цёпла, хоць і ветрана. Здаецца, што за адну ноч выгарнуліся ў цэлую капеечку зялёныя лісцікі на бярозах. Нават па-летняму спякотна.

Сяджу ў кампаніі людзей, слухаю пра тое, што ў іх дарослыя дзеці, думаю пра гады маіх субяседнікаў, пра час, які яны пражылі, – і ўсё гэта здаецца нерэальным для мяне, бо гэта так далёка, куды ў мяне не хопіць ні сілы, ні здароўя дайсці. Быццам я пражыў ужо ўсё сваё жыццё.

Глянуў на лісток у календары – там 17 верасня, успомнілася: «Ты з заходняй, я з усходняй нашай Беларусі». Сёння пра гэтую дату чамусьці не надта любяць ўспамінаць.

Ужо другі тыдзень холад, да пяці градусаў раніцай. На нізкіх месцах замаразкі. А ліст зялёны. Многа зялёнага лісту, а першы жоўты ліст упусцілі ясені ды іржавеюць лістам над чырвонымі гронкамі рабіны. Мокры год і ліст моцны. Два дні назад усю ноч паласаваў дождж з лютым ветрам, і ў бярозавым гаі паўзверх жаўталісту ляжыць на верасе зялёны ліст, збіты даждждом.

Ідуць асеннія грыбы. Ранняя восень.

Пасяліцца б у гэтую пару дзе-небудзь у лесе, каб у печцы гарэла, і кажушок быў на плячах, каб ціха было, ноч густая за акном стаяла, слухаць ноч і лес, чытаць і пісаць. І ведаць, што назаўтра можна выйсці да рэчкі ці да возера, дзе ажно да касцей дойме пахмурнаю халадэчаю.

Як гэта проста і недасяжна.

Тыдзень назад ціскануў мароз, ночы месячныя-месячныя стаялі. Грыбы збіраў замёрзлыя, звонкія, пад густое шалясценне – сыпаўся буйны, збіты марозам ліст.

А ў палях у гэтую пару адвячоркам «печаль полей». І якім зелянцом адсвечвае вада ў возеры. А з таго боку, дзе захад, вада падцякла крывёю.

Пазаўчора вярнуўся з Наваградка, з чытацкай канферэнцыі Адамчыка, па яго рамане «Чужая бацькаўшчына». Выязджалі з Мінска ў вільготны, халодны ранак, але за Баранавічамі пачало праглядвала сонца, а ўжо за Сталовічамі, на Свіцязі – сонечна, як у «бабіна лета». Свіцязь, залітыя сонцам, пералескі. Туга і шчасце восені, прыгажосць краявідаў.

На вечары крыху фармальнага, як і заўсёды, і арганізаваная моладзь ёсць для напоўненасці залы. Але ў цэлым прыйшлі людзі зацікаўленыя, гаварылі многа, нават і горача, і спрэчна, з адчуваннем сваёй годнасці як людзей. Прысутнічаў і сам першы сакратар райкама, а гэта бывае не заўсёды. Магчыма таму, што Наваградчына на 98 працэнтаў беларускі раён. А пасля канцэрт і пачастунак, назаўтра зноў сонечная і п’янаватая дарога дамоў з артыстамі, якіх бюро прапаганды арганізавала на вечар.

Учора вярнуўся з вёскі. Там вясна. Азёрныя разлівы ў лагчынах, ляцяць дзікія гусі. Ідзе бярозавы сок, удзень цёпла на прыгрэвах. Хочацца пажыць там, пры лесе, пры вадзе. Вечарам у мяккім чорным небе шчодра відаць зоркі, можна распазнаваць сузор’і. Там, здаецца, і чыталася б, і пісалася б...

Пасля таго, як пасля пракураных кабінетаў, сходак, сяброўскіх пасядзелак выязджаеш да лесу, у вясковую цішыню, кожны раз ловіш сябе на адчуванні – быццам не сваім жыццём увесь час жывеш.

Адамчык расказваў, як у санаторыі ў Нясвіжы, стаяў амаль гадзіну пад дождыкам. Чакаў, што ж будзе далей з двума дзікімі качурамі, якія люта біліся з-за качкі. Бойкі да канца так і не дагледзеў, а качка, пакуль яны біліся, збегала да трэцяга, які хораша пакракваў збоч, і той патаптаў яе.

І сам жартаўліва сказаў, што хоць ты напішы пра качуроў, пра старога чалавека, які падглядаў за імі, прамок, каб прастудзіцца. І яшчэ расказваў, як падкраўся і падглядваў салаўя, калі той спявае. Расказваў са шчырым дзіцячым здзіўленнем.

Сёння схадзіў на Сляпянскае возера, нават злазіў у ваду, калі можна сказаць, пакупаўся. Вада ажно працінае холадам, здаецца прасвідроўвае дзірачкі і зацякае ўсярэдзіну касцей. А дзеці, пасінелыя ад холаду, усё роўна плюхаюцца ў вадзе, як гусяняты.

Сасніўся сон: самалёт падаў на зямлю, і дамы развальваліся на тым месцы, і паволі, як у кіно, уставаў над зямлёй выбух. Але не гэта галоўнае. Сам я быццам аднекуль зверху бачыў усё гэта, і, галоўнае, былі шэра-карычневыя распушаныя на ветры мяцёлкі трыснягу. І раптам гэтыя шаўкавістыя мяцёлкі, якія пакалыхваліся хвалямі, пачалі ажываць, ператварацца ў шэрых, люта-вясёлых, імклівых ваўкоў, якія ажно высціляліся на белым снезе ад бегу. Распушаныя, прыгожыя і жахлівыя ў сваёй імклівасці і няўмольнасці...

Сны звычайна забываю амаль адразу пасля таго, як прачнуся. Памятаю толькі некаторыя, яны часам паўтараюцца.

Сёння зранку марасіла, а пад вечар стала і сонца. Паўстаў прыгожы бярозавы лес на даляглядзе, але да яго не дайшлі. Грыбоў нямнога. Рыжыкі шчодрыя, яркія, але не частыя, і чорных груздоў няшмат.

У клёна з зялёным яшчэ лісцем адна толькі галіна барвовым агнём абпалена, ці не першы трывожны знак у лесе над зарослаю ўтравянелаю дарогаю, з чыстымі лужынамі вады.

Прачнуўся сярод ночы. Цішыня. На вокнх паклаў след мароз. Зямля белаватая ў святле ліхтароў ад невялікага снегу. Пачатак зімы, ледзяны холад ад умерзлае голае зямлі.

Чытаў дзённікі Талстога.

«Я теперь испытываю муки ада. Вспоминаю всю мерзость своей жизни, и воспоминания эти не оставляют меня и отравляют мне жизнь».

«Односторонность есть главная причина несчастий человека».

«У народа есть своя литература – прекрасная, неподражаемая; но она не подделка, она выливается из среды самого народа. Нет потребности в высшей литературе и нет ее. Попробуйте стать совершенно на уровень с народом, и он станет презирать вас».

«А потом – эта ужасная необходимость переводить на слова и строчить каракулями горячие живые и подвижные мысли, подобные лучам солнца, озаряющим воздушные облака. Куда бежать от ремесла! Великий Боже!»

«Тщеславие есть какая-то недозрелая любовь к славе, какое-то самолюбие, перенесенное во мнение других – он любит себя не таким как он есть, а каким он показывается другим».

«Нет границы великой мысли, но уже давно писатели дошли до неприступной границы их выражения».

«Понятие вечности есть болезнь ума».

«Простой народ привык к тому, что с ним говорят не его языком, особенно религия, говорящая ему языком, который он уважеет тем более, что не понимает».

Чытаў гэтыя дзённікавыя запісы і сумна падумаў, што ў нас і сапраўднага

рамесніцтва бракуе, захліставмся хваляй непісьменннай неахайнайнасці, мнагатомнай пасрэднасці, прыблізнай і з мастацкага боку, і ў дачыненні да сутнасці жыццёвае.

Схадзіў усё ж да Віктара Ільіча Лівенцава, папрасіў аўтограф на яго кнізе для цесця. Вядома ж, цесця ён не памятае, але сто чалавек сапраўды выбіралі з яго брыгады для аховы Дома ўрада. Яшчэ сказаў, што зараз на пасляваенныя сустрэчы ў асноўным прыходзяць тыя, каго тады пакінулі для аховы Дома ўрада. А сама брыгада была кінута ў баі з рэгулярнымі нямецкімі войскамі і праз месяц была амаль уся выбіта. Пра гэта ён не напіша і прылюдна не скажа. Ды такі лёс быў не толькі ў яго брыгады.

Прачытаў у Дастаеўскага: “Мне грустно было, что звание писателя унижено в наше время каким-то темным подозрением и что на писателя уже заранее, прежде, чем он написал что-нибудь, цензура смотрит как будто на какого-то естественного врага правительству и принимается разбирать его рукопись уже с очевидным предубеждением”.

Зіма ў ноч з трыццатага на трыццаць першае і засняжыла, і падмарозіла, дакладна ў адпаведнасць Новаму году. А наогул зіма стаіць і марозная, і чыстая, белая, а ў лесе быццам і цеплавата, не халадна на лыжах.

Учора слухаў па тэлевізары сумны маналог з Чэхаўскае «Чайкі» пра чалавека, які хацеў ажаніцца, стаць пісьменнікам... Як усё паўтараецца ў жыцці, і ты паўтараешся ў тым ліку!

Ці гэта так навучыліся ставіць Чэхаўскія творы, з праекцыяй на самога аўтара, яго асабістую аўтабіяграфію, ці проста ты сам ведаеш яго біяграфію і бачыш у творы біяграфічныя моманты і матывы. Вось і яшчэ раз да таго, што пісьменніцтва – біяграфія душы пісьменніка, укладзенай у вельмі многіх, многіх...

У Талстога ў 1858-73 гады зусім мала пісана ў дзённік. У гэты час пісаліся кнігі. Дзённік мала што адлюстраваў. Усё было ў памяці і ў душы. Толькі ліхаманкавыя, як водбліскі маланак, паметкі ў запісных кніжках. За гэтым – напружанасць.

«Сейчас меня облаком радости и сознания возможности сделать великую вещь охватила мысль написать психологическую историю романа Александра и Наполеона. Вся подлость, вся фраза, всё безумие, все противоречие людей их окружавших и их самих».

«Художник звука, мнений, цвета, слова, даже мысли в страшном положении, когда не верит в значительность выражения своей мысли».

«И на религию смотреть исторически есть разрушение религии».

«Чем мудрее люди, тем они слабее. Чем глупее, тем тверже».

«Поэт лучшее своей жизни отнимает от жизни и кладет в свое сочинение. Оттого сочинение его прекрасно и жизнь дурна».

«Одно искусство не знает условий времени, ни пространства, ни движения, – одно искусство, всегда враждебное симетрии – кругу, дает сущность».

«Запретите употреблять искусственные слова, и свои, и греческие, и латинские, и вдруг упадет поднявшееся на этих дрожжах тесто науки. А то наберут слов, припишут условно, по общему согласию, значение этим словам и играют на них, точно, как в шахматы...»

Два дні назад стала адліга. Вада. Хлюпота. А потым ноччу холад, мяцеліца, а раніцай марозік, сонца, такое яркае, што многа яго, ажно баляць вочы. І цяпло

ад яго на твары. I неба высокае, і ледзь улоўны вясновы пах. Можа здаецца гэта ад падмерзлага снегу і лядку. А таксама ад сонца, ад высокага неба, можа, яшчэ голле пахне пасля нядаўняй вільгаці.

“Людзі, якія не ведзюць ні законаў мовы, ні гісторыі Беларусі, ні самой мовы – ні беларускай, ні польскай, ні рускай (жаргон, якім яны гавораць і пішуць, нельга назваць мовай), здолелі, на вялікі жаль, устанавіць правіла пісаць не Менск і не Наваградак, як пішацца ў рускіх, беларускіх, славянскіх летапісах, а “Мінск”, “Навагрудак”, гэта значыць – у польскім вымаўленні. І гэтыя людзі шчыра верылі, што змагаюцца гэтым мерапрыемствам з уплывам польскай мовы на беларускую.”

Чытаючы Чорнага, думаючы пра тое, як жаліўся ён, што заняты рознаю непатрэбнаю мітуснёю, маючы адзінае яснае жаданне, – пісаць – ведаў што самае важнае. Да гэтага дайшоў Мележ. Гэта галоўнае.

Тры дні святаў. З’ездзіў у лес. Падняў некалькі страчкоў. За гэтыя дні, што былі цёплымі, зазубіліся бярозкі зялёным лісцікам. У лесе сама чырванееецца пятроў крыж, асабліва ў бярэзніках. На карэннях дрэў жыве, чужым сокам корміцца, корань яго можа набраць вагу да пяці кілаграмаў. Пара ветраніцы, пралесак, сну баравога.

Танцуюць у двары ля пад’езда, нешта падобнае на вяселле ці на вялікія госці. Дзеўкі падтрэсваюцца. Бубен чуваць. Рэха ідзе між дамамі.

І прыпеўкі:

Як бывала я давала
Па чатыры разы ў дзень,
А цяпер мая давалка
Палучыла білюцень.

Тое лепшае, што спявалася ў вёсцы, не запомнілася, новага не нарадзілася, а спяваюць прылюдна розную пашляціну, якую раней нават у п’янай кампаніі не спявалі б.

Учора ішоў на калегію ў міністэрства культуры. На ўваходзе ў Дом урада дыялог з сяржантам:

– З дыпламатам нельга.
– Добра, я здам у гардэроб.
– Не робіць.
– А куды ж яго дзець?
– У камеру захавання.
– А дзе камера?
– Ну, бліжэйшая на вакзале...

Плюнуў і пайшоў прэч. Гэта рэальнае праяўленне перадалімпійскай пільнасці.

Учора была сустрэча ў Аляксандра Трыфанавіча з агульнымі ўстаноўкамі па асвятленні алімпіяды. Яго расказ пра тое, як нашы спартсмены радуюцца, што і іх глядзяць па тэлевізары як замежных, менавіта, што як замежных.

Быў учора ў Антановіча наконт артыкула Адамовіча з абвінавачваннямі Далідовіча, а наогул – усіх маладых. Напісаў да артыкула на паўтары старoначкі ўрэзку ад рэдакцыі з цытатаю Мележа аб правінцыяналізме. Ів. Ів. згодзен з тым, што не трэба выпускаць друкаванне гэтага артыкула з рэспублікі, бо Адамовіч

надрукуе яго ў Маскве. Наогул гэтыя падтэкставыя абвінавачванні ў нацыяналізме не патрэбны і ў рэспубліцы. У нас няма ніякага нацыяналізму – гэтая пазіцыя ЦК мне вядома. Ён у многім згодзен з Далідовічам, не прымае хамскіх адносін Адамовіча да маладога апанента. Відавочна, што з-за вышэйшых інтарэсаў – каб не было непатрэбнага рэзанансу з палітычным падтэкстам – знявагі малады спаршчык атрымае...

Ну, хоча цапацца са старымі ваўкамі, няхай прывыкае насіць шрамы.

Працягваецца вэрхал вакол Адамовіча з яго выпадамі супраць Далідовіча. Учора заходзіў Семашкевіч. Ён быў у Брыля, ягонае рэзюме наконт выступлення Адамовіча: “Нікому, акрамя Далідовіча, карысці не прынясе”.

А гэта ўжо крыху распанела-расслабленае, з яўным жаданнем прыкрываць сябра.

Аляксандр Міхайлавіч, аказваецца, умее і ярлыкі развешваць. “Не ўспеў стаць рэдактарам, а ўжо развёў групаўшчыну”. Гэта пасля таго, як я адмовіўся друкаваць артыкул Васілевіч у патрымку Адамовіча.

Перачытаў яго артыкул у “Новым міры”. Там ён яшчэ і мяне, грэшнага, упамінае. І цалкам нашу прозу пускае ў падвёрстку рускім “дзеравеншчыкам”, смуткуе, што няма ў нас свайго Абрамава, забываючы пра тое, што ў нас ёсць свой Мележ. Радуйся, дурны беларус, што і ты падобны на некага вялікага. Калі зверыць гэты тэкст з тым, што спачатку быў надрукаваны ў “ЛІМе”? Там, помніцца, менш было лізання сталічным.

Артыкулам абураецца і Іван Мікалаевіч Пташнікаў, сказаў, што нават паўтары старонкі напісаў абурэння. Барыс Іванавіч Сачанка: “ Ён думаў, што цераз Далідовіча і нас выманіць з бярлогі, але з гэтага нічога не выйдзе. Во каб быў Мележ!” Алесь Асіпенка быў карацейшы:”Ніхто б так Адамовічу не змог н...ць у шапку, як сам сабе зрабіў”.

Кончылася “эпапея” з працягам спрэчкі Далідовіча-Адамовіча. Далідовіч не звоніць, пакрыўдзіўся, а з Адамовічам мы наогул пасварыліся, нагаварылі адзін аднаму абы чаго зняважлівага. І не магу сказаць нікому, што мне пазваніў Антановіч і загадаў спыніць “усю гэтую бадзягу”, на ЦК не спасылацца.

Мароз пад дваццаць градусаў. Зіма пачалася на пачатку снежня, каб толькі не раскідалася пад новы год. Учора быў з сынам у лесе: прыгожа, снег лёгкі, лыжня не ўсюды яшчэ прабіта, сам нарэзваеш яе вострымі наскамі лыж.

Упоперак сцежкі – вялікая, меднастволая сапраўдная сасна. Корань, як купіна вывернуты, і гэтакі малы на такое магутнае дрэва, няма ў ім стрыжня, каб глыбока ўвайсці ў зямлю. Як падала, легла на суседку, цёмнастволую сасну, якая расла ў цяні ад гэтае каралевы, сагнула яе.

Усё амаль як у жыцці чалавечым.

Падаюць старыя сосны таму, што малы вакол іх падлесак, а паадзіночку не могуць трымаць вецер. Дрэвы не вінаваты, што не падняўся маладняк, а ў людзей калі такое, то самі людзі вінаваты.

Вечар Караткевіча, зала перапоўненая, многія жадаючыя не трапілі. Атмасфера цудоўная, сяброўская, сам Уладзімір Сямёнавіч свеціцца радасцю. Ордэн “Дружбы народаў”, прысутнічае афіцыйна загадчык аддзела культуры ЦК. Я віншаваў ад газеты і ў гэтай прыязнай атмасферы чамусьці ўспамінаў другія экзэмпляры дакладных “наверх”, якія засталіся ў сейфе ЦК яшчэ з таго часу,

калі загадчыкам аддзела культуры быў Марцэлеў, на “Дзікае паляванне”, на “Каласы”.

Ноччу снілася вайна, якую я проста не магу ведаць. Сніцца даўно і часта.

Канчаю перачытваць “Наш дом” Прышвінай. Даўно не было радасці чытаць такую разумную кнігу пра пісьменніка. Пра тое, чым ён жыў, як думаў. Цяпер у такіх кнігам модна ператрэсваць сямейную бялізну, вышукваць пікантнасць, і ні слова пра душу.

Заходзіў у рэдакцыю Карпюк. Гаварыў пра тое, што я яму спадабаўся за тое, што падмануў яго і скараціў пры рэдагаванні “Вершалінскі рай” на некалькі аркушаў. У двухтомніку ён давёў яго – павялічыў – да дваццаці аднаго аркуша. Даведаўся, што рэцэнзія на двухтомнік заказана. Дзеля гэтага і заходзіў.

Быў у вёсцы. Восень. Чырвоная машына на вуліцы. Дагледжаны сам, жонка, дзеці. Ад’язджаем. Праз акно бабуля глядзіць. Сіняя хустка, старэчы журботны твар і вочы... Божа, вочы чалавека, які даўно змірыўся з думкаю, што адыходзіць і які так жалкуе на гэтым беражку, краёчку жыцця, і гэтак хочацца глядзець на гэты свой свет, няхай бедны шэра-асенні. А вочы ўжо маль не свецяць, і перад імі найбольш шэрая пляма. Але светлая. Махаю ёй рукою, развітваюся, а яна гэтага не бачыць. Тая, што мяне маленькага гадавала. Глядзіць пакуль што ў свой белы свет, і так глядзіць, што душа крывёй абліваецца.

Быў бы я мастаком, як бы я гэта намаляваў! Гэтае вясковае жыццё, гэты краёк-беражок, гэту восень, гэтае такое роднае аблічча.

Пра літаратурныя сплетні не хочацца ні тое што пісаць, але і думаць. Ёсць апошняя радасць – “Знак бяды “ Быкава. Рэдактарская мая радасць, што ў газеце ёсць артыкул Ігара Дзядкова пра аповесць, водгук, відаць, самы першы. Прывёз яму дадому. Нічога не сказаў, што ў нас усе паважаныя крытыкі былі так заняты, што тэрмінова напісаць не маглі – а трэба было неадкладна, пакуль не загаўкалі з падваротняў, – дзякуй Богу, адгукнуўся з Кастрамы па старому знаёмству Ігар Аляксандравіч. Ён ужо мае аўтарытэт усесаюзнага крытыка.

Схадзілі з Адамчыкам у бальніцу да хворага Крапівы, ляжыць на трэцім паверсе, у дзявятай палаце, дзе паміраў некалі Мележ. Гэтак званы ”люкс,” невялічкая баковачка. Сам устаў, сеў на ложку. Бачыць зусім дрэнна. Пакуль прывыкаў да галасоў, блытаў нас. Што патрэбна знаходзіць вобмацкам. Гаворыць, што амаль не бачыць. Але зблізку, водзячы носам па паперы, чытае. Губляюцца радкі, даводзіцца трымаць іх пальцам. Добрае здзіўленне, што Адамчык ведае травы, праўда, часам паўтараецца ў словах і апісаннях, а ў Шамякіна ёсць і быт, і дэталі, а вось галоўнага, вобраза Леніна, няма. Галава ў чалавека ясная, памятае ўсё. Хоча яшчэ дапісаць і п’есу, якую пачаў. “Хоць вы яе і не паставіце”, – вось такое рэзюме з усмешкаю. Гэта ён паўтарыў потым і начальству, калі яно прыйшло наведаць яго.

Глыбокая восень, а такая цяплынь стаіць, што аж трывожна за такое доўгае і шчодрае цяпло.

Праехалі з Траяноўскім на радзіму, па партызанскіх мясцінах. Дзе ён хадзіў, дзе маці мая была. Непраходныя балоты высушаны, на іх меліяратарамі насыпаны гравійкі. І няма былое ракі Лошы, на беразе якой усю вайну гніў рум. Замест ракі роўны, метраў на пяць шырынёй калі не канал, то канава...

Сяджу ў Каралішчавічах. Лес тут яшчэ сапраўдны, з магутнымі соснамі, прыцемак пад кашлатымі ялінамі. Яліны пазначылі ўжо на высечку, адкляймавалі і многія сосны. Новая дарога і так падрэзала лес блізка да будынка. Так хутка дабяруцца і да памятнае яліны, пад якой любіў адпачываць Колас. Наогул запусценне, Каралішчавічы дажываюць свой век як Дом творчасці.

Перад ад'ездам сюды быў на бюро ЦК КПБ, дзе разглядалася пытанне аб кіраўніцтве СП БССР літаратурнымі перыядычнымі выданнямі. Яўген Іванавіч Танк дакладваў наогул, што надрукавана, што будзе друкавацца, што пайшло на ўсесаюзную арэну. Самы галоўны недахоп у працы аказаўся ў тым, што супрацоўнікі не сядзяць у рэдакцыі па восем гадзін. Пра матэрыяльнае забеспячэнне ні слова, пра тое, што бібліятэкі практычна ігнаруюць падпіску – нічога. Нікому з рэдактараў слова не далі. Потым збіралі зноў, каб канчаткова дапрацаваць пастанову. За гэты час зрабілі запыт у Маскву – там супрацоўнікі не выседжваюць цэлы дзень у кабінетах, і гэтае пытанне адпала само сабой, самі сабой зніклі і закіды наконт "мелкотравчатого национализма", пастанова атрымалася быццам і грунтоўная, але бескарысная, добра што і шкоды ад яе не будзе.

Тут каралішчавіцкая зіма развальвецца зусім, лыжы скончыліся, па вечарах слухаю ўспаміны Рыгора Нехая пра вайну, пра пасляваенны час, пра іх пасляваенныя пасядзелкі з сябрамі за чаркаю – з Астрэйкам, Вялюгіным, Нагнібядой...

Прачнуўся ноччу, сеў за стол. За акном зімовая ноч, снегавое мроіва, на падваконніку, на фоне шыбін неяк фантастычна стаяць эльвасы, пад адным з іх трыма зялёнымі лісцікамі ўзышла невядомая мне раслінка. Некалі хораша пісалася ў такія ночы, асабліва ў лесе. Тады яшчэ не ведаў, што такое бяссонне, што такое боль у сэрцы. І цяпер яшчэ па інерцыі думаю, што ўсё яшчэ наперадзе. Чамусьці ўспомнілася, як у апошні прыезд дадому бабулька расказвала мне, што сасніла сон, быццам я яшчэ маленькі, адзеты ва ўсё белае сабраўся ісці гуляць да цёткі Ганькі, якая ўжо была памерлая: "А я ведаю, што гэта такое, кінулася не пускаць і ноччу з палка ўпала на падлогу". І я ведаю, што гэта зусім ад старэчай нямогласці, ужо ўстаць сама не можа. Ляжыць і памірае. Ад гэтага сну расхвалявалася маці, знайшла мне пасажыраў да Мінска, каб адзін не ехаў: "Можа, у каго большае шчасце, разам з людзьмі едзь".

Лютаўскія снягі, мяцеліцы. А на вечар Аркадзя Куляшова сапраўдная раскошная завея.

Галоўліт зняў два вершы з падборкі Пятра Кошаля ў "Нёмане". Перапалох у начальства, як даведалася, што ён зяць Слюнькова, пачынала адкручваць назад.

Чытаю ўспаміны пра Тургенева. Той, што на пачатку шляху горка гаварыў пра ролю пісьменніка ў рускім грамадстве як нейкага ашчапенца, ненармальнага, дажываў свой век у Францыі пры Віардо і не саромеўся гаварыць Фету пра тое, што вывезеная ім у Францыю дачка не можа нават сказаць па-руску "хлеб", "вада".

Тыдзень адхварэў на грып, потым з'ехаў у Каралішчавічы. Міколу Гілю па патрабаванні Валеры Грышановіча давялося пісаць тлумачальную ў ЦК наконт публікацыі Мальдзіса і рэцэнзіі Дубаўца на кнігу Семашкевіча, хаця, як прызнаўся мне па тэлефоне, так толкам і не разумее, што хочуць, каб патлумачыў. Тут відавочная прычына, яна не ў тым, што надрукавана, а ва ўсіх трох асобах.

У Каралішчавічах старыя Улашчык, Грахоўскі і Мікола Лобан. Ён цяжка хворы. Сівенькі чубок-стрэшка, акуляры, усмешлівасць. Балоневая лёгенькая куртачка.

Трэба дапамагаць яму і апранунцца, і распрануцца. Прымае гэта як належнае, але дапамогі не просіць. І ўсё ж моцная чалавечая натура – трымацца, не здавацца: перад люстрам дрыжачаю рукою папраўляе свой сівы чубок перад там, як зайсці да людзей у сталоўку. Здаецца зусім нядаўна гойсаў з намі на многа маладзейшымі па каралішчавіцкай лыжні.

Юбілейны вечар Гогаля. Пра тое, як праходзіў, варта пяра самога Мікалая Васільевіча. Вечар рыхтаваў Дом літаратара як шараговае мерапрыемства.

Але у ЦК даведаліся, што вечар у Кіеве праводзяць як вялікае мерапрыемства, з прысутнасцю палітбюро Украіны. Таму ў нас на вечары будзе А.Т. Кузьмін і Н.Л. Сняжкова. Дадзена аўральная каманда студэнтамі запоўніць залу. Пісьменнікаў – амаль нікога, не прыйшлі рэдактары выданняў – не ведалі пра прысутнасць высокага начальства. Адным словам, вадэвіль з чынамі і падчынкамі.

Пазваніў Кузьмін – к пяці гадзінам быць у яго. Кабінет поўны людзей, нарада па дому 28 на Інтэрнацыянальнай. Гэта былы дом купца Саламонава, дзе ўпершыню была пастаўлена “Сялянка” Дуніна-Марцінкевіча. Гэту пастаноўку тэатразнаўцы лічаць пачаткам нацыянальнага беларускага тэатра. Быў пачаты рамонт дома, у час якога абвалілася сцяна. Збіраюцца разбурыць яго зусім, бо падмурак слабы, бутавы, аднаўленне будзе дорага каштаваць і г. д. Аргументаваў усё гэта галоўны архітэктар Грыгор’еў, нават нейкія выпіскі з архіваў прыводзіў. Яго падтрымлівае партыйны сакратар горада Валерый Пячэннікаў, яшчэ адзін “гарадскі галава”. Нават патрабуюць спагнання на аўтараў артыкула “Выбух” Дзянісава і Пазняка, які быў надрукаваны ў “ЛіМе”. І Дзянісаў, і Пазняк, і Мальдзіс, і нават заўсёды паслухмяны міністр культуры Міхневіч за тое, што дом трэба захаваць. Антановіч са сваімі філасофскімі вывертамі спрабуе збіць з тропу Мальдзіса, маўляў, калі тэатр месціўся ўвесь час у ратушы і толькі нейкага паўгода ў доме купца Саламонава, то дом нельга лічыць помнікавым. Сняжкова гнула сваю лінію: шмат робіцца па захванні культурнай спадчыны, гэтага ніхто не хоча бачыць, а з-за асобных выпадкаў падымаецца непатрэбны гвалт. Маецца на ўвазе “Выбух” – публікацыя пра стан помнікаў у Віцебску. Праўда прызнала, што там прарэагуюць на яе.

Як і прынята у нас, будзе створана камісія, якая праверыць і сапраўднасць здымкаў Дзянісава, усе астатнія акалічнасці.

Улады на баку Грыгор’ева, на сумленні якога разбурэнне Нямігі. Што яму яшчэ нейкі дом Саламонава, калі і гарадское начальства не супраць мець на гэтым месцы шкло-бетонны “слупок” з сучаснымі кабінетамі для чыноўнікаў? Пакуль тыя камісіі будуць засядаць, узгадняць, дом пацiху разваліцца сам па сабе ці ўціхара і дапамогуць. Паднятая хваля абурэння інтэлігенцыі таксама заціхне.

Пасля нарады Антановіч выгаворваў мне, што без іх ведама надрукаваў артыкул, чым падняў цэлую хвалю, цяпер шукаюць арганізатараў калектыўнага пісьма студэнтаў, і увогуле аўтары артыкула мелі на ўвазе не абарону нейкага яўрэйскага дома, а ідэалагічна-правакацыйныя мэты. Гэты “Выбух” мне прыпомняць яшчэ не адзін раз.

*(Працяг будзе)*



Кастусь Цвірка



...усё — хай расце
пад сонцам і дажджамі...

# Дні мае, падарункі

***Вясковы дзённік, 2010***

*У кожным дні свой спеў, свой вецер,*
*Свае вясёлкі, горан свой.*
*Іграйце ж, дні мае, у свеце,*
*Раскручвайся, жыцця сувой!*

З даўняга верша.

Мой прыезд у Зялёную Дуброву затрымаў сёлета снег. Гэтай зімой снегу панакідала на мінскіх вуліцах горы. Машыны не паспявалі яго звозіць, і бульдозеры ссоўвалі снежныя навалы на ўзбочыны вуліц і тратуараў. Гэтыя навалы напомнілі мне тую суровую зіму, калі ішла фінская вайна. Тады ўся вуліца маёй вёскі была ў снежных гурбах. Толькі пасярэдзіне людзі пракапалі вузенькі праход-траншэю. Такія траншэі ішлі і ў двары, пад хаты. Самі хаты былі па стрэхі закіданы снегам. У нашай хаце сярод дня стаяў нейкі нязвычны змрок: вельмі слабенькае, прывіднае святло ішло толькі ад снегу, які амаль цалкам засланяў знадворку вокны і які глядзеўся з хаты не белым, а дзіўна шэрым, цёмным, амаль чорным.

Сёлетні снег раставаў вельмі марудна. Толькі ў канцы са-

кавіка ад яго збольшага вызваліліся мінскія вуліцы. І я пачаў збірацца ў сваю Зялёную Дуброву.

Зялёная Дуброва — невялікая, аднавулічная вёсачка на самым ускрайку лясістага Старадарожскага раёна, непадалёку ад вытокаў ракі Арэсы і возера Скачальскага. Гэта — Верхняе Палессе, наша гістарычная Случчына.

Завезці мяне з жонкай туды ўзяўся на сваім «джыпе» сын.

Усё, што трэба было ўзяць з сабой, падрыхтавалі звечара. Таму раніцай збіраліся не доўга.

Надвор'е выдалася хмурнае. Сеяўся дробны спакойны дожджык. Здавалася, так будзе ўвесь дзень. Ды калі мы пагрузіліся і я зачыняў дзверцы машыны, па іх слізганула і сонца, што акурат выбліснула з-за хмар.

Так што ехалі мы і з дажджом, які зрэдку паліваў нам дарогу ды пырскаў у вокны, даючы работу дворнікам, і з вясёлымі бліскамі сонца.

* * *

Звычайна я стараўся чым раней прыехаць пасля зімы ў сваю Зялёную Дуброву. Каб не прапусціць вясну, убачыць яе прыход, прасачыць прылёт птушак.

Ды гэтым разам першыя дні вясны прайшлі без мяне. Мы прыехалі ў самы яе разгар — на пачатку красавіка.

Здаецца, усе птушкі ўжо прыляцелі. Яны так і носяцца ўсюды — па адной і чародкамі, шчабечуць у густым сліўніку за плотам. У маіх высозных дуплістых ігрушах-дзічках упэўнена гаспадараць, пераскакваючы з галінкі на галінку і хораша высвістваючы свае мелодыі, чорныя, як вугаль, шпакі — яны адны з першых вярнуліся з выраю і наноў абжываюць свае хаткі, якія я збіў гады тры назад з дошчачак.

У агародчыку ўсё — і леташняе палеглае лісце вяргіняў ды касачоў, і голле дрэў ды кустоў, і лаўка перад вокнамі, і груды перакапаных на зіму градак — мокрае ад нядаўна расталага снегу. Ды і ўсё паветра напоўнена свежай вясновай вільгаццю. Так і хочацца пасля горада ўдыхаць гэтую шырокую свежасць, саму вясну.

* * *

Агледзеўшы панадворак, іду адмыкаць хату. Цягну на сябе ручку дзвярэй: а раптам і без мяне ўжо яе хто адамкнуў? Бывала ж такое. Апошні раз, праўда, даўнавата: гадоў восем назад. Узяўся тады вось гэтак адмыкаць дзверы, а ключ лезе ў пустату: замок аказаўся без сарцавіны. Дзверы былі толькі прычынены: нехта пагаспадарыў? Калі кінуўся аглядаць хату, трохі адлягло ад душы: здаецца, усё асталося на месцы. Толькі пасля выявіў то адну, то другую прапажу: стары, але яшчэ спраўны прымач, запасная электрабрытва і яшчэ сякія-такія дробязі. Потым мне расказалі, што гэта наведваўся сюды на веласіпедзе адзін спрытны залужак — чалавек з Залужжа, нашай калгаснай сталіцы. Мне і прозвішча яго назвалі, вельмі там пашыранае, — Заяц. Расказвалі нават, што ён намерваўся прыехаць сюды з падводай — каб забраць мой халадзільнік і яшчэ нешта з мэблі: перашкодзіла яму тое, што па дарозе дадому ён абрабаваў краму ў Лядах і яго схапіла міліцыя. Злодзей апынуўся за кратамі. З таго часу ў нас з гэтым пацішэла. Можа, яшчэ і таму, што на нашай адзінай вуліцы электрыкі паставілі высокія бетонныя слупы з асвятленнем: па вёсцы ўжо не пройдзеш уночы незаўважаным. Так што цяпер ніхто не пагасцяваў у маёй хаце.

І яшчэ не цярпелася мне зірнуць, як перазімаваў мой садок за агародчыкам, ці не пачапалі яго «сябры нашы меншыя». Хоць я і паабвязваў увосень ствалы дрэўцаў яловымі лапкамі, але ж гэтыя вушасцікі, калі захочуць, знойдуць дзе патачыць свае вострыя зубы. Летась праз мой недагляд яны гэтак пастараліся, што загубілі адну

вельмі дарагую мне яблыньку, спусціўшы ўсю яе кару з верху да нізу. Не, сёлета зайцы — і чатырохногія, і двухногія — не прычынілі мне шкоды. Ужо добра.

* * *

Першая мая работа па аглядзе сядзібы — прапальванне грубкі. Каб барзджэй нагрэць настылую за зіму хату. На маім тэрмометры пры дзвярах — усяго пяць градусаў цяпла. Халадзіна! Асабліва непрыемна вылазіць такім холадам з нагрэтай пасцелі раніцай. Каб стала ўтульна і «камфортна» ў хаце і не дрыжаць раніцамі, мне трэба давесці тэмпературу да дзевятнаццаці-дваццаці градусаў.

І от мая грубка аж гудзе ад агню, пастрэльваючы вугалькамі. З ім ажывае хата, на душы робіцца весялей. Ён жа, агонь, як-ніяк — дзіця сонца, што спакойненька спала дасюль у маіх дровах, а цяпер я выпусціў яго адтуль. Хай жа сабе гуляе ў маёй грубцы.

* * *

Раніца — з марозікам. На лужынках, у каляінах, дзе яшчэ не сышла талая вада, — цёмныя шыбінкі тонкага лядку. Па краях ён — нязвычна белы: мусіць, таму што пад ім усё ж высахла за ноч вада. Лядок і прыхопленыя марозам грудкі зямлі падатна пахрустваюць пад нагамі.

Я іду ў блізкі ад мяне лес, што за вуліцай, напроці маіх вокан, спускаць сок. Гэта даўно чаканы момант. Спусканне соку заўсёды спалучаецца ў мяне з вясной, з бляскамі сонца. Запомнілася з дзяцінства: паўз нашы вокны нясе з лесу два поўныя вядры бярозавіку суседка Маня, што жыве за вуліцай; сок пераліваецца цераз краі, і ў вёдрах, паблісківаючы залатымі пярсцёнкамі, скачуць, гуляюць сонечныя зайчыкі.

У лесе — поўны спакой. Застылі ў нерухомасці хвоі, не варухнецца звіслае голле бяроз: вецер яшчэ не прачнуўся. У глыбіні лесу пастуквае аб цвёрдае дрэва дзяцел, уверсе бязладна цілінькаюць нябачныя лясныя птушачкі.

Ступаючы па вільготным бруднавата-зялёным імху, па выцвілым леташнім лісці, а дзе і па скрылях зярністага, набраклага вадою снегу, ад якога шырока расходзіцца свежасць, выбіраю таўсцейшую бярозу. Стаўлю збоку кош з прыладдзем, дастаю з яго сякеру і ачэсваю да рыжага чорную, моцна парэпаную ў камлі кару. Потым раблю на расчышчаным, падроўненым касы надсек. Калі сяку, з-пад ляза сякеры пырскае сок і тут жа з высечанай расшчэліны выскаквае вялікая і мутная, як слюдзяная, кропля. За ёю адразу ж бягуць другія. Убіваю абухам пад ніжнім канцом надсека свой металічны латак. Ад надсека па латаку працягваю ільняную нітку. Сок сцякаецца да яе і шпарка бяжыць па нітцы, як па торнай дарожцы, бесперапынным струменьчыкам. Цяпер ужо не мутны, як на пачатку, а чысцюткі, што крышталь. Ён пахне свежасцю, бярозай і снегам. Падстаўляю пад гэты струменьчык чыста вымыты трохлітровы слоік і накідваю на яго складзеную ў дзве столкі марлю — каб не лезлі мурашкі і ўсякія жучкі ды мошкі. Усё — хай цяпер набіраецца жыццядайная вільгаць.

* * *

Калі вярнуўся з лесу дадому і пачаў закідваць у грубку дровы (каб трымалася ў хаце цяпло, буду прапальваць раніцай і вечарам), грукнулі ў дзверы. Зайшлі мае маладыя суседзі Лёня Заяц і Дзіма Крывальцэвіч, што раней прыехалі з Мінска. Яны спусцілі сок ажно з трынаццаці бяроз, нацягалі яго цэлыя бочкі і чаны і сёння ад'язджаюць у Мінск. Кажуць, каб я браў сок з тых бяроз. Толькі нашто мне гэтулькі? Я звычайна ўжываю бярозавік свежым. Тут хлопцы падкінулі мне добрую ідэю: бярозавік жа можна захоўваць свежым вельмі доўга ў маразільніку, у пластмасавых бутэльках. І праўда. Як гэта я не дадумаўся? Пераканалі мяне

хлопцы і ў тым, што ўсё ж добра мець — і для сябе, і для гасцей — таксама і бярозавы квас.

Колькі я помню, маці заўсёды рабіла такі квас. Паставіўшы ў халадок кладоўкі пры сенцах шыракаватую ранейшую дзежку, злівала ў яе прынесены з лесу бярозавік. Калі дзежка запаўнялася, кідала туды добра паджураныя на скаварадзе скарынкі аржанога хлеба сваёй выпечкі ці пражаны ячмень (а мо тое і другое), апускала ў сок галінкі смуродніку з набухлымі пупышкамі ці нават і з першымі зялёнымі лісцічкамі і накрывала чыстай палатнінай. Калі сок укісаў, яна даволі часта, асабліва прыйшоўшы з калгаснай работы ці проста ў летнюю спякоту, адхінала тую палатніну, адсоўвала конаўкай размяклыя скарынкі хлеба і набрынялыя галінкі смуродніку і, зачарпнуўшы, добра прыкладалася да бярозавіку. Быў ён халодны, рэзкі. Лепшага пітва, каб прагнаць смагу, нельга было і прыдумаць.

Асабліва добра ішоў бярозавы квас на сенакосе. Яго прыносілі туды ў барылах і ставілі ў цень. Намахаўшыся да сёмага поту касой, прагна пілі касцы ў меру кіслы і халодны — аж у зубы заходзіў — бярозавік. Не маглі адпіцца ім, добра натузаўшыся з сенам пад спякотным сонцам, і жанкі-грабельніцы.

Як расказвала мне маці, любіў загатаўліваць бярозавік мой бацька. Ён завозіў у глыб лесу бочку ці кадаўб, ставіў пад таўсцейшую бярозу і спускаў сок. Праз які тыдзень прыязджаў туды з калясьмі і забіраў дадому, дзе ставіў у варыўню, у самае халоднае месца.

Рабіў ён гэта, ведама ж, яшчэ да фінскай вайны, калі быў малады і здаровы. Як бы хацелася мне знайсці хоць тое месца ў лесе, дзе спускаў бацька сок!

* * *

Іду праведаць сясцёр, Яню і Валю. Абедзве ўжо — і даўнавата — удовы. Жывуць самі па сабе. Зімой — у Старых Дарогах, у цёплыя месяцы года — тут. Валя займае бацькоўскую хату, у Яні — свой ладны летні дамок, амаль напроці. Побач — нядаўна купленая ў дзяцей Хрыстыны Дубовік хата маёй трэцяй сястры Зіны, якую таксама пацягнула з Мінска ў наш родны кут. Праўда, яна са сваім гаспадаром Колем Кашубам тут — пакуль што наездамі, бо ў Асееўцы пад Мінскам ёсць у іх яшчэ дача. Адзін толькі Алік, брат, задавольваецца дачай пад Мінскам, але зрэдку заскаквае на машыне і сюды, на роднае котлішча, дзе заўсёды знаходзіць у нас прытулак.

Мне вельмі ўсцешна, што ўсе мы збіраемся тут разам, чуем локаць адзін аднаго. Зрэшты, у Зялёнай Дуброве ўсе так ці інакш параднёныя, усе свае. Так што я жыву тут у атмасферы спрыяння.

І Яня, і Валя прыджгалі сюды з прылётам першых птушак. Капошацца на сваіх падворках, разграбаюць сляды зімы.

* * *

Не магу не заскочыць і да нашых сібіракаў — так у вёсцы завуць Паўла і Любу Парамонавых, сватоў маёй сястры Яні.

Пра іх можна было б пісаць цэлы раман.

Бацькоў Паўла Парамонава (жылі яны на Алтаі, у вёсцы Усць-Іша, пры рацэ Катунь, што цячэ ў Об) у калектывізацыю за гаспадарлівасць і працавітасць раскулачылі і выслалі далей у Сібір — у Томскую вобласць. Там і радзіўся Янін сват.

Шмат расказваў ён мне пра тое раскулачванне, пра долю «кулакоў». Іх з сем'ямі звозілі на розных суднах па сібірскіх рэках і проста выкідвалі ў самых глухіх кутках, дзе яны ў бальшыні сваёй і гінулі ад голаду і холаду. А некаторыя «кулацкія» сем'і пагружалі на баржы і тапілі ў вадзе («нет человека — нет проблем»). Бацькам Паўла ўдалося выжыць таму, што яны здолелі прыхапіць з сабой тапары ды пілы і збудаваць у тайзе нейкае жытло.

Паўлу Парамонаву пашчасцівіла вырвацца з высылкі да сваякоў у Новасібірск, дзе ён, сын «ворагаў народа», працаваў на будоўлях і заводах горада і дзе завёў сям'ю.

Там, у Новасібірску, і знайшоў мой пляменнік Сяргей Васько дачку Парамонавых Вольгу, якую ўзяў замуж. Так мы і парадніліся з «сібіракамі».

Каб быць бліжэй да дачкі і ўнукаў, Парамонавы прадалі ў Новасібірску кватэру, машыну, гараж, дачу і за выручаныя грошы мерыліся купіць у Мінску кватэру. Ды з кватэрай у іх не атрымалася. Набылі толькі ў Зялёнай Дуброве хату Івана Цвіркі (Галляшовага), дзе яны і жывуць.

Да іх я і кіруюся. Адсоўваю завалу ў варотцах, заходжу ў разнасцежаныя сенцы, адчыняю, пастукаўшыся, дзверы ў хату.

— Ці тут жывуць сібіракі? — пытаюся жартоўным тонам.

— Тут, тут! — шырока ўсміхаючыся, адказвае мне ў тон з кухні гаспадыня Люба і, выціраючы аб фартух рукі, ідзе са мной вітацца.

Пачуўшы нашы галасы, выходзіць з святліцы, таксама ўсміхаючыся, і гаспадар Павел, заўсёды прыветлівы, папраўдзе добры чалавек, і, шырока развёўшы рукі, спяшае ўзяць мяне ў абдоймы: як жа, цэлую зіму не бачыліся. Мы з ім не толькі ўжо радня, але і сябры: дзелімся ўсім добрым, памагаем у нечым адзін аднаму.

* * *

Пад нашу хату падышла суседка Вікця Шыкер. Вітаемся, абдымаемся.

— Хоць весялей цяпер будзе, — кажа нам з жонкай. — А то не было з кім і загаварыць зімой. Акром ката.

Ёй ужо — 84. Ян Шыкер знайшоў яе ў Юзэфаве — невялічкай вёсачцы пад Глускам. Яму нараіла Вікцю нейкая яго сваячка, што жыла ў Юзэфаве. Расказала жаніху, што яна і праля, і ткалля, што не адну трубку палатна ды падушак нагатовіла сабе ў пасаг. У сваты павёз Яна швагер Валодзя Дубовік. Вікця спярша не ўпадабала жаніха: надта ж маларослы быў напроці яе, высокай. Ды не было дзе дзявацца дваццацігадовай ужо дзеўцы — пайшла. Прывёз яе ў Зялёную Дуброву Ян — ведама ж, з развясёлай вясельнай музыкай ды песнямі — у 1947 годзе. Так што ўжо болей за шэсцьдзесят гадоў Вікця наша, дуброўская. Абкідалася дзецьмі, унукамі ды праўнукамі, якія цяпер кожныя выходныя імчаць да яе з Мінска. Няма ўжо толькі ў Вікці гаспадара: гадоў дзесяць назад пайшоў Ян Шыкер на вечны спачын.

Да нядаўняга часу Вікця трымала яшчэ карову, свіней. Цяпер у яе асталіся толькі куры. Ну і заўсёдны яе клопат — агарод.

З ёю, разважлівай, немітуслівай, павольнай у рухах, прыемна пасядзець на вулічнай лаўцы перад хатай, пагаманіць. У яе чыстая, амаль не засмечаная русізмамі, каларытная беларуская мова, і я часта запісваю ад яе нашы рэдкія, а то і забытыя самабытныя слоўкі, прыказкі, прымаўкі. Ды ўсякія показкі.

* * *

У Зялёнай Дуброве — ажыўленне. Па вуліцы паўз маю хату шмыгаюць легкавыя аўтамашыны, праходзяць — па дзвюх, па трох — апранутыя па-святочнаму жанчыны з яркімі букетамі кветак у руках: сёння — Радаўніца. Радасць сустрэчы з роднымі, з самымі дарагімі, якія назаўсёды пакінулі гэты свет і, нібы пасля шчырага жніва ці малацьбы, спяць моцным, на жаль, непрабудным сном на нашых дуброўскіх могілках.

Гадзін пад адзінаццаць іду туды, на Раз'езд, і я з сёстрамі і пляменніцамі.

На могілках — поўна людзей. Стаяць перад магілкамі сваіх, узяўшыся за жалезныя зубцы агароджаў, нешта папраўляюць у саміх агароджах, мяняюць кветкі.

Многія магілкі і дарожкі каля іх пасыпаны жоўценькім пясочкам — каб навесці лад, хто мог прыходзіў ці прыязджаў сюды напярэдадні.

Бальшыня людзей — прыезджыя. Былыя дуброўцы. Заявіліся сюды са Старых Дарог, з Асіповіч, з Мінска, з недалёкіх селішчаў. Дзеці і ўнукі тых, хто вечным сном спачывае тут, на пясчаным грудку, сярод роднага лесу.

Для мяне Радаўніца — двайное свята: пабыць у гасцях у сваіх родных, што знайшлі тут свой прыстанак, і спаткацца з прыезджымі дуброўцамі, асабліва майго пакалення, — разам жа гадаваліся, разам перажылі вайну і галоднае пасляваенне.

Сёння бачу тут трошкі старэйшага за мяне Флёрыка Жыдовіча. Ён прыехаў з Суціна, куды даўно перасяліўся з сям'ёй і дзе паспеў зрабіцца ўдаўцом. Абдымаемся, гамонім. Як ён зблажэў, бедны, за год, як паглыбелі яго маршчыны! Прыехаў на машыне з сынам. Раней прыязджалі і ўсе яго браты, старэйшыя Жыдовічы — Казя, Ваця, Стась. Яшчэ год назад мы стаялі во тут з Стасем, гэтак жа гаманілі пра ўсё, радыя сустрэчы (ён прыязджаў з Старых Дарог). А цяпер унь глядзіць на мяне з чорнага гранітнага помніка. Няма ўжо на свеце і Казі. Першы раз не прыехаў на Радаўніцу і васьмідзесяцігадовы Ваця: зусім занядужаў, амаль не выходзіць з кватэры ў Мінску (мы з ім перазвоньваемся).

Сустрэў я тут і свайго нязменнага, яшчэ з дзіцячых гадоў сябра — Бардзінага Жоржа, з адзіным вялікім зубам у роце. Ён прыкаціў сюды веласіпедам з Каваліч — гэта кіламетраў чатырнаццаць ад нас. Там ён рабіў да пенсіі ляснічым (закончыў Мінскі лесатэхнічны інстытут, здаецца, так ён тады называўся). Павітаўшыся, мы дамовіліся, што ён зойдзе да мяне пасля могілак. Тады і нагаворымся.

Болей я нікога з сваіх равеснікаў не бачу. Усюды — толькі іх нашчадкі, «племя маладое, незнаёмае». І яшчэ хіба іхныя жонкі, з якімі толькі цяпер пазнаюся.

Сунімаюся каля нашай агароджы. На агульным гранітным помніку — партрэты бацькі і мацеры. Хоць тут яны разам, чаго не давалі войны. Побач — магілка нашай бабуні Косцічыхі і цэментовы помнік з чырвонай зоркай — дзеда, Канстанціна Аляксандравіча Рымашэўскага. Памёр ён у 1932 годзе ад мазаля (так шчыраваў на калгаснай будоўлі). Памёр у Бабруйску, тагачасным нашым абласным цэнтры, куды ездзіў лячыць свой мазоль. Не вылечыў. Там і пахавала яго мая маці, якая прыязджала адведаць хворага бацьку ў бальніцы. Параўнальна нядаўна яго дзеці — мае дзядзькі і цёткі — наважылі вярнуць бацьку дадому, у Зялёную Дуброву. Толькі не захацелі трывожыць яго касцей: узялі з магілы жменю пяску і перавезлі сюды гэты помнік з чырвонай зорачкай. Не ведаю, ці добра так рабіць. У кожным разе і яго, нашага дзеда па мацеры, мы можам цяпер ушаноўваць.

* * *

Пасля шумлівай мнагалюднай Радаўніцы, калі ўсе былыя дуброўцы раз'ехаліся, ізноў у Зялёнай Дуброве цішыня. Толькі ўсюды выспеўваюць птушкі, радуючыся сонцу, цяплу, лагоднай бязветранай пагодзе.

Ці не самая гэта любая для ўсіх пара — сярэдзіна красавіка? Ні камароў яшчэ, ні мух. Шкляная празрыстасць паветра, чыстая сінізна неба.

Лес за полем, перад маёй сядзібай, маўчыць. Лісцёвыя дрэвы яшчэ голыя. Яны чакаюць сваёй пары.

Адны толькі вербы павыпускалі ўжо на сваё голле жоўценькіх пушыстых коцікаў. Напроці неадзетага яшчэ шэрага лесу купчастыя, амаль круглыя вярбовыя кроны — нібы самой прыродай выстаўленыя напаказ вялікія жоўта-залатыя букеты. Любуйся, любы.

Адна такая, ужо не маладая разгалістая вярба вызалацілася ў беразе зусім блізкага ад мяне Адамішынага ляску (ён быў насупраць сядзібы ўдавы Адама Каспяровіча, закатаванага ў 1937 годзе энкавэдыстамі). Вярба чуць-чуць схілілася

там над Адамавай сажалкай (выкапаў яе экскаватарам другі Адам, Адам Дзядзюля, цяпер нябожчык). Падыходжу туды. Як хораша пахне вярба сваёй квеценню! Нездарма ж прывабіла яна ўжо і пчол. Яны лазяць па таўсматых коціках, купаюцца, давольна пабзыкваючы, у пахкім пылку. Бачу: накупаўшыся, то адна, то другая з поўнымі жоўтымі абножкамі куляй пускаецца ўверх, нясе першы ў гэтым годзе ўзятак у свой адкрыты новаму лету дамок, у залатыя шкляначкі сотаў.

* * *

У мяне ў руках — хвацкі, з гладзенькімі зялёнымі тронкамі секатар. Каб мае дрэвы і дрэўцы — і пладовыя, і дэкаратыўныя — не загушчаліся, раслі стройнымі і радавалі вока, адшчыкваю ў іх усё лішняе. Праходжу так з секатарам па ўсім садзе і агародчыку. «Чык-чык, чык-чык, чык-чык», — такая сёння на маёй сядзібе музыка. Адрэзаныя галінкі і ваўчкі падаюць на зямлю, асобныя чапляюцца за ніжняе голле дрэў. Падбяру іх потым, гэта будзе яшчэ адна, такая ж прыемная для мяне работа.

Скончыўшы абрэзку ў сябе, іду з секатарам на другі бок вуліцы. Там — дзіўнае дзіва: на шырокай быльняговай ялавіне ўваскрасае перад маімі вокнамі Андрэеў сад!

Я ніколі не бачыў Андрэя Цвірку, брацеіка майго дзеда Сымона. Ведаю яго толькі па расказах старых людзей. Гэта быў ці не самы моцны ў Зялёнай Дуброве гаспадар. Ён нажыў нават конную малатарню, пабудаваў сабе шыкоўны дом пад бляшаным дахам, пафарбаваным у чырвонае — такіх ні ў кога ў нас яшчэ не было. Ну, а перад домам, за вуліцай, высадзіў вялізны, усім на радасць (ці зайздрасць?) сад. Пра гэты сад усе расказвалі мне, як пра цуд. Якіх толькі яблыкаў, ігруш, вішань, сліў не было ў ім!

За тое, што хацеў Андрэй жыць па-людску, у 1929 годзе, у калектывізацыю, яго раскулачылі: як жа, багацей, міраед! Раскулачылі і выслалі недзе на пагібель. Сад перайшоў у калгас. А ў фінскую вайну, як і ўсе ў нас сады, ён вымерз.

Пры маёй памяці тут ужо было голае поле. Ад дзівоснага Андрэевага саду не асталося і знаку.

Ды дзівы ёсць на свеце: апошнімі гадамі на яго месцы і тут, і там пачалі раптам вылазіць парасткі ігруш і яблынь — мусіць, жылі ўсё ж недзе ў глыбіні іхныя каранькі. Калі поле стала ялавінай, якую не чапаў болей плуг, тыя каранькі і павыпускалі ўверх дубчыкі дрэўцаў. І не два, не тры — я налічыў іх больш за два дзясяткі. Праз восемдзесят гадоў, як быў вымерз сад, і праз дзевяноста, як раскулачылі яго гаспадара!

І от я знайшоў сабе яшчэ адзін занятак: памагаць дрэўцам расці і набіраць моцы. Кожнай вясною іду сюды з секатарам і абразаю на іх лішнія сучкі ды галінкі, а летам і траву пад імі ўкашваю. І дрэўцы дужэюць з кожным годам, таўсцеюць у камлі, цягнуцца ўверх. Адна куртаценькая яблынька і радзіць нават пачала: паказала свае ладныя чырванабокія яблыкі з прыемным — салодкае з кіслінкай — смакам. Цікава, чым жа парадуюць усіх другія дрэўцы?

З асаблівай надзеяй гляджу на ігрушкі. А раптам ажыве тут хоць адна «цыганка»? Калі я пытаўся ў старых людзей, якія яблыкі ды ігрушы раслі ў Андрэевым садзе, усе найперш называлі ігрушу «цыганку». На ёй былі надта ж смачныя ружовыя з чорнымі крапінкамі ігрушы-рэпанкі. Цікава, што раслі яны не толькі ў нас, а па ўсёй Случчыне. Пра «чырванабокія “цыганкі”», якія «да самых замаразкаў вісяць у голлі», успамінае і Кузьма Чорны ў «Скіп’ёўскім лесе».

Даглядаючы Андрэеў сад, я злавіў сябе на думцы, што клапачуся пра гэтыя «нічыйныя» цяпер яблынькі і ігрушкі нават з большай ахвотай, чым пра свае. Гэта ж так будзе здорава, калі, уваскрасаючы, на ўсю моц разрасцецца тут, каля

самай вуліцы, вялікі і раскошны сад! Андрэеў сад. Гэты сад будзе жывым помнікам загубленаму нелюдзямі руплівому зялёнадуброўскаму гаспадару-жыццялюбу, якім быў брацёнік майго дзеда Сымона.

* * *

Разам з Эдзем Шыкерам, Зэнавым сынам, звонім з маёй хаты дырэктару Старадарожскага лясгаса, майму фамільяту Валянціну Цвірку. З важнай не толькі для Эдзі, але і для ўсёй Зялёнай Дубровы прычыны.

Летась усіх нас, дуброўцаў, вельмі абурыла нахабства (другога слова не знайшоў) нашага Кавалiцкага лясніцтва: уздумала ўзараць пад лес былыя дуброўскія сядзібы, працягнуўшы глыбокія разоры пад самую вуліцу, нават пад платы двароў, дзе жывуць людзі. Мусіць, логіка ў лясніцтва была такая: Зялёная Дуброва — вёска «неперспектыўная», таму можна не цырымоніцца з яе «апошнімі магіканамі» — пакуль лес вырасце, нікога ўжо тут не астанецца. Выходзіць, вёску зажыва хаваюць? Ды Зялёная Дуброва паміраць не збіраецца. Наадварот, людзі бяруць тут новыя пляцы для пасялення. Значыць, лес, калі вырасце, стане пажаранeбяспечным: загарыцца ад нейкага недакурка — мігам спапялее і ўся вёска. Гэта трывожыць і Эдзю: разоры ж падышлі пад самы яго падворак, заняўшы частку яго бацькаўшчыны, якую задумаў вярнуць.

Тады, калі ўзаралі пад лес наша прыселле, я пазваніў у лясгас, расказаў пра ўсё дырэктару Валянціну Цвірку і папрасіў яго пад’ехаць у Зялёную Дуброву і паглядзець, што тут наварочана. Валянцін Міхайлавіч прыехаў, паглядзеў, пацмокаў языком і паабяцаў усё паправіць. А праз нейкі час, калі ў Старых Дарогах рэдактар райгазеты «Навіны Старадарожчыны» Міхась Татур спраўляў у рэстаране свой юбілей, на які быў запрошаны і я, да мяне падышоў мой фамільят і сказаў, што ён даў каманду не займаць лесам наша прыхацце і зраўняць перакопаную дарогу.

Ды я дарэмна радаваўся: ніхто не паслухаў яго каманды! Лесам засадзілі ўсё, нават нашу дарогу. Як расказаў мне былы ляснічы таго ж лясніцтва, мой школьны сябар Жорж Дубовік, лясніцтвам спускаюць зверху планы пасадкі лесу, і яны дзе толькі могуць шукаюць для гэтага месца.

Таму і звонім сёння з Эдзем у лясгас. Я, мусіць, залішне жорстка, калі не з’едліва, пагаварыў з дырэктарам лясгаса.

— Выходзіць, Валянцін Міхайлавіч, вы — не гаспадар свайго слова? Ці мо зусім не гаспадар у лясгасе?

У трубцы нешта трашчала-верашчала, але нічога суцяшальнага я ў ёй не пачуў.

Апануранныя, пайшлі мы з Эдзем на вуліцу, гадаючы, куды яшчэ нам пастукацца. Ды калі ўжо стаялі каля Эдзевых варот, да нас падкаціла машына і з яе вылезлі двое — галоўны ляснічы лясгаса і наш ляснічы. Ясна: прыслаў Цвірка, каб нас улагодзіць.

Яго пасланцы аказаліся добрымі людзьмі. Мы ціхамірна ўсё абгаварылі, учатырох знайшлі «кансенсус». Ляснічыя далі Эдзю Шыкеру дазвол пашырыць сваю сядзібу без увагі на пасаджаны лес. Ну, а мяне суцешылі тым, што разоры бліжэй да вуліцы пастанавілі засадзіць дэкаратыўнымі кусцікамі.

У такія от мітрэнгі даводзіцца мне ўцягвацца ў сваёй Зялёнай Дуброве.

* * *

Ідучы вуліцай, заўважыў на двары Алу Бучацкую (з дома Акулічаў).

— Ну, як жыццё, Ала? — пытаюся, павітаўшыся.

— Ды якам уверх! — адказвае, смеючыся.

Гэтае выслоўе падхапіла яна на радзіме свайго чалавека Івана Бучацкага, пад Навагрудкам.

Пакінуўшы Мінск, Ала асталявалася з ім на сваёй бацькаўшчыне, у Зялёнай Дуброве. Люба і хораша жылося ім тут, у нашым зацішным куточку. Ды гадоў пяць назад зусім неспадзявана хвароба сэрца звяла яе гаспадара, яшчэ маладога пяцідзесяцігадовага чалавека, у магілу. Стаўшы ўдавою, Ала ўсё роўна асталася жыць на бацькаўшчыне. Балазе вельмі палюбілі Зялёную Дуброву яе сыны, даволі сур'ёзныя і талковыя хлопцы. Жывучы ў Мінску, яны кожную вольную ад работы хвіліну ляцяць сюды, да мацеры. Хату і падворак дагледзелі — залюбавацца. Усюды парадак, чысціня, роўныя цэментовыя дарожкі з кветкамі па баках. Разам з дзецьмі акрыяла патроху Ала пасля страты любімага чалавека, змірылася з сваёй доляй. Ды і штодзённы гаспадарчы клопат (сад, агарод, куры, грыбы, ягады, саленні-варэнні) не дае ёй надта апускаць галаву.

Таму і жыццё яе ідзе тут, хоць і не заўсёды так, як хацелася б, ды ўсё роўна «якам уверх»!

* * *

На маім восеньскім ворыве, проста на раллі, на якой яшчэ не відаць і травінкі, выпусціў насустрач веснавому сонцу сваю яркую кветачку падбел. Ад жоўценькага яе асяродка бягуць наўкруга такія ж жоўценькія і тоненькія пялёсткі-стрэлкі. Не кветка — само маленькае прамяністае сонейка!

Свеціць тое сонейка не доўга. Праз кароткі час яно цалкам «згарае». Але не бясследна: з кораня гэтага палявога першацвету вырастаюць пасля чатыры ці пяць вялікіх паўкруглых лістоў, якія сцелюцца па зямлі. Ніжні бок ліста — белы. Адсюль назва расліны — падбел.

Я сарваў быў раз ліст падбелу і падышоў з ім да свайго заўсёднага «кансультанта» Вікці Шыкер: «Што гэта?» — «Маці-і-мачыха», — адказала мая суседка. І растлумачыла: гэтак называецца расліна таму, што ў яе два розныя бакі. Ніжні, белы — цёплы і мяккі. Гэта — матчын бок. Верхні ж, зялёны — хоць і гладкі, але халодны: мачышын бок. Я прыклаў да шчакі ліст белым бокам і адразу адчуў цеплыню і лагоду не ў прыклад зялёнаму — і праўда халоднаму. Вельмі дакладна заўважылі людзі, што ідзе ад мацеры, што — ад мачахі.

Успомнілася, што нешта падобнае гаварыла мне маці і пра блін, які вымала з печы і клала перад намі, дзецьмі, на талерку. «У яго таксама, — казала яна, — два бакі: матчын і мачышын». Толькі тут матчын — верхні, бо ён мяккі і наздраваты. Калі яго памажаш маслам, ён усё ўбірае ў сябе. На ніжнім жа, гладкім, масла сцякае з бліна. Таму ён і «мачышын».

Але вернемся да падбелу (ці «маткі-і-мачыхі»). Як сведчыць «Слоўнік паўднёва-заходніх гаворак», яго называюць у Беларусі яшчэ маташнік (ці матачнік). Так пазначае гэтую расліну ў сваім «Слоўніку беларускай мовы» Іван Насовіч. Маташнік — вядома ж, ад гэтага ласкавага матчынага боку яе ліста. А яшчэ, мусіць, і ад лекавых уласцівасцяў расліны.

А назва «падбел»? Калі я папытаў у Вікці, што гэта за расліна, яна, стоячы каля свайго агарода, паказала мне на крываўнік, што рос проста каля яе ног. Ну, правільна — ён жа ў беленькіх суквеццях. Я думаў, што гэта толькі яна так назвала расліну. Але той жа «Слоўнік беларускіх гаворак...» паказвае, што гэтая назва крываўніка пашыраная на ўсёй Беларусі. А на Гродзеншчыне, як запісала Эліза Ажэшка і расказала ў нарысе «Людзі і кветкі над Нёманам», падбелам называюць расліну, што пазначана ў траўніках як стрэлкі звычайныя (руская назва — пастушья сумка). Апроч гэтага «палявога» падбелу яна называе яшчэ і вадзяны падбел (або «капусту стырніка»). Ці не лілея гэта? У кожным разе, пачуўшы слова «падбел», трэба ўдакладніць яшчэ, пра якую канкрэтна расліну ідзе гаворка. Увогуле ўпарадкаваннем нашай батанічнай наменклатуры даўно, мусіць, пара сур'ёзна заняцца мовазнаўцам.

* * *

Ідучы ў нашу хату, Вікця трохі спатыкнулася сваімі адзетымі на босую нагу галошамі аб парожак ганка і, нагнуўшыся, пачала папраўляць адзін з іх.

Я ёй жартам:
Зачапілася за пень —
Прастаяла цэлы дзень.
Яна, разгінаючыся, тут жа ў адказ, мне ў тон:
Каб не тыя панічы,
Прастаяла б да начы.

Такія бываюць у мяне часам размовы з суседкай Вікцяй, якая разумее і любіць жарты і ніколі не лезе ў кішэню па слова. У яе ж выдатная памяць, яна помніць усе вершыкі, якія вучыла ў школе без малога восемдзесят гадоў назад. Помніць і любіць пры нагодзе працытаваць. А яшчэ помніць мноства народных песень, якія пераказвала мне слова ў слова. Праўда, праспяваць іх, каб я запісаў на свой дыктафончык, не знайшла часу. Дый не хоча, каб яе запісвалі на магнітафонную стужку. Але, думаю, усё ж угавару яе: ці ж прападаць скарбу?

* * *

Раніцай патэлефанаваў у Мінск Анатолю Клышку — яму ж сёння 75!

Анатоль шчыра падзякаваў мне, што не забыўся. Дый як жа можна забыцца, калі мы сябруем ужо больш чым паўстагоддзя! З першага курса Белдзяржуніверсітэта, куды разам паступілі на філфак — на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. Там сам сабою склаўся ў нас «трыумвірат»: Клышка, Чамярыцкі, Цвірка. Лідарам мы прызналі Клышку: ён жа да ўніверсітэта паспеў папрацаваць ужо нават у райгазеце і шмат на што глядзеў з добрай дозай іроніі.

Тады ж, на першым курсе, уцягнуў нас Клышка ў адну авантуру. Для вывучэння латыні наша аддзяленне падзялілі на дзве групы. У першай выкладчыкам быў вельмі строгі лацініст Пільман, у другой, наадварот, на рэдкасць добры і памяркоўны дзядок Бандарын, бацька пісьменніцы Зінаіды Бандарынай. Мы ўтраіх былі запісаны ў групу Пільмана. Клышка, каб выкруціцца ад строгага лацініста, падгаварыў нас цішком перакінуцца да Бандарына. Паверыўшы, што за гэта «нічога не будзе», мы з Чамярыцкім паслухаліся свайго правадыра і, як цяляты, пайшлі за ім у чужую групу. Там, разявіўшы раты, цэлы семестр слухалі вольныя «аповеды» дзядулі Бандарына, які расказваў студэнтам пра ўсё на свеце, толькі не пра сваю латынь, на якую глядзеў скрозь пальцы.

Толькі пад канец семестра наша самавольства было выкрыта. Нас пачалі скланяць на ўсіх сходах. А старшакурснік Валянцін Тарас добра «прапясочыў» усіх трох у факультэцкай насценгазеце «выкрывальніцкім» вершам з такім пачаткам:

Нашептали на ушко
Хитроумному Клышко,
Чемерицкому, Цвирко,
Будто Пильман, жрец латыни,
Стал свирепствовать отныне...

Далей гаварылася, як гэтыя самавольнікі, паблісквалючы пяткамі, уцякалі ад грознага «жраца латыні» да паблажлівага Бандарына.

Крытыку то мы перажылі. Ды ўся бяда была ў іншым: наш законны выкладчык Пільман узяў нас у свае жалезныя абцугі па поўнай праграме. Асабліва «свирепствовал» на экзаменах. От я, упіхнуты сябрамі ў пакой для экзаменаў, сяджу перад суровым і непрыступным, як скала, лаціністам. Да канца выслухаўшы, як я бэкаю ды мэкаю, Пільман доўга маўчаў, потым павольна,

расцягваючы кожнае слова, папытаўся: «Дык што — dum spiro spero?» (Гэта значыць: «пакуль жыву — спадзяюся».) І, пакруціўшы ў руцэ, падаў мне назад маю заліковую кніжку: «Трэба вучыць, а не спадзявацца на “авось”. Прыходзь увосень, калі вывучыш».

З усёй гэтай гісторыі, дзякуючы Клышку, я атрымаў на ўсё жыццё адзін урок: ніколі не пакладайся на чужы розум, а насі на плячах сваю галаву.

Ад часоў студэнцтва і па сённяшні дзень мы з Анатолем трымаемся разам: звонім адзін аднаму, сустракаемся, каб параіцца пра тое ці гэта, просім адзін аднаго прачытаць перад публікацыяй нешта з напісанага, каб не пусціць у друк «не тое».

* * *

Пры дарозе, у цемнаватай талай вадзе — жоўтае дзіва: лотаць! Ступаю ў прарызіненых ботах проста ў ваду і, хапаючыся за доўгія мясістыя сцябліны, выцягваю яркія суквецці.

Вялікі, з пахам веснавой свежасці букет стаўлю дома ў крышталёвай вазе на стол. Як пасвятлела, як пахарашэла ад лотаці ў хаце! Нібы прынёс сюды саму радасць. Разумею цяпер сваю маці, якая кожнай вясной ставіла ў слоіку гэтыя залацістыя кветкі на падаконнік.

Будуць вечна сады расцвітаць,
Белагрудыя ластаўкі лётаць
І дзявочыя ногі таптаць
Залатую лотаць.

І хоць дзяўчаты наўрад ці будуць таптаць босымі нагамі «залатую лотаць», бо па яе трэба лезці ў халодную ваду, у балота, але гэтыя ўзнёслыя радкі верша Пімена Панчанкі вельмі сугучныя майму настрою, навеянаму зіркатымі вясновымі кветкамі.

* * *

Сёння яшчэ ў мяне адно свята — перакопка зямлі пад дрэвамі і кустамі. Пачынаю з яблыні перад хатай — маёй каштэлі: я прышчапіў яе некалькі гадоў назад на дзікай яблыньцы, якую прынёс з лесу. У яе ўжо вызначылася роўная купчастая крона. Выходзячы з хаты, кожны раз цешуся ёю.

Асцярожна, каб не зачапіць карані, запускаю рыдлёўку ў зямлю, яшчэ вільготную пасля зімы, і — скібіна за скібінай — пераварочваю набок. Закончыўшы перакопку, разгладжваю груды граблямі. Адыходзячы, гляджу, ці роўны атрымаўся мой прыствольны круг, ці не трэба яго яшчэ паправіць, давяршыць нейкім штрышком малюнак.

Такую ж перакопку раблю пад усімі яблынямі ды ігрушамі, пад вішнямі, слівамі, пад кустамі смуродзіны, парэчкі, агрэсту, бружмелю, пад кветкавымі раслінамі пры хаце. Гэта ж так люба будзе глядзець, калі ўсё гэта, акуратненька дагледжанае, пачне зелянець, цвісці, абкідвацца пладамі!

* * *

Сама атайбаваўся я ў сваёй Зялёнай Дуброве, як на табе — званок з Мінска. Ірына Багдановіч «дакладвае», што закончыла каментар да Казіміра Сваяка. Нічога не зробіш, трэба ляцець — прачытаць, як яна гэта зрабіла, яшчэ раз прагледзець усю вёрстку кнігі і здаваць яе ў друк.

Калі я складаў у 1995 годзе план-праспект «Беларускага кнігазбору», Казіміра Сваяка ў яго не ўключаў. Апрача некалькіх «не лепшых» вершаў гэтага паэта-ксяндза, што з’явіліся ў друку пасля доўгага замоўчвання, я больш нічога яго

не чытаў. І калі Ірына Багдановіч падахвоцілася падрыхтаваць для нашай серыі цэлы том гэтага амаль забытага заходнебеларускага паэта, я моцна засумняваўся, ці набярэцца ў яго годных твораў. Але не адгаворваў Ірыну: паглядзім, што яна назбірае.

Пачала яна гэтую работу яшчэ ў тым тысячагоддзі. А работа была немалая: каб сабраць усе творы Казіміра Сваяка, ёй спатрэбілася прагледзець процьму перыядычных выданняў, па якіх была распылена яго літаратурная спадчына. Шчыравала яна да самага апошняга часу, гэта значыць, больш за дзесяць гадоў — тытанічная праца!

Калі я прачытаў усё сабранае Ірынай Багдановіч, мае сумненні наконт выдання твораў Казіміра Сваяка ў серыі «Беларускі кнігазбор» адпалі.

Гэта — паэт, паэт са сваім адметным, хоць і не гучным голасам. Паэт высокага грамадзянскага пафасу. Зусім нездарма так высока цанілі паэзію Казіміра Сваяка яго сучаснікі, відныя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, Адам Станкевіч, Вінцук Адважны.

Вельмі самабытная ў Казіміра Сваяка і проза, галоўным чынам творы малога жанру. І сёння надзвычай актуальна гучыць яго баявая публіцыстыка, з неаслабнай увагай чытаецца літаратурная крытыка.

Выхадам гэтай кнігі мы вернем у лона нашай літаратуры яшчэ адно незаслужана адрынутае з яе палітыканамі імя, светлае імя Казіміра Сваяка, адданага ваяра за Беларусь.

* * *

Падзея: учора паставілі тэлефоны сястры Яні, нашым сібіракам і Насці Акуліч. Цяпер усе дуброўцы — з тэлефонамі. Можна перазвоньвацца з усімі. Яшчэ зусім нядаўна паставіць тэлефон была праблема. З цяжкасцю ўстанавіў тады тэлефон і я ў сваёй хаце. Калі ўлічыць, што ў многіх ёсць і сотавыя, то сувязь наладжана цяпер у нас ідэальная. Цывілізацыя дайшла і да Зялёнай Дубровы — нашай глушэчы.

* * *

З учарашняга дня хадзілі небам, гуртаваліся пухкія воблакі. А сёння сярод дня адно з іх згусцілася, пацямнела, і з яго на непрасохлую яшчэ пасля зімы зямлю лінуў дождж. Прагрымеў і гром.

Ды навальніца была нядоўгая. З маланкамі і глухаватымі, яшчэ нясмелымі грымотамі пакацілася далей ад нас. Ізноў выбліснула сонца.

— Ці добра гэта — гром на сухі лес? — пытаю ў Вікці, якая выглянула з сваіх варотцаў на вуліцу.

— Да ўжо не саўсім сухі. Зеленкавы.

І праўда, бярозы, гляджу, нібы зялёным дымком ахінуліся.

— Кажуць, калі першая разаўецца бяроза, — падае Вікця народную прымету, — будзе сухі год, калі ж альшына — мокры.

Насуперак бярозе альха яшчэ ў рыжаватых пупышачках. Значыць, год будзе сухі? Што ж, пажывём — пабачым.

* * *

Калі ішоў раніцай на агарод, з бур'яна, што буйна раскашуе наўкруга, амаль з-пад ног пырхнулі, бліснуўшы сваім ружаватым падкрыллем, дзве караткахвостыя круглаватыя курапаткі. І гэта не першы раз іх тут сустракаю. Недзе ж вядуцца каля мяне. Як бы гэта зрабіць, каб яны мяне не баяліся? Каб я мог іх нечым падкармліваць, любавацца гэтымі вольнымі птахамі, яшчэ адным дзівосным тварэннем прыроды.

Ды надта ж пудлівыя яны, нашы шэрыя курапаткі. І не меней скрытныя. Аднаго разу я заўважыў быў у кусцістым дубнячку паважную курапатку, за якой бегла цэлая чарада рабаватых пылянятак. Калі я памкнуўся хоць адно злавіць, старая курапатка нешта ледзь чутна піскнула, і ўсю яе вялікую чараду як языком злізала. Толькі што былі перад вачыма — і хоць бы дзе адно яе дзіцянё! Потым я даведаўся, што, пачуўшы небяспеку, маленькія курапатачкі толькі тое і робяць, што шчыльна прытульваюцца да зямлі, зліваючыся з леташнім апалым лісцем і травою — ніяк не ўбачыш. Такі ўжо выррабіўся ў іх змалку інстынкт, інстынкт выжывання.

Усё ж прыручыць курапатак можна. Як — пра гэта расказвае расійскі прыродазнавец Леанід Сабанееў у сваёй кнізе «Каляндар прыроды». Але для гэтага трэба жыць у вёсцы і зімой. Так што нам, гараджанам, застаецца толькі памарыць пра такое. І пашкадаваць, што праз горад многія ніці з прыродай мы абарвалі.

* * *

У беразе мешанага лесу за Сядзібамі (так завуць у нас поле за вясковымі агародамі), праходжваючыся раніцай, наткнуўся пры даўно зарослай канаўцы на жаўтавыя, прыморшчаныя грыбы-стаўбункі, што там і там павыскаквалі з леташняга (а мо яшчэ і залеташняга) прэлага бяроза-асіна-дубовага лісця. Вяселікі!

Сабраў іх у невялічкі мяшэчак і паказваю дома суседцы Вікцы.

— Што гэта? — пытаюся, нібы не ведаю.

— Вяселікі, — адразу адказвае Вікця.

Правільна, так, колькі я помню, называлі гэтыя красавіковыя «ўмоўнаядомыя» грыбы ў нас, у Зялёнай Дуброве. Так, кажа Вікця, завуць іх і на яе Глушчыне. Чуў я гэтае слова і на Случчыне, праўда, не вельмі далёка ад нас — у Жылін Бродзе. Вось толькі не знайшоў яго чамусьці ў нашых слоўніках. Там гэтыя грыбы значацца як «смаржкі». Цікава, дзе ў Беларусі сустракалі мовазнаўцы ў жывой гаворцы такое слова? Падазраю, што, не пашукаўшы, проста «запазычылі» ў расейцаў, трохі перайначыўшы іхнае «сморчки» — і толькі таго.

Некалі ў кніжцы для дзяцей я змясціў чатырохрадкоўе пра вяселікі. А Еўдакія Лось, якой я расказаў пра гэтыя вясновыя грыбы, цэлую кніжку вершаў для дзяцей назвала так — «Вяселікі».

Вяселікі — гэта агульная назва двух разнавіднасцяў грыбоў сямейства гельвелавых: стаўбунаватых (па-руску «сморчков») і прыземістых, цёмна-рыжых («строчков»). Як гэтыя разнавіднасці вяселікаў гучаць па-беларуску, думаю, пашукаюць яшчэ нашы мовазнаўцы: у народзе ж ёсць усё. Першыя можна знайсці дзе-небудзь у беразе лісцянага лесу ці на расцяробах, другія — па хвойніках, а больш за ўсё, як кажа Вікця, «па гарэніку» — гарэлым лесе.

У роднай Вікцінай вёсцы на Глушчыне цёмна-рыжыя вяселікі («строчки») называюць вельмі празаічна — вушы. І праўда, калі іх разрэзаць, яны ўсярэдзіне полыя, белаватыя, з тонкімі выгінастымі сценкамі — вушы дый толькі!

Я не помню, каб у нас спажывалі вяселікі: нават у галодныя пасляваенныя гады, калі ўсе мы млелі ад недаядання, калі шукалі вясной на бульбяным полі гнілыя бульбіны-«пышкі», каб зварыць іх са шчаўем, пра вяселікі ніхто і не ўспамінаў. Не елі іх і ў Вікціным Юзэфаве. Там іх скарыстоўвалі як лекі: адварам высушаных вяселікаў лячылі ад крываўкі кароў.

Знойдзеныя за Сядзібамі вяселікі я, як вучаць кнігі, адварыў у вадзе і, зліўшы яе, прапаласкаў вадой халоднай. Толькі пасля гэтага паклаў на скавараду, спырснуўшы яе алеем, — смажыць. На смак яны здаліся мне як звычайныя грыбы. Але еў іх з асцярогай: а раптам асталася там усё ж якая атрута?

Еў і ўспамінаў Уладзіміра Салавухіна. Як ён, першы раз насмажыўшы і пад'еўшы вяселікаў, слухаў свой жывот, чакаючы, калі пачне паміраць.

Частка прынесеных з лесу грыбоў яшчэ ў мяне асталася. Але другі раз я ўжо іх не смажыў — нешта не хацелася іх есці: можа, таму што не прыйшла яшчэ пара грыбоў?

* * *

Прынёс з лесу і пасадзіў наўзбоч майго саду-агароду, што ўразаецца простакутнікам у калгаснае поле, дубкі — у дадатак да тых, што садзіў раней упярэмешку з клянамі, ліпамі, вязамі і ясенямі: як гэта будзе здорава, калі ўсе яны павырастаюць! Гэта ж будзе ахаваны ад усякіх бур мой уласны куточак на зямлі, дзе заўсёды будзе на месцы душа.

* * *

Дзень сёння сонечны, цёплы. Роўнае блакітнае неба — нібы вымытае.

Заманулася схадзіць у лес. Як тут хораша! Сонца слізгае па ружаватых ствалах хвояў, па зялёным імху, па леташнім зляжалым лісці. Лісцёвыя дрэвы — бярозы, асіны, вольхі, грабы, рабінкі — цалкам прачнуліся пасля доўгай зімовай спячкі, устрапянуўшыся ўсімі сваімі галінкамі, на якіх дружна павыскаквалі з набраклых жыццёвай сілай пупышак зялёныя язычкі лісцічкаў.

Асабліва па-святочнаму выглядаюць напроці пахмурных хвояў ды елак харашуні-бярозы. Іх новенькія светла-зялёныя (а мо лепш сказаць салатавыя?) строі вольнымі хвалямі спадаюць з плячэй долу, і прылётны ветрык бесцырымонна адхінае іх белыя каленкі.

Цяпер ім раскашаваць тут да восені.

З самымі першымі клейкімі лісточкамі бярозы «запусціліся» — перасталі даваць сок, якім шчодра дзяліліся з усімі. Але яго зямная моц асталася ў халадку скляпоў, у квасе-бярозавіку, які яшчэ доўга будзе наталяць смагу тых, хто парупіўся яго прызапасіць.

* * *

За зіму абваліўся дах недалёкага ад мяне калгаснага цялятніка, з якога яшчэ ўвосень пазабіралі ў Залужжа, у цэнтр калгаса, цялят-двухлетак. Папраўляць ці будаваць у нас новы ўжо не збіраюцца: далёка ад цэнтра. Сваіх кароў дуброўцы пазбывалі яшчэ раней: малако ж можна купіць і ў аўтакраме, якая прыходзіць два разы на тыдзень. Значыць, з гэтага года ў Зялёнай Дуброве, дзе яшчэ нядаўна выходзілі на пашу аж дзве вялікія чароды кароў, цяпер і рыку іхнага не пачуеш.

Вёска без кароў. Ці ж можна было ўявіць гэта яшчэ некалькі гадоў назад? Без каровы ж не мыслілася ніводная сялянская сям'я. Гэта ж — спрадвечная людская карміліца. Амаль у лік сям'і залічвалі яе вяскоўцы, даючы сваёй кароўцы самыя прыгожыя і ласкавыя імёны. Мне запомніліся такія: Красуля, Зорка, Мурашка, Мальва, Падласка, Анька, Дуня.

І от, можа, упершыню за многія тысячы гадоў вёска асталася без кароў. Ніколі не пабудзяць ужо яе памятныя мне з маленства меладыйныя, пералівістыя гукі трубы-берасцянкі, што звала гаспадыняў выганяць кароў на ранкі. Ніколі не зазвіняць на вуліцы па заходзе сонца дзіцячыя галасы: «Каровы ідуць! Каровы ідуць!» Толькі ва ўспамінах застанецца цяпер, як паважна, трошкі папыльваючы нагамі і разносячы пах сырадою, ішлі каровы, запоўніўшы сабою ўсю вуліцу. У шырока расчыненых варотах сваіх красуляў і падласак сустракалі гаспадыні і, пагладжваючы па шыі, па баках, вялі ў хлеў, адкуль неўзабаве даносіліся, лагодзячы душу, мяккія пераззвоны тугіх струменяў аб дно драўлянай даёнкі.

А колькі было паэзіі ў такіх сялянскіх работах, як касьба, зграбанне сена,

стагаванне! Мы ўжо, мусіць, апошнія (я найперш маю на ўвазе сваё пакаленне), хто чуў у руках гладкую цверазь касільна, хто на ўвесь мах запускаў добра наладжаную і выvastраную касу ў густую, пацяжэлую ад расы мурожную траву, сцінаючы яе да каранькоў і горнучы ў роўныя валкі-пракосы, хто вёз, калываючыся на калдобінах, агромністы, на паўстога, і добра ўціснуты гладкім яловым рублём бухматы, як казаў Кандрат Крапіва, воз пахкага, яшчэ зелянцовага сена, хто пад самыя ластаўчыны гнёзды закідваў яго сахаром у ціхую прытульную адрыну, дзе, бывала, так соладка спалася яшчэ нехалоднымі жнівеньскімі начамі...

На маіх вачах адышла ў нябыт цэлая эпоха. «Ідуць касцы, звіняць іх косы» — асталося толькі ў вершах ды паэмах.

* * *

Перад маім акном, пры паўднёвай, нагрэтай сонцам сцяне хаты ружовенькімі кружочкамі кветак, што, нібыта матылі, шчыльна абляпілі кожную галінку, запалымнеў невысокі, але размашысты куст. Праўдзівы куст-букет. Хто ні праходзіць вуліцай, не можа, каб не суняцца ды падзівіцца ўголас яго хараству.

Гэта — міндаль.

Аднаго году, у першых чыслах мая я трапіў у нашу старажытную Гародню, на літаратурную сустрэчу, якую наладзіў незабыўны Аляксей Карпюк.

Ходзячы пасля сустрэчы вуліцамі Гародні, я і ўбачыў гэтыя сонечныя кветкі. Яны цэлымі кустамі вясёлкава ірдзелі ў прыватных агародчыках і пры сценах шматпавярховікаў. Іх полымныя букеты красаваліся ў вазах на падаконніках. Галінкі з гэтымі кветкамі бачыў я і ў руках людзей. Здавалася, сама нябесная вясёлка-радуга, нібы той Караткевічаў Хрыстос, упала з нябёс на Гародню і рассыпалася па вуліцах горада, дзе яе і разабралі шчаслівыя гродзенцы.

От бы займець такую красу і мне на сваім лецішчы ў Зялёным, на славутай Лысай Гары. Вядома, можна было б папрасіць у каго хоць маленькі атожылак з куста. Ды хіба ж ён прымецца цяпер, калі цвіце?

Тое ж сказала мне і дзяжурная гасцініцы, дзе я спыніўся. Я разгаварыўся з ёй, убачыўшы на яе стале ў вазачцы тыя абкіданыя кветкамі дубчыкі. Гэта была паўнаватая, у гадах жанчына, з добрымі, па-жаночы спагаднымі вачыма. Мы пазнаёміліся. Яна расказала пра сябе, пра сваю сям'ю, пахвалілася сваім зяцем, які робіць доктарам тут жа, у Гародні, пра ўнукаў. Я ў сваю чаргу таксама паведаў ёй пра сябе, пра тое, чаго сюды прыехаў. Урэшце, калі я папытаўся, як можна прыдбаць атожылак з міндальнага куста, яна, падумаўшы, паабяцала прыслаць яго новай ранняй вясной праз пошту, дзеля чаго і запісала мой мінскі адрас.

Мінуў амаль год. Я ўжо і забыўся быў пра тое абяцанне. Балазе мала верыў, што яно спраўдзіцца.

Ды вот у канцы сакавіка, калі ўжо сышоў з усіх вуліц снег, з пошты прыйшло паведамленне на нейкую бандэроль. Якое ж было маё здзіўленне, калі паштарка прынесла мне тую, зусім незвычайную бандэроль — маленькае дрэўца з акуратна загорнутым у цэлафан карэннем і прывязанай дошчачкай-біркай з маім адрасам!

Я пасадзіў тое дрэўца каля сваёй хаты ў Зялёным. Шчасліва прыжыўшыся, яно скора парадавала мяне сваімі вясёлкамі-суквеццямі. Упадабалі гэтую экзатычную расліну і суседзі, з якімі я ахвотна дзяліўся парасткамі. Вельмі раскошны міндальны куст вырас у жонкі Сцяпана Аляксандравіча Марылі, якая ўмела яго даглядаць.

Ну, а потым прывёз я парастак міндальнага куста і ў Зялёную Дуброву, дзе ён таксама шчасліва прыжыўся і от цяпер радуе ўсіх сваёй красою.

* * *

Вікцін зяць Алег, які прыехаў на свята з Чырвонага Сцяга (селішча за Мінскам) і з якім стаю на вуліцы не зусім цёплым, хоць ужо і майскім вечарам, кажа, правёўшы рукою па сваёй сіняй, у белыя бабачкі сарочцы:

— А мне і ў адной кашулі не холадна.

Кашуля... Мне прыемна было пачуць у жывой гаворцы гэтае слова ў такім значэнні. Бо сустракаў яго толькі ў творах нашых пісьменнікаў. Прыкладам, у вершы Аркадзя Куляшова «Ліст з палону»:

Мне здалося: стаіш ты
У новай
Кашулі вайсковай,
У зялёнай кашулі,
І кулі цябе не кранулі.

Значыць, ужываецца гэтае слова не толькі на Магілёўшчыне, і на Міншчыне, але, можа, і яшчэ дзе.

У нас жа, у Зялёнай Дуброве, кашуля — гэта толькі спадняя, нацельная адзежына, бялізна. І мужчынская, і жаночая. Верхнюю ж лёгкую адзежыну, што адзяецца паверх кашулі, завуць рубашка або сарочка.

Помніцца, некалі касцы ішлі на сенакос у доўгіх палатняных кашулях, накінутых на голае цела. І не толькі касцы так часам у нас адзяваліся. Выходзіць, кашуля была адначасна і спадняй, і верхняй адзежынай. Пэўне ж, таму і асталося бытаваць гэтае, відаць, даўнейшае наша слова ў двух значэннях. А мо варта і «расчляніць» яго, назваць кожнае са значэнняў асобным тэрмінам, каб не карыстацца двайнымі выслоўямі: ніжняя кашуля, верхняя кашуля?

* * *

«Худ-худ-худ, худ-худ-худ, худ-худ-худ» — каторы дзень ляціць з ваколіцы ў вуха. Гэта носіцца, мільгаючы сваімі пярэсценькімі крылцамі і чубком-веерам, няўседны ўдод: прарочыць холад.

І праўда, пасля цёплых, трошкі прымружаных лёгкай воблачнай павалокай дзён з паўночнага боку раптоўна нагнала хвалямі халоднага паветра. Прыкметна пасцюдзёнела, высока падняліся на небе воблакі.

Ага, гэта ж зацвіла чаромха! Пайшлі, як кажуць у народзе, юраўскія кругі, якія паэты назвалі чаромхавымі халадамі.

Па ярах сумётамі — белая чаромха.
Салаўі шалёныя б'юць на ўсе лады.
Заінела пер'е майскага чароту:
Выветрыўшы неба, ходзяць халады.

Як жа дакладна перадаў гэтую пару Анатоль Вялюгін!

Такія чаромхавыя сумёты першы раз вельмі ўразілі мяне, калі падлеткам пагнаў я пад Кляновую граду пасвіць каровы. Пусціўшы іх па лазова-асінавым хмызе на чарнагалоў, я выйшаў на тую ўзвышаную лясную палянку і рот раскрыў ад здзіўлення: уся яна была абкладзена наўкруга святочна-белымі сумётамі-гурбамі. Чаромха!

Цяпер проста з сваёй сядзібы магу я палюбавацца на раскідзісты чаромхавы куст у беразе таго блізкага ад мяне Адамішынага ляска. Адтуль два чаромхавыя дубчыкі перанёс я гады тры назад у самы канец свайго саду-агароду, і яны таксама павыпускалі ўжо свае бялюткія шышкастыя суквецці: глядзі ды любуйся.

Пасадзіў я адну чарэмшыну яшчэ пры самай хаце, каля ганка. Адкапаў яе ў Зэнавым садку. Некалі каля самай Шыкеравай хаты, моцна зацяняючы акно ад вуліцы, расла старая разгалістая чарэмшына. Мы з Зэнам Шыкерам часта лазілі

ў маленстве па яе гладкіх слізкаватых галінах пад самы верх, зрываючы ў лісці чорненькія саладкавыя ягадкі: на ніжняй галіне, што адыходзіла ўбок, была прычэплена вераўчаная гушкалка, і мы па чарзе гойдаліся на ёй, папіхаючы адзін аднаго. Прайшло безліч гадоў з таго часу. Даўно няма ўжо Шыкеравай хаты, няма і Зэны. Уся сядзіба зарасла сліўнікам, здзічэлымі ігрушамі, нават хвойкамі. Даўно высахла і Зэнава чаромха. Але асталіся яе парасткі, якіх глушаць больш порсткія дрэвы. Усё ж я адкапаў адзін з тых парасткаў. І вось ён вырас каля майго ганка, упэўнена пацягнуўся ўверх. Хай расце, радуе белацветам. Гэта памяць пра сябра майго далёкага дзяцінства Зэну Шыкера.

* * *

Май, а на дварэ — як глыбокая восень. З нізкага, спрэс захмаранага неба цэлы дзень пырскае халодны дробны дождж, што хвалямі наносіць паўночны вецер.

У Вікці, што сустрэлася мне каля двара, і тут свой «каментар»:

— Некалі старыя людзі казалі: прыйшоў май, валом дай і на печ уцякай.

Я валом не даю, а «на печ» уцякаю: бяру са сваёй падпаветкі добрае бярэмя дроў, нясу ў хату і закідваю ў грубку. Як усё-такі добра сядзець каля яе ў такую непагадзь і глядзець праз адчыненыя дзверцы на агонь, што, патрэскваючы, весела там гуляе!

Хай за сцяной шуміць і палясквае нейкай бляхай на суседскім хляве вецер, дробна малоціць па шыферным даху дождж, бягуць і бягуць, расцякаючыся па шыбах акон дажджавыя слёзы, тут, у нагрэтай хаце, утульна і цёпла. Дарма, што перапынілася мая работа на агародзе: трэба ж і адпачыць ад яе. Пасядзець у цяпле з кнігай, пабыць з ёй сам-насам.

* * *

Што ні вясна, што ні восень, у мяне і сястры Валі галаўны боль — як узараць соткі. Здавалася б, калгас добра наладзіў гэтую паслугу людзям: аплаці ў бухгалтэрыі зусім нязначную суму за колькі там сотак і чакай, калі прышлюць трактар. Але зручна гэта толькі залужакам: бухгалтэрыя ж у іх пад бокам. А як мне з Валяй без машыны дабірацца туды з нашай глухамані, каб аплаціць паслугу? Ісці пеша, як некалі ў школу — дзесяць кіламетраў туды і дзесяць назад? Выбачайце, калі ласка! Дый веласіпедам не вялікая радасць гэтулькі гоцаць па рабрыстай, як тая пральная дошка, нашай гравейцы.

Тыя разы мы неяк выкручваліся з гэтым. Падлоўлівалі дзе трактар з плугамі, плацілі трактарысту разы ў чатыры ці пяць больш за калгасныя расцэнкі, і той, аглядваючыся, каб не наскочыў старшыня калгаса, акуратненька ўзорваў нашы з Валяй загончыкі. Іншы раз памагала Зэнава дачка Іра Мельнік, намесніца калгаснага старшыні па ідэалогіі, наша сваячка. Яна аплочвала за нас у бухгалтэрыі, аддавала выпіскі пра аплату пасланаму трактарысту, якому мы пасля ўзорвання і аддавалі грошы для Іры. Проста і зручна.

Але гэты раз Іра з’ехала на нейкую вучобу. І от мы амаль месяц чухаем патыліцу, дзе знайсці трактар.

Зняў з галавы наш клопат Казік Чарапок, мой добры прыяцель, калгасны механізатар-перадавік, бацька дзвюх слаўных дочак і ўжо дзед, якому я тэлефанаваў з просьбай пра ўзорванне.

Яго трактар каля майго агарода я пачуў з хаты, калі сядзеў за сталом. Кінуўшы сваю пісаніну, паспяшаў туды. Камлюкаваты Казік, не заглушыўшы матор, стаяў каля свайго дрыгатлівага трохплужнага трактара і на ўвесь рот, паблісківаючы залатым зубам, усміхаўся мне насустрач. Ну, як было яго не абняць?

Я сеў побач з Казікам у вузенькую кабінку, каб паказваць, дзе і як араць, і адразу ж плугі пачалі слаць ззаду роўныя стужкі баразнаў.

Добра помню, як калісьці ў маленстве першы раз узяў мяне бацька на ворыва. Поле за Пагонам, куды бліскотнай вясновай раніцай прытарахцелі мы на калёсах, было жоўтае ад свірэпкі — я аж рот раскрыў ад такога харастваа, якога раней чамусьці нідзе не заўважаў. З пажадлівай дзіцячай цікавасцю глядзеў я, як бацька, распрогшы каня і моцна ўвязаўшы ў сырамятныя гужы хамута брызентавыя паскі барка, прычапіў да яго плуг, які, аберуч узяўшыся за драўляныя тронкі і лёгка шлёгнуўшы па конскім баку лейчынай, вострай дзюбкай упусціў у тое хараство. Я аж залюбаваўся, як плуг лёгка разразаў падатную, яшчэ не ўтравелую зямлю, на якой апроч свірэпкі пракідаліся дзе-нідзе толькі лісцічкі вераб'інага шчаўя ды рыжаватыя таўкачыкі хвашчу.

Прайшоўшы так да канца загона, бацька заварочваў каня і, кіруючы яго бліжэй да ўзаранай баразны, рабіў склад. Калі склад — згорнутыя адна да адной палоскі зямлі — быў завершаны, спрактыкаваны конь ужо сам ступаў як трэба — паўз саменькую баразну, і бацьку аставалася толькі роўна трымаць плуг, праз які плаўна плыла і плыла чорная ільсністая глеба.

Заўважыўшы, якім зачараваным вокам гляджу я на ўсё гэта, бацька суняў каня і папытаў у мяне, ці хачу я паараць. Я вушам сваім не паверыў. Дзіва што хачу! Яшчэ як хачу!

Бацька паставіў мяне за плуг, сам стаў за маёй спіной, ашчаперыў тронкі плуга маімі рукамі і, не адрываючы ад іх свае шырокія далоні, сказаў мне паганяць каня. Я з ахвотаю занокаў, і конь — вось дык дзіва! — паслухаў мяне, малога, патупацеў уперад. Ды плуг адразу хістануўся ўбок і мігам выслізнуў бы з зямлі, калі б бацька, сціскаючы мае рукі, не выраўняў яго. І яшчэ не раз і не два памагаў мне бацька так утрымліваць плуг. Пачуўшы, што я сам ужо моцна трымаю яго тронкі, бацька нарэшце расслабіў далоні, а потым і зусім зняў свае рукі з маіх. Я ўсімі сіламі стараўся кіраваць плугам, пільнуючы, каб хаця ён не хістануўся ні ў адзін, ні ў другі бок. Не, я гнаў баразну роўна! Плуг адслойваў і адслойваў такую ж, як і ў бацькі, роўную паласу зямлі. Так я дайшоў за канём да канца загона. Радасці маёй не было канца: я сам узараў сваю першую баразну!

І от цяпер я разам з Казікам узорваю сваё маленькае поле трактарам. Гледзячы, як роўненька кладуцца ззаду барозны, як ільсніцца на сонцы вільготная яшчэ пасля зімы ралля, я ізноў чую такую ж радасць ад узаранага поля, як і тады, у далёкім маленстве.

* * *

Узаранае Казікам поле яшчэ трэба было давесці да ладу. Таму папрасіў у Валеры Бірука каня.

І от драўляная, з жалезнымі зубамі барана скача па маіх грудах. Ідучы збоку і моцна трымаючы ў руках лейцы, выкіроўваю каня на самыя няроўныя месцы раллі. Уедлівыя зубы цяжкай бараны лоўка распаласоўваюць, раздрабляюць кожную дзярніну. Калі ж якая зачэпліваецца і валачэцца па раллі, я прыпадымаю на хаду край бараны і адкідаю зачэпленае ўбок.

Па некалі разоў праходжваюся так з бараной па сваім полі, выгладжваючы яго ўдоўж і ўпоперак.

Як люба глядзець цяпер на яго, роўнае, пульхнае, гатовае прыняць у сваё лона новае насенне. Яно, прабаранаванае поле, — як чысты аркуш паперы, на якой «можна пісаць любыя іерогліфы».

* * *

Саджу бульбу. Ручным плужком (прыдбаў у мінскай «Гаспадыні») праводжу на мяккай раллі роўныя баразёнкі (праз 70 сантыметраў адна ад адной), кладу

ў іх бульбіны, пасыпаю попелам з грубкі, кідаю перагною і загортваю зямлёй. Усё — хай расце пад сонцам і дажджамі.

Калі вырасце, як гэта будзе здорава выкапаць і зварыць маладую бульбачку з свайго агарода! Як добра пойдзе яна з храбусткім маласольным агурком або з прыбеленым смятанкай пахкім расолам ад яго, прысыпаным здробненым зялёным кропчыкам! Ды што тут казаць: «З нашай бульбы тысячу, не меней, смажаць і гатуюць розных страў», як падлічыў Пімен Панчанка.

Мне ж асабліва помніцца, як некалі ў дзяцінстве, мы, малыя пастушкі, пяклі бульбу на агні ў гарачым прыску. Выхватваючы яе адтуль, абфуквалі з усіх бакоў, перакачваючы з далоні на далонь, а потым аскрэбвалі якой трэскай да жоўценькай скарыначкі і неслі ў рот, апякаючы губы і зубы.

Чаму б і цяпер, як прыйдзе пара капаць, не раскласці ў канцы агарода агонь і, давячыся дымком, не спячы выкапаныя бульбіны, не вярнуцца хоць на нейкі момант у далёкае маленства? Думка гэтая яшчэ больш паддае мне ахвоты садзіць сёння бульбу.

* * *

То адно, то другое не давала мне пасадзіць бульбу ўпару. Узяўся за яе, калі многія ўжо «адсеяліся».

— Ці парасце хоць яна? — пытаюся ў Алы Акуліч, якая акурат праходзіць міма.

— Усё роўна — хто ўжо сее, а хто толькі барануе: прыйдзе восень — Бог усіх прыраўнуе. Так кажуць людзі.

* * *

Свята зямлі: зацвілі яблыні, ігрушы, вішні, слівы, алыча... Кожнае дрэва — нібы нявеста ў чыстабелым вясельным убранні. Ды можна сказаць тут і без «нібы». Гэта ж і праўда нявесты, што прываблiваюць сваёй красой жаніхоў. Іхныя жаданыя жаніхі, ведама ж — пчолы ды чмялі. Жаніхі-апыляльнікі. І яны не забавіліся, адразу ж прыляцелі на іх кліч, на шлюб, якога таксама чакалі. Апыляць-апладняць кожную раскрытую ім насустрач кветачку, кожнае суквецце. З раніцы да вечара над расквечанымі дрэвамі — несціханы пчаліны гуд. Шчаслівая музыка апладнення, абнаўлення жыцця на зямлі.

* * *

За плотам, на былой сядзібе майго дзеда Сымона, густа разросся здзічэлы сліўнік уперамешку з бэзам і высознымі акацыямі. Гэты праўдзівы зялёны гаёк аблюбавалі салаўі. Цяпер, калі ўсё зацвіло, яны аж заходзяцца ў сваіх спевах. І дзень, і ноч не сціхаюць тут, пад маімі вокнамі, іх пералівістыя трэлі.

Я засынаю і сплю пад гэтыя трэлі. Дзіўна: хоць ад іх часцяком аж у вушах закладае, але гэта зусім не перашкаджае майму сну. Наадварот, закалыханы дзівоснымі руладамі, я сплю як нідзе лепш. Салаўі як бы навейваюць маёй галаве: спі спакойна, ты дома, сярод пракаветнай прыроды.

* * *

Першы раз убачыў, як спявае салавей. Сядзеў ён на галінцы густога сліўніку за маім плотам. Як віртуозна перабіраў ён двума палавінкамі сваёй паднятай уверх дзюбкі, з якой так і ляцелі звонкія мілагучныя трэлі. У такт гэтым трэлям прыўзляталі-патрэсваліся яго шэрыя крылцы, хадзіў уверх-уніз хвасток, падрыгвала ўсё птушынае цельца. Салавей цалкам аддаваўся песні. Ці не таму такая яна чароўная, так лагодзіць слых? Мо з яго трэба б браць прыклад і нашым песнярам-паэтам?

* * *

Дзівосы ў нябёсах! З раніцы хораша свяціла яркае майскае сонца. А пад паўдня, зусім не засланяючы яго, у самым зеніце яснага неба невядома адкуль (можа, з яго глыбіні) усплыла невялікая шэрая хмурына, і з яе нечакана сыпнуў дождж — рэдкія, але буйныя яго кроплі, навылёт прасвечаныя сонцам, проста пырскалі ва ўсе бакі адначасова срэбрам і золатам. Праўдзівыя «дыяменты-росы!»

* * *

На сваёй вулічнай лавачцы сядзіць Вікця з катом на каленях. Падсеў да суседкі і я. Вікця гладзіць ката, праводзячы даланёй па галаве і спінцы, і той аж вочы прымружвае ад шчасця.

— Тая баба хутарская каго хочаш прыласкае, — нібы апраўдваецца перада мной Вікця за сваю чуллівасць чарговай прымаўкай.

* * *

Іншаму пісьменніку спатрэбілася б, мусіць, нямала слоў, каб апісаць сённяшняе спякотнае, з сухім надакучлівым ветрам надвор'е. Вікця ж абышлася толькі адным: сухаветрыца. Прытым уклала ў гэтае слова і свой эмацыянальны змест:

— І калі яна кончыцца, гэтая сухаветрыца?

* * *

Прынёс з лесу «здабычу» — кляшча. Агледзеў яго не адразу. На сцягне, вышэй калена. Узяўся вырываць, ды дзе там: упіўся грунтоўна, залез пад скуру з галавой. Толькі задок выставіў: глядзіце!

Раней, колькі помню, у нас пра кляшчоў і чуць не чулі, і бачыць не бачылі. Паявіліся яны толькі апошнімі гадамі. І наўрад ці хто з імі не пазнаўся. Газеты не перастаюць палохаць усякімі энцэфалітамі, якія яны пераносяць. Цікава, хто надзяліў нашы лясы такой трасцай?

Не даўшы «свайму» кляшчу рады, клічу на падмогу маіх сваячак і суседак, якія назапасілі ўжо вопыт пазбаўляцца ад гэтых крывасмокаў. Ды як ні цягнулі яго мае «дактары», як ні раскачвалі, накінуўшы нітку на выстаўленае брушка, як ні выколвалі іголкамі, галава так і асталася ў сцягне. Так што хаджу цяпер з ёй, з кляшчовай галавой у сцягне, прыслухоўваючыся, што яна будзе там рабіць, чым сябе праявіць. У кожным разе яна становіцца (стала ўжо) часцінкай майго цела, часцінкай мяне самога! І от з такім адчуваннем трэба жыць.

А кляшчы бываюць усякія. І яны непакояць мяне:

Упіўся клешч, як гад,
Аж надта цвёрда ў цела:
Ні ўперад, ні назад —
П'е вашу кроў злюцела.
Прыджгалі дактары:
А ён — ледзь бачыць вока —
Нагамі дагары
У скуры ўжо глыбока.
Як быць? І што рабіць
Тут з крывасмокам гэтым?
Яго не падчапіць
Ні кіпцем, ні пінцэтам.
Не зналі, што за звер?
Праморгалі, як ціха
Вам, хіжы, за каўнер
Прабраўся ён на ліха?
Не думалі тады,

Што ўссядзе так на целе?
Ці мо — такой бяды —
Зусім не разглядзелі,
Якога напавер
Прыгрэлі раскіраку?
І от усе цяпер
Яму глядзім у с...ку!

* * *

Сёння — Ушэсце. Весела свеціць сонца. Яно ўсюды: на дахах і сценах хат, на дошчачках штыкетнікаў, на белаватым пяску вуліцы.

Міма майго двара праходзяць з букетамі агняных цюльпанаў, з жоўта-белымі нарцысамі і шышастым ліловым бэзам у руках канцавыя жанчыны: Манька Івана Цвіркі (Сцепанца), Бардзіна Стэфка, Ала Акуліч. Ага — на могілкі. Такі ў нас звычай: не толькі на Радаўніцу, але і кожным значным святам наведацца да сваіх родных, што там спачываюць, яшчэ раз пастаяць каля іх вечнага прытулку, пагаманіць з імі душою.

* * *

Папаўдні захмарыла, прашумеў дождж. Часты, спорны. На вуліцы заблішчалі лужыны. Калі хмара адплыла далей, на ўсход, чую, зашлэпала каля варот сваімі прасторнымі галошамі Вікця.

— Ці не лішні ўжо гэты дождж? — пытаюся, падышоўшы.

— Чаму ж ён лішні? Не лішні! Некалі казалі: калі на Ушэсце дождж, трэба прыбіваць у засеку яшчэ адну дошку...

* * *

Ясеў Ванька (так завуць і цяпер Івана Дубовіка, хоць яму ўжо за семдзесят) узяўся спраўджваць задуму старэйшага брата Вадзіма пра ўшанаванне роднага селішча. Прывёз з бульдазерыстам і скінуў там цэлы коўш жоўтага пяску. Меркавалася рассыпаць яго на месцы хаты, паставіць там нейкі памятны знак з выбітымі іменамі бацькоў і дзяцей і каля яго зладзіць лавачку: пасядзець на ёй, прыехаўшы, і ўспомніць былое.

Ды нечакана запратэставала Вікціна дачка Таіса: гэта ж напроці іхнай хаты, за вуліцай, перад самымі вокнамі, было Ясева селішча.

— Нашто ж нам кожны дзень глядзець на гэты могільнік?

«Вучоная» задума Вадзіма Іванавіча Дубовіка, кандыдата філасофскіх навук, шматгадовага выкладчыка факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, асталася нерэалізаванай.

Самым лепшым помнікам была б тут, вядома, сама хата. Ды хату па адыходзе ў іншы свет бацькоў дзеці паспяшалі некаму прадаць на вываз.

Вельмі шкадаваў бацькавай хаты сярэдні Ясеў сын Толя, які ўсё жыццё прарабіў у Мінску шафёрам у нейкіх арганізацыях. Ён так хацеў вярнуцца ў сваю Зялёную Дуброву, ды не было ўжо куды.

Не менш бедаваў па сваёй бацькаўшчыне і Ванька. Гэтаму хоць удалося прыдбаць у Зялёнай Дуброве хату Антося, сына Янкі Рымашэўскага. Цяпер ён тут — летам і зімой.

Я падаў быў Вадзіму Іванавічу думку ўзнавіць тут бацькоўскі калодзеж. Гэта ж быў ці не адзіны ва ўсёй вёсцы калодзеж, у якім заўсёды было поўна вады. Бывалі выпадкі, калі невядома з якіх прычын зімою мялелі калодзежы, прападала вада. Уся вёска ішла тады браць ваду ў Яся Дубовіка. Бо ў яго калодзежы пульсавала крыніца. Ванька па сёння помніць, як яна там «аж булькала». Значыць, вады ў калодзежы не толькі заўсёды было поўна, але і была яна ідэальна чыстая. Калі

забралі хату, нічыйны ўжо, недагледжаны Ясеў калодзеж паступова абваліўся, засыпаўся. Сёння на яго месцы асталася толькі ледзь прыкметная ямка.

Маю ідэю Вадзім Іванавіч падтрымаў. Ён згадзіўся і аплаціць аднаўленне роднага калодзежа (ён жа, ветэран вайны, жыве адзін у Мінску, грошы мае). Астаецца толькі ўзяцца за гэта. Ды Ваньку хапае клопату і каля сваёй хаты.

А калі падумаць, які б гэта быў помнік бацькоўскаму дворышчу: вызваленая з зямлі крыніца, якая б вечна тут пульсавала. Праўдзівы сімвал жыцця!

* * *

Першы раз зацвілі перад маімі вокнамі пры дваровай дарожцы сінія касачы. Я перанёс іх сюды залетась з-за плота, адтуль, дзе некалі быў кветнік маёй бабкі Сымоніхі, бацькавай мацеры. Цікава: мінулася ўжо больш за паўвека, як яна са сваімі дочкамі і ўнукамі пераехала разам з хатай у Суцін, назаўсёды пакінуўшы сваё селішча, а от касачы не звяліся, выжылі — кожны год прабіваюцца неяк праз густую траву, праз быльнёг. Зрэшты, няма чаго тут дзівіцца: унь якое магутнае ў іх карэнішча.

Цяпер я гляджу на гэтыя шляхетныя, багатай аксамітнай сінізны кветкі і ўспамінаю сваю добрую бабуню — Гэлю Дарэўшчанку. Цяпер яна заўсёды будзе са мной.

* * *

Падышоў Янін сын Сяргей з ручной бензакасілкай: падручыўся, хоць я і не прасіў, ачысціць ад травы мой падворак. Я аж залюбаваўся, як акуратна выстругвае ўсё падчыстую гэтая лоўкая, кімсьці разумным прыдуманая штука.

Але ў садзе, між старымі ігрушамі-дзічкамі, роўную мурожную траву скошваць я ўсё ж не даў пляменніку. Бо настроіўся сам прайсціся тут з маёй традыцыйнай касой.

Для мяне касьба — уцеха. Гэта ж так люба падысці сюды ранічкай, да сонца, калі самая раса, і, размахнуўшыся, пусціць сваю навостраную бруском касу ў гусценькі, з белымі галоўкамі дзятлавіны, травастой ды, нізенька падцінаючы, з кожным узмахам адслойваць яго наўкруга і адкідваць убок, убок — у роўныя, з расянымі бліскамі пракосы.

Запомніўся мне верш Роберта Фроста, амерыканскага паэта-фермера, «Бадзяжніцтва двух у бездараж» у перакладзе Язэпа Семяжона. Калі гаспадар калоў на сваім падворку дровы, да яго падышлі два дужыя хлопцы і папрасіліся наняць іх на гэтую работу. Ды радасць колкі дроў гаспадар не захацеў аддаваць падарожным.

Цэлячы ў стрыжань сырой круглавіны,
Б'ю ў асяродак, бо я ж не сляпы,
Гахнеш — і плашка на дзве палавіны
Так і разваліцца ўраз без шчапы...

* * *

Сёння — Тройца. Зялёныя святкі. Учора звечара схадзіў у лес і паўтыкаў паўз дваровую дарожку ў гонар свята маладзенькіх бярозак з гушчарніку і галінак клёну. Так рабіла некалі ў нас дома маці. «Схадзі ў лес, наламай маю», — казала мне яна.

«Май», «умаіць» — звычайныя ў нас словы. Май — ранняя зеляніна, умаіць — упрыгожыць двор, дарожкі.

Што ж да назвы месяца, то гэта пытанне спрэчнае. Слова «травень» як назва месяца мне сустракалася ў старадруках. Але «май» таксама даўно прыжыўся ў нашай мове. На якім жа тэрміне спыніцца? Можа, хай жыве і кружыць па Беларусі і той, і той?

*(Працяг будзе)*

Анатоль Трафімчык



...1926 год аказаўся апошнім выразна антысавецкім годам Янкі Купалы...

# "Раз абсеклі Беларуса Маскалі ды Ляхі..."

***Падзел Беларусі 1921 г. у паэтычным асэнсаванні Янкі Купалы***

18 сакавіка 1921 г. бальшавіцкая Расія і панская Польшча падпісалі мірны дагавор, падзяліўшы Беларусь на часткі. Сучасны беларускі гісторык Р. Лазько зазначыў, што на працягу 70 гадоў гісторыкі, якія пісалі аб польска-савецкай вайне, былі няздольныя выказаць смелую думку, "што на мірных перагаворах у Рызе, якімі завяршылася польска-савецкая вайна 1919-1920 гг., Беларусь была падзелена аднолькава чужымі ёй суседнімі дзяржавамі. Заўважым, што тэма падзелу Беларусі "чужаніцамі" была самай гучнай у беларускай грамадзянскай паэзіі 1920-х гг. Аднак з канца таго дзесяцігоддзя пісаць аб падзеле стала небяспечна як для паэтаў, так і для навукоўцаў. На працягу дзясяткаў гадоў пасля гэтага гісторыкі гаварылі выключна аб захопе Заходняй Беларусі "буржуазна-памешчыцкай" Польшчай"[1]. Са свайго боку адзначым, што ў агульных рысах Р. Лазько мае рацыю. Але тэма савецка-польскага падзелу ў беларускай паэзіі – шырокая, шматслойная, шма-

таблічная – застаецца па-ранейшаму слаба даследаванай, нягледзячы на багацце, разнастайнасць і неадназначнасць матэрыялаў. Нават пазіцыя Янкі Купалы дасканала не вывучаная, хаця, як паказала даследаванне, тэма падзелу Беларусі ў паэзіі Прарока мае глыбокі генэзіс і неардынарнае развіццё.

Найбольш канцэптуальна да раскрыцця гэтай тэмы падышоў у сваіх даследаваннях Ант. Адамовіч. Аднак і ў яго навуковых працах яна фігуруе толькі фрагментамі, і тыя фрагменты не складзеныя ў цэласную работу пра адносіны беларускіх паэтаў да падзелу Беларусі ў 1921 г. Да таго ж, эміграцкі крытык з прычыны, па-першае, недаступнасці многіх неабходных матэрыялаў, а па-другое, тэндэнцыйнасці і суб’ектыўнасці, абумоўленых нянавісцю да бальшавізму, нярэдка рабіў перакосы ў інтэрпрэтацыі сацыяльна-палітычных аспектаў ці дадумваў іх на ўзроўні гіпотэзаў, не заўсёды цвёрда абгрунтаваных. Некаторыя роздумы пра вершаваныя рэфлексіі беларускіх паэтаў на тэму падзелу краіны знаходзім таксама ў працах Н. Гілевіча, А. Каўкі, У. Гніламёдава. Звяртала ўвагу на гэты аспект у паэтычнай творчасці сацыялагізатарская крытыка 1930-х гг. Для аўтара гэтых радкоў азначаная тэма аказалася больш маштабнай, чым спярша ўяўлялася (саміх вершаў па тэме ў Янкі Купалы пры ўважлівым вывучэнні аказалася значна больш).

## Прадчуванні паэта да пачатку Першай сусветнай вайны: Прарок

У беларускай літаратуры Янку Купалу небеспадстаўна называюць нацыянальным Прарокам. Абапіраючыся на вопыт гістарычнага развіцця беларускага народа, ён яшчэ да Першай сусветнай вайны, якая надала імклівасці нацыянальным рухам, у прадчуванні, што чакае яго няспелую нацыю, выказваўся – пэўна, ёмка і часам жорстка:

Рынкам жывога тавару няслава
Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой,
Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава
Торг груганровы вядуць між сабой.
*(“Над Нёманам”, 1911) [Т. 3, с.14]* [2]

Просім папросту: кіньце нас мучыць,
Ляхі, маскалі!
*(«Папросту», 1912) [Т. 3, с.64]*

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Усе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі б да дна.

Вашу карысць нам і вашы паслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ;
Добра вядомы і путы, і пугі,
Песціў якімі ваш Захад і Ўсход.
*(“Годзе...”, 1912) [Т. 3, с.82]*

“Агульна кажучы, праблема “Усходу і “Захаду” – пастаянны і адзін з вядучых матываў гісторыка-філасофскай рэфлексіі, мастацкай фантазіі паэта, прыкметная тыпалагічная рыса Купалавай адраджэнцкай легенды, Купалавага вызваленчага нацыяналізму, што пасля доўгіх гадоў маны і знявагі, праз уз’юшаны супраціў далакопаў беларушчыны ўсё ж зноў прамаўляе да слыху і сумлення беларускага чалавека. З гледзішча той жа самай праблемы асэнсоўваецца ім гістарычны, пераважна драматычны шлях краіны, абумоўлены ў

многім яе прамежкавым геацывілізацыйным становішчам, канкрэтна — паміж “праваслаўнай” Расіяй і “каталіцкай” Польшчай, у проціборстве і ўзаемадзеянні з якімі Беларусь на працягу стагоддзяў мусіла бараніць сваю этнакультурную індывідуальнасць, уласнае права на суб’ектна дзейсную ролю ў гістарычным працэсе”, – піша А. Каўка[3]. Прычым той факт, што паэт уздымае тэму каланізацыі сваёй айчыны напярэдадні бурхлівых часоў, калі тая каланізацыя ўзмацніцца, яскрава сведчыць менавіта пра прароцкасць генія. Самыя першыя гады яго ліра наконт “захаду і ўсходу” маўчала. Пракідаліся толькі не заўсёды празрыстыя намёкі накшталт:

Адны ў шар курганы –
Сведкі бітваў – стаяць;
Косці к ім груганы
Прылятаюць збіраць.
*(“Над сваёй Айчызнай”, 28.08.1906) [Т. 1, с.90]*

Хіба ўпершыню ліра Янкі Купалы загаварыла пра дзяльбу Беларусі ў вершы “Беларушчына” (1908), але пакуль без называння “пайшчыкаў”:

Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая...
<...>
І круцілі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад...
<...>
І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі... [Т. 2, с.34]

Але ўжо ў 1911 г. з’яўляюцца “людзі з Усходу” і “з Захаду людзі” – яшчэ без ацэначнай канатацыі (“Як спытаюцца нас”) [Т. 3, с.46].

Спакваля тэма не толькі эвалюцыянавала, але і канкрэтней акрэслілася (нават вобразы тых жа груганоў сталі больш контурнымі, іх інтэнцыйная функцыянальнасць больш рацыянальная, а сімвалізм больш чытэльным): 1) паэт загаварыў непасрэдна пра падзел, 2) назваў “хаўруснікаў” дзеі:

Спрачаліся доўга,
Як край наш раскрасці,
Дый спеліся ўрэшце:
Парваць на дзве часці.

Адна часць Варшаве
Лізаць ногі будзе,
Маскве хай другая
Нясе свае грудзі.

Забыліся толькі,
Хаўруснікі ночы,
Спытаць беларуса,
Чым сам ён быць хоча?
*(“Хаўруснікам”, 19.10.1913) [Т. 3, с.177]*

Як бачна, Янка Купала тут надзвычай дакладна прадказаў галоўныя моманты савецка-польскага падзелу Беларусі.

У іншых вершах дзеля экспрэсіі паэт не грэбуе і грубымі найменнямі заходняга і ўсходняга суседзяў (у дадатак назавём “прыблуднікаў” – верш “Не для вас...” (1911 – 1912), “непрыяцеля-брата” – “Беларушчына” (1908), “чужынцаў” – “Казка аб песні” (1913)):

Раз абсеклі Беларуса
Маскалі ды Ляхі
І давай яму сваяцтва
Тыкаці пад пахі:
- Ты мой ісціны браточак! –
Маскалёк бармоча;
- Ты мой хрэснік, мой сыночак! –
Юда-Лях сакоча.
(“Сваякі”, 1914) [Т. 3, с.219]

Сярод раз’юшаных сатрапаў,
Паганы зладзіўшы хаўрус,
Свае таргуюць і чужыя
Табой, няшчасны беларус.
<...>
Над пакаленнем неакрэпшым,
Над бедным краем-сіратой
Груган з начніцаю сляпою
Банкет спраўляюць чорны свой.
*(“Сярод раз’юшаных сатрапаў...”, 10.06.1914) [Т. 3, с.208]*

А. Каўка кажа пра “дзёрзкі, не пазбаўлены пэўнага эпатажу паэтычны выклік сумежным краінам Беларусі”, які “паўстае ў якасці своеасаблівага мастацкага сінтэзу адносна ролі “Захаду” і “Усходу”, а дакладней — фактычных наступстваў панавання ў краі іншаземшчыны, пры якім сістэма культурнага ўзаемадзеяння падмяняецца і падмінаецца сістэмай ушчамлення і выцяснення культуры карэннай, беларускай, палітыкай асіміляцыйнага абалваньвання абарыгенаў” . Канечне, Янка Купала абапіраўся на досвед стасункаў беларусаў і названых суседзяў. Але працытаваныя апошнімі яго радкі нездарма прагучалі менавіта ў 1914 г. – годзе, што прынёс вайну, якая разварушыла нават малыя народы, зрабіла значнымі нават палітычна субтыльныя і неаформленыя нацыі: неўзабаве абодва суседы ледзь не паўтарылі следам за беларускім класікам словы пра сваяцтва, прычым менавіта ў прадказаным Пракорам рэчышчы. Так, Я. Пілсудскі 22 красавіка 1919 г. выступіў са зваротам “Да жыхароў былога Вялікага Літоўскага княства”, у якім гаварылася: “Польскае войска, якое я прывёў з сабою, каб знішчыць панаванне гвалту і здзеку, каб скасаваць кіраўніцтва краінай супроць волі народу, – войска нясе Вам усім свабоду і волю. Хачу даць магчымасць вырашыць Вам нацыянальныя, унутраныя і рэлігійныя справы так, як пажадаеце самі, без якога-небудзь гвалту або прымусу з боку Польшчы”[5]. А бальшавікі, не справіўшыся з планаванай задачай паглынуць, нівеляваць беларускі рух, вымушаны былі прызнаць яго, пагадзіўшыся з прыдуманай самімі ж расіянамі тэзай пра іх старшабрацкасць стасоўна беларусаў і ўкраінцаў.

У некаторых вершах Янкі Купалы пераважае вобразнасць, таму і суседзі ў вачах паэта не ўпершыню паўстаюць сімвалічна змрочнымі птушкамі:

Адзін з захаду груган,
А другі з усходу
Прыляцелі на сяло,
На чужую шкоду.
*(“Груганы”, 1914) [Т. 3, с.220]*[6]

А. Каўка прыводзіць прыклад, як Янка Купала спалучаў у палеміцы з «ворагамі беларушчыны» мастацкі вобраз і дакладна адраснае слова публіцыста, указваючы на паказальны ў гэтых адносінах артыкул «А ўсё ж такі мы жывём», змешчаны ў «Нашай Ніве» 10 ліпеня 1914 г.: «І вось між гэтымі двума «культурнымі» народамі ідзе ганебны торг – над няшчасным, абняволеным беларусам.

Забываюцца і братняя міласьць, і суседская згода, і роўная воля. (...) Душылі палякі, сягоньня душаць і польскія, і расейскія нацыяналісты, ведучы між сабой нікчэмны спор за славянскую душу беларуса, але ўсё гэта мела і будзе мець свой канец. <...> Не будзе нам страшны гэты паганы над намі торг нашых нязваных і насланых апекуноў»[7].

Варта пагадзіцца з А. Каўкам, што галоўная рыса Купалавай адметнасці ў многім застаецца для нас загадкай: “Маючы прад усім на ўвеце празарлівасьць Купалавай думкі, сэнсавую невычэрпнасьць яго мастацкіх вобразаў, палемічна-публіцыстычных роздумаў. Ва ўмовах дасьпяваньня нацыянальнае ідэі беларусаў, канчатковага ўтрываленьня іхняе дзяржавы, не пазбаўленых валюнтарыстычнага глуму на гэтым адвечным шляху, Купалава слова гучыць вельмі надзённа. У ім ня толькі паказаныя пэўныя беларускія рэаліі з мінулага, але і прадказаны многія горкія парадоксы ў нацыянальна-грамадзянскім узмужненьні народу”[8].

Пасіянарная прароцкасць Янкі Купалы адносна скорага падзелу яго роднай краіны паміж адвечнымі супернікамі на яе зямлі праявілася яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны, а праз некалькі гадоў пачала пацвярджацца.

## “Ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква”

Першая сусветнай вайна прыйшла на Беларусь толькі праз год пасля пачатку – летам 1915 г. Лінія фронту падзяліла “Северо-западный край”, прырэзаўшы яго заходнюю частку нямецкім акупантам. Апошнія, аднак, не сталі аб’ектам такой пільнай паэтычнай увагі беларускіх творцаў, як спрадвечныя суседзі з усходу і захаду. А тым часам, да Янкі Купалы ў распрацоўцы азначанай намі тэмы далучыўся яшчэ шэраг паэтаў: Змітрок Бядуля, Якуб Колас, Казімір Сваяк, І. Дварчанін і інш., каму ўслед за прарокам таксама адкрылася блізкая перспектыва падзелу роднай краіны.

Тым не менш трэба канстатаваць, што без голасу Янкі Купалы тэма падзелу, раздзірання беларускай зямлі гучала б у паэтычным хоры слабей. Чарговая ваенная хваля, якая пракацілася па Беларусі ў выглядзе ўжо непасрэдна савецка-польскага супрацьстаяння, натуральным чынам каталізавала ў публіцыстычнай паэзіі і тэму падзелу беларускай зямлі больш моцнымі суседзямі. У авангардзе стаяў ізноў-такі Янка Купала, які нібыта выйшаў з зацягнутага самнамбулічнага стану. Па-ранейшаму трохі апераджаючы падзеі, калі савецка-польскае змаганне на Беларусі яшчэ не набыло вастрыні, але і нямецкая акупацыя падыходзіла да завяршэння, а БНР так і не здолела замацавацца, ён піша:

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь свежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-Бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часці, на кускі.
<...>
Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!
*(“Сваймy народу”, 29.10.1918) [Т. 4, с.30]*

У вершы – увесь Купала: “уваскрашае мінуўшчыну” свайго народа, і “выказвае цяпершчыну”, акрэслівае межы Бацькаўшчыны і падкрэслівае яе гонар, абуджаючы яго ў калектыўнай памяці, урэшце палымяна заклікае свой народ “строіць” “для будучыны шчасце”, “каб пут не строіў больш сусед” [Т. 4, с.29-31].

Канечне, аднаго такога закліку, нягледзячы на яго сілу, было замала для абуджэння. Таму паэт не спыняецца: амаль кожны верш таго кароткага часавага прамежку так ці інакш паглыбляе і пашырае вызначаную ідэйна-тэматычную парадыгму, у рамках якой праблема падзелу, раздзірання беларускай зямлі і супрацьстаяння гэтай нацыянальнай трагедыі гучыць як адна з канцэптуальнейшых, атрымліваючы розныя сэнсавыя і пачуццёвыя інтэпрэтацыі:

Чужы і свой хлеб станавіцца жорсткім комам
І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам
Варшава панская і царская Масква.
*(“Наша гаспадарка”, 1918) [Т. 4, с.35]*
Ідзеш у край, які бязбожна
Жыўцом парэзалі на часці,
А брат проць брата стаў варожна
І памагае край раскрасці.
*(Новы год, 1919) [Т. 4, с.76]*

Савецкая сацыялагізатарская крытыка ў пазнейшыя часы таксама заўважыла, што «матыў “парэзанай бацькаўшчыны” паўтараецца і ў вершах “На сход”, і ў некаторых іншых. <...> Паэт і на гэтым этапе, як і ў сваіх старых вершах, выступае супроць “чужынцаў” наогул, не аддзяляючы ворагаў працоўных масс Беларусі ад іх саюзнікаў. “Чужынцы суседзі” наогул, без дыферэнцыяцыі – вось хто, па ўяўленні паэта, вораг беларускага народа, яны збіраюць мёд з яго вулляў, яны “запрэглі” яго ў няволю. Паэт упарта не хоча прызнаць, што царская Масква ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі адышла ў мінулае, што пралетарская савецкая Масква нічога агульнага не мае з царскай Масквой. Ён... у сваіх вершах імкнецца паказаць, што ў Расіі і ў выніку соцыялістычнай рэвалюцыі нічога не змянілася, што засталася царская Масква – прыгнятальнік і душыцель нацыянальнасцей»[9].

У сваіх паэтычных творах Купала таксама кажа пра чужака, які “ў нашым краі пануе” (“На нашым...”, 1919), чужынца (“Беларускія сыны”, 1919), разбойнага чужаніцу (“Свайму народу”, 1918), ворагаў (“Габруся ў жаўнерку ўзялі...”, 1919), чужых бадзяк (“Паўстань...”, 1919), суседа паганага (“Як цені..., 1918), паганцаў, суседзяў, якія “нябожна паганьбілі нас” (“На біблейныя матывы”, 1920), груганоў, якія “тваіх там продкаў косці рвуць” (“На сход!”, 1918) [Т. 4, с.67, 58, 30, 82, 66, 49, 91, 31] і г.д. – бадай, ніхто і блізка з паэтаў тагачасся не даваў столькі пеяратыўных найменняў усходняму і заходняму суседзям Беларусі, як Янка Купала (гл. таксама вышэй). У якасці прамежкавага падагульнення тэмы паэт публікуе цыкл сваіх вершаў пад загалоўкам “Забраны край” (у часопісе “Чырвоны шлях” (№7-8 1918 г.), які выдаваўся ў Петраградзе Беларускім аддзелам Камісарыята па справах нацыянальнасцей)[10].

Разумеючы, што якраз надышоў той час, які ім прадказваўся гадоў колькі таму, паэт спрабуе прадухіліць драматычную падзею раз’яднання народа і пачынае выступаць у публіцыстычным жанры, даступным успрыманню больш шырокаму колу паспалітага люда. Каб не адхіляцца ад лініі аналізу паэтычных твораў, прывядзём толькі найбольш яскравы ўрывак Купалавай публіцыстыкі, датаваны 1919-м годам, калі да падзелу Беларусі заставалася не так і мала часу, каб настолькі тонка прадбачыць гэтую падзею: “Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.

Для адбудавання вялікай Польшчы “ад мора да мора” трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.

Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання" ("Незалежнасць") [Т. 8, с.76].

Болем непапраўнай страты занатавалася ў Купалавым сэрцы старонка БНР, двухгадовую гадавіну абвяшчэння незалежнасці якой паэт сустракае вершам з паказальнай назвай – "25.III.1918 – 25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі". Прычына – усё тая ж:

За катам кат на нашы гоні
Прыходзіў, грабіў, знішчажаў...
<...>
Край разрываны ўвесь на часці –
Народ аграблены яго... [Т. 4, с.78]

«Становішча працоўных мас Беларусі на савецкіх землях ён (Янка Купала – *А. Т.*) паказвае такім-жа, як і на землях, акупаваных белапалякамі. І яго жалобная канстатацыя факта, што замест "незалежнасці" – "падняволле", не вядзе паэта да разрыву з прадажнымі халуямі польскага імперыялізма – беларускімі нацыяналістамі, да вызвалення ад фальшывай, хімернай ідэі Бенеероўскай "незалежнасці"»[11], – напісаў у сваім артыкуле-інвектыве сацыялагізатар Л. Бэндэ – і меў рацыю. Сучасны даследчык У. Гніламёдаў блізкай думкі: паэт "асуджае і савецкую, і польскую акупацыю, не шкадуючы фарбаў для праўдзівага паказу карціны нацыянальнай трагедыі"[12]. І. Навуменка заўважае, што і пераклад "Слова аб палку Ігаравым"[13] (спачатку празаічны, а затым і паэтычны) Янка Купала стварае "у цяжкую часіну, калі беларускую зямлю рвалі на кавалкі розныя захопнікі і акупанты"[14].

А. Каўка прыходзіць да высновы, што сутнасць і пафас Купалавай думкі ў яе мастацка-вобразнай праяве зводзіцца да наступнага: "Успрыманне "Усходу" і "Заходу", вузей – суседніх Расеі і Польшчы дэтэрмінавана характарам і наступствамі іх уздзеяння на жыццёвыя лёсы Беларусі і Беларушчыны, уздзеяння ў агульным і гістарычным балансе адмоўнага, з неаблічальнымі стратамі для беларускага нацыянальнага будаўніцтва"[15].

Ант. Адамовіч, правёўшы аналіз на досыць шырокім матэрыяле, сцвярджае, "што ўся беларуская літаратура 1919 – 1920 гадоў – пасьлядоўнае выражэньне нацыянальнай апазыцыі чужому панаваньню, апазыцыі, што кіравалася цьвёрда засвоеным усім беларускім рухам прынцыпам нацыянальнай незалежнасьці Беларусі. Дзякуючы гэтаму прынцыпу канкрэтныя формы чужога панаваньня мелі ўжо толькі другараднае значэньне. У выніку гэтага апазыцыя аказалася скіраванай ня толькі супраць бальшавізму – такой яна была спачатку – і ня толькі супраць польскай акупацыі – такой яна аказалася неўзабаве ў сваёй беспасярэдняй скіраванасьці, – а супраць усялякага чужога панаваньня над Беларусьсю наагул"[16].

Прадухіліць незайздросны кон беларускі народ не меў сілы. Магутны творчы патэнцыял (перадусім Янкі Купалы), скіраваны супраць драблення Бацькаўшчыны, супраць яе непрыяцеляў, не стаў лёсавызначальным. Эманацыі паэтычнага духу не адбылося.

## Сацыяльна-палітычны кантэкст пасля падзелу

18 сакавіка 1921 г. у Рызе бальшавіцкая Расія і панская Польшча "закадыфікавалі" тое, што фактычна ўжо адбывалася дзесяцігоддзямі, калі не сказаць стагоддзямі, а ў Першую сусветную толькі напалілася: яны замацавалі дамовай падзел Беларусі.

Такі марадзёрскі ўчынак выклікаў абурэнне стасоўна абедзвюх дзяржаў у беларускіх паэтаў. Многія сказалі сваё слова пра той трагічны момант нашай гісторыі. У іх вершах асуджаюцца абедзве драпежніцкія дзяржавы. Аднак за савецкім часам беларускі народ вучылі, што гэта Польшча вінаватая ў падзеле Беларусі, якую нібыта хацела абараніць Савецкая Расія. Ніхто не аналізаваў, чаму ж паэты апошнюю таксама асудзілі. Больш за тое, такія творы траплялі пад забарону. Між тым, цяжка сказаць, хто з "пайшчыкаў" выглядаў больш ці менш сімпатычна або больш ці менш пяратаўна. І калі на гэты конт пра ІІ Рэч Паспалітую наша гістарыяграфія назапасіла шмат матэрыялаў, то роля Савецкай Расіі ў беларускім дыскурсе дагэтуль выкрываецца ў адзінкавых публікацыях[17]. Хаця паэты з першых дзён падзелу Беларусі голасна выказалі свой пратэст і канкрэтызавалі вобраз абодвух, кажучы па-купалаўску, "хаўруснікаў".

Далі шэсць паветаў.
Дзякуй і за гэта![18] –

рэзюмаваў Купала... Дарэчы, гэтыя словы доўгі час не былі апублікаваны афіцыйна – яны, застаўшыся ў людской памяці, час ад часу ўжываюцца беларускімі гісторыкамі і літаратарамі.

Між тым, палітычныя падзеі вакол і на Беларусі (Савецкай) адбываліся такія, што давалі падставу для аптымістычных заглядванняў у будучыню. У першай палове 1920-х гг. савецкая ўлада бярэ курс на беларусізацыю. Дзякуючы нэпу імкліва аднаўляецца эканоміка. Беларускае сялянства, дагэтуль рабаванае з розных бакоў прыхаднямі, урэшце адчула значную палёгку. І калі яшчэ адразу пасля падзелу беларускія паэты выказваліся вельмі востра супраць брутальнага стасоўна Беларусі акта, то паціху тая вастрыня патухае. Паказальным прыкладам з'яўляецца Коласава творчасць. У адрозненне ад Янкі Купалы, паэта метафізічных і правідэнцыялісцкіх тэндэнцый, Якуб Колас творчасцю ў асноўным адлюстроўваў хранатоп "тут і цяпер", не ставячы свайго лірычнага героя "перад будучыняй".

Падсаладзіла гаркоту ад падзелу так званае ўзбуйненне. Досвед гістарыяграфіі сведчыць, што і да сённяшняга часу многія не ведаюць рашаючых чыннікаў павелічэння Савецкае Беларусі ў сярэдзіне 1920-х гг. У канцы 1920 г. бальшавікі зусім не збіраліся "ўзбуйняць" Беларусь з-за адсутнасці сэнсу[19]. Народны камісарыят замежных спраў РСФСР, як паведамляецца ў яго цыдулцы ад 6 лістапада 1920 г., лічыў "нежаданым далучэнне да Беларусі якіх бы там ні было частак Віцебскай або Магілёўскай губерняў"[20]. 17 лістапада 1920 г. кіраўніцтва Расійскае кампартыі на нарадзе адзначала, што вырашэнне пытання пра тэрыторыю Савецкае Беларусі на дадзены момант з'яўляецца нясвоечасовым, бо, як напярэдадні заявіў наркам замежных спраў Р. Чычэрын, было яшчэ невядома, "праз якія перыпетыі можа прайсці лёс Беларусі"[21]. Па гэтым можна справядліва меркаваць, што планы так званага ўзбуйнення Савецкае Беларусі існавалі ўжо на той час. Сітуацыя на міжнароднай арэне змянялася. Як было сказана ў пункце 3-м сакрэтнага дакумента "В комиссию политбюро ЦК ВКП(б) по вопросу о расширении границ БССР", "основной решающий аргумент за расширение границ БССР – в ближайшее время – определяется политикой Польши": меліся звесткі, што там збіраліся правесці шэраг рэформаў адносна нацыянальных меншасцяў, у тым ліку беларусаў[22]. І ў сувязі з гэтым Крамлю неабходна было прэвентыўна прымаць крокі ў сваю чаргу, і – як паказаў час – "вяртанне ў склад БССР шэрагу ўсходнебеларускіх паветаў мела вялікі рэзананс у Польшчы і Заходняй Беларусі"[23].

Дый каранізацыя і беларусізацыя былі толькі прынадай для акумуляцыі, кансалідацыі пад адным дахам беларускіх нацыянальных сілаў розных палітычных поглядаў з мэтай іх далейшай элімінацыі. Як сведчаць сучасныя даследа-

ванні, беларусізацыя – гэта быў усяго толькі крок для выяўлення і элімінацыі яе передумоў і праваднікоў, гэта быў сродак для вырашэння “шэрага вельмі важных задач унутранай і знешняй палітыкі”, прымяненне якога пасля выкананння яго функцыі было згорнута[24]. У прыватнасці мелася на мэце не толькі інспіраванне будучага аб’яднання з Заходняй Беларуссю шляхам стварэння лепшых (асабліва знешне, па форме) варункаў і передумоў для нацыянальнага развіцця ў Савецкай Беларусі, але і імкненне ліквідаваць урад БНР, які і надалей праводзіў актыўную палітычную дзейнасць, што з’яўлялася адным з чыннікаў беларусізацыі і карэнізацыі ў ССРБ. Да таго ж тое імкненне да ліквідацыі ўрада БНР найлепшым чынам сведчыць, па-першае, пра фактычнае прызнанне гэтага суб’екта міжнароднага палітычнага поля, па-другое, пра выніковую дзейснасць таго суб’екта, якая ўплывала на савецкую палітыку – як знешнюю, так і ўнутраную. Бальшавікам удалося арганізаваць спыненне дзейнасці некаторымі чальцамі ўрада БНР ад імя ўсёй рэспублікі. Больш таго, і тут не было забыта пра будучае аб’яднанне Беларусі і падавалася яно ўжо як ментальна сфарміраванае па абодва бакі краіны меркаванне: “У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і работнікаў, замацаваная ў Менску – сталіцы Радавай (Савецкай – *А. Т.*) Беларусі, запраўдна імкнецца адрадзіць Беларускі Народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, пастанавілі: спыніць існаваньне Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі”[25].

Пасля роспуску ўрада БНР, арганізаванага Аляксандрам Цвікевічам, нават шчыра прабальшавіцкі паэт Міхась Чарот, сустрэўшыся з ім у Германіі, рэзка папракаў яго за здзейснены акт: “Гэта памылка! Пакуль вы былі тут, за мяжой, нам лягчэй было там весці нацыянальную палітыку...”[26]. Гэта сапраўды так, бо напярэдадні савецкія палітыкі, распрацоўваючы праграму дачыненняў да беларускага пытання, хацелі высвятліць, што можна зрабіць, каб выклікаць сімпатыі беларускае масы ў Заходняй Беларусі да БССР, і ў прыватнасці ў 1923 г. А. Луцкевіч праз С. Рак-Міхайлоўскага атрымаў просьбу распрацаваць кароткі даклад пра тое, якія мерапрыемствы былі б пажаданы ў БССР з гледзішча заходніх беларусаў, у ліку каторых перадусім ставілася пытанне пра павелічэнне БССР, пра культурную працу, пра амністыю дзеячам БНР[27]. Бальшавікі мелі канкрэтныя планы па ліквідацыі замежнага нацыянальнага актыву беларусаў, дзеля чаго выкарыстоўвалі ў прапагандысцкіх мэтах і выбітных прадстаўнікоў з Савецкае Беларусі. Так, пад канец 1925 г. такую замежную паездку арганізавалі з удзелам Цішкі Гартнага, Янкі Купалы і Міхася Чарота пад прыглядам “дыпламата” ад адпаведных органаў А. Ульянава. Прычым, мяркуючы па ўсім, беларускія літаратары разумелі ў якой якасці яны служаць таталітарнай машыне, якая тады толькі набірала абароты. А. Ульянаў жа потым засведчыў: “Когда меня послали на работу в Польшу, основной момент был раскол... За границей имелся целый ряд белорусских эмигрантских групп... Эти группы противопоставляли себя Советскому правительству, везде выставляя себя как «представителей народа». Наша задача была обезглавить, обезвредить эти группы. Надо было связаться с этими группами, поставить перед ними вопрос, что если они явятся, вернутся сюда и будут честно работать, здесь им будет дана амнистия. Это было проделано”[28].

Да таго ж менавіта з падачы Крамля была створана Кампартыя Заходняе Беларусі (1923 г.) – упершыню “крэсы паўночна-ўсходнія” атрымалі (пра)савецкую інтэрпрэтацыю, у якой да таго ж падкрэслівалася этнічная беларускасць зямель. Савецкае кіраўніцтва тады выкрышталізавала сваё разуменне тэрыторыі часткі Беларусі, якая апынулася пад Польшчай, тэрыторыі, якая павінна належаць Беларусі (чытай: Савецкай Беларусі, а значыць СССР). Сэнс стварэння

КПЗБ быў у інспіраванні справядлівасці эвентуальнага аб'яднання Беларусі (першапачаткова праз узброенае паўстанне , якое, аднак, не перарасло маштабаў партызанскае барацьбы, ды яго ідэя неўзабаве была адкінута, а барацьба ў 1925 г. згорнута). Прычым ёсць гіпотэзы і зусім неверагодныя – накшталт "мангольскага праекту": "Меркавалася трансфармаваць БССР у тэарэтычна незалежную дзяржаву пад пратэктаратам Савецкага Саюзу накшталт Мангольскай Народнай Рэспублікі. Плянавалася, што пры падтрымцы Саветаў беларускі нацыянальны рух у Польшчы ўзьніме "паўстаньне" за аддзяленьне беларускай тэрыторыі. У той-жа час адбудзецца "паўстаньне" і ў Савецкай Беларусі, якая рэалізуе сваё права на "аддзяленьне", і дзьве часткі Беларусі аформяць тэарэтычна незалежную дзяржаву, фактычна пад савецкім пратэктаратам, як і Мангольская Народная Рэспубліка. Сам СССР пры гэтым не выглядае агрэсарам, а, наадварот, – такім самым (калі яшчэ й ня больш) "пацярпелым", як і Польшча"[30].

У такім палітычным кантэксце глядзяцца натуральна многія факты літаратурнага працэсу на Савецкай Беларусі. Савецкая ўлада, напрыклад, нягледзячы на існаванне цэнзуры (канешне, яшчэ не такой строгай, як потым), дазваляла рабіць антыбальшавіцкія і антырасійскія выпады творцам, тым больш калі яны былі скіраваны паралельна і супраць заходняга ворага. Многія творы (у прыватнасці "У палескай глушы" Якуба Коласа (1923)) упершыню публікаваліся ў Вільні, г. зн. у самай варожай на той момант дзяржаве, якой была для СССР II Рэч Паспалітая. Трэба было ўзварушваць "дух народны" (М. Багдановіч) супраць свайго ворага (такі метад бальшавікі прымянялі з дарэвалюцыйных часоў: выкарыстоўвалі нацыянальныя сілы супраць агульнага ворага, не даючы ім затым магчымасці свабоднага развіцця). Такім чынам, палітычныя чыннікі ў многім абумоўлівалі і адносіны паэтаў да савецкай улады, і бальшавікоў да тых жа паэтаў. Як ужо было сказана, да 1925 г. паміж абодвума бакамі ўсталяваліся адносіны дастаткова прыязныя. Многія паэты гэтай уладзе даверыліся, хаця і не адразу неадназначныя адносіны творцаў да Саветаў змяніліся на пераважна лаяльныя з перарастаннем у хвалебныя. Падзел Беларусі і яе распалавіненае становішча таксама атрымлівалі пераацэнку. У сваю чаргу ўлада ўшаноўвала творцаў: спрыяла іх адукацыі, публікацыям, развіццю літаратуры, урэшце высока ўганаравала самых выбітных – Янку Купалу і Якуба Коласа – званнямі народных паэтаў. Аднак стасункі з творцамі па-ранейшаму не мелі жаданай для Саветаў гладкасці. Неспакой з прычыны падзеленасці радзімы далёка не заўсёды атрымліваў прымальнае для бальшавіцкай улады вершаванае ўвасабленне.

## 1922 г. і зацішша "перад будучыняй"

На фоне створанага Якубам Коласам, ад якога хіба не чакалі такога кірунку паэтычных тэндэнцый, тагачасныя "антырыжскія" выпады Янкі Купалы, вядомага сваім грамадзянскім пафасам, глядзяцца не так эфектна, але не менш значна. Чаго вартае толькі адно яго прыведзенае вышэй скрушліва-іранічнае двухрадкоўе, якое стала афарызмам. Пасля прадказання развіцця падзей на беларускай зямлі, якую ў сакавіку 1921 г. без асаблівых спрэчак падзялілі, ці быў сэнс Янку Купалу паўтарацца post factum? Але, абураны, і маўчаць ён доўга не мог. "Купала адмоўна паставіўся да Рыжскага дагавору і разам з Якубам Коласам і іншымі пісьменнікамі асудзіў яго. Яны бачылі, што рэвалюцыя была і застаецца далёкай ад нацыянальных інтарэсаў беларусаў, што яна ператврыла народ з мэты гістарычнага развіцця ў сродак маніпулявання бюракратычных вярхоў – бальшавіцкай алігархіі, якая праследавала свае карыслівыя, эгаістычныя планы"[31], – піша на гэты конт акадэмік У. Гніламёдаў.

На пачатку 1922 г., а калі быць больш дакладным – 24 студзеня, яго ліра

грымнула ў традыцыйным правідэнцыялісцкім стылі – вершам “Перад будучыняй”. У ім паэт задумваецца над адсутнасцю пасіянарнасці ў беларускага народа. Пры гэтым апісвае актуальнае (для таго часу) становішча, спароджанае чужою барацьбой на беларускай зямлі. Прывядзём найбольш выразныя ўрыўкі:

Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў...
<...>
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.

А хтось далёкі, ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.
<...>
О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, –
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам? [Т. 4, с.106]

Ант. Адамовіч лічыць, што “бальшавікі пачулі сабе пагрозу ў гэтым творы, большую нат, чымся ў гнеўнай філіпіцы Коласа супраць Рыскага падзелу Беларусі ў ягоным вершы “Беларускаму люду” з тым-жа клічам да “вызваленьня з пут”, што зьявіўся ў друку блізу ў тым самым часе (у зборніку “Водгульле”), але ня выклікаў ніякіх канфіскацыйных рэпрэсіяў. Купалаў голас зь нябывалай бадай яшчэ сілаю біў па струнах нацыянальнага сумленьня, і небясьпека магчымасьці абуджэньня адпаведанага рэзанансу гэтых струнаў не магла не жахаць тых, хто “аграбіў з гонару й кашулі” беларускі народ”[32]. На справядлівую думку эміgranцкага крытыка, верш “Перад будучыняй” стаў свайго роду пралогам да трагікамедыі “Тутэйшыя”, якая па-мастацку адлюстравала гады нядаўніх набегаў чужынцаў на беларускія “загоны” і развіла “асноўныя мэты вершу”. У п’есе ж “Купала зусім адкрыта й выразна разглядае й бальшавікоў, як гэткіх самых акупантаў Беларусі, якімі былі і ўсе іншыя перахаджалыя гаспадары яе ў тых гадох (Немцы, Палякі, а іхную “савецкую ўладу” – як такі самы акупацыйны рэжым”[33]).

Свайго роду размінкай за некалькі дзён да азначанага верша сталі знойдзеныя ўжо ў наш час прыпеўкі, якія, на думку аўтараў каментарыяў, прызначаліся для п’есы “Тутэйшыя”:

Бах, нашу Айчыну
Без нашае волі,
Як тую аўчыну
Ў шматкі папаролі.

А нам чужы статут
Паднёс пяць паветаў, –
Жыві і ўладай тут!
Ну, дзякуй за гэта!..
Не плюй у карытца –
Прыдасца напіцца.
І «польскі» і «рускі»,
І ўсякі чорт іншы
На сказ беларускі
Плюе, не купіўшы... [Т. 9, кн. 2, с.8, 376][34]

Нягледзячы на жанр, А. Каўка называе прыпеўкі пэўнай сінтэзай Купалавай паэтычнай публіцыстыкі[35].

Аналізуючы ваганні творчага духу Янкі Купалы першай паловы 1920-х гг., Н. Гілевіч каментуе: “Але жыць без веры паэт не можа. Як сапраўдны сын народа, ад якога ўзяў сабе і нораў, і характар, і светапогляд, Купала, як і сам народ, не траціў веры ў лепшую будучыню, у перамогу праўды і справядлівасці над векавечным злом. Пытанне, якое мучыла яго ў перыяд Кастрычніка і грамадзянскай вайны, – а як будзе з Бацькаўшчынай: “Ці блаславяць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?” – іншы раз перарастала ў радасць надзеі, што савецкая ўлада якраз і прынесла разам з сацыяльным разняволеннем і нацыянальнае, даўшы яго “ўбогай старонцы” дзяржаўнасць. І тады нараджаліся акрылёныя, няхай сабе і ілюзорнай верай, паэтычныя радкі – як у вершы “Арлянятам” (1923), у паэме “Безназоўнае” (1924): “Беларусь на куце ў хаце сваёй села, – Чарка мёду ў руцэ, пазірае смела. Сядзіць важна, сама сабе гаспадыня...” Тым больш што і ўнутрыпалітычнае становішча ў краіне пачало нібыта развівацца ў лепшы бок. У рэспубліцы быў узяты курс на беларусізацыю, пачалі вяртаць у склад Беларусі (далёка не ўсе, праўда) адарваныя ў свой час усходнія тэрыторыі, арганізоўваюцца асяродкі пашырэння і развіцця беларускай нацыянальнай асветы, навукі, культуры, літаратуры і мастацтва”[36].

Боль ад раны, нанесенай мяжой Рыжскага дагавора, быццам лязом, душам паэтаў, як падаецца знешне, пачаў прытупляцца. У стасунках паэтаў з савецкай уладай наступае прымірэнчасць. На гэты конт Ц. Гартны казаў: “1923 і 1924 гг. канчаткова замацавалі савецкую ідэю наогул ва ўсіх галінах беларускае пасьлярэвалюцыйнае культуры і прыватна ў беларускай літаратуры. І старыя і маладыя пісьменнікі спыніліся на аднэй пляцформе і з аднакавай энэргіяй прыняліся за працу. К гэтаму часу не асталося ў беларускай літаратуры ніводнага пісьменніка, які-б шукаў іншых шляхоў да беларускае будучыні”[37]. У многім, але далёка не ва ўсім, аўтар цытаты меў рацыю. Аднак, напрыклад, у яго не выклікала падазрэння Купалава паэма “Безназоўнае” (2.01.1924), у якой хоць і зводзіцца “краіны стан пагорблены” да “ласкі панскай” – празрыстай алегорыі польскага панавання на заходнебеларускіх землях, але праслізгвае намёк незадаволенасці на тое, што “торг вялі за нас”. Прарок напрыканцы паэмы прадвяшчае фактычна рэвалюцыйныя змены ў ментальнасці беларускага народа і ў долі “бацькоўскага кута”:

Яшчэ пакінулі нам асляпенне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песню вызвалення
І вольны бацькаў кут. [Т. 6, с.128]

Як аказалася, Янка Купала (і не толькі ён) яшчэ не сказаў свайго астатняга шчырага слова.

## 1926 г.: выбух

Янка Купала не быў бы сам сабою, каб не адчуваў, якая палітычная перспектыва чакае беларускі народ неўзабаве. Пра гэта знаходзім у Н. Гілевіча: “І аднак жа душа Купалы не заспакоілася. Дзіўная гэта рэч – душа паэта-прарока! Незвычайнай, звышчалавечай чуйнасцю надзелена – улоўлівае і самыя тонкія зрухі ў грамадскай атмасферы. Улойлівае – і трывожыцца, і працінаецца болем, і пачынае траціць веру ў ласку дабрадзеяў. І, відушчая, бачыць, што насамрэч толькі вядзецца палітычная гульня з народам у свабоду і суверэннасць, а па сутнасці – як не меў ён правоў на гаспадаранне ў сваёй краіне, так і не мае”[38].

Летам 1926 г. народны паэт, “прыгрэты ўвагай дзяржавы”, па словах Н. Гілевіча, “выбухнуў”: “У апошні раз. Выбухнуў такімі вершамі, як “Акоў паломаных жандар”, “За ўсё”, “І прыйдзе”, “Вецер”, “Каб...”, “Ёсць жа яшчэ...”, “Царскія

дары", "Праз гультайства"... Кожны з іх – паэтычная публіцыстыка вышэйшай пробы. І пры гэтым – усе зусім не падобныя адзін да аднаго: у кожнага – свой тон, свой жанр, свая вобразная мова. Гэта – і адкрытая водпаведзь аскаліўшым іклы імпершавіністам"[39].

«Паэта зноў займае ранейшую незалежную баявую пазыцыю, горда дэкляруе свабодалюбства й гатоўнасьць сваю й свайго народу да ўзброенага супраціву той пагрозе, якую ён ужо прадчувае ў рэальнасьці. З другога боку, у гэтых прадчуваньнях паэты можна бачыць і адюстраваньне той веры ў блізіню "ўсенароднага паўстаньня" беларусаў па абодвух бакох рыскіх кардонаў згодна з "мангольскім праектам". (Трэба сказаць, што Ант. Адамовіч у гэтым пасажы недакладны: савецкае кіраўніцтва якраз у 1925 г. на пэўны час згарнула планы «аб'яднання» беларускага народа шляхам збройнага чыну, перайшоўшы да палітычнай барацьбы. Напрыклад, у БССР сталі пераманьваць актывістаў беларускага руху, а тымі, хто застаўся па польскі бок мяжы, імкнуліся кіраваць з Крамля, які ў многім прыклаў руку да арганізацыі самага масавага і сапраўды народнага руху з усіх беларускіх, што былі ў гісторыі, – Беларускай сялянска-работніцкай грамады, спрычыніўшыся і да яе разгрому з-за моцных нацыянальных тэндэнцый у ёй пры згаданай масавасці[40]. Не выключана, што якраз гэтыя працэсы і адчуў сваёй кангеніяльнай інтуіцыяй Прарок, які, такім чынам, убачыў, што падзел Беларусі не толькі застаецца ў сіле, але і яго наступствы для беларусаў у хуткім часе будуць вельмі драматычнымі і нават трагічнымі. – *А. Т.*)

Найбольш частай тэмай іншых Купалавых вершаў гэтага году быў падзел Беларусі, тэма, якая блізу не закраналася ім раней або не выклікала такой бурнай рэакцыі, якую мы бачылі ў Зьмітрака Бядулі-Ясакара і Якуба Коласа (мусім і тут не пагадзіцца: верш «Перад будучыняй», адшуканыя ў наш час прыпеўкі да «Тутэйшых» і сама гэта п'еса – творы на тэму дзяльбы Беларусі, якія па мастацкай і грамадзянскай моцы не саступаюць ні Коласавым, ні тым больш Бядулевым – *А. Т.*). Тэме рыскага падзелу Беларусі 1921 году й прысьвечаныя два вялікія вершы Купалы — „На пагранiччы" й „Па Даўгінаўскім гасьцінцы". Тут пад вонкавай элегічнасьцю кіпіць абурэньне паэты разьдзелам Беларусі, які суправаджаўся расстрэламі і пажарамі, нічым ня сплачанымі крыўдамі, нічым ня вернутымі ахвярамі, разьдзелам, які зрабіў людзей аднаго народу, што былі сваймі у шчасьці, у бедах, а сталі цяпер чужыя чужакі. Як і Колас, Купала ня робіць адрозьненьня паміж адказнымі за падзел — паміж палякамі й бальшавікамі»[41].

"Тэма Заходняй Беларусі праходзіць праз усё яго жыццё і творчасць, нагадваючы аб сабе на кожным кроку. Аціх рух на Даўгінаўскім гасцінцы, па якім паэт ездзіў з Мінска ў Акопы да маці: Даўгінава аказалася па той бок мяжы – у Польшчы, – піша У. Гніламёдаў. – Патрыятычныя пачуцці паэта абвастраюцца "разарванасцю" самой прыроды, у жыццё якой бязлітасна ўмяшаліся жорсткія, бяздушна-механічныя сілы зла"[42]. Хаця верш "Па Даўгінаўскім гасцінцы" (1926) пачынаецца элегічна: лірычны герой едзе далей ад горада на вёску адпачыць. Паездка адбываецца ў суправаджэнні роздуму і пейзажаў. Але вось іх перапляценне, калі браць пад увагу алегарычнасць і падтэкставасць, пачынае насцярожваць:

> Гляджу на звалены бярозы, –
> Маркотна думкі пацяклі:
> Змаглі вы буры і марозы,
> Людской сякеры не змаглі. [Т. 4, с.137]

Г. зн. для лірычнага героя нешта не так. Не так, як раней. Магчыма, зусім нядаўна (калі яшчэ вока не замылілася – і на гэта звяртаецца ўвага). Варта заўважыць, што Янка Купала вядзе пераклічку з творчасцю Якуба Коласа, які

перад тым пераняў своеасаблівае (але даволі ўмоўнае) лідэрства ў іх тэндэме адносна грамадзянскай плыні ў беларускай паэзіі, толькі сімвалічныя дубы змяняюцца больш лірычным сімвалам – бярозамі (пар.: “Эх, дубы, дубы! вякамі / Вы збіралі сілы, / Не звалодаў віхар з вамі, / Вас здалелі пілы”[43]).

Далей аказваецца, што насамрэч шмат чаго змянілася. Перадусім тое, што гасцінец абязлюднеў. І каб жа гэта абышлося без драмы. Але ж не:

Ты не спаткаеш стуль суседа,
А мо й матулі з вас які...
Былі сваймі у шчасці, ў бедах, –
Цяпер чужымі чужакі. [Т. 4, с.138]

Піша паэт, выдзяляючы курсівам ключавыя словы, якія сведчаць на падзеленасць аднароднай зямлі. Прычым не ў каго-небудзь, а ў самога паэта (як, дарэчы, і ў Якуба Коласа) “там” засталася маці. Таму ён вельмі перажывае:

Ды ані вестачкі адтуля,
І нібы сам адтуль далей,
Адно пачуеш, як зязюля
Кукуе там, як і даўней. [Т. 4, с.138]

Лірычны герой зайздросціць дзікім птушкам і жывёлам:

Для птушкі вольнай і для звера,
Як і для думкі – ўвесь ім свет!
Для іх не ўпішаш на паперы
Ні меж гранічных, ні пікет. [Т. 4, с.138]

У гэтых радках бачыцца латэнтнае, крыптаграфічнае, падтэкставае параўнанне “птушкі вольнай” і сябе – паднявольнага, хіба толькі ў думках свабоднага. Урэшце з прымяненнем метафары паэт раскрывае прычыну драматычнага становішча:

Калісь мы ў Рыгу збожжа везлі,
Цяпер зямлі завезлі часць... [Т. 4, с.138]

Ды абрывае сваю думку, разумеючы яе крамолу ў святле надыходзячых часоў:

Але ж куды мы, думка, ўлезлі?
Глядзі, наклічама напасць! [Т. 4, с.138]

Аднак і змоўкнуць, асадзіць назад сваю думку паэт не мае сілы. Ужо ў іншым вершы яго ўражваюць карціны “пагранічча”, якім стала тады ўся беларуская старонка. Цяжкая яе доля. Нават сейбіт.

Згадаць не ўмоц, як ні варожа,
Каму ён сее свой палетак:
Ці сам пажне і змеле збожжа,
Ці нехта іншы з’есць хлеб гэты.
*(“На пагранічча”, 1926) [Т. 4, с.143]*

Аўтар не кажа наўпрост пра падзел, але інтанацыйна выражае свае адносіны да яго і да тых, хто ахоўвае стан рэчаў:

На пагранічча ціха, сонна,
Хоць, як пруты, напяўшы жылы,

Па той і гэты бок нязгонна
Стаяць варожыя дзве сілы. [Т. 4, с.143]

Мяркуючы па інтанацыі, тыя сілы варожыя не толькі паміж сабою, але і для самога аўтара.

"Вонкавая элегічнасьць, ускладненая алегарызацыяй, ахутвае той самы матыў і ў вершы „У лесе". Але алегорыя тут вельмі празрыстая, і абурэньне паэты выступае яшчэ больш выразна, калі ён успамінае пра лёс дзяўчыны, тутэйшай"[44]:

...І здарылася з ёй прычына,
Прычына жудкая адна:

Кашульку ёй знялі ў няшчасці —
Суседзі, а не іншы хто —
І падзялілі ўсю на часці,
Як бы дзяліць не мелі што. *(1926) [Т. 4, с.146]*

Асабліва высокую ступень гневу паэт адрасуе "звяр'ю", якое "збрылося мяса параскрасці", г. зн. падзяліць цела маці-Беларусі, накіроўваючы супраць іх "непасрэдны, цалкам вытрыманы ў стылі народнай парэміялогіі, праклён, з уласцівай гэтаму вуснамоўнаму жанру градацыяй"[45]:

Каб вады гарачай
На таго нагрэлі
І не ўстаў ён болей
Са сваёй пасцелі, —

Хто над Беларусяй
Хоча распрасцерці
Свой бізун чужацкі
І народ усмерціць.

Каб таго парвала
З сэрцам на тры часці
І звяр'ё збрылося
Мяса параскрасці, —

Хто быў прычыніўся
Нашаму падзелу,
На кускі парваўшы
Маці роднай цела.
*("Каб...", 1926) [Т. 4, с.151]*

"Публіцыстычны па зместу, ён (верш "Каб..." – *А. Т.*) увабраў у сябе рэдкасныя па інтанацыі, рытмах, вобразнасці россыпы вуснай народнай творчасці. Купала тут увесь у дзеянні, у дынаміцы, яго вобразнасць мае яскрава вырашаны кантрастны характар"[46].

Гэтыя вершы Янкі Купалы сацыялагізатарская крытыка 1930-х гг. назаве вяртаннем "да тых жа нацыянал-дэмакратычных матываў", ахарактарызуе ўпадніцтвам з глыбокімі слядамі буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі [паводле: Т. 4, с. 408-409]. Праўда, у выпадку неабходнасці скарыстаць купалаўскую энергетыку, скіраваць яе супраць ворагаў, верш "Каб..." публікуецца ў газетах падчас германа-савецкай вайны.

1926 г. аказаўся апошнім, калі можна так сказаць, выразна антысавецкім годам Янкі Купалы. І стрыжнем у яго паэтычна-палітычным крытыцызме сталі якраз

разважанні на тэму распалавіненасці Беларусі, віна за якую паэтам ускладалася на абодвух удзельнікаў дзяльбы.

## Пасля 1926 г.: ці змяніўся Купала?

“...Зыркая творчая “ўспышка” дваццаць шостага году зьмяняецца малапрадукцыйнымі гадамі завяданьня”, – канстатуе Ант. Адамовіч[47]. Як і раней здаралася з Прарокам, спустошаны палкімі грамадзянскімі вершамі (на жаль, практычна безвынiковымі ў сэнсе ўздзеяння на сацыяльна-палітычную рэчаіснасць), ён робіць перапынак – паэтычных твораў, пазначаных 1927-м годам у Поўным зборы твораў няма (за выключэннем паэмы “З угодкавых настрояў”). У гэты час узмацняецца ідэалагічная рэгламентацыя, што адчувалася ўжо і ў ранейшых творах Янкі Купалы (зразумела, іншых паэтаў таксама). Нагадаем тэзіс Ант. Адамовіча: «У 1928 годзе пачаў мацней адчувацца ціск ГПУ ў галіне літаратуры»[48].

Выйшаўшы з перыяду маўчання напрыканцы 1928 г., Янка Купала ўжо быў схільны прызнаць рацыю за Саветамі, асудзіўшы “панскую Польшчу”, усклаўшы цалкам на яе віну за рыжскі падзел (“Летапіснае” – верш, напісаны да дзесяцігоддзя БССР), за што быў ухвалены сацыялагізатарскім крытыкам Л. Бэндэ. Тым не менш хвалі “энтрапічных” сілаў паэтычнага Купалавага выбуху 1926 г. дакаціліся нават да гэтага, свайго роду згодніцкага верша:

Вораг польскі і рускі
Шчыра множыў курганы, –
Не было Беларусі,
Толькі быў “Край забраны”.

Расіяне, палякі
Ды французы і шведы
Беларускай крывёю
Палівалі край гэты. [Т. 4, с.170-173, 414]

Сама тэма падзеленай Беларусі ў Купалавай творчасці ўсплывае радзей і радзей. А танальнасць увачавідкі змяняецца. У чарговы раз да гэтай тэмы звяртаецца паэт у першым вершы, напісаным пасля спробы самагубства, – “А ў Вісле плавае тапелец...” (1931). “Як і вершы “Памрока над Польшчай завісла...” (1938 – *А. Т.*), “Суд ідзе” (1932 – А. Т.) і інш., ён накіраваны супроць тэрору ў буржуазнай Польшчы”, але і гэтага, як засведчылі аўтары каментарыяў да Поўнага збору твораў, ідэолагам вульгарна-сацыялагічнай крытыкі на Беларусі было мала: “Купала можа і павінен даць больш, гэтага патрабуем не толькі мы тут з вамі, але гэтага патрабуюць працоўныя масы і Савецкай і Заходняй Беларусі”, – пісаў у 1931 г. Л. Бэндэ [паводле: Т. 5, с.223-224]. Захоўваючы літаратурны стыль сваёй экспрэсіі, увесь гнеў паэт абрушвае на “панскую Варшаву”:

Балюе панская Варшава,
А для гуманнасці, прагрэса
Ідзе аблава за аблавай
На ўсходніх “вольных” польскіх Крэсах.

Абрабаваных да кашулі
Там беларуса і ўкраінца
Вядуць закованых патрулі
Па акрываўленым гасцінцы.
*(“А ў Вісле плавае тапелец...”) [Т. 5, с.10-11]*

Апалагетам улады бальшавікоў і Беларусі ў форме савецкай рэспублікі выступае Янка Купала і ў вершаваным апісанні спробы заваяваць Беларусь польскімі войскамі. У адрозненне ад ранейшых твораў на тэму савецка-польскай барацьбы на беларускіх землях, Янка Купала ў дадзеным выпадку не лічыцца з гістарычнымі рэаліямі (яму добра вядомымі, таму ў гэтым бачыцца ці то неахайнасць ад абыякавасці, ці то свядомае ўказанне на непраўдзівасць яго паэтычнай думкі і пачуццяя з мэтай зрабіць падказку ўважліваму і ўдумліваму чытачу пра несапраўднасць лейтматыву твора).

Адзінаццаць месяцаў
БССР стагнала
Пад ботам пілсудчыны,
Але не сканала.
*("Адзінаццаць месяцаў...", 1932) [Т. 5, с.20]*

Кажа аўтар пра амаль гадавую акупацыю польскімі войскамі значнай часткі Беларусі ў 1919 – 1920 гг., не зважаючы, што ў той час не было БССР, якую самі ж бальшавікі трансфармавалі ў ЛітБел яшчэ ў лютым 1919 г. Таму ў далейшым і спатрэбілася другое абвяшчэнне Савецкай Беларусі.

Ці не апошні антысавецкі пасаж Янкі Купалы, таксама звязаны з падзеленасцю Беларусі, фіксуе аналітык супрацiву саветызацыі ў беларускай літаратуры Ант. Адамовіч, кажучы пра прымяненне беларускімі паэтамі прыёму "пераклічкі" – размяшчэння твораў «такім чынам, каб яны так ці інакш "пераклікаліся" па сэнсу й гэтай "пераклічкай" стваралі нейкі новы сэнс, адсутны ў кожным зь іх, узятым ізалявана. Для дасягненьня такой мэты творы разьмяшчаюцца звычайна побач або насупраць на разгорнутай старонцы або ў суадносных мясьцінах розных старонак. Найбольш зыркі выпадак ужываньня такой "пераклічкі" знаходзім у зборніку Янкі Купалы "1918-1928", які выйшаў у 1930 годзе. Зборнік гэты адкрываецца Купалавым перакладам вядомага бальшавіцкага "міжнароднага гімна" "Інтэрнацыянал", усьлед за якім зьмешчаны выразна-нацыяналістычны верш паэты "Паўстань!", напісаны ў часы белапольскай акупацыі. Абодва вершы "пераклікаюцца" ўжо сваім аднолькавым зачынам — "Паўстань...", і, ставячы іх побач, паэта як-бы зьмяшчае на аднэй дошцы абодва акупацыйныя рэжымы — чырвоны бальшавіцкі й "белапольскі". Гэта вельмі выразнае супастаўленьне, "пераклічка", адрасаваная варожым сілам, што падзялілі між сабою тэрыторыю Беларусі мяжой Рыскага міру 1921 году. Ня менш паказальнае й супрацьстаўленьне: нацыяналізм — інтэрнацыяналізм. Красамоўны камэнтар бальшавіцкай крытыкі: "Такое правакацыі ў 1930 г. мы не чакалі, нават ведаючы ўсё цёмнае мінулае паэты"»[49].

Тым не менш суворыя рэаліі савецкай улады 1930-х гг. прымусілі спяваць ліру Прарока пад сваю дудку. І, канешне, так званае ўз'яднанне Беларусі ў верасні 1939 г. Янка Купала вітаў радаснымі вершамі: "Верасень месяц...", "Сонца свяціла нам аднолькава...", "Ой, павей, вецер!..", "Калыханка", "Накарміліся панскаю ласкай...", "Расшумеўся лес зялёны", "З новай думкай", "Слава табе, Армія...", "Еду сягоння я ў Вільню...", "Прамінулі дзянькі...", "Настаў чарод...", "Засвяціла ясна зорка...". Бадай, самымі вядомымі, без нацяжкі афарыстычнымі радкамі на гэты конт стала першая страфа верша "Ты з Заходняй, я з Усходняй...":

Ты з Заходняй, я з Усходняй
Нашай Беларусі,
Больш з табою ўжо ніколі
Я не разлучуся. [Т. 5, с.157]

Наколькі быў шчырым Янка Купала ў гэтым паэтычным цыкле, сказаць немагчыма. З аднаго боку, ён лічыў падзел Беларусі трагедыяй. З іншага – марыў не толькі пра цэласнасць Беларускага Дома, але і пра яго самастойнасць. Апошняга бальшавікі не давалі.

Падзел Беларусі, здзейснены бальшавіцкай Расіяй і панскай Польшчай у 1921 г., стаў вынікам працяглага супрацьстаяння паміж гэтымі дзяржавамі, кожная з якіх мела місіянерскія замашкі. Што для іх была трагедыя невялікага (па іх паняццях) народа! Да таго ж сапраўды, на той час слаба развітага ў нацыянальным сэнсе. Але ўжо тады беларусы заявілі пра сябе. Як нацыя. У вялікай (некаторыя скажуць галоўнай) ступені да гэтага спрычынілася літаратурная дзейнасць падзвіжнікаў беларускага мастацкага слова. Не дзіўна, што паэты – калі не ўсе, то абсалютная большасць – жылі інтарэсамі народа. Іх паэзія была пульсам і нервам нацыянальнага развіцця. Таму і трагедыя падзелу краіны атрымала шырокі паэтычны розгалас. Лідарам беларускага паэтычнага хора быў Янка Купала – геніяльны прарок беларускага адраджэння. Ён першым наблізіўся да тэмы, акрэсліўшы да драбязы, па якіх шляхах рушыць гісторыя. Таму і застаецца ў ёй Прарокам. Янка Купала глядзеў у корань, у глыбіню. Гэта дазваляла яму бачыць будучыню. Сімптаматычна, што ідэйны вектар яго паэзіі на тэму рабавання Беларусі быў скіраваны супраць абодвух суседаў-зняволнікаў – і Польшчы, і Расіі. Прычым незалежна ад улады ў апошняй. Янка Купала пра пагрозу падзелу напісаў больш, чым пасля самога гвалтоўнага акту. Аб прычыннасці такой рэакцыі паэта варта яшчэ падумаць даследчыкам. Хіба ж не выглядае дзіўнай яго імпульсіўнасць 1922 г. (года ўвядзення татальнай савецкай цэнзуры) і 1926 г. – першага года ў рангу народнага паэта (да таго ж года, з якога антысавецкія матывы ў асэнсаванні падзелу Беларусі сталі непажаданымі – з-за змены знешнепалітычнага курсу (перадусім стасоўна Польшчы), які перад гэтым дапускаў пэўныя крытычныя думкі на гэтую тэму)? Менавіта тады ж і былі створаны Прарокам "антырыжскія" вершы.

Пакрысе класікі прыціхлі. Пасля хуліганства 1926 г. астыў і Янка Купала. Менавіта астыў. Аднак не пагадзіўся. І хоць не на поўны голас, але асобныя нонканфармісцкія ноткі стасоўна падзелу роднай краіны ў Янкі Купалы не-не ды прарываліся праз інтанацыі савецкага ладу.

Аб'яднанне Беларусі ў верасні 1939 г. ён, як і, бадай, усе беларускія паэты, сустракаў "як паложана" – апяваючы падзею. Але за адзіным, "раскручаным" уладай выключэннем тыя вершы не мелі такога рэзанансу, як творчасць будучых народных паэтаў – і Янкі Купалы, і Якуба Коласа – да сярэдзіны 1920-х гг.

---

[1] Лазько Р. Польска-савецкія мірныя перагаворы 1920 г. і лёс Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс, 2010, №12. С. 5.

[2] Спасылкі на творы Янкі Купалы робяцца ў дужках па выданні Поўнага збору твораў з указаннем тома і старонкі: Купала Я. Поўны збор твораў: у 9 т. / АН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск: Маст. літ., 1995 — 2003.

[3] Каўка А. "Усход" і "Захад" у мастацкім светабачанні Янкі Купалы // Беларусіка=Albaruthenika 6. Беларусь паміж Усходам і Захадам: Праблемы міжнацыян., міжрэлігійн. I міжкультур. узаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу. Ч. 2. / Рэд. Ул. Конан і інш. Мн.: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. С. 186.

[4] Каўка А. "Усход" і "Захад" у мастацкім светабачанні Янкі Купалы... С. 186-187.

[5] Цыт. па: Платонов Р. В объятиях «начальника державы Польской» // Беларуская думка, 1999, № 4. С. 99.

[6] Мусім не пагадзіцца з меркаваннем пра датыроўку верша аўтараў каментарыяў Поўнага збору твораў Янкі Купалы: "Паводле зместу верш можна аднесці да перыяду першай сусветнай вайны" [Т. 3, с.327]. Таму што 1) ваенныя дзеянні на беларускую зямлю

прыйшлі толькі праз год, г. зн. "груганы" "на сяло" яшчэ не "прыляцелі", 2) верш арганічна ўпісваецца ў кантэкст іншых твораў на тэму польска-расійскага ўплыву і супрацьстаяння на тэрыторыі Беларусі (гл. таксама "Я мець ад кагосьці...", 1914 [Т. 3, с.220]).

[7] Каўка А. Свой пачэсны пасад. Янка Купала: Дзяржаватворчая думка паэта // Дзеяслоў, 2007, № 4(29). С. 193.

[8] Каўка А. Свой пачэсны пасад... С. 186

[9] Бэндэ Л. Творчы шлях Янкі Купалы // Полымя рэвалюцыі, 1935, № 10. С. 123.

[10] Шарахоўскі І.З. Пясняр народных дум (Нарыс жыцця і дзейнасці Янкі Купалы. Савецкі перыяд). Рэд. М. Р. Ярош. Мінск: "Навука і тэхніка", 1976. С. 3-4.

[11] Бэндэ Л. Творчы шлях Янкі Купалы // Полымя рэвалюцыі, 1935, № 10. С. 126.

[12] Гніламёдаў У. Апантаны беларускім лёсам. Творчасць Янкі Купалы ў паслякастрычніцкія часы // Полымя, 1994, № 7. С. 235.

[13] Такая назва ў Купалы. Існуе і трохі іншы пераклад назвы – "Слова пра паход Ігаравы".

[14] Навуменка І.Я Янка Купала // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя : у 4 т. / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. 2-е выд. Мінск: Бел. навука, 1999 – 2003. Т. 1: 1901 – 2020, 2001. С. 154.

[15] Каўка А. "Усход" і "Захад" у мастацкім светабачанні Янкі Купалы... С. 190.

[16] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мн.: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 805.

[17] Трафімчык А. Да праблемы станаўлення дзяржаўнасці Беларусі (1917 – 1921): палітыка Крамля // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2009, № 31. С. 92-114.

[18] А. Сідарэвіч трохі ўдакладняе, колькі літаральна паветаў выдзелілі бальшавікі пад Савецкую Беларусь. Аказваецца, што і паветы, акрамя аднаго, моцна былі абрэзаны. Гл.: Сідарэвіч А. Выбранае... Нататкі чытача // Дзеяслоў, 2010, №3 (46). С. 304-305. Алег Гардзіенка гаворыць пра "фантастычнае меркаваньне, што пад час працы ў Дзяржаўнай бібліятэцы ... Мікола Улашчык знайшоў купалаўскі аўтограф, водгук на падзелы Беларусі: "Далі шэсьць паветаў, дзякуй і за гэта" — знайшоў і запомніў, бо пасьля купалаўскія рукапісы ў бібліятэцы былі рэвізаваныя, і значна пазьней, ужо пасьля сталінскіх часоў, зноў запусьціў купалаўскую фразу ўва ўжытак". Гардзіенка А. Гісторык, які перайграў гісторыю // ARCHE Skaryna, 2000, № 4 (9). С. 62.

[19] Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917 – 1922 гг. (Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы). Мн.: БелНДІДАС, 1997. С. 214; Głogowska H. Białoruś 1914 – 1929. Kultura pod presją polityki. Białystok, 1996. S. 76.

[20] Цыт. па: Грыцкевіч А. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына, 1994, № 4. С. 55.

[21] Ладысеў У.Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917 – 1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мн.: БДУ, 2003. С. 287.

[22] Ладысеў У.Ф. Паміж Усходам і Захадам... С. 296.

[23] Хоміч С. Асноўныя этапы фармавання тэрыторыі БССР (1918 – 1926) // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 7. Сш. 2 (13). Менск, 2000. С. 360, 363.

[24] Клімаў І. Беларусізацыя ў дакументах // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 8. Сш. 1-2 (14-15). Менск, 2001. С. 273-295.

[25] Ліцкевіч А. Беларуская віртуальная рэспубліка. Гісторыя палітычнага банкрутцтва БНР у люстэрку архіўных дакументаў // Беларуская думка, 2008, №3. С. 73.

[26] Па: Янушкевіч Я. Неадменны сакратар Адраджэння, альбо Эсэ пра Вацлава Ластоўскага // Полымя, 1994, № 5. С. 164.

[27] Апостол национального возрождения // Неман, 1995, № 1. С. 156.

[28] Па: Някляеў У. Шлях. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 3 (28). С. 246-247.

[29] Гл., напрыклад: Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў ІІ аддзел Генеральнага штаба ад 26 сакавіка 1923 г. // ARCHE Пачатак, 2005, № 6. С. 234.

[30] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 851.

[31] Гніламёдаў У. Апантаны беларускім лёсам... С. 238.

[32] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 440-441.

[33] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 439, 441-442.

[34] Відавочна, згаданае вышэй двухрадкоў зыходзіць да гэтых прыпевак, апублікаваных упершыню ў выданні, на якое зроблена спасылка.

[35] Каўка А. Свой пачэсны пасад... С. 196.

[36] Гілевіч Н. Выбраныя творы / уклад., камент. Н. Гілевіча, прадм. У. Конана. Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 537-538.

[37] Жылуновіч З. Узгоркі і нізіны. Крытычныя нарысы. Менск: Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, 1928. С. 39.

[38] Гілевіч Н. Выбраныя творы... С. 538.

[39] Гілевіч Н. Выбраныя творы... 538.

[40] Гл. падрабязней: Лазько Р. Хто ж знішчыў "Грамаду"? // Беларуская мінуўшчына, 1994, № 2. С. 46-49. Пра дзейсны ўдзел у разгроме БСРГ саветаў ведалі (ці здагадваліся) і ў тагачассе, пра што сведчаць згаданыя П. Мядзёлкай словы Янкі Купалы на гэтую тэму: Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця // Полымя, 1993, №3. С. 234.

[41] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 862-863.

[42] Гніламёдаў У. Апантаны беларускім лёсам... С. 238.

[43] Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т.2. Вершы (1911 – 1938) / рэд. тома У.В. Гніламёдаў; падрыхт. тэкстаў і камент. С.В. Забродскай, К.А. Казыра ; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007. С. 89.

[44] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 863-864.

[45] Гілевіч Н. Выбраныя творы... С. 538.

[46] Гніламёдаў У.В. Прарок нацыянальнага адраджэння // Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 1. Вершы, пераклады 1904 – 1907 / Прадм. У. Гніламёдава. Мн.: Маст. літ., 1995. С. 41.

[47] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 861.

[48] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 898.

[49] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 741.

Аляксей Каўка



...«Святая Літва мая,
краю мой родны»...

# Уладзіслаў Сыракомля: на сумежжы ліцвінства-беларускасці

*Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі, –*
*Не забудуцца дум тваіх словы,*
*Як і слоў беларускіх, жывучых між намі,*
*Не забыйся ты, лірнік вясковы.*
Янка Купала. "Лірнік вясковы", 1910.

У самы раз зверыць сваю думку з Купалавым словам, спадчынай Сыракомлі, з набыткамі даследнікаў яго творчасці, у прыватнасці, Г. Кісялёва. Дарэчы, Генадзь Васільевіч калісьці падтрымаў наша зацікаўленне падобнай тэмай, агучанай на міжнароднай славістычнай канферэнцыі, адлюстраванай у іншых публікацыях (1). Яшчэ раней гэтую ж праблему нацыянальнае свядомасці ў станаўленні новай беларускай літаратуры – ад "краёвай" да нацыянальнай – акрэсліў В.А. Каваленка (2).

Напрошваецца ўдакладненне наконт адналітасці, этнакультуровае скіраванасці краёвага пісьменства – сублітаратурнага прыдомку польскае (у другім выпадку рускае) славеснасці.

Праўда, класічны фенамен ліцвіна-“краёўца” А. Міцкевіча здавалася б падважвае правамоцнасць панятка сублітаратурнасці. Але парадаксальнасць магчымае засцярогі адразу знікае пры ўспрыманні аўтара “Пана Тадэвуша”, “Дзядоў” як польскага, з вызначэння, паэта, чый лакальна-ліцвінскі патрыятызм на свой лад выявіў яго ўласна польскі светагляд, мастацкі геній – у рухомай, узаемапранікальнай прасторы “Літвы-айчыны” і “маці-Польшчы”.

Складаней, супярэчлівей выглядае пытанне з “ліцвінамі” іншае катэгорыі – з польска-беларускімі (беларуска-польскімі) пісьменнікамі. З гэтае прамежкавае двухдомнасці адны (ці не бальшыня) пачуваючыся палякамі, з “ліцвінскай” адметнасцю, кіравалі, аканчальна прычаліўшы да польскага берага. Другія – чуйна ўслухоўваліся ў абуджальныя сігналы свайго даўніннага “крывіцка-рускага” радаводу, з часам усведамляючы і ўласную нацыянальную ідэнтычнасць як беларускую – адпаведна этнамаркерам “Беларусь”, “беларус”, “беларускі”, якія на зыходзе XIX ст. стала замацоўваюцца на абшары так званага Паўночна-Заходняга, “забранага” краю, пацясніўшы ранейшыя азначэнні кшталту “Літва”, “ліцвін”, “крывіч”, “русін”. У гэтым самапазнаўчым працэсе краёвае пісьменства выступіла своеасаблівым рухавіком-паскаральнікам на шляху нацыянальна-літаратурнага самавызначэння: ад “краёвасці” (“ліцвінскасці”) да беларускасці.

У гістарчычным кантэксце нашага літаратурнага Пачынальніцтва за Новым часам постаць Кандратовіча-Сыракомлі вымалёўваецца мабыць найвыразней, а для адраджэнскіх памкненняў сучаснікаў, паслядоўнікаў – найзначней ад іншых яго калегаў па пяру. Што пацверджвае надзіва ёмісты, разнабаковы характар творчага плёну беларускага Дабравесніка: паэта, крытыка, гісторыка літаратуры, краязнаўца, фалькларыста, у пэўнай ступені і мовазнаўцы, які пераважна польскай літарай выказаў дух, ментальнасць беларуса (3).

З кранальнай адданасцю Сыракомля, следам за Міцкевічам, маніфестуе сваю патрыятычную наканаванасць: “Святая Літва мая, краю мой родны”; “Бо мой прадзед шчырым быў ліцвінам” (4). І – паралельна – сваё крывічанска-беларускае “я”, найярчэй выяўленае ў “марцінкевічавых” сюжэтах пісьменніка (вершаванае прысвячэнне “Навуму”, рэцэнзіі ў “Газеце варшаўскай”): “Хай жыве родны Мінск наш, браты дарагія!”; “На гэтай [беларускай] ніве працаваць можна і варта”. Прычым паверанае паэтам і крытыкам чытачу – гэта не проста спачувальна староннi пагляд апалячанага шляхціча-інтэлектуала на люд сялянскі Літвы-Беларусі, але праява глыбока асабістага, лірычнага суперажывання ўласнае прыналежнасці да гэтага люду – “братоў у капоце, братоў у сярмязе” – іхняе мовы, культуры: “І я навучыўся крывіцкай мове... Бо гэта мова нашага літоўскага Статута, законадаўства...” (5).

Адзін з першых сістэмных даследнікаў у беларушчыне, ён такімі ж беларускімі вачыма ўглядзеўся ў культуру свайго народа як у мнагавечную духатворную традыцыю – ад “Слова аб палку Ігаравым” (“Гэта беларуская старажытная песня”), першадрукаў Скарыны, Буднага, братоў Мамонічаў да Яна Чачота, Я.Баршчэўскага, А.Кіркора, А.Вярыгі-Дарэўскага, В.Дуніна-Марцінкевіча (адпаведныя старонкі ў “Гісторыі літаратуры ў Польшчы”, на польскай, рускай мовах, у “Вандроўках..”, “Мінску”). Заангажаваным стаўленнем да беларускага слова, гісторыі роднага краю  Лірнік наш выходзіць далёка за ўмоўныя рамкі дэклараванае ім “вясковасці”, стаючыся фактычна асветнікам-будзіцелем Літвы-Беларусі, жывым увасабленнем яе непрамінальных творчых каштоўнасцей, прыўмножаных і яго асабістымі намаганнямі. Дасюль не блякнуць Сыракомлевы мастацка-вобразныя выявы беларускага чалавека ў рознатыповых сацыяльна-псіхалагічных іпастасях – селяніна-хлебароба, яго ж суседа – шарачковага шляхціча, палешука, паштара, жабрака-спевака, а таксама габрэя-карчмара,

арандатара, вулічнага кнігара, або тутэйшага татарына (чые продкі “пралілі не адну кроплю крыві, абараняючы сваю прыёмную айчыну” (6).

Душэўнай цеплынёй, хрысталюбнай ласкаю кранаюць чытацкае вока і слых яго пейзажныя, сямейна-бытавыя замалёўкі, як і спавядальныя строфы інтымных мрояў, перажыванняў пісьменніка. У асобе, стылявой манеры Лірніка вясковага – прыўзнятага рамантыка і прыземленага рэаліста – выразна пазначыліся тыпалагічныя рысы беларускага паэта-“народнага песняра” (7), ідэальнага суплёту мастацкіх і грамадзянскіх якасцей літаратуры.

Зразумела, чаму гэты непрыкаяны “ліцвін”, працяты перажываннямі сучасных рэалій, гістарычнага лёсу Бацькаўшчыны, прывабліваў да сябе не адну чулліва крэўную душу з таго ж ліцвіна-беларускага раздарожжа. Як у выпадку з Арцёмам Вярыга-Дарэўскім, стваральнікам знакамітага “Альбома” пісьменнікаў-“краёўцаў”, чыё ўзрушлівае літанне ў лісце да Сыракомлі многае сведчыць пра глыбіню-вастрыню духоўных парыванняў “Наддзвінскага дудара” і ўскосна – пра ўзаемную шчырасць яго сябра-дарадчыка: “Ажыві маё рассеянае беларускае сэрца! Падмацуй мой дух!” (8). Што ўжо казаць пра сяброўска-творчае сумоўе Марцінкевіча-Сыракомлі, увечненае абок іншага ў балеснай паэме “Плынуць вятры” (пра трагічныя падзеі ў Варшаве 1861 г.), вернутай сучаснаму чытачу стараннямі нястомнага Кротуса-Кісялёва (9). Невыпадкова ў асабістай бібліятэцы самотніка з Барэйкаўшчыны знаходзіліся і кнігі першага Беларускага дудара, магчыма з дарчымі надпісамі аўтара (10), творчасць якога стала не толькі фенаменальнай асабістай з`явай, але прыкметным чыннікам развіцця, грамадскае легітымнасці беларускае літаратуры як такой (11). Не ашчадзілі нашаму Лірніку кранальных слоў узнання А.Кіркор, В.Каратынскі, А.Плуг, пазней З.Тшачкоўская-Манькоўская (псеўданім Адам М-скі), Янка Лучына, А.Абуховіч і, нарэшце, Янка Купала, а таксама рускі пісьменнік М.Ляскоў.

У полі Сыракомлевага прыцягнення бачыцца нам яго сучаснік Ю.Ляскоўскі, аўтар “Беларускага бандурыста” (Вільня 1863, на польскай мове), чыя рамантычна ахопленая беларускаю стыхіяй муза адчувальна перагукоўваецца з многімі вершамі, гавэндамі аўтара “Лірніка вясковага”. Магчыма, эміграцкія абставіны пана Юльяна (пазней пад псеўданімам Карабіча публікатара беларускіх вершаў “Зямелька мая..”, “Пад дуду” 1882) (12) заважылі на непасрэднай лучнасці гэтых паэтычна крэўных постацей, хаця Кіркораў след у жыццяпісе Ляскоўскага (выдавец яго згаданага вышэй зборніка) дазваляе не выключаць іхняга асабістага знаёмства, мажліва ў тым жа віленскім “літаратурным салоне” Яна са Слівіна.

Словам, у беларускім сімвалічным аркестры дудароў, песняроў, бандурыстаў, лірнікаў сярэдзіны XIX ст. вельмі вылучаецца мілагучны спеў Сыракомлі, заварожваючы чысцінёй, пранікнёнасцю мелодыі. Да таго ж і сам наш пясняр, не раз аказаўшыся за дырыжорскім пульпітрам літаратурна-музычнага ансамбля, прыстойна паспрыяў дынамічнасці й гарманічнасці супольнага гучання.

Даўно заўважана прываблівая каларытнасць “крэсовай” пальшчызны творцы “Паштальёна”, “Жмені пшаніцы”, “Яна Дэмбарога”, густа перасыпанай беларусізмамі. Але ж і польскамоўная тканка многіх яго твараенняў успрымаецца чытачом-беларусам чымсці вельмі знаёмым, а нават родным – сугучным яго ўласнай моўна-гаваркой практыцы, пераказанай лацінкаю: “od chaty do chaty; z kraju do kraju; lirnik wioskowy; Tu moj domek pochylony; ciemny bor sosnowy; Oto przyzba oto ganek; Ot na scianie wieniec zyta—Pamiec zniwa i dozynek” (13). Сапраўды, як жа тая пальшчызна “лёгка кладзецца па-беларуску”(14). Усе гэтыя словы, фразеалагізмы – “ад хаты да хаты”, “ад краю да краю”, “прызба і ганак”, “вянок жыта – памяць жніва”*, процьма іншых лексічных адзінак, жыўцом перанесеных з польскага на беларускі палетак (калі не спрадвеку на ім прарослых) гожа зіхацяць у лірычным слоўніку нацыянальнае паэзіі,

кранаючы пачуцці, творчую фантазію наступнікаў Уладзіслава Сыракомлі, чыіх “слоў беларускіх” вячыстасць празарліва прадказаў Купала. Тым самым істотна скарэктаваўшы не зусім дакладнае, калі не ўшчэрбнае вызначэнне Каратынскім спадчыны свайго колішняга настаўніка ўсяго толькі як “Слабое святло польскага пісьменства” (15), цалкам змаўчаўшы яго ліцвіна-беларускую прамяністасць.

Аднак жа пад родным нашым небасхілам святло гэтае каторы ўжо век праменіць даволі ярка – амаль на біблійны лад: “І свет ў цемры свеціць і цьма не схлынула яго” (Ін. 1, 5).

Л і т а р а т у р а:

1. Кавко А.К. От “Литвы” к Беларуси. Эволюция национального самосознания в белорусской литературе XIX в.// Межславянские связи и взаимодействия в Восточной Европе: история, проблемы, перспективы. Брянск, БГУ, 2003. С.27-30. (У паперах БДАЛіМ, ф.340, туляцца старонкі гэтага паведамлення з паметамі Г.Кісялёва). Кавко А.К. От Скорины до Купалы. Белорусская литература в контексте нацинально-культурного возрождения. М., ИМЛИ РАН, 2006. С. 91-110.

2. Каваленка В.А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Мн., “Навука і тэхніка”, 1975. С. 119.

3. Гісторыя беларускай літаратуры XI-XIX ст. Т.2. Мн., “Беларуская навука”, 2007. С.232, 274.

4. Сыракомля Ул. Добрыя весці. Паэзія. Поза. Крытыка. Укладанне, каментарыі Ул.Мархеля і К.Цвіркі. Мн., “Мастацкая літаратура”, 1993. С.53, 106.

5. Там сама. С. 492, 493.

6. Там сама. С. 438.

7. Тарасюк Л.К. Мастацкія кірункі ў беларускай паэзіі XIX-пачатку XX ст. Мн., БДУ, 1998. С. 20.

8. Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX стагоддзя. Укладальнік Г.Кісялёў. Мн., “Навука і тэхніка”, 1977. С. 225.

9. Кісялёў Г. Сыракомля ці Дунін-Марцінкевіч?//Літаратура і мастацтва, 1993.

(Язэпу Янушкевічу, Яніне Кісялёвай, Ганне Запартыка ўдзячны за “наводку” да гэтае публікацыі – ***А.К.***).

10. Кісялёў Г.В. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. Мн., выд-ва “Універсітэцкае”, 1988. С. 65.

11. Кісялёў Г.В. Ад Чачота да Багушэвіча. Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст. Мн., “Навука і тэхніка”, 1993. С. 120.

12. Кісялёў Г. Радаводнае дрэва. Каліноўскі – эпоха наступнікі. Мн., “Мастацкая літаратура”, 1994. С. 158-159.

13. Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. Беларуская польскамоўная паэзія XIX ст. Укладанне... Ул.Мархеля. Мн., ППП імя Я.Коласа, 1998. С. 148 і наст.

14. Кісялёў Г. Сыракомля ці Дунін-Марцінкевіч?...

15. Картынскі В. Творы. Укладанне... Ул. Мархеля. Мн., “Мастацкая літаратура”, 1994. С. 291. Мажліва з рацыі па-свойму разуметай “polskosci” ні пан Вінцэсь, ні сыны яго так і не патрапілі абнародаваць беларускамоўныя творы Сыракомлі, якімі яны валодалі. А на творчую постаць нашага Дабравесніка куды дакладней, пранікліве́й глянуў польскі мысляр з беларускага мястэчка Ракава – Мар`ян Здзяхоўскі, аценіўшы “першапачатак беларускай літаратуры ў польскай творчасці” пісьменніка, выявіцеля “духоўнае мяжы паміж Літвой, Беларуссю і Польшчай”.—Zdziechowski M, Wladyslaw Syrokomla: pierwiastek literatury bialoruskiej w tworczosci polskiej. Wilno, 1924. S. 21.

---

*Сёння можна толькі выжаліцца над “моўнымі” практыкаваннямі тутэйшых адукаванцаў, якія спрадвечнае земляробчае дзейства беларуса – жніво сплюндрылі тупым і плоскім – “уборачнай” (“уборкай”). Дзякаваць Богу, пакуль не даўмеліся перайначыць нашы Жніўныя песні – на ўборачныя...

Алесь Тарановіч



...арыенціры ёсць і будуць заўсёды

для тых, хто хоча іх знайсці...

# Галопам па Еўропах

*«Без нахабства няма шэдэўраў».*
(Ф. Марынэці, ідэолаг італьянскага футурызму)

Стала нарэшце вядома, хто з'яўляецца пакупніком за рэкордную суму карцін сучасных мастакоў на аўкцыёне «Sothebys».

Палатно Л. Фрэйда «Спячая бухгалтарка» сышло за 33 млн фунтаў стэрлінгаў, а трыпціх Ф. Бэкана – за 83 млн. Пакупнікам з'яўляецца расійскі мільярдэр Раман Абрамовіч. Стаміўшыся скупляць, падобна сотням сваіх супляменнікаў, ангельскія палацы і замкі, футбольныя каманды і гіганцкія яхты, ён перайшоў да твораў англійскіх мастакоў. Чаму не расійскіх, паўстае лагічнае пытанне, бо скрадзеныя ім мільярды былі вывезены з Расеі? Пераадрасуем гэтае пытанне самой краіне, дзе разбой аб'яўлены відам спорту, якая спарадзіла абрамовічаў як з'яву. Я ж пішу аб сучасным мастацтве і працэсах, якія ў ім адбываюцца.

Вернемся да Фрэйда і Бэкана.

У гэтых мастакоў ёсць адна добрая якасць – яны малююць фарбамі на палотнах нешта падобнае да чалавечых

постацяў. І гэтым адрозніваюцца ад іншых, якія гэтыя палотны рэжуць, паляць, абліваюць кіслатой або наогул абыходзяцца без іх.

Як, напрыклад, нямецкі мастак Марцін Кіппенбергер.

Вось чым ён праславіўся. Нядаўна ў Дортмундскім мастацкім музеі "Ostwale" прыбіральшчыца выліла бруд з тазіка. Усё б нічога, але гэты тазік з брудам быў інсталяцыяй Кіппенбергера, ацэненай... у 800 тысячаў еўра. Цяпер вырашаецца пытанне аб кампенсацыі. Нешта падобнае ўжо было ў Германіі і раней.

У 1986 годзе прыбіральшчыца выкінула 5 кг масла, якое мастак Ёзэф Бойс склаў у куце галерэі. Ён судзіўся, ацаніўшы шкоду ў 40 тысяч марак.

***

Дзве публікацыі пра мастацтва я прачытаў у адзін дзень: артыкул аб выставе працаў Ван-Гога ў Вене ў «Berliner Zeitung» і пра творчасць Джэфа Кунса ў «Der Spiegel».

У першай, густа аздобленыя панегірыкам тыпу «геній алоўка», «фенаменальнае мастацтва», «перфектны малюнак» і г.д., аўтар як бы няўзнак кідае фразу: сума страхоўкі выставы склала 3 мільярды еўра.

Пра Джэфа Кунса мы даведваемся, што хоць ён і з'яўляецца мастаком кітчу, але на сёння – адным з самых дарагіх у свеце і, што самае галоўнае, выкрываюцца факты, аб якіх звычайна замоўчваецца: у Нью-Ёрку на яго фабрыцы плошчай 1500 кв.м. працуе 87 чалавек, якіх называюць «працоўнымі пчоламі».

Што яны робяць? Карціны і скульптуры Джэфа Кунса.

***

Нью-Ёрк. У кастрычніку 2011 года 36-гадовая мастачка Марне Котак правяла перформанс "The Birth of Beby" – уласныя роды перад наведвальнікамі галерэі. Яна лічыць гэта найвышэйшай формай мастацтва. Да гэтага яна выстаўляла на публіку сваё пазбаўленне дзявоцкасці.

Там жа ў ЗША адкрылася выстава пяцігадовай мастачкі-абстракцыяністкі. Велічэзныя палотны былі скупленыя знаўцамі ўжо пад час вернісажу.

***

Атэлье "Dina 4 Projekte" прадставіла 10 маладых мастакоў з 5 мастацкіх Акадэмій Нямеччыны – Берліна, Мюнхена, Дзюсельдорфа, Франкфурта, Лейпцыга.

Вось водгук на гэтую выставу з берлінскага часопіса «Izium»: «Выставачны шэраг не нясе ў сабе ніводнай думкі, не замінаючы такім чынам успрыманню. На падлозе валяюцца кавалкі поліэтылену і драты. Улічваючы нямецкі канцэптуалізм, які звыкла «зашкальвае», складана вызначыць, гэта мастацтва ці выпадковае смецце?

Не абцяжарваючы свой розум спробай разгадаць ідэі, закладзеныя ў творах, мы засяродзіліся на людзях, якія заўсёды цешаць сваёй экстравагантнасцю на берлінскіх вернісажах ... »

***

У аднаго французскага электрыка «раптам» выявілася 300 невядомых раней твораў Пікаса коштам 80 мільёнау даляраў (?!).

Слова «раптам» тут гучыць абсурдна, бо падробкі масава вырабляліся яшчэ пры жыцці мастака.

Эксперты-мастацтвазнаўцы са Штутгарта лічаць, што 40-60% твораў мастакоў 1900-1970 гг. – фальшыўкі.

Асабліва шмат падробак Міро, Шагала, Пікаса, Дыкса, Далі і г.д.

***

Прыйшла вестка пра доктара Хагенса.

«Доктар Смерць» хворы. У яго хвароба Паркенсона. Ён завяшчаў сябе прэпараваць і выставіць у сваёй калекцыі.

З 2008 года ягоную выставу “Korpen Welten” наведала 30 млн чалавек...

***

Як часта ў размовах аб мастацтве са знаёмымі і незнаёмымі людзьмі я чуў:

– Як вызначаецца сабекошт карціны і чаму некаторыя карціны столькі каштуюць?

Ну добра, карціны старых майстроў, гэта агульнапрызнанае, але за «калякі-малякі», напісаныя левай нагой сёння...

Ужо ці не дураць нас спрытныя прайдохі?

Так, вы не памыліліся, дураць!

І дураць не дасканала, як картачныя шулеры і рэвізоры ў Гогаля, Астап Бэндэр, «Рогі і капыты», або шлюбныя аферысты, або ілжэсвятары, або фінансавыя піраміды. Дураць проста.

Дураць! Дураць, прыкрываючыся вялізнымі коштамі, дураць, прыкрываючыся шыкоўнымі каталогамі, напісанымі вёрткім пяром купленага барзапісца, дураць, праводзячы выставы і акцыі ў лепшых залах свету.

Дураць! Дураць таму і так лёгка, што некалі здолелі пераканаць сусветнае грамадскае меркаванне, маўляў, не спяшайцеся з высновамі, падумайце, а раптам вы чагосьці не разумееце, а раптам усё значна глыбей, чым вам здаецца, і вы маеце справу з геніем.

Ці можна параўнаць буйных калекцыянераў мінулага, напрыклад, Медычы, або Аўгуста Моцнага, з сённяшнімі? Не. Мэтай першых было сабраць выдатныя творы мастацтва, ад якіх прыходзілі ў захапленне яны самі і іх асяроддзе і, што немалаважна, укладванне грошай з наступным прыбыткам не з’яўлялася самамэтай.

Затое апошняе стаіць на першым месцы ў сённяшніх верхаводаў гэтай «бранжы» бізнэсу. На першым месцы выступаюць не мастацка-пластычныя вартасці твора, а наяўнасць у калекцыі імёнаў.

Або: у цябе ёсць Пікаса, Далі, Хундартвасар? Няма? А ў мяне ёсць!

Няхай гэта будзе адна лінія, праведзеная на аркушы паперы, шмат адтыражаваны асобнік пад № 199, галоўнае, каб унізе стаяў подпіс – «Пікаса» і г. д.

***

Вядомы тэарэтык мастацтва Л. Гінсбург аднойчы прыкмеціў:

«Ёсць людзі з недыферэнцыяванай таленавітасцю і без вызначанага занятку. Таленавітасць іншых іх раздражняе. У іх няма сапраўднай працы, алё ёсць завышанае адчуванне самога сябе, якога пазбаўлены звычайны чалавек. Гэтае самаадчуванне патрабуе ўжывання на практыцы, інакш яно становіцца несціхаючай душэўнай пакутай, і яны практыкуюць яго ў бясплодных адхіленнях ад нормы.

Гэтыя людзі часта звяртаюцца да мадэрнізму, які прыцягвае іх духам пратэсту, навізны. Некаторыя прыстасаваліся дэманстраваць сваю нязгоду і незадаволенасць з дапамогай не імі адкрытых мастацкіх плыняў і пластычных формаў»...

***

Што такое сённяшнія камуны мастакоў, якія традыцыйна гняздуюць у Парыжы, Мадрыдзе, Рыме, Берліне? Насельніцтва іх уяўляе сабою складаны кангламерат з наркаманаў, алкаголікаў, лебэнскунстлераў і маргіналаў усіх масцей.

Часта тут пераважаюць людзі з парушанай псіхікай. Свайго роду амбулатор-

ная псіхалячэбніца. Гэта і нядзіўна, бо шматлікія псіхіятры сёння лечаць сваіх пацыентаў з дапамогай жывапісу. Творчасць гарадскіх вар'ятаў стала набыткам грамадскасці.

Тым, хто папракае мяне за тэндэнцыйнасць і пафас, я нагадаю, што гэтыя радкі піша былы заўзяты прыхільнік мадэрнізму, які атрымаў прасвятленне пасля Сустрэчы з Богам...

Хто ведае, ці не адбудзецца падобнае з вамі...

***

Еўропа даўно ўжо жыве толькі той культурнай спадчынай, што вынесла з мінулага. Каласальны крэатыўны патэнцыял, неабходны для стварэння высокага мастацтва, страчаны. У Еўропе цяпер непрадуктыўная сітуацыя – вялікая драма са светапоглядам і ідэаламі.

Гэта з'яўляецца следствам і, адначасова, вядзе за сабой цэлы шэраг стратаў і паразаў. У тым ліку, інтэлектуальную, эмацыйную і мастацкую недзеяздольнасць.

***

Хто такі сучасны мастак?

Гэта гібрыд шамана з мэнеджарам, памяшаны на алкагольнай або гераінавай эйфарыі.

І заўсёды маргінал.

Фантом апалітычнай культуры, якая ўсё на свеце палярызуе, падзяляе і абмяжоўвае.

Артыст, схільны праецыраваць дэфармацыю ўласнай свядомасці на гледача.

Шарлатан, які аперыруе глыбіннымі пластамі чалавечай свядомасці. Які спрабуе сваім асабістым хаосам перамагчы сусветны хаос. А гэта небяспечна.

І збіраючыся стаць на гэты шлях, малады чалавек павінен спытаць сябе сам:

– Ці ёсць у мяне гэтыя якасці? Ці з'яўляюся я такім мастаком? Ці здужаю я такі шлях? Ці не чакае мяне небяспечная сустрэча са сваім alter-ego?

***

Блукаючы па старонках заходняга мастацтвазнаўства, я не раз сустракаў выказванні аб аспрэчванні аўтарства Ван-Гога на некаторыя яго карціны.

Бо вельмі ж адрозніваліся яго вядомыя галерыстам карціны галандскага перыяду ад позніх, кшталту «Касачоў», вытанчаных па колеры і аптымістычных па змесце, зробленых тады, калі крызіс у яго ўзмацніўся. На думку спецыялістаў, некаторыя работы выкананы адразу пасля яго смерці, у перыяд распачатага ажыятажнага попыту.

Нічога дзіўнага ў гэтым няма.

Вядомая гісторыя пра тое, што некаторыя палотны Вермеера апынуліся падробкай. Пра гэта б ніколі не даведаліся, каб не прызнаўся сам аўтар падробак.

У маім выпадку гаворка ідзе аб нечым іншым. Сурагат вырабляў не самотны авантурыст, тут працавала цэлая сістэма вушлых дзялкоў, тая ж, што і сёння пастаўляе на канвеер спевакоў, літаратараў, кіназорак, кінафільмы і г. д.

Ван Гог з'яўляўся ключавой фігурай у гэтай гульні, задуманай таленавітымі гульцамі. Яго ведалі ў Парыжы, у мастацкіх колах, брат ягоны быў паспяховым галерыстам. І нягледзячы на гэта, пры жыцці ён прадаў усяго адну-адзіную карціну.

Усё далейшае – вынік раскруткі дасведчанымі дзялкамі. Яны і здолелі запусціць машыну, як гэта робіць умелы турэцкі гандляр гароднінай, крыкам ствараючы ажыятаж, каб збыць заляжалы тавар...

У тыя ж гады ў Парыжы было прынята рэзка падымаць попыт і кошты пасля

смерці аўтара. Ведаючы пра гэта, некаторыя мастакі спецыяльна імітавалі сваю смерць.

***

Сальвадор Далі.

Чалавек, які сцвярджаў, што ён не купіў бы ні адну са сваіх карцін. І што ён усімі сіламі спрыяе крэтынізацыі чалавецтва.

Але гаворка пойдзе не пра яго дасціпнасць.

Мой калега, берлінскі мастацтвазнаўца Д. Хмяльніцкі, даўно ўжо зрабіў паспяховую спробу развянчання міфа аб геніяльнасці Далі.

Я зайду некалькі далей. Працы Далі 40-50-х гадоў, такія як «Тайная вячэра», «Сант'яга эль Грандэ» і асабліва серыя з распяццем Ісуса, успрымаюцца як дасягненні сучаснага мастацтва. Сплаў найвышэйшага майстэрства, новай формы і новай думкі. У параўнанні з імі працы яго калег-сучаснікаў глядзяцца як карыкатуры. Але чаму так адрозніваюцца яны ад таго, што зроблена ім раней і пазней?

Адказ на гэта дае сам майстар у сваіх дзённіках: «Хуан старанна працуе над маёй карцінай у суседнім пакоі ...» і г.д. Ці працавала на Далі народу менш, чым на Джэфа Кунса?

Не думаю. Ва ўсякім разе, менавіта ў тыя гады, якімі датуюцца яго шматлікія скульптуры, карціны і графічныя серыі, ён месяцамі не вылазіў з модных салонаў Парыжа і Нью-Ёрка.

***

Пікаса.

Колькасць створаных ім работ вымяраецца многімі тысячамі. Па ўспамінах аднаго французскага махінатара-капеіста, стварыўшы новы графічны ліст, ён смела ішоў да Пікаса, ведаючы напэўна, што той паставіць свой подпіс «Створана мною», паколькі не ў сілах быў разабрацца ў колькасці належачых яму працаў.

Такія вось справы.

Хто хоча даведацца пра сапраўдную цану мадэрнізму, едзьце ў Барселону.

Паглядзіце Гаўдзі, і вы зразумееце, адкуль узялі свае ідэі яго землякі – Пікаса, Далі, Міро. Яны – інтэрпрэтатары Гаўдзі, не піяршчыка, а сціплага архітэктара і мастака, які ўсё жыццё правёў у келлі царквы, якую будаваў...

Я не прарок, але бяруся прадказаць, што праз 100 гадоў аб іх будуць успамінаць мала, як не параўнальная, да прыкладу, папулярнасць Пікаса сёння і 20 гадоў таму, а папулярнасць Гаўдзі расце...

Дабром для мадэрнізму з'яўляецца тое, што ён не падкантрольны нікому, як таталітарная секта, і заўсёды ў модзе ў нуварышаў.

У свой час камуністычная і фашысцкая ідэалогіі спрабавалі расправіцца з ім – безвынікова. Таму што паміж таталітарнай ідэалогіяй і мадэрнізмам ёсць нямала агульнага. І там, і тут у розумах многіх тлеюць вогнішчы інквізіцыі.

Вось што піша той жа Д. Хмяльніцкі:

"Прэтэнзія на існаванне «новага авангарднага мастацтва», неадэкватнага і шалёнага з пункту гледжання звычайнай гісторыі мастацтва, ёсць галоўнай канцэпцыяй руху. Глядач павінен з ёй першапачаткова пагадзіцца, не задаваць лішніх пытанняў і пагрузіцца ў самарэфлексіі. Правілы гульні абавязковыя для ўсіх удзельнікаў – стваральнікаў, спажыўцоў і тэарэтыкаў мастацтва. Гэты прыём уласцівы, дарэчы, усім ідэалогіям, у тым ліку і таталітарным. Ідэалогію дапушчальна правяраць толькі ўнутранымі, самой ідэалогіяй адпрацаванымі крытэрыямі. Пры крытыцы з боку, ідэалогія, як правіла, бурыцца, але сам такі крытык успрымаецца як вораг, абмеркаванне з якім па ўнутраных правілах недапушчальна..."

***

Субкультура выклікае да жыцця такія архетыпы і падсвядомыя прыярытэты, як нялюбасць да працы, да майстэрства, патэрналізм, страх волі, надзею на “авось”, на “дарэмшчыну”, утрыманства і г.д. Прасцей кажучы – усё тое, чаго не было і быць не магло ў мастакоў мінулых стагоддзяў.

Грамадская мараль больш не табуюе гэтыя паводзінныя мадэлі як негатыўныя. Усё гэта – падвойная мараль, якая не можа прайсці бясследна ні для творцаў, ні для грамадства. Шматлікія маральныя і культурныя забароны зняты, змікшаваны, і псіхалагічна людзі да гэтага прызвычаіліся. Інтэлігенцыя пазбаўлена ідэалаў, эстэтычных і паводзінных мадэляў, цягі да гуманізму і г.д. Субкультура сама закапалася ў гарах сабранага ёю смецця. Няма ні макра-, ні мікразадач...

Субкультура нарадзіла новую літаратуру ў інтэрнэце.

Сёння там пануе «вылузванне, прыкол, сцёб і хахана».

Блогеры сталі больш папулярныя, чым пісьменнікі. Суцяшае толькі тое, што побач з кучай гною заўсёды ёсць дагледжаны лужок...

***

Шмат гадоў мяне не пакідае адчуванне, што над усімі намі ладзіць вівісектарскі эксперымент згуртаваная каманда вызначанага толку. Згуртаваная адной мэтай і задачай.

І калі яны дасягнуць гэтай самай мэты, калі запрацуе правіла “so bad-it’s-good” (так дрэнна, што ўжо добра), калі хаос і разбурэнне падступяцца да чалавека, тады яны адначасова здымуць маскі. Маскі мастацтвазнаўцаў, журналістаў, мецэнатаў і г.д. Тых, хто гадамі змываў з грамадства тонкую ахоўную плёнку культуры. А зняўшы і агаліўшы свой сатанінскі ашчэр, усклікнуць: “Як спрытна мы дурылі гэтых лохаў! Уключайце святло, у пакоі нікога няма!”

***

Вяртаючыся да артыкула пра Ван-Гога ў «Berliner Zeitung».

Для чаго пішуцца такія творы, у тысячны раз разліваючы мёд панегірыкаў?

Гэта – адпрацаваны піяр-ход, стратэгія і тактыка рынку.

Чакаецца продаж на вялізную суму...

***

«У рэвалюцыянера няма ні сваіх інтарэсаў, ні спраў, ні пачуццяў, ні прыхільнасці, ні сям’і... Усё ў ім паглынута адзінай выключнай цікавасцю, адзінай думкай, запалам – рэвалюцыяй» (М. Бакунін, тэарэтык анархізму).

Наўрад ці хтосьці стане адмаўляць, што мадэрнізм і анархізм – двайняты-браты.

Іх аб’ядноўвае барацьба супраць любой сістэмы, логікі, дух бунтарства, рызыка рэвалюцыі, драйв радыкальнай актывізацыі, поўнае самавыяўленне.

Мадэрністы ва ўсіх краінах часта сыходзілі ў палітыку. Чаго варты адзін толькі прыклад Марынэці, аўтара фразы: «Вайна – гэта вышэйшая эстэтычная каштоўнасць». Ён і яго суполка былі сярод заснавальнікаў італьянскага фашызму...

***

Нарэшце я атрымаў адказ на адно даўняе пытанне.

Як магло здарыцца, што ў Германіі, у краіне найвышэйшага прафесійнага майстэрства ва ўсіх галінах, у галіне выяўленчага мастацтва запанавалі бясталентнасць і авантурызм.

Што і хто стаіць за гэтым?

Уявіць няякасна зроблены “Мерсэдэс” немагчыма. Графаманскую кнігу выдаць тут за шэдэўр не атрымаецца. Пра музыку я наогул маўчу.

Але выставіць кучу смецця з памыйніцы або намаляваць «калякі-малякі» на палатне і выдаць гэта за шэдэўр умудраюцца многія. Універсальным пропускам тут з’яўляецца фраза «мастак так бачыць».

Аказваецца, водападзел адбыўся ў 1968 годзе. Тады, пад уплывам студэнцкіх хваляванняў, у імя свабоды творчасці было вырашана перагледзець сістэму акадэмічнай адукацыі ў мастацкіх ВНУ, прасцей кажучы – разбурыць старую акадэмічную школу. Шмат у чым гэта адбылося пад уплывам анарха-дэкадэнствуючых ідэй Франкфурцкай школы...

***

Памятаю, у пачатку перабудовы да нас у Мінск прыехаў з Германіі «пасланнік волі» – нейкі дзеяч мастацтва, гадоў сарака. Выкладчык адной прыватнай навучальнай установы, якія тады кляпалі як на канвееры, запрасіў нас на яго заняткі.

Студэнты, хлопцы і дзяўчаты гадоў дваццаці, прынеслі свае працы – сярод іх было не мала высокамастацкіх фігуратыўных твораў. Ён усё гэта забракаваў.

Назваў «савецкай архаікай» і стаў паказваць, як трэба маляваць акварэллю абстрактныя карціны. Усе глядзелі адкрыўшы раты, хоць некаторым ён па майстэрству і ў падмёткі не падыходзіў. Тады ўсім нам Захад здаваўся Мекай...

Сёння я бачу, як у Еўропе, мае суайчыннікі-мастакі пакутуюць у бясплённых спробах знайсці сваё месца ў мастацтве, не разумеючы, што цягнік пайшоў.

***

“Майстэрства без уяўлення ўласціва рамесніцтву. Уяўленне без майстэрства – сучаснаму мастацтву”.

Так лічыць ангельскі пісьменнік У. Стопард.

Такія мысляры, як В. Лявонцьеў, Г. Гесэ, Г. Маркузэ папярэджвалі пра будучую эру Вялікіх Спрашчальнікаў.

Яна даўно ўжо надышла, гэтая эра. Майстры прафанацыі ўладна і безапеляцыйна ўварваліся ў духоўнае жыццё грамадства і дыктуюць нам, як жыць, як думаць, якое мастацтва ўспрымаць і г.д. Гэтыя людзі здолелі навязаць грамадству іншую мараль, іншыя крытэрыі.

Што ноч – гэта дзень, што хвароба – гэта здароўе, што бруд – гэта чысціня, што д’ябал – гэта Хрыстос...

Яны ператварылі мастацтва ў балота, у якім патанулі абломкі палюсоў, якія страцілі лініярныя сувязі. Там ідзе бясконцае перакамбінаванне гэтых абломкаў, але яно не нараджае нічога новага, акрамя пачвар...

Бо абломкі не могуць выступаць у ролі суб’екта...

***

Мае апаненты ў розных краінах, абвінавачваючы мяне ва ўсіх смяротных грахах, часта зводзяць усё да аднаго агульнага назоўніка: “Ты вялікіх не чапай. Іх прызнаюць ва ўсім свеце!”

З гэтай нагоды прывяду выказванне Г. Пляханава: “Вялікія нам здаюцца такімі таму, што мы самі стаім на каленях”.

І паклаўшы руку на сэрца, прызнаемся сабе – па ўзроўні майстэрства ўся гэтая каманда «мэтраў» не цягне на ўзровень аднаго Паўла Філонава, майстра, амаль невядомага на Захадзе.

***

Абавязковасць, сумленнасць і талент – крытэр любога мастацтва. Першыя два вызначаюць сапраўднасць. Апошні – якасць.

Думаю, што самы пасрэдны ландшафт або нацюрморт XIX стагоддзя з любога еўрапейскага музея будзе мець каштоўнасць заўсёды. І не толькі антыкварную. Чалавечая прырода не мяняецца. Як ні працавала напружана некалькі пакаленняў авангардыстаў – вывесці з ужывання гісторыю мастацтваў ім не ўдалося.

Адзін толькі прыклад. На працягу паўгода ў Берліне працавала выстава «Партрэт эпохі Адраджэння». Квіткі на яе дастаць было цяжка...

Падрыхтаваная душа просіць добрае мастацтва. Не падрыхтаваная – просіць прыгожае.

Дэзарэнтыраваная задавальняецца кітчам або мадэрнізмам.

***

Хочам мы гэтага ці не, але мы вымушаныя жыць у прадказанай Г. Маркузэ сітуацыі, калі мадэрнізм змяніў саму гістарычную місію мастацтва. На шчасце, у Беларусі гэтага не было і няма. Натоўпы, якія даследуюць з дапамогай мастацтва свой галюцыйна-шызафрэнічны ўнутраны свет, беларускай культуры не пагражаюць.

Ці ёсць наогул сёння хоць нейкі авангард у Беларусі? Не. І няма ўжо некалькі дзясяткаў гадоў. Апошнім беларускім авангардыстам, які адпавядаў сапраўднаму значэнню гэтага слова, быў Казімір Малевіч. Хвалярэзам, аб які разбіліся хвалі, гатовыя змыць пласт класічнай культуры ў грамадстве, паслужыла акадэмічная школа. А таксама – здаровая ментальнасць гэтага грамадства.

Уявім, што было б, калі б у беларускім мастацтве перамаглі каштоўнасці мадэрнізму. Прыняцце іх грамадствам было б багата сур'ёзнымі анамаліямі і адчувальнымі стратамі не толькі для мастацтва, але і для сучаснага чалавека наогул. Гаворка ідзе пра канкрэтныя і сацыяльна абумоўленыя прыкметы дэградацыі духу, замяшаныя на адчуваннях бессэнсоўнасці жыцця і агрэсіўнай абыякавасці да каштоўнасцяў грамадства, сям'і, асобы...

***

Што ўласна новага з'явілася ў беларускім мастацтве за апошнія дзесяцігоддзі?

Амаль нічога.

Тая ж інсталяцыя абмежавалася трансферам удалай маркетынгавай ідэі. Не больш.

А пра дасягненні тэхнічных мастацтваў я наогул маўчу. Гэта ўжо іншая сфера.

А што было? Была гульня ў забаронены плод.

Ці надоўга хапіла гэтай гульні, якая стварала загадкава-прыцягальны свет юродзівых, гэтым і цікавы для насельнікаў рэальнага свету? Іх нядоўгі здзек з акадэмічнай школы прайшоў.

Не было чаго даць наўзамен.

Бо не ўспрымаць жа сур'ёзна іх несамакаштоўную пластыку, падпарадкаваную абстрактным ідэям, эфектнаму прыёму, стылізацыі, канцэпцыі... проста жарту. На гэтым страцілася першародства.

Верагодна са мной не пагодзяцца тэарэтыкі, якія пішуць у часопіс «Мастацтва».

Калі ласка. Ім і пяро ў рукі...

***

Як выглядае ў параўнанні з заходнім сучаснае беларускае мастацтва?

Яно здаровае.

Не здзіўляйцеся, менавіта гэта з'яўляецца яго галоўным адрозненнем. Асабліва, калі параўноўваць з нямецкім мастацтвам.

Знаходзячыся ў Мінску, я атрымаў моцнае ўражанне ад прагляду экспазіцыі выставы ў новай Нацыянальнай бібліятэцы.

Уявім, што калі б нехта адабраў 20 лепшых карцін і павёз бы гэтую выставу па Еўропе, то тамтэйшыя спецыялісты хадзілі б адкрыўшы рот. Ні ў адной з гэтых краінаў зборная каманда майстроў не выставіла б роўных...

Узровень прафесіяналізму ў Еўропе імкліва падае пад націскам субкультуры і людзей, якія ўмеюць трансфармаваць псіхоз у маркетынгавы ход для ўдалага бізнэсу.

Знаёмыя з Літвы скардзіліся, што там разам са свабодай і дэмакратыяй у выставачныя залы ўварвалася зграя неадэкватных і некіраваных, вечна абкураных і абколатых людзей. Бясплённых, як біблейская масліна.

Яны вывалілі ў гэтыя залы кучы смецця з прыгожай назвай «інсталяцыя», вывесілі палотны, аблітыя смалой і дзярмом (сапраўдным), і святкуюць сваю перамогу. А старых літоўскіх майстроў ўжо не прызнаюць...

***

Ці патрэбныя беларускаму мастацтву сучасныя ўплывы? Патрэбныя.

Было б каму аддзяліць збожжа ад пустазелля. Вось свежы прыклад. У Маскве адбылася прэзентацыя паэтычнага зборніка невядомага паэта-авангардыста-алігарха Б. Сіўко. Кіраўніцтва СП Расіі вужакай вілося вакол «патрэбнага» чалавека ў дарагім гарнітуры. Яго адразу прынялі ў сябры СП, уручылі прэмію імя С. Ясеніна і г.д. А гэта быў жарт-розыгрыш. Вершы навапаказанага авангардыста (сам ён быў нанятым акцёрам) былі складзеныя з дапамогай інтэрнэтаўскай праграмы «Генератар літаратурнага трызнення», сутнасць якой – вышморгванне радкоў, што падыходзяць па сэнсе, з твораў розных паэтаў. А само імя Б. Сіўко перакладалася, як трызненне сівой кабылы (**Б**ред **сив**ой **ко**былы)...

***

Большасць маладых беларускіх «авангардыстаў» проста не ўяўляюць сабе сапраўдны твар заходняга мастацтва.

Яны робяць авангард салоннага толку, блізкім да Fine Art, каб купілі напэўна. «Добры» авангард, як казаў Маркузэ. У Беларусі ніколі не было такіх носьбітаў трансцэндэнтнага адчаю і эстэтызацыі зла ў мастацтве, што вядзе да аберацыі грамадскай свядомасці, як Шарль Бадлер або доктар Хагенс. Беларуская ментальнасць проста не магла нарадзіць такіх людзей.

Ёсць яшчэ адна істотная прычына, чаму мадэрнізм не затрымаўся ў Беларусі ў 20-х гадах і не пусціў парасткі сёння. Яшчэ Х. Артэга-і-Гасэт сцвярджаў, што мадэрнізм – гэта праява элітарнай, арыстакратычнай амбітнасці. А элітны пласт у Беларусі заўсёды быў тонкі.

***

Памятаю з'яўленне першых твораў Мікалая Селешчука ў канцы 70-х гадоў на выставах у мінскім Палацы мастацтваў. Для нас, маладых мастакоў, гэта быў шок. Шакаваў узровень яго мастацкага майстэрства і вобраз мыслення. Думаю, аналагаў яму не было тады ва ўсім СССР, былі проста іншыя, не менш таленавітыя.

Тыя часы, як мне сёння бачыцца, наогул былі часам уздыму беларускага мастацтва. Пік «Песняроў», «Сяброў», «Верасоў». «Дзікае паляванне караля Стаха» і іншыя беларускія фільмы... А колькі яркіх мастакоў і літаратараў...

Але вернемся да Селешчука. Для нас, маладых, якія не ведалі арыгіналаў, ён стаў нашым Сальвадорам Далі.

Ці быў Селяшчук мадэрністам? І так, і не. Для Беларусі, тады, у 70-я, праз паўстагоддзі пасля Малевіча і Шагала – безумоўна так. Для еўрапейскага мастацтва – безумоўна не. Класічны прыклад позняга сюррэалізму...

Дарэчы, на мой погляд, ні Малевіч, ні Кандзінскі, ні Шагал, ні Эль-Лісіцкі і інш. прадстаўнікі віцебскай школы ўплыў на сучаснае беларускае мастацтва не зрабілі.

А Селяшчук зрабіў!

Колькі яго паслядоўнікаў працуе сёння... І як працуюць!

***

А як ідуць справы з мадэрнізмам у суседзяў – у Расіі? А ніяк.

Страціўшы ў 20-я гады пальму першынства, Расія яе зноў не здабыла. Не было сур'ёзных дасягненняў у падпольнага і напаўпадпольнага андэграўнду і нонканфармізму. Няма іх і сёння пры разгуле свабоды і дэмакратыі.

Сучаснае расейскае мастацтва адзначылася толькі тым, што разам з перабудовай на волю вырваўся цэлы натоўп людзей тыпу Алега Куліка і Аляксандра Брэнера, поўзаючых голымі па вуліцах еўрапейскіх гарадоў, накладаючых фекаліі ў галерэях і паказваючых свой чэлес наведвальнікам выставаў.

Такой колькасці авангардыстаў, якія здзекуюцца з хрысціянства як у Расіі, няма ні ў адной краіне свету.

Сячэ публічна іконы сякерай Аўдзей Цер-Аганян. Алегу Маўромаці па яго просьбе прыбіваюць да крыжа рукі цвікамі, а на спіне выразаюць лязом «Я не сын Божы».

Аляксей Касалапаў выстаўляе іконы, аблепленыя чорнай ікрой, якія ядуць гледачы...

Усіх сённяшніх расейскіх авангардыстаў разам узятых можна смела назваць імпатэнтамі ў параўнанні з іх папярэднікамі 20-х гадоў. Няма ні аднаго імя, годнага ўвагі. Адзіная сфера, куды яны імкнуцца прыкласці свае намаганні, гэта "аплявуха грамадскаму густу". Ды і тое гэта ўсё скончылася ў 20-ым стагоддзі. Сёння гэтая шушара старых, азызлых дзядзькоў і цётак, абколатых інсулінам і гераінам, пражывае ў швейцарыях-амерыках, патрапіўшы на радзіме пад артыкул «распальванне нацыянальнай і рэлігійнай варожасці».

Мабыць, у адну раку не ўступіш двойчы.

І гэта пры вялікай колькасці "грашовых мяхоў". Адзін з такіх «спецыялістаў» дабраўся нядаўна ў Берлін. У галерэі "Nikolaj" ён адкрыў выставу Каці Мядзведзевай, якую раскручвае па ўсіх правілах. Шмат гадоў, лічачы яе геніяльнай, ён скупляе ўсе яе працы. Разгарнуўшы мора рэкламы, ён вельмі здзівіўся, што на выставу ніхто не прыйшоў. Даваць характарыстыку творчасці васьмідзесяцігадовай Каці Мядзведзевай я лічу ніжэй за сваю годнасць. Скажу толькі, што яе работы знаходзяцца ў калекцыі галоўных дактароў некалькіх псіхлячэбніц.

Затое у Расіі квітнеюць па-ранейшаму традыцыі старой мастацкай школы. Узноўлены «Свет мастацтваў», «Грамадства перадзвіжнікаў» і шмат яшчэ чаго іншага...

***

Арыенціры ёсць і будуць заўсёды для тых, хто хоча іх знайсці.

Каханне, вясна, святло, мара, вечнасць, творчасць, мастацтва як духоўны каталізатар, праца над дасканаласцю формы і зместу... Бог, усё тое, што ўваходзіць у хрысціянскую этыку.

Менавіта ўсё гэта з'яўляецца супрацьлегласцю пустаце і разбурэнню.

Тым падмуркам, на якім можа ўзрасці новае і пазітыўнае, як на руінах і дахах пачынаюць расці маладыя дрэўцы – пасланцы ўсёпераможнай прыроды.

СЛОВЫ

Андрэй Масквін



…беларусы – гэта не толькі “людзі на балоце”.
Беларусы – гэта перадусім “Людзі на Узвышшы”!..

# “Узвышша” застаецца і на сёння ўзорам

***Гутарка з Ірынай БАГДАНОВІЧ***

***ТАВІЗ***

*...“скідаліся” на пляшку лошыцкага віна*
*з агрэсту ці антонаўкі,*
*малой цаны, але выдатнага смаку...*
Максім Лужанін

“Над чаркай выпітых гадоў
хачу спяваць, хачу маліцца”, –
Сказаў паэт узнёслых сноў
І ўзвелічэння Краю рыцар...

Праз хмары часу бачна нам,
Як п’юць сяброўства шчыры водар
Язэп, Уладзік і Адам,
Максім і, безумоўна, Тодар.

«Багемны» дым пад столлю віс
У рэстарацыі “Эўропа”,
Дзе ўвесь узрушаны ТАВІЗ
Свой ганарар любіў прапакаць.

Гаворка пра краіну йшла,
Пра тое, хто ў ёй свой, хто лішні,
Размова ткалася з цяпла,
Віно крышталячы ў кілішках.

Віно з агрэсту грэла кроў,
Віно з антонаўкі патолю
«Над чаркай выпітых гадоў»
Ліло і варажыла долю...

*(“Прыватныя рымляне”, Мінск, 2006, стар. 32.)*

***– Шукаючы верш для нашай гутаркі, я звярнуў увагу на тое, што ў кожным вашым томіку заўсёды ёсць некалькі вершаў, прысвечаных беларускім класікам: Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Алаізе Пашкевіч (Цётцы), Сяргею Астрэйку. Чаму вы звяртаецеся менавіта да гэтых пісьменнікаў? Чым яны вас вабяць да сябе?***

– Сапраўды, пачынаючы з “Чаравікаў маленства” (1985) – першага майго зборніка, дзе ёсць вершы, прысвечаныя Цётцы (Алаізе Пашкевіч) і Максіму Багдановічу, – ва ўсіх наступных кнігах таксама прысутнічаюць, так бы мовіць, “вершы-постаці”. Некаторых герояў гэтых вершаў вы ўжо назвалі. У гэтым жа “пантэоне” таксама пісьменнікі літаратурнага згуртавання 1920-х гадоў “Узвышша”, прадстаўнікі польскамоўнай плыні літаратуры Беларусі XIX стагоддзя Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка ды іншыя асобы айчыннай літаратуры і гісторыі. Магчыма, такое пастаяннае зварочванне да літаратурных постацяў мінулага (хаця ў мяне ёсць і вершы-прысвячэнні сучасным пісьменнікам) абумоўлена маёй прафесійнай дзейнасцю як літаратуразнаўцы – даследчыка літаратуры. Калі заглыбляешся ў матэрыял, а гэта заўсёды лёс чалавека, які самаахвярна служыў Беларусі і яе люду, то ўзнікае цэлы абвал такіх эмоцый, якія немагчыма змясціць у літаратуразнаўчым навуковым тэксце, бо яны патрабуюць іншай слоўнай матэрыі. Так і нараджаюцца гэтыя “вершы-постаці”: досвед пра чалавека-творцу, тыя ці іншыя факты яго біяграфіі ўскалыхваюць душу да такой ступені, што яна не вытрымлівае напалу і вылівае ў вершаваных радках тое бруенне пачуццяў, якое застаецца па-за артыкулам, дакладам або манаграфіяй. Так бывае, канечне ж, далёка не заўсёды, бо трэба, сапраўды, перажыць пэўны катарсіс, перажыць чужы лёс як свой, каб знайшлася для эмоцыі адпаведная форма. А гэта бывае не лёгкі досвед – трагічны, часта смяротны для твайго героя: як апошні пакецік суніцаў для Максіма Багдановіча ў Ялце; як 1918 і 1930 гады для Купалы; як расстрэльны 1937 год для Сяргея Астрэйкі; як глыток вады пад час лагернай перасылкі для Уладзіміра Дубоўкі... Гэта ўсё лёсы творцаў, якія служылі высокай Праўдзе Слова, а таксама Праўдзе той ідэальнай, адроджанай і найдаражэйшай Айчыны-Беларусі, якую ў іх пастаянна ў той ці іншы спосаб адбіралі і нявечылі. Гэта ёсць годная тэма для паэзіі, а вершы мае нараджаюцца самі сабой. Мне не трэба іх прыдумляць, яны нібыта самі клічуць мяне, каб увасобіцца.

***– Гаворку пра верш хацелася пачаць ад растлумачэння імёнаў. Хто гэтыя постаці, якіх вы ўзгадваеце? Ці можаце пра іх распавесці?***

– «...Язэп, Уладзік і Адам, Максім і, безумоўна, Тодар...» – гэта, адпаведна, сябры «Узвышша»: Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Максім Лужанін (з яго ж успамінаў і ўзяты эпіграф да верша), Тодар Кляшторны (а з яго верша ўзята цытата для першых радкоў). Назва верша “ТАВІЗ” расшыфроўваецца, можа быць, і крыху парадаксальна: “Таварыства аматараў выпіць і закусіць”... У свой час вядомы беларускі даследчык Лявон Юрэвіч, які жыве цяпер у Амерыцы і ўзначальвае Інстытут беларускай навукі і мастацтва (БІНіМ), апублікаваў перапіску



*Ірына БАГДАНОВІЧ.*

сяброў "Узвышша", дзе была згадка пра такое "Таварыства". Зразумела, што гэта не было штосьці афіцыйнае... 1920-я гады для нашай гісторыі літаратуры і грамадскага жыцця былі часам вельмі бурлівым, зменлівым; а змены, як пазітыўныя, так і трагічныя, абвальваліся проста не прагназуемым каскадам... Калі я думаю пра гэты час, і, здаецца, "жыву" ў ім, у мяне мурашкі па скуры поўзаюць... А гэта ж быў зорны час для такіх маіх улюбёных паэтычных постацяў, як Дубоўка, Пушча, Кляшторны. Імі, іх творчасцю я захапляюся і займаюся непасрэдна, пішу пра іх як даследчык літаратуры, у тым ліку на аснове архіўных матэрыялаў, тагачасных выданняў. Напісаны артыкулы, раздзелы кніг, прадмовы... За гэтым – пранікненне ў лёсы, у склад думак, у пазіцыю і адпаведныя ёй учынкі... Мяне не перастае мучыць думка, што гэтыя Паэты з Вялікай літары "адкупілі" нашую літаратуру ад звыродлівых "штампаў", прыстасавальніцкіх пад тагачасную палітычную кан'юнктуру формаў. Яны засталіся самімі сабой, пісалі так, як дыхалі... Былі ж жывымі, датклівымі людзьмі, такімі, як мы сёння! Маглі быць нашымі сябрамі, таварышамі па літаратурным згуртаванні... А ім жа накідвалі адпаведныя стэрэатыпы-ідэі: мусіш пісаць пра "дасягненні" сацыялістычнага будаўніцтва пад кіраўніцтвам кампартыі!.. А яны пісалі пра "Беларусь-шыпшыну", якая "ў ветры дзікім не загіне"; пісалі "Лісты да сабакі"; "гралі" свае вершы "на ледзяной гітары", каб паразважаць "над чаркай выпітых гадоў"... Яны былі найвялікшымі рамантыкамі і летуценнікамі свайго часу, мелі рыцарскія сэрцы, перапоўненыя любоўю да Беларусі. Ізноў жа – ўяўлялі і славілі ў сваіх вершах прыгожую, дастойную, самавартасную Беларусь... "Беларусь – маю шыпшыну", з якой тагачасныя палітыкі, пад прэсінгам сталінскай дыктатуры, выраблялі ўсё, што ім прадпісвалі, і пасылалі гэтых смелых і сумленных патрыётаў-летуценнікаў на расстрэл (як Кляшторнага і Бабарэку ў 1937-м і 1938-м гадах), або ў лагеры (як Дубоўку і Пушчу ў 1930-м годзе і пазней). Апошнія ж, на шчасце, здолелі выжыць і вярнуцца да жыцця ў другой палове 1950-х...

***– Вы апісваеце канкрэтную сустрэчу, якая адбылася ў рэстарацыі «Эўропа»? Ці гэта нейкая метафара?***

– Гэта, безумоўна, метафара, так бы мовіць, паэтычны вымысел. Але такі, які цалкам мог бы быць рэальным у канкрэтнай жыццёвай сітуацыі таго часу. Калі чытаеш розныя мемарыяльныя крыніцы, прысвечаныя 1920-м гадам, то бачыш,

што тады яшчэ існавалі ў Беларусі і будынкі, якія пазней былі знішчаныя, (а ў далейшым часе ўзноўленыя, як тая ж «рэстарацыя «Эўропа»); што былі яшчэ чыннымі і чыста чалавечыя адносіны, якія ні за ніякія грошы ані тады, ані ў сучаснасці не купіш... Гэта шчырасць сяброўства, чысціня і высокая бескарыслівасць кахання, здольнасць аддаць за гэтыя ідэалы жыццё... Цяпер многія пасмяюцца над гэтым... Але менавіта гэта выратоўвае нас, грэшных сучасных людзей, перад позіркам Божым... І я, як сучасны пісьменнік – даследчык мінулай літаратуры, мушу адэкватна ўяўляць і разумець менавіта тую сітуацыю, што склалася ў 1920-я гады, і вартую для цяперашняга адлюстравання ў творчасці: сітуацыю шчырага сяброўства, калі збіраюцца людзі, блізкія па духу... Што яны рабілі і абмяркоўвалі тады і там, за кілішкам «агрэставага»? Чым, якімі ідэаламі жылі?.. Хто быў «свой», хто «лішні» ў сітуацыі 1920-х гадоў, калі было абвешчана дзяржаўнае «паляванне» на «ворагаў народа», а гэтымі «ворагамі» былі найпаслядоўнейшыя беларускія патрыёты?.. Гэта была так званая «багема», або «прыватныя людзі» (тыя ж мае «прыватныя рымляне»), якія збіраліся за кілішкам беларускага – агрэставага – віна (натуральнага смаку!), каб, як пісаў Тодар Кляшторны, «над чаркай выпітых гадоў» паразважаць аб сваёй долі ды аб долі краіны-Беларусі і яе люду... Яны, нашы тымчасовыя славутыя беларускія паэты, выдатна разумелі палітычную пастку, у якую тады трапілі, дзякуючы сваёй самааддадзенай і самаахвярнай любові да Беларусі. Пастка ж была ў тым, што яны прамаўлялі аб Беларусі ў шчырым, нутраным пачуцці, тады як ад іх патрабаваліся пустазвонныя, завераныя пратаколамі палітычных нарадаў, афіцыйныя рэвалюцыйныя дыфірамбы... Літаратура ж ніколі не бывае нічога нікому павіннай... Яна пісала і піша пра тое, што думае, адчувае, перажывае... Калі натуральнай часу і перажываннем формы не знаходзіцца, тады нараджаюцца алегарычныя і сімвалічныя «лісты да сабакі і ад сабакі», «вішнёвыя хмары» і «ледзяныя гітары», «пярэстыя букеты» і вершаваныя «камбайны»... І гэта не проста высокая літаратура свайго часу! Гэта была, ёсць і будзе адзіна магчымая на ўсякі час літаратурная «апазіцыя» тым сілам, якія хочуць падпарадкаваць сабе пісьменніцкае слова... У мяне захоўваецца такое адчуванне, што гэта я нябачнай постаццю прысутнічаю між іх («Уладзікаў, Язэпаў і Адамаў...») у той жа рэстарацыі «Эўропа» на сяброўскай сустрэчы ў дзень «узвышаўскага» ганарару, чую іх размовы, часам сур'ёзныя, часам жартоўныя, хачу агучыць іх маўклівыя галасы ў сучаснасці... Уяўляю той узвышаны, летуценны паводле мараў аб новай шчаслівай краіне час, калі яшчэ хваля беларусізацыі не змянілася хваляй рэпрэсій... Вось беларуская вуліца; брук, уквечаны крокамі нашых непрыстасаваных да здрадніцтва класікаў-паэтаў "Узвышша"... Я іду гэтым самым брукам... Я нябачна заходжу ў славутую "рэстарацыю" разам з Тодарам, Максімам, Уладзікам, Язэпам... Толькі што быў іхні "ўзвышаўскі" сціплы ганарарык... І вось сядзяць гэтыя рамантыкі-летуценнікі ў мінскай "рэстарацыі", гавораць пра Беларусь... І яна ў іхніх гаворках высокая-высокая, светлая-светлая... Я там у сцішаным куточку сціпленька стаю... Прыслухоўваюся да шчырае размовы, каб лепш зразумець самую сябе...

***– Ва ўзвышэнцаў была тэорыя аквітызму. Які ейны галоўны сэнс?***

– Ужо ў першым нумары часопіса была надрукавана мастацка-эстэтычная праграма (тэзісы) згуртавання, у якой гаварылася аб тым, што мастацтва павінна быць узвышшам (у той час як з розных трыбун гучна абвяшчалася, што літаратура павінна быць зброяй класавай барацьбы). У самой канцэпцыі мастацтва як узвышша заключалася ўстаноўка на дасканаласць мастацкай формы, злучанай з нацыянальнымі традыцыямі і пазначанай адпаведнымі сучаснасці авангарднымі рысамі. Гэта быў пошук менавіта "беларускага стылю", у якім як найлепш выяўляўся б "стыль эпохі". Стварэнне такога стылю прадугледжвала між іншым культуру беларускай мовы, устаноўку на "канцэнтрацыйную вобразнасць", на "жыццёвую сымболіку" твораў, дынамічнасць кампазіцыі, адзінства мастацкай

ідэі, “разнастайнасць фармальных рэальнасцяў”. Самым жа істотным прынцыпам, які яднаў папярэднія, абвяшчаўся аквітызм – гэта тая “імклівасць, якой прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале”. Менавіта аквітычнай была ўся творчасць узвышаўцаў. Сімволіка назвы заключае ў сабе біблейскі архетып “жывой вады”. Аб гэтым пісаў яшчэ ў свой час светлай памяці Уладзімір Міхайлавіч Конан. На маю думку, варта лічыць гэты тэрмін, які стаў знакавым для згуртавання, удалай спробай вынайсці назву новага эстэтычнага кірунку, адрознага ад шматлікіх мадэрновых кірункаў і плыняў 1910-1920-х гадоў, – кірунку, які б рэпрэзентаваў менавіта творчую практыку “Узвышша”. Пры такім падыходзе ён дапаўняе аблічча еўрапейскага мадэрнізму і падоўжвае шэраг ужо вядомых на той час кірункаў і плыняў (сімвалізм, акмеізм, футурызм, імажынізм ды іншыя). Пры гэтым “разнастайнасць фармальных рэальнасцяў” дазваляла камбінаваць элементы розных паэтык. Зрэшты пра гэта я ўжо досыць падрабязна пісала ў маёй кнізе “Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння” (2001).

***– “Узвышша” было знішчанае. Што мы страцілі з ім? Якой была бы Беларусь, калі б “Узвышша” засталося?***

– Калі быць больш дакладнымі, то ў 1931 г. адбылася “самаліквідацыя” згуртавання. Безумоўна, гэта быў вымушаны крок пасля масавых арыштаў улетку 1930 годзе па справе так званага СВБ (Саюза вызвалення Беларусі). Засталіся ўзвышаўскія творы і творцы, якія нягледзячы на адарванасць ад літаратурнага жыцця, прысутнічаюць у літаратуры прамяністым сузор’ем, бляск ад якога толькі павялічваецца з цягам часу. Можна сказаць, што творчая практыка майстроў “Узвышша” застаецца і на сёння ўзорам, а таксама нацыянальным пісьменніцкім скарбам.

***– Без мінулага няма будучыні. Што “Узвышша” можа даць сучаснасці?***

– Яно і дае найперш адчуванне вышыні і красы: вышыні мастацкіх ідэалаў, красы самой творчасці, якая была для пісьменнікаў лёсам, а не нейкай там, як сёння стала модна казаць, гульнёй. Дарэчы, сама назва “Узвышша” мае таксама, як і аквітызм, схаваную біблейскую сэнсавую аналогію: у Бібліі прарокі заўсёды прапаведвалі на гары. Бо быць на гары, на ўзвышшы – значыць быць бліжэй да нябёсаў, бліжэй да Бога. Як бачна, гэта была свядомая ўстаноўка на дасканаласць. А гэтае паняцце ніколі не страчвае ні сэнсу, ні актуальнасці.

***– Ці рэалізуе хто сёння ідэалы “Узвышша”? Ці ёсцека ягоныя элементы ў сучаснай літаратуры?***

– Ёсць і ў сучаснасці нямала пісьменнікаў, якія адчуваюць і вышыню, і красу мастацкіх ідэалаў, так ці іначай рэалізуюць іх у сваёй творчасці. У пэўным сэнсе можна лічыць іх прадаўжальнікамі ўзвышаўскіх традыцый. Гаворка не ідзе пра перайманне або імітаванне, бо час змяняецца і ставіць перад пісьменнікамі новыя творчыя задачы. Аднак ні вышыні, ні красы ніякі час адмяніць не можа.

***– Апошнім часам, дзякуючы вам, у серыі “Беларускі кнігазбор” выйшлі дзве кнігі, прысвечаныя каталіцкім пісьменнікам. Чаму вы вырашылі звярнуць увагу беларускага чытача на творчасць менавіта гэтых пісьменнікаў?***

– Так, сапраўды, у серыі “Беларускі кнігазбор” у 2010 г. выйшаў том твораў Казіміра Сваяка (ксяндза Кастуся Стэповіча) , а ў 2011 г. – том выбраных твораў Вінцука Адважнага (айца-марыяніна Язэпа Германовіча). Яны былі не проста каталіцкімі пісьменнікамі, але і пісьменнікамі-святарамі. Святар жа – гэта ў пэўным сэнсе асветнік, настаўнік народу. Ён нясе яму Слова Божае, навучае паважнаму дабрачыннаму жыццю і, што самае галоўнае, навучае Любові: любові да Бога і да бліжняга, да сваёй сям’і, да бацькоў і дзяцей, да роднай зямлі і роднай мовы, да людзей іншых ... Традыцыя такога святарства-асветніцтва на нашай Бацькаўшчыне пачынаецца яшчэ ад Еўфрасінні Полацкай. А на пачатку XX стагоддзя разам з нацыянальным культурна-гістарычным адраджэннем пачалося і адраджэнне духоўнае. З’явілася цэлая пляяда беларускіх святароў-адраджэнцаў, якія рупіліся аб

беларусізацыі літургічнага жыцця, імкнуліся зрабіць Касцёл у Беларусі нацыянальным: праз увядзенне набажэнстваў на роднай беларускай мове; праз каталіцкія беларускія выданні – такія, як газета "Беларус", што выдавалася лацінкаю ў Вільні ў 1913 – 1915 гг., як малітоўнікі для беларусаў "Бог з намі" і "Голас душы". Апошні, дарэчы, склаў менавіта Казімір Сваяк. І ён, і Вінцук Адважны, апрача высокага святарскага паклікання, мелі кожны прыгожы бліскучы літаратурны талент, які дапамагаў ім праз мастацкае слова яшчэ глыбей пранікаць у сэрцы сваіх чытачоў-беларусаў, вернікаў і нават далёкіх ад веры, каб навяртаць іх да Любові. Найперш любові да сваёй заняпалай Бацькаўшчыны, да пагарджанай роднай мовы – да тых Богам дадзеных адзнакаў уласнай адметнасці ў свеце, каб у свядомым супольным народным чыне адбудоўваць Беларускі Дом. Або, як пісаў Сваяк, – каб Беларусь "пайшла гарой"! Была "гарой жыва"! Вось вам і яшчэ адно красамоўнае сведчанне пра ўзвышша! А гэта значыць, што беларусы – гэта не толькі "людзі на балоце". Беларусы – гэта перадусім "Людзі на Узвышшы"! У маім уяўленні яно так і ёсць, бо гэты досвед, пакінуты ў спадчыну папярэднікамі: пісьменнікі-святарамі, паэтамі-ўзвышэнцамі. І тыя, і другія ўсёй сваёй творчасцю, самім лёсам склалі ахвяру на алтар Бацькаўшчыны-Беларусі. А таму іх творы нясуць у сабе прамяністы светач высокай Ісціны, якая пазнаецца толькі Крыжовай дарогаю лёсу. Гэта не гульня ў перастаноўку літар у словах, як зараз модна эксперыментаваць у літаратуры. Але зрэшты і Казімір Сваяк, і Вінцук Адважны як святары вучылі б мяне нікога не асуджаць. Так што хай сабе моладзь пісьменніцкая эксперыментуе са словам, толькі б пакінулі ў спакоі святыя імёны нашых класікаў... Таму не выпадкова і ўзніклі кнігазбораўскія выданні літаратурнай спадчыны пісьменнікаў-святароў: бо калі дакранешся да гэтай спадчыны аднойчы, – стаецца яна жыватворчай крыніцай, з якой сам п'еш і хочаш падзяліцца гэтай жывою вадою – акавітаю, з іншымі. Вось жа ізноў гаворка выходзіць пра "аквітызм"!..

***– У апошні час адбываюцца дыскусіі наконт таго, як, па-першае, "еўрапеізаваць" беларускую літаратуру, а, па-другое, чаму ў сучаснай беларускай літаратуры так моцна трымаецца "савецкі дыскурс". Як вы адносіцеся да гэтых двух пытанняў?***

– Я не ў курсе гэтых дыскусій. На шчасце ці на жаль, не ведаю. Я лічу нашу літаратуру дастаткова еўрапейскай, а наконт "савецкага дыскурсу"... Не думаю, што гэта такая страшная загана. У савецкі перыяд у нас былі выдатныя творы і творцы, і няма чаго цяпер у гэта кідаць каменне. Беларуская літаратура сёння дастаткова самабытная, арыгінальная і цікавая. У ёй досыць шмат бліскучых творцаў, якімі магла б ганарыцца любая еўрапейская "вялікая" літаратура. У кагосьці з пісьменнікаў, можа, і ёсць той самы "дыскурс", а хтосьці, можа, занадта спяшаецца за еўрапейскай модай. Ну дык што?! Выберыце сабе чытанне па густу, гэта можна зрабіць. І няма чаго нам прападаць ад гэтага бясконцага "комплексу недасканаласці"! Трэба навучыцца шанаваць сваё, быць годнымі ўласнай класікі, развівацца далей. Так, моладзі трэба вучыцца і на еўрапейскіх узорах, але перш добра засвоіўшы свае. Такім шляхам ішоў калісьці Максім Багдановіч, так было і ў 1920-я гады ў той жа мастацкай практыцы "Узвышша". Для таго, каб нашу беларускую літаратуру чыталі і расхоплівалі выданні, нам не хапае не "еўрапеізаванасці". Нам не хапае масавага беларускамоўнага чытача, бо беларуская мова пастаўлена ў сучаснасці ў цяжкія ўмовы выжывання. Ды і ў Еўропе не ўсё так ужо і вартае пераймання. Наша сучасная літаратура вельмі розная: у ёй ёсць сталая, я бы сказала – "аквітычная" плынь, пазначаная высокай ступенню духоўнасці і мастацкасці, а ёсць і тое, што я прынамсі чытаць не буду, бо яно для мяне пустое і нецікавае. Імёнаў называць не буду, як і выносіць крытычных прысудаў. Проста адно чытаю, другое не. Зрэшты так і кожны: выбірае і чытае тое, што яму падабаецца, на што адгукаецца сэрца. І пры чым тут дыскусійныя "бурбалкі"?..

Кацярына Безмацерных



...устаў – і пайшоў у майстэрню.

Па-іншаму ты ўжо не ведаеш, як жыць...

# Такія розныя сусветы

***Гутарка з мастакамі Віктарам НЯМЦОВЫМ і Раісай СІПЛЕВІЧ***

***Нейк узялася Раіса Сіплевіч звычайны пейзаж пісаць, а атрымаўся кракадзіл на ружовым снезе. Адлюстроўваць тое, што, відавочна, нецікава. Фантазія заўжды перамагала традыцыйнасць. Блакітнавокая і добразычлівая мастачка свае студэнцкія гады правяла ў асяроддзі будучых таленавітых мастакоў. Яе аднагрупнікамі былі Коля Селяшчук, Валодзя Савіч, Мікола Купава.***

***Наша гутарка з Раісай Сіплевіч і мужам яе Віктарам Нямцовым адбываецца ў майстэрні Віктара Віктаравіча. Мастак паказвае адно са сваіх апошніх стварэнняў – дванаццаць акадэмічных і гарманічных пейзажаў з млынамі. І кожны млын, як чалавек, – са сваім настроем і характарам.***

**Блакітная машына Віктара**

*Віктар прыкмеціў Раісу пры першай жа сустрэчы. Але, каб аб’яднацца ў пару, пражыць трэба было яшчэ шмат гадоў.*

**Віктар Нямцоў**: Я скончыў апошні курс Мінскай мастацкай вучэльні, яна яшчэ тады размяшчалася ў оперным тэатры. Пятнаццацігадовая Раіса прыехала паступаць. На бялявенькую дзяўчыну з блакітнымі вачыма я адразу звярнуў увагу. Яна была такая танклявая, ганарлівая, са мной не размаўляла.

**Раіса Сіплевіч**: Другая сустрэча адбылася, калі ён ужо вучыўся ў Акадэміі, а я яшчэ была ў вучэльні. На юбілейны вечар інстытута запрасілі студэнтаў вучэльні. Я стаю на лесвіцы. Ідзе Віктар Віктаравіч з дзяўчынай пад ручку. Я паглядзела, зарэўнавала... Чаму так? Мы ж не былі яшчэ знаёмыя.

**В.:** Потым яна вучылася ў Акадэміі, а я ўжо выкладаў. Ведаў, што ёсць такая студэнтка на кафедры графікі. Аднойчы іду ў Акадэміі, а яна стаіць на лесвіцы, плача. Што такое? Ёй трэба было рэчы ў вёску адвезці. Я кажу: "Якія праблемы? Давай дапамагу!" Я тады набыў якраз машыну і думаў, куды б паехаць. Машына была блакітная, падыходзіла да колеру яе вачэй.

*Быў 1973 год. Гэта было лёсавызначальнае здарэнне.*

## А вялізарную галаву Давіда намалюеш?

*У Сіплевіч і Нямцова – непадобныя творчыя лёсы. Хаця і разам, але расцякаюцца не адным, двума раўчукамі. Ёсць сем'і, што працуюць у адной майстэрні, яны – у асобных. І пішуць зусім, зусім па-рознаму.*

**В.:** У Акадэмію я паступіў у 1966-ым годзе – на станковы жывапіс. Першы год пасля вучылішча не паступаў: не было набору, бо якраз пачаўся рух дызайну, "праммастацтва" яно называлася. Год адпрацаваў мастаком на камвольным камбінаце, потым у цырку, які якраз адчыніўся. Загадчыкам кафедры станковага жывапісу ў тыя гады быў народны мастак Іван Восіпавіч Ахрэмчык. Я тры гады правучыўся на станковым аддзяленні. Але мяне больш вабіў манументальны жывапіс. Падабалася мазаіка, ляўкас, роспіс, вітраж, праца з архітэктурай – такія цікавыя складаныя заданні. Пайшоў да загадчыка манументальнага аддзялення Гаўрылы Вашчанкі, паказаў яму свае працы – і ён узяў мяне на трэці курс.

*А пасля сканчэння інстытута прапанавалі застацца – з 1972 года Віктар Віктаравіч выкладае ў Акадэміі малюнак. Сярод першых студэнтаў Нямцова – Уладзімір Зінкевіч, Іван Кліменка, Аляксандр Ксяндзоў, Віктар Альшэўскі.*

*– Віктар Віктаравіч, чым адрозніваюцца студэнты 70-х і цяперашнія?*

**В.:** У чужую душу не залезеш, але мне здаецца, мы былі больш рамантычныя, больш ідэалісты. Былі ўпэўненыя: трэба аддаваць творчасці ўсю сваю душу, і тады цябе заўважаць, запросяць кудысьці. Самі ніколі не набіваліся. Зараз студэнты больш практычныя. Імкнуцца прабіцца любымі шляхамі. Відаць, жыццё дыктуе свае правілы.

*– А пра свае педагагічныя прынцыпы распавядзіце...*

**В.:** Прынцыпы адны – у нас акадэмічная школа. Мае намаганні накіраваны на тое, каб зрабіць пастаноўкі цікавымі і карыснымі для студэнтаў. Напрыклад, вялікая галава Давіда. Напачатку студэнтам цяжка яе намаляваць. А гэта ж прынцып разумення вялікай формы ў прасторы. Увогуле, мая задача не паставіць у нейкія рамкі, а прывіць любоў да малявання. Бывае, возьмеш курс, так дрэнна малююць. Відаць, што праз намаганне. А прыдумаеш нейкую пастаноўку, вызначыш канкрэтную задачу, зацікавіш – ужо і вочкі загарэліся, і пайшла канструктыўная праца. Я быў на стажыроўцы ў піцерскай Акадэміі. Наша Акадэмія адрозніваецца і ад маскоўскай, і ад піцерскай: там вельмі строгія рэгламенты. У нас больш творчы падыход.

*Ёсць, вядома, у Віктара Нямцова і яшчэ адно жыццё – па-за Акадэміяй.*

**В.:** У савецкія часы выконваў шмат замоваў: мазаіка, вітражы, габелен. Пісаў таксама карціны. Раней былі распаўсюджаны так званыя "дацкія" выставы – да



*Віктар НЯМЦОЎ і Раіса СІПЛЕВІЧ.*

якой-небудзь даты: 60 гадоў СССР, 40 гадоў савецкай міліцыі і г.д. Браў удзел, як і ўсе мастакі ў той час. Вельмі люблю пісаць эцюды з натуры, бо разнявольваешся там і адчуваеш сябе сапраўдным мастаком. Заўжды, калі некуды еду, у машыне з сабой эцюднік. Не напішу працу – з дрэнным настроем вяртаюся. Няхай яна нават шэраговая, але прыедзеш у майстэрню, паставіш – і адчуваеш, што жыццё пражытае недарма.

## "Мы адзін аднаго разумелі з паўпозірку"

*У 1970 Раіса Сіплевіч паступіла ў Тэатральна-мастацкі інстытут – на графіку. Прэстыжна гэта было ў тую эпоху.*

**Р.:** Вельмі вялікі конкурс быў на аддзяленне манументальнага мастацтва і на графіку, бо тады гэта запатрабаванае было. Цяпер больш папулярны дызайн. У часы майго студэнцтва было шмат дзяржаўных замоваў на ілюстрацыі, якія давалі магчымасць мастаку зарабіць. Дзіцячыя кніжкі раней выдаваліся неймавернымі накладамі! І дыктату выдаўца раней не было такога, як цяпер, кожны мог выявіць сваё "я". Таксама мяне прываблівала тэхніка афорту, літаграфія, гравюра. Ну, і ўсе ведалі, што на аддзяленні графікі даецца вельмі высокая прафесійная падрыхтоўка. У нас у групе былі дзве дзяўчынкі – я і Ларыса Палякова. Гэта ўнікальна было ў тыя часы! Усе хадзілі і глядзелі, што гэта за дзве дзяўчынкі, якіх узялі на графіку адначасова. Калі бралі, то толькі адну. Ды і тое не на кожны курс. Ларыса была цудоўнай мастачкай. На жаль, вельмі рана памерла. Цікава было вучыцца. Не хачу

ўзгадваць пра прагляды, калі ночы не спіш. Шмат усялякіх заданняў было. Малюнак, жывапіс, афорт, літаграфія, гравюра, кампазіцыя, шрыфты, плакат, ілюстрацыі. Усё гэта трэба прыдумаць і выканаць! Наша група была вельмі адданая сваёй працы. Дапазна працавалі ў інстытуце, пакуль не прыходзілі вахцёры і не пачыналі выганяць. Не памятаю нават, каб гарбату пілі, не кажучы пра нешта мацнейшае. Не было такой звычкі. А ўвечары ішлі ў сталоўку вячэраць. Пакуль туды дойдзем, столькі смеху было! Ад чаго – самі не ведаем. Відаць, ад стомленасці. Мы адзін аднаго разумелі з паўпозірку... З Колем Селешчуком я сябравала яшчэ з вучэльні, і ў інстытуце былі ў адной групе. Гэтае сяброўства захавалася на ўсё жыццё.

**В.:** Так. Яны маглі па тэлефоне гадзінамі размаўляць і часта сустракаліся ўжо пасля заканчэння інстытута.

*"Партрэты творчай моладзі" – дыпломная праца Раісы Сіплевіч.*

**Р.:** Я спачатку планавала зрабіць серыю літаграфій вядомых беларускіх дзеячаў культуры: Караткевіча, Барадуліна, Мальдзіса, Семянякі. Патрэбныя былі накіды з натуры. Караткевіча адшукала ў Каралішчавічах. Там тады быў Дом творчасці пісьменнікаў. Прыехала, Караткевіч са зламанымі рэбрамі. Ён, бедны, уздыхаў-уздыхаў, але сеў. Падчас абеду кліча мяне з сабой, я, натуральна, сціплая, адмаўлялася. Ён пайшоў, паабедаў, і ідзе назад з падвязанай рукой, з талеркамі для мяне... Пасля праводзіў мяне да аўтобуса. Дарога праз лес. Збіралі смаржкі. Я тады першы раз убачыла, як яны растуць. Малявала і Барадуліна, і Семяняку, і Мальдзіса. Артыста-лялечніка, балерыну, артыста балета. Недарма ўсё гэта было. Адчувала вялікую адказнасць, што не змагу ў тэрмін выканаць партрэты такіх знакамітых людзей. Усё ж гэтыя партрэты я зрабіла, але ўжо пазней.

## Валёнкі, кажух, пальчаткі... І пісаць!

*Карацей, у інстытуце было цікава. І цяжка. Але ж калі пачынаецца дарослае жыццё, мастаку становіцца яшчэ цяжэй!*

**Р.:** Гэта няпроста: калі скончыў вучыцца, захавацца ў прафесіі. Асабліва жанчыне, каб нечага дасягнуць, трэба нежаночая вытрымка і мэтанакіраванасць. У кожнай жанчыны сям'я і побыт займаюць увесь час. Знайсці месца для творчасці можна толькі вялікімі намаганнямі волі. І на кожны дзень мець дакладны рэгламент. Ніякага паслаблення. А каб атрымаць месца для працы – майстэрню, трэба каб цябе заўважылі. У мяне першая майстэрня была на Кісялёва, там, дзе гэтыя прыгожыя двухпавярховыя дамкі. А трэці паверх – мансарда. Вось такая мансарда і была ў мяне. Але без ацяплення. Пятнаццаць гадоў экстрэмальнай працы. У памяшканні зімой амаль як на вуліцы. Апранала валёнкі, кажух, пальчаткі, шапку, абагравальнік ставіла. Халодна, але ўсё адно пісала, пісала, пісала. Потым, калі пашанцавала, далі іншую майстэрню. Там ужо была батарэя. Я плакала ад шчасця. Доўга не магла прызвычаіцца, што можна распрануцца і працаваць.

*– Усе мы людзі культурныя. Якія творы сфармавалі вас як асобаў?*

**Р.:** Шырокае пытанне, зараз калейдаскоп у галаве. Памятаю, у дзяцінстве прывяла ў жах і захапленне адначасова карціна Пікасо "Мацярынства". Я не разумела, ці яна мяне палохала, ці, наадварот, вельмі падабалася. Хаця я не ведала, хто такі Пікасо. У сталым узросце Клімт уразіў. А каб кумір, няма такога. Калі была ў Амерыцы, пашанцавала ўбачыць шмат што. Нешта расчароўвала, нешта захапляла. Пасля гэтых музеяў я вынесла для сябе, напрыклад, Міро.

**В.:** Выхоўваліся ў першую чаргу на класіцы. Гэта такія недасягальныя вышыні! Мне вось падабаецца Бялыніцкі-Біруля. Для Беларусі ўсё ж характэрныя складаныя, стрыманыя колеры.

## “Вось зробіш працу, тады і цікавей кантактаваць!”

*Раіса Сіплевіч нарадзілася пад сузор’ем Блізнятаў, а Віктар Нямцоў – Дзева.*

**В.:** З блізнятамі ніколі не сумна. Ніколі загадзя не ведаеш, чаго ад іх чакаць. Але часта час, які маглі б аддаць адно аднаму, аддаем на працу ў майстэрні. Мы абодва разумеем, што трэба займацца творчасцю. Вось зробіш нешта, тады і цікавей кантактаваць. Добра, што заўжды ёсць з кім параіцца, ёсць каму пакрытыкаваць. Хаця яна мяне хваліць незаслужана, больш, чым крытыкуе. Таму я яе ў апошні час ужо і не клічу ацаніць працу, бо аб’ектыўнасці не дачакаешся!

*Я ж падумала: проста Раіса – сапраўдная Жанчына, а значыць, добразычлівая і прыязная.*

**Р.:** Напрыклад, студэнты, якія ў мяне вучацца... (Раіса выкладае ў Гімназіі-каледжы мастацтваў імя Ахрэмчыка – *аўт.*) Ува ўсіх індывідуальны твар. Няхай мне падаецца, што нешта і не зусім добра, але ў кожнага свае вочы. Сядзіць студэнт, чалавека з натуры малюе. На мой погляд, не так, не тое. Пачынаеш глядзець на натуру яго вачыма – і сапраўды, можна было так гэтага чалавека ўбачыць! Тады мае заўвагі абмяжоўваюцца ўдакладненнем канструкцыйнай пабудовы. Трэба дазваляць мастаку быць самім сабой. Нехта сказаў: “Калі я буду такі як ты, то хто будзе такі як я?”

*– Постмадэрністы кажуць, што мастацтва – гульня. А вы?*

**В.:** Мастацтва для мяне – лад жыцця.

**Р.:** Можа, гэта і высакапарныя словы, але гэта сапраўды наша жыццё. Устаў – і пайшоў у майстэрню. Па-іншаму ты ўжо не ведаеш, як жыць.

*– Як паспяваеце – і выкладаць, і ў майстэрні працаваць?*

**Р.:** Сама здзіўляюся: і сям’я, і двое дзяцей, і ўнука выгадавалі. Добра, што ў мяне муж такі, сам можа нешта зрабіць. Чым менш у цябе часу, тым больш ты паспееш зрабіць. Калі дзеці маленькія, усё разлічваеш. Нічога не адкладваеш, бо заўтра будуць іншыя праблемы. А выкладаю я ўсё дарослае жыццё. Толькі бяру абмежаваную колькасць гадзінаў, каб застаўся час на творчасць. І, вядома, многім трэба ахвяраваць. Напрыклад, адпачынкам, выходнымі днямі. У мастакоў наогул не бывае святаў. Дакладней, свята праходзіць таксама за працай у майстэрні.

**В.:** Яна вельмі плённа працуе, гэта мне трэба раскачацца, настроіцца. Калі дзеці былі маленькія, Раіса толькі на дзве-тры гадзіны вырывалася папрацаваць. Тыдзень праходзіць, я прыходжу да яе ў майстэрню – тры-чатыры новыя працы, закончаныя, прыгожыя! Яна – эмацыйная, адразу кідаецца маляваць, а я ўсё прадумваю.

*Розныя яны асобы, і мастакі таксама розныя.*

**В.:** Я вырашыў аднойчы пісаць абстрактную карціну, а атрымалася аголеная жанчына перад люстэркам.

**Р.:** Віктар думае больш канкрэтнымі вобразамі, а ў мяне, наадварот, фантазійна-асацыятыўнае мастацтва.

*– А бывае такое, што зусім не дазваляеце сабе хадзіць у майстэрню?*

**Р.:** Не хадзіць не дазваляю, а не рабіць нічога ў майстэрні дазваляю.

**В.:** А куды яшчэ ісці, акрамя майстэрні?

*Спярша крыху насцярожаны і закрыты, Віктар Віктаравіч усё больш раскрываецца і нарэшце становіцца гэткім жа шчырым, як жонка. Халодна ў майстэрні – напрыканцы гутаркі яны з бацькоўскім клопатам пояць мяне гарбатай з каньяком. А вакол стаяць гарманічныя і акадэмічныя карціны Віктара, вісіць вялізарная галава Давіда і пасмяротная маска Пушкіна. Шмат эцюдаў у Віктара Віктаравіча з Навагрдчыны, з роднай вёскі Раісы Сіплевіч. Памятаеце? Калісь малады выкладчык малюнка альтруістычна завозіў дахаты ў вёску блакітнавокую студэнтку.*

Фота Ганны Леванковай.

Леанід Галубовіч



...паэзія – гэта тое,
што нельга патлумачыць прозаю...

# “Пры святле адзінокай здагадкі...”

*О, як мой слых здаўна казыча*
*Струна, якую не спыню.*
*Я для яе калісь пазычыў*
*Хірамантычнага агню.*
*І мой скрыпаль асветліў ноты,*
*На ўсе на іншыя забыў,*
*Зайграў мелодыю басоты,*
*Якою сам нядаўна быў.*
*І апантаных гукаў крозы*
*Маю аблытвалі юдоль.*
*А на смычку яго, як слёзы,*
*Бліщчэла гойна каніфоль.*

“Скрыпаль”, Уладзімір Марук

Я не з тых, хто прэпаруе і раскладвае вершы па палічках і раздзелах – гэта грамадзянская лірыка, а гэта нацыянальна-патрыятычная, гэта творы пра прыроду, а гэта пра каханне, тут метрыка такая, а там рытміка гэткая, во рыфма мужчынская, а во жаночая, тут вершы класічна-традыцыйныя, а тут верлібры (пакінем усю гэтую пазатворчую матэматыку нашым руплівым літаратуразнаўцам).

Сама ж паэзія, як даўно сказана, альбо ёсць, альбо яе няма. І калі яна ёсць, то пра яе сутнасць трэба гаварыць, хоць і наўзбочнымі, але яе ж катэгорыямі, шукаючы высокі чалавечы дух творцы ў яго спрадвечным прыземленым быцці. Прасцей кажучы, справа літаратурнага крытыка адкрываць (калі хочаце – прапагандаваць, рэкламаваць) чытачу Паэзію і Паэтаў, а не вершыкі і вершаскладальнікаў. Прынамсі, я разумею гэта так і такога падыходу пры рэцэнзаванні паэтычных кніг прытрымліваюся.

Нядаўняя пасмяротная кніжка Уладзіміра Марука (1954-2010) і ўся яго папярэдняя творчасць у гэтым шэрагу не выключэнне.

Не раз бывала, што пасля заўчаснай смерці паэта нешта змушала мяне прыглядзецца да яго творчасці з іншага ракурсу. І ўбачыць раней зацененыя рэчы. Гэтак сталася і з ім. Мы з Валодзем непадалёк адзін аднаго нарадзіліся, а ў апошні час поруч і працавалі. Не скажу, што мелі моцныя стасункі і нейкае неразлі-вада сяброўства. Хутчэй як землякі заўжды хораша і прыязна таварышавалі. Ён нават заспеў выпіць са мной пляшку чорнага “Вермута” на рэдакцыйным падваконні камуністычнай газеты “Звязда”, недзе ў сярэдзіне 80-х, якраз незадоўга да майго поўнага ацвярэжэння... Таму і вось гэтыя яго пранізлівыя радкі чытаюцца мною з церпкім настоем настальгіі па ўсім нашым былым-маладым:

Сокал б’ецца ў тваё акно
І не чуе твайго адказу:
“Да віно ж, віно зеляно
Не пілі мы з табою разам!..”

Але ж пілі ўсё-ткі... На здароўе ці не? – пытанне безадказнае, аднак факт, што хоць ненадоўга, а знаходзілі праз яго хмель і мужчынскую дзёрзкасць, і паэтычнае натхненне...

Я памятаю яго першы цёмна-сіні зборнічак вершаў “Зоркі ў кронах” (1982 год). Памятаю, як быў уражаны да ўсяго і тым, што малады паэт аказаўся яшчэ і маім равеснікам-земляком, родам з недалёкай вёскі Гута (за пятнаццаць кіламетраў ад майго Вароніна). На той час на сваёй хатняй этажэрцы я меў на пашэве такі ж танюткі і лірычна выглянцаваны зборнік рускага паэта Анатоля Жыгуліна “Прозрачные дни”, з якім яшчэ вельмі доўга не разлучаўся. Але то была руская душа (не тое што “потемки”, але ўсё ж), а тут свая, родная, ва ўсіх сэнсах блізкая. Да таго ж, я ганарыўся, што і мы ў сваёй глыбокай лясной правінцыі маем адмысловага таленавітага паэта. Падругое, я натуральна ў яго вучыўся, хоць і быў старэйшы на чатыры гады, мове і майстэрству версіфікацыі, бо пэўны час у арміі і колькі часу пасля яе спрабаваў пісаць па-руску... Гэтыя два зборнічкі і па сёння падаюцца мне выбітнымі. У іх няма лішніцы, а ўсе нешматлікія вершы гарманічна, ідэйна і “сюжэтна” спалучаны адной прыцягальнай музыкай творчай душы... Вось толькі некалькі помных цытацый з той кніжачкі: “Дубы кладуць гады// Ў камлі і карнявішчы”; “Рэчку, змялелую ў чэрвені,// Ліпень напоўніць не змог”; “Цемры вусце. Сліў аскома.// І нічога акрамя.// Толькі нехта кліча: “Тома!”// А яе нідзе няма”; “Палахлівыя плечыкі,// Пацалунак, як госць”; “А я, такі малы,// У ночы на парозе”; “Чырванагрывы ранак гоніцца// За чарнабровай ноччу ўслед”; “Калі дзівішся ціхаму слову,// Калі звонкія словы маўчаць”...

Не сказаць, што дэбют паэта быў незаўважным, але і не зацвердзіўся ў строгім “памінальніку” маладой паэтычнай абоймы, якія тадышняя крытыка цягала паўсюль, як кулямётчыкі патранташ з патронамі на абмуляных плячах. Дарма.

Не выклікаў шырокага розгаласу ў прэсе і другі яго зборнік “Ліст рабіне”, але ў камерным літаратурным асяроддзі пра яго былі цікавыя гаворкі і разрозненыя меркаванні. Гэта ўжо была не спроба асцярожлівага чыстапісання, а самастойнае сачыненне. Можа не на зусім яшчэ вольную тэму, але з адкрыта заяўленым пожадам на яе. Працытую хоць бы вось гэты верш:

У позні час і позняя каса
З апошніх сіл дакошвае атаву.
Пагладжвае туман па валасах
І студзіць думкі пра чужую славу.
І хай бы хто са мной загаварыў,
І неспадзеў перакурыць паклікаў,
Каб я, крый Бог, сябе не адарыў
Кавалкам славы, хоць і невялікім.
Каб я адчуў, што трэба панасіць
І мазалі па сціплых вулках вёскі,
Што трэба ўсё жыццё касіць, касіць...
А дбаць пра славу – гэта ўжо дакоскі.

Альбо вось яшчэ адна з вызначальных строф:

І ў сябе на дзядзінцы,
І ў старонцы чужой –
Пакланюся былінцы.
Хто ж паклоніцца ёй?!

Ці ўрэшце гэтыя характэрныя для Валодзі радкі:

Я з тых, хто не вякуе,
Хто сее і хто жне.
Прашу, пакуль жыву я,
Не дбайце пра мяне.

А хто дбаў?! Ну, а ў самога, як бачым і ведаем, творчага эгаізму і прэтэнзій на літаратурнае прызнанне, – ані каліва. Усе вершы яго пераважна для ўнутранняга карыстання, глыбока душэўныя, праніклівыя. У іх паўставала сама асоба паэта як паднебнага творцы і простага зямнога чалавека адначасна. Характэрнасць яго метафар, эпітэтаў і параўнанняў адпавядала яго ўласнаму светаўспрыманню, паводзінам і ўчынкам. Вершы былі жывыя, нервовыя і балючыя, але без напускных жэстаў, са слабым імунітэтам да праяў грамадскага жыцця і непрадказальнай рэфлексіяй ад сутыкненняў з тымі праявамі.

Ці не таму даволі часта напрыканцы зборніка з’яўлялася слова “апошні”. Ды і пераважала ў тых вершах тэматыка восені і роздуму, смерці і развітання... Такімі на той час былі танальна-мінорныя матывы яго паэзіі, ды і самога жыцця паэта таксама...

Перакананы, што С. Дубавец у сваім артыкуле “Схема” неапраўдана і, можа, нават наўмысна ўвёў У. Марука ў адзін шэраг з версіфікатарамі, чым негатыўна і незаслужана зацаніў станоўчую рэпутацыю таленавітага паэта. Хутчэй за ўсё ў той перабудоўчы “бурапенны час” (1987) Сяргея Іванавіча раздражняла праца Валодзі літкансультантам у партыйнай газеце “Звязда”, яго заўважныя ўзаемаадносіны са згаданымі ў тым жа артыкуле вершаскладальнікамі (Мятліцкім, Мазго, Хвалеем, Камароўскім ды інш.), а да ўсяго яшчэ і з’яўленне тых “зорак” у назве яго першага зборніка. Я не магу памысліць, каб С. Дубавец, прачытаўшы сёння ўсё напісанае У. Маруком, мог застацца пры тых жа сваіх колішніх крытычных перакананнях адносна яго паэзіі і не адчуў сваю памылку перад таленавітым ва ўсіх адносінах чалавекам.

Хоць сапраўднымі яго сябрамі былі аднакурснікі па ўніверсітэцкім філфаку, на жаль рана адышоўшыя, выбітныя паэты Алесь Пісьмянкоў і Віктар Стрыжак ды, бадай, яшчэ Кастусь Жук. У звязку з апошнім коратка распавяду пачутую ад самога Марука гісторыю чатырохгадовай даўнасці. Патэлефанавала яму аднойчы ўстрывожаная жонка Кастуся і папрасіла, каб зайшоў неяк, пагаварыў, бо муж упаў у глыбокую пахмельную дэпрэсію. Валодзя прыйшоў у той жа вечар. Пры жонцы злёгку паўсчуваў "заняпалага" сябрука, хоць сам быў у не менш прыкрым псіхалагічным стане, а калі тая выйшла, таямніча спытаў: "Вершы-то пішаш яшчэ, халера?.." "Пішу, бляха, зрэдку", – мляўка адказаў Кастусь. "Тады давай мне, надрукуем у "Полымі", хоць які ганарар будзеш мець", – папрасіў-запэўніў Марук. "Ведаю я ваш ганарар, ссівееш чакаючы, гані папярэдне аванс, тады й вершаў дам..." – з хітрым разлікам упёрся Жук. "Як гэта?!" – не зусім разумеючы падтэксту пакрыўджана спытаўся Валодзя. "А так, стаў пляшку – і па руках", – коратка і безапеляцыйна выпаліў Кастусь. І Валодзя загадкава, але ўпэўнена палез у свой падазрона адтапыраны партфель... Што праўда, неўзабаве пасля гэтага даволі прыстойная падборка вершаў Кастуся Жука была выдрукавана. Пэўна ж з часам і нейкі ганарар аўтару быў сплочаны.Такая вось сумна-пацешная гісторыя.

Але найбольшая дружба (менавіта на гэтым слове, а не на сяброўстве, часта настойваў Алесь) была ў яго з Пісьмянковым. Нездарма пасля заўчаснай смерці сябра Валодзю можна было штогод сустрэць на Радаўніцу ля магілы Алеся на Кальварыйскіх могілках. Цяпер рэдка каго з паэтаў сустрэнеш ля магілы Пісьмянкова, а ля свежай аддаленай магілы Марука – тым болей...

Трэцяя кніжка Уладзіміра Антонавіча выйшла ў 1991 годзе і, як памятаю, яе вельмі высока цаніў рана адышоўшы ад нас арыгінальны пісьменнік і драматург Алесь Асташонак. Ён хросны маёй дачкі, таму нярэдка бываючы ў нас на добрым падпітку, заводзячы бясконцыя жарстлівыя размовы пра літаратуру, не раз і не два ўзнёсла да слёзнасці цытаваў радкі і строфы менавіта з гэтай кніжкі Валодзі. Асташонак быў інтэлектуалам і знаўцам еўрапейскай літаратуры (валодаў французскай, перакладаў і з іншых моў), таму творам не многіх беларускіх паэтаў выпадала патрапляць на яго вусны.

У адвечныя строі і сёння душу прыбіраю,
Час па кроплі збягае – бы кроў з вастрыя...
Як паклікалі жыць – дасюль за жыццё не пытаюць,
Бо гатовы адказ не ўмяшчае прырода мая.

Эзатэрычны падтэкст яго твораў не адстароньваў іх ад чытача, а прыцягваў сваімі патаемнымі знакамі і намёкамі. Сапраўдная паэзія ўзвышае нас над наіграной мастацкай дэкларацыяй. Паэт павінен не проста напісаць сцілом, як ён любіць усім сваім сэрцам Айчыну ці дзяўчыну, але і абавязаны тым жа сэрцам любіць іх насамрэч, каб бескарысна прыгнятаць яго (уласнае сэрца) да канчатковай перанапружанасці і стомы ад гэтай выпалай на яго долю нялёгкай зямной любові.

Як жа магло так стацца, што паэт такога даравання застаўся, можна сказаць, малавядомым і не "вхожим" у эліту сучаснага краснага пісьменства? На мой погляд, яму не хапала знешняй (прылюдна-паказной) і біяграфічнай асабовасці (вылучнасці), а таксама адпаведных неардынарных чалавечых учынкаў дзеля больш шырокага грамадскага розгаласу, чым той, які існуе ў той вузкай літаратурнай тусоўцы, да якой ён збегам жыццёвых абставін быў умоўна прыпісаны, што было парадаксальным і ніяк не адпавядае яго таленту. Таму ён так балюча перажываў усе акалічнасці свайго ўласнага і грамадскага жыцця ўнутры сябе, амаль не выносячы яго калізій на людзі...

Я вашыя вяршыні не чытаў,
За вашы мне не сорамна вяршыні,
Як небу за высокі колер сіні,
Якога аніхто не патаптаў.

Паэзія – гэта тое, што нельга патлумачыць прозаю. Аднак улічваючы выказванне вядомага француза – “усё, што не алфавіт, паэзія” – можна зрабіць пра яе нелагічную выснову як пра згарманізаваныя творцам хаос і невымоўнасць чалавечага духу... Пры тым, маючы на ўвазе адно істотнае ўдакладненне, што Паэт адпавядае абранаму ім слову, а Слова спагадлівае да абранага Ім паэта...

Можна таксама беспамылкова сказаць, што вершы У. Марука ў сваёй пераважнай большасці інтымна-спавядальныя. Маючы ў аснове ірацыянальнае мысленне, падсвядомаснае і касмічна-бязважкае светаўспрыманне, яны тым не менш трымаліся на заземленых тропах, на карэнных зломах якіх Нечай няўвіднай рукой загадзя раскладваўся пасьянс лёсу самога паэта і ўся яго перадгісторыя... Аднак жыццесцвярджальная паляшуцкая натура трывала ў ім да апошніх дзён... Паэт, які на працягу ўсёй сваёй паэтычнай творчасці намагаўся ўтаймаваць сваю жарстлівую натуру і дарэшты разгадаць уласную чалавечую сутнасць, заслугоўвае у рэшце рэшт права быць намі зразуметым...

Калі каноны пойдуць на спачын
І застанецца толькі лёс адзін
Прад спавядальным светам вечаровым,
Угледжу, як ляцяць між аблачын
Адрынутыя некалі высновы.
Прыціхлым сонцам голас наталю,
Адгалашу крывёй сваё “люблю”,
І перайду апошнюю дарогу,
І самую гаротную зямлю
Вазьму навек сабе за абярогу.

Такім вершам заканчвалася кніжка “Інкрустацыя голасам”... каб ім жа – тым жа словам абярог, што на мясцовым дыялекце гучыць як КУДМЕНЬ, азагаловіць сваю новую (на жаль, ужо пасмяротную) кніжку...

За год да свайго сыходу Валодзя распавёў мне пра згублены ім у грамадскім транспарце нататнік, у якім было каля сарака новых вершаў, што мала-памалу складваліся для чарговай паэтычнай кніжкі. І, як мне падалося, я бедаваў па гэтай страце больш, чым ён... Ажно пакуль яго дачка Вераніка, якая, дарэчы, таксама піша беларускія вершы і ўжо выступала з імі ў “ЛіМе”, не вырашыла паехаць у тралейбуснае дэпо, дзе бацькоўскі рукапіс і быў знойдзены.

Памятаю, я адабраў тады для публікацыі ў “ЛіМе” блізу пятнаццаці яго вершаў, якія ўразілі мяне сваёй неаднамернасцю, аддалена-эзатэрычным вычуваннем і непрыхаваным душэўным небажыхарствам самога аўтара.

А што да самой згубы, то творы сапраўдных паэтаў заўжды знаходзяцца (у абодвух значэннях гэтага слова) – у сметніцах, тралейбусных дэпо, на гарышчах і на вугольным тле мінулага часу...

Рукапіс апошняй (пасмяротнай) кніжкі “Кудмень” праляжаў у выдавецтве “Мастацкая літаратура” з 1996 года – пятнаццаць гадоў. Цікава, што У. Марук нейкі час у гэтым прамежку якраз і працаваў галоўным рэдактарам гэтай канторы, і, каб меў нораў сённяшніх дзяржаўных чыноўнікаў, то, напэўна, знайшоў бы магчымасць выдаць даўно запылены там уласны рукапіс. Але – не. А ўсё, на што спадобіўся цяперашні галоўрэд, – гэта (па ўласнай ініцыятыве ці па просьбе зацікаўленых людзей) прынесці Валодзеў рукапіс у РВУ “Літаратура і

Мастацтва" А. Карлюкевічу, дзе яго нарэшце і выдалі кніжкай, бо і маральная сітуацыя вымагала (тут У. Марук працаваў і адсюль пайшоў з жыцця на той свет). Валодзя назваў яе, як я ўжо казаў, дзіўна – "Кудмень" (прабачаюся, але нават не ведаю, на якім складзе трэба ставіць націск). Гэта прызабытае дыялектнае слова палешукоў піншчыны (азначэнне яго я тлумачыў вышэй). Нарадзіўшыся непадалёк, я не памятаю, каб яно ўжывалася ў нас на клеччыне. Можа і з такой вось прычыны:

Па залатых валоках жыта
Залётны вецер коціць звон.
Якая памяць не пражыта,
Якія дні ідуць на скон?

Здавалася б, далёкі ад палітыканства, раптам піша тое, што нярэдка абмінаюць нашы вядомыя паэты-трыбуны:

Ды спяшацца дарма
Перахоўваць пралікі, –
Выкрывае зіма
Нашы цёмныя лікі.

І ўжо зусім сентыментальна даводзіць нам сваім уласным духоўным досведам пра надзённае і вечнае, пра славу і сябелюбства, прыўладнае і прарочае, штучнае і натуральнае. Без надрыву, сцёбу і пафасу. Проста і паэтычна:

Ўвасланы рыдзелямі схілы
Тае міфічнае гары,
Якою трызняць да магілы,
Аж не заснуць правадыры.
..............................................
А на вяршыні свеціць сонца,
І добра бачыцца здалёк,
Што на яе, як абаронца,
Садзіцца звабны матылёк.

Мушу адцеміць, аднак (прабач, Валодзя, што кажу гэта за вочы), што нярэдка паэт так перанагружае свае вершы тропамі, што чытач губляецца, заблытваючыся ў марыве мінорна-мройных асацыяцый... Шматзначная вобразнасць, празмерная метафарычнасць, перанасычанасць дыялектычнымі словамі часам замінаюць выявіцца сэнсу і міжволі раздражняюць чытача... Як сам ён напісаў:

А словы курчацца і круцяцца,
Як хвост скалечанае яшчаркі,
Да непрызнання не прывучаны,
Нібы распешчаныя падчаркі.

Трэба сказаць, у мяне складвалася такое ўражанне, што і сам ён нібыта вёў падвойнае жыццё: фізічна-быццёвае і творча-мастацкае... Унутраная заглыбленасць (пастаянны одум, літаратурнае манаства) не заўсёды дазвалялі яму выйсці з сябе вонкі, перадолеўшы бар'еры фізічнай і душэўнай закансерванасці... (Не будзем забывацца і на выдаткі рэдактуры гэтай яго кніжкі.) Але хіба па гэтых вось радках нельга зразумець яго таемна-стоены душэўны стан?

І ноч прылашчыцца наўлечкаю,
І анікога не ахае.
А свет паветра невылечнае
Праз нашы лёгкія ўдыхае.

Вядома, за гэтыя шаснаццаць гадоў ад дня здачы рукапісу зборніка “Кудмень” у выдавецтва “Мастацкая літаратура” ў паэта напісалася шмат новых твораў. Многія з іх друкаваліся ў дзяржаўных і незалежных перыядычных выданнях (да прыкладу, вялікі пасмяротны цыкл “Намоўленае” ў мінулым годзе ў “Дзеяслове”), іншая літаратурная спадчына засталася ў чарнавіках... (Не будзем забываць, што ён выдаў і некалькі цікавых кніжак для дзяцей). Калі б знайшоўся чалавек (нехта з яго дзяцей?), які б сабраў і прывёў да ладу яго творчую спадчыну, то гэта выглядала б вельмі годна перад памяццю паэта. Праўда, пакручасты жыццёвы лёс Уладзіміра Антонавіча не дае пэўнасці гэтаму, бо апошнія дзесяцігоддзі ён падоўгу не жыў на адным месцы, ды і жыў балюча-нервова, нераўнуючы як на вуголлях... Шмат што, як я ўжо зазначаў, згублена, параскідана, а некаторыя агульныя сшыткі з запісамі, вершамі і накідамі, як ён мне сам казаў, іншым разам знарочыста выкідваліся на сметніцу неспагадлівымі да яго людзьмі... Ды і нязбытная хранічная хвароба не дазваляла адкрывацца шырокай перспектыве заўтрашняга жыцця.

Што казаць, ён быў АДЗІНОКІМ, ціхім, слухмяным, дысцыплінаваным, руплівым, працавітым... Дзяржаўныя начальнікі-бюракраты, не баючыся пралічыцца, заўжды прызначалі яго сваім намеснікам...

Валодзя першым, на досвітку, прыходзіў на працу, апошнім, надвячоркам, сыходзіў адтуль. Днямі сядзеў за сваім рабочым сталом унурыста і амаль безвылазна, рэгулярна вяртаючы сябе ў першапачатковы тонус пяццюдзесяццю, а то і ста грамамі дабротнага напою, часцей за ўсё каньяку... Усе, хто заходзіў да яго, заўсёды адчувалі той палынова-церпкі пах хмельна-паэтычнага ўзвышэння. Адкаснуўшыся ад абрыдлых, пераважна пустапарожніх рукапісаў, ён прачытваў куплены свежы нумар “Прессбола” (быў заўзятарам футбола і сам вельмі добра гуляў у настольны тэніс). Шмат часу нэндзіўся, абцяўшы галаву рукамі, гледзячы ў стол ці ў прызанавешанае на вуліцу акно... Думаў. І відаць, “намаўляў” тыя самыя, не даведзеныя да кандыцыі, вершы...

Ні з кім не сварыўся, нікога не зачэпваў сам, але мог стыхійна ўспыхнуць з цяжкімі для апанента паследкамі, калі раптам той адважваўся вывесці яго з сябе... Праўда, такое рэдка здаралася. Жыццё цякло аднастайна і прадказальна. Трэба было самому мысліць і дадумваць яго сутнасць... Нехта змагаўся з уладай. Хтосьці з ёй супрацоўнічаў. А ён дужаўся з самім сабой (прычым бесперспектыўна: без перамог і паразаў). Паўставаў супраць самім жа створанага ўнутранага свету – зміраўся, любіў і ненавідзеў. Айчына і мова былі апошнімі фарпостамі, за якімі холадна зеўрыла нежыць...

Туды ён раптоўна і нечакана для ўсіх, ціха і незаваўжна праваліўся два гады таму (пахавалі яго чамусьці не на родных гуценскіх могілках поруч з бацькам, а ў малазнаёмых яму халодных Калодзішчах). Як ні горка і парадаксальна казаць, але і абярог яго не ўбярог. Пакінуў жа ён тут толькі тое, што магло выжыць і застацца. Сваю паэзію. Нам. Калі прымем, канечне. Я ўсяго толькі напамінаю пра гэта па абавязку земляка, калегі і таварыша. Бо не за гарамі і наша неба...

Сяргей Астравец



...Освальд у пэўным сэнсе нагадвае, скажам, Самсона Самасуя альбо гогалеўскага Хлестакова ...

# Кватэра з відам на Свіслач

***Аляксандар Лукашук, "Сълед матылька. Освальд у Менску". "Бібліятэка Свабоды. XIX стагодзьдзе", 2011, 390 стар.***

"След матылька. Освальд у Менску" Аляксандра Лукашука. Я чакаў гэтай кнігі. Гісторыя, якая непакоіць, незразумелая, загадкавая. Зусім жа блізка быў яе пачатак, мы там ходзім самі. Так, гісторыя Освальда заўжды трывожыла, хвалявала. Апошнія гады ягонага жыцця — гэта авантурніцкі сюжэт з трагічным заканчэннем. Было шкада ахвяру, прэзідэнта Джона Кенэдзі, але ж пачуццё жалю выклікаў і былы менчук, як магчымая ахвяра памылковай высновы следства. Як вядома, Освальд толькі быў названы абвінавачаным, пасля чаго яго забілі. Ягоны забойца следам таксама развітаўся з жыццём.

Са школы памятаю першую прачытаную кніжку пра сучасную амерыканскую трагедыю. Інтрыгавалі здымкі, зробленыя на балконе кватэры на Камуністычнай: безумоўна, добры агляд — Свіслач, парк, штаб, фон для здымкаў, але таксама месца размоў з думкай пра схаваныя мікрафоны ў кватэры.

### З Менску без любові…




У нашых мясцовых крыніцах прынята пісаць "падазраецца ў забойстве Прэзідэнта ЗША", у тамтэйшых — "прызнаны забойцам". Хаця многія амерыканцы дагэтуль сумняваюцца, следства з удзелам самога падазраванага было немагчымым. Першы сумнеў: тры стрэлы былі зробленыя менш, чым за шэсць секунд... Пазнейшыя расследаванні дапусцілі, што стралкоў было два.

Далей: Освальд у руках са стрэльбай і газетай кампартыі "The Worker" — ці не фотамантаж, нявcovered дaследчыкі? Зрэшты, ён першым запярэчыў: гэта падробка! Але жонка Марына адразу пацвердзіла, што на здымку ён пазіраваў ёй. Адмаўляў, што ўмее страляць, хаця быў стралком, любіў фатаграфавацца са зброяй... Потым — загадкавае забойства па дарозе ў турму, у прамым тэлеэфіры.

Уплыў менскага перыяду жыцця на тое, што здарылася потым... Сапраўды, гэта прынцыпова важна, хай ён мог быць толькі ўскосным. Але досвед жыцця ў Менску, нечаканы, унікальны для амерыканца напачатку 1960-х, безумоўна, адбіўся на маральным стане, свядомасці, паўплываў на самаацэнку, на яго пазнейшыя ўчынкі.

Аляксандр Лукашук задаў пытанне аб гэтым амерыканскаму раманісту Норману Мэйлеру, адзінаму, хто працаваў у менскім КДБ з дакументамі, якія датычылі жыцця Освальда ў сталіцы БССР. Мэйлер гэтую сувязь бачыў: Освальд уведаў жыццё ў СССР з пункту гледжання звычайнага рабочага, якім працаваў у Менску. Ён адчуў, што знае больш за іншых савецкія парадкі, што робіць яго асаблівым, адметным, значным.

### Павярхоўная дастаеўшчына

Вельмі сімвалічна, што першым падарункам, які Освальд атрымаў яшчэ ў Маскве на дзень народзінаў, быў раман Дастаеўскага "Ідыёт". Тут важны, зразумела, не змест (не думаю, што вялікі нудны(??) твор XIX стагоддзя амерыканцу быў па зубах), а назва. Напэўна ж, сам Освальд не раз адчуў сябе менавіта ідыётам, падмануты вельмі хутка савецкай рэчаіснасцю. Дзівосы: ці яму карцела пераканацца на свае вочы, што СССР не мае нічога агульнага з антыўтопіяй Оруэла "1984", пра якую ён узгадвае?

У СССР Освальд амаль адразу трапіў у псіхушку, ускрыў сабе вены, калі яму адмовілі ў савецкім грамадзянстве... Пра здарэнне з ім — уцёк у СССР, адмовіўся ад амерыканскага грамадзянства — паведаміла заходняя прэса, ён стаў вядомым... Чаго нельга было сказаць пра СССР: марыў стаць студэнтам у Маскве, адправілі рабочым у правінцыю, ад яго жадання нічога не залежала. Яго чакалі "праца шэрая" і ў якасці забавы "прафсаюзныя танцы". Хапіла па горла аднаго года савецкага існавання. Калі наступіў 1961-шы, ён вырашыў, што "з яго досыць". О, шчасце, грамадзянства захавалася, Освальд пачынае захады, каб вярнулі амерыканскі пашпарт.

### 1961

Рашэнне выспявала цягам студзеня, калі ў ЗША выбралі самага маладога прэзідэнта — Джона Кенэдзі. Не сказаць, каб у СССР, у сацлагеры жыццё застыла на месцы, не. Палёт Гагарына, кодэкс будаўніка камунізму, падземны выбух

самага моцнага ядзернага зараду, пабудова Берлінскай сцяны, вынас Сталіна з маўзалея. Ну, і вяселле Лі Харві Освальда з Марынай Прусаковай.

Але з радзімы даходзілі іншыя навіны. Няўдалы дэсант на Кубу праціўнікаў Кастра. Застрэліўся Хэмінгуэй. Вярхоўны суд ЗША: кампартыя павінна зарэгістравацца, як арганізацыя, у якой большасць членаў — замежнікі.

“Рэйсы свабоды”: актывісты спраўджваюць, ці дапускаюцца ў маршрутныя аўтобусы афраамерыканцы? Твіст выбухова робіцца папулярным у ЗША дзякуючы аднайменнаму шлягеру. Карціна Рэмбрандта набыта нью-ёркскім “Метраполітанам” за неверагодную суму — два мільёны трыста тысяч долараў. Кенэдзі назваў прыярытэтнай задачай высадку чалавека на Месяцы да канца дзесяцігоддзя.

Невядома, ці слухаў Освальд, скажам, “Голас Амерыкі”? Але ў тым ці іншым выглядзе навіны даходзілі... Першае паспяховае выкраданне самалёта, які зрабіў пасадку ў Гаване. Былы прэзідэнт Дуайт Эйзенхаўэр заяўляе, што ёсць небяспека для палітычнага становішча ў краіне з боку пэўных сілаў, “ваенна-прамысловага комплексу”. Кастра ў канцы года абвяшчае сябе марксістам-ленінцам і што павядзе свой народ да камунізму. ЗША разарвалі дыпламатычныя адносіны з Кубай. “Востраў свабоды” Освальда не мог не цікавіць, што паказалі пазнейшыя падзеі.

## Освальдсковіч

У марской пяхоце за цікавасць да СССР яму прыдумалі мянушку “Освальдсковіч”, гучала не зусім правільна, але даволі па-беларуску.

Калі задумацца, Освальд у пэўным сэнсе нагадвае, скажам, Самсона Самасуя альбо гогалеўскага Хлестакова, толькі фінал трагічны. Правакатар, прайдзісвет, шукае вострых прыгодаў, неўраўнаважаны (раздае пазней уласнага вырабу ўлёткі мінакам “Рукі прэч ад Кубы!”, бойка з кубінскімі эмігрантамі). Словам, авантурыст. Нездарма КДБ турбуе, ці гэта не “дурацкая правакацыя ЦРУ”? І робяцца намаганні, каб высветліць: ці ён сапраўды быў тым, за каго сябе выдаваў?

Не скажу, што я марыў пра кнігу беларускага паходжання, не, проста хацелася больш прачытаць пра менскі час гэтай гісторыі. Цяпер ёсць менавіта беларуская кніга. Хаця Аляксандр Лукашук зазначае, што першае “літаратурнае следства” адносна жыцця Освальда ў Менску правёў Норман Мэйлер, напісаўшы “Гісторыю Освальда”. Яна дапамагла беларускаму аўтару напісаць сваё паралельнае літаратурнае следства.

Лукашук падсумоўвае сваю працу: “Не ўсё вычарпана, канечне”, Освальд мог сустракацца ў Менску з іншымі людзьмі, пошукі можна працягваць. Аднак відавочна, што “След матылька”, знаходзячыся ў Менску, напісаць было б даволі цяжка. Аўтар зрабіў важныя рэчы: спачатку пераклаўшы раздзелы з кнігі Мэйлера, пазнаёміўшы з імі слухачоў Радыё Свабода і зрабіўшы інтэрв’ю з пісьменнікам. Ніхто не даведаўся, не ўзяў інтэрв’ю, калі той хадзіў па менскіх вуліцах. Потым, пасля выхаду кнігі, у Штатах знайсці яго было значна цяжэй...

Параўноўваючы Освальда з матыльком, Аляксандр Лукашук надаў дакументальнай кнізе менавіта закончаную, зграбную празаічную форму. А ўключаючы ўрыўкі “мемуараў” Освальда, пазначае яшчэ адзін пласт гэтай гісторыі: амерыканец меў выразныя аўтарскія амбіцыі, аб чым доктар Говард Роўм, які аналізаваў рукапісы, засведчыў, што той неабгрунтавана ацэньваў свае “літаратурныя магчымасці”.

Сапраўды, Освальд — пісака нудны. Ты чакаеш, што ўбачыш гарадскі ландшафт з набору шакаладак: вежы на чыгуначным вакзале з цыферблатам, яны

на той час хіба ўжо існавалі, нечаканы абсалютна Чырвоны касцёл, нарэшце ўнушальны абеліск, які так і просіцца параўнаць з вашынгтонскім, напрыклад. Праўда, ён запісаў, што Мазураў жыў у васьміпакаёвай кватэры на праспекце (не ў рэзідэнцыі), і колькі каштаваў тады батон. Хаця ў Штатах ён мог працягнуць свае запісы задняй датай, выпісаўшы "Советскую Белоруссию".

## Вымытая падлога

Освальд жыў у Менску ля радыёвежы, працаваў на радыёзаводзе. Цікава, што на адной вуліцы рабілі прыёмнікі з кароткімі хвалямі, з магчымасцю злавіць заходнюю радыёстанцыю, на другой стаялі моцныя глушылкі, каб слухаць было немагчыма.

Да сёння інтрыгуе настойлівае жаданне Марыны Освальд вымыць у кватэры абавязкова падлогу перад ад'ездам. Ці гэта прыкмета такая важная, забабоны, ці яна была проста дбайнай гаспадыняй? Зрэшты, гэта зусім няважна, у Штатах чыстая падлога, пакінутая ў Менску, нічым не паспрыяла.

## Двайнік Освальда?

Тэма была выйгрышнай — на паверхні. Але пакуль ніхто з нашых не ўзяўся, не пачаў капаць глыбока, яна выглядала міражом, паветраным збудаваннем.

Кніга Аляксандра Лукашука стала падзеяй: незвычайны матэрыял, адметнае ўвасабленне. Цікава, што ён пакідае магчымасць для іншых аўтараў нетрывіяльным крокам. Аўтар прапанаваў Мэйлеру ўявіць, што за амерыканскім пісьменнікам, які наведаў Менск, каб напісаць кнігу пра амерыканца, які тут некалі жыў, сочаць, праслухоўваюць, прымушаюць пісаць справаздачы асобаў, якія з ім кантактуюць. А пазней прыязджае даследчык творчасці гэтага пісьменніка і атрымлівае доступ да архіваў спецслужбаў, якія за ім сачылі. "Мэйлер засмяяўся", – паведамляе Лукашук.

Пасля кнігі "След матылька. Освальд у Менску" ў Штатах выйшаў новы раман Стывена Кінга "11/22/63", гэта дата забойства Кенэдзі (у Штатах, як вядома, перш пазначаецца месяц, затым дзень). Тэма не пакідае пісьменнікаў абыякавымі. Кінга зацікавіла: як магло б быць, каб Кенэдзі застаўся б жывы... У сваю чаргу, нам не забараняецца іншы сюжэт: што магло б стаць з Освальдам, каб забойства прэзідэнта не адбылося? Як бы ён скончыў, былы менчук, колькі і якіх дроў яшчэ наламаў бы?

Кароткі лёс Освальда для мясцовага літаратара знаходка таксама. Рэзкія словы Лі Харві: "Мяне затрымалі таму, што я жыў у Савецкім Саюзе. Я проста ахвярны казёл". Хлусня? Ці ўсё ж падабенства праўды?.. Адна эксгумацыя ў 1981-м чаго вартая — каб высветліць, ці не замянілі Освальда ў СССР двайніком? Тут, у Менску, напрыклад?

Калі загінуў прэзідэнт Джон Кенэдзі, савецкая прэса выступіла ў сваім амплуа: не сказаць вельмі істотнага пра Освальда — што ён жыў у СССР, у Менску! У Амерыцы жылі дзясяткі мільёнаў жыхароў, і толькі адзін з іх — на беразе Свіслачы. Гэтым незвычайным фактам з біяграфіі ён быў адметны ад усіх астатніх яшчэ да забойства прэзідэнта.

# Глобус Беларусі

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Ганна Аўчыннікава. Ад зачыненай брамы. – Гродна, 2011 (Гарадзенская бібліятэка). – 55 с.**

Ганна Аўчыннікава – пераможца “Залатога Апострафа” за лепшы дэбют у “Дзеяслове” ў 2005 годзе. І вось нарэшце выйшла сціплая па аб’ёме кніга паэткі (але калі ж гэта вартасць паэтычнай кнігі вызначалася яе таўшчынёй?). У прадмове да кнігі Анатоль Брусэвіч прылічае аўтарку да “неадэкадэнтаў”, тых, для каго мастацтва – “не гульня, не бізнэс, не вайна, але рэлігія, вера ў святую моц Слова”. Да характарыстыкі паэтыкі спадарыні Ганны напрошваецца багдановіцкае вызначэнне “чыстае красы”. Яе вершы пераважна пазітыўна-жыццесцвярджальныя, часам – эстэцкія, у станоўчым сэнсе гэтага слова. Бытавыя турботы й канкрэтныя праявы часу застаюцца для іх чымсьці другасным. Перадусім – пачуццё, настрой, фіксацыя зрухаў душы... Між тым, сустракаюцца й іранічныя радкі, прысвечаныя рэаліям сённяшнім:

*...Мы мірныя, братка, людзі,*
*Мы любім святло вясны,*
*А будзе тыран, не будзе –*
*Абы не было вайны...*




**Вера Бурлак. Творы соннага жанру. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 100 с.**

“У мінскім метро лініі параўнальна кароткія, – піша аўтарка ў такой сабе тлумачальнай запісцы пад назовам “Проза для чытання ў мінскім метро”. – Яны патрабуюць адпаведных раманаў. Падоўжацца лініі – і, магчыма, раманы стануць даўжэйшымі”. Так, у кнізе ёсць “дэтэктыўны”, “філасофскі”, “дамскі”, “прыгодніцкі” раманы, што разам займаюць крыху больш за дзесяць старонак...

Калі вершы Джэці пераважна хуліганска-пацанскія, то проза Веры Бурлак нават не жаночая, але жаноцкая – з усім вынікальным адсюль: нелінейнасцю мыслення, напаверхневай сентыментальнасцю, поўным паглыбленнем у вербальную стыхію мовы й разліцці ў ёй.




**Уладзімер Лобач. ULASLOVY. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2011. – 108 с.**

Медытатыўная, засяроджаная на архетыповасці, паэзія. Паэзія без позы. Няроўная – як дыханне вандроўніка, што ўзыходзіць на пакручастыя стромы з заплечнікам жыццёвага досведу ўперамешку з абласнымі слоўцамі й мясцовымі досціпамі, забытымі тапонімамі, што “гукаадлюстроўваюцца” (А. Разанаў), ствараючы крыху самотную ўзвышаную настраёвасць. Гэта і вершы-люстэркі, дзе адбіваюцца вушацкія азёры, дзе барочныя рысы, абрысы гатычныя, аброчныя крыжы й высокае нардычнае неба Паўночнай Беларусі зарыфмаваныя ў межах аднаго чатырохрадкоўя.

*Яснавяльможны люты*
*увечары грае на лютні,*

*дзе струнамі – трысьнягі,*
*а слухачамі – сьнягі,*
*сьнягі, да самага небакраю,*
*і нашыя сны...*
*Люты на лютні грае.*



**Алесь Няўвесь. Глобус Беларусі. Вершаваныя фельетоны. – Смаленск: Універсум, 2011. – 431 с.**

Творчасць Алеся Няўвеся – унікальная з'ява ў сучасным літаратурным працэсе. Яна ўражвае – як маштабамі колькасна-старонкавымі, гэтак і маштабамі якасна-мастацкімі. Вострае пяро сатырыка адгукаецца, здаецца, абсалютна на ўсе вострыя праблемы, што існуюць у краіне. Па кнігах А.Няўвеся можна вывучаць палітычную, эканамічную, грамадска-культурную сітуацыю Беларусі.

Дай Божа дажыць нам да часоў, калі Няўвесевы фельетоны стануць непатрэбнымі. Покуль жа, як канстатуе паэт, *"Яна, улада, б'е пад дых. / І сёння – скажам прама – / Ты, мой чытач, / Не знойдзеш кніг / Ні ў шапіках, ні ў крамах"*. Таму нагадваем, што і з новымі, і з ранейшымі фельетонамі Алеся Няўвеся можна пазнаёміцца на сайце: www.alesnauwes.com.



**Ірына Шумская. Музыка ў кантэксце беларуска-польскага міжкультурнага ўзаемадзеяння. – Мінск: Медысонт, 2011. – 160 с.**

Манаграфія кандыдаткі культуралогіі Ірыны Шумскай храналагічна абмяжоўваецца перыядам з канца ХІХ – да другой паловай ХХ стст. Для аўтаркі відавочна, што "вірлівыя плыні беларускай культуры знаходзяцца ў рэчышчы культуры агульнаеўрапейскай, і найбольш яскрава гэта адчуваецца ў музыцы". Кніга складаецца з двух частак: агляднай, дзе выяўлена сацыякультурная спецыфіка беларуска-польскага ўзаемадзеяння ў першай палове ХХ ст., і нарысавай, якая прысвечана найбольш яскравым музычным дзеячам, народжаным на Беларусі – Канстанціну Горскаму, Сымону Рак-Міхайлоўскаму, Мечыславу Карловічу, Яну Тарасевічу, Браніславу Руткоўскаму.



**Лявон Юрэвіч. Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. – Мінск: Кнігазбор, 2012 (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 20). – 660 с.**

У юбілейным дваццатым выданні "Бібліятэкі Бацькаўшчыны" выйшла дыхтоўная таміна эпісталярнай спадчыны культурных герояў на эміграцыі. Ліставанні Кастуся Акулы, Наталлі Арсенневай, Радаслава Астроўскага, Юркі Віцьбіча, Янкі Запрудніка, Франца Кушаля, Міхася Тулейкі і шмат каго яшчэ. Толькі раздзелы "Бібліяграфічны даведнік" і "Паказнік асобаў" складаюць пад сотню старонак. "Шматгалосы эпісталярыум" чытаецца як захапляльная сага пра лёсы людзей, што і ў далёкіх выгнаннях у думках і памкненнях заставаліся на роднай Беларусі.

# Нашыя аўтары

**Астравец (Астраўцоў) Сяргей** – празаік, публіцыст, журналіст. Аўтар кніг прозы «Янычары», «Цэнзарскія нажніцы», кнігі публіцыстыкі «Лісты да хома саветыкуса», «Каты Ёзафа Ратцынгера» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Гародні.

**Бакач (Бокач) Алесь** – паэт, літаратуразнаўца. Вершы і артыкулы друкаваліся ў калектыктыўных зборніках «Агледзіны», «Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны», «Верш на свабоду», у літаратурным альманаху «Святліца» і розных рэспубліканскіх выданнях. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Баранавічах.

**Безмацерных Кацярына** – журналіст. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Друкавалася ў беларускіх СМІ. Працуе ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Вішнёў Зміцер** — празаік, паэт, мастак. Адзін са стваральнікаў літсуполкі «Бум-бам-літ». Аўтар кніг «Бочкавы краб», «Клёкатамус», «Штабкавы тамтам», «Тамбурны маскіт», «Верыфікацыя нараджэння», «Замак, пабудаваны з крапівы», «Шоргат жукоў» і інш. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў г. Дэбрэцэн (Венгрыя). Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапееў Валерый** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання». Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Гілевіч Ніл** – народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фальклярыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Жук Алесь** – празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Асеннія халады», «Паляванне на старых азёрах», «Зоркі над палігонам», «Не забывай мяне», «Паўстанак вяртання» «Паляванне на апошняга жураўля», «Чорны павой», «Праклятая любоў», «Над чыстым полем» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Клешаў Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Крылатыя сябры», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Ільін Стас** – празаік. У 2002 годзе паступіў у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Летам 2007 году ў складзе гурта «Stinkface» з'ехаў у ЗША запісваць альбом на студыі «Kimings worth» у Лонг Айландзе. Праз год гурт распаўся. Стас застаўся ў невялікім горадзе на беразе Атлантычнага акіяну, дзе працуе на будоўлі. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Гародні. Жыве ў Амерыцы.

**Каўка Аляксей** — публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык. Аўтар кніг «Тут мой народ», «Будам жыць», «Жывом!», «Каб не забыцца» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеншчыне. Жыве ў Маскве.

**Масквін Андрэй** – тэатразнаўца, куль-

туролаг, перакладчык. Дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта, выкладае беларускую мову, літаратуру, мастацтва і культуру. Аўтар манаграфіі «Станіслаў Пшыбышэўскі ў расійскай культуры канца XIX пачатку XX стагоддзя» (Варшава, 2007). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Нясвіжы. Жыве ў Варшаве.

**Прылуцкі Сяргей** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кнігі «Дзевяностыя forever» (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»). Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Брэсце. Жыве ў Кіеве.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990 г.). Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «Паляванне ў райскай даліне», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «Рэчаіснасць» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўскі Сяргей —** празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет» і інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Тарановіч Алесь (Алесь Эроціч)** – эсэіст, журналіст, мастак, мастацтвазнаўца. Аўтар кніг «Песня Эмігранта», «Берлінская мазаіка» (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»). Сябра трох берлінскіх літаратурных клубаў. Творы друкуюцца ў розных берлінскіх часопісах і альманахах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Мінску. Жыве ў Берліне.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове». Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю», «Пустадомкі», «Адлуп» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Аляксандр Фядута** – журналіст, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Читатель в творческом сознании А.С. Пушкина», «Лукашенко: политическая биография», «Паэтычны аглядальнік" і інш. У СІЗА КДБ, куды трапіў пасля 19 снежня 2010 года, пачаў пісаць успаміны пра жыццё ў родным горадзе. Першую частку з іх, напісаную ў «амерыканцы», ён і абраў у якасці дэбюта ў «Дзеяслове». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фальклярыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука, Міхася Скоблы,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.